## Выратуй і памілуй нас, чорны бусел

– Слухай, дзіцятка, слухай. Здарылася гэта ў той старажытны час, калі Бог толькі сатварыў зямлю. І чалавека на ёй яшчэ не было.

– А дзе ж ён быў тады, бабо? У космасе?

– Не было, дзіцятка маё, яго ў космаце, таму што і космата таго яшчэ не мелася.

– А зямля ўжо была?

– А зямля ўжо была.

– І без чалавека?

– Без чалавека... Мо і не трэ было таго чалавека. Няма і не трэба...

– Ну і хлусіш жа ты, бабо. Як гэта, няма і не трэба? Як гэта, зямля без чалавека. Ну, космас яшчэ так-сяк, але каб зямля без чалавека. Гэта ж ужо не зямля. Так няможна, таму што так немагчыма. Я ж вось ёсць. Ты скажы: я ёсцека? Ёсцека і заўсёды была. Скажы.

– Ёсцека, дзіцятка, і будзеш на радасць і на гора заўсёды.

– Вось так. А ты старая і нядобрая. І скора цябе не будзе. Ты паганая, баба.

– Скора-скора мяне не будзе. Я старая, нядобрая. Я паганая баба...

– І хлусіш. А малым дзецям хлусіць грэх.

– Калі хлушу – буду маўчаць. Не буду табе нічога расказваць. Прыйдзе, прыйдзе яшчэ каза да воза, а сена ўжо няма. Усё, замоўкла. Вось...

– Вой-ё-ёй. Напужала. І так страшна, так страшна, аж у штоніках мокра. Маўчыш? Так і будзеш маўчаць? Ну і добра. Я і есці прасіць у цябе не буду. І нітку ў голку табе ні за якія грошы не ўцягну. Так і буду хадзіць у падраным плацці. А што людзі скажуць. Што, бабо, людзі пра цябе думаць будуць... Ну адгукніся ты, бабо, не маўчы. Пагавары са мной, бабо. Хлусі далей.

– А ты скажы, што я не хлушу.

– Ну, бабо, што ты. Канешне, не хлусіш... Хлусі далей.

– Вось ужо спасібачкі табе, панначка мая. Вось дагадзіла дык ужо дагадзіла: я і паганая, я і хлуслівая. І зажылася ўжо.

– Ну што мне з табою рабіць, бабоўка ты мая старая. Я ж толькі што сказала: ты не хлусіш. Ці ты глухая, ці ты дурная?

– Во, я ўжо і глухая, і дурная. Праўду людзі кажуць: жыві-жыві, ды не перажыві, не пераступі свайго веку.

– Ну, бабо, з табою проста няможна. З табой не згаворышся. Я цябе проста папрасіла што-небудзь расказаць мне. І ты так хораша пачала. А што напляла. Давай ужо... далей. Давай разам, адтуль, дзе

ўсё яшчэ так хораша ішло. Было гэта ў той старажытны час, калі Бог толькі сатварыў зямлю. І чалавека на ёй яшчэ не было...

Лазар Кагановіч сядзеў на дубовай калодцы каля печы і думаў. Канешне, гэта быў не той, сапраўдны Лазар Майсеевіч Кагановіч, а зусім-зусім іншы. Але якая вам розніца, той ці не той, Лазар ці не Лазар. Не спяшайцеся спяваць Лазара. Самі вы пра сябе хоць ведаеце, хто вы? Імя вам прысвоілі, калі вы былі яшчэ ні таты, ні мамы – немы – не мы. Мы не рабы ўласнага імя. Нездарма, не ведаю хто, а таму кажу ўпэўнена, што Пушкін, яшчэ да новай эры, эры таго ж Лазара, усклікнуў: «Что в имени тебе моем!» Таксама нездарма ў нашу ўжо цывілізаваную і адукаваную эру перасмешнікі перарабілі: «Что в вымени тебе моем». Вось якая, зусім непрыкметная адлегласць ад імя да вымя.

Усё вельмі і вельмі складана, больш таго, схавана, захутана туманам з гэтымі вымямі і прозвішчамі. Пераблытаўся, апаганіўся і распусціўся народ. Амярзоціўся. Мой сябра цэлы дзень, як кот вучоны, тупаў каля кабінета, у які яму загадалі зайсці да Іванова. І шыльдачка на дзвярах сведчыла, што ў кабінеце знаходзіцца менавіта Іваноў. Сябра неаднойчы імкнуўся апынуцца перад яго светлымі славянскімі вачыма. Але кожны раз, калі ён адчыняў дзверы з шыльдаю на іх «Іваноў», бачыў перад сабою спелага і самавітага інваліда пятай групы Рабіновіча. І ён мімаволі спыняўся і ішоў прэч. Адчыняў дзверы і зачыняў, адчыняў і зачыняў. І даспеў ужо сам да мяжы ціхага вар'яцтва на нацыянальнай глебе. Пачаў моцна сумнявацца, ці ўсё нармальна ў яго з галавой і вачамі.

У думках яго, у мысленні нават акцэнт такі пад Рабіновіча пазначыўся: калі гэта Іваноў, то хто ж, скажыце мне, Рабіновіч, хто яго бацька, дзе яго маці і якія ў яго дзеці? Насланнё нейкае, ад чорта нешта. І тут не абышлося без сіёнскіх мудрацоў. Кабінет на аднаго чалавека, чытай, на Іванова. І шыльдачка як малатком глушыць: у гэтым кабінеце знаходзіцца іменна Іваноў. Іваноў, і ніхто іншы. Напісана па-руску, а ты думай і гадай. Хоць прасі яго скінуць штаны і засведчыць ягоную сутнасць.

Думка такая, непатрэбная і злосная, выспявала ў галаве ў майго сябра. Ён ніколі не быў антысемітам, але ўсё ж, усё ж. Тут вы можаце меркаваць па сабе: вы настроіліся ўбачыць барана, а вам паказваюць вярблюда і пераконваюць, што гэта і ёсць сапраўдны баран. У такой сітуацыі мала які інтэрнацыяналіст не ператворыцца ў антысеміта, не пачне пецъ Лазара, не згадае пра сіянізм і яго хітрыкі.

Да ўсяго ж трэба асабліва адзначыць, што сустрэча з гэтым Івановым была вельмі адказнай для майго сябра. Ад таго, як здолее ён

падысці да Іванова, залежалі лёс і кар'ера сябра. І вы самі павінны зразумець: прамахнуцца тут было нельга. Нельга было звяртацца да Рабіновіча як да Іванова, а калі ён Іваноў – то як да Рабіновіча. Як ні круці – дрэнь справа. Выратаваў майго сябра сам гаспадар кабінета:

– Калі вас бянтэжыць мая знешнасць, не звяртайце на яе ўвагі. Я – Іваноў. Не верыце, магу пашпарт паказаць. Іваноў перад вамі, а ўсё астатняе вы самі ўгадалі.

Вось такая сучасная гісторыя з геаграфіяй, з тым жа самым прозвішчам на гэтай грэшнай зямлі. Не ведае чалавек свайго імя. Пачынаецца ён з веры. Вы таксама не ведаеце, хто вы. Ваша імя гучыць вам з вуснаў іншых. Вы проста верыце ім і адгукаецеся. І ўсё. Верыце, што вы Іваноў, Рабіновіч ці Мао Цзэдун. І яго прымусілі паверыць, што ён Лазар Кагановіч. Далі такое прозвішча яшчэ ў дзяцінстве, калі ён меўся звацца зусім інакш. Але ж не дарэмна кажуць: варта чалавека тры разы назваць свіннёй, і ён зарохкае. Яго ж увесь час звалі Кагановічам. І ён ужо іншым разам моцна сумняваўся: які з Лазараў сапраўдны. Той на вяршыні, на Алімпе, ці ён, тут, унізе, у вясковай глушы і гнаі. Сумняваўся яшчэ і таму, што сябрукі ў яго таксама былі не хухры-мухры, а дай Бог. І здавалася ўжо яму, што ён і ёсць самы сапраўдны Лазар Кагановіч, як былі сапраўднымі яго сябрукі.

І ў тую знамянальную раніцу Лазар Кагановіч сядзеў на дубовай калодцы каля печы і думаў. Думка яго была глыбокая і сур'ёзная, зусім не пра яго ўласнае прозвішча і званне. Не разменьваўся ён ні на якія філасофскія разважанні. Лазар Кагановіч быў практык і рабацяга і думаў толькі пра надзённае: ісці яму сёння ў ЦК ці ўжо не хадзіць. Пайсці на работу. Зараз на работу, а ўжо ў канцы дня, пасля работы, У ЦК.

«Добра, вельмі добра, во зараз, не марудзячы ні хвілінкі, у ЦК. Няблага, канешне, і пасля работы ў гэта ЦК, не б'ючы ног, падваліць туды на трактары. А лепш за ўсё на тым жа трактары падваліць у ЦК цяпер. Цудоўна проста. Па ветрыку, па ранішняй свежасці пракрасціся прасёлкамі па прасвятлёнаму беразняку і дубняком прама ў ЦК. Думаць аб гэтым і то прыемна ўжо. Але што думаць, як кажуць, жадаць, хацець – нікому не забаронена. А вось здолець... Эх, жыццё пайшло...

Лазар Кагановіч памкнуўся плюнуць. Ды толькі і плюнуць не здолеў. Не было ў яго сліны. Высмаг да апошняй кроплі крыві. Усярэдзіне ў яго не было, пэўна, і той крыві. Лазару Кагановічу блага. Учора ў яго была палучка. Гэта ён памятаў добра. А што пазней – цьмяна. Перад палучкай іх, гвардыю механізатараў калгаса «Верны

шлях», ашчаслівіў камісар. Парторг Ягор Дарожкін. На чырвоным, пралетарскага колеру матацыкле, толькі што сцяга няма, зухавата падрулiў да кучы шлаку каля іх канторкі, дзе ўсе яны ў поўным складзе – вялікая тройка ці малое Палітбюро: Іосіф Сталін, Лаўрэнцій Берыя і ён, Лазар Кагановіч, якраз на тую хвіліну кантаваліся. Сядзелі і плявалі на гару шлаку. Спаборнічалі, хто далей плюне, хто каго пераплюне. А што, усё роўна рабіць няма чаго: курыць няма чаго, аб «выпіць» і гаварыць ужо непрыстойна, абразліва. А работа?.. Што работа – гэта ж не воўк. Перамагаў Гога, ён жа Іосіф Джугашвілі. Згодна са сваім прозвішчам ён і абавязаны быў перамагаць, а да ўсяго мелася ў Гогі і шчыліна ў пярэдніх зубах, і ён вельмі ўдала яе выкарыстоўваў: цвірк – і тушы святло, прыгінайся, хто наперадзе. Малады, але кемлівы, сярун. Можна было, канешне, за такую раннюю спеласць і пусціць яму юшку, яшчэ на адзін зуб пашырыць шчыліну, але насуха не варта было рупіцца. Гога мог не так, як трэба, зразумець. Апошнім пляўком Гога пераўзышоў самога сябе, дасягнуў, трапіў прама ў чырвоны лоб парторгавага матацыкла. А гэта было метраў за пяць, не меней. Ягор Дарожкін, здаецца, пакрыўдзіўся за свой пралетарскі транспарт:

– Што, гвардыя, сумуеце па камфорту застою?

– А ішоў бы ты...– лена пачаў Лаўрык, але канчатковай мэты маршруту парторга не пазначыў, таму што Ягор Дарожкін выхапіўся ўжо з сядзення матацыкла. І было ў ім не менш двух метраў росту і паўтара цэнтнера вагі. І шчыліна была ў яго паміж зубоў, прынамсі, больш шырокая, чымсьці ў Гогі. І самыя зубы яго былі больш унушальнымі, сялянскага, канёвага ладу, крою і цёсу.

– Ну-ну,– мовіў Дарожкін, – ужо распляваўся тут. Вытры.

– Чаго-чаго? – здзівіўся Лаўрык.– Гэта ты мне?

– Вытры,– кажу,– паўтарыў Дарожкін.– Вытры, а не то пакрыўджуся.– І Дарожкін засмяяўся, весела так, на ўсе трыццаць два сялянскія партыйныя зубы. І румянец такі вясёлы працяў абедзве яго шчакі. І губы паружавелі. Тоўстыя і да гэтага, а зрабіліся яшчэ больш тоўстымі. Два блінцы, а не губы, як надзьмулі іх, наліліся чырванню.

– Вытры, Лаўрык,– зірнуўшы на гэтыя губы, сказаў Гога.– Не варта крыўдзіць чалавека. Гэта вельмі ж дрэнна.

– Ты плявваў, а мне выціраць...

– Я пляваў. Я перамог,– сказаў Гога.– Я загадваю. Выцірай, пакуль не перадумаў і не перазагадаў. Не вытраш – будзеш мыць гэты чырвоненькі драндулет.

– Добра,– Лаўрык устаў, і ўжо звяртаючыся да парторга:

– А закурыць дасі?

Дарожкін зноў засмяяўся, але цяпер лагодна, спускаючы пару:

– Накурышся да зялёных смаркачоў. І з вушэй дым паваліць. З гэтым і прыехаў.– І загарланіў на ўвесь мехдвор:

– Налятай, гвардзія, падзешавела. Па два пачкі на рыла, як на фронце. Хто не курыць, таксама можа засмаліць.

У калясцы матацыкла Дарожкіна стаяла папяровая скрынка з маршанскай, здаецца, махоркай.

Сталін, Берыя і Кагановіч шаравалі, мылі матацыкл Ягора Дарожкіна. Сам парторг Ягор Дарожкін гандляваў махоркай: па два пачкі на рыла і ўсяго за шаснаццаць капеек. Згаладалы па курыву люд пёр з усіх шчылін, што прусакі ў дэзінфекцыю. Толя Чорны прасіў тры пачкі, таму што ў яго баба спраўная, вельмі тоўстая і ўночы працавітая, звяць Марыяй. Толя Белы таксама патрабаваў тры пачкі, але ўжо як халасцяк, а на гэтую самую справу ночччу расход курыва такі, казаў ён, што яго проста шакіруе.

– А ты імкніся шакіравацца без махоркі,– трымаў душу шызым дымам. І хутка ад «Праўды» толькі засталося – гэтыя дзве закруткі з партрэтам непрыхільнага чалавека, што сцятым кулаком сек паветра. Адна-другая мазутная рука невідушча пацягнулася да яго. А калі ўбачылі, хто там замастыраны на газетнай паперы, рукі іх, як набыўшы зрок, апякаліся і ішлі прэч. І толькі Толя Чорны, не, толькі з твару Чорны, але і па натуры такі ж, ужо быў улапіў партрэт, як рак клюшняй, мазутным вялікім пальцам са збітым крывым пазногцем, упіўся ў яго пазначаны лобік, але на яго прыкрыкнулі:

– Не чапай... «Правда» ўся, «Правда» ўся, «Правда» кончылася, а «Труд» застаўся.

Грымнулі ўпярэсып з кашлем выбуховым рогатам.

– Будзеш, Толя, харчыцца «Трудом», не прастудзішся. А выпісвай «Правду». І сабе, і на Мар'іну шырокую сраку.

Збоку дык магло здацца, што гэта пасля пускача пайшоў у работу дызель. Але то раўла і блукала па мехдвары радасць, шчасце ўсенароднае. І больш за ўсіх радаваўся, біў бубнам паўтарацэнтнернага чэрава парторг Ягор Дарожкін:

– Што гвардыі трэба, што мужыку сёння трэба? Каб машынка была спраўная і з вушэй дым ішоў.

Эх, я иду уральской кручей,
Хороша моя земля...
Хрен стоит на всякий случай,
И в кармане три рубля.

Механізатары на нейкае імгненне заціхлі, асэнсоўваючы сольны

номер Дарожкіна. Такога парторга яны яшчэ не бачылі, хаця за свой век наглядзеліся іх усякіх. Былі жалезныя партыйцы, былі ні тое ні сёе, ні рыба ні мяса. Былі разумнікі і дурні, але, канешне, партыйныя дурні. А тут свой да апошняга хлопец. Аказваецца, і такія пракідваюцца сярод партыйцаў.

– Спірыдоныч,– падлез да яго з блакнотам і ручкай Толя Белы,– у мяне тут пяцьсот непатрэбных ужо ёсць. Пяцьсот першай партыйнай не хапае. Сёння ж вечарам вывучу і арганізую хор даярак. Перапішы.

– Я табе перапішу. Я табе арганізую хор даярак. Хор хлопчыкаў і Бунчыкаў... Я, хлопцы, да вас прама з базы. Думаў спачатку, прывязу, замкну ў свой сейф да раніцы, а раніцой на нарадзе раздам. Але пабаяўся. Махорка ўсё ж, курыва. Такі вось Бунчыкаў ламане ноччу сейф. А што, ён можа, ён здольны. І не міргне. У Заполлі ноччу ў магазіне паўсцяны выразалі бензапілой. Пяць скрынак «агдамчыка» забралі. «Агдамчык» – і нічога больш не ўзялі. А тут маршанская махорка. Такі бунчыкаў разам з сейфам можа. Разам з партыйнымі дакументамі. Я не схацеў рызыкаваць. Пабаяўся, я ведаў...

Дарожкін захлынаўся словамі. Ён быў у натхненні. Ён захапляўся сабой, падабаўся сам сабе. Ён адчуваў, што знайшоў сябе ў гэтай папяровай скрынцы з махоркай. У пачку звычайнай маршанскай махоркі за восем капеек. Пачак махоркі – вось тое рэальнае, доказнае і рэчавае, што патрэбна сёння людзям. Не восем капеек і нават не восем рублёў. А ён усю ноч мучыўся. І таксама не дзеля грошай і зусім не па загаду. Загадай яму хто рабіць тое за грошы, з месца б не крануўся. Плюнуў бы і расцёр, са сваёй бы кішэні прыплаціў. Сабачая звычка служыць верай і праўдай немаведама каму і чаму. Карослівая вясковая звычка і ў дурасці быць паслядоўным да поўнага ідыятызму. Усю ноч пісаў заклікі да свята: няхай жыве і да здравствует... Нібы без яго заклікання яна канькі адкіне.

Так ён думаў галавой, сэрцам, але рукі шчыравалі, рупіліся. Выжыльваўся да апошняга. Нічога атрымліваліся заклікі, не горш, чым у Маскве. Партыя ім можа ганарыцца, і ён сам ганарыўся сабою. Чытаў напісанае ім жа і зблізку, і здалёку. Адзін ён толькі чытаў, сляпіў вочы. А больш каля слупа, да якога ён іх прыбіў, ніхто і з нагі не збіўся, ні адзін сабака не спыніўся, не задраў нагу. Тут жа адразу дым слупом. Работы на восем капеек, а ўсе яго гатовы насіць на руках, як Бога. І панясуць, варта толькі вокам міргнуць. Аднаму-другому сунуць у працягнутую руку лішні пачак махоркі. Ён, Бог, трыма хлябцамі адарыў свой народ. Вышэй за Бога, трое мыюць, шаруюць яго матацыкл, гатовы яго языкамі вылізаць. Толю Белага, Толю Чорнага хвалюе яго здароўе.

– Нічога, хлопцы, нічога, пакуль ёсць махорка, буду здаровы, чорт не возьме.

А яшчэ ж толькі дзень-два назад ён баяўся сюды і носа паказаць. Узяў сябе на ключ у кабінеце, быў гатовы пісаць праклятыя заклікі, пакуль не пасінее: да здравствует і няхай жыве... Тры дні назад калгас пайшоў у распыл, аказаўся без галавы. Уся галоўка яго вымушана была пайсці ў падполле. Паўсюдна знікла курыва, як карова яго языком злізала. Урадзіцельства, не інакш. Аб гэтым цяпер на кожным кроку крычаць. Хаця ён асабіста трымаўся да апошняга і ні ў якае ўрадзіцельства не верыў: звычайны рускі парадак, хлопцы. Верце мне, мы не немцы, мы няздольныя на арганізаваны беспарадак. Сядзіць недзе дурань і седалішчам думае. Усё прыйдзе яшчэ да ладу.

Але ладу не было. Наадварот, з дня на дзень рабілася ўсё горш і горш. І тады ён падумаў, што нават для такой вялікай краіны нешта занадта дурняў. Мо кінулі такі заклік: дурні ўсёй краіны, яднайцеся. У гэтай жа краіне толькі аб'яднаны дурань – сіла, здольная парушыць беспарадак, бардак, што ладзілі дзесяцігоддзямі. Аб'яднаны дурань – магутная сіла.

Заканамернасць нейкую можна было прасачыць. Нібыта хтосьці спецыяльна прышчаміў адно месца мужыку. Заціснуў паміж дзвярэй і гняце. Спачатку лёгенька. Так, прыглядваючыся, як мужык будзе сябе паводзіць. Цукру няма – трывае. Вось паскуднік, дык мы ж у цябе і соль адбярэм. Трывае. Хлеб, шкарпэткі, парткі, майку, трусы. Трывае. Трывушчае, паскудства. Абадралі як ліпку, грэх прыкрыць ужо няма чым. Заперлі яго ў пекла, а ён чорта задобрывае: падкіньце паленца, штосьці не грэе. І сам куродыму дае, беламорыну з рота не выпускае. Смокча, цундоліць і песеньку спявае. Самому чорту, пэўна, цікава стала, да якой жа пары трываць будзе: ану, дурні, памажыце, усёй краінай і ўрадам цісканіце. І хваць у мужыка з рота беламорыну.

Мужык, калгас, здольны быў трываць і далей. Да гэтай пары ж яго адзіным клопатам было: трываць. За семдзесят гадоў тое месца, што паміж дзвярэй заціснулі, у яго ох як загартавалася. У більярд ім можна гуляць. Вытрымаў, калі пазбавілі паліва расійскага прагрэсу – гарэлкі. Праўда, з гэтым палівам адбыўся нейкі цуд, але аб гэтым крыху пазней. А тут, калі выхапілі з рота зыблянку-беламорыну, мужыка ўзарвала. Тут, здаецца, ён якраз і адчуў, што нешта прышчамілі яму.

Ішла чацвёртая пасяўная ад чарнобыльскай вясны, яна ж чацвёртая барацьбы за цвярозасць. А якая ж гэта ў калгасе, у вёсцы пасяўная без дыму і чаду, без табакі і гарэлкі. Знайдзіце ў Краіне

Саветаў зону, якая можа вытрываць такое. Хаця з гарэлкай выкруціліся, як кажуць, мабілізавалі мясцовыя рэсурсы. Ніколі так не пілі, як у час барацьбы за цвярозасць. Благаслаўлёны быў час. А што? Не пілі, а змагаліся. Пратрымаліся, загартаваліся і згуртаваліся на дэнатураце, шклоачышчальніку і адэкалоне. Выстаяла, вырасла эліта, лічы. Адышлі ў мінулае, зніклі ў Лету, захаваліся толькі ў легендах і казках трайны адэкалон, «Ландыш серебристый», не згадваючы ўжо аб «Русской» і «Столичной». Знікла гарэлка магазінная, казённая, пагналі сваю, мясцовую, пад назваю «карчоўка», для інтэлігентаў яшчэ «Рукапіс». І так хораша адразу ўсім зрабілася і наверсе, і ўнізе. Гарэлкі нідзе і на ўспамін душы няма, а ўсе вакол харошыя. Адзін прыгажэйшы за другога, таму што ніхто не п'е, а ўсе разам змагаюцца. Адно толькі дзіўна, чаму так позна пачалі гэтае змаганне, калі дзе-нідзе яшчэ і цвярозыя сустракаліся. Цяпер жа сталі ўсе роўныя.

У карчах, у кустах на далёкім хутары, аб якім даўно ўжо забылі Бог і людзі, знайшлі стогадовага дзеда. Дзед той не толькі аб Сталіне і Гітлеру мог нешта паведаць моладзі, тое-сёе быў здольны яшчэ расказаць і аб самім Напалеоне. Усё ведаў і ўсё мог зрабіць дзед Барадзед Смаловыя Яйцы, шмат ведаў сакрэтаў усякіх. Аблашчылі яго, хораша з ім павіталіся, правялі на яго хутар электрычнасць. Падкінулі яму салодкага, цукру, не забыліся пра дрожджы і жыта, а для асабліва прывілеяваных прыдбалі і пшанічкі. Гэта каб выходзіла «Карчоўка асобая, Пшанічная». Дзед гонты не псаваў, разоры трымаўся цвёрда, справу сваю ведаў. Калгасу на зыходзе кожнай кампаніі – уборачнай, пасяўной, сенакосу – фляга з гэтай самай «карчоўкай» была гарантавана заўсёды. Як і раней у магазіне – без падману, роўна сорак градусаў і па божай цане: пляшка – пяцёрка. Такая была папярэдняя дамоўленасць: пачнеш, дзед, лыч задзіраць, знойдзем на цябе хамут, прыйдзем да цябе з міліцыяй, вытворчасць тваю пахерым. На тых жа ўмовах сышлася з дзедам і міліцыя. Таму што міліцыя таксама любіла дзеда, паважала яго век. Ніколі не дазваляла сабе абмінуць яго хату, не зайшоўшы ў адведкі. Ратаваў калгас дзед Барадзед Смаловыя Яйцы. Дзяржава грашыма пасабляла, датацыямі, дзед – натурай. Адзіны такі дзед на калгас, і не трэба аніякай партыі, аніякіх прафсаюзаў з аграномам, бо без пісаніны ўсё абыходзілася, дзед граматы не ведаў.

А з табакай, здаецца, маючы зямлю і не ведучы барацьбы з нікацінам, куды прасцей усё павінна было быць. На самай справе атрымалася куды больш складана. Поўная нявыкрутка. Хаця раней тут гэтай табакі мелася мора. І пад Мікалаем, і пры Гітлеру, і пры

Сталіне. Турэцкі мультан маглі ў самую Турцыю везці. Палі яго курыліся пад сонцам ад сіняга і ружовага агеньчыка, калі ён пачынаў цвісці. Нібыта курыла вясковае поле дзень і ноч, глыбока, у зацяжку. Курылі бабіны грады. У кожным бабіным гародзе была дзедава градка з гэтым самым мультанам ад турэцкага султана. А султан той ужо сам дзед. І бабіны куры бокам абыходзілі агарод, дзедаву тэрыторыю, таму што чамярэлі ад тытунёвага мужчынскага духу, падалі ў разору і бессаромна адкідвалі ногі, неслі нікацінавыя яйкі.

На калгаснай зямлі і сёння яшчэ стаяць спецыяльныя павеці і адрыны, куды табаку вазілі вазамі, падвешвалі ўніз галавой пад цыбатыя ногі, сушылі і вялілі. З некаторых хат і па сённяшні, здаецца, дзень не выветрыўся яшчэ пах таго самасаду выдзерывока. То ў бабуліных скрынях песцяцца прысыпаныя ім плюшавыя жакеты і ваўняныя хусткі, каб моль іх не з'ела. Молі ад табакі смерць, мужыку капут без табакі і поўная непрадбачанасць. І таму сам старшыня калгаса баяўся паказаць носа сваім механізатарам. На «Ніве», з лютаю хуткасцю, хоць і колы лысыя, мінаў мехдвор, каб ненарокам не выхапіўся хто з яго і не спыніў: старшыня, дай закурыць. Нарад мусіў даваць па тэлефоне і рацыі. Праўда, і ехаць прадаваць махорку на мехдвор адмовіўся таксама.

– Ты ўжо сам, Спірыдоныч, партыйная, як-небудзь, улада, камісар. Ты разжыўся, то давядзі ўжо да ладу. А я некурашчы, завязаў у першым класе.

І вочы ўсярэдзіну, у сябе, карыя, цудоўныя, дзявочыя вочы з паволокай, ад якіх ці адна млела. Але Дарожкін ведаў, калі пайшлі ў старшыні вочы ў сябе, то яго ўжо тут няма. Старшыня яшчэ заведзена мармытаў:

– Некалі мне, Спірыдоныч, некалі, – а Дарожкін ужо быў па-за дзвярыма кабінета. Некалі дык некалі. Ён здолее і сам знайсці выкарыстанне махорцы. Народ будзе шчаслівы.

І народ быў шчаслівы. Народ курыў. Закурыў і Дарожкін, развязаў пупа, чаго не мог дазволіць сабе ў канторы і па дарозе сюды. Саромеўся. Народ без табакі пухне, а ён раскурвае сабе. Убачыць хто – не абярэшся. Ён жа з народам, што ўжо ўсім, то і бабінаму ўнуку. І ён курыў разам з народам і ўсміхаўся, як і ўсе, і дым німбам завісаў над яго галавою. Слухаў, як патрэсквае ў самакрутцы махорка – цяга ў яго была добрая, выключная, – шыраказуба радаваўся той цязе, пускаў дым кольцамі, з прыжмурам з-за дыму глядзеў на партрэт прэзідэнта, якога так і не кранулі механізатары, не пусцілі на самакруткі, і усміхаўся прэзідэнту.

– Нічога, нічога, Міхаіл Сяргеевіч, курыць будзем – не памрэм. А

вы малайцы, малайцы, што не скурылі яго. Сазнацельныя,– гэта ўжо механізатарам.

У адказ Міхаіл Сяргеевіч паказваў яму кулак. І ці то ад гэтага кулака, а мо і ад дыму ўсмешка паволі пачала спаўзаць з твару Дарожкіна. Пушок на яго румяных хлапечых шчоках пачаў цямнець і больш выразна-цвёрда пазначылася на твары вожыкава мяккае рабаценне. Падобна, у чарнобыльскага вожыка пачалі расці іголкі.

– Госпадзі, ды дзе ж я на ўсіх назапашуся махоркі. У мяне што, фабрыка. Колькі ж вас? Рабіць дык некаму, а курыць спраўны ўсе.

Мармычучы гэтыя словы, Дарожкін не расціскаў раптам ацвярдзелых вуснаў, здавалася, што гаворыць не ён, а чалавек з партрэта.

– Нічога, Спірыдоныч, як у нас кажуць, дала, то не кайся, а легла, то ўжо не вылузвайся. На ўсіх хопіць, – супакойвалі яго.

І сапраўды, усім хапіла. Дасталося нават і чужынцу, калгасніку, але не механізатару, пастуху. Убогенькаму немчыку – нямому ад вайны, таму што голас чалавечы ён чуў і гаворку разумеў, а яшчэ быў пры медалі «За отвагу», заўсёды пры медалі, нават на адзіноце з каровамі. Ці то пінжак меў усяго толькі адзін, ці то так яму было больш зручна жыць на гэтым свеце. Ледзь што, дзе які дэфіцыт, няма патрэбы лезці ў кішэню па пасведчанне, пальцам сабе ў грудзі і як яго каровы: м-м-м, м-м-мы. Аддай, маўляў, маё, так ён пачаў паводзіць сябе і зараз. Дарожкін паспрабаваў увесці яму, што махорка сёння толькі тым, хто на пярэднім краі – механізатарам, а жывёлаводам будзе мо толькі заўтра. Але немчык мыкаў сваё каровіна м-м-ммы і тыцкаў пальцам у грудзіну, пазвоньваючы медальком «За отвагу». І Дарожкін не вытрымаў, саступіў геройскаму націску ветэрана-франтавіка. У яго, як і ў старшыні нейкую ўсяго гадзіну назад, збеглі з твару, пайшлі ўсярэдзіну вочы. Пазбягаючы глядзець на немчыка, ён сунуў у яго працягнутую руку дзве пачкі махоркі. Яшчэ шэсць кінуў прама на зямлю, пад ногі Сталіну, Кагановічу і Берыі, якія ўжо адчулі, што настрой яго памяняўся і скора ён кінецца адсюль прэч. Немчык, таму, пэўна, што быў без'языкі і няздольны аддзячыць словам, памкнуўся цалаваць яму рукі. Дарожкін злосна і адчужана піхнуў нямога так, што і дзве яго пачкі махоркі ўпалі на зямлю. І няўдала, у гразь і пляўкі пераможцы спаборніцтва, якое адбылося тут. Немчык ня грэбліва падняў іх і пачаў выціраць, высахлымі без слова вуснамі творачы парторгу пацалунак, але ўжо ў пустату.

Дарожкін гэтага свецкага пацалунка немчыка ўжо не бачыў. Ён, колькі было моцы, усім сваім груваcткім целам націснуў на стартэр, і той адламаўся, адляцеў, нібыта гліняны. Дарожкін з шалёнай энергіяй

кінуў сябе на сядзенне матацыкла, выціснуў счапленне, люта выкруціў кола. Але перад тым, як узяць з месца, азірнуўся на лаўку, дзе ляжаў партрэт прэзідэнта, і ў адказ на яго кулак паказаў свой, вялізны, паўтарапудовы, і знік. Толькі пыл слупом ды дым каромыслам.

Немчык-пастух не вытрымаў, плюнуў яму ўслед. Суладна і задаволена плюнулі Сталін, Берыя і Кагановіч, хаваючы як мага далей дзве законныя пачкі махоркі, і дзве, што дасталіся на халяву, здабылі смехам, мыючы матацыкл. Усяго ж тавару на трыццаць дзве капейкі – трыццаць срэбранікаў падачкі, а калі палічыць – трыццатка зэканомлена ў рублях. Няма патрэбы ехаць у горад і несці цыганам тры рублі за пачак цыгарэт.

Але ў горад той ім усё ж ехаць давялося. Шчасце не ходзіць на адзіноце, калі падвальвае ужо, то чарадою. Ашчаслівіла іх у той дзень і савецкая ўлада. Не паспелі механізатары нацешыцца дымам, як падрулілў старшыня сельсавета. Парторг быў на матацыкле, а сельсавет – на «Масквічы»-фургончыку. Падобна, савецкая ўлада рабілася больш багатай, чымсьці партыйная. І знешне старшыня сельсавета быў больш фасоністы за парторга. Машыну яму мыць – мёртвы нумар. Вылізана як у марцаўскага ката начынне. І сам ён стройны, лоўкі, што новы цвічок – у любое дрэва, падмазаны заўсёднай усмешкай. Гальштучак на ім, туфелькі-лакіраванкі і вокам бойкі, скоры. Адразу відно, што чалавек сябе паважае. Заробак яму падвоілі, і адчуў ён да сябе павагу. Усе сельсавецкія адчулі ў сабе людзей, нават жанчыны. Жонка галоўнага агранома гаспадаркі, сакратарка сельсавета, – аклад удвая большы, чымсьці ў яе мужыка.

У механізатараў вока спрактыкаванае, і яны адразу змікіцілі, што старшыня сельсавета да іх завітаў таксама не з пустымі рукамі. Фургончык не матацыкл. У яго паўмагазіна можна памесціць. Кожны сам сабе прыгадаў, што іменна. Але да пары да часу цікаўнасць сваю не выказваў, каб не сурочыць. Старшыня сельсавета адчыніў дзверы фургончыка. Сур'ёзныя мужыкі працягвалі курыць. Набрыдзь жа ўсякая кінулася да яго, каб паглядзець, што там ёсць. А ў фургончыку было пуста, падмецена і памыта, вада яшчэ не высахла.

– Ты што, Аляксандр Лукіч, зусім паражняком да нас прытарабаніў? – сурова спытаў Толя Чорны.

– Ды не, Толя, ёсць тое-сёе.

– Ну дык не марудзь, а паказвай, што маеш. На тое ты і савецкая ўлада.

Але «савецкая ўлада» толькі сарамліва ўсміхалася кожнаму і ўсім разам. Бегла бойкім чорным вокам па твары кожнага і апускала вочы

долу, глядзела ніжэй пояса. І яшчэ ніжэй, на зямлю. І чырванела:

– Забыў, хлопцы, саўсім забыў. У мяне ж тут, у мяне ж у бардачку.– Кінуўся да пярэдніх дзверцаў машыны, адчыніў і іх, адкрыў бардачок і выцяг адтуль нешта таямнічае, загорнутае ў цэлафанавы пакет.

– Хлопцы, ды ён гандоны прывёз, савецкая ўлада прывезла нам прэзерватывы, – дапяў Берыя як самы малады.

– Сам ты гандон і прэзерватыў. Не дазволю пры мне ганьбіць савецкую ўладу,– прытушыў захапленне старшыня сельсавета. Лаўрык савецкую ўладу паважаў і прыкусіў язык.

– Дык што ў цябе там, пракламацыі ці брыльянты? – браў старшыню сельсавета нахрапам Толя Чорны.

– Не пракламацыі і не брыльянты, а нешта больш дарагое. Табе, праўда, з тваім пяцьдзесят растаптаным і на нос не палезе. Я шкарпэткі, хлопцы, прывёз.

– У-у-у, няхай жыве наш Лукіч і савецкая ўлада...

– Не радуйцеся, хлопцы. Улада хай жыве, толькі наскоў усім не хопіць.

– Але палавіне з нас хопіць?

– І палавіне не хопіць.– Твар старшыні сельсавета ўгаворваць яго цягнуць і за іх. Ён быў пагадзіўся, але народ паўстаў:

– У шыю, па храпе грузіну, хоць пагуляем. Праверыць яго трэба. Не можа таго быць, каб тры шчаслівыя нумары запар. У латарэю... Ага, а яшчэ чатыры пачкі махоркі яму дасталося...

Прыгадалі Гогу ўсё. І тое, што ён грузін па бацьку, і новы трактар, атрыманы без чаргі, як ён перакуліўся на ім, але жывы застаўся, чорт не ўзяў. Народ, аказваецца, не любіць шчасліўцаў. І Гога ледзь выцерабіўся з натоўпу са сваёй парай шкарпэтак. Хапіла ўжо заадно, за кампанію, і Лазару з Лаўрыкам. Між іншым, Лазар не пакрыўдзіўся, ён меў розум і ведаў: механізатары ўвогуле народ добры, але што зробіш. Дабрыні хапае, а наскоў – не. А за тое, што шанцуе, за шчасце, хаця яно і зменлівае, трэба плаціць. І плата гэтая яшчэ наперадзе. Ох, і дорага яму абыдзецца амаль што дарэмная махорка, ускочаць у капеечку шкарпэткі.

І трэба сказаць, што ён не памыліўся. Быў за ім такі грэх, валодаў ён дарам прадбачання. Праўда, не надта высокага, ў туманнае мінулае і нявызначанае будучае, але тое, што адбудзецца на гэтую хвіліну, заўсёды мог прадказаць. Быў здольны ўпэўнена прадказаць, што сёння іх усіх наперадзе чакае добрая чарка. Так яно і было.

Да Дзеда Барадзеда механізатарам даехаць было не надта лёгка. Трактар – тэхніка надзейная, але ціхаходная. Звычайна старшыня

наладжваў туды машыну. Цяпер жа машыны пад рукамі не было. А выпіць край як карцела. Дзеля справядлівасці ўдакладнім, і не выпіць, а адзначыць знамянальную падзею, красную дату ў календары. Усё ж у той дзень нечакана-неспадзявана былі пры махорцы, а пяцёра зусім ужо ў сарочцы нарадзіліся – у шкарпэтках. Партыйная і савецкая ўлады не забыліся іх, уважылі і паклапаціліся. Таму пазней, ужо калі паміж сабой абмяркоўвалі бурныя падзеі таго дня, яны аднадушна пагадзіліся: парторг і старшыня сельсавета ва ўсім вінаватыя. Не будзь іх ласкі, дзень закончыўся б нармальна: вытрывалі б і слёзны сум па курыву і смагу духоўную, а пра шкарпэткі ўжо і гаварыць не варта – ануч хапае. Да ўсяго ж у той дзень яны атрымалі і грошы, палучка была.

Партыя плюс савецкая ўлада ва ўсім вінаватыя. Мужык, ён жа які па натуры: вочы зайздросныя, рукі заграбастыя. Дай яму хлеба, дык ён на масла скоса пачне пазіраць. Напаі, накармі яго, усё роўна будзе цягнуць сваё: далей, далей, маўляў, усцеш, насмяшы яго цяпер. Нутро яго такое ненажэрнае ад нараджэння: «нам всегда и всего по-хорошему мало». І яшчэ дай яму ў зубы, каб дым пайшоў, а куродыму, чаду ён ужо здабудзе, дасць сам. У строгасці трэба трымаць такі народ. Прышчамілі, заціснулі яму паміж дзвярэй тое самае месца, не трэба паслабляць, адпускаць дзверы. Наадварот, усім уладам разам, суладна і дружна яшчэ больш, яшчэ мацней наваліцца, каб ён скуголіў і енчыў, як той сабака ў будцы на ланцугу. Мо адзін-другі і не вытрывае, зойдзецца ад болю. Слабы, значыцца, і на карысць, на карысць гэта іншым – хлеб падзешавее. Руку кінуцца лізаць, якую б костку тая рука ні паднесла, якім бы духам ад той косткі ні патыхала, не перабіралі б – каровіна яна ці мамантава, чарнобыльская ці з маскоўскага, крамлёўскага стала. Шчаслівы народ, калі ў яго галаве думак разбежка шырокая, – небяспечны. І далёка, а галоўнае, вельмі ўжо высока сягае ён тады той вызваленай думкай. На самае святло замахнуцца тады здатны.

Тое, што гэта не пустыя словы, што на самай справе ўсё сапраўднае – рэальна, а ўсё рэальнае – сапраўдна, было пацверджана і даказана ў той дзень на мехдвары калгаса «Верны шлях» у адну хвіліну. Толькі засумавалі механізатары, што няма ў іх пад рукой грузавіка, як той з'явіўся, нібыта Бог паслаў, праменька да іх скіраваў яго. І яны ўсе дружна, як і водзіцца ў калектыве, бягом напярэймы.

– Не наш, не калгасны, не нашага нават раёна і вобласці, – сказаў Толя Чорны. – Не зразумее і не паедзе.

– Як гэта не зразумее і не паедзе. – Гога ўжо адчыняў дзверцы кабіны. – Што ён, не савецкі чалавек?

– Дурань ты, Гога, – падтрымаў не сябра, а Толю Чорнага Лазар. – І нічога не петрыш у нацыянальным пытанні. У тым жа, што ў іх вобласці яшчэ савецкая ўлада – гарэлку прадаюць без талонаў. Пустыя бутэлькі маеш – ідзі і бяры. Колькі пустых – столькі і поўных. Жыццё... Сыты галоднага не разумее.

– А гэта мы будзем паглядзець. Брат брата, вадзіла вадзілу абавязаны разумець

І Гога пачаў тлумачыць шафёру сітуацыю, што склалася тут, на мяжы дзвюх братніх абласцей. Шафёр з суседняй вобласці сапраўды трапіўся ім не вельмі кемлівы, а да ўсяго яшчэ і не гаваркі. Вядома, заходнік.

– Не павязу. Не паеду. Не і не. Адчапіцеся. Не, не, не.

— Што ты заладзіў сваё «не». Ты што, другіх слоў не ведаеш. Руская ж мова вялікая і магутная.

– Не, не.

– Нэ-нэ, – Гога раззлаваўся і перайшоў на мову грузінскую, якой таксама не ведаў, як, між іншым, не ведаў рускай і беларускай. То быў сапраўдны савецкі нямко. Нарадзіўся ён на самай справе ў Грузіі, гадаваўся на Беларусі, рабіць і піць пачаў у Расіі.

– Я сын трох вялікіх народаў. Вот пасматры, пэрад табой сын яшчэ аднаго вялікага рускага народа – украінскага. – І ён паказаў на Толю Чорнага, які і сапраўды быў украінцам.

Калгас «Верны шлях» быў складзены з чатырох вёсак: Белая Лужа, Залужжа, Казялужжа і проста Лужа. І ў кожнай з іх свая нацыянальнасць. Самая вялікая з вёсак – Лужа. У ёй спрадвеку жылі ўкраінцы, а сярод іх – па-вулічнаму Толя Чорны, а па прозвішчы Чарненка. У Залужжы таксама спрадвеку знайшлі сябе рускія. Як і ўкраінцы, даўно б ужо, здаецца, павінны былі абеларусецць, але нейкім тайным і незразумелым чынам яны захавалі сцежку на радзіму. І той нябачнай сцежкай няспынна адбываўся двухбаковы рух – адны ад'язджалі, другія – наязджалі, жывілі і захоўвалі свае карані. Белая Лужа была населена беларусамі, а Казялужжа – немцамі, якія начыста страцілі сваю радаслоўную. Адзіна памяталі, што яны немцы, хаця сама іх памяць была могілкавай. Старыя магілы на іх могільніку былі не пад крыжамі, а пад нейкімі дошкамі, што нагадвалі прасніцу. З немцаў быў Толя Белы. На яго і паказаў Гога:

– Сматры, сматры. Эта наш рускі немец. Астатнія вялікі зброд усіх народаў – рускія, беларусы. І ты ім гаворыш адно толькі: нэт, нэт, нэт. Матэр'ю клянусь, на адном языке міжнацыянальнага абшчэння цябе просяць: уваж.

І пазбаўленыя языка і мовы, калі ім прыпячэ, ператвараюцца ў красамоўцаў. Гога на зразумелай і японцу мове выклаў усеагульнае жаданне і вялікую мужчынскую просьбу. Падумаў, што, напэўна, пераканаў, працяў заходніка, скочыў на падножку грузавіка, намерваючыся, залезці ў кабіну. Але вадзіцель выхапіў з-пад сядзення манціроўку:

– А цэ бачыў, грузін?

– Хлопцы, та він хохол, – Гога без напружання перайшоў на ўкраінскую мову.– Хохол, сало будыш істы?

– Пошел ты, знаешь куда?.. – на крыштальна чыстай рускай мове адказаў яму шафёр і без асаблівага супраціўлення выпіхнуў Гогу з кабіны, зачыніў дзверцы. На што Гога толькі і знайшоўся:

– Не, я з хахламі гаварыць не можу.

На дапамогу яму выцерабіўся з механізатарскага натоўпу Толя Чорны:

– Пагаварымо, пабалакаемо, зямеля.

– Другім разам і іншым часам...

– Ні, даражэнькі, ты што тут робіш? Ты чаго ўперся на нашу зямлю, як тая рабая свіння, і порашся тут лычом у чужым гародзе? Покіль не скажаш, нікуды не поідзеш. Што за машына, звідкіля і куды?

– Не залупайся, дзядзько. Машына дзяржаўная, сам я чоловік казённы, паднявольны і балакаць з табой не маю часу.

– Якой дзяржавы?

– Японскай, маць тваю рускую.

– Дакумент, – патрабаваў Толя Чорны.

Некаторыя з механізатараў ужо зразумелі, што з машынай у іх не выгарыць, і пачалі ўжо былі разыходзіцца. Але Толя Чорны прыпыніў іх:

– Стойце, хлопцы, тут дзела цёмнае. Паглядзіце на машыну, на будку, што він цягне, то ж хлев, а не будка.

Будку тую, прычэп, бачылі ўсё і без падказкі Толі. Хата на колах. І печ у той хаты ёсць, таму што труба вонку выведзена. І вокны ў хаце былі. Але ці мала тут розных машын за дзень абарочваецца. Не можа ён ім дапамагчы, і не трэба назаляць чалавеку. Але Толя Чорны быў з'едлівы, нешта нядобрае для сябе ўбачыў ён у той будцы. Штосьці нядобрае і трывожнае, гледзячы на яе, адчуў і Лазар Кагановіч. Так яно і атрымалася пазней. То не будка-ўрамянка, а сама бяда на доўгія-доўгія гады паўзла на іх зямлю і асабіста яго, Лазара Кагановіча, бяда. І будзь у яго прадбачання крыху болей, ён бы пайшоў ад той бяды, абышоў бы яе бокам, як абыходзіць пасткі воўк,

як абыходзіў ён іх неаднойчы да гэтага часу. А тут прамахнуўся. Адчуў трывогу, зразумеў небяспеку і сам пайшоў насустрач ім. Але гэта ўжо высветлілася пасля, калі нічога нельга было паправіць і перайначыць.

А тады Толя Чорны стрэбаваў у вадзіцеля дакумент, і дакумент той не толькі даваў права ездзіць на машыне па іх зямлі, але і секчы іх лес. Машына была леспрамгасаўскай. А лес апошні паміж іхнімі чатырма вёскамі. Апошні сапраўдны лес паміж хатамі немца, украінца, рускага і беларуса. Запаведныя дубы і клёны, ясені і грабы. Звядуць яго, і ўсе чатыры вёскі – як вока божае, безабаронныя. Хто дзе, у якой вёсцы пабег за хлеў, будзе кожнаму відно, не кажучы ўжо аб тым, каб прайсціся па тым лесе з сабачкам, паганяць зайца, высачыць куніцу, пабегаць за лосем.

А гэтым усе яны тут і жылі. Ад старшыні калгаса, парторга да таго ж самага Дзеда Барадзеда Смаловыя Яйцы. Рускія і беларусы, немцы і ўкраінцы і нават адзін грузін – зваліся палешукамі. Жылі не ў калгасе, не з калгаса, не той нудотай, што нарачона была працай, а лесам, ракой, якая ў іх, слава Богу, захавалася. Толькі дзякуючы таму ж лесу. Жылі ім мо і не ўсведамляючы. Але гэта было апошняе, што ў іх засталося, запаветнае. Лес шмат ад чаго іх ратаваў, а больш за ўсё ад саміх сябе. Знікалі ў лесе, ішлі ў партызаны, як тут кажуць, школьнікі, таму што ён меўся побач, за хатай. А да школы дзесяць вёрст пешкі. У грабавай дуброве, ці дубняку, адчувалі сябе людзьмі ў любую пару года і дарослыя, асабліва зімой, пад першы снег.

Аб снезе тым, аб першым марозе, малілі неба і восень. І калі ён падаў, як застыглая сляза, кроў з малаком пад ружовым на світанні сонцам, кідалі ўсе хатнія справы і на ўсе выхадныя знікалі ў лесе. Казалі, што пайшлі на паляванне. Няпраўду казалі, хаця і бралі з сабою сабак. Ня-праўду ці не ўсю праўду, таму што мала хто бачыў у той дзень лісу ці зайца, больш сляды свайго ж брата-паляўнічага і яго сабакі. Але ўжо ў самім гэтым паходзе, без аніякай мэты і дарэмным, здавалася б, бадзянні было штосьці чароўна дзіцячае і прыцягальна мужчынскае. Сапраўднае і зусім не знясільваючае.

Тое ж і вясной, калі амаль увесь лес прытоплены паводкай. Рака выкочвалася з берагоў, і ад краю да краю нідзе не відно і лапіка зямлі. Але яны ведалі свой лес і сваю зямлю на вока і навобмацак. У лесе паміж далін і пагоркаў яшчэ іхнімі дзядамі і прадзедамі былі пракапаны канавы. Па тых канавах рыбіны парабілі свае хады. І ў кожнай дзедавай канаве свая рыбіна, якую ўпадабаў сабе дзед. І каля гэтых, парослых летам травой-муравой канаў, у час паводкі, яны нібыта падавалі руку мінуламу, свайму дзеду-барадзеду, які калісь

думаў аб унуку.

І летам і восенню лес не крыўдзіў іх. Летам, праўда, асабліва і не выпадала часу хадзіць па тым лесе. Работы і сваёй, і калгаснай, і дыхнуць няма калі. Хіба што ачамярэўшы ад той работы Толя Чорны ці Белы або ён сам, Лазар Кагановіч, наядуцца пылу, прыпыняць трактар і, як зайцы, шмыгаюць на хвілінку ў дубняк, а белы грыб, дубняковы баравік, на табе, перад носам. Дастань з кішэні складанік ды не палянуйся сагнуць спіну. Але ніхто з іх не стане спяшацца са складанікам.

Выцягне спачатку з кішэні пакамечаны пачак цыгарэт, запалкі. Абмазуціць «прыміну», прыпаліць яе, сядзе на зямлю, апалую дубовую лістоту, на жалуды, што патроны, і са смакам зацягнецца, пусціць на вока сабе дыму. І вока аслязіцца і асвеціцца думкай. А ён будзе дымець, смактаць салодкую цыгарэціну і, мружачы вока, пазіраць на баравіка. А баравік – на яго. Без слоў павядуць тайную гутарку. «Які ты крамяненькі вырас на гэтай калгаснай зямлі».– «І ты на той жа зямлі, але ўвесь прапахлы потам і мазутам».– «А ты ведаеш, што я з табою зараз зраблю?» – «Вох, напалохаў. Ведаю я, ведаю. Толькі б рукі спачатку памыў, вочы б хоць вадой пралысіў. Лапаюць тут усякія бруднымі рукамі».

І праўда, падумае трактарыст, трэба было б памыцца, не шкодзіла б і ў лазеньку схадзіць. Але няма, няма ў калгасе лазні. Няма лазні, але будзе суп з грыбамі. І чык-чырык таго баравічка пад самы карэньчык. Чык-чырык – кіне развітальнае бацьку-дубу баравік і схаваецца ў шырокай далоні трактарыста. А трактарыст паспяшаецца да сябе, але не да трактара, а да вады, да той жа рэчкі, калі яна недалёка. Здароўе мае, вады восеньскай не баіцца, распранецца дагала, як маці нарадзіла, па самую макаўку з мазутнымі злямцаванымі валасамі схаваецца ў плыткай вадзе, што восенню адсвечвае чыстым палескім золатам. І трактар яго дадасць абаротаў, галопам пойдзе па полі. А трактарыст можа і песню зацягнуць, але не ведаючы чаго. Пакупаўся ў рацэ, грыба падняў, у лесе пасядзеў. Адзначыўся, павітаўся за руку з лесам.

Вось гэта і ёсць запаветнае. І на ўсё гэта, свядома ці несвядома, хто разбярэ, хто адкажа, хто калі мужыку адказваў, са страшнай сілай, асабліва ў апошні час, налеглі з усіх бакоў: сам калгас – зямлі яму мала; меліяратары – краіне не хапае хлеба; леспрамгасы – рэспубліцы патрэбны будматэрыялы, дзяржаве – валюта. Лес быў чыстапародны, спрэс дубовы ды ясянёвы, звонкарублёвы. Ды і як і каму супярэчыць. Дзяржава – гэта ж яны самі і ёсць. Не супярэчылі, але радасці і адабрэння асабліва не выказвалі: нявечце зямлю,

сячыце, калі сячэце, калі на большае розуму не маеце. Усё роўна нас пытацца і слухаць не будзеце. Вось такім чынам ды ладам усе дубровы тут да апошняй зведзены былі пад сякеру. На насенне і пагляд, пэўна, асталася толькі самая малеч пры рэчцы і ўрочышчы каля Белай Лужы і Казялужжа, мізер, але і іх, палешукоў, захавалася пры калгасе зусім нічога. Лічы, адна вёска з хахламі і выжыла, Лужа. А Белая Лужа, Залужжа, Казялужжа, можна сказаць, спачылі ў Бозе. Не вёскі, а братнія магілы. Хаты праз адну крыж-накрыж забітыя дошкамі. Па ўсіх трох гэтых вёсках, падобна зданям, ледзь перасоўваюць ногі яшчэ жывыя людзі, нягеглыя дзяды і бабулі, што ўжо самі не ведаюць, на якім яны свеце, ці божы гэта свет, ці замагільнае царства. Па ўдзірванелых сотках блукаюць козы, барадатыя казлы і рахманыя, што анёлы, на выгляд, але тым не менш бясконца нахабныя козліцы. У вёсцы іх завуць анцыферамі, а гаспадынь іх – казлінымі мацёркамі. Але пагалоўе гэтых анцыфераў з кожным днём расце. Мала ў каго ёсць здароўе трымаць нармальную жывёліну. Сялянскі падворак пераключаецца на яўрэйскіх кароў. Яны непераборлівыя і ўсяедныя – як людзі. З іудзейскім сумам і журбой у вачах, скіраваных у сярэдзіну сябе, аднолькава пакутліва і абыякава жуюць і траву, і газету, а давядзецца – здольныя з'есці і калючы дрот, праглынуць і нож, і кулю. Абыякавасцю, непераборлівасцю яны нібы дэманструюць нейкае новае веданне, недасягальнае, недаступнае людзям, як і іх прышэсце ў палескую вёску.

І паволі, паступова гэтае новае жывёльнае веданне, здаецца, пераходзіць і да людзей. Людзі ўспрымаюць іх падсвядомыя пытанні і таксама несвядома, інстынктыўна-тагасветна спрабуюць адказаць на іх. Адказы тыя ці апраўдальна жаласлівыя, ці іх зусім няма. Таму што на ўсім, чым яны займаюцца, пячатка, адзнака незадаволенасці, недаробленасці і элементарнай нуды. Дваістасці жаданняў і справы, разладу высокай душы і тленнасці плоці. Смута і раздрай.

Цяжар гэтай дваістасці, трывалай і застарэлай сарамлівасці і збянтэжання, толькі-толькі развітаўшыся з дзяцінсвам, пастаянна носіць у сабе і Лазар Кагановіч. Адчуванне прывіднасці свайго жыцця на зямлі. З нейкае пары невядома чаму і як цені, здані набылі больш моцы і рэальнасці, чымсьці жывыя людзі. Варта было б працверазець калі-небудзь канчаткова і сур'ёзна зірнуць на гэтую насмешку жыцця, што прызначыла яму прозвішча, лічы, імя: Лазар Кагановіч. З аднаго, бачнага боку, ён такі ж Лазар, як з гаўна куля. А з другога, нябачнага, лёс кожнага з нас, абранне яго і прадвызначэнне – гэта не гульня ў лялькі. Моўленасць – гэта ўжо і замоўленасць, наканаванасць. Ёсць у ім нешта агульнае, што параўноўвае яго з тым жа самым Лазарам

Кагановічам. Можна, канешне, адбівацца, казаць, што прозвішча далі яму выпадкова. Але ж чамусьці ўсё роўна далі. Нехта зірнуў на яго збоку і выдаў мянушку. Хто, ён ужо не памятае і сам, дый не гэта галоўнае. Пабочнае, здавалася б, мімаходдзю слізгануўшы па табе, вока куды часцей, чым мы самі жадаем, бывае празорлівым. Выпадковасць, бязглуздзіца больш творaць жыццё, чым асэнсаванасць.

Жыццё само па сабе выпадковае і бязглуздае, каб не даць завязацца яму, дастаткова процізачаткавых сродкаў ці аборту. Але гэта якраз і ёсць глупства. Жыццё не адзінкавае, і моц яго ў няспыннасці, менавіта ў мностве, што недаступна агульнапрынятаму вылічэнню. Святло ўдзень, цемра ўначы – яго сатварэнне і зараджэнне. А смерць аднаго – толькі сведчанне нараджэння другога. Пераходнасць, як у школе вучні пераходзяць з класа ў клас. Таму яна і не страшная, хаця і балючая для свядомасці. Баліць веданне, што цябе, такога, якім ты прывык сябе бачыць, ужо больш ніколі не будзе. І твой заяц, твая рыбіна, грыб і дуб пераживуць цябе. Дуб мо пралапоча лістотай, ахопленай вольным ветрам. Язь варухне плаўнікам, пахітае цёмным хвастом. І знікне ў глыбіні ці ўдыхне ружовымі жабрамі паветра ў руках некага іншага; заенчыць, заскуголіць заяц-русак, затроплены не табой, а тым, іншым. Але грыб твой, пакуль ёсць дуб і начуе пад ім заяц, недзе плавае рыбіна, можа і не дацца ў рукі нікому. Будзе губляць па свежым ранку росы-слязінкі, пакуль будзе трымаць яго нага, пакуль яго прах не змяшаецца з тваім і не прарасце новым грыбам.

На тры вёскі, каб быць пахаванымі зусім і як заведзена ў хрышчоных людзей, таго лесу, што ацалеў, павінна было хапіць. Павінна было хапіць і дзесятка ацалелых тут зайцоў, каб усцешыць душу тых, хто аставаўся на гэтай зямлі. Яны ж таксама не зажывуцца. Ёсць знак, быў знак: усё іх калена павінна знікнуць з зямлі. Так ужо загадана, прадпісана, пэўна, зверху. І Чарнобыль толькі першы ім званок. Пакуль яшчэ цвецікі. Але будуць, будуць наперадзе і ягадкі.

Яны ўжо звыкліся са сваёй асуджанасцю, дайшлі да краю жыцця, калі галоўнае – перажыць бы толькі сёння. А заўтра, калі развіднее, то і будзе відно, што і як. Яны ўжо бачылі сваю магілу, сваё законнае і вечнае ўпакаенне пад дубкамі, як з іх цела расце дуб. Ноччу яны гэта снілі, снілі ўпакоенных родзічаў. Яны прыходзілі ў іх зямныя сны і клікалі іх да сябе. І шмат хто адыходзіў з зыбкіх сноў зямных, пераходзіў у сон вечны. Шмат хто быў згодны пайсці ў любы час, у любую хвіліну. Жыццё пазбавілася ўсякага сэнсу і інтарэсу, дзеля жывата толькі. Не асвечана зверху, не замацавана ўнізе. Але тут, каля

самага краю іх магілы, на макаўцы апошняга адчаю – пакоры, здарылася нешта нечаканае і негаданае. Іх раптам вырашылі захаваць і аберагчы.

Ім здавалася, што сам Бог забыўся на іх, закінуў на гэтую зямлю і пакінуў, пайшоў вяршыць свае боскія справы. А ён згадваў пра іх, успомніла пра іх дзяржава: недзе ёсць такія людзі, беларусамі завуцца, і не перадохлі яшчэ, варушацца. Дзяржава, праўда, успомніла не толькі іх, што дзяржаве да народа, народа ў дзяржавы незлічона, мо варта было б трохі і прарэдзіць яго. Дзяржава ўспомніла аб лесе, дуброве каля Белай Лужы, куды паўзла цяпер вось гэтая дзяржаўна-памяшчальная машына. Рашыла запатрабаваць сабе і засцерагчы для сябе тую дуброву. Засцерагчы зноў жа ад іх, ад людзей, што тут, на краі зямлі, яшчэ варушыліся, мучыліся. І зрабілася таму змучанаму люду балюча і прыкра: памерці без крыўды і хлусні і то не даюць. Атрымлівалася, што няма ў іх дзяржавы. І няма іх для дзяржавы. Адно спрэс непаразуменне, яны парахня, пянькі лысыя, гнілыя. Дрэва – дуб, клён, ясень – ёсць, і дзяржава помніць пра іх. А народ – цьфу, пустое месца. Жыве дрэва, а чалавек, што пасадзіў яго, даглядзеў, выгадаваў, – прах, пыл на касмічным чарнобыльскім ветры.

З дрэва дзяржава можа яшчэ нешта атрымаць, а што атрымаць з таго, хто яшчэ пры зачацці быў абадраны што ліпка. Чалавек усяго толькі кватарант на роднай зямлі без права прапіскі і валодання ёй. Больш таго, дзяржава імкнулася зрабіць з гэтага кватаранта і турэмшчыка – вязня і наглядчыка. Каб сам чалавек быў адзіны у дзвюх іпастасях: ён жа арыштант, ён жа і наглядчык. Усё перажыў, усё вытрываў тут чалавек, але такога вытрываць не мог.

І ўсе чатыры Лужы пачалі наракаць, як жабы вясною, калі ім трэба адбіцца, а няма дзе. Усявышні пакараў іх, высушыў лужы, пазбавіў вады і любага ім балота. І ўсё гэта дзеля іх дабрабыту, асцярогшы сябе, як шчытом, словамі аб клопаце пра іх. З тых слоўных шчытоў пасадзіўшы паміж сабой і народам цёмны непраходны лес. І здарылася такое не далей як у гэтую перабудовачную зіму пад бясконцую белую мяцеліцу высокіх слоў аб чалавеку, міласэрнасці і справядлівасці.

І чалавекі тыя, што трывалі, калі іх проста заганялі ў труну, не вытрымалі, калі іх вырашылі пазбавіць жыцця белым словам – міласэрнасцю.

Нямыя загаварылі, сляпыя набылі зрок, глухія – слых. Нябожчыкаў наважыліся паднясць з магіл і выцягнуць з труны.

Так было і зусім нядаўна. У мінулую адліжную зіму. Згодна з ёй

былі павінны трашчаць калядныя маразы, у замеценым снегам полі і на могілках нема выць ваўкі. Але стаяла ні позняя восень, ні ранняя вясна. Не было ні снегу, ні маразоў. Вадохрышчам мыла зямлю цьмянае нізкае неба. Ваўкі былі. Аб'явіліся тут за якія гады ўпершыню. Але лепей, больш міласэрна было не бачыць, не чуць і не дажыць да тых ваўкоў. То былі пакінутыя чалавекам, здзічэлыя і параднёныя з ваўкамі чарнобыльскія сабакі з зоны. Страшныя ў сваёй неўтаймаванай мутантнай лютасці. Некалі яны былі сябрамі і вернымі служкамі людзей і не цураліся нічога чалавечага. І нічога звярынага таксама не цураліся. Звер, што прайшоў навуку ў чалавека, які потым здрадзіў яму, ірве, разбурае, пэўна, нешта асноватворнае ў сабе і назаўсёды пазбаўляецца ад міласэрнасці. Толькі інстынкт, помста і разбурэнне рухаюць ім.

І атамныя, пазначаныя радыем ваўкі чарнобыльскага прыплоду пайшлі па зямлі, змятаючы ўсё жывое на сваім шляху, не зважаючы на свайго ранейшага гаспадара і ўладарніка, асабліва шчыруючы пры сустрэчы з гэтым уладарнікам, нібыта ў гэтым новым нараджэнні ім зверху было прадпісана распачаць вайну з чалавекам. Высачыць, знайсці і знішчыць. І кроў чалавека, яго жывое мяса бадзёрылі ваўкоў, абнаўлялі іх закіслую за гады і стагоддзі ўслугоўвання кроў. Час навучэння і рабства дапамаглі ім зведаць чалавека, яны прадбачылі і абыходзілі ўсе яго пасткі і хітраванні і адказвалі на іх сваімі хітрыкамі, сілай, безлітасцівасцю натоўпу, зграі. У трэцюю паслячарнобыльскую зіму яны нібыта самім Люцыферам выпушчаныя з-пад чацвёртага рэактара невядома куды, у якую далячынь, у якія гады і якому новаму богу на ўслугоўванне, спружынай прашылі гэты лес, пакінулі пасля сябе не адзін шкілет хатняй жывёліны і дзікага звера. Пакінулі, пэўна, і патомства шкоднае. Але чалавека, на шчасце, не кранулі, не сустрэлі яго на шляху свайго канца.

Хаця спалох быў. Перапалох на ўсе чатыры вёскі. У адну з начэй, калі тыя ваўкі бегалі каля іх селішчаў, зніклі дзеці. Зніклі, як толькі пачало змяркацца. І куды дзеліся, дзе згінулі, ніхто не мог і галавы прыкласці, нібыта венікам іх усіх вымела з хат і вёсак. Прыйшоў той самы дудар з дудкай, заіграў, зачараваў і павёў немаведама куды, звёў музыкай. На неба, у рэчку, к чорту ў балота, дзе яны будуць болын да месца і больш прыглядна, у лес. І барані Божа, калі сапраўды ў лес. У той лес яны здольны былі навастрыць лыжы і па сваёй ахвоце. А там…

Магло ж цюкнуць таму ці іншаму дурню на дарэмшчыну здабыць чыстапароднага сабаку – аўчарку ці ганчака. Добры сабака тут водзіцца толькі ў чыстай вады браканьера, трымаюць яго на ланцугу.

Крадуць і зводзяць з далёкіх вёсак, каб палепшыць іх кроў і мясцовую пароду. Паляўнічыя ж усе навокал і пастухі.

У адчаі былі бацькі, што з гора ні прыдумаецца: ану як і папраўдзе пайшлі іх дзеткі здабываць сабачак. І чарнобыльскія сабакі цяпер, няхай яны будуць праклятыя, няхай будуць праклятыя ўсе тыя вучоныя, што сатварылі Чарнобыль, цешацца іх дзеткамі, разносяць па лесе іх белыя косці. Час, даўно ўжо быў час усім вёскам класціся спаць, але ніхто не спаў. Ад хаты да хаты,як здані, хадзілі маткі. Курылі каля варот, заклаўшы за спіны рукі, у якіх напагатове былі папружкі і вяроўкі, бацькі, цікуючы сваіх руплівых нашчадкаў, рыхтуючы ім гарачую вячэру. А потым проста так ужо курылі, адкінуўшы халодную зброю, групуючыся сусед з суседам у купкі, прыгадваючы, што маецца ў іх зброя, і гарачая, настройваючы сябе на лес і паляванне. І калі ўжо гатовы былі рушыць на гэтае паляванне, праламаць цемру грымотамі стрэлаў, далёка апоўначы аб'явіліся дзеці. Прыйшлі абдзёртыя, у крыві, як з вайны, нібы на самай справе ваўкі ўсю ноч іх дзерлі.

Радасці ў кожнай хаце, што гадавала хлопцаў, не было мяжы: жывыя, слава Богу, жывыя. Усе, як адзін, прыйшлі і знайшлі свае хаты, ступілі на бацькоўскі парог. Праўда, ужо на наступны дзень вяртанцаў гэтых у кожнай вёсцы прыкметна паменела. Толькі яны пераначавалі ў бацькоўскай хаце, даглядзелі апошнія шчаслівыя дзіцячыя сны, прыскочыла міліцыя на двух «варанках» і пачала грузіць іх у тыя «варанкі». Свяціла ім цяпер неба ў буйную клетку, а ўсё таму, што сумна было ў бацькоўскай хаце.

Пагулялі ў калядную ноч, падвесяліліся лужанскія хлопцы. Схадзілі на вяселле ў вёску за ракой, у суседнюю вобласць, за мяжу, лічы. Удумалі спагнаць з маладых, як заведзена, чарку. Ну, ім паднеслі тую чарку, ды дужа моцнымі рукамі. Урэзалі па рэбрах, каб не хадзілі ў госці без запрашэння, не поўзалі ноччу па чужой зямлі, пад плотам чужых хат і гародаў. Хлопцам і за мяжой было таксама сумна. Размяліся. Першае сражэнне з-за сваёй малалікасці лужанскія прайгралі начыста. Але самы хуткі на ногі паспеў дабегчы да роднай зямлі і не ўпаў там, кінуў кліч:

– Нашых б'юць!

І ўсе нашы падняліся і пайшлі на чужынцаў, кінуліся за раку, уварваліся ў чужыя землі. Зарэчная вёсачка маленькая, але прыдатнага падсобнага матэрыялу, жэрдак і штыкету хапіла. І яны там навялі парадак, заснавалі ў заходнікаў савецкую ўладу, прымусілі паважаць звычаі дзядоў і прадзедаў. Таму, другому разбілі галаву, перабілі руку і выбілі вока. І пайшлі па турмах матаць жыццё, шукаць

баланднае шчасце. Але бацькі іх, што перадумалі за тую ноч, перажылі ўжо самае страшнае, асабліва не бедавалі: жывыя ж, жывыя. А турма, як і армія, чаго яе баяцца, навучыць жыццю, навучыць свабоду любіць. Нездарма ж кажуць: хто ў турме не сядзеў, той і жыцця не ведае. Галоўнае – ніводзін чарнобыльскі сабака іх не пакусаў, не пазначыў мірным атамам. А да ўсяго ж турма недзе адсюль далёка, у чыстым, без радыяцыі, месцы.

Сабакі ж тыя, ваўкі радыеактыўныя, сышлі з іх зямлі. Пераправіліся праз рэчку на другі бераг, у маленькую вёску. І там, у другой вобласці, як у іншым царстве, гавораць, пазвяравалі. Лужанцы не злараднічалі, але адзначылі як нешта належнае: што паробіш, так ужо ў кожнага на раду напісана – аднаму турма, другому – магіла. Жыццё даецца адзін раз. Іх дзяцей збярог і захаваў сам Гасподзь Бог. З турмы, не з таго свету, вернуцца, прыйдуць вучаныя. Паспеюць на гэтым свеце нарабіцца.

Аб наваяўленай пародзе ваўкоў пагаварылі і хутка забылі. Вельмі ж шмат набегла іншага. Пустата і недарэчнасць жыцця заўсёды адметныя напружанасцю і бязмежнай запоўненасцю, штохвіліннай мітуснёй і такім жа штохвілінным адцягненнем, што лёгка можна растлумачыць і зразумець: калі няма жыцця, яго трэба прыдумаць. Зрабіць глупства і ўкласці ў яго розум. Стварыць цяжкасці і пачаць з імі змагацца. У нашым жыцці больш за ўсё падыходзіць: з агню ды ў полымя.

Стаяла зіма. Душа маліла снегу. Няспынна ішлі дажджы. Адзін спыняўся, другі пачынаўся. Хварэла зямля і ўсё, што было на ёй. Зялёным мохам, як муравой, зарасталі платы і стрэхі хат і хлявоў. У хатах жа было цёпла, таму што па завядзёнцы палілі, як зімою, на мароз. Утульна і невыключна, як у даўнія гады цвіркуны, зранку і да поўначы цвірчэлі экраны тэлевізараў. Людзі да іх беглі нібыта на працу. Рушылася эпоха, пераварочваўся свет, крышылася дзяржава. Камуністы ішлі ў папы, папы да камуністаў. Чэкісты перакідваліся ў шпіёнаў, шпіёны ў чэкістаў. Правыя лявелі, левыя правелі, белыя чырванелі, чырвоныя бялелі. Нямыя прасілі голасу, сляпыя – святла, глухія – слова. Тыя, хто ніколі не пакутаваў, заклікалі аб міласэрнасці. Усе чакалі цудаў, умольвалі адзін аднаго аб міры і ішлі адзін на другога з мечам. Адзін толькі шчыра заклікаў усіх быць мірнымі – убогенькі, стары, сівы, а як дзіця. Але яго дзіцячага голасу ніхто не пачуў ды і не хацеў чуць. І хутка яго зусім забілі ў гэтым усеагульным змаганні за мір і міласэрнасць, распялі праведнымі словамі. І ўжо мёртвага пачалі памінаць як Хрыста.

Пакаленне, што не ведала вайны, пазнавала яе лік, лузгаючы

гарбузікі каля экранаў хатніх тэлевізараў. Па бясконцых прасцягах краіны, па сталіцах і вялікіх гарадах няспыннай чарадой пацягліся бежанцы. Гужом уперад нагамі паплылі ў зямлю абяцаную нябожчыкі. Па смерць і жыццё, хлеб і свабоду станавіліся ў чэргі. Па ўсё і паўсюдна: ад Крамля да самых да акраін. І ўсе стаялі ў той адзінай чарзе – багі і звычайныя смяротныя. Ад Брэста да Чукоткі перацягнутай струной звінела: перабудова, перабудова, перастройка. Зуха наярвалі балалаечнікі, скрыпачы і гітарысты, празарліўцы і пракрокі, што, як грыбы пасля парнога дожджыку ўлетку, палезлі адусюль. Перахоплівала дых, вочы лезлі на лоб ад смеласці, розуму і вар'яцтва. Новы Майсей, у прастамоўі Міша Мечаны, узняў свой народ з наседжанага месца, узняў і вёў яго па пустыні. Пустыняй стала іх зямля. Толькі яны, аслепленыя вялікай ідэяй, не падазравалі гэтага. Пакланяліся яе язвам і болькам, і бачылася яна ім богападобнай. А ў зямлі ўжо і на стогн не хапала сілы. Пакуль яны, стоячы наўколенцах, клалі паклоны, у яе выдзерлі язык. Зямля знямела. У нямой маці нямыя дзеткі. Нешта спрабавалі мыкаць беларусы і ўкраінцы, але ж і мыкаць трэба на матчынай мове. А іх пазбавілі яе, як і ўсіх іншых. Ва ўсіх сачылася з рота кроў. Але калі крыві той зашмат, то гэта ўжо не кроў, а вада. Аслепленыя і нямыя палічылі кроў за ваду і аглухлі. Аглухлі ўжо самі, па сваім жаданні і ахвоце. Калі ўсе вакол нямыя, калі некаму гаварыць, то некаму і слухаць. Але сёння ўсе яны раптам як набылі зрок.

Набылі зрок, паглядзелі адзін на аднаго і жахнуліся ўласнага жудаснага ліку. Збянтэжыліся, абурыліся, загаласілі, заенчылі.

Беларусы, праўда, падобна жахнуліся ціха, як заўсёды.

Па крайняй меры ў яго, Лазара, калгасе «Верны шлях» нічога ад гэтага жахання і перабудовы не змянілася. Калгас ёсць калгас, якім ён быў, такім і застаўся. І не так ужо шмат ён будаваў, каб улегці перабудоўваць.

Дай Бог давесці да ладу тое, што закладзена ў гады застою. Дарогі прыстойныя высыпаць хоць пяском да кожнай вёскі, каб хлеб печаны і свежы на стале кожны дзень быў. А то пачалі ў застой пясок на дарогу вазіць, прыйшла перабудова – кінулі. Нібыта ў перабудову няма патрэбы на машынах ездзіць і хлеб есці. А што, мо так перабудуюцца, што і сапраўды хлеб адмовяцца есці. Да таго ідзе. Па дарозе той былой сёння ўжо немагчыма ездзіць. Барханы белага пяску, як у Каракумах. Гуляецца імі вецер, выводзіць нейкія пісьмёны, піша пісьмы райкаму, перадае паклоны старшыні райвыканкама і іншым райправадырам, што на гэтую якраз хвіліну дзяруць глоткі за народ і яго долю: фабрыкі – рабочым, зямлю –

сялянам. Мо і возьмуць фабрыкі рабочыя. Фабрыка ж што лялька, чаго яе не ўзяць. А зямля, яна цяжкая і брыдкая. Вунь як гняце грудзі іх дзядам і прадзедам. А ўсё таму, што аднойчы яны яе ўзялі. І на Салаўках, Калыме і Магадане іх паклалі ў зямлю без магіл, труны і крыжоў. Але з зямлёю яны і ў зямлі. Хто з зямлёю да нас прыйдзе, той у зямлю і пойдзе. «Верны шлях» ёсць верны шлях. «Правильной дорогой идете, товарищи».

Ведалі тут верную цану ўсякім словам, ведалі тое-сёе і аб новых дабрадзеях, таму што мелі сярод іншых і свайго абранніка народа. Кандыдатаў на тых дабрадзеяў ім далі трох. Адзін амаль што свой, трактарыст суседняга калгаса – ясна, каб пасмяшыць народ. Другі – больш сур'ёзна – пісьменнік. Гаварыў прыгожа, але складана і месцамі незразумела, на матчынай, значыць, мове. І пісаў, мабыць, на той мове, таму што ніхто яго тут не чытаў. Але гаворка прыемная, хаця і галасок брыдкі, зачароўваў, як песню спяваў. Слухаў яго народ ужо без смеху. Шкадаваў, харошы ты чалавек, але даць, а галоўнае, узяць у цябе няма нічога. У трэцяга ж кандыдата было ўсё. Не паспелі яго вылучыць – прачнуўся раненька рана старшыня калгаса «Верны шлях», а пад вокнамі яго хаты новенькая «Ніва» стаіць і старшыня райвыканкама на парозе – той самы трэці кандыдат.

– Вось успомніў, даўно ты каня прасіў. Бяры.

Даронаму каню, як гавораць, у зубы не глядзяць. Старшыня ж выбарчай камісіі асабіста глядзеў у кожны бюлетэнь, хто там і каго выкрэсліваць будзе. Лазар у той дзень укінуў трохі.

Пад градусам, а на галасаванне з'явіўся. Хоць і бачылі, што ён на падпітку, да урны яго дапусцілі, але далі ўсяго толькі адзін бюлетэнь з кандыдатамі раённага ўрада. За ўрад Вярхоўны тут, пэўна, прагаласавалі яшчэ да пачатку выбараў.

– Мала,– абурыўся Лазар,– тут не хапае.

Да чаркі ён яшчэ не ведаў, за каго будзе аддаваць свой голас, а пасля чаркі асмялеў і рашыў, што за пісьменніка. Прыгадаў, што яшчэ ў школе з усіх прадметаў любіў беларускую мову. Асабліва быў рады, калі настаўнік той мовы гаварыў, што заўтра будзе дыктант ці сачыненне. Цяжка засынаў, лёгка прачынаўся, яшчэ цёмначы, і бег у школу: будзе пяцёрка, сёння ён возьме пяцярык. І заўсёды браў. Быў круглым выдатнікам па адным прадмеце і такім жа круглым двоечнікам па ўсіх астатніх. З той жа школьнай радасцю, даўно страчанай, пацёгшы зранку, ён ішоў тым днём і на галасаванне. Але ў той паперчыне, што яму далі на выбарчым участку, было адно толькі прозвішча. Чытаць і лічыць Лазар яшчэ не развучыўся.

– Давай пяцёрку,– патрабаваў ён у старшыні камісіі, дырэктара

школы.

– А дзесятку не хочаш? Мала просіш, Лазар, цяпер падаражала...

– Зубы мне не загаворвайце, ганіце астатнія квіткі, – быў ён хмяльны, але не ад чаркі толькі, і хмялеў на вачах, таму што бачыў перад сабою таго ж самага настаўніка беларускае мовы, каторы ставіў яму толькі пяцёркі, а цяпер строга выгаворваў:

– Лазар, не псуй абедні.

– Які я табе Лазар? Дзе ты бачыш Лазара?

– Ты куды прыйшоў, ты куды явіўся, п'яная твая морда? Пазбаўляю цябе голасу.

– Ну і пляваў я на гэты голас. Бяры яго.– І Лазар скамячыў бюлетэнь, запхнуў яго ў рот сабе, пажаваў і плюнуў ім у твар свайму быламу настаўніку. На вачах нагарнуліся слёзы, але не ад крыўды ці злосці на тое, што адбылося. Сухая лыжка заўсёды горла дзярэ. Шурпаты быў бюлетэнь, шчыпаў горла і выганяў слёзы. Але ён не даў ім волі, не прывык плакаць. Выцер каравымі далонямі, распаліў твар, смаркануўся дзеля прыліку, нібыта гэта ў носе яму нешта шчыпаць пачало, павярнуўся:

– Бяры сваю паскудную паперчыну разам з языком, – грымнуў дзвярыма і пайшоў дапіваць, што яшчэ засталося ў яго ў бутэльцы.

Перамог жа на выбарах, канешне, дастойны. Той, хто і абавязаны быў перамагчы. А Лазару паставілі тым днём пад правае вока ліхтар. І ён свяціў ім два тыдні. І два тыдні маўчаў, пакуль не сціхла пагалоска аб тым, што ён, Лазар Кагановіч, уступіў у Народны фронт. Хлусілі, само сабой. Але блізка да ісціны. У той жа дзень, перад тым як засвяціцца яго праваму воку, а мо ўжо і з засвечаным вокам, ён купіў у магазіне бляшанку фарбы. З нагоды выбараў у магазіне быў вялікі завоз тавару. Фарбы навезлі ўсялякай. Лазар упадабаў чырвоную. Каля яго хаты, пад плотам, быў укапаны верставы слуп з бляхаю на два бакі. Ставілі яго, плануючы зрабіць прыпынак аўтобуса. Але, паколькі ён не хадзіў, не мог прабіцца скрозь барханы недабудаванай дарогі, бляха засталася белым аркушам паперы.

У наступным пасля выбараў ранку яна аказалася ўжо з надпісам: «Я люблю тебя, прохожий! БНФ». Слуп, як крыж на ростанях. Раніцою сышліся каля яго дзве старыя. Адна граматная, другая таксама граматная, але напаўсляпая.

– Хто тут пахаваны? – спытала напаўсляпая ў відушчай.

– Нейкі Бенефе.

– Хто ж гэта такі будзе? У нашым сяле такога няма... Ты глядзі, не паспеў нарадзіцца, а ўжо памёр... Ды ўсё роўна, усё адно да аднаго. Хай зямля яму будзе пухам, – напаўсляпая перахрысцілася.

– Ты што? – уз'елася на яе відушчая.– Што табе тут, могілкі?

Старыя яшчэ папляткарылі нейкі час каля крыжа і разышліся, адна злосная, другая – жалобная, але абедзве ў недаўменні. Маладыя, больш дасціпныя, дапялі, што да чаго, і цяпер выскаляліся.

– То не ты, Лазар, у БНФ уступіў і сабе пры жыцці крыж паставіў?

– Лазар Кагановіч уступіў у БНФ. Сапраўды, ці не смешна?

– Ты яшчэ пісаць не развучыўся, Лазар?

Лазар маўчаў.

– На выбарах яго голасу пазбавілі,– дружна зрабілі дыягназ механізатары, і, як заўсёды, дакладны. І адчапіліся ад яго, пераключыліся на іншае і іншых. Смакавалі, як Толя Чорны купіў сабе новую шафу і пасля добрай замочкі ноччу палез на яе спаць і ўсю ноч крычаў:

– Мар'я, нешта печ халодная. Прапалі печ, не то злезу і сам паліць пачну.

– Гэта яшчэ што, – пацяшаў народ Толя Белы, – мой швагрук, каторы ў горадзе жыве, пасля таксама добрай паддачы ў ванну мыцца наладзіўся. Ды заснуў там. Жонцы на работу ісці час, а яго не дабудзіцца. Яна пробку з ванны хоп, святло, выключальнік, шчоўк – і пайшла. Не патоне. Прачнецца – вылезе. Ён прачнуўся: ды-ды-ды, холадна. А цвярозы ўжо. Бачыць – цёмна вакол. Ён рукой лап-лап. Што за чорт, сам увесь голы, пасудзіна нейкая склізкая і камень, камень усюды. Усё, значыцца, ужо, канцы, калі не на тым свеце, то ў морзе точна. Во дзела было пад Палтаваю...

На зуб яму трапілі і Лаўрык з Гогам і зноў жа з Лазарам Кагановічам. Пайшлі яны ўсе трое ў выхадны на паляванне. І на змярканні, калі самы час сядзець і сушыць анучы на печы, утрапілі зайца. Пачаў заяц скідваць петлі, яны і сабак згубілі. А тут прыпаў да зямлі туман і цемра легла. Яны ж так ужо абхадзіліся, што не ведаюць, куды далей, у які бок брацца. Сталін кажа, што ісці трэба толькі прама, Кагановіч забірае ўправа, Берыя – лявіць. І пайшлі яны спачатку прама, а потым – налева ўзялі. Амаль што ўсю ноч ішлі. Пад самы ўжо ранак некуды выбіліся, але цемра вакол і туман, туман – не зразумеюць куды. Толькі навобмацак адчуваюць, што трапілі ў нейкае значнае мястэчка. Усё помнікі, помнікі ды п'едэсталы вакол, некаторыя з іх ужо занятыя, але ёсць і свабодныя. Падсаджваючы больш лёгкага з іх, адзін з помнікаў яны абследавалі да самай макаўкі, да кепачкі. Прызналі таго, хто перад імі.

– Дзень добры, Уладзімір Ільіч,– сказаў Гога-Сталін.– А дзе гэта я знаходжуся?

І Лазар з Лаўрыкам у непаразуменні. Будынкі вакол не як у іх ці ў

нейкай іншай вёсцы, не з бёрнаў, а ўсё спрэс каменныя, двух-, трох- і хто яго ў тумане пойме – павярховыя. Сунуліся ўбок – слупкі мураваныя і агароджы жалезныя. Але дзверцы ёсць, і сцежка некуды з бетону. Рушылі па той сцежцы – прыступкі бетонныя зноў жа. Узышлі па іх, у слуп каменны ўперліся. І тут Лаўрык кемлівасць паказаў, прызнаў, хто гэта і што перад ім. Але вітацца, як толькі што Гога, не стаў.

– А-аа, тут гэтыя…

І Лазар з Гогам пагадзіліся: так, гэта – гэтыя, каторых усюды шмат. І пакрочылі зноў па сваім жа следзе назад.

– Не інакш у Гомель прыйшлі,– сказаў Кагановіч.

– У Гомель, не менш,– пацвердзіў Гога,– а мо і ў Тбілісі. Ці ў саму Маскву. Хаця не. У Маскве і ноччу, у тумане, светла. Ліхтары гараць. А народ ад святла да святла па вуліцах шастае. А тут, падобна, як вымерла ўсё. Адны толькі гэтыя ды той, у кепачцы. Ды мы з вамі.

– А мо і праўда, хлопцы,– кончылася ўсё,– нібы яго асяніла, спыніўся Кагановіч.– Цяпер жа гэта вельмі проста. Пакуль мы бегалі, выбухнуў яшчэ адзін Чарнобыль – вось і ўсё. Застанемся тут, каля гэтых, пераначуем. Ранкам будзе відна.

І Лаўрык з Гогам збіліся з нагі. У меркаванні Кагановіча не было нічога неверагоднага. Кагановіч – гэта галава. Калі адзін на трох ён ёсць, яны не прападуць. За ноч шмат чаго магло здарыцца. Мог выбухнуць зноў і той жа Чарнобыль ці новая якая-небудзь зараза. Хто скажа, колькі яе тут назапашана на чалавека. Жыць цяжка, а памерці, забіць чалавека, што два пальцы абмачыць. У смерці памочнікаў процьма.

– Не, я грэбую, – пасля кароткага роздуму пакрочыў далей Лаўрык. – Я вельмі грэблівы. І баюся мерцвякоў. Я з імі начаваць не буду. Знойдзем, знойдзем яшчэ і жывых. Вось і хата, здаецца, стаіць. Пастукаемся і спытаем, ці ёсць хто тут жывы і куды прыйшлі.

Лазар з Гогам стукаць пасаромеліся, выправілі Лаўрыка. Лаўрык пастукаў, і на стук выйшла яго маці ў белай начной сарочцы.

– Хто гэта? Хто ты? – не даў веры сваім вачам Лаўрык. – Адкуль ты ўзялася, што ты тут робіш?

– Ты што, родную маці не пазнаеш? Поўзаеш ноч-апаўноч, а я перажывай. Засляпіла табе. Во вазьму кій – праясніць.– І маці Лаўрыка схапіла кій, што для гэтай, а мо якой іншай патрэбы стаяў каля парога і быў заўсёды ў яе пад рукою. Лазар з Гогам пайшлі ў туман галопам. Праяснiла і ім. Не ў Гомелі, не ў Маскве, а тым больш не ў Тбілісі былі яны, а ў сваёй роднай Лужы. У цэнтральнай сялібе калгаса «Верны шлях». Не прызналі ж, таму што туман.

– Жыццё ёсць сон, – па-філасофску мовіў Лаўрык, калі яго дапяклі механізатары. З ім пагадзіліся, толькі адзін Толя Чорны запярэчыў:

– На тое ён і Берыя...

Вось такое жыццё ішло ў калгасе «Верны шлях», у прыватнасці на яго мехдвары, калі перабудовачная маскоўская хваля, што сягала сюды толькі водгаласам, пенаю, якую яна несла наперадзе сябе, накрыла з галавою іх.

Застаялым дажджлівым зімовым ранкам старшыня калгаса і старшыня сельсавета атрымалі з горада тэлефанаграмы амаль аднолькавыя па зместу. У адной з іх паведамлялася, што сёння вечарам у 19.00 па маскоўскім часе ў вёсцы Белая Лужа адбудзецца агульны сход. Будуць прысутнічаць прадстаўнікі райкама і іншыя зацікаўленыя асобы. Яўку калгаснікаў забяспечыць. У другой – тое ж самае, толькі зазначалася, што прадстаўнікамі на тым сходзе будуць райвыканкамаўцы. Два старшыні абмяняліся вярыцельнымі граматамі і пайшлі кожны па сваёй епархіі, здаецца, у розныя бакі. Але, як ні дзіўна, сышліся ў адной кропцы, каля трактара Лазара Кагановіча. Апошняму было загадана ехаць у лес везці дровы і паліць грубку ў клубе. Паралельна былі задзейнічаны парторг, усе камуністы і дэпутаты, загадчык клуба. Гэта былі тыя, хто сам павінен быў з'явіцца на сход, а таксама адказваць галавой за пагалоўную яўку ўсіх астатніх – беспартыйных і не дэпутатаў.

І ў дзевятнаццаць нуль-нуль па-крамлёўску каля Белалужскага вясковага клуба прышвартаваліся дзве раённыя чорныя «Волгі». Незразумелай прыналежнасці жоўценькі «козлік», старшынёўская зялёная «Ніва», блакітненькі «Масквіч»-фургончык, пралетарскага колеру матацыкл, некалькі веласіпедаў дэпутатаў і камуністаў. Тут жа ў двары з нявыключаным рухавіком стаяў і трактар Лазара Кагановіча. Лазар не падумаў, што будзе такі наплыў начальства і тэхнікі, і паставіў яго не вельмі зручна, што пана, у цэнтры двара, начальства было вымушана ляпіць свае машыны каля яго. Легкавушкі абклалі «Беларуса» з усіх бакоў, як ваўкі каня. Ён уздрыгваў усім сваім сухарлявым нутром і з перапуду, а мо саляркі такой залілі, куродыміў так, што не было чым дыхнуць. Часам сарамліва аціхаў, нібыта загадваў сабе стаіцца, але адразу ж навёрстваў затрымку дыхання новымі выкідамі клубоў дыму і траеннем рухавіка.

– А дзвіжокта траіць,– такі дыягназ і паставіў сакратар райкама, «Волзе» каторага якраз і пляваўся ў лоб дымам трактар. – Выключыць... А тэхніку, Аўгуст трэба рамантаваць, – гэта ўжо ў дакор старшыні калгаса за смурод і дым і ў навучанне ўсім, хто мог яго пачуць.

– Та паважаем, рамантуем,– шукаў вачыма старшыня калгаса

Лазара, абураны на таго, што так няўдала ўваткнуў ён тут свой трактар, і адначасова задаволены тым, што мае магчымасць пагаварыць з сакратаром пра тэхніку:

– Рамантуем, а як жа. Толькі ламачча і ёсць ламачча. Нам бы хоць пару трактаркоў на нашу беднасць.

– Ну-ну, не прыбядняйся. Востры, я гляджу, не па гадах. Ведаеш, ведаеш, чым начальства праняць, – сказаў сакратар і адразу ж загадаў старшыні загадку. – Пагляджу я на цябе сёння ў дзеле, які ты круткі. Трактар заглушыць. А нас вядзі ў памяшканне. Будзем пачынаць.

Трактар заглушылі. Сакратар райкама дазволіў завесці сябе і ўсіх іншых у клуб. Сход пачаўся. Ішоў ён спачатку цераз пень калоду. Вельмі шмат было ўжо начальства, не хапіла нават усім месца ў прэзідыуме на сцэне. І той-сёй вымушаны быў спусціцца ў залу, месціцца ў першых і апошніх радах. І само сабою атрымалася, што яны, як трактарок той на вуліцы, тут, у зале, аказаліся з усіх бакоў абкладзенымі начальствам. Начальства пазірала ім у плечы і ў твар. У твар было яшчэ туды-сюды. А хто з нас любіць, калі нам глядзяць у плечы, дыхаюць у плечы. Які мужык здольны такое вытрываць. І яны адзеравянела ўрасталі ў крэслы, чыгунелі заветранымі патыліцамі, баючыся варухнуць шыяй.

– Вы ведаеце, што ў нас сёння ў краіне перабудова? – спытаў іх сакратар райкама. Зала маўчала. Але сакратар і не чакаў адказу. Ведаў, што пытанні задаюцца не для таго, каб на іх адказваць. Улада яна толькі тады ўлада, калі пройдзе навуку гаварыць, нічога не сказаўшы, і чым больш туману і загадкавасці ў яе гаворцы, тым яна больш моцная і трывалая. Гэта было ўжо засвоена ўсімі назаўсёды. Начальства трэба слухаць не вухам, а брухам. І яны не болей чым да радыё прыслухоўваліся да таго, што гаварыў сакратар. Захоўваючы пачцівую цішыню, думалі пра свае хаты, пакінутую без прыгляду жывёлу. А пара, пара паліць печ і ўкінуць сена карове. А колькі ў хаце яшчэ неадкладных клопатаў. Добра быць начальнікам, добра хадзіць у сакратарах, толькі б гаварыць навучыцца гладка ды складна: колькі імі ўзарана ды пасеяна, колькі нарасло ды прыбрана, дадзена для шчасця ды будзе яшчэ атрымана, ужо для канчатковага і поўнага шчасця і працвітання.

Але, надзіва, ужо калі палова залы была ўвагнана ў дрымоту, ён жа іх і разбудзіў. Сакратар мог гаварыць і ўсыплядьна ціха і абуджальна гучна. Цяпер ён сваім голасам глушыў залу. Так бяжыць па лесе ўсё заглушае верхавы пажар, так у паводку рые сабе дарогу вада, калі праломіцца праз бераг і памкне ў пратокі. Глушыць і

рушыць усё, пакуль не сустрэнецца на шляху звычайнае балота, якое прымусіць яе перайсці на шэпт. І невялічкае, здаецца, балота, у спякотны дзень кuліку не напіцца, а які б там ні быў наплыў вады, можа ўсмактаць і агонь прытушыць, таму што патаемнае. Ніхто не дайшоў да яго дна – ці ёсць у яго тое дно. Гразкімі, багністымі ямінамі, дурманліва парослае зверху багуном і ягадай-буяком, падземнымі жыламі, крынічнымі плынямі яно павязана з усім белым светам. На адным краі зямлі з яго падымаецца вясёлка і свеціць сонца, на другім – ідзе дождж.

Але гэта калі не хлусяць календары. Цяпер жа наогул эпоха ішла бескаляндарная. Іх замянілі тэлевізары, народ прыпаў да іх і не дыхаў нават у чаканні надвор'я назаўтра: ці ёсць дзе гэта надвор'е, ці будзе ў яго заўтра – восень, зіма, лета. Жыватворнае балота ўсыхала, глытнуўшы вады з ракі Леты, душа яго збывала мінулае, таму што амярцвела, хаця і супраціўлялася смерці захаванымі ў запаветнай глыбіні і цішы правальнымі скрозь зямлю астраўкамі дрыгвы. Як жабы на купіну, з той балотнай дрыгвы паскакалі апошнія лесуны, чысцікі і нячысцікі, вадзенікі і шышыгі. Лёгкія на нагу д'яблы адхрышчваліся ад сябе і давалі дзёру са свайго балота, забыўшыся, што без балота няма і чорта, і вольна таму чорту блажыць у сваім балоце. І не было і няма, пэўна, нічога больш страшнага, як увераваны чорт.

Але выхрысты ва ўсе часы былі ў пашане, а ў няўчассе іх заўсёды носяць на руках. Уведаўшы здраду аднойчы, уведаўшы цану і вагу срэбранікаў, яны гатовы былі прадаваць усюды і заўсёды, перахрышчвацца на кожным кроку, пакланяцца і маліцца кожнаму новаму павеву ветру, спапяляючы ўсё вакол сябе і ў сабе, сеючы вецер і попел, пажынаючы буру ў адказ на сваё маленне: «пусть сильнее грянет буря». Цяжкія на пад'ём, верныя свайму высахламу балоту лесуны былі асуджаны разам са сваім балотам.

У хаце прыгаворанага да пакарання смерцю праз павешанне хоць і забаронена гаварыць пра вяроўку, але пра што гаварыць, калі вяроўка ўжо на шыі. Як тут не паклапаціцца і не спытаць: а ці хоць мяккая яна, ці роўна і зручна легла, ці не муляе шыю. Так доўжыцца жыццё ў веданні, што ўсе мы смяротныя. Але вельмі вабіць і памерці камфортна і прыстойна. А з другога боку, кожны жывы, пакуль не думае аб смерці, пакуль не пачне памінаць яе і цвяліць. Абуджаная гэтым памінаннем, смерць тады сама спяшаецца на наш невыразны заклік. Мы жывы да той пары, пакуль жыве ў нас жаданне жыць

Балота прагла жыць, яно было яшчэ здольна адрадзіцца, таму што ў ім захавалася добрая і злая моц паглынаць зямное і нябеснае,

вечнае і імгненнае. У дрымучым ачмурэнні яго бяздоннай дрыгвы да пары да часу, да таго часу, калі перастануць хлусіць календары, магло знайсці супакаенне і захаванне ўсё добрае і благое, ніводнаму яблыку не пагражала застацца зеляну. І дажджавая кропля не гублялася дарэмна. Кроў, пот і вада радніліся, адстойваліся да крынічнай празрыстасці і абуджаліся, аб'яўляліся перад светам той жа самай крынічкай, што ўпрыгожвае наш дзень, прымушае нас верыць яму.

Апошнія лесуны мо апошняга таксама балота, угрэтыя сваімі ватнікамі, шчырымі намаганнямі Лазара, які добра напаліў грубу, а да ўсяго і цеплынёю перабудовачнай зімы, што выраклася календароў, дрымотна паглыналі словы сакратара, прыстаўленага да іх зямнога Бога. Бог гэты быў таксама з іх балота. Больш, такі ж лясун, як і яны самі. Але была ў ім, у яго палкіх словах, у тым, як ён біў і заклінаў імі залу, распятасць Хрыста і спакушэнне д'ябла. Гэта быў лясун на раздарожжы, вылеплены і выпешчаны ў час д'ябла. І адзнака халоднага ведання і вышэйшай веры ўжо закранула яго чало. Але ў час пасвячэння якраз і затрубілі трубы архангела Міхаіла, засмуцілі яго спакой і душу, на пячатцы далучанасці да сонму бессмяротных паставілі пытанне.

Сакратар ён быў малады, з новага камсамольскага парасніку выцерабіўся ў апошнія гады з захаванай яшчэ, наколькі гэта магчыма ў сістэме і на арбіце, душой, таксама, як і яго паплечнік і сябра, старшыня райвыканкама. Абодва яны занялі крэслы з цвёрдай перакананасцю, што, не ў прыклад сваім папярэднікам, будуць дэмакратамі, таму што так далей кіраваць краінай і раёнам больш нельга. Трэба штосьці перайначваць, трэба нешта зменьваць. Іх папярэднікі загубілі, знішчылі зямлю і раён, атруцілі гербіцыдамі і песцыцыдамі і яшчэ чорт разбярэ чым. Забілі зямлю на дзесяцігоддзі наперад. Забілі на карысць, у імя шчаслівага сёння і светлага заўтра, дасягнулі ўраджаю буракоў да тысячы цэнтнераў з гектара, да ста цэнтнераў – збожжа. Згвалцілі зямлю. І праз тое гвалтаванне пайшлі ўгору, узначалілі вобласць. Гвалтаўнікоў у нас любяць і ўшаноўваюць.

Ад забітай і згвалтаванай зямлі больш тут узяць не было чаго. Бізун ужо можна было выкідваць як непатрэбны, прыспеў час шукаць пернік і здзьмухваць з яго пыл. Мы пойдзем іншаю дарогай, вырашыла змененая ў раёне ўлада і абрала пернік і дэмакратыю. Але тут, як ужо гаварылася, крута змянілася ўсё вакол: дэмакратамі раптам сталі ўсе.

Дэмакратыя стала афіцыйна дазволенай, нават прымусова ўкаранёнай. Ды так, што пачала, трашчаць і хістацца сама сістэма. А сакратар праг быць дэмакратам іменна ў сістэме, у былой веры. Ён

ужо цвёрда адчуў пад нагамі лесвіцу, крочыў па ёй угару. І спадзяваўся, што выпеставаная ў яго душы дэмакратыя ў спалучэнні з маленькім бунтарствам на той лесвіцы, хістанне яе, толькі паскорыць узыходжанне: вышэй, вышэй, вышэй. Але аказалася, што і вышыня – прывід і падман. Трэба было спускацца ўніз, капаць і займаць акопы, пакуль іх яшчэ не заняла былая гвардыя. Трэба было развітацца з выпеставанай у душы дэмакратыяй, пакуль не позна кароткімі перабежкамі імкнуць у стан кансерватараў. Але лёгка сказаць, маладая душа супраціўлялася і пратэставала. А да ўсяго, раптам высветлілася, што ва ўсёй краіне няма чаго кансерваваць. Усё ўжо з'едзена яшчэ сырым. Пытанне аб вяршынях і светлай будучыні адпала. Невядома было, як па-новаму забіваць і гвалтаваць зямлю, якой веры класці паклоны.

Ён разгубіўся, але застаўся ў сваёй былой веры, таму што толькі там была яго будучыня, да якой ён ужо прыпаў. Застаўся верным, але пракляў спакусіўшага ў гэтую веру архангела-дэмакрата і перабудову. Пракляў і выракся яго назаўсёды, спадзеючыся на хуткае другое прышэсце старога Бога на яго запаветную зямлю.

Але і з гэтым праклёнам у душы вымушаны быў усё ж служыць архангелу Міхаілу, таму што іншых пакуль не відно было. І служыў яго духу, літары, чыху і ўздыху. То быў хлеб яго надзённы.

Але кожным сваім крокам і памкненнем ён зарабляў сабе хлеб і на заўтра, таму што з першага кроку цвёрда засвоіў першую і галоўную запаведзь: будучыня нараджаецца сёння, і раней, чым яна народзіцца, трэба і самому добра пакруціцца. І ён круціўся.

Слёзным дажджом пасля гучнасці перамог раптам пачалі капаць у залу ціхія словы сакратара:

– Толькі лянівы не б'е нас сёння, толькі нямы не ганьбіць паўсюдна. Нас называюць адміністрацыйна-каманднай сістэмай. Але я прыйшоў да вас не камандаваць, а прасіць узяць гэтае камандаванне на сябе. Рашаць самім, што будзе на вашай зямлі. Зямля належыць народу. Народ – гаспадар.– Апошнія словы ён вымавіў амаль шэптам.

– Што ён гаворыць, што ён сказаў,– зашамацела па ваце кухваек і воўне хустак.

– Ціха, правільна гаворыць,– пераклаў і агучыў шэпт сакратара старшыня калгаса. – Народ усяго на зямлі гаспадар.

– А-а, – зразумеў народ, ужо гатовы зноў да дрымоты. Але гэтага яму ў той вечар больш не дазволілі.

– Людзі, што вы за людзі, пра вас жа гаворка. Наш жа з вамі лёс вырашаецца, – улез зноў старшыня калгаса. – Такія людзі і так далёка

і доўга да вас ехалі. Думалі пра вас, ваш калгас, а вы?.. Ды прачніцеся. Заказнік тут хочуць у нас зрабіць. Дзяржава клапоціцца аб вас. І я заклінаю вас, я загадваю – паважайце дзяржаву.

Вось тады ўсё і пачалося. Не вытрымала, уздрыгнула і скаланулася падпёртае вясенняй перабудовачнай вадой балота, пачалі адчыняцца бяздонныя багнавыя ямы, з дрымотнага багуну чорным мужыцкім вокам зірнула дурманлівая ягада-дурніца – буяк. Праступілі вонку і набраклі жылы на мужыцкіх шыях. Нямыя загаварылі, сляпыя набылі зрок, глухія – слых.

– Гэта што ж, здаваць стрэльбы? Нам і паляваць тут больш нельга? Нельга і зайца стрэліць? – спытаў Толя Чорны.

– М-м-ммы,– замычэў нямы пастух.

Але яго супакоіў кулаком пад рабрыну Толя Белы:

– Рана яшчэ, дзед, не верашчы. Паслухаем, як дзяржава аб нас думае.

Дзяржава думала хораша, правільна і сур'ёзна. Кагановіч у агульным і цэлым ухваляў яе. Аказваецца, сам таго не падазраючы, ён жыў, як Адам у раі. Пашанцавала яму нарадзіцца менавіта тут. Думаў, глуш неверагодная, забыты Богам і людзьмі край, атрымлівалася ж зусім наадварот. Богам пазначаны, благаслаўлёны ён, яго лясы, рэкі і дубровы. Думаў, што, як усе людзі, проста ступае на зямлю. А гэтая зямля адметная, ледніковага паходжання. Бог нібы плугам прайшоўся па ёй. З той пары і захавалася ўсё тут. Ляднік – араты і плуг – быў літасцівы, захаваў яму кляновыя і ясянёвыя гаі, травы, малых казявак і гадаў паўзучых. Усё гэта унікальнае, рэліктавае, такое дрымотна-спрадвечнае, што аж дыханне перахоплівала. Каб ведаў раней, навучыўся б лятаць, не піў бы і не еў, святым духам жывіўся, не паганіў бы гэты свой рай. Ён жа і раней цьмяна, але здагадваўся, што жыве ў раі.

І зрэдзьчасу рабіўся відушчым, калі ішла чарада цвярозых і спакойных дзён. Зямля зачароўвала яго, засцерагала, прымушала збіцца з нагі. Праўда, такіх дзён было няшмат. Апошні надарыўся гады з два назад, калі не ўсе тры.

Спатрэбілася яму вясельца. Вясёлы ясянёк для весла, каб лодка сама бегла па вадзе, як сабака па следзе ліса. Пайшоў ён за ясяньком у Залужскі лес. І наскочыў на чорнага бусла. А мо наадварот, бусел наскочыў на яго. Чорны бусел – птушка неразгаданая, незразуметая чалавекам. Нейчы цень, што прыбіўся і заблукаў на зямлі, мо з іншай нават планеты трапіў у палескае балота. Ёсць у ім высокае, нябеснае – крылы і здольнасць лятаць, лунаць. Ёсць і зямное ганебна-нізкае, змяіна-паўзучае. Вытыркне з травы чорную, як галавешка, галаву –

гад паўзучы, і табе пекануць цікуе. Кожная сустрэча з ім знак і перасцярога нейкая чалавеку, і нечаканасць чалавеку.

Ідзе ён, чалавек, па старажытна-дрымучым лесе, па ледніковай зямлі, на дрэве ніводзін ліст не шалохнецца. Ціха спавіваюць яго ногі травы. Неба блакітнае і чыстае, што душа ў спакоі, халадзее і шчымліва пакутуе і радуецца сэрца. І раптам – жах, пачынае ныць цела, ірвецца сэрца і як вобручам сціскае галаву. Галава выбухае ад жахлівай невядомасці. Нічога ж і нікога вакол, тыя ж мяккія травы пад нагамі, тое ж чыстае неба над галавой. А на сэрцы журба, холад і боль. Міжволі скоса пачынае бегчы па баках вока. Вугальна чорны, застыглы цень б'е ў вочы з сіняга неба. І толькі тады, як пасля стрэлу, чуецца лапаценне распасцёртых крылаў і нібыта подых і павеў пекла сутэкнецца з тваім дыханнем. Мімаволі выдыхнецца: каб цябе чэрці ўзялі. Выбухне гнеў такі пякельна закарэлы, чорны, як гэтая зямля і дрэвы. І згодны ці не згодны, а павядуць цябе ногі за гэтым чорным ценем у небе, за неразгаданасцю і жахам, да сябе, ад сябе, у неба, вір і тое ж пекла.

Так павялі яны і Лазара. У нетравую патаемнасць лесу, у бураломную заваль, частакольную турэмную замкнёнасць ляшчыны і лёгкую завесь рабінніку, цьмянае серабрэнне старык і старыц, што заблудзіліся ў лесе, былі некалі рэкамі, а цяпер нема дакараюць тым рэкам. Даўно ўжо згубілася дарога і нават падабенства сцежкі. А ногі цяглі і цяглі. І ён выйшаў на кубло чорнага бусла, што чарназёмам завісла на вяршыні трох пазрастаных у адно ясеняў. Выйшаў і застыў, прырасла да яго рук сякера, з якой ён наладзіўся па той ясянёк яшчэ ўранні, а цяпер час быў і палуднаваць ужо.

– Прыгожа жывеш,– мовіў сам сабе Лазар, ахопліваючы вокам усё разам.– Акуратны, бач ты, да чаго ж акуратны, хоць і чорны, што чыгун.

Пад ясенем, каля кубла чорнага бусла, не ў прыклад кублу белых буслоў, нідзе ні слядка птушынага памёту, ніякіх іншых адыходаў яго жыцця і селішча. І Лазару зрабілася прыкра перад гняздом птушкі зараз, ды і ў жыцці сваім будзённым, вясковым быў ён зусім не такі акуратны, як чорны бусел. Папусціўся. Бацька яго ў такіх мазутных ботах і падранай кухвайцы не дазволіў бы сабе выпраўляцца ў лес.

– Ну і добра, ну і няхай,– крыху збянтэжана і прысаромлена, таму нязлосна загаварыў зноўку сам сабе Лазар і паклаў далонь левай рукі на ствол ясеня. Датыкнуўся да дрэва і нібыта ўвайшоў у тое дрэва. Убачыў дзве чорныя вугалінкі з гарачымі жывымі вачыма. Бусла ў гняздзе не было. Два агаркі, што толькі ўдзьмухалі ў сябе жыццё і цікаўнасць да яго, маладыя і брыдкія, як і старасць. Але ім ужо

спявала неба, усміхалася сонца, трымаў, як у калысцы, калыхаў ясень. Лазар палічыў, што падглядваць за зачаццем чужога жыцця няёмка, і адвёў руку са ствала дрэва. Перад ім стаяў прыдуманы ім і саснёны ў ранкавых дзіцячых снах ясянёк. Ён прыкмеціў яго яшчэ раней. І былое яго было прызначана і гэтаму ясяньку, і яшчэ тром званочкавым кветкам белага ландышу, што раслі побач з ім, каля яго ўзножжа. Ясянёк быў не высокі і не нізкі, не тоўсты і не тонкі, якраз як па мерцы на вяселльца. Цыбаты, гладкі, ласкавы. Два метры – ніводнага сучка. Тры ўзмахі сякеры, і ён ляжа каля яго ног. Каля яго ног з-пад лап трохгаловага бацькі-ясеня срэбрам тачылася крынічка. Крыху далей, па сцёку ўжо вады, тое срэбра ператваралася ў жалеза і кроў, трохлістая кісліца па абодва бакі ручая вохрава-крывавая, перасцярожлівая. І цішыня, цішыня навокал, як затоенасць прымружанага, засяроджанага на нечым сваім вока, таксама здавалася перасцерагальнай.

Але Лазар усё ж узняў сякеру. І нібыта прасёк цішыню, застыгласць і спакой, нібыта само вока тое вартаўнічае прасёк. Лазар пачуў крык. Крычаў ён сам, а здалося, што чорныя бусляняткі ў гняздзе ці ландышы зазванілі ў свае малюпасценькія званы, сама крынічка раптам начала галасіць, застагнаў і адвёў яго руку малады ясянёк. Нехта войкнуў за плячыма ў Лазара. Ён хацеў павярнуцца і паглядзець. Перанёс правую нагу. Перадумаў секчы ясянёк, але сякеры ўжо не здольны быў стрымаць. Яна ўзляцела і апусцілася, слізганула па маладой кары ясянька, абадрала яго, збяліла, як костку. А лязо сякеры ўвайшло ў правы бот Лазара, у насок збоку мезенца.

Адразу ж прасачылася скрозь прасёк бота, пацякла кроў. Лазар адкінуў сякеру і ад ясянька-сына на аднойназе нязграбна паскакаў да ясеня-бацькі, акрапляючы сваёй крывёю трохлістую зялёную кісліцу. Разуўся, размотаў набрынялую ад крыві анучу. На акрываўленую далоню яму ўпаў скурчаны і бездапаможны яго ж уласны мезенец. Брыдкі ў аддзеленасці ад іншых пальцаў і нагі. Лазар быў намерыўся закінуць яго куды далей, у кусты, у ляшчыну, але ўзняў руку і апусціў яе. Асцярожна паклаў палец на траву каля сябе. Заняўся нагой, спыніў кроў, перабінтаваў яе, як здолеў. Падняўся, узяў зноў сякеру. Сякерай каля старога ясеня, непадалёку ад крыніцы, высек дзярніну, сантыметраў на дваццаць, выкапаў у зямлі ямку. Адшморгнуў у алешыны самы лапушысты ліст, загарнуў у яго мезенец, як у саван. Умацаваў той саван, каб не разгортваўся, запалкай і апусціў у выкапаную ім ямку.

Прыкапаў, пахаваў. Пасядзеў каля жалобнай крынічкі, ля магілы свайго мезенца, выкурыў цыгарэціну, з курывам тады было

нармальна. І ён пасля першай адразу ж прыпаліў і другую, і трэцюю. І наважыўся, выстругаў зноў жа сякерай з голькі арэшыны крыж, паставіў на месцы пахавання мезенца. Распраміўся, узняў галаву, зірнуў у вока сонцу, яшчэ раз на развітанне аглядзеў чарназёмную кучу гнязда чорнага бусла:

– Ну вось, пабраталіся, парадніліся крывёй, акураціст. Да сустрэчы.

У крынічцы спаласнуў рукі, асвяжыў сцюдзёнай вадою спатнелы і бледны твар. І не азіраючыся пайшоў з лесу дамоў. Без вясельца, без ясянька для яго.

Без вясельца ён заставаўся ўсе гэтыя доўгія і няпэўныя гады, плаваў па рацэ з абломкам. Пра вясельца ён згадаў, калі ў мінулую зіму ў іх вясковым клубе зайшла гаворка пра тое, што варта тут утварыць заказнік, што дзяржава думае пра іх і клапоціцца. Кіраваць лодкай можна, канешне, і абломкам і палкай нейкай. Рэчка іх невялікая і не такая ўжо глыбокая, а ў апошнія гады і зусім абмялела. Але ўсё роўна сорам, ганьба здароваму мужыку, паляўнічаму і рыбаку абыходзіцца не вяслом, а дзеравячынай. Сярод жа лесу жыве. Захавае заказнік лес, ацалее ясянёк, будзе вясельца. Але толькі так ён падумаў, як заныў адсечаны і пахаваны пад ясенем-бацькам мезенец. Нібыта ён не адсякаў яго і не пахаваў, крыжа яму не ставіў.

Зала ўсхвалявана, глыбінна-глуха гула, мяркуючы, як бы не пакрыўдзіць дзяржаву і самім не прагадаць. Пасля сакратара райкама партыі заікалася ахова прыроды. Яе раённы старшыня з былых меліяратараў і старшынь калгаса, чалавек, які раней нішчыў усё тут, а цяпер вось ахоўнік. Лёс гуляе з чалавекамі, а партыя расстаўляе іх па месцах. Галоўны ахоўнік, значыцца, і галоўны браканьер. Але такіх людзей слухаць варта. Хто ж як не злодзей падкажа, як лепш украсці і засцерагчыся ад крадзяжу. І пэўна, дарэмна, дарэмна тым вечарам яму далі слова. Хаця, хто ведае, начальства нічога не робіць проста так. Далі, значыцца, было ў іх нешта наўме, мелася свая мэта: не заўсёды зразумелы ўсім іншым сэнс. І зала слухала ахову прыроды, імкнучыся больш спасцігнуць не тое, што выказвалася ёю гладка, а тое, перад чым яна заікалася. І шмат чаго з гэтага заікання ўцяміла. Адсечаны палец Лазара Кагановіча ныў і свярбеў, хоць ты разувайся.

Пасля аховы прыроды можна было ставіць і кропку. Але зала аднеслася з павагай, сабралася з духам і выслухала ўсіх, хто да іх прыехаў і пажадаў з імі гаварыць. Хаця нічога новага словамі сваімі яны не сказалі. Усё пра тыя ж самыя рэлікты, унікальнасць ды яшчэ чорт нагу зломіць пра што. Аб тым, з чым трэба есці іх зямлю, як

дыхаць і хадзіць па ёй. Усё правільна і пранікнёна, і з болем. Але ж боль той быў іх, хто жыў на гэтай зямлі. Застарэлы і закарэлы, непазбыўны і схаваны. Ціхмяны, пакорлівы боль жывых, але ўжо як бы і нябожчыкаў, жывымі пахаваных.

Цяпер жа іх ахопленыя тленам мошчы спрабавалі выцягнуць з зямлі і запісаць як святыя. Перашкаджалі спакойна спачываць нябожчыкам, датлець дашчэнту і развеяцца пылам на гэтай благаслаўлёнай зямлі. Пазбаўлялі апошняй зямной і райскай уцехі.

– Усё ясна,– даў выказацца апошняму выступальніку Толя Чорны.– Здавайце, хлопцы стрэльбы. Ні па ліса, ні па зайца больш нам не хадзіць.

– І ягады больш у лесе не збіраць, і грыба не падняць,– зажурылася, падтрымала яго сляпая Аўронця.– Бачу пустыню перад сабою, бачу пустыню, дзеткі мае мілыя.

– М-м-м,– зноў замычэў нямы пастух. Але на гэты раз зацята і пранізліва, так, што не вытрываў і падхапіўся сакратар райкама.

– На пытанні першых двух таварышаў я адкажу, магу адказаць. Але што пытаецца таварыш трэці? – гаварыў ён зноў гучна і перакрыў мыканне нямога пастуха з медалькам «За отвагу» паверх кухвайкі

— Не звяртайце ўвагі. Гэта ён так крычыць за радзіму, за Сталіна,– мармытнуў сам сабе, але так, што пачулі ўсе, Толя Белы.

Ад рогату, здалося, пачала хістацца і пайшла ўгару столь.

– Глядзі, і падсеў да грузіна. Са Сталіным сеў...

– Гога, супакой яго... Заткні яму глотку, а то зойдзецца...

Паплыла, пасвятлела ад усмешак зала. Смяялася сляпая Аўронця і глухі Марка, дзеці, што цішком пралезлі ў залу і пазашываліся па кутках. Смяяліся ўсе чатыры вёскі. І смех іх быў няўцешны. Адзін толькі Лазар быў сур'ёзны і пахмурны.

– Хопіць, не смешна,– заходзячыся ад рогату, грымнуў кулаком па стале старшыня калгаса.– Мы пытанне прыйшлі рашаць, а не смешкі ладзіць. Кіраўнікі дзяржавы прыйшлі да народа.

– Доўга ішлі... Якой дарогай раней хадзілі? Зарасла да нас дарога.– Яшчэ на хвалі рогату пачулася з залы. Але старшыня абсёк гаварыльшчыкаў:

– Дзе хадзілі – гэта іх справа. Мо ж не адзін у іх калгас. А нам трэба рашаць свае. Толькі нам, у нас дзве тысячы галоў буйной рагатай жывёлы...

– О, дзе пасвіць будзем пры заказніку, намучымся, – адгукнуліся з залы пастухі.

– У нас пад тысячу двароў, і ў кожным печ.

– Дзе дровы будзем браць, – выдыхнула ўжо ўся зала. – Да рэчкі не падысці, рыбіны не паймаць... Сена не ўкасіць.

– Але дзяржава, дзяржава, – пацёг быў зноў старшыня калгаса, ды яго перапыніла Дзева Марыя. Яна сядзела ў першых радах, адразу на двух крэслах, на адным не месцілася. І было ў ёй два жаночыя ці паўтара мужчынскіх росты. Рабіла даяркай. Аблепленая з усіх бакоў аднавяскоўцамі, яна паўстала як з мурашніку і, валячы крэслы і людзей, што сядзелі на іх і заміналі ёй, танкам рушыла на прэзідыум:

– Што ты, Аўгуст, пра буйную рагатую жывёлу і дзяржаву заладзіў...

– Дзева Марыя, Дзева Марыя, сядзь і супакойся, – не ведаючы, п'яная яна ці цвярозая, падняўся Ягор Дарожкін, ростам і вагою накшталт яе, адзіны ў зале, хто мог уціхамірыць яе і саўладаць з ёй.

– Я Дзева Марыя, я Дзева Марыя, але не супакоюся, пакуль не стану маці-гераіняй. Мяне сама дзяржава падахвочвае і брухаціць. Мужчыны ж няма, а я кожны год грубая.

Гэта была яе каронка, і па гэтых словах можна было меркаваць, што яна п'яная. Але, надзіва ўсім, Дзева Марыя тым вечарам не брала ў рот і кроплі. Аб чым яна адразу і паведаміла ўсім, а каб пацвердзіць гэта, яшчэ і дыхнула, хукнула ў твар Дарожкіну, і ён супакоена сеў.

– Цвярозая я, цвярозая, хоць усю жытку і п'яная. І за ўсе свае п'яныя гады хачу сёння адказ пачуць. Першы раз бачу ў адной кучы столькі начальства высокага. Толькі каторы з вас самы высокі, не разумею. Каторы з вас? Гэты ці той? – Яна тыцнула ўдойным пальцам у бок сакратара райкама і старшыні райвыканкама. Абодва адначасова панурыліся і апусцілі вочы, скоса зірнуўшы адзін на аднаго. І гэтак жа адначасова ўскінулі галавы. Дзева Марыя, шукаючы паміж іх галоўнага, на абодвух паківала пальцам. Але так і не знайшла. Яны ўсталі, у нечым вельмі падобныя адзін на аднаго. Аднаго росту, масці і хударлявасці. Але Дзеве Марыі нешта ў іх, напэўна, не спадабалася:

– А, абодва не па маім чэраве,– сказала яна, махнула рукой і павярнулася тварам да залы.

Але нібыта штосьці прыгадала раптам, стала зноў тварам да сакратара. Нацэліла той самы свой удойны і набраклы ад соляў палец, што выпнуўся на яе руцэ ўжо, не разгінаўся, як пытальнік.

– А я так на цябе спадзявалася. Я так табе верыла. Ты хоць помніш мяне?

Сакратар узняў галаву і, сама стараннасць і ўвага, утаропіўся ў Дзеву Марыю. Але наўрад ці ён бачыў яе. Твар яго застаўся замкнёна непранікальным.

– Не помніш,– сказала Дзева Марыя.– І не хочаш помніць. Я напомню. Я не гордая. Я да першага мужыка толькі была ганарлівая...

Усхапіўся старшыня калгаса. Але Дзева Марыя не дазволіла яму гаварыць.

– Вось, сакратар, як на судзе, старшыня – сведка. Ён хоць і старшыня, але не хлуслівы. Пацвердзі, Аўгуст, гэта ён разуў і раздзеў маіх дзяцей. Украў у іх паліто і баціначкі...

– Дзева Марыя, – усё ж паспеў перасцерагчы яе старшыня.

– Ну што, Дзева, ну што, Дзева. Дзева сваё дзела ведае і робіць. А ты напніся і ўспомні, якія боцікі, якія камбінезончыкі маім дзеткам даслалі з Канады...

– Браты нашы і сёстры ў Хрысце даслалі, – падала голас з глыбіні залы сляпая Аўроння.

– Вот іменна, браты і сёстры, гідра заморская пашкадавала. А ты, старшыня, а ты, сакратар, – улада наша зямная. А вы людзі – суседзі? Толя Чорны? Ты дзе, Чарненка? Дзе твая бандзіцкая чорная морда схавалася?

– Та людцы добрыя, абароньце і спыніце, што вона абзывае... Вош усяка дробна...

– Я вош, прызнаюся,– сказала Дзева Марыя, – толькі буйная, як наша буйная рагатая жывёла. Бог даў мне і памяць. А вас памяці пазбавіў... Як вы ўсім мірам і ад імя савецкай улады адбіралі ў маіх дзетак боцікі і камбінезончыкі, жвачку з рота выдзіралі, якія ж вы праведныя былі, якія ж савецкія. Дзеці мае, галодныя і халодныя, за тую жвачку радзіму прадалі. Маўчыце, не помніце?..

Зала помніла і таму маўчала. Нават Толя Чорны аціх.

Гэта адбылося тут жа, у клубе. І тады Толя Чорны крычаў і абураўся больш за ўсіх: – «Та цэ мы нішчыя, ці што? Та цэ мы не савецкія? Відобраць ці посылкі, а хто ўзяў іх – відселіць, відлучыць…»

Пасылкі ў вёску прыйшлі з-за мяжы, з-за акіяна, ад баптыстаў. І атрымалі іх баптысты. Баптысткай была старая Аўроння. А ўсе родзічы Толі Чорнага былі няверуючыя. З райкама і райвыканкама прыскочыла цэлая камісія. У клубе адбыўся суд над баптыстамі, што атрымалі пасылкі.

– Ганьба, таварышы, сорам, – гаварыў тады сакратар райкама.– У нас такая магутная савецкая дзяржава, перамагла, паставіла на калені фашызм. У нас савецкая ўлада – самая лепшая на свеце, самая гуманная. А мы бяром абноскі з чужых плеч. Што пра нас падумаюць, як на нас у свеце паглядзяць. Мы ж савецкія людзі. Падумайце толькі, таварышы...

Дзева Марыя тады падумала і гатова была скрозь зямлю

праваліцца, сорам браў і перад светам, а асабліва перад суседзямі і дзецьмі сваімі. І яна адразу пасля сходу таго аддала камісіі ўсё, што атрымала з-за акіяна. Камісія на чале з сакратаром зайшла ў яе хату паглядзець, што прыслалі браты і сёстры. Сакратар тады толькі прыступіў да сваёй пасады, зірнуў ён на дзіцячыя кідкія і яркія камбінезончыкі, што дрыготкімі рукамі трымала Дзева Марыя, і нічога не сказаў. Яна яго яшчэ запытала:

– Адсылаць?

Ён таксама моўчкі абабег вокам па хаце, па дзецях, што запытальна выстраіліся перад ім і маці і, сцяўшы губы, выйшаў за парог. Дзева Марыя зразумела гэта як бязмежнае асуджэнне і грэблівасць да таго, што яна ўчыніла. Гатова была аддаць не толькі дасланае, але і сваё. Толькі б не чапалі яе, не асірацілі дзяцей. Заходзячыся ад страху, здзерла боцікі з ног у дачок і камбінезончыкі з плеч. І цяпер яна пазбаўлялася ад тых далёкіх сваіх страхоццяў:

– Няма таго, у каго можна спытаць. Няма таго, каму можна сказаць. Няма чаго мне і казаць... Сама сабе, адна ўначы магу толькі думаць: дзе ты была, дзяржава, усе гэтыя гады, куды глядзела, аб кім пяклася і клапацілася, пакуль народ быў яшчэ жывы? Пакуль я яшчэ дзевай па совесці і чэсці была? Ты ж мяне і згвалціла, дзяржава.– І Дзева Марыя заплакала. Пад яе рост і камплекцыю слёзы, здавалася, павінны быць пад лясны арэх і ліцца ракой. Але яны, нечакана ўсім, беглі скупа і былі як раса на непагодны і хмурны дзень, дробненькія. Мо гэтым яна і працяла залу.

Дзеву Марыю ў калгасе добра ведалі. Нарадзіць шасцёра дзяцей, і без мужа, заўсёды без мужа, гэта ж не жартачкі. Калі так пойдзе далей, сапраўды стане Дзева Марыя маці-гераіняй. Калгас пасобіць. Такім жа чынам і ўсюды ў героі выходзяць: усім калгасам аруць, а на аднаго пішуць. Баба яна не без цара ў галаве, справу сваю ведае. Толькі занадта ўжо шмат у ёй жаночага, плоці, мяса і слоў. Але вось, бачаць усе, яшчэ і слёзы ёсць і можа сказаць ад сябе і за ўсіх і кожнага. Да чаго тут не прывыклі, таму што не па-людску гэта: на ўвесь свет выстаўляць раны і свой боль. Нехта, зразумела, і пашкадуе. Народ розны: цяжкі, лёгкі, спагадлівы і не вельмі. Адзін пашкадуе, другі ўсміхнецца, а трэці і нічога не скажа, але вока ў яго і сэрца такія, што лепей свой боль яму не паказваць.

І на тую хвіліну прэзідыум нібыта пакінуў сход. Начальнікава вока пайшло ў неабсяжную далечыню, у светлую, пэўна, будучыню, дзе такім дзевам няма месца, дзе ўсе дзевы і сапраўды – дзевы і дзіва. Выракліся яе мужчыны, што сядзелі ў зале, панура апусцілі галовы. Толькі жанчыны, і тыя з іх, што сядзелі ў паўзморку, пачалі шморгаць

і смаркацца ў хусткі.

– Не веру, не веру я табе, дзяржава, – высокім голасам папіянерску крычала Дзева Марыя. – Не веру тваёй дабрыні, літасцівасці і ласцы. Зверу – запаведнік, а людзям што? Хто салгаў толькі раз, ужо лжэ ўсё жыццё. Не верце ім, людзі, – трубна і не вельмі прыстойна высмаркалася ў прыпол плацця і слановымі нагамі, зносячы ўсё на сваім шляху, куляючы крэсла, мужчынападобная, груваcткая і нязграбная, што калгасны з'езджаны конь ці трактар, пайшла з клуба. Каля парога прыпынілася, галава вышэй вершніка, твар пад белай столлю што месяц на небе, і голасам, які, падобна, сыходзіў адтуль жа, з неба:

– Вымрам усе спакойна, па сваёй ахвоце і без аховы, як маманты паміралі. Але ў сваім і пры сваім лесе. Я першая супраць заказніка.

На гэтым сход можна было і спыняць. Але што ж гэта за калгас, калі ён не мае свайго калгаснага разумніка... Не адзіны такі разумнік знайшоўся і тут.

– Лес – наша багацце,– абвясціў магазіншчык, чалавек заможны і без таго лесу. А за ім паштальён, што начытаўся газет з сваёй сумкі:

– Беражыце прыроду, мацер вашу...

З тым жа, як па пісаным, выступіў настаўнік. Магазіншчыка і паштальёна далей першых слоў не пусцілі. Настаўніка слухалі да канца, але па тым, што адразу ўсчалося тут, нібы і не чулі, нібыта ён нічога і не гаварыў і не было яго тут зусім.

– Бачу пустыню, бачу пустыню,– шаптала і дробна хрысцілася сляпая Аўронля, маці Дзевы Марыі. Як карова, мыкаў нямы пастух. Галасілі, глушачы і тых, хто меў слых, глухія. Разам з народам былі Сталін і Берыя. Санлівым голасам адсечанага мезенца лямантаваў Лазар Кагановіч. Не патрэбны, не патрэбны яго ясяньку дзяржаўны клопат. Мо ён тады і захаваецца. Расце лес – хай расце. Не дай яму бог зведаць клопат зверху. Пачнуць клапаціцца – вынішчаць, звядуць усё да апошняга дрэва. Гэта ўжо праверана і даказана і наперад прадпісана. У дзяржавы рука цяжкая. Яна не разбіраецца і азірацца не звыкла, можа адсекчы не толькі мезенец, але і ўсю нагу і галаву знесці. А так ясянёк расце ў яго лесе. З яго яшчэ атрымаецца добрае вясельца, а то і два. За гэты час ён павінен ужо быў увабрацца ў сілу, набрацць і вышыні, і таўшчыні.

У кожнага з чатырох вёсак знайшоўся ў лесе свой ясянёк, дубок, бяроза і лазовы кусток, з якога адзін дзёр лыка, другі насіў бярозавік, трэці ладзіў вясельца, а бабы і дзеці збіралі ягады, падымалі грыб. Не ведаючы забароны, пасвілася і сыцілася свая і калгасная жывёла. І народ не дазволіў адлучыць сябе ад лесу. Не згадзіўся даць дабро на

заказнік. Не даверыў дзяржаве самае апошняе і запаветнае, што ў яго ад дзядоў яшчэ захавалася. Не паверыў дзяржаве. Хай будзе з тым лесам, што на родзе яго наканавана: згарэць дык згарэць, упасці і згніць дык згніць. Яны застануцца з ім і пад ім назаўсёды. Сам Бог падараваў ім гэта, кінуў у іх воды дрэва, і зрабіліся тыя воды салодкімі ім.

Агульны сход калгаснікаў «Верны шлях», жыхары ўсіх чатырох яго вёсак, як запісалі ў пратаколе, аднадушна прагаласавалі супраць заказніка. Абаранілі свой лес. Перамаглі і разгубіліся. Аглухлі ад цішыні і міру і як папрырасталі да крэслаў, нібыта разыходзіцца ім трэба было не па сваіх хатах, а немаведама куды. І яны прыселі перад далёкай дарогай, каб лёгкай яна была і шчаслівай.

Прыклад і каманду разыходзіцца падаў прэзідыум. Але і тут, калі начальства было ўжо на нагах і пачала разварушвацца зала, выйшла затрымка. Падняліся і крочылі да прэзідыума трое вясковых разумнікаў: настаўнік, магазіншчык і паштальён, каторыя, паколькі рашэнне было аднадушным, ні за, ні супраць не галасавалі.

– Просьба ў нас такая і наказ,– сказаў настаўнік, звяртаючыся да сакратара райкама і старшыні райвыканкама.– Абодва вы кандыдаты ў дэпутаты, і мы даем вам наказ, калі ўжо з заказнікам аднадушна: каб стаяў наш лес, каб не лез у яго лесправгас.

Наказ быў прыняты ўжо ў густых клубах тытунёвага дыму. Народ пакідаў залу. Мужчыны, раней чым выйсці на вуліцу, хапаліся закурыць, а перад тым, як крочыць у цемру, на парозе ўжо, і зацягнуцца. Дым поўз у залу хвалямі і ахутваў яе. У тым дыме, як на полі бітвы, стаяў прэзідыум і чакаў, калі дадуць дарогу і яму.

– Правільны ў нас народ, – гледзячы ў плечы мужыкоў, гаварыў старшыні калгаса сакратар райкама. Залаты ў нас народ, як разумее генеральную нашу лінію. Атрымаеш новы трактар. Заўсёды трэба ісці не да крыкуноў і пісак, а да народа, раіцца з народам.

А народ, мужчыны і жанчыны, нехапатліва пакінуўшы клуб, адразу ж прыпускалі бягом. Разыходзілісся па адным, адчужаныя і маўклівыя, нібыта ніколі не ведалі адно аднаго. Крадком, навобмацак брылі да сваіх прытоеных уначы хат. Лянiва, нібыта баяліся нечага ці саромеліся, брахалі сабакі, раўла не кормленая ў той вечар жывёла.

– Слухай, дзіцятка, слухай. Здарылася гэта ў той старажытны час, калі Бог толькі сатварыў зямлю, а чалавека на ёй яшчэ не было. Не было на зямлі і зла. А толькі белыя-белыя птушкі сярод белага божага свету. Радасць такая бясконцая. Не пакідала сонейка неба, ўгравала зямлю і свяціла птушкам, лашчыла іх і песціла. І ад той ласкі нябеснай пачалі расці ў іх крылы. Крылы ў птушак паявіліся не адразу. Спа-

чатку былі так, абрубачкі нейкія, рукі не рукі, крылы не крылы. Намёк адзін. І сёння яшчэ на зямлі з таго далёкага часу захаваліся птушкі з тым намёкам. Як піянерчыкі, ходзяць па зямлі між людзьмі і птушкамі і ні да каго прыбіцца не могуць. Не могуць разгадаць намёку.

А вялікае мноства, амаль усе птушкі, разгадалі намёк. Не ленаваліся трывожыць яго і думаць. І сонейка ім дапамагло. Угрэла яно іх, і пачаў той намёк, добру маладцу ўрок, расці, аказваць сябе. Ходзяць яны па зямлі і на сонейка пазіраюць. Кожын раз, як зірнуць на яго, абрубачкі іх і ўвастануць. Птушкі імі як у ладкі білі, віталі так сонейка: дзень добры табе. Гэта ў птушак і сёння засталося. Бусел наш не проста так буслянку ладзіць на самай макаўцы дуба: каб сонейка першым бачыць. Толькі яно тварык свой з-за лесу і краін заморскіх пакажа, а бусел ужо на нагах і ў скокі кідаецца. Кожын Божы дзень танцуе бусел на світанку ў сваім кубле і крыламі белымі махае: «Дзякуй, дзякуй», – кажа. Галоўкай ківае і дзюбкай ахаладалай за ноч да сонейка цягнецца.

І іншыя птушкі тое ж самае. Прывычка, завядзёнка такая ў іх з дзедаўскага часу яшчэ.

– Бабо, бабо, а якія птушкі нарадзіліся, розныя ці адны? Якія птушкі нарадзіліся на нашай зямлі?

– Розныя, дзіцятко, усюды розныя. Свет жа вялікі, і яго розніць і красіць трэба. Але на нашай зямлі спачатку адны птушкі былі. Буслы. Белыя, белыя, як кужаль на ржышчы па першым марозе.

– І дзюбка белая, і хвосцік белы, і ножкі таксама белыя?

– Так, дзіцятко, і душа. Усё белае. Гэта потым доля наша горкая намяшала і чырвонага і чорнага. А спачатку ўсё белае было, як у катка твайго грудка, святыя белыя птушкі вольна хадзілі па нашай зямлі з даўняй пары і па сённяшні дзень. Ад першага бусла, які і паклаў пачатак усяму нашаму буслінаму роду-племені. Быў ён на нагу лёгкі, вокам востры і розумам скоры. А што прыгожы ўжо – ні пяром апісаць, ні словамі перадаць. Усе буслы белыя, а ён аж бялюткі. Усім дадзены былі белыя світкі, толькі ён сваю яшчэ і насіць умеў. Усё акуратна ў яго было. І дзюбка, і галоўка, і перайка к перайку. І чужое вока на ім адпачывала.

Мо праз вока тое Божае, праз сонейка ён упершыню і адчуў намёк. Пазначыла, зірнула сонейка на яго і павяло. Ён страпянуўся ўвесь. Ажывеў, самі сабой узняліся, ускінуліся ў неба абрубачкі. І пацягло, пацягло іх неба і сонейка, выпрастала. Ён узмахнуў імі, наструніўся, да гэтага толькі хадзіў па зямлі, а тут пабег з падскокам і падлётам. І ўсе іншыя буслы, ведама, калі адзін пабег, то яны стаяць

не будуць, за ім памкнулі. Бягуць, абрубачкамі памахваюць, ад зямлі наравяць адарвацца. А зямля не пускае. Невялічка пясчынка, што да лапкі наліпла, а трымае, былінка маленькая, а з нагі збівае. І сонейка то звала, падымала, а то засціць і сляпіць пачало. Усе яны дзюбкамі ў зямлю і ўтыркнуліся. Адзіны толькі бусел устояў.Ківаў сонейку абрубачкам, дакараў перайкам. Але і ён доўга не вытрымаў, упаў ды яшчэ і праз галаву перакуліўся, пашкодзіў перайка сваё дакорлівае. Праўду на свеце кажуць: карай, карай, ды не забывай – каго. Вось сонейка і пакарала яго.

Толькі кара тая на карысць нашаму буслу абярнулася. Пашкодзіў ён перайка моцна. Рана там, адкуль перайка расло, адкрылася. І на сэрцы прастрэльная рана, крыўдаванне, што прывязалі яго да зямлі. Нямілай яму зрабілася зямля. Ходзіць ён па ёй, корміцца, а глядзець на яе не хоча, як на мачыху, скоса пазірае. Сонейка, хоць і няласкава з ім абышлося, паманіла і раніла, павяло і абзямлячыла, а ўсё роўна хочацца буслу бліжэй да яго. Забыўся ён на сваю рану. Як убачыць ці ўспомніць сонейка, так адразу з усіх ног да яго. Цела плача і стогне, а душа рвецца, цесна ёй на зямлі. А крылляў няма, як былі абрубачкі, так і засталіся. Толькі брыдкімі зрабіліся, у струпах, крывí. І сонца, здавалася, вока сваё ад яго адвяло. То адпачывала на ім, а цяпер нос верне. Адвярнуліся і іншыя птушкі ад яго. Панятна, боль, ён яшчэ і пахне. Непрыгожа пахне. Зайдзі ў бедную хату, доўга не вытрываеш, на вуліцу, да свежага ветру прасіцца пачнеш. Верныя сябры і сяброўкі пакінулі яго.

А буслу няймецца. Кожны Божы дзень знае сваё: адплюшчыць вочы і за сонейкам. Сонейка ад яго, а ён за ім. І гэтак не адзін дзень, год і не адзін век. Іншы б змогся, а ён не, толькі сваё вярэдзіць. І буслы, што засталіся вернымі яму, тое ж самае: бягуць і падаюць, бягуць і падаюць. Натрудзілі абрубачкі свае да мазалёў. І ўжо не абрубачкі то былі. Уга, як прарос іх боль, як аперыўся.

І надышоў дзень, не з самых лепшых, здаецца, таму што ў той дзень бусел быў галодны. Есці ён адмовіўся ўжо даўно. Адварочвала яго ад ежы. Высах ён, што трэска. Смерць прызывала яго да сябе. І як па смерць пайшоў ён у белых сваіх світках у чыстае поле. Павёў белых буслоў, каторыя яшчэ не кінулі яго. Сталі яны ў полі, засеялі ад краю да краю. Смерці была вялікая пажыва. І цень яе чорны пачаў ужо засціць ім вочы. Смерць развяла рукі, каб прыняць іх, і голас падала, куды ісці. Але толькі бусел, мо на галодны свой жывот, не пачуў. Пабег, паплыў пад ім пясок, пацягліся за ім травы, былінка маленькая ўплялася ў пер'е. Дасягнуў краю поля і зямлі. Па ўсім, трэба было ўжо буслу падаць, перакульвацца, скручваючы шыю і губляючы пер'е. І

здалося яму, што ён ужо ўпаў, ногі згубілі зямлю, пясчынка маленькая адпала, адсталі травы, знесла ветрам былінку чорную. Бусел праваліўся ў неба. Ён ляцеў. Зямля падкінула яго ў неба, абрубачкі падтрымалі, яны пераўтварыліся ўжо ў крылы. Сонейка пайшло насустрач буслу. І тады ён заспяваў. А разам з ім пачала спяваць і ўся чарада.

Вох, дзіцятка маё, каб ты толькі чула, як ён спяваў. Птушкі райскія так сёння не спяваюць. Анёлы на небе і тыя так няздольны. Ведама, першая на зямлі песня. Да гэтай пары зямля хоць і гожая, а ўсё роўна калечка, нямая. А тут у яе голас прарэзаўся, падала яна голас, мовіць нешта здолела. Над святой зямлёю ляцелі святыя белыя птушкі і спявалі святую белую песню.

–Я ведаю, я ведаю, бабо, якую яны песню спявалі: «Миллион, миллион белых роз...»

– Дзіцятка ты маё белае, які мільён, якія ружы. Мільён руж, мільён рублёў... Гэта ўжо сілас, гной, а не ружы і рублі. Рубель – вось гэта грошы. Адна ружа – кветка. Я ж табе казала: было гэта даўно, і зямля наша яшчэ не ведала дураты і распусты. Свет наш так пастроены, што спачатку адно толькі дабро, а потым ужо блажым. Зусім іншую песню спявалі буслы.

– Буслы спявалі? Вось я цябе і падлавіла, бабоўка ты мая. Буслы ж не пяюць!

– Як не пяюць, як не пяюць? Гэта хто ж табе такое сказаў?

– Ну, бабо ты мая, усе гавораць. Усе ведаюць...

– А ты вельмі ўсіх слухай. А пачала слухаць – вер, але і сумнявайся. Усё дурань толькі ведае. Што бачыць вокам, што чуе вухам – тое і ведае. А жыццё ні вокам, ні вухам не адгадаеш. Спрэс, паўсюдна і побач збываецца не тое, што можаш, а тое, чаго прагнеш. Вось праглі буслы лятаць, а крыллдў не мелі, толькі намёк адзіны. А яны ўсё роўна паляцелі, таму што так хацелі, што аж каналі. І з чалавекам тое ж самае. Намёк яму да ўсяго прыкладзены. І ўсё, чаго ён толькі не пажадае, збудзецца. На тое яму і хаценне дадзена... Але ў адным яно маленькае, з камарыны піск. Сноўдае ён па зямлі, свярбіць яму, а што – не разумее.

А ў другім вось такое, як у бусла нашага. Спяваў ён, дзіцятка маё, спяваў, тае першае раніцы свайго жыцця ён спяваў. Ды яшчэ як, птушка ж наша вялікая, вольная. Неба ўгінаецца, калі ён ляціць, травы ніц сцелюцца. Зямля з нагі збіваецца, варта беламу буслу песню сваю заспяваць. Гэта потым ён ужо замоўк, пазней, пакрыўдзіўся, калі яго раздзялілі на дзве палавінкі і адну адлучылі ад другой. Нам, таксама сваёй палавінцы, перадаў сваю песню, а сабе пакінуў толькі стогн-клёкат. Так і мы, старыя, пакідаем усё на гэтым

свеце вам, табе, дзіцятка, а самі стогнем і клякочам. А была, была ў нас песня.

Узышло, разгарэлася на небе сонейка, крыху ўгрэла зямлю. Павярнуўся да яго і абсох вусам колас, паскакалі жабкі да вады, мышкі – у норку. А мы, бабы, сталі ў загон. Поле перад намі жытнае, шырокае. Хустачкі на галаве ў нас белыя, сярпы ў руках спорыя і вострыя. Зірнулі мы на сонейка, умацаваліся на зямлі і пайшлі класці паклоны полю, з жытным коласам цалавацца і мілавацца, бяседу весці. Адна перад адной любыя і ўсе навыперадкі. Жнем, снапы вяжам і, як мужыкоў, на полі ставім. І стаяць яны, рукі ў брукі, падперазаныя, за намі цікуюць і пасміхваюцца. А мы і пра сонейка ўжо забыліся, паясніца колам, рукі што граблі, пот наш, а то і кроў на ржышчы. Голасу адна адной азвацца няма, языкі што дручкі, пазападалі. Зямля, зямля, як жаба парэпаная, перад вачыма, і ногі нашы босыя і чырвоныя, як яны выстойваюць, трымаюць нас – адзін Бог ведае, і здаецца, што ўжо ўсё. Нага больш не ступае, рука не падымаецца, гізунты ўсе выперла. І тут як ветрыкам на цябе раптам павяваць пачало:

*Ой, не ляжы, ветру, ў полі,*
*Паміж горачак у разоры.*
*Ды ўстань, ветру, памаленьку,*
*Павей, ветрык, паціхеньку...*

То сама ты, не памятаючы сябе, тым ветрыкам зрабілася. Заспявала, асвяжыла душу. І колас жытны мне падпявае:

*Ой, я маладзенька, дын жыта жала.*
*Ой, маладзенька, дый жыта жала.*
*Ой, жала, жала дый шчыравала...*

Спявае мой серп, спявае шырокае жытнае поле ў белай хустачцы, спявае зямля. Я зноў на свет нарадзілася...

– Вой, бабо, не нарадзілася ты, а збілася. Расказвала пра бусла, а сама заблудзілася ў жыце.

– Нічога я не збілася і не заблудзілася, дзіцятка мае.

Пра бусла і яго песню расказвала табе, пра гэта і далей вяду. Вось такая была ў нашага бусла песня. І як ён спяваў, дай табе Божа пачуць.

– Ты працягвай, працягвай, бабо, я пачую.

– Які твой век, канешне, пачуеш. На тое ў цябе і вушкі.

– І намёк, бабо.

– І намёк, дзіцятко. А бусел твой нарадзіўся і лятае з песняй. Але толькі каб ведала ты, калі ёсць на свеце шчасце, то побач з ім у абдымку ходзіць і гора. Ёсць песня – ёсць і плач. З песні той плач

пачаўся.

Спазналі птушкі песню, дамагліся языка і голасу. Было ім хараша, а стала яшчэ лепш. Удзень і ўначы стаяла ў небе, як пастыр, пасвіла статкі свае сонейка. А птушкі божыя ўслаўлялі і спявалі яму песню. Той песняй, чыстай і вясёлай, крыламі сваімі белымі рухалі, вярцелі зямлю. Зямля таксама не адразу вярцецца пачала, не адразу круглай зрабілася. Ведама, сатворана, зроблена рукамі, хоць і Божымі, а падпраўляць трэба.

Вось птушкі і падпраўлялі. Прымусілі зямлю кружыцца. А круглай яна зрабілася ўжо ад кружэння, ад работы, што здадзена была ёй птушкамі. Тут ужо як з колам тым атрымліваецца. Прыблізна, на вока сваё, зрабіў яго чалавек. І, здаецца, не ўсюды кругла. Але стаў яго ў воз і ў каляіну, у дарогу. Дарога выправіць. Акругліць. Так вось і з зямлёй было. Узышло сонейка, замахалі крыламі птушкі, загучала песня, пайшла яна ў работу, асвяцілася і ўгрэлася. І сонейку весялей.

Бог сатварыў зямлю. Зямля нарадзіла птушак. Птушкі нарадзілі песню і ветрык. І так усюды, па ўсёй белай зямлі. І было хараша. Але не скажу, як на тым, а на белым свеце заўсёды і паўсюдна хараша – гэта нішто. Карціць, каб было яшчэ лепей. І пайшлі паміж птушкамі сваркі, пачаўся разлад з-за таго хараша і лепей. У каго нос больш доўгі, у каго хвост больш прыгожы. Дайшло да таго, што пачалі песню дзяліць.

Бусел, што першы падняўся ў неба і першы заспяваў, да дзяльбы песні мірыў іх і разводзіў. А тут не вытрымаў ці таксама заганарыўся. Зло, яно ліпкае. І на свеце так ужо заведзена: калі хочаш, каб штось у цябе звялося, пачні дзяліць. Раздзялі на ўсіх пароўну. І ўсе ў адзін дзень прачнуцца голымі, таму што шчасце не дзеліцца. Ёсць дык ёсць, а няма, даруй Бог.

Прыйшлі да нашага бусла два буслы і кажуць:

– Я спяваю лепей, – адзін.

– Не, – не згодны другі. – Гэта я спяваю лепей.

– Да абодва вы хараша спяваеце,– адказвае ім наш бусел.

– А я ўсё роўна лепей.

– Не, гэта я лепей...

Тады наш усердзіўся і кажа:

– Хопіць, надакучыла. Абодва вы добра спяваеце. Толькі лепей за ўсіх спяваю я сам. І ідзіце вы прэч ад мяне. Згіньце.

Але яны не згінулі, а аб'ядналіся і пачалі патрабаваць, каб ён падзяліўся з імі песняй і голасам.

– Дзялюся, – адказаў ім бусел з усмешкай. – Бярыце, нясіце, колькі хто з вас здолее.

Тут і іншыя буслы наскочылі, пачалі патрабаваць сваю долю. А доля бусліная адна і песня адна. Сапсавалі песню буслы галасамі злоснымі і брыдкімі, загубілі. Усе адзін супраць другога вайной пайшлі. Злоснасць скавала голас. Адно толькі і ўмеюць – галасіць і клекатаць.

Памерла песня, спыніла сваё кружэнне зямля, адкаснулася ад іх сонейка. Пайшло далёка-далёка, за высокія горы, чорныя долы і сіняе мора. І глад і мор напаў на зямлю і буслоў. Апрытомнелі яны, толькі позна ўжо. Песня, калі злоснасць не засціла ім больш вочы, была яшчэ ў іх жывая. Але мароз скаваў ім горла, не дазволіў спяваць. Толькі ў першага бусла, як у больш дужага, захаваўся яшчэ крыху голас. Але чарада прагнала яго. Навошта, калі ўсе знямелі, нехта адзін з голасам. Няроўна атрымлівалася. А яшчэ і за ганарыстасць прагнала, чаму не папярэдзіў, чаму, калі дадзена яму было, не збярог песню.

Прагналі са сваёй чарады буслы першага. І зрабіліся першыя апошнімі. І падНялі апошнія чараду ў неба. І павялі яе да цяпла і сонца, што выраклася іх. Крыллі ў буслоў яшчэ захаваліся. Пайшлі на крыллях, наўздагон за сонцам. Спадзяваліся, што на краі зямлі дасягнуць яго і зноў здабудуць песню і голас.

А бусел застаўся адзін на пакінутай усімі белай, але цяпер пад снегам ужо зямлі. Адзінюткі, як перст у чыстым белым полі. Няма дзе і няма да каго і галаву прытуліць. І тады ён заспяваў. Вох, як ён спяваў. Не прывядзі Гасподзь, дзіцятка, пачуць тую яго песню.

То была яго апошняя песня. Ён маліў чараду вярнуцца і пачаць усё спачатку. Успамінаў пачатак, боль і кроў, што выпалі на іх долю на гэтай зямлі. І хоць нялаcкавая яна цяпер да іх, халодная і галодная, яна ўсё ж іх. Нельга, нельга яе пакідаць. Але пачуў гэты яго заклік адзін толькі бусел. Вярнуўся, стары і зняможаны. Сеў на скамянелую зямлю і адразу ж памёр на ёй. А чарада пайшла сваёй дарогай.

То была, пэўна, і першая смерць на зямлі. Бусел апеў яе, апеў канчыну свайго брата. І пайшоў па чыстым белым полі насустрач сваёй смерці...

– Таксама памёр?

– Не, дзіцятка маё, не. Не да кожнага, хто шукае смерці, яна прыходзіць. Суджаны былі нашаму буслу і ўсяму яго роду яшчэ вялікія пакуты і мучэнні. Але пра тое я табе паведаю заўтра. Заўтра, дзіцятка маё.

– А я хачу сёння. Сёння, бабо.

– Не, Марэйка, не. Вось і Янка падпоўз, слухаць хоча, ды знямог, заснуў. І Андрэйчык з Ягорам, чую, пазяхаюць. Пара спаць Клаўцы і Зіне. Спі спакойна. Ноч на дварэ. І буслік наш ужо спіць. Калі моцна

захочаш, ён прыйдзе да цябе ноччу і дакажа ўсё, што з ім было. І мне ўжо час. Дагляджу да канца яшчэ адну ночку сваю казань.

– Як жа ты даглядзіш, бабо, ты ж сляпая?

– Дагляджу, дагляджу, дзіцятка, душа і без вачэй празарлівая.

– А не забудзеш за ноч, не прыспіш?

– Не прысплю, не забуду. Калі прачнуся. Жыццё сваё не забываюць. Спі...

– Бабо, а бусел... А буська... А...

– І буська таксама спіць. Але ўранку ён прачнецца. Заўтра...

Аўгуст Серада быў вар'ятам. Зусім нармальны сёння калгасны вар'ят. Ён ехаў на сустрэчу і перагаворы з НЛА. Паўнамоцны прадстаўнік зямлі, а праўдзівей, калгаса «Верны шлях» пры першым кантакце з іншапланецянамі. І апрануты ён быў адпаведна сваёй высокай місіі. Касцюм на ім нейтральнага дыпламатычнага тону, шэры ў палоску. Апошні ў яго вялікім гардэробе. Туфелькі-лакіраванкі, з выхадных таксама апошнія, з заганай, праўда, але загана тая нябачна простаму воку зямляніна, калі не вельмі высока падцягваць штаны. Заднікі лопнулі. Абуваючы туфлі, Аўгуст меркаваў, што для іншапланецян падыдуць. Лакіраваныя ж. А што да трэшчыны, то няхай думаюць, што ў зямлян такая мода. Хай глядзяць лепш на гальштук. Гальштук у яго што трэба, на нагах не ўстоіш, яшчэ з часоў студэнцтва, з рудымі пальмамі і чорнымі папуасамі, і сам ён крыху папуас, зялёны ў крапінку. Другія суткі не спіць.

Можна было выспацца сёння, але які калгасны вар'ят спіць вясной, калі сонца ўжо ўзышло. І вельмі ж карцела яму сустрэцца з тым НЛА, паціснуць яго перапончатую лапу, зазірнуць у сферычныя вочы і сказаць...

Вось што сказаць, ён не ведаў. Хіба толькі гэта: вось табе, даражэнькі, ключы ад сейфа і калгасная пячатка, бяры і валодай намі. Запісвайся ў наш калгас, мо тады з тваёй дапамогаю і іншапланетнай літасцю і мы ў людзі выйдзем. Аддаць ключы і пячатку, а самому пайсці, легчы і адаспацца ў анабіёзным, на цэлы тыдзень, сне.

Гэта ўсё, канешне, жарт, але, як кажуць, у кожным жарце... І ў НЛА ён верыў, трэба ж чалавеку інтэлігентнаму, кіруючаму ў нешта верыць і на штосьці спадзявацца. А іншапланецяне даўно ўжо кружаць над яго зямлёй, па-над зямлёй калгаса «Верны шлях». Прыглядаюцца, мо і чакаюць, калі ўсе яны тут памруць, каб самім заняць зямлю. Гасподзь Бог, кажуць, пасля Чарнобыля палюбіў Беларусь і беларусаў. І яны павінны першымі пакінуць гэты свет.

Але іншапланецяне на іх вока яшчэ да Чарнобыля паклалі. Яшчэ

да Чарнобыля Аўгуст Серада быў блізкі да таго, каб сустрэцца з імі. Ён з сябрам дзяцінства, маёрам, каторы служыў у нейкім звышсакрэтным войску недзе ў Казахстане, сядзелі на ганку яго хаты і пад камарыны звон і дрыжэнне зорак на небе пілі гарэлку, карчоўку. Як нечакана, амаль над імі, недзе на краі вёскі ўспыхнула зарыва. Глыбока ўначы зрабілася светла, як удзень. Светла і вельмі трывожна. Па ўсёй вёсцы прачнуліся і пачалі злосна брахаць сабакі. Спалохана зараўла жывёла. Прыпалі да зямлі і пачалі хавацца ў стрэхах хат кажаны.

– Ну вось, яны ўжо тут,– сказаў сябра-маёр, куляючы чарку.

– Хто ўжо тут? – здзівіўся Аўгуст.

– Лятаючыя талеркі,– маёр цвяроза і нядобра мружыў вочы, глядзеў на неба як скрозь планку прыцэлу. І свежы, толькі што з грады агурок у яго руцэ быў нібы патрон ці граната. Аўгуст адчуў зябкасць, цела, як у таго гурка, пайшло пухіркамі.

– Не падобна,– сказаў ён,– не падобна на лятаючую талерку, тут хутчэй бляха. Начоўкі лятаючыя.

– А ім усё роўна. Яны здольны набыць якую хочаш форму. Важна не форма, а змест.

– Хто ж яны такія, што за змест? Амерыканцы?

– Мо і амерыканцы. Сакрэтная нейкая іх зброя. Але хутчэй за ўсё іншапланецяне.

– Слухай, слухай, ты ж ваенны чалавек, маёр...

– Вось таму толькі табе па сакрэту магу сказаць, што гэта ці сакрэтная амерыканская зброя супраць нас, ці іншапланецяне. Стратэгічныя аб'екты ў акрузе ёсць?

– Мае кароўнікі... Ну і супрацьракетны пояс,– выдаў ваенную тайну Аўгуст, але не вельмі турбуючыся гэтым, таму што перад ім сядзеў чалавек таксама ваенны.

– Налівай,– падаў каманду маёр, – я так адразу і падумаў. Яны заўсёды з'яўляюцца там, дзе нешта ёсць. Табе як сябру скажу: мы страляем па іх, але атрымліваецца, што па сабе. Па сабе вядзем агонь. Заўсёды гіне чамусьці той, хто стрэліў.

– Дык мо не варта гэтага рабіць? Мо не трэба страляць першымі? – асцярожна спытаўся Аўгуст.

– Як? Як гэта не страляць? А бяспека краіны, бяспека народа і ўсяго чалавецтва?.. У, нячыстая сіла, – маёр паказаў кулак начоўкам, што нерухома завіслі ў небе над імі. І яны хіснуліся і паплылі. Зарыва знікла, святло патухла. Зноў над зямлёю ўладарыла ноч, пазвоньвалі ў цемры камары і падміргвалі з неба зоркі. І паступова адступаў з душы страх, цяплела на сэрцы.

Такая вось была першая сустрэча Аўгуста з НЛА. Сустрэча, пра якую ён міжволі помніў і шмат думаў, мо прышэльцам проста карцела выпіць. Прыляцелі на чарку карчоўкі ў калгас «Верны шлях», намерыліся зайсці да яго, старшыні калгаса, а сябар-маёр іх прагнаў. Ваенны ёсць ваенны, яму больш зручнае неба ў генеральскіх лампасах, неба ў агні артылерыйскіх выбухаў, зоркі на пагонах, а не на небе. Маёры заўсёды ўсё псуюць, і дзевак, і космас, і зямлю асабліва, калі дацягваюцца да палкоўнікаў. Яны на ўсё згодныя і здольныя. Але ў гэтай краіне ўсё ж лепш быць вар'ятам-маёрам, чымсьці старшынёй калгаса.

Тут Аўгуст, канешне, крыху перабольшваў. Ён проста зайздросціў свайму сябру-маёру, каторы з'ехаў адсюль і даслужыўся да маёра, а ён застаўся, і яго зрабілі старшынёй калгаса. І ён міжволі звар'яцеў, таму што, жывучы ў калгасе «Верны шлях», захавацца немагчыма. Не хочаш быць вар'ятам – прымусяць, не ўмееш – навучаць, не можаш – пакажуць, і толькі так, і толькі так. Але нешта ўсё ж было ў той вечар, нешта здарылася на зямлі, калі ён сядзеў з сябрам і піў карчоўку. Як брахалі ж сабакі, як раўла жывёла, як спалохана шыліся ў стрэхі кажаны, а галоўнае, незабыўна тое адчуванне холаду паміж лапатак, прыгнечанасці, а потым палёгкі. Трывожная лёгкасць чакання незвычайнага, што захапіла і паглынула яго, як гэта бывае толькі ў дзяцінстве. З той пары гэтае трывожнае чаканне не пакідала яго.

Аўгуст Серада жыве ў чаканні цуду. Чакае іншапланецян. І НЛА вось-вось павінны завітаць у калгас «Верны шлях». Лятаючыя талеркі кружацца па-над зямлёй. Яны абляпілі зямлю, і неяк аднойчы ён ледзь-ледзь не натрапіў на іх. Ён ехаў з сенажаці дамоў, і здалося яму, нібы штосьці прамільгнула каля яго, нешта круглае, чырвонае, шар нейкі ўбачыў у люстэрку задняга віду. Не звярнуў увагі, вельмі ўжо стаміўся. Але на вясковай вуліцы яго перапынілі жанчыны. Выйшлі з-пад сцен патанулых у цемры хат, замахалі рукамі:

– Старшыня, лятаючая талерка!

– Якая талерка? Дзе?

– Ды вунь жа, на поплаве. Чырванееццa, як воўчае вока, хіба не бачыш. Высаджваюцца.

Ён зірнуў у накірунку, куды паказвалі жанчыны. Сапраўды, штосьці там чырванела і круглілася. І зноў, як той незабыўнай ноччу, пачала раўці жывёла і забрахалі сабакі.

– Садзіцеся, едам, – запрасіў ён жанчын, аднаму ехаць усё ж было ніякавата. Але і жанчыны ад яго запрашэння дружна адмовіліся:

– Вой, што ты... Мы баімося.

– А я не баюся,– крочыла наперад адна толькі Дзева Марыя, –

хоць адзін раз са старшынёю разам пракачуся ў яго легкавушцы.

Але яе якраз і не хацеў садзіць у машыну Аўгуст. Дзеве Марыі быў больш прыдатны самазвал, а не легкавушка.

– Дзева Марыя, цябе не вытрымае мая тэхніка.

– Не бойся, старшыня, вытрымаеш ты, вытрымае твая тэхніка.

І пад трывожна ўзрушаны рогат і падахвочванне жанчын Дзева Марыя нечакана спрытна і лёгка ўпырхнула да яго на пярэдняе сядзенне.

– Слухай, Дзева Марыя, а калі яны нас забяруць і павязуць на другую планету?

– Ну і што ты думаеш, старшыня, нам з табой горш там будзе? Хто на гэтай зямлі вытрываў, таму ўжо аніякая іншая планета не страшная. Ды і з табой, старшыня, чаго мне баяцца? Ці гэта ты мяне баішся?

– Баюся, Дзева Марыя. Баюся. – Здаецца, пажартаваў Аўгуст, а на самай справе сказаў праўду. Лепш ужо іншапланецяне, чымсьці Дзева Марыя. Але і ад сустрэчы з прышэльцамі, якая мелася адбыцца, таксама было страшнавата. Іншапланецянін – гэта табе не сакратар райкама партыі, хаця невядома, хто горш, хто лепш, хто на гэтым свеце сапраўды іншапланецянін, а хто зямлянін. Марозам працінала скуру.

Але страх яго аказаўся дарэмным. Нечага было палохацца Дзевы Марыі, тым больш нейкіх там іншапланецян. Свае гэта былі ў дошку людзі, звычайныя злодзеі. Прыехалі з-за ракі красці дровы. За ракой лесу не было – стэп. А карабель іх – талерка – тут ужо дакладна начоўкі, звычайны МАЗ з уключанымі падфарнікамі.

– Вось так заўсёды, – сказала Дзева Марыя, – чакаеш цуду, а табе насустрач рабая свіння.

Аўгуст пагадзіўся з ёй, і яны развіталіся. Ён высадзіў Дзеву Марыю, і жанчыны здзівіліся, што яны вярнуліся жывымі, а галоўнае – так хутка.

Але, не зважаючы на гэтыя дзве няўдалыя сустрэчы з НЛА, Аўгуст Серада ўсё ж пазнаёміўся з іншапланецянінам. Ён, аказваецца, жыў у яго пакоі. Вярнуўшыся да сябе дамоў, Аўгуст убачыў яго ў пустой шклянцы, што стаяла на падаконніку каля ложка. То быў дзівосных памераў павук-крыжавік. Першым памкненнем Аўгуста быў намер забіць і выкінуць таго павука-крыжавіка. Ён яшчэ з дзяцінства ведаў, што таму, хто заб'е павука, даруецца сорак грахоў. А грахоў тых на яго сумленні мелася куды больш. Ва ўсёй акрузе не хопіць павукоў. І нейкі час наглядаючы, як павук ёрзае па гладкім і коўзкім шкле шклянкі сустаўным сваім шматмножжам, як лупіць сферычнае вока

скрозь гэтае шкло, што павялічвала яго, вырашыў: хай жыве. Чым не прыхадзень, чым не іншапланецянін. Было, было ў павуку нешта незямное, што адначасова палохала і прыцягвала. Хай жыве ў шклянай бясплоднасці. Папраўдзе прышэлец – вылезе, не сканае, вылезе, незямной сваёй сілай успора шклянку, бластарам-лазерам разрэжа яе ці развесіць павуціну і на тонкай нітачцы падымецца, выйдзе вонку і захаваецца. А не – сорак грахоў далоў.

Сёння ішоў саракавы дзень, як павук сядзеў у пакоі Аўгуста ўсё ў той жа шклянцы, што стаяла на падаконніку каля яго ложка, шалёны дзень, а між іншым, дык і зусім нармальны ў калаўроце жыцця Аўгуста. Вось ужо сапраўды: інакшых не дадзена. І сёння яму дакладна паведамілі, што ў калгасе «Верны шлях» прызямліўся неапазнаны лятаючы аб'ект. І хаця з самага ранку яму не было калі і дыхнуць, а далей – больш і горш, ён рашыў плюнуць на ўсе клопаты і завітаць з візітам да іншапланецян. Звычайная чалавечая цікаўнасць перамагла абавязак. Праўда, раней, чым выправіцца ў дарогу, ён кінуў жэрабя: што выпадзе – арол ці рэшка. Па натуры заўсёды быў крыху гульцом: жывы ў шклянцы павук-іншапланецянін – у дарогу, к чорту ўсё, не – з галавой у калгасны хамут, і наперад, буланы.

Павук-іншапланецянін быў жывы. Больш таго, ашклянёны шкляной, прывіднай воляй і няволяй, вельмі дзейны. Што каморнік цыркульнай сваёй меркай, няспынна вымяраў сустаўнымі высахлымі лапкамі дно шклянкі. Ногі ў крыжавіка відавочна ўсохлі, асабліва ў каленях, там, дзе, Аўгуст лічыў, у павука павінна быць калена. Прыкметна ўцягло ў чэрава. Павук зрабіўся надзвычай прыгожым. Залаціста-чорны, а крыж белы, нібыта кужаль па ржышчы. А больш за ўсё і здзівіла, і ўразіла Аўгуста – не было ў празрыстай цямніцы ніякіх адыходаў паднявольнага жыцця павука. Шклянка стэрыльна чыстая, як сусветная ідэя. І Аўгуст палюбіў павука, адчуў, што ён яму блізкі і дарагі. Гэта ж трэба, нідзе ні павуцінкі, ні нават маленькага намёку на павуціну. Нібыта не павук сядзеў у шклянцы, а жыхар неба нейкі.

– Вось гэта культура, вось гэта дрэсіроўка! – з захапленнем усклікнуў Аўгуст і паабяцаў павуку: – Вярнуся, дам вольную. Выпушчу на свабоду. Чакай.

І не марудзячы, хапатліва пераапрануўся і пакапацеў на сустрэчу з НЛА.

Аўгуст Серада быў вар'ятам. Так ён сам пра сябе думаў: старшыня ўсіх вар'ятаў калгаса «Верны шлях». Пры той нагрузцы і коле абавязкаў, якія даводзілася яму выконваць, нармальны чалавек ужо б даўно павесіўся. А ён жыў і, больш таго, штосьці яшчэ мог,

некуды паспяваў, хаця гэта было неверагодна і немагчыма.

Ужо даўно ніхто не толькі ў асобна ўзятым калгасе, але і ў краіне нічога не можа, а краіна не паспявае сама за сабой, за ўпаданнем і чарговымі кідкамі ў вар'яцтва. Тое, што яшчэ мінуту назад было непарушна і адзіна сапраўдна, ужо ў наступную мінуту – ілжыва і шкодна. Народ злы, недаверлівы і слабы. Улады няма, няма пастаянства, адказнасці і парадку – няма жыцця. Чарнобыль не проста аслабіў тутэйшага чалавека, ён забіў яго. Усе яны тут ужо нябожчыкі ці кандыдаты ў нябожчыкі, таму так ліхаманкава, нібы ў прыступе нейкага параксізму, пажыраюць сябе працаю.

Асабліва дзейная зона, зямля мерцвякоў. Нябожчыкі цягавітыя, што коні. Аўгуст быў там сярод іх, бачыў усё на свае вока. З раёна, а мо і са сталіцы, ды не маленькай, а вялікай, пэўна, быў спушчаны загад: стварыць у калгасе лятучы атрад паляводаў і механізатараў і накіраваць яго ў зону, каб гэты атрад там араў, сеяў, касіў і ўбіраў.

Там, пэўна, ён і падхапіў заразу, нябачны вірус вар'яцтва. Вар'яты ўсіх краін і стагоддзяў вельмі патаемныя. Скрытнымі былі Сталін і Гітлер, патаемнай зрабілася адразу ўся краіна, калі ёю пачалі кіраваць яснавяльможныя нябожчыкі, што паўставалі з парасчыняных магіл, былой апошняй вайны салдаты і партызаны. Каля іх няма ні дзяцей, ні ўнукаў. Хаты іх пустыя, хлявы маўклівыя, палі забіты на тысячагоддзі. Самі яны нелегалы на роднай зямлі. Бежанцы – ізгоі мірнага часу – галоснасці і дэмакратыі. Пасля акупацыі іхняй зямлі мірным атамам іх адсюль выселілі, але яны вярнуліся. Вярнуліся не людзі – нелюдзі, фантомы перабудовы, атамныя мутанты. На іх палююць амаль з сабакамі, пакуль яшчэ не адстрэльваюць. Ловяць у балоце, у кустах, вымарачных хатах. Нелюдзі і фантомы здольныя плакаць і плачуць ад людскай і дзяржаўнай міласэрнасці да іх. Плачуць уначы пад цыганскім сонцам – поўняй, калі аруць і сеюць жыта на сваіх радыеактыўных сотках. Плачуць удзень, калі няма каму ў хаце падаць і голасу. Плачуць, выпаўзаючы на божае святло, гледзячы на неба і зямлю.

Зямля, што з табой сатварылі твае дабрадзеі і карміцелі! Белая святая зямля пад белымі крыламі тваіх боскіх птушак-буслоў, як ты перавярнулася ў год тысячагоддзя пасля прыняцця крыжа. Прыйшла, упала зорка Палын, і ты ўжо больш не белая. Ты сёння чорная на ўсё наступнае тысячагоддзе. Бог кінуў у твае воды дрэва, і зрабіліся яны салодкімі. Чалавек кінуў у тыя ж воды нешта нябачнае, і зрабіліся яны горкімі яму. Яснавяльможныя айцы-свяціцелі аказаліся вялікімі лгунамі, ішлі як пасланнікі раю, а абярнуліся ў пасланцаў пекла. Хлябцы ў іх руках ператварыліся ў вугаль. Аліўкавая галінка

пабарвавела і скрывавела, бо то была не галінка, а меч. Голуб і галубка клююць людскую пячонку. Кроўю мочыцца, крывавымі слязьмі плача і кроўю ўмываецца сам чалавек. Дзеці пры зачацці камянеюць у лоне маці, а народжаныя, адчуўшы зямлю, адразу ж пакідаюць яе. Збягаюць ад гульні ў жыццё на радыеактыўных сметніках гісторыі, ад сцягоў-цацак, бронзавых і бетонных ідалаў, што з-за непатрэбнасці выкінулі на той жа сметнік багі дваццатага стагоддзя. Уцёкамі на той свет завяршаюць свой зямны шлях звяры, гады і птушкі. Цінькае, плача, невядома на якім свеце прывязаная да апусцелай і мёртвай хаты сініца.

Як перад другім прышэсцем аруць і сеюць жыта і бульбу нябожчыкі. Жыта не на жыццё, а на смерць. Заўтра, а мо і сёння ўжо смерць з'явіцца сюды і пажне багаты ўраджай. І нічога, што каса яе тупая і ржавая, больш і прыгажэй будуць мучыцца. Нічога, што яна не мае зубоў, невідушчая. Сляпыя і бяззубыя – яны ненажэрныя, яны чалавечыну спажываюць. Радзіма – яна кроў любіць, кроўю мацуецца. Цячэ ў сусекі Радзімы радыеактыўнае жыта, грыміць па бункерах радыеактыўная бульба. Ёсць хлеба кус, будзе чарка, будзе скварка, у лабірынтах тупікоў вялікіх станцый стаяць ужо каторы год вагоны з чарнобыльскай свінінай і ялавічынай. Нябожчыкаў у радзімы раць нязлічоная, хоць плот гарадзі. І яны не ляжаць склаўшы рукі, яны рупяцца, у крывавым поце здабываюць хлеб надзённы сабе і вам. І не толькі ў зоне, за калючым дротам, гэта ўжо сапраўды фантомы, нелегалы. А ёсць фантомы легальныя. Іх радзіма бачыць, чуе і ведае. Але гуляе з імі ў нейкую захоплена цікавую гульню. Да ўсяго іншага наша радзіма любіць яшчэ і гуляць у гульні са сваімі сынамі. Так яна ў свой час гуляла з Сахаравым, Салжаніцыным, Растраповічам і нават пані Алілуевай, а цяпер вось, налаўчыўшыся, з усім народам, які стаяў некалі каля калыскі гэтай радзімы-маці. Сапраўды, нязведаныя дарогі твае, Госпадзі: ты нас парадзіў, ты нас і заб'еш.

Чарнобыльская гульня нашай дарагой маці са сваімі дзецьмі крыху цнатлівая і ладзіцца на тым, што яна, здаецца, і не мае дзяцей. Нехта сказаў, што немагчыма быць трохі цяжарнай. Вось гэта няпраўда. Наша маці цяжарная намі толькі трошкі. Яна выконвае адначасова дзве ролі: Дзевы Марыі і Марыі Магдалены. Дзева Марыя, канешне, нявінная і чыстая. Ну, а што да Марыі Магдалены, то тут... Але самае галоўнае, што наша дарагая маці гэтыя дзве ролі прыгожа сумяшчае. Яна і гуляшчая дзеўка, яна і нявінная. І тая яе зямля, каторая таксама аплоднена радыеактыўным мірным насеннем, на якую ў свой час, пэўна, не хапіла калючага дроту, лічыцца

«абмежавана прыдатнай для сельгасвытворчасці» (вось вам і крыху зацяжарацць). Зразумела, людзі, што жывуць там – абмежавана толькі жывыя, таму што жыць ім там нельга. Нельга дыхаць, хадзіць, сеяць, збіраць, піць ваду, нарэшце есці напоўніцу, а толькі абмежавана. Дарагая наша крамлёўская маці і яе мінская і кіеўская падчарыцы, як гэта ў вас толькі атрымліваецца. Прыехалі б сюды і прасвяцілі, як пасля трэцяга аборту дзеўкаю застацца.

А ёсць яшчэ вёскі, каторых як і не існуе. Адна з іх накшталт Сербы называецца. Жывуць у той вёсцы сербіянцы і падазраюць, што іх няма. Гарэзлівае свавольства нашай састарэлай маці. Што ў параўнанні з ім сучасныя дзяўчаты, якія адмаўляюцца ў раддоме ад сваіх дзяцей! Сербы гэтыя ў свой час трапілі пад высяленне. Але вёсачка была маленькая, хутар, лічы. У нас жа дзеецца ўсё глабальна. Па-першае, жывёлу ўратаваць, тысячнікі і стотысячнікі. Для людзей, перасяленцаў з вялікіх гаспадарак вялікіх вёсак, на першым часе давялося не хаты, жыллё, а спаравальны пункт будаваць, дзе маладыя муж з жонкай пасля агульнага барака ці клуба здольныя былі хоць на гадзінку сам-насам застацца. А тут нейкія занядбаныя, зачуханыя Сербы. Не дайшлі да іх рукі, але паперчына выпраўлена як і мае быць: няма больш Сербаў, пераселены. А яны былі, яны засталіся на родных селішчах радыеактыўнае гора гараваць.

І засталася іхняя зямля пры іх, угноеная і апладнёная мірным атамам. І была тая зямля бязмежна ўрадлівай. Увогуле Чарнобыль абраў пад сваё горкае і атрутнае насенне лепшыя землі. Чорт ведае, што рабіць, калі ў народзе памірае чалавек і на яго месца трэба ўводзіць сатану.

Абмежавана прыдатная, гэта значыць зямля, якой няма, радзіла злакам і плодам з нястрыманаю лютасцю смяротна раненай істоты. Яблыкі раздзіралі яблыню, што жабу, і чарвяк іх не браў. Жабы, праўда, сышлі, трусы ўсе здохлі ў чацвёртым пакаленні. Але статкі хатняй жывёлы нагульвалі тлушчы. Вось толькі мяса каровы нельга было есці, нельга было піць малако, таму што зрабілася яно атрутным. А свіння сама ела ўсё і яе елі ўсе. Свіння радыяцыі не баялася. І людзі адрынулі страх, таму што людзьмі яны зваліся толькі паміж сабой, а ў іншых мясцінах сапраўдныя, не пазначаныя радыяцыяй людзі пазбягалі іх.

Гэта былі ўсе спрэс жывыя нябожчыкі ці кандыдаты ў нябожчыкі, бясконца заклапочаныя жыццём і працавітыя. Ім не хапала зямлі, сотак, каб пасеяць. Мала было трактароў і коней. І вясеннія доўгія дні былі ім кароткімі, яны прыхоплівалі яшчэ і новы кавалак. Падалі з ног ад стомы, не мелі і хвілінкі вольнай.

Серада паміраць будзе, будзе помніць дзядка: хадзіць ён, пэўна, ужо не здолеў, хаця меў тры нагі. Адна – кавяла – дзеравяшка, другая так скурчана, што падобна на кавяню, завязаную на вузел, і кіёчак яблынёвы, на каторы ён абапіраўся спрацаванымі да костак абедзвюма рукамі. І сам увесь скасабочаны. Яго, пэўна, прынеслі і паставілі на краі поля. Пудзіла агароднае – прыгажун-мужчына ў параўнанні з ім. І вочы ў яго ўжо знерухомелі, як у таго ж пудзіла, хаця галава калоціцца-трасецца, мо таму, што ён яшчэ дыхаў.

– Што ты робіш тут, дзеду? – спытаў уражаны яго немаччу Серада.

– А во гусак пільную, дзетка.

– Навошта ж іх пільнаваць, дзед, ці табе іх вартаваць?

– А як жа іх не пільнаваць, дзетка ты мая? То ж гусі, залезуць у жыта, паклююць, патопчуць.

– Дзед, што табе ўжо з таго жыта...

– Не шкодзь дзеду рабіць дзедаву работу, гусак даўгалыгі. Не дыхай на яго, а то ўпадзе,– турнула яго ад дзеда неахопная старая, што яшчэ, як помнік, трывала стаяла на зямлі, завіхалася каля летняй кухні. У трохвядзёрным чугуне варыла, пэўна, варэнне з яблык, таму што яблыкі тьм ляжалі каля яе гарамі.

Дзед каля мёртвай яблыні з нежывымі яблыкамі аберагаў ад мёртвых неспажыўных гусей таксама мёртвае атрутнае жыта, старая варыла варэнне з тых мёртвых яблык,– палескія атамныя Адам і Ева часоў перабудовы і галоснасці.

Такімі ж дзейнымі, як гэты стары са старою, у зоне былі ўсе, пачынаючы ад сакратароў райкамаў партыі да скуласценькіх салдацікаў, якіх прыгналі сюды на службу-работу. У апусцелыя вёскі цягнулі, пракладвалі дарогу – асфальт, лапацілі, пераносілі з месца на месца зямлю, на хатах раскідвалі і крылі нанава стрэхі, мыльным парашком мылі бярвенне, шаравалі сцены. «Вось чаму ў нас дэфіцыт мыла»,– падумаў тады яшчэ Серада. У напаўпакінутых гарадах і гарадскіх пасёлках, а ўсе яны мясціліся каля рэк, будавалі гранітныя і з мармуру набярэжныя. Узводзілі маладзёжныя шматпавярховыя інтэрнаты. Для дзяцей, якіх тут ужо не існавала, уздымалі гмахі Палацаў піянераў, плавальныя басейны, пантэоны і саркафагі. Стартавыя пляцоўкі для кар'ернага ўзлёту руплівых гультаёў. Цэлыя кагорты, раць незлічоную такога люду таксама спарадзіў Чарнобыль. А яшчэ меліся тут марадзёры і рабаўнікі. Сярод мітусні дзейных гультаёў, сярод нябожчыкаў і кандыдатаў у нябожчыкі неверагодна пашыралася рабаўніцтва і марадзёрства. Нелюдзь усіх нацыянальнасцей, земель і рэспублік рабавала і абдзірала ўжо

абрабаваных і памёрлых. Зараза падхоплівала заразу і несла, множыла яе па ўсёй краіне.

А яшчэ былі вар'яты. Адзін з тых вар'ятаў ён, старшыня калгаса «Верны шлях» Аўгуст Серада. Не нябожчык, а толькі кандыдат, таму што хаця ён і не ў зоне, лічыцца, жыве, яму плоцяць «грабавыя», не грабіцель, не кар'ерыст, а просты савецкі вар'ят. Зона, нябожчыкі, пастаўляюць кандыдатам кармы для жывёлы. Ён бярэ ў зоне сілас, сена ну... і яшчэ тое-сёе. Мінулай зімой разам з Лаўрыкам Берыя пераганаў да сябе ў гаспадарку амаль новенькі «ЗІЛ». Хай яго папікаюць, хай судзяць і пасадзяць. Але каму судзіць, каму садзіць. І што благога ён зрабіў. Калі радыеактыўным сенам дазволена карміць жывёлу, то чаму нельга ездзіць на радыеактыўнай машыне. Чым больш радыеактыўная, тым больш актыўная. Радый знікне, актыўнасць застанецца. Не трэба яго дакараць, усё ён добра разумее сам, але ў атачэнні вар'ятаў здольны выжыць толькі вар'ят ды член Палітбюро пралётам на Радзіму.

Безмежнае вар'яцтва гэтага свету, кожнага яго белага дня. Але сёння дзень выпаў як ніколі. Дзень-ідыёт. Серада – ідыёт. Аўгуст – ідыёт таксама. Прынамсі, як верасень і сакавік, чацвер і пятніца, Сонца на небе – круглае, жыццярадасная доўбня, Месяц – боўдзіла, зоркі прыдуркі. З'ехаць з глузду можна было яшчэ ўранні, толькі прачнуўшыся. Але ён гэтай ноччу і галавы не прыкладаў. Дурні спяць мала. У дурняў вечная бяссонніца. І ім, да слова, не пагражае вар'яцтва і псіхбальніца. Усіх у тую псіхбальніцу не запрэш, некаму тут рабіць трэба. Дурні таксама есці хочуць. І Аўгуст Серада зранку, лічы, звечара ўчора калясіў на палях.

Ішоў чацвёрты год ад Чарнобыля.

Убіралася ў сілу чацвёртая чарнобыльская вясна. Заканчвалася чацвёртая паслячарнобыльская пасяўная. Суша стаяла, як у першы чарнобыльскі год. Але тады яна прыпала на лета. І ў абязводжаным да нябожчыцкай сінюшнасці небе ўдзень і ўначы кружылі самалёты, брухата пырхалі матылькі-вярблюды-верталёты. Ішло паляванне за хмарамі і дажджом. Варта было небу спахмурнець, як тое неба адразу ж расстрэльвалі. Дажджы выпадалі кароткія, сонечныя і гнойна-жоўтыя. Сукравічна-жоўтыя адразу выпараліся, дасягаючы зямлі. Зямля струпна трэскалася, апечаная плоць яе слаілася ад язваў і болек. Жоўты і чорны прах і пыл зямлі гнаўся за чалавекам і зверам, даганяў, прыпадаў з абдымкамі да ног жывога, спавіваў іх жоўцю і чэрню нявыплаканых слёз, выбельваў беллю ссушаных вачэй. І ўсё гэта ў неверагоднай нябеснай і зямной вымарачнай цішы, прытоенасці ўсяго існага. У цішы як у раі. У страчаным раі. Недзе

згубілася, здохла, пэўна, нават кнігаўка, што з веку ў век жыла тут і ў спякотны дзень прасіла: піць, піць, піць. Напілася – сканала.

Першае лета без міласэрнасці. Цяпер такая ж вясна. Чацвёртая чорная чарнобыльская вясна без намёку аб клопаце і памяці пра чалавека і звера. Прыдурвалася прырода, дурыла сонца, дурылі вятры, сухавейныя і таксама чорныя, што дзьмулі, хавалі ўсё жывое дваццаць чатыры гадзіны ў суткі няспынна. Увесь чарназём, усе тарфянікі пайшлі ў неба. Ралля спавіта саванам цяжкага белага пяску. А ў гэтых мясцінах яшчэ здаўна, мо з часоў паганства, захавалася завядзёнка выпальваць мінулагоднія травы, пускаць палы: лепш, больш пранізліва будзе расці грыб, угноіцца, удобрыцца грыбніца. Мо так і сапраўды ўсё адбываецца. Але вецер пагнаў гэтыя палы ў глыб лесу, па купінах балот, спапяляючы і знішчаючы усё на сваім шляху да самага пупа зямлі, апякаючы берагі рэчак, азёр і канаў, смалячы ляшчыну, камлі дубоў, грабаў, ясянёў. Атрутны чорны чарнобыльскі дым залунаў над зямлёй, абцяжарваў, пазначаў зямлю, твары людзей, іх апратку, хаты, хлявы, жывёлу цэзіем і стронцыем. І быў ён едкі і ўсёпранікальны. Слёзна плакалі людзі, слязілася апаленым вокам у едкім дыме рака. Выла, сухавейна стагнала перанасычаная цяжкімі металамі зямля, правіла трызну. І было ёй па кім правіць тую трызну. У гэты ранішні, світанкавы час, калі не прачнуўся яшчэ чалавек, яна адпявала не толькі сябе.

Аўгуст Серада адарваўся ад поля, нырнуў у асмаленыя кусты, падруліў да падковы меліярацыйнага канала і спыніўся на мастку, заглушыў рухавік, выйшаў з машыны, напоўніцу хапіў гаркавага дыму ад гарэлага, нібы прыфрантавога, алешніку. Якраз на тую хвіліну з замглёных і цьмяных, хісткіх на ветры даляглядаў на зямлю пракінула гарачыя праменні ўзыходзячае сонца, узяло ў аблап і чырвона ўспарола да дна застойную ваду канала, запаліла на беразе вугальную траву і закураныя кусты. У дно канала амаль строма, паблiскваючы бруснічнікамі плаўнікоў, пайшла чародка карпаў. Ад вады, нібыта там нехта пазяхнуў, і ўздыхнуў, адскочыла і пачала падымацца бялёса-ружовая смуга. Загойдаўся пасярэдзіне канала, паружавеў, нібыта імкнуўся ажыць, тапелец, дзеля якога Аўгуст пакінуў машыну і збочыў з дарогі.

Дзік пудоў пад дваццаць, сякач. І было іх тут, у гэтай непраточнай канаве, роўна дванаццаць. Як дванаццаць апосталаў, толькі чорных. Утапіліся, напэўна, кучна, як і ішлі. Але вецер і вада развялі іх. Усе дванаццаць на плыву, цяжкою галавой у дно, а лёгкі стручок хваста – у неба. Вось, маўляў, табе, неба, і таму, хто ёсць на тым небе, прывітанне ад дзікоў, дванаццаці тваіх апосталаў. І чорнае,

жорсткае, што калючы дрот, шчэцце на крыжы дыбарам. Зазірнуць бы ім у вочы. Спытаць, як яны трапілі сюды, што ці хто пагнаў іх у застойную смярдзючую ваду, у гэтае балота, што сатварыў чалавек, ён, Аўгуст Серада, стварыў, зусім не з той мэтай, каб гінуў тут дзікі лясны звер. Як дайшлі яны да жыткі такой, што гэта за калектыўнае самазабойства, саматапельніцтва такое. Звяры ж – вольныя людзі, нікому не служаць, і ідэі няма ў іх такой, за якую можна вечна пакутаваць і наважыцца страціць сябе. А яны вось страцілі, не пажадалі жыць на гэтай зямлі самі. Больш нечым жа, як толькі добраахвотнасцю, вытлумачыць іх смерць.

Гэта ў чалавека, высокія парыванні, утрапёнасць абавязкаў, а ў звера інстынкт. Ён больш надзейны і верны, таму што за ім спрадвечны розум і ніякіх марксісцкіх камізэлек. Дык што ж здарылася, чаму гэты розум разбурыўся ў зверы, перарваўся ў дзіку? Разбурыўся ў зверы ці застаўся ў чалавеку, вянцы сусвету. Ці захаваўся гэты вечны розум у планеты. Мо сёння звар'яцеў не так чалавек, як сама планета. Калі ўжо звер дзікі пачаў губляць інстынкт самазахавання. Ступіў на такі тонкі, з'едзены радыеактыўнай пяшчотай адрынутай зімы лёд. Па тонкім-тонкім падманлівым лёдзе ідзе па зямлі сёння ўсё жывое, жыццё.

А ў дзіку жыцця як ні ў адной жывой істоце. Чалавек перад ім крохкі, як смоўж. Чалавек для забойства сатварыў механічнае страшыдла з жалеза і брані – танк. А дзік – жывы танк са сталі і брані мышцаў. І ён для жыцця. Што яму гэтая застойная канава, пяць-шэсць метраў у шырыню. Адзін толькі раз рохкнуць і не азірнуцца. Лёд гэтай адліжнай зімы ён лёгка мог праламаць, пракапыціць, разрэзаць грудзьмі. Аўгуст Серада паляўнічы, сілу і моц дзікоў ведае не з чужых слоў. Праўда, пасля Чарнобыля ён паляваў іх толькі таму, што любіў само паляванне. Дзікоў тут гэтых процьма. Адыдзе пад снег непрыбранае поле кукурузы, стоішся на рагу яго, прыслухаешся: шчыруюць матросікі, убіраюць. Жыруюць сярод бульбы і буракоў, плодзяцца і множацца па дубняках. Але апошнія гады з два нешта здарылася ў іх з пячонкаю. На выгляд, здаецца, пячонка як пячонка, а возьмеш у рукі – распаўзаецца, хады ў ёй нейкія, струп'е. Але ўсё роўна не скажаш, наглядаючы, як ленінскім браневічком ломіцца ён скрозь зараснікі, што яны саслабелі, згубілі моц. Хвост да начыння прыціснуў, шчэцце на карку ўзняў на дыбкі – саступі лепш яму.

Што ж адбылося з гэтымі – пашалелі, як ён ашалеў, Аўгуст Серада, стаміліся жыць. Ці загад нейкі зверху, з нябёс ім дадзены. Самі яны, дванаццаць чорных апосталаў, спусціліся з нябёс на зямлю і ўтапіліся, захлынуліся ад зямной пакуты. Зайшліся ад шаленства зямлі, каб

перасцерагчы чалавека. Неба ахвяравала на алтар зямлі дванаццаць першых.

Чаму яны і сёння тут, у канаве, чаму не прыкапаны. Ён жа яшчэ тыдзень назад загадаў тром бэйбусам – грузіну-Сталіну, Лаўрыку і Лазару – выцягнуць іх і прыкапаць. Апосталы – яны-то апосталы, але праз тыдзень-другі дыхнуць тут нечым будзе. Дзіўна, як гэта яны яшчэ сёння не смярдзяць. Апосталы, бацьку і маці вашых, не маглі пайсці да суседа і там утапіцца, усё на «Верны шлях».

Аўгуст з канца ў канец абышоў меліярацыйную канаву, кленучы сябе за тое, што даў дазвол пракласці яе: апаганіў зямлю, а карысці ні на грош. Дрэнаж не спрацоўвае з першага дня. Усе дванаццаць кабаноў былі ў наяўнасці, у канаве. Ні адзін не ажыў, не ўцёк, не прыбіўся да калгаснага статка. Сёння, заўтра брацкая магіла прыбярэ іх усіх. На такі непрадбачны выпадак у яго хаце прыхавана бутэлька. Паставіць яе сваім наркотам, хай выцягнуць і пахаваюць. Хаця адной бутэлькі тут, канешне, мала. А дзе возьмеш яшчэ. Сапраўды, не мела баба клопату, купіла парася. Жыццё пайшло, павінна яго галава балець яшчэ і аб тым, дзе дастаць бутэльку.

І ён узяў з месца так, што здалося, нібы машына ўзнялася і паляцела. І ледзь не прыляцела, траха ён сам не выправіўся да апосталаў, ледзь-ледзь не далучыўся да іх трынаццатым.

За меліярацыйнай канавай дарога да палёў бегла праз лес і была высыпана гравіем. Разбіць яе яшчэ не паспелі, трымаць хуткасць можна было, і ён ішоў пад сто дваццаць. І толькі між дрэвамі пазначыўся прагал, як ён прыкмеціў на дарозе цёмную і вільготную гліняна раскоўзаную паласу. Прыкмеціў і ўсё зразумеў. Здаецца, ад'ездзіў сваё. Каб не было яшчэ ветру мо і праскочыў бы. Але вецер стругаў люты, як у аэрадынамічнай трубе. І заўсёды тут быў такі вецер. Яшчэ на вяку дзядоў, прыгадвалі, быў тут некалі звярыны ход, сцежка, мо і дзікі тапталі яе. Рос лес, дубы і бег ручай. Ён дубняк той высек, ручай засыпаў, зрабіў поле. Поле нарадзіла вецер.

Аўгуст тройчы ўдарыў па тармазах. Збіў хуткасць кіламетраў да дзевяноста, але большага зрабіць не было ўжо часу, пад калёсы пабегла ўжо гліна. Ён толькі дакаснуўся да акселератара, каб узяць паласу нацягам, і яго панесла, закружыла, захістала. Адзін абарот, другі, трэці. Люта вярцелася перад вачыма дарога, узыходзіла і знікала сонца, стагнаў і енчыў вецер. Аўгуст ішоў на чацвёрты віток і бачыў, дзе ён закончыцца. На машыну імкліва насоўваўся дуб. Дуб-прыгажун, як дзік-бранявік. Калі зрэзаць – на пень можна памесціць машыну. Дуб быў ужо амаль побач, да яго можна было дацягнуцца рукою, калі Аўгуст націснуў на тармазы. Машына села на заднія колы,

яго кінула назад. Потым ёй разам з машынай скочыў уперад, але зрабіў гэта крыху хутчэй, чымсьці машына. Уваткнуўся лобам у пярэдняе шкло. Па ім пабеглі сінія трэшчыны. Рухавік заглух.

Ён счакаў, пакуль асядзе каламуць і туман у галаве, выйшаў з машыны. Яго адразу ж падхапіў і ледзь не паваліў на вільготную гліну вецер. Аслабелі ногі. Саслабелымі ватнымі нагамі ён ступіў некалькі крокаў і спыніўся, хістаючыся з боку ў бок на ветры, прыкрываючы ад яго твар курткай. Каменная сухая крошка ляцела з неба і секла, біла яго, нібыта чарада птушак наляцела невядома адкуль і дзяўбла, дзяўбла яго, наравіла выдзерці вочы. І Аўгуст убачыў тых птушак, то былі вароны, вялізныя, чорныя і худыя. Абгрызеныя, з'едзеныя ветрам вароны. Яны стаялі ў траве ў зарасніках і пад дубамі, панура горбячыся, уцягваючы ў тулава шыі, нібы старыя ў дождж пад дубам, не мружачы вачэй, пазіралі на яго і не адляталі. І ён зразумеў, што гэта не каменная крошка ляціць з неба. То вецер выдзімае яго раллю. Ляціць зерне з поля, жыта, жыццё. Груганнё чакае гэтага жыта, калі вецер падняе яго. Жыта, каб жыць, патрэбна і варонам. Манна нябесная сыпалася ім зверху. Высушанае радыеактыўнымі вятрамі поле, сінюшнае неба разраджаліся жытным дажджом

У варон не было патрэбы хадзіць па полі і да сёмага поту здабываць хлеб свой надзённы, вышукваць і кляваць па зярнятку. Манна нябесная сыпалася ім з неба, паспявай толькі рот разяўляць і глытаць. Няхай жыве Чарнобыль! Слава, слава табе, чалавек, Аўгуст Серада, гаспадар і араты. Куды падзеўся Дарожкін, вось бы дзе яму лозунг сатварыць.

Слава Аўгусту, слава славе, выў і стагнаў вецер, што нараджаўся з саванна-белых пяскоў бясконцага поля.

Манну нябесную, разяўляючы дзюбы, не вярэдзячы ног, прымалі не ўсе вароны. Найбольш худыя і, пэўна, самыя пражорлівыя таксама з разяўленымі дзюбамі бадзяліся па дубняку, абцяжарана валюхаліся сярод травы і клявалі жыта, што засела, захрасла ў той траве, адцяснялі і біліся са сваімі таваркамі, што ўжо насьціліся. «Худыя вароны паелі гладкіх»,– падумаў сам сабе Аўгуст, схапіў палку і кінуўся на птушак. Але вароны не вельмі яго палохаліся, хаця і ўзняліся ў неба, замглілі сонца, раць незлічоная – з усяго свету, пэўна, вароны. Узняліся і завіслі над яго галавой, не вельмі ўсерджана нават галосячы, хутчэй прыязна дакараючы: ну чаго табе, чалавеча, маўляў, трэба, хочаш есці, разяўляй рот, лаві ды не лянуйся глытаць. Самі па сабе вароны нікуды не адляцелі б адсюль, і ён бы не справіўся іх адагнаць. Але іх развеяў вецер, раздзёр спрэс чорную, шэрую чараду на маленькія лапікі і панёс гэтыя лапікі па небе. І занёс бы, загнаў

чорт ведае куды, каб вароны былі дурныя. Калгасныя, савецкія вароны самьм разумныя на свеце. Яны пачалі складваць крылле і каменем падаць на зямлю, на дубняк і дубняком пешшу варочацца назад.

Аўгуст з горыччу і бездапаможнасцю пакруціў перад сабою палкай: добрая даўбешка, але не супраць згаладалых і худых варон. Ён размахнуўся і шпурнуў яе ў арэхавы куст.

– Кар-р, – змяіна порстка і злосна адказаў яму куст.

Птушкі зноў узняліся ў неба. Але ён быў ужо ў машыне. І на добрай хуткасці пабег ад сваіх саванных палёў. Вароны суправаджалі яго. Вароны праганялі чалавека на машыне. Аўгуст спяшаўся ў праўленне калгаса, да тэлефона, і думаў, што вось і прыспеў час збіраць даўгі і сплочваць даўгі. Вінен жа ён быў свайму сябруку, старшыні суседняга калгаса, і выпраўляўся ён тым ранкам у дарогу зусім не таму, каб паглядзець на тапельцаў-апосталаў. Мерцвякі заручаны ўжо з зямлёй і нікуды ад яе не дзенуцца. А ён думаў пра жыта і толькі што пакінутае ім поле. Адчуваў яшчэ на пачатку пасяўной, што прыйдзецца яго перасяваць. На тое і выйшла. Але насення ў яго ў абрэз. Трэба, трэба выкручвацца неяк. Пад бокам у яго заможны сусед, а за ім даўнавата ўжо доўг. Абодва яны вінны адзін аднаму.

Запазычыў Аўгуст даўно і галасна на ўвесь раён, па маладосці яшчэ, дурасці, калі толькі пачыналася яго старшынёўства. І ніякіх сяброў ён яшчэ не паспеў завесці, ніхто яму нічога не даваў і не пазычаў. Даюць і пазычаюць у гэтай сістэме толькі таму, хто сам усё мае, каб можна было ў яго нешта і ўзяць. А што з яго возьмеш, апошнія штаны, дык яны тады свабодна ляжалі ў магазіне, носам яшчэ ўсе круцілі, перабіралі.

То была эпоха вясёлых і гуллівых застолляў, доўгіх і нудных нарад, пасяджэнняў і пленумаў, праціранння штаноў. На адным з такіх праціранняў ён сядзеў і з сумам аказваў увагу чарговаму гаваруну, гадаў, дзе прыйдзецца сёння ноч бавіць, як раптам атрымаў запіску. Яшчэ здзівіўся, хто можа яму пісаць, ці яму гэтая запіска. Але памылкі не было, праўда, адрас, прозвішча на запісцы было з падкалупкай: Чэрвеню Серадзе. Але ён не ганарысты, хаця гэта яго і закранула. Мо таму і папаўся. Разгарнуў, прачытаў: «Не спі ў шапку. Толькі што ў перапынку раздалі насенне азімых буракоў, «Чыкага-8». Подпісу не было. Але ён і не шукаў яго, асабліва не ўдаваўся і ў сэнс напісанага, галоўнае, што ўсе атрымалі, а яго зноў абышлі, як абыходзілі заўсёды. І ён адразу ж падхапіўся:

– Калі, калі гэта толькі кончыцца, Андрэй Пятровіч, Пётр

Андрэевіч,– выгукнуў ён з месца, звяртаючыся да абедзвюх улад адразу. І абедзве ўлады пачулі яго і хітнулі яму галавой:

– Што там у цябе, Серада? Кажы толкам, не крычы.

– Ды як жа можна не крычаць. «Верны шлях» зноў абышлі. Колькі можна...

– Без эмоцый, Серада.

– Ды не магу я ўжо больш без эмоцый. Усе атрымалі насенне азімых буракоў, а «Вернаму шляху» не далі

– Якія буракі?

– Азімыя,– паўтарыў ён, уцяміў і закончыў ціха: – «Чыкага-8».

У зале не расшалопіў, купіўся яшчэ нехта са старшынь, не адзін ён боўдзіла балотнае, аказваецца, прыйшоў сюды спаць, не адзін ён убогі і абмінуты:

– А нам таксама не далі...

– І нам не далі. «Перамогу» абышлі...

– Падыміцеся,– сказалі ўлады,– каму там насення азімых буракоў не далі. «Перамозе», каму яшчэ? «Шляху да камунізму»?

Два заспаныя дурні ўскочылі на пасмешышча залы. А Серада прачнуўся ўжо, бег вокам па старшынёўскім корпусе, што лёг ад рогату. І знайшоў, адшукаў таго, хто яго падставіў. Ён адзіны заставаўся сур'ёзным сярод гэтага зборышча смяшлівых ідыётаў. Поўны, закончаны ідыёт. Вочкі вылупіў, і ніякага намёку на смех у іх, спрэс адна толькі думка, магутная, значная, глыбокая. Шыя набакір, галава амаль легла на плячо, і рукі на грудзях складзены, пальцамі толькі глыбакадумна перабірае, нібы грае на гармоніку. Сусед Серады, гаспадаркамі мяжуюць.

Пасля тых пасядзелак Серада з суседам узялі добрую чарку, за азімыя буракі «Чыкага-8», яравыя гурочкі «Антарыо-12» і пасябравалі. Людзей з гумарам Серада паважаў і сам не цураўся жарту. З багатым суседам не грэх і пажартаваць. І Аўгуст Серада з ім калі-нікалі гумарыў. Разжываўся то сенам, то будаўнічымі матэрыяламі. Па дробязі, праўда. Па-буйному асцерагаўся, сусед быў смяшлівы, але скнарны і абачлівы, змагаўся да апошняга за кожную дошку, за кожны жмак сена. Цяпер жа Аўгусту прыспеў час гуляць па-буйному. І гэта будзе яго канчатковы разлік за «Чыкага-8». Таму ён раней, чым узяцца за тэлефонную трубку, доўга настройваўся, замкнуў нават сябе на ключ у кабінеце, каб ніхто не перашкодзіў. Набраў нумар і адразу ж пайшоў у атаку. Але і саломкі падаслаў, падлабуніўся.

– Ужо на рабочым месцы, малайчына.

– Так, Андрэй Пятровіч, круцімся. Што за пагода ў нас сёлета, самі бачыце.

– Бачу. Бачу. Толькі прырода і пагода ў нас адна – беларуская, іншай не бывае.

– Так, усё правільна, але…

– Без але, без але. Ведаю я цябе. Усе вы алекаць любіце. Як з сяўбой без але?

– Без але, калі так і далей пойдзе, да канца тыдня, думаю, адсеемся поўнасцю.

– Я на цябе спадзяюся.

– Не падвяду, не падвяду, Андрэй Пятровіч.

– Вот гэта я і хацеў ад цябе пачуць. Як з насеннем?

– Хопіць, яшчэ і…– голас у трубцы знік, пэўна, сусед пачаў цяміць, і трэба было як мага хутчэй даціскаць яго.

– Што і, што і? Застанецца, хацеў сказаць?

– Ды так, крыху, Андрэй Пятровіч.

– Малайчыла, добра, мой дарагі. Падзелішся з «Верным шляхам».

– Дык, Андрэй Пятровіч…

– Пачакай, пачакай, багата не прашу…– Серада пры-моўк, ліхаманкава прыкідваючы, колькі трэба і колькі прасіць.– Тон так з дзесяць, думаю.

– Ды вы што, Андрэй Пятровіч,– узвыў голас на другім канцы дроту. – Тон дзесяць, сто цэнтнераў, дзесяць тысяч кілаграм, а калі і зярняты палічыць… Ды гэты галадранец з усіх сваіх палёў збірае менш.

«Ну, зараза,– падумаў Серада, – Бурак азімы. Здзяру тон пяць, на меншае не пагаджуся»,– а ў трубку памяркоўна і ласкава:

– Ну, дарагі, не крыўдзі ўжо так суседа, не нагаворвай ужо так. Я … яго мяркую да сябе ўзяць. Стараецца чалавек і галаву мае, светлая ў чалавека галава.

– У Серады галава?..

– Светлая. Не трэба, не трэба. Харошая светлая галоўка. Восем тон, па-суседску. Ад чыстага сэрца. І не забывайся, у нас будзе рабіць.

– Ну, калі толькі так, па-суседску ўжо… Але багата, багата яму восем тон. Пяць хопіць.

– Я сказаў восем. Усё, бывай здароў. Поспехаў на нашай агульнай ніве і шчасця ў лічнай жызні.– І Аўгуст Серада энергічна паклаў трубку.

Мінут сорак сядзеў замкнёны адзін у кабінеце. Ачомваўся. Не раз і не два нехта стукаўся ў дзверы, цягаў ручку, але ён не азваўся. Пачаў званіць тэлефон, ён не здымаў трубку. У прыёмным пакоі засакатала пішучая машынка. Яе адразу заглушыў голас Дзевы Марыі:

– Куды ён схаваўся? Куды ён сёння збег? Я яго ўсё роўна знайду, з-пад зямлі дастану.

Аўгуст быў рады, што ён сядзіць у кабінеце і пад замком. Не прызнаючыся ў тым сам сабе, ён баяўся і пазбягаў Дзевы Марыі. І не адной толькі яе. Ён баяўся усіх іх, каго агулам называлі народам, калгаснікамі – трактарыстаў, даярак, ездавых і тых, хто на розных работах. Некаму, канешне, яны народ. А яму, Бог яго ведае, хто яны яму. Людзі, аднавяскоўцы. Яму не хапае смеласці, вачэй не хапае глядзець на іх, як яны ў дождж і сонца, за тры рублі ў дзень рвуць жылы. Не хапае сэрца гаварыць з імі, загадваць ім.

Шчасце, што ёсць машына і тэлефон. Існуюць, праўда, старшыні-дэмакраты, каторыя любяць гаварыць з народам. Павучаюць і накіроўваюць яго: «Аўгуст, няправільна паводзіш сябе, адрываешся ад народа. Народу што трэба – бачыць цябе, паслухаць цябе, што ты кажаш. Народу багата не трэба».

Пэўна, справядліва, народу няшмат чаго трэба. Але яму шмат чаго трэба. І што ж гэта за народ, калі яму мала трэба. Гэта жывёле мала трэба. А той жывёле даюць сёння больш чым народу. Племянных бычкоў і цялічак за тысячы і тысячы ў валюце з Канады і Галандыі вязуць, і начальства ў хвост ім дыхае. З усіх труб, з кожнай трыбуны пра іх трубяць, палацы і харомы ўзводзяць. А мужык як пасля вайны ўбіўся ў закураную хату, так і вякуе там. Таму ён і ўцякае ад яго на машыне. Сорамна, сорамна.

Учора на вячэрняй дойцы яго крыху не пабіла Дзева Марыя. Няхай бы ўжо і пабіла, ён не быў бы больш старшынёй. Пад добрай чаркай прыйшла яна на дойку. Напярэдадні механізатарам давалі грошы, яна, пэўна, з імі і разгавелася. Ён хацеў прагнаць яе з фермы, а Дзева пачала спаганяць з яго рубель. Рубель за тое, што мые малакавозкі-цыстэрны, у якіх малако возяць.

– Вось табе рубель,– сказаў ён Дзеве Марыі.– Тры рублі. Бяры – каб я цябе сёння тут не бачыў.

Дзева раз'юшылася.

– Мне тваімі рублямі падцірацць... Ты мне за работу плаці, і не міласціны ў цябе прашу. Рубель нам раней за тое, што мылі цыстэрны, плацілі, а цяпер не плоцяць...

– Раней плацілі, а цяпер не плоцяць, зрэзалі...

Ён не маніў. Прыйшлі новыя расцэнкі. Няшчасны рубель адабралі ў даярак. І ён няздольны быў дапамагчы ім. І так калгас – адны пазыкі, даўгі ды датацыі.

Дзева Марыя як угадала, што ён у кабінеце, сказала яму некалькі ласкавых слоў, вылаялася і пайшла. Аўгуст моўчкі пасядзеў яшчэ

мінут дзесяць, адпачыў, сабраўся з духам і пачаў зноў накручваць тэлефон:

– Сусед? Здароў. Ну як там цяпер у цябе справа і злева? – гаварыў ён ужо сваім голасам, не падрабляючыся. Але сусед не хацеў яго пазнаваць.

– А хто гэта? Хто гаварыць? Хто ў тэлефона? – хітрыкаваў і прыкідваўся глухім сусед. Іншага, прынамсі, Аўгуст ад яго і не чакаў. На яго месцы ён бы гэтак жа паводзіў сябе.

– Забагацеў, забагацеў, гляджу. І сяброў не хочаш прызнаваць.

– З такімі сябрамі забагацееш. Гэта ты на маіх плячах у рай хочаш уехаць, азімы бурак,– кісла-салодка ўзрадаваўся сябар.

«Нічога, нічога, – падумаў сам сабе Аўгуст, пазбываючыся візіта Дзевы Марыі. – Ты не народ, з табой я, пакуль жывыя Андрэй Пятровіч з Пятром Андрэевічам, як-небудзь саўладаю».

– А я і так багаты, не скарджуся. Гектараў сто перасяваць прыйдзецца, выдула ветрам усё начыста. Гектараў сто... – Тут, канешне, Аўгуст хлусіў. Але ў калгасе не схлусіш – не пражывеш. Толькі і сусед ведаў яго землі як свае:

– Сто гектараў? Ды дзе ж у цябе такія плошчы? Што ты мне галаву дурыш.

– Трэба мне тваю галаву дурыць? Свая баліць.

Сусед прамычэў у трубку нешта невыразнае, пэўна,

выказаў спачуванне.

– Не зразумеў, – сказаў Аўгуст.– Штосьці з тэлефонам. Нічога не чую.

– Слухай, слухай,– нечакана бадзёра амаль заспявала трубка.– Поле тваё – гэта туды, пад Млынішчы?

– Туды, туды,– сказаў Аўгуст.– Сто гектараў.

– Ды я не пра гектары. Няўжо ты і праўда нічога не ведаеш? Да цябе ж туды НЛА прыляцела.

– Што, што прыляцела? – разгубіўся Аўгуст. Цяпер ён сапраўды нічога не разумеў. Нешта і на самай справе няладнае адбывалася з тэлефонам ці з суседам.

– Перадаю па літарах,– чыста мовіла трубка.– Нічыпар, Леанід, Адам. Неапазнаны лятаючы аб'ект. НЛА. Як зразумеў, паўтары.

– Вось што, сусед, – раззлаваўся Аўгуст,– цяпер не дуры галаву ты мне. Я да цябе на каленях і з працягнутай рукой. Тон дзесяць насення жыта мне трэба. Восенню па першай запаведзі разлічуся.

– Ты што, з глузду з'ехаў, ты што, з печы ўпаў.

– З'ехаў і упаў.

– Няма ў мяне, разумееш, няма. Ні зярняці. Сам кручуся, сам

пабірацца гатовы. І дзесяць тон, сто цэнтнераў...

Гэта Серада ўжо чуў і таму выказацца да канца суседу не даў магчымасці, перапыніў:

– Адмаўляеш?

– Катэгарычна, наадрэз.

І абодва яны на нейкі час замоўклі, насцярожана саплі ў тэлефонныя трубкі. Аўгуст радаваўся. Ён ведаў, што выйграў, да поўнай перамогі заставаўся адзіны толькі крок. Пакласці на стол казырную карту, што ён і зрабіў:

– Дзякуй, сусед. Дзякуй за шчырасць. Нічога не зробіш. Не хочацца, а мушу прыпасці да ног Андрэя Пятровіча. – І Аўгуст загрукацеў па стале, удаючы, што хоча пакласці трубку, і дамогся, сусед не вытрываў першы:

– Тры, – сказаў ён.

– Мала, – імгненна азваўся Аўгуст, хаця яму, пэўна, хапіла б і тры. Але трэба было разлічвацца і за галадранца: – Мала, мала. Пяць!

– Пяць? – абурылася трубка. – Пяцьсот мяшкоў?

– У мяшках будзе болей. У мяшках, ды калі ты яшчэ сам насыпаць будзеш... – Аўгуст здзекаваўся, відавочна перабіраў, але не вінаваціўся. Цяпер ён гаварыў не з чалавекам, а з сістэмай. І так, як і трэба гаварыць з гэтай сістэмай – па тэлефоне. А з чалавекам ён сустрэнецца і будзе гаварыць інакш. У вочы яны адзін аднаму паглядзяць, што трэба ўбачаць і зразумеюць па вачах, чарку добрую возьмуць, не за пяцігодку, канешне, не за высокія надоі і прыбаўку вагі ў маладняка. І будзе ім хораша. А цяпер яны дурылі адзін аднаму галаву. І сусед недзе здагадваўся пра гэта. І было яму таксама хораша. Такія правілы ўжо іх гульні.

– Ну і суседа бог паслаў. Горш татарына.

– А ты таксама добры, лепшы падарунак жанчыне ў дзень Восьмага сакавіка. Дамовіліся?

– Чорт цябе бяры. Дамовіліся. Але ты мне на пару дзён...

– Не!

– Ну на адзін дзень...

– Не магу...

– Ды ты хоць выслухай да канца, азімы бурак, «Чыкага-8».„

– А я наперад ведаю, што ты мне хочаш сказаць. Чую, чым ты дыхаеш, сапеш, «Антарыа-12»... Ты мне лепш пра НЛА. Гэта што, зноў з тваёй аграпрамысловай оперы «Чыкага-8»?

– Не, Аўгуст, гэта ўжо з іншай оперы. Клянусь, Млынішчы Твае на вушах ходзяць.

– Зноў перапіліся?

– Горш, горш. У рот ні кроплі не бяруць. Больш таго, кінулі зусім вытворчасць. Поўзаюць па карчах і рушаць апараты. Разбіваюць апараты, скручваюць змеевікі, лудысты...

Разбіваюць апараты, скручваюць змеевікі – гэта было ўжо сур'ёзна. Сапраўды луддзіты. Ды з чаго і як яны жыць будуць. Хаця ім усё роўна заўтра паміраць. Але як «Верны шлях» без іх вытворчасці жыць будзе. І Аўгуст вырашыў неадкладна ехаць у Млынішчы. Насенне ўправяцца прывезці і без яго. А чарку з суседам ён паспее ўзяць і ўвечары. І чым чорт не жартуе, калі Бог спіць. Мо на самай справе ў яго Млынішчаў прызямлілася лятаючая талерка, што, канешне, вельмі і вельмі сумніцельна. Але ўсё можа быць, усё можа быць, калі вельмі хочацца.

Млынішчы тыя, вёска за блізкім светам, у чорта на рагах. Уласна кажучы, яе і не было, як не было тых Сербаў, у каторыя Аўгуст трапіў у зоне. Але з іншай прычыны, вельмі простай. Ёсць, няма – таксама ж цалкам залежыць ад таго, як ты пажадаеш. Можна ж сказаць, што жыве чалавек, можна, што і памірае. Залежыць тут, як хто і з якога боку падыходзіць. Так і з Млынішчамі: яны былі і адначасова іх не было. Нешта агульнае мелі яны з тымі ж іншаланецянамі, прышэльцамі. Толькі апошнія з неба, з будучыні, а гэтыя з мінуўшчыны, з джунгляў і пячор каменнага веку.

Млынішчы да вайны – вялікая вёска двароў са дзвесце сярод дубняку на беразе вялікай ракі. Сёння галоўнай радыеактыўнай ракі свету. У вайну вёску разам з жыхарамі датла спалілі немцы. Але той-сёй і ацалеў, выжыў на фронце, у партызанах, захаваўся, стаіўшыся ў карчах, балоце; скалечаныя і знявечаныя, аднаногія і аднарукія, сляпыя і глухія прыпаўзлі да роднага папялішча, зграбліся ў кучу. На ўсёй зямлі не знайшлі сабе больш прыдатнага і прыгожага месца, чым тое, дзе яны Нараджаліся, паміралі, курчыліся, гаручы ў агні. Цяп-ляп адной рукой, прыг-скок на адной назе, адладзілі такое-сякое сабе жытло.

Дарэчы, сам ён, Аўгуст Серада, родам з Млынішчаў. Нарадзіўся пасля вайны ў земляной пячоры дваццатага стагоддзя. Але пячоры той родавай не памятае. Бацькі хутка пасля яго нараджэння пераехалі. Ужо на пасадзе старшыні калгаса ён, чым магчыма было, дапамагаў Млынішчам. Паставіў там помнік тым, хто загінуў у агні, з граніту і мармуру. «Верны шлях», канешне, сам не пацёг, сродкаў бы не хапіла на помнік, дзяржава дапамагла.

У той час падобныя помнікі ставілі паўсюдна, усім спаленым, забітым вёскам. Званы Хатыні прапалолі траву забыцця, разгрэблі попел, што запарушыў сумленне, на якім буяла тая трава.

Помнік узвышаўся на беразе шырокай, жоўтабягучай міма яго сваімі радыеактыўнымі водамі ракі. І быў ён, здаецца, помнікам не толькі тым, хто згарэў на вайне, але і ўсім ацалелым, што ціхмяна, пазначаныя мірным атамам, дажывалі свой век пад слізгаценне атамнай вады. Высокая стэла востра і дзёрзка ўтыркалася ў блакіт вясенняга чыстага неба. Помнік быў прыгожы, чаго не скажаш пра хаты, што паразбягаліся ад яго ва ўсе бакі надрэчнага прасцягу. Не стасаваліся побач з імі паўрастаныя ў зямлю хаты са стрэхамі з чароту яшчэ і саломы. Шмат з іх было з забітымі крыж-накрыж вокнамі. І на душы было адчуванне нябачнага, завіслага ў небе над сялом белага крыжа, прыбранага і дагледжанага пагоста. Дубы падтрымлівалі чысціню і парадак, не дазвалялі разрастацца траве-крапіве. Белыя буслы, крыжам разапнутыя ў небе, луналі над вадой, помнікам і вёскай. Яны, пэўна, і вычысцілі, прыбралі наваколле, з хламу і адыходаў чалавечага жыцця ладзілі сабе гнёзды. Некаторыя з іх і цяпер займаліся прыборкай, як малююць галубоў з аліўкавымі галінкамі міру ў дзюбе, яны неслі, ляцелі па небе, трымаючы ў дзюбах галінкі дубовыя і дубчыкі ракітняку, толькі без лісця, амярцвелыя, памерлыя.

А вось лятаючай талеркі, касмічнага карабля іншапланецян, Аўгуст Серада ў Млынішчах не прыкмеціў. Могілкі як могілкі, нічога ад светлай будучыні, усё толькі з жалобнага мінулага. І усё ж знайшоўся стары, каторы як быццам сапраўды сустракаўся з прышэльцамі. То быў яго ж, Серады, кадр. Дзед Барадзед Смаловыя Яйцы. Але, заўсёды лёгкі на слова, сёння ён быў маўклівы. У міліцэйскіх форменных штанах з чырвонымі кантамі і ў міліцэйскім форменным бушлаце, так прапахлым брагай, што да дзеда трэба было падыходзіць з закускай. Сядзеў ён на прызбе пад сонейкам, высахлым плячом падпіраў хату, каб тая, напэўна, не рассыпалася і не ўпала. І быў ён нечым падобным на яго, Аўгуста Серады, павука ў шклянцы, мо і таму, што месціўся пад акном. І па шкле, па ўгрэтым бярвенні хаты, па выпнутым з пазоў моху поўзалі сінія, як адлітыя са сталі, першыя яшчэ восеньскія мухі.

– А былі людзі, былі, – на нейкае імгненне адарваны ад сваіх думак, даў волю сваім вачам-мухам, адказваючы на пытанне Аўгуста, і ссушанымі вейкамі адразу ж прыдушыў тых сваіх мух, заплюшчыў вочы і замоўк.

– Выходзь, дзед, з анабіёзу, – прыкрыкнуў на яго Аўгуст.– Адказвай.

Дзед адплюшчыў вочы, зноў вызваліў свае вачаняты-мухі:

– Адкуль выходзіць?

– Можаш заставацца на месцы. Адказвай толькі.

– А былі, былі людзі. Ды адбылі. Усё забралі, паелі, папілі дый адбылі.

– Пра гэтых, дзед, што цябе абмундзіравалі, не трэба.

– А пра якіх тады трэба?

– Ну, пра гэтых, – і Аўгуст нечакана для сябе паказаў Дзеду, як ён уяўляе павука, што ёрзае па шкле ў яго пакоі: вывернуў рукі, ногі на раскарачку, выпнуў жывот. Як ні Дзіўна, дзед яго зразумеў:

– Пра гэтых не магу, ня велена.

– Ты пра іх і не расказвай,– пачаў хітрыкаваць Аўгуст,– ты лепш раскажы, як усё было. Як ты прачнуўся, падняўся, паснедаў...

– І паехаў па сена, – хуценька перабіў яго дзед і зноў замоўк.

– І паехаў ты па сена, – зноў вывеў яго з задумлівасці Аўгуст.

– І паехаў я па сена... Лепей бы я не ездзіў па тое сена. Навошта я па тое сена ездзіў. Усё роўна каровы ў мяне нямашака. Ні каровы, ні казы. Баба ды певень...

– Дык чаму ж ты па сена паехаў?

– Во, пра што я цябе і пытаю. Навошта я па тое сена паехаў? Чаго я па тое сена ездзіў. – Дзеда Барадзеда, бяссрэчна, закалодзіла. А разам з ім закалодзіла, заклініла і Аўгуста.

– Дык чаму ж ты па сена паехаў?

– Во, пра што я цябе і пытаю. Навошта я па тое сена паехаў?

– Ну, паехаў і паехаў. Газуй, дзед, далей.

– Во, чалавеча, паехаў па сена. Сярод лета стары дурань паехаў па сена. Во...

Дзед Барадзед Смаловыя Яйцы безнадзейна забуксаваў. Колькі ні падпіхваў, ні біўся з ім Аўгуст, няшмат выбіў. Быў шар перад ім, вогненны, чырвоны, прыляцеў і апусціўся каля дзедавага стажка. І дзед увайшоў у той шар, паманіла яго, нібыта за руку нехта ўзяў і павёў, за плечы абняў, на вуха нешта ласкава шапнуў, такое ласкавае, што ён начыста забыў, хто ён, дзе жыве і чым займаецца, што ён Дзед Барадзед Смаловыя Яйцы. Зусім іншымі зрабіліся яго яйцы.

– Ну якія ж? – не паверыў Аўгуст.

– А вось гэтага я табе не скажу. Нічога больш не скажу. Я і так ужо лішняга нагаварыў.

– Дзед, дык памрэш жа заўтра, і ніхто не даведаецца, што з табой было.

– А ты перад смерцю да мяне падыдзі, буду канаць, адкрыюся.

– Ну чаму ж, чаму...

– А таму, што ніхто яшчэ не адкрыўся, як яму там, на другім

свеце, у раі ці ў пекле. І ты ізыдзі, ізыдзі, згінь, не спакушай.

Больш дзед не сказаў ні слова, толькі на развітанне ўжо ў плечы Аўгусту кінуў:

– Па самагонку да мяне больш не прыязджай. І хлопцам перакажы, каб не білі ног. Закрылася лавачка.

– Як закрылася лавачка? – не даў веры сваім вушам, нават спыніўся Аўгуст.

– А так проста, завязаў,– па-сучаснаму мовіў дзед. – Пахерыў вытворчасць, разабраў апарат, а змеявік утапіў у рацэ. Ён цяпер, пэўна, да Чорнага мора падпаўзае. – І Дзед Барадзед Смаловыя Яйцы паблажліва хіхікнуў, гледзячы не на яго, а на сіне-стальную муху, што паўзла па яго стальнога колеру бушлаце.

Аўгуст Серада падумаў, што ён звар'яцеў ужо канчаткова. Зусім не разумее людзей. Ён як спатыкнуўся дагнаны голасам дзеда, так і стаяў што ўкапаны. І думаў, думаў. У сінім небе распнутым белым крыжом, выразна акропленым кроўю, ляцеў бусел і нёс у дзюбе жывую галінку, абуджанага вясной крывава чырвонага ракітніку.

А каля праўлення калгаса Аўгуста чакалі Дзева Марыя і інспектар ДАІ. Дакладна невядома, ці наведвала калгас «Верны шлях», вёску Млынішчы лятаючая талерка, а вось ДАІ ўчора прыскочыла, праводзіла рэйд, з усімі, як заведзена, пасля гэтага вынікамі. Чаму і з чым завітала Дзева Марыя – пра гэта ён павінен быў даведацца пазней. І дарэмна, дарэмна адмахнуўся ён ад яе, уцягваючы за сабою ў кабінет інспектара ДАІ.

Лазар Кагановіч сядзеў на дубовай калодзе каля печы і думаў. І гэта быў не яго занятак – сядзець і думаць. Седзячы думае толькі дурань і самы апошні гультай. Кагановіч быў прывычны думаць, калі ў яго руках сякера ці каса. Ці гэтыя рукі яго на штурвале трактара. Тады і думаць некалі і нечага. Рабіць трэба. Сустрэцца вокам з дубовым цурбаном і адчуць яго. Распусціць надвае, як яму трэба, а не так, як табе карціць. Апусціць сякеру, калі ён ад вока твайго ўжо лопнуў, вачыма толькі прасачыць, куды палавінкі паляцелі. Тое ж самае і з касой. Не махаць лішняга, не гвалціць яе. Не мучыць траву. Угледзець, адчуць адну непакорлівую травінку і заказаць ёй месца. А пра трактар ужо і казаць няма чаго. Машына сама з розумам. Крануў з месца, паспявай ёй падпарадкоўвацца. Падпарадкоўвайся, а сам думай, пра ўсё, што набягае на цябе.

Але сядзець проста так і думаць, ды калі ў цябе яшчэ ўсе трубы перагарэлі, сіл не стае. А тут яшчэ Янка каля ног порацца, перашкаджае цвёрда трымаць адну думку. Сынок Дзевы Марыі, мо і

яго сынок, хто ведае. Але пра гэта Лазар думаць сабе не дазваляе. Дзеці для яго святыя. Святыя, канешне, чужыя дзеці, сваіх ён проста не ведае.

І ўвогуле лічыць, што чалавеку трэба забараніць думаць. Мазгоў у чалавека занадта і так ужо крыху. І тыя, што лішнія, каторымі ён думае нядрэнна было б і скараціць. Чалавек бы адразу дыхаць начаў вальней. Думкі да дабра не даводзяць, скарачаюць чалавеку яго век. Вельмі ж шмат непатрэбства ўсякага ў тых думках. Выкрый іх, свет у тую ж мінуту перавярнуўся б. Гавораць, што ёсць людзі, здольныя чытаць, што ў чалавека ў галаве. І ўсе на зямлі прыйдуць калі-небудзь да таго, што не трэба будзе слоў. Зірне чалавек на чалавека і пачуе, пра што ён думае. Так ужо было, кажуць.

Мо і было, толькі да дабра не давяло. Думка людская – сабака шалёны. І на ланцуг яе не пасадзіш, не ўтрымаеш на ланцугу. Не ведае яна мяжы брыдоце сваёй. Усе вялікія войны і маленькія бойкі паміж людзьмі ад яе. Усё самае пачварнае на зямлі ад думкі. Узяць таго ж камара ці жабу. Іх жа спачатку прыдумаць трэба, толькі тады яны з'явяцца.

Жахліва Лазару і журботна ад яго ж думак. І схавацца ад іх няма дзе. І сысці няма куды. Ён не хоча, не жадае, адмаўляецца думаць. Не Лазар ён, не Лазар. Зусім не Кагановіч. То быў мярзотнік, хаця курыва пры ім не зводзілася і гарэлка ў магазінах стаяла свабодна. Чаму ж аднаму Лазару ўсё, а другому – нічога. Тут таксама, пэўна, не абышлося без дурной і зайздрослівай злоснай задумы.

У небе ці на зямлі, але жыве нехта, падслухоўвае чалавека, яго думку і слова, прадракае і падказвае, кіруе чалавекам. Вока і Вуха. Паўтарае ў чалавеках і іх лёсе ўсё, што падглядзеў і падслухаў: кара такая адмысловая і вясёлая за мінулае і будучае. Жыў на свеце Лазар Багаты, вось табе, зямля, Лазар Бедны. Той панаваў, а гэты няхай за яго панства разлічваецца. У таго Лазара было ўсё: і курыва, і гарэлка, і хата, і сям'я, і сынок, пэўна. А ў гэтага Лазара – нічога. Ні хаты, ні сям'і, ні жонкі. Дзева Марыя замест жонкі. Так яна сама пажадала.

– Не хацеў дзіцяці,– сказала пасля першага аборту,– застануся назаўсёды Дзевай Марыяй.

І назаўсёды для яго і сяла засталася Дзевай Марыяй, хаця і нарадзіла плойму дзяцей. Танкам зрабілася. Заходзіць у магазін. Бабы плацце мераюць, а яна ляпне сябе па неахопных сцёгнах: «Чахол для танка ёсць?» А была лёгенькая дзевачка Марэйка на крыллях несла яе ў жыццё. І ён, Лазар, каб прытрымаць, каб ветрам не знесла, хадзіў, трымаючы яе за руку. З першага па дзесяты на зайздрасць усёй школе і вёсцы.

– Вось якое яно, каханне, – гаварылі пра іх і, пэўна, сурочылі. Хаця якое ў іх тады было каханне. Хадзілі, пабраўшыся за рукі. Але, можа, іменна гэта – пабраўшыся за рукі – і ёсць сапраўднае каханне.

Потым ён ужо рабіў на машыне шафёрам, Марэйка на ферме даяркай. Усё ішло ў іх да вяселля. Але ў яго з'явіўся вораг. Смех і грэх, які вораг, хлопчык смаркаты. Хадзіць яшчэ як трэба не навучыўся, а дарогу яму перабег. Сынок Толі Чорнага. Пяць ці шэсць годзікаў яму было. Харошы хлопчык, бойкі, разумны, але ўзяў моду яму, Лазару, помсціць.

Па выездзе з Залужжа перад самым паваротам на мехдвор невялічкая горка. Адна на ўсе чатыры вёскі. І малеча, дзеці ўсіх чатырох вёсак з самага пачатку зімы, першага снегу гарбузуюцца там. На саначках з горкі і з ветрыкам на дарогу, а з дарогі дагары нагамі ў кювет: санкі ў адзін бок, шапка – ў другі, хлопчык, захліпаючыся ад смеху і снегу, у трэці. Усё б нічога, дзеці ёсць дзеці, хай сабе сваволяць. Ён, Лазар, у свой час такі ж быў. Толькі Пятрок, так звалі хлопчыка, унадзіўся вырабляць гэта перад самым носам яго машыны. Лазар з варот ці з залужскага павароту ўсімі чатырма коламі на асфальт, а смаркаты Пятрок наперарэз яму з горкі. І так кожын дзень і не адзін раз. Нібы спецыяльна цікаваў ён за ім і яго машынай. Смерць сваю цвяліў, дабіваўся на горцы смерці.

Такія душы, што толькі праклюнуліся, а ўжо характар маюць, берагчы трэба. Вельмі ж яны крохкія і кволыя. Ім здаецца, што за плячыма ў іх крылы, а там жа толькі пялёсткі каляровыя, як у тых кветак першых. Пацягнуўся да іх хапатлівай рукой і пашкодзіў. Ім ужо ніколі не выпраміцца. Ніхто і ніколі не адчуе і не ўбачыць іх прыгажосці. Ён жа, Лазар Кагановіч, не адчуў, не зберог той кветкі. Вінаваты ён, што яна так і не паспела расцвісці нават. Загубіў ён яе. Звёў са свету нявінную светлую душу. І не адну, а адразу дзве. А ў тых жа душах было абяцанне яму і яго зямлі, роду яго. Абяцанне, што сам ён, Лазар Кагановіч, будзе і застанецца. Будзе і застанецца яго слядок. Петрака звёў у магілу чужымі рукамі і так, што, здаецца, застаўся невінаваты. Але ж сам ён чуе і ведае сваю віну. Здагадваўся і прадбачыў Петракову смерць, але не прыпыніў, не стаў пасярод дарогі ён, не задушыў тое сваё прадбачанне і думку сваю грэшную, страшную. А таму ўжо на другую смерць, смерць ненароджанага ўласнага свайго дзіцяці, пайшоў лёгка, з палёгкай і вызваленнем паўтарэння. І тым ужо назаўсёды адламаў, адрэзаў сябе ад гэтага жыцця. Ступіў на круг, з якога не збіваецца нават сляпы стары конь, што месіць гліну, з якой ганчар лепіць гаршкі і гладышкі. І ў яго замест жывога і жыцця атрымліваюцца адны толькі гаршкі і

гладышкі, якія ён сам лёгка б'е і коле. Толькі каўтне малака ці возьме лыжку кашы, паспытаць не паспее, а вакол яго ўжо адны чарапкі, таму што і ўласнае яго жыццё – гліна. Стварыў яго Бог з гліны, так гліняным ён і застаўся, без Петрака, без Янкі – без абяцання. Ён забыў дараванае яму Богам абяцанне. Заступіў свайму роду, свайму працягу дарогу...

Ёсць на свеце адметная такая парода людзей, што адразу, ад нараджэння, пачынае шукаць смерці. Пятрок, пэўна, быў з той пароды: настырных праўдашукальнікаў, юродзівых і вялікіх начальнікаў, калі, канешне, пашанцуе.

Петраку не пашанцавала. І ўжо як Лазар ні бараніў яго, колькі разоў ламаў санкі, думаў, што ад іх уся бяда. Але на паверку атрымалася, што бяда схавалася ў вяровачцы, непагляднай такой, растрапанай і вельмі доўгай. Пасярэдзіне якраз, дзе брацца рукой, вузельчык пушыўся, як заечы хвосцік, і ў дзядоўніку. І вока спатыкалася на тым хвосціку, нешта падказвала яму вяровачка, перасцерагала ад нечага. Але ён не здагадаўся – што. Ганяў, як зайца, Петрака па снезе, злавіў бы, збіў на горкі яблык. Але хлопчык быў спрытны і паваротлівы, у рукі не даваўся. Лазар пагражаў яму здалёку:

– Паймаю, заб'ю.

– Неа, не паймаеш...

– Прыдушу, як гада.

– Неа, не прыдушыш.

– Як кошку коламі прыдушу, і не войкнеш.

– Неа, не прыдушыш, бо ў цюрму пойдзеш. Пасадзяць у цюрму на чэп,– і заечыя вушкі, свае і ад шапкі-аблавушкі, пераможна тырчком ва ўсе бакі. І чырвоны звярковы язык на смаркатыя чырвоныя губы. – Не прыдушыш, бо ў цюрму пасадзяць.

Балбатаў як заведзены, і ніякая навука яму не на карысць, ніякага і ні перад кім страху.

– Я з цюрмы вярнуся, а цябе ўжо не будзе, цябе ўжо закапаюць.

– А я вылезу. Я вылезу. А цябе пасадзяць. З цюрмы не варочаюцца. Не варочаюцца.

Нібыта ён ужо сядзеў і зведаў усё пра тую турму. А з турмы сапраўды няма вяртання. Турма тут, турма там – усё аднолькава тым, хто сядзеў. Мо ў турме яшчэ лепш, даручаеш, аддаеш сябе ахове і дзяржаве. І не трэба вярэдзіць мазгі, думаць, няхай яны пра цябе думаюць. У турме больш волі, чым на свабодзе. Праўда твая, Пятрок. Не турмы трэба баяцца, а волі, дзе вось такі смаркаты Пятрок ды ён, падманны Лазар. Усё падманна, ілжыва. Дзіця яшчэ, здаецца, анёл, а

на самай справе горш за чорта.

Толя Чорны, з каторым Лазар пры кожнай сустрэчы ўжо браўся загрудкі, пагрэў Петрака папружкай. А ён, ці не ў той самы дзень, зноў на злом галавы з горкі і пад колы. Лазар і вочы заплюшчыў, чуў ужо на свае вушы, як енчыў Пятрок на ўсё наваколле, нібы шчанюк. Пасля бацькавай навукі думаў, тры дні на лаву не сядзе, а ён зноў у санках. Лазар паспеў толькі хапіць вокам вяровачку на санках, як заечы хвосцік. Каб не прытармазіў, наступіў бы пярэднімі коламі на той хвосцік. Не адплюшчваючы вачэй, у халодным поце ён уявіў сабе, што было б далей. Перастала б вяровачка віцца. Наступіў бы ён на хвосцік чорнай гумавай лапай кола, санкі б дзерганула, пацягло, закруціла і перакуліла. Заечая шапка-аблавушка ў адзін бок, а Пятрок цяжкаю белай галоўкай пайшоў бы пад колы.

Выразна так усё сабе ўявіў, нібыта гэта ўжо адбылося. У чорнае і чырвонае пафарбаваўся асфальт, чорна і чырвона зрабілася ўваччу. У адрынутай далёкай белі ліпла-светлыя, русявыя валасы Петрака. Але жахліва было не тое, што так выразна ўявіў сабе Лазар. Душа не супраціўлялася насланню, не стагнала і не пакутавала перад ім. Ён жадаў гэтага. Недзе быў і рады. Ён ведаў, што так будзе. Гэта было толькі паўтарэнне таго, што адбылося. Калі толькі – вось гэтага ён не помніў. Але было, было, усё ўжо было.

І ніякага на сэрцы ўзрушэння, ашаламлення. Нібы не Пятрок перад яго вачыма на асфальце ў крыві, а вусень нейкі ці чарвяк, каторым самой прыродай наканавана быць раздушанымі і расплясканымі па асфальце. І нейкая нават музыка гучала. Спяваў вызвалена ад жахання і напружання рухавік.

Не інакш нехта падслухаў тую вызваленую музыку, адчуў яго, Лазара, палёгку. Як жа інакш растлумачыць тое, што на гэтым самым месцы здарылася ўжо на другі дзень. На гэтым, пазбаўленым усякіх абмежаванняў свеце ўжо даўно няма нічога новага і нечаканага для чалавека. Усё самае жудаснае на свеце адбылося ўжо тады, калі ён не пажадаў хаця б у думках стрымліваць сябе, вырашыў, што схапіў ужо самога Бога за бараду. Даў волю сваім жаданням і думкам, спусціў іх, як сабаку з ланцуга. Бяжыць, улягае за гэтай думкай, як Пятрок на санках з горкі коціць, не прыкмячаючы, што ў сваёй хапатлівасці і паспешлівасці ён перагнаў ужо і думку. І думкі той ужо няма ў яго, і невядома, ці была яна. Вузельчык на вяровачцы, заечы ці авечы хвосцік у летнім дзядоўніку. Трэба, трэба чалавеку адчуваць нейкую рысу, мець абмежаванне і ў думках сваіх, таму што памысленае зло – зло ўжо і здзейсненае. Няма абмежавання злоснасці ў намерах, у думках – няма таго абмежавання і ў жыцці. Ды і сам той заечы

хвосцік і вузельчык на вяровачцы, што павязала яго, Лазара, са смаркатым Петраком – недамысленасць той жа думкі. Навокал і паўсюдна ўчора і сёння – плады гэтага асляплальнага недамыслення. Ім жа аслеплены і дзень будучы.

У радасным і лютым асляпленні Лазар прымусіў сябе адплюшчыць вочы і зірнуць на дарогу, хаця яму жах як не хацелася рабіць гэтага. Дарога бачылася чырвонай ад яго ўласнай крыві, што прыліла да галавы. Зімовы голы дуб, што рос пры дарозе, разгойдваўся на ветры, ківаў яму круччам чорных галін. Пятрок жывы і здаровы, распасцёршы рукі, ляжаў ніцма ў кювеце і выскаляўся.

– Задушу. Наступным разам абавязкова задушу,– зусім нязлосна, з нейкім нават невымерным сумам і жалем у голасе сказаў Лазар.

І з тым жа яго сумам і жалем па-даросламу адказаў яму Пятрок:

– Сядзеш у цюрму. Пасадзяць на чэп.

Лазар ціха крануўся і ціха пакаціў па асфальце, што паступова, па меры паскарэння губляў крывавасць, рабіўся аспідна-чорным. Ехаў і пазіраў у люстэрка. Пятрок без шапкі, пакінуўшы яе на снезе ў кювеце, журліва стаяў на абочыне дарогі, трымаючы ў паваду санкі, і пазіраў услед яму. І калі ён ад'ехаў ад Петрака настолькі, што ад яго засталася толькі пляма не больш за шапку на снезе, хлопчык, здалося, пачаў махаць яму рукой. Лазар развярнуў машыну і пагнаў яе назад. Але Пятрок пайшоў ужо, растаў у аплаўленых сонцам чырвоных снягах як свечка. Толькі заечая шапка-аблавушка засталася ляжаць у кювеце. Лазар выйшаў з машыны, падняў яе, абабіў ад снегу, вечарам, не кажучы ні слова, аддаў Толю Чорнаму.

А на другі дзень гэта ўсё і здарылася. Адбылося – як і прадбачылася. Толькі не ён, не Лазар, быў у той дзень за рулём сваёй машыны. Бог ці чорт уберагглі і захавалі яго. Хаця ўберагчы-то ўберагглі, але ці захавалі. Сесці за руль, не ведаючы чаму, хоць навошта Бога гнявіць, добра ведаючы і баючыся гэтага ведання, адмовіўся: учора выпіў. Вось тут ён не схлусіў. Але гэтае «ўчора выпіў» ніколі і ніхто не лічыў слушным, каб адмаўляцца ад работы. Ён жа даверыў машыну стажору. І ехаць таму было зусім нічога, падскочыць, падвезці да канторы праўлення дзве-тры дошкі.

Машына выехала за вароты, Лазар замёр пасярэдзіне мехдвара. Стаяў, слухаў і пачуў. Паранены, свідруючы душу крык стажора і віск тармазоў машыны, праўда, абышлі яго вушы. Ён пачуў, як ценелька цінькнула сінічка. Падляцела амаль да самага яго твару, смешна перабіраючы пярынкамі крылляў, замітусілася перад вачыма. Ён выпрастаў ужо руку, каб яна села на даланю і супакоілася. Сініцы на мехдвары былі прыручанымі і бралі сонешнік ці сала з далоні. І гэтая

памкнула ўжо да яго рукі, але раптам спынілася, цінькнула і пайшла свечкай у неба, заціхаючы голасам, але так і не заціхла. Сінічка сціхла, але голас яе застаўся ў ім, у Лазары. Увайшоў у яго камарыным пракусам і назаўсёды захаваўся ў ім, дзе б ён ні быў, што б ні рабіў.

І ў чырвоным водбліску запаленай печы Янка, што падбіраў з падлогі трэсачкі і нешта ладзіў з іх, як напамінак яму, Лазару, аб тым голасе сініцы з неба. Ужо калі цягнулася і цягнулася доўгае і нуднае следства, у тым следстве быў забыты, прапаў і сам Пятрок, вырашаўся ж лёс жывых, ён рыхтаваўся да вяселля, Марэйка сказала, што ў іх будзе дзіця:

– Сын будзе, Янко! – Ён здрыгануўся, успомніў Петрака.

– У нас не будзе дзіцяці, Марэйка. Не будзе ў нас сына.

– Як гэта не будзе? Куды ж ён дзенецца, калі ўжо ёсць?

– Не прыкідвайся дурной, не прыкідвайся Дзевай Марыяй...

Ён сам, не хто-небудзь, назваў яе Дзевай Марыяй. Таксама, пэўна, лёс і нарачонасць

– Без мяне добра ведаеш, куды ён дзенецца.

– І ты згодзен? Ты мяне просіш?

– Я патрабую... Ну добра, добра, я прашу цябе, – прыкмеціў на вейках яе слёзы, змяніў голас Лазар.

– Дык патрабуеш ці просіш,– Марэйка плакала, але яшчэ, напэўна, не давала веры, што ён гэта сур'ёзна.

– Я патрабую і прашу. – У ім усё рвалася і гарэла, цінькала сініца. Голасам сініцы спяваў у арэшніку салавей першую сваю вясновую песню. Заліваўся, шчыраваў, што артыст на сцэне. То плакаў, пэўна, сам ненароджаны Янко. Яго Янко, якому не суджана было нарадзіцца, убачыць ні сініцы, ні салаўя, вялікіх артыстаў гэтай вялізнай сцэны пад аксамітам амаль паўднёвай цёплай ночы з расплаўленым у рацэ вадкім золатам поўні, сплываючым па вадзе срэбрам зорак. Плыла з-пад ног, цягнулася маладой травой да рэчкі і зямля. Які яшчэ Янко, на якія яшчэ новыя пакуты патрэбны ён гэтай зямлі, калі па ёй ходзяць такія, як ён, Лазар Кагановіч, каб ён, бацька Янкі, учарнеў і зрабіўся Толем Чорным, як той стаў чорным пасля смерці свайго сына Петрака. Навучыцца яго, Лазара, Янко хадзіць і смаркацца. Купяць яму заечую шапку, возьме ён саначкі з распушанай на канцы, як заечы хвосцік, вяровачкай. Пацягне саначкі на горку і кінецца з горкі на злом галавы ўніз. І толькі-толькі зашчыміць ад радасці яго маленькае сэрца, а тут і Лазар на сваёй машыне. Няхай не Лазар, няхай Гога-грузін ці той жа Лаўрык Берыя, стажор які-небудзь новы і малады. Якая Янку розніца. Якая Петраку

была розніца, ад каго ці ад чаго загінуць: пад коламі машыны, ад Чарнобыля, Афганістана, СНІДа, насмарку. Спытайце ў іх, Петракоў і Янак. У гэтых свежых дзіцячых чарнобыльскіх магіл. Раней спісвалі смерць на вайну і Сталіна. А цяпер?.. Хіба што толькі на галоснасць і дэмакратыю. Прападзіце ж вы пропадам з такой сваёй шматгалоснай смяротнай дэмакратыяй. Лепш, больш літасціва гніць у турме, ведаючы, што гэта турма, а не родная бацькоўская хата, не бацькаўшчына.

– Я прашу і патрабую,– сказаў Лазар. – Не трэба сына і дачкі таксама: інакш не будзе і нашага вяселля.

– А вяселля і так не будзе, – адказала яму Марыя. – Я і без вяселля і вянца была тваёй жонкай. І падпарадкуюся, слухаю цябе, муж мой. Але толькі з гэтай мінуты я больш не жонка табе. А дзеці ў мяне будуць. І шмат, толькі не твае, не твае. І не ад мужыкоў, не ад мужыкоў.

– Ад каго ж яны будуць? Я табе зараз...– Быў Лазар тады малады яшчэ зусім і гарачы, скоры на руку. І падняў ён ужо руку, каб павучыць Марэйку. Але яна засмяялася і спыніла яго. І быў той смех нязнаны ім і горкі.

– Не твой гэта ўжо клопат, ад каго яны будуць. Можаш не раўнаваць. Не ад мужыкоў, не ад мужа...

– Ад каго ж тады? Ад духу Божага?

– Ад духу, даражэнькі, ад духу. Толькі не ад Божага, Атцом клянуся, матэр'ю клянуся, хлеба мне ў горадзе не далі. Сала я прыхапіў з сабой, сала я ўзяў сваё...

– Які ж грузін не любіць сала.

– Люблю, таму і ўзяў. А хлеба паленаваўся ўзяць. Чаго, думаю, хлеб браць, калі ў нас яго толькі па бохану на рыла даюць. Куплю ў горадзе гарадскога. Забег у адзін магазін, а мяне пытаюць:

– Пашпарт ёсць?

– Канешне, дарагі,– адказваю.– Які грузін сёння без пашпарта. І, як наш Уладзімір Ільіч кепачку, горда пашпарт над галавой. А другою рукой за хлеб. А мне сімпатычная такая за касаю, дзе каса, дзе цыцкі, не адразу і разбярэш – усюды капітал:

– Ты яшчэ і грузін? – кажа.

– Грузін,– адказваю.– Толькі не той, савецкі, наш, вясковы.

– Пакажы пашпарт.

Я булку хлеба прама на голыя цыцкі ёй і паклаў. Дзержыцца, не падае. Пашпарт разгарнуў. «Не жанаты», – кажу.

– А мне да фенькі,– адказвае,– твая жонка. У мяне свой сабака добры, хоць прывязвай. Прапіску паказвай.

– Глядзі, глядзі, дарагая і салодкая, во і прапіска.

– Бачу,– кажа,– сяло Белая Лужа Гомельскай вобласці. А ты заблудзіўся, грузін. Ты ў Брэсцкую вобласць трапіў. Мы кормім толькі сваіх, брэсцкіх грузінаў. Ты перайшоў граніцу. Ідзі назад, адкуль прыйшоў. Хай цябе Гомель корміць.

– Зачэм назад? На які зад? Ты мяне, дарагая, не за таго прымаеш. Я не адтуль прыйшоў...

– Усё роўна хлеба табе на дамо, не паложана.

– Як гэта не паложана. Мо чаго-небудзь іншага ты мне не дасі, а хлеб...– І руку міма буханкі за пазуху ёй. Не глыбока за пазуху, у яе ўсё на вятрыне, на выстаўку-продаж і так. Я б з ёй дагаварыўся на булку хлеба. Але тут народ падняўся за свае правы, сацыяльную справядлівасць. Аб'ядаю я іх. Ходзяць тут па чужых гарадах усякія грузіны і карэнных аб'ядаюць. Голас народа – вялікая сіла, калі яго больш трох. Выкінулі мяне з магазіна. Без хлеба, канешне, але з пашпартам. Зняважылі пашпарт. Пад ногі мне ў гразь кінулі. Грузіны – народ горды. Думаю, падымаць той пашпарт ці пакінуць ім, шакалам. Падняў. Есці вельмі хочацца. Ад той магазіншчыцы-булачніцы апетыт падняўся. Думаю, не адна булачніца ў горадзе і не адна такая жанчына-булачніца за граніцай тут. Але, паверыце, ніводнай парадачнай жанчыны ў горадзе не сустрэў. Хлеба не далі. Не далі хлеба грузіну. Ва ўсім горадзе не знайшлося чалавека. Усе наеліся – і памерлі. У сталоўку пайшоў, і там не далі. Хаця людзі там, здаецца, жывыя, сядзяць за сталамі, жуюць, як і ў нас тут. Кажу ім: «Я есці хачу». А яны мне: «Пакажы пашпарт».– «Людзі,– крычу.– Людзі добрыя! Сабаку свайго вы па пашпарту корміце?» – «Не ўводзь у грэх, – шыпяць,– а не то прыб'ем. Як сабаку заб'ем, хоць ты і з пашпартам». У сталоўцы боршч даюць. Узяў я, хлебца прашу. «Не паложана, не паложана. Пашпарт табе дадзены, што ты хоць і наш, але чужы».– «А без пашпарта ваш буду?» – не вытрымала душа грузіна. Талерку з баршчом аб падлогу. Яна бляшаная, не разбілася. Сам з ног да галавы ў капусце. Пашпарт – на дзве палавінкі. Вось цяпер глядзіце, завідуйце. Няма больш у Сталіна пашпарта. А я ж Сталін, Сталін, вы чуеце? Вы самому Сталіну куска хлеба пашкадавалі. А я вас усё жыццё карміў. Аддзячылі...

– Ну і хлусіш ты, Гога, – Лаўрык курчыўся ад смеху.

– Я хлушу? Ды я ніколі ў жыцці не хлусіў. Я князь, каб ты ведаў. – Гога пакорпаўся ў кішэні кухвайкі і выцяг разадраны надвае пашпарт.– Глядзі, мой, а не чужы. Глядзі, Лазар, вось гэта я?

– Прызнаю, – сказаў Лазар.– Гога, гэта ты, толькі сыты яшчэ... Але ўсё роўна, каб пад'есці, дзерці пашпарт?

– Я не за хлеб, Лазар. Не з-за хлеба. І сала ім сваё пакінуў.

– Сала там пакінуў, а пашпарт разадраны, дзве палавінкі, але захаваў пры сабе.

– Захаваў, таму што горды.

– Не, Гога, ты не горды, ты савецкі.

– Правільна, правільна, Лазар. Я – як і ты. Я савецкі, вясковы, таму і горды.

– Хай будзе так, – пагадзіўся Лазар. – Хай застанемся мы аднолькава роўнымі. Толькі ты хацеў тады есці, а цяпер я хачу напіцца. Як мне хочацца напіцца сёння, хлопцы, на ўсё астатняе жыццё.

Такім чынам Лазар, напрасіўся сам. Смага ў кожнага была адзіная і застарэлая, ад сухой вясны, ад вялікага і неспадзяванага шчасця, што ў кожнага з іх ёсць махорка, і цяпер няма патрэбы хавацца па-за вуглом і смактаць падабраны на дарозе недакурак. Усе мелі табаку, а пяцёра і шкарпэткі

– Едзем, хлопцы, у ЦК, – першым падаў каманду, выказаў услых тое, пра што думалі ўсе, Лаўрык.– У ЦК, хлопцы, я там усіх ведаю, усе свае людзі. І яны ўсё маюць.

Адчапілі будку-прычэп. Уручылі ключы ад машыны Лазару Кагановічу, як былому вадзіцелю, запхнулі яго ў кабіну, уссадзілі на шафёрскае сядзенне.

– А мне куды? Што рабіць, хлопцы, мне? – узмаліўся законны шафёр.

– Едзем з намі, ты ж наш брат, не пакрыўдзім.

– Не, хлопцы, няможна... Вы мяне трошкі пабіце. Вы ж усё роўна цяпер бандзюгі, зладзеі.

Біць яго адмовіліся, хоць ён і вельмі ўжо зневажаў іх.

– Тады я пайду званіць у міліцыю,– сказаў замежнік. – Вы едзьце сабе, а я тыха-тыха пайду. А перад звонам яшчэ і засмалю, колы не пашкадуеце махоркі.

Махоркі замежніку не пашкадавалі, але што рабіць з ім далей, не ведалі. Дапускаць яго да тэлефона было самазабойствам.

– Абарваць тэлефон, – прапанаваў Лаўрык, – парваць тэлефонныя правады.

– Псаванне дзяржаўнай маёмасці...– мармытнуў Лазар.

– Няварта нічога псаваць, – знайшоў выйсце замежнік, тыцнуў пальцам у кішэню бушлата: – Оцэ тут у мяне ключы від будана майго. Адбярыце і замкніце ў будане. Махорка ў мяне ёсць, хлеб, сала заўсёды з сабою. Павячэраю, пакуру, а там пабачымо.

Так і зрабілі. Укінулі яму яшчэ ў будку саломы, каб паспаў, калі

яны затрымаюцца, а самі паехалі. Наказалі, праўда, каб асабліва не налягаў на сала: яно яшчэ і ім спатрэбіцца.

Лазар Кагановіч сядзеў на дубовай калодцы каля печы і працягваў думаць. І гэта зусім не цяжкая праца выматала яго так, што кінула ў пот. Надакучыла, ён стаміўся ад яе так, нібы дровы калоў. Цэлы ранак, а па веснім часе, лічы, дзень, сабаку пад хвост. А ён і паловы сваіх думак не передумаў. Даўно павінны ўжо быць каля трактара. Пара б і падымацца, здымацца пеўніку з седала. Але Лазар сумняваўся ў сабе, ці здольны ён устаць. Ды і не так ужо і блага было яму сядзець. За каўнер не капала. Наадварот, так хораша прыгравае ў плечы агонь, што дагарае ў печы, так хораша прыладзіўся ён, уседзеўся на дубовым цурбане.

Сесці, праўда, было складана, а ўседзеўся – нічога, нібыта так і трэба. Так і трэба жыць, седзячы на цурбане каля печы, як цвіркун. У хаце гола, ні крэсла, ні табурэта. І ён амаль голы. На худых клубах толькі чорныя сацінавыя трусы да калена, ды на кашчавых плячах мазутная сіняя майка. Чорны, як трактарыст, кот з белай грудкай, у чырвоным крузе водбліску полымя, што падае з печы, чорнай лапай намывае гасцей. Русявы Янко закапаўся ў трэсках, майструе ці то самалёт, ці то шыбеніцу.

Майстраваў увесь ранак, а цяпер кінуў, калупае ў носе, пазірае на яго, Лазара, і хітранька пасміхаецца. І Лазар адчувае, што яму не стае яго голасу, хочацца, каб Янко пачаў з ім гаварыць і назваў татам. І Янко лыпнуў у яго бок хітрымі вачаняткамі, разяўляе рот, але гаворыць зусім не тое, што прагне пачуць Лазар:

– Дзядзько...

– Што? Які я табе дзядзько? – Лазар спрабуе ўстаць. Янко адкочваецца ад яго ног і смяецца. Лазар зноў умацоўваецца на цурбане. Няма больш ахвоты падымацца, гаварыць з Янкам. На самай справе, які з яго бацька. Тысячу разоў мае рацыю Дзева Марыя, калі гоніць яго з хаты пасля кожнай праведзенай з ім ночы:

– Ненавіджу, ненавіджу. Глядзець на цябе вочы не трываюць.

– А ноччу глядзела, ды яшчэ як...

– Не на цябе, не на цябе. Вазьмі люстэрка, зірні на сябе сам. Адразу ж сканаеш.

– Мужык як мужык.

– Ты, мужык?

– А што? І дзеці ёсць. Цэлая куча. Шасцёра.

– І ты думаеш, што каторы з іх твой. Твой там, на тым свеце. На тым свеце твая жонка. На тым свеце твае дзеці.

– А ад каго ж ты на гэтым раджаеш? Мужыка ж у вёсцы

ніводнага, а ты штогод цяжкая.

– Я і на той свет кожын год хаджу. Але не да цябе, не да цябе. Там мужчыны яшчэ захаваліся, ёсць. Вось хаця б бацька твой там...

І як бы гэта неверагодна ні выглядала, але ў бацьку Лазар гатовы быў паверыць. Мужчына быў гожы і дужы, да самай смерці ніводнай спадніцы не абмінаў. Пад шэсцьдзесят яму ўжо было расказваюць. Ішоў ён ці то ў горад, ці то з горада па дарозе пасля дожджыку. Бачыць, на пяску свежы след босай нагі. Калі босая, вядома, жанчына, рашыў. Якому спраўнаму мужчыну цюкне ў галаву адпраўляцца ў дарогу босым. Падзівіўся яго бацька на акуратную босую ножку на пяску, падхапіўся і бягом услед. Дагнаў, але не жанчыну толькі, а мужчыну. І адразу, не доўга думаючы, развярнуўся і ў каршэнь таму чалавеку, каб не хадзіў па зямлі босым, каб не ўводзіў у грэх, не спакушаў сапраўдных мужчын. І любіў яго бацька Марэйку, адзначаў. Калі ў яго, Лазара, з Марэйкай разладзілася, ужо адыходзячы, паклікаў ён Лазара, сына свайго, і сказаў:

– Усё дарую і бласлаўляю. А Марэйку не. Такая спраўная дзеўка. І такі дурань сын. Прасці мяне, Божа, грэшнага...

З тым і адышоў. І хто ведае, хто на гэтым ашалелым свеце здольны нешта ведаць. Хто з жывых дзе і на якім сёння свеце знаходзіцца. Уначы ён абдымаў Марэйку, уваскрашаў таго, ненароджанага, забітага ў лоне маці сына, Петрака Толі Чорнага. А калі развіднела, уднела, цененькая светлая Марэйка перавярнулася ў цяжкую і груваcткую Дзеву Марыю. Вох, Дзевы Марыі, Дзевы Марыі...

Ён баяўся насення свайго – голасу і воласу, крыві сваёй. І спусташана жахлівы, як выпалены, быў кожын пражыты дзень учора. Падобны крохкаму птушынаму яйку – дзень наступны. А ночы, кароткага забыцця і супакаення, не ведаў ніколі. Глухла і бралася попелам вокамгненнае адчуванне радасці і шчасця, што нараджалася ўначы, калі снілася дзяцінства. З першым промнем сонца ўсё згарала ў душы, як прагарае цяпер гэтая запаленая зранку печ. Бярэцца попелам яшчэ зыркі вугаль, толькі зрэдзьчасу бліскавіцай усхопіцца, задрыжыць і патухне спалоханая іскра. Цеплыні хапае, каб адно плечы сагрэць.

Добра, што няма Дзевы Марыі, сышла некуды з хаты дзесьці яшчэ зранку. Хораша яму каля цёплай печы разам з Янкам і пры кошцы, пад ужо тагасветныя ўздыхі на другой палавіне хаты старой Аўронні, Марэйчынай маці, пад роўнае дыханне дзяцей, што спяць каля яе боку. Старая Аўроння гневаецца на яго, не хоча да яго выходзіць, а ён на яе не крыўдуе. Яна добрая, і ўсё на свеце добра,

калі чалавек мае хату, дах над галавой, ён можа дазволіць сабе і лішняга, пасядзець на кругляку каля печы.

А работа? Нікуды гэтая работа ад яго не дзенецца. Будзе дзень і будзе што рабіць. Дзеля працы ж і нараджаецца чалавек. А больш – навошта ён патрэбны. Зямля прагла працаўніка, вось яна і нарадзіла чалавека, прыстасавала яго, вылепіла з яго, што ёй трэба: рукі, ногі дала і трошкі галавы. І давай, шуруй лады: круглае каці, плоскае кантуй.

Толькі Лазар Кагановіч ні кантаваць, ні каціць не здольны. Сёння зямлі ён не памочнік. Зранку ў яго амаль заўсёды галоўка бо-бо і ў роце кака. Здаецца, што не толькі ў яго аднаго. З пахмелля зранку чадна дыхае ўся зямля. Ці то працаўнік яе напаіў і атруціў, ці то яна спаіла і атруціла свайго працаўніка.

Адно б толькі ў каго спытацца: каму патрэбна яго праца. Ён тут, у «Верным шляху», арэ і сее, потым жа ўсё, што вырасціў, ідзе пад снег. А збірае ён у зоне. І расце там, у зоне, куды лепей, куды лепей і плоцяць, удвая больш. Гучыць толькі жахліва: зона. Але каму турма, а каму маці радна, і які зэк баіцца сёння зоны. Ён рабіў там мінулую восень і зіму. Тут з заліўных сенажацяў не здолелі ўзяць другога ўкосу, а там, у зоне, пакасілі і прыбралі ўсё чыста. Сельгастэхніка дала «КамАЗы», і паперлі сюды бульбу, сілас і сянаж. Ён грузіў. Зарабіў як ніколі. Праўда, свае соткі, бульба, што ў маці пасадзіў, пайшла ў зіму нявыкапаная. Але не бяды, грошы ёсць, можна купіць. Трохі горш з малаком было. Малака цяпер у вёсцы з сабакамі не знойдзеш, ні за якія грошы не купіш. Ужываць яго забараняюць. Нават тым, хто трымае карову. Атручана малако, радыяцыя. За гэта прыплочваюць, трыццаць малочных, а як тут гавораць – грабавых рублёў. Ён грошы бярэ, а малако ад сваёй каровы п'е, як усе тут.

А яшчэ па вяртанні з зоны яму загадалі ўсю апратку, што была на ім і пры ім, спаліць. А яна яшчэ нічога. Новыя ж яму далі ў зоне чобаты і бушлат. І ён не такі дурань, каб сваё дабро сваімі рукамі паліць. Спатрэбіцца яшчэ, жыць жа яму не толькі сёння, а і заўтра трэба. Трэба ж галаву мець. І як у ваду глядзеў. Вось і надышоў дзень, калі трэба шукаць тую прыхаваную вопратку і абутак.

Учора ён, Лазар Кагановіч, прапіў апошнія боты разам з новымі шкарпэткамі, каторыя здабыў з лёгкай рукі грузіна. Сцяглі з ног, калі валяўся на беразе ракі п'яны. Мо і сам разуўся, кінуў пад галаву, каб больш зручна ляжаць было і ніхто не пакваліўся з ног зняць. П'яны, п'яны, а цяміў, што ботаў у свабодным продажы ў магазінах няма, і будзе ён цяпер атрымліваць тыя боты як салдат ці прапаршчык у войску: адны на два гады. Ён цяміў, але хтосьці меў галаву больш

кемлівую. Заснуў Лазар, а той кемлівы выцяг боты з-пад галавы ў яго, прырабіў ім, як кажуць, ногі. Не здольны ж боты самі без ног хадзіць. Вось загадка была б. Хаця ўсё на гэтым свеце можа здарыцца. Толькі не, боты яшчэ самі не ходзяць, хіба калі ў казках.

Хутчэй за ўсё так, як ён мяркуе, з ботамі адбылося. Сцягвалі б з ног, ён адчуў бы і не даўся. Бутэлька ж чарніла ў кішэні захавалася. А вось боты са шкарпэткамі... Анучы таксама яму пакінулі. Па шкарпэтках ён не тужыў, яны хоць і за грошы, а ўсё роўна на дурніцу яму дасталіся і не ношаныя яшчэ ім, таму амаль і не яго, не прыраслі да ног і душы.

Былі яшчэ страты. Ад палучкі руб ды коп ды гузак на лоб. Палучку ён сапраўды прапіў. Гэта ўжо так з кожным, хто звяжацца з ЦК. А ў яго на лобе так напісана: зэка з ЦК у адным хамуце да самай смерці. Ён жа да ўсяго яшчэ двойчы парушыў зарок: сеў за баранку машыны, выехаў за межы калгаса. Таму былі ў яго той дзень і яшчэ страты... Усюды адны толькі страты. Але мо гэта не так ужо і блага: калі ёсць што страчваць, той і знаходзіць. Дзева Марыя знайшла яго ўчора ўвечары на беразе рэчкі. І выпіў ён з ёй тую захаваную бутэльку чарніла. І спаў не як босы сабака на холадзе пад плотам, а ў цяпле, на ложку. Вось таму ў яго сёння свежая памяць. Нягледзячы на ўсе страты радасць ад паездкі ў ЦК.

Ад мехдвара калгаса «Верны шлях» да ЦК нацяпнькі роўна дванаццаць кіламетраў, вымерана ўсімі спідометрамі калгасных машын. Але дванаццаць, гэта калі строга па прамой. А як вядома, прамая дарога не заўсёды верная, хто прамікуе, той дома не начуе. Вось давялося яму выкручваць па аб'ездах, кантрабанднымі патаемнымі сцежкамі абыходзіў пасты ДАІ і міліцыі, каб не трапіць ім на вока, лучыў падабрацца да ЦК з тылу. Пашанцавала, праскочыў, без прыгод абмінуў цэнтр горада. Тут ужо аб ім паклапаціліся з усіх бакоў забароннымі знакамі. Самі сябе, гаркам і гарвыканкам з фаняровай, прыбітай да плота «Аўрорай», што па сённяшні дзень страляла невядома па якой уладзе.

Улады ў горадзе, цэнтр горада, рэканструяваліся. Абрысы той рэканструкцыі былі яшчэ невыразныя і простаму воку незразумелыя. Усё было разбурана толькі, у насыпах белага пяску і чырвонай гліны. Помнік Леніну і два, як заведзена ў нас у кожным горадзе, асноватворныя будынкі, яшчэ так-сяк, хоць і напаўслепа, нешта бачылі вакол сябе. Бачылі перад сабою вуліцу і дарогу і нейкую яшчэ перспектыву. Аднапавярховыя ж дамкі былі зусім невідушчымі. Упіраліся вокнамі ў тыя пясчаныя і глiністыя насыпы. Дрэвы, што абкружылі плошчу з усіх бакоў, былі камлістыя, але пазбаўленыя

вяршынь, без галавы, таполі, у асноўным, абрэзаныя да свайго таполевага пупа. Усё перакапана, успучана і развалена, тырчком у неба, як у сённяшніх дзевак прычоска: «палюбі мяне з разбегу» ці «мая маці робіць на макароннай фабрыцы».

Увогуле, цэнтр быў забарыкадзіраваны і закрыты, ні канём праехаць, ні пешшу прайсці, чаму Лазар быў толькі рады. Праз нахалаўкі і хрушчобы яго выпхнулі на ўскраіну горада, дзе ўсе спрэс раявалі: райсельгасхімія, райсельгастэхніка, райпрамкамбінат. У тым раі, як спяваецца ў адной старой і добрай песні, быў «промежуток малый», дзе месцілася і гола пульсіравала індустрыяльнае і гандлёвае сэрца горада. А па праўдзе кажучы, два нават сэрцы.

Адно навідавоку, што выкрывала сябе адразу і з усіх бакоў. Яшчарападобнае нагрувашчванне стальных апор ЛЭП, надзіва брухатыя хобаты труб шляхаправодаў, што сланова ўпарта ўздымаліся ўгару і пакорліва прыпадалі, паўзлі па зямлі. Бетонныя кубы і кубікі станцый, падстанцый і элеватара. Заціснутая паміж імі рэчка Жыдка, з пранесенай скрозь стагоддзі па-біблейску журлівай вадою. Неба ў буйную клетку стальной і гумавай арматуры электраправодных жыл, кабеляў. І сонца на небе таксама, здавалася, у той рукатворнай арматурнай клетцы. Далёкія ад яго, клеткава высвечаныя дамкі ўсе спрэс будзённа драўляныя і нагадвалі нейкі статак невядомай на зямлі жывёлы, што прыпала разяўленымі пашчамі дзвярэй да яркай, маладой веснавой зеляніны.

Гэта і быў ЦК – цыганскі кааператыў, другое, нябачнае сэрца горада. Тут усё прадавалася і ўсё куплялася. І ўсё было. Адкрыты размеркавальнік для бедных, згаладалых і сасмяглых. Усё за шалёныя грошы тым, хто тых грошай не меў: люмпенам ад люмпенаў пралетарскае прывітанне. Тут жа была і чыгунка, тупіковая ветка. І як усякі наш тупік быў надзіва ажыўлены. Забіты гружанымі і пустымі вагонамі, аўтамашынамі, што падвозілі і бралі груз. Па пуцях сноўдалі цыганкаватыя, смуглявыя лакаматывы, падобныя на цыганоў змазчыкі і даглядчыкі вагонаў і самі цыганы, якіх нельга было адрозніць ад гэтых змазчыкаў і даглядчыкаў.

Няспынна скаланалася і гула зямля. Абодва сэрцы горада, індустрыяльнае і гандлёвае, яўнае і падпольнае, у гэтай кропцы, пэўна, зліваліся і біліся як адно. Наверсе пульсавала шалёная, у тысячы вольт энергія, сквірчэла і трымцела ў закураным небе. І ўнізе ўсё было таксама агучана. Усё мігцела, калыхалася, фантаніравала, раскладвалася на галасы, гаворкі і інтэрнацыянальны віск і енк жывёлы і хатніх птушак.

Усюды кіпеў, віраваў зусім не падпольны, адкрыты гандаль,

купля-распродаж. Яшчэ на далёкіх подступах да ЦК шпачынымі чародкамі пырхалі цыганяты і прапаноўвалі шыкоўны тавар: жвачку, запалкі, цыгарэты. Гэта быў, пэўна, дазор. Шпачаняты вучыліся лётаць. Завулкі, крыху бліжэй да ЦК, стракатa і шматкалярова цвілі ад квяцістасці хустак і спадніц. Сярод іх зладзейкавата шнарылі гандляры і гандляркі зусім не цыганскага выгляду і аблічча. Мо сам дух гэтай зямлі быў такі: купіць-прадаць. Калі меркаваць па тым, што тут цякла рэчка са старажытнай і красамоўнай назвай, тут некалі быў цэнтр горада. Адсюль горад пачынаўся, сюды ўрэшце і вярнуўся.

Лазар і яго каманда мінавалі рэчку Жыдку, уехалі ў застой і лад драўляных дамкоў, не вельмі заможных зблізу. Але ўвогуле даволі прыстойных, хаця і занядбаных, з адбіткам іх веку на гэтай зямлі і часовасці жыхарства ў іх чалавека. Праехалі трохі па бруднай, занесенай пылам і сярод вясны вуліцы і спыніліся, Каля варот, як чакалі іх, стаялі цыган Карл і цыганка Клара. Лазар добра ведаў іх: Клара ў Карла ўкрала кларнет. Карл у Клары ўкраў каралы. І Карл, і Клара, вядома, ні ў каго і нічога не кралі. Людзі былі сур'ёзныя і крутыя. Не тое што ўсякая шушамець на подступах да ЦК – цыганскага кааператыву. Ці не сам Карл і ўзначальваў той кааператыў. Поўнае яго імя Карл Маркс. І быў ён вельмі падобны на Карла Маркса. Копія яго ў цыганскім выкананні. З залатым кальцом у наздры. І дробным, і, здаецца, усякім іншым гандлем сам ён не мазаўся. Ён толькі скоса асаблівым паглядам глядзеў на Клару. І адна толькі Клара разумела гэты яго пагляд. Але і яна нічога з сваёй хаты не выносіла, нічога са сваіх рук не прадавала, а называла адрас і прозвішча, куды прайсці, да каго звярнуцца.

А сам Карл любіў пагаварыць аб надвор'і. Гэта быў не цыган, а сіноптык. Ён дакладна ведаў, якое цяпер надвор'е ў Мадрыдзе, Токіо і Вашынгтоне, дзе і які радыяцыйны ўзровень.

І цяпер, калі Клара ўжо спытала, колькі і чаго ім трэба, дасведчылася, ці ведаюць яны цану: бутэлька гарэлкі – пятнаццаць, чарніла – фугас – сем і назвала адрас, Карл распачаў гаворку аб цяжкасцях сённяшняй вясны. Але, на шчасце, гаворка тая хутка перарвалася. Пачынаючы выкладаць свае думкі, Карл звычайна закурваў. Але толькі ён духмяна зацягнуўся нейкім заморскім тытунём, як яго перабіў грузін, пажадліва ўдыхнуўшы цыганскага дыму:

– Жадаю,– сказаў ён, тыцнуўшы пальцам ледзь не ў рот Карлу.

– Чаго? – адхіснуўся той, не зразумеў.

– Жадаю яшчэ цыгарэт... пачку.

– Якія маеце ласку курыць, малады чалавек? – ласкава, а ў той жа

час і пагрозліва страсянуў грываю чорны з сівізною цыганскі леў.

– А лепшыя...– разгубіўся грузін.– Самыя лепшыя.

– «Прыму», «Астру» ці мо «Герцагавіну флор»?

– Ну чаго, чаго,– сказаў грузін,– ледзь што, дык адразу «Прыму», «Астру». У мяне іх як гразі. «Герцагавіну флор» давай.

– Неблагі густ, – ухваліў Карл.– Сам Іосіф Вісарыёнавіч Сталін курыў.

– Ведаю, таму і бяру. Увесь вольны ад работы час толькі «Герцагавіну флор». І гэтыя, як іх, што ты толькі даставаў, з вярблюдам. Мне таксама гэтых, як іх, пачак.

– На гэтыя, як іх, у цябе, дарагі, грошай не хопіць, – Карл курыў «Кэмэл».– Гэта цыгарэты амерыканскага прэзідэнта, а не твайго земляка. – Карл меў усё ж учэпістае вока, угадаў грузіна.

– Блок, – рашуча махнуў рукой Гога.

Карл зірнуў на Клару. Тая схіліла галаву і зрабіла яшчэ нейкі нябачны жэст. Як з-пад зямлі, каля брамкі ўзнік цыганчык.

– Дзвесце рублёў, – сказала Клара,– зараз прынясуць.

– Гэта што? – здзівіўся грузін.– Цэлы яшчык?

– Чаму яшчык? Блок, як заказваў. Што, дарагавата? Адмаўляешся? – Цыганскі барон, правадыр сусветнага пралетарыяту, падобна, выпрабоўваў грузіна.

– Бяру, – рашуча і цвёрда мовіў грузін. Павярнуўся і з адчаем і мальбой паглядзеў на Кагановіча. Лазар адмоўна пахітаў галавой. Тады ён кінуўся вокам шукаць дапамогі ў Лаўрыка. Але ў таго, як на грэх, развязаліся шнуркі і ніяк не хацелі завязвацца. Ён біўся над імі амаль вечнасць.

– Прытрымай блок спецыяльна для мяне, – сказаў грузін.– Разумееш, зберкніжку дома забыўся. Мелач засталася ў шафе ў выхадным касцюме. Пры мне толькі так сабе, на малако ды на вінцо тут,– і грузін ляпнуў сябе па кішэні целагрэйкі, дзе ляжала ўся палучка за месяц.

– Разумею,– сказаў цыган.– «Кэмэл» табе не трэба.

— Чаму, чаму не трэба,– грузін завёўся.– Пачак бяру, дваццатку адсцёгваю.

– Забіраем увесь блок,– не вытрымаў, наважыўся Кагановіч. – Курыць дык курыць.

– Малайцы,– Карл у захапленні пачаў біць у ладкі. – Гэта па-цыганску. Харошае сёння надвор'е, хлопцы, у Вашынгтоне.

– Чаму ў Вашынгтоне, чаму толькі ў Вашынгтоне? – пакрыўдзіўся Кагановіч. Ён ужо шкадаваў толькі што кінутых сабаку пад хвост

шасцідзесяці шасці рублёў і шасцідзесяці капеек, на траіх так раскладвалася. І дзве капейкі трэба было яшчэ дадаваць. Не дзялілася дзвесце на тры. Гэта ж колькі чарніла можна было выпіць. Чарніла на дзвесце рублёў добра дзеліцца на тры і на трох. А тут мо і на двух прыйдзецца дзяліць. Упрэцца Лаўрык – у іх з грузінам і грошай не хопіць. А з калектыўнага катла не возьмеш. Агульныя грошы толькі на выпіўку. І ён ужо апошнім словам кляў сябе. У роце яшчэ макавай расінкі не было, а столькі ўжо натварыў. Але трэба было ўжо да канца трымаць марку, гнуць сваю лінію.

– Не гнявi Бога, Карл. І ў Маскве харошае надвор'е. І ў нас надвор'е – жыць можна. Вось толькі з курывам урэменныя труднасці...

Карл нібы зазірнуў у яго і прачытаў яго тугу:

– Так, таварышы, так, урэменныя труднасці.

– Але па табе не скажаш,– адверг усё ж яго спачуванні Лазар.– Як амерыканскі прэзідэнт, «Кэмэл» курыш. Кожная зацяжка – рубель.

– Амерыканскі прэзідэнт, дарагі мой Лазар, наогул не курыць. А я куру. Вось таму я толькі цыганскі барон Карл Маркс.

– Але Марксы, я гляджу, таксама няблага жывуць пры ўсякім надвор'і. Грошай куры не клююць.

– Хо, найшоў дабро. Грошы. Ды спатрэбіцца нам, мы сваім коням залатыя зубы ўставім.

Ці то Карл зжаліўся над імі, ці то пашкадаваў сваіх запасаў «Кэмэлу», але амерыканскіх цыгарэт ім не прадаў. Падараваў пачак грузіну задарма. Гога спрабаваў даць яму дваццатку, але Карл адбіваўся:

– Што ты, дарагі, што ты. Мне не трэба.

– І мне не трэба, – грузін ужо размахнуўся, каб пусціць два чырвончыкі па ветры. Але Лазар перахапіў яго рукі і выхапіў грошы:

– Вам, грузіну і цыгану, не трэба, а мне, беларусу, спатрэбяцца.

У цыганоў яны купілі на катлавыя грошы дзве скрынкі віна пад назваю «Памір» – «крышка міру», вечка вечнаму свету. Некалькі бутэлек прыхапілі толькі сабе. Грузін адшкадаваў Лазару з Лаўрыкам па адной папяросе. І яны задымілі «Герцагавінай флор» – пяць рублёў пачак, што ні зацяжка – пяць капеек, і кранулі дамоў. Пара было думаць і аб рабоце, Пасяўная ж ішла. Вясна ўбіралася ў сілу. «Герцагавінай флор» яны не накурыліся, паршывыя, слабенькія папяроскі, аказваецца, курыў Іосіф Вісарыёнавіч. Прыйшлося звяртацца да роднай махоркі. То было сапраўднае курыва, а не забаўка правадыроў. А «Кэмэл» наогул брыдота неверагодная, што толькі ў ім знайшлі амерыканскія прэзідэнты і ўсе іншыя

амерыканскія курцы. Салома саломай. У іх такога «Кэмэлу» – стагі. Выбірай які хочаш і кемай. Бясплатна.

Пад ачышчальны для душы дымок роднай маршанскай махоркі мірна і ціха праскочылі горад. Весела пагаманілі, калі праязджалі міма «пятлі Гарбачова» – амаль на кіламетр чаргі па спіртное.

– Ханурыкі паганыя, – сказаў Берыя.

– Наркоты няшчасныя, – пашкадаваў Кагановіч.

– Жлобы, – пагардліва сплюнуў грузін.

Яны маглі дазволіць сабе цяпер шкадаваць, спачуваць, грэбаваць і ненавідзець тую чаргу. У іх ужо ўсё было. І надвор'е як у Вашынгтоне шэптам падказвала: памры, але выпі. Над усім светам, не толькі над Мадрыдам чыстае неба. І яны ўсім сваім дружным механізатарскім светам размясціліся пад гэтым чыстым небам. Пад вячыстым тысячагадовым дубам. Іх такіх мелася тут два на Белалужжы. Адзін высакародны, старшынёўскі, для начальства. А другі прасцей – для працоўнага люду. Іх быў лепшы, на ім жыў Буська. Важак, цар мясцовых буслоў. А іх тут процьма. Восенню крыллямі засцяць сонца, збіваюцца ў чараду, і іх бусел, бусел з іхняга дуба, з рэстарана «Палессе», падымае і вядзе чараду ў цёплыя краіны. Вядзе ў вырай буслоў пасля першага летняга, часам і непрыкметнага чалавеку інею. Тысячагадовы дуб мацуе, надае буслу сілы і розуму, вось чаму і цар ён тут.

Старшынёўскі ж дуб, рэстаран «Палессе-2», нешта за кіламетр ад іх. Незнарок, канешне, яны на такой адлегласці, але добра, што так само па сабе гістарычна склалася. Абедзве тэрыторыі праглядваюцца няўзброеным вокам. І паміж імі няпісанае пагадненне: калі адна з іх занятая, другая абавязкова павінна быць пустой. Два рэстараны, што робяць адначасова, дзве п'янкі адразу ў адным асобна ўзятым калгасе – гэта ўжо занадта. Месца, канешне, хопіць, але і калектыву няёмка, і перад калектывам сорамна. І іх бусел не зразумее. Навошта птушку бянтэжыць.

Старшынёўскі дуб голы, пусты, хоць і такі ж агромністы, як і іх. Яму таксама тысяча гадоў. Але ён не заняты бусламі, і таму пад ім не так утульна. Ды і наогул трэба адзначыць, што начальства п'е не так акуратна, як яны. П'е-то яно, канешне, акуратна, мерку трымае, але смецця пасля яго шмат. Звыкла, каб нехта за ім прыбіраў. А ў лесе прыбіральшчыц няма. Вось і даводзіцца гнуцца самім. Пляшкі хавае, вязе з сабой на машынах, каб ніхто не бачыў і не ведаў, што яны п'юць. Хіба толькі адну-другую з-пад мінералкі пакіне. А вось нахіліцца, падняць газетку, паперчыну, бляшанку з-пад кансерваў, закапаць, спаліць – гэта не кожны з іх зробіць. Увогуле,

антысанітарыя вакол іхняга дуба, грэчаская зала, адным словам.

А ў іх як у лепшых рэстаранах Ландона ці таго ж Вашынгтона. «Кэмэл» нават ёсць у грузіна ў кішэні і пачаты пачак «Герцагавіны флор». А пад дубам ніводнага недакурка. Недакуркі, прынамсі, яны апошнім часам з сабакам ці мінашукальнікам пазбіралі і падакурвалі. Нястача, беднасць. Але для смецця, што гарыць, заадно і для душы, касцярок, вогнішча; што не гарыць – ідзе ў спецыяльна выкапаную яму. Пустыя бутэлькі складзіруюцца асобна – гэта агульны капітал, народны здабытак. Бусловай хаты яны не паганяць.

І бусел з вяршыні тысячагадовага дуба ў сваім гняздзе на адной назе вітае іх вясеннім чыстым клёкатам. З трактара клёкату гэтага амаль не чуваць, але відно, як адкрываецца і складваецца яго вострая і доўгая касцяная дзюба. Бусел здалёку прыкмеціў іх і вітае трактарны дэсант, а заадно паведамляе ўсім іншым буслам у акрузе: прыджгалі, аб'явіліся госцейкі. Рэстаран «Палессе» адкрыты, вясна прыйшла, вясна прыйшла, сезон распачаты. І з усіх чатырох бакоў, з макавак іншых, менш велічных дубоў гучыць яму ў адказ: цябе зразумелі, цябе зразумелі. Невядома чаму, але мясціну гэтую, Белалужжа, любяць белыя буслы да страты галавы. І дзіўна неяк рассяліліся яны, узялі вёску Белая Лужа ў кальцо. Усе гнёзды строга па крузе. Лазар неяк хадзіў і лічыў дзеля цікаўнасці: сорак восем бусліных хат. І цiснуцца яны, больш густа селяцца бліжэй да хат людскіх, дзе светла і прасторна, дзе людское турботнае жытло і ціхая вада, рэчка.

А далей, адкуль пачынаецца, цягне цёмная града лесу, іх апошняя запаветная дуброва, каторую яны не аддалі дзяржаве пад заказнік, буслоў менш, амаль зусім няма буслянак. Мо там таксама мяжа, як паміж іх і старшынёўскім дубам. У дуброве ўладаранні чорных буслоў. Белыя буслы як грэбуюць чорнымі ці варагуюць з імі – хто зразумее гэтую птушку, па якіх яна законах жыве. Чорны бусел баіцца ці не давярае чалавеку, хаваецца ад яго, а белы цягнецца да яго і любіць прыгажосць. Птушка, птушка, а разбіраецца. І Лазар рады да слёз бачыць бусла ў роднай буслянцы. Птушка ж, і галоўка птушыная маленькая, колькі там розуму, а роднага гнязда, роднай зямлі не выракаецца, носіць у воку і ў птушынай сваёй галоўцы. Зімуе ў Цёплых краінах, вандруе па чужой зямлі, а насення там свайго не кідае, кубла не робіць, дзетак не выводзіць. Буслянка-калыска яго на роднай зямлі. І крылы ў яго толькі каб даляцець да гэтай калыскі. Тут ён і яго дзеці здабываюць крылы. І Лазар адчувае, што і ў яго пачынае штосьці варушыцца каля лапатак. Бракнуць, свярбяць лапаткі, як прарастае нешта там. Нейкі знак, намёк яму падае. Гэта, пэўна,

радасць няздольнага памесціцца ў сэрцы, ірвецца вонку, вясновая, першая, дзіцячая. Радасць, што будзе заўтра. Заўтра яму зноў ісці ў школу. Заўтра беларуская мова, дыктант. Ён возьме пяцёрку. Будзе зноў пяцёрка, яна ў яго ўжо ў кішэні.

Ён купаецца цяпер, плыве ў белых хвалях роднай беларускай гаворкі. Словы, што некалі даўно вычытаў у кніжцы, а потым забыў, колка рэжуцца, як зубы, прарастаюць у яго занесенай смеццем гадоў памяці. Наплываюць хвалямі напаўчутыя ў дзяцінстве словы дзеда і бабы і шмат каго іншых – цяпер ужо нябожчыкаў. Ахопліваюць, абдымаюць яго, носяць на крыллях вакол дуба. А дуб перад ім, хаця і магутны, велічны, але яшчэ голы, непрыгожы, нават брыдкі. Нехта раскладваў касцёр каля яго лап, ён бараніўся, не пускаў агонь усярэдзіну, але ногі яго абгарэлі, чорныя і парэпаныя ад спёкі. Ён моцна пакалечыў сам сябе яшчэ, пэўна, у маладосці, не саўладаў са сваёй маладой сілай, што выпхнула яго з лона зямлі і пагнала ўгору, да сонца. З усіх бакоў у старога трэшчыны і наплывы маладзенькай кары. А па баках з бычыную галаву наросты, барадаўкі, як вялізныя жабы прыпалі да яго цела. Гэта нешта пабочнае, пэўна, хваравітае занесена было дажджом ці ветрам, непагаддзю ў яго цела, а мо нехта спрабаваў укусіць, паспытаць яго плоці. Ён хварэў, але ачуняў. Барадаўкамі выпер хваробу з свайго нутра і абараніўся імі. Біла яго і маланка, хвастала вогненным бізуном, успарола ад макаўкі да лап. Не забіла і не скарыла. Ён устаяў і застаўся жыць. І меліяратары не здолелі яго зрэзаць. Падлезлі з піламі, нагналі тэхнікі, пакруціліся пару дзён і махнулі рукой: чорт яго бяры, няхай стаіць.

Голы, непрыгожы, непрыветны стары дуб увесну. Ён глухі цяпер і гультаяваты, але лета яго наперадзе. Праўда, жудаснае лета. Чацвёрате лета ад Чарнобыля. І дзьмуць над яго сівою галавой цяпер горкія ветры, п'е ён горкія воды. Але, як кажуць, будзем жыць, будзем бачыць, жывымі застанемся – не памром, што ўсім, тое ўжо і бабінаму ўнуку, што люду, тое і дрэву, што дрэву, тое і парасткам яго.

Лазар ужо зацэпліў касцярок пад дубам. Лаўрык з Гогам і Толем Белым парэзалі хлеб, сала, адкаркавалі першыя пляшкі. Можна было пачынаць, але чакалі Толю Чорнага. Той павінен быў правесці вадзіцеля экспрапрыіраванай імі леспрамгасаўскай машыны. Ён, не тужачы ў сваёй будцы-турме, дачакаўся іх вяртання. Праўда, сала з'еў усё. Выпусцілі, вызвалілі з цямніцы, толькі тады даўмеліся спытаць, як завуць. Палонніка звалі Валодзькам. Трактарысты паляпалі яго па плячы, памясілі за знаёмства і запрасілі з сабой пад дуб. Але ён адмовіўся:

– На рабоце, хлопцы. За губу магу закінуць, і добра, але не на

рабоце.

– А мы што, не на рабоце, колам грушы калоцім? – спрабавалі націснуць на яго, прысароміць, неблагі трапіў хахол, талковы.

– Не, хлопцы, няможу. Трактар не машына. Да ўсяго ж вы ў сябе дома, а я ў камандзіроўцы.

– Леспрамгас ваш нацэліўся на нашу дуброву? – спытаў Толя Чорны.

– Так, будзімо рэзаць.

– Будзімо рэзаць, – перадражніў Толя Чорны. – А во цэ, хахол, тут не бачыў?

І Толя Чорны недвухсэнсава паказаў леспрамгасаўцу тое, чаго хахол яшчэ тут не бачыў,– вялізны мазутны кулак. І павёў гэты кулак да твару вадзіцеля.

–Та забярыще вы ад мяне гэтага свайго шалёнага хахла, – закрычаў вадзіцель.– Я шо, на тваю бабу лезу? Машыну адабралі і самога ў цямніцу кінулі, а цяпер яшчэ і морду набіць намагаюцца...

Толю Чорнага адцяглі ад вадзіцеля, хоць ён і моцна супраціўляўся:

– Не, ні ў якім разе нельга яго пакідаць жывым.

– Дык што, нам тут яго забіць? – спытаў Лазар.

– Убыць. Апошні ж лясок...

– А ці не ты першы глотку драў супраць таго лесу, калі галасіў, што нам запаведнік не трэба?

– А я ўсё жыццё галашу, такі ўжо ўдаўся. А шо рабіць, калі не ведаеш, шо рабіць?

– Дамо пляшку чарнільца. Такі ж чалавек, які і мы, выпіць хоча. Хочаш, Валодзька, выпіць?

– Хочу. Які ж хахол не хоча выпіць,– уздыхнуў вадзіцель.– Хочу, та ні могу.

– Ну вось, чалавек хоча выпіць, а ты яго адразу: убыць, убыць. А фамілія твая не Ленін, Валодзька? Мо ты Ленін, прызнавайся, мы тут усе свае: Сталін, Берыя, Кагановіч. А чарнільца ў нас ад самога Карла Маркса.

– Та ні, я не Ленін. Я проста Уладзімір Ільіч. Але жыву на вуліцы Леніна.

– Ну, тады ты сумленна зарабіў сваю бутэльку чарніла, – сказаў Лазар.– Толя, правядзі яго да ўрочышча.

– Я яго прыдушу па дарозе.

– Нічога, паразумеецеся. Хахол з хахлом заўсёды дамовяцца. А вернешся назад, перакапаеш дарогу, у цябе трактар з каўшом.

– Я і яго прыкапаю.

– Прыкапай і яго. А заўтра мы яго адкапаем і падымем, сёння ж

п'ём. Давай, Толя, едзь з ім.

І Толя паехаў. Паслухаўся Лазара. Дзіўная рэч, але перад п'янкай яго ўсе слухаліся. Пасля, праўда, часта білі. Але тут ужо не варта наракаць, чаго пасля п'янкі ні бывае.

Па часе Толя Чорны павінен ужо быў вярнуцца. Але яго ўсё не было. І Лазар непакоіўся. З Толі Чорнага хопіць і забіць чалавека. Сёння ж забіць чалавека – што раз плюнуць. Куды больш цяжка знайсці яго сярод людзей. А калі знайшоў – тут ужо ўсё проста. Кура ці певень, тыя хоць не даюцца, а чалавек што баран. Як авечка, якую воўк аблюбаваў сабе, схапіў, на загорбак ускінуў, пранёс колькі метраў – і ўсё, можа апускаць на зямлю, не вярэдзіць ног. Яна падхопіцца і сама пабяжыць за ваўком, па смерць сваю – бягом.

І ён таксама бегаў і хадзіў па сваю смерць. Упіхнулі яго ў камеру. Белы рушнік разасланы на падлозе каля ўвахода. Ён наслухаўся ўжо, абрадаваўся. Ён па белым рушніку брудным ботам, не лыкам, маўляў, шыты і не пальцам роблены, а таксама ў законе. Бабуля, пэўна, у труне перавярнулася і вызваліла яму месца. Пачалі кругі рабіць, падступаць да яго, а ён ні бэ ні мэ ні кукарэку. За вярсту відно – мужык мужыком, лапаць. Тым жа рушніком з яго брудным адбіткам ботаў яго ж і... Наледзь адкачалі. На ўсё жыццё навука: у чужую скуру не залазь, якая б мяккая яна ні была. Жыць, хадзіць, спаць будзе мулка. Трапіў на лесанарыхтоўках і пад лясіну, пад кедр. Вельмі ўжо спадабаўся той кедр, і пашкадаваў ён яго.

Не хацеў паміраць, класціся на зямлю кедр, мамант, а не дрэва. Усё ў ім было пуката звярынае, дзікае і неўміруча ўчэпістае. На скале, на голым камені і сам нібыта каменны. Вось ён і паспачуваў яму, пашкадаваў. А ёсць прыкмета – падняў сякеру, забі ў сабе шкадаванне, інакш яно цябе заб'е. Так здарылася і з ім: пашкадаваў, зазяваўся, паслізнуўся – кедр і накрыў яго сваімі лапамі-біўнямі. Ён увайшоў ужо ў дрэва і зліўся, пяднаўся з ім, пачуў у голлі шапочучы голас з неба, добра, што той голас быў людскі, хоць і вельмі абыякавы да яго жыцця і смерці:

– Гатовы?

– Гатовы... Хаця не, трывушчы, варушыцца.

– Ну, значыць, не яго дрэва. Ляжа пад іншае, і расце яно ў іншым месцы...

– Сала пацець пачало. Колькі можна чакаць? Пачнём, а ён дагоніць,– не вытрымаў, пачаў скуголіць Толя Белы. Вялікі спец па сале. На яго цыкнулі, закон, маўляў, трэба паважаць. Піць, дык усім разам, адказваць – таксама. Не так закон, як імкненне да роўнасці і справядлівасці. Але Толя Белы не паслухаўся і пацягнуўся да бутэлькі.

– Пастаў, – загадаў яму Лазар.– У чужой царкве свечак не папраўляй.

– Чаму гэта я раптам у чужой царкве? Я ў сваёй царкве.

– У сваёй, але ты не поп. Наперад бацюшкі не вытыркайся. Пастаў на месца.

– Ох, і ўдзелаю я цябе сёння вечарам, – мармытнуў Толя Белы, але вярнуў бутэльку туды, дзе яна стаяла раней.

Лазар падняўся і адышоў ад дуба. Паслухаць, ці не гудзе трактар Толі Чорнага. Пад дубам забівалі ўсе гукі іх трактары. Яны не глушылі рухавікоў: невядома пасля выпіўкі, ці здолееш завесці. І чырвоныя «Беларусы» ўздрыгвалі крыжамі, як нецярпліва дрыжэла ўсё ў ім. Напередзе чарка, добрая чарка, а нешта не радасна. Пахмурна і тужліва было на душы. Бусел зляцеў з буслянкі, паставіў крылле рабром, падруляваў амаль да самых ног Лазара. Узняў у неба галаву і адразу апусціў яе, выказаўшы чорную жалобную мецінку на макаўцы.

– Ты што, хаваць мяне прыляцеў, адпяваць мяне? Павучыся, браце, спяваць. Няздольны ж пець, не дадзена?

Бусел незгаворліва ўзмахнуў крыламі, і зноў чорная жалобная меціна кінулася ў вочы Лазару.

– Пачакай,– спалохаўся Лазар таго, што бусел як нечакана падляцеў да яго, так і адляціць. Але бусел і не думаў яго пакідаць. Склаў крылы, і з жалобнай стужкі на іх атрымалася лодачка, што плыла па яго белым як снег апярэнні. Дзве лодачкі, два чаўны, па адным з кожнага боку.

– Прыгожа,– сказаў Лазар,– хораша. Вось я цябе і разглядзеў. А то далёка ўсё ты і высока, пад самым сонцам. Я думаў, што ты ўвесь спрэс белы. А ты і чорны.

Бусел не міргаючы пазіраў на яго сваім непраглядным птушыным вокам. І Лазар амаль адчуў, як яго ўцягвае да сябе гэтае бяздоннае цёмнае вока, у каторым адблісквала і полымя цяпельца, і жаўклявая, напорная па вясне рачная вада, і бязлістая цьмянасць дрэў далёкай дубровы. Усё гэта зачароўвала, кружыла галаву і хіліла да сну, такога ж вечнага, як і позірк бусла.

– Ты мне хочаш нешта сказаць? – спытаў Лазар. – Ідзі да мяне, шапні на вуха, а то я не пачую. Я ж глухі, ты ведаеш. Я даўно ўжо глухі.– Бусел, як у танцы, пачаў перабіраць лёгкімі ссохла-чырвонымі нагамі. Распасцёр крылы, нібыта збіраўся абняць яго.

– Ты што, ты што? – здзівіўся і разгубіўся Лазар. Абдымкаў ён не любіў. – Ты лепш падыдзі да мяне бліжэй і скажы што-небудзь на вуха. Ну, крок, усяго адзін толькі крок.

Паміж імі і сапраўды быў адзіны толькі крок. Але ні бусел, ні

Лазар гэтага кроку насустрач адзін аднаму не зрабілі. Лазар баяўся спужаць птушку, баязлівасць чалавека замінала, пэўна, і птушцы. Мо б ён і наважыўся на гэты крок. Але тут затахкаў трактар. Бусел расхінуў крылы, нешта, як заселае слова, перакацілася ў яго ў горле. Ён шчоўкнуў дзюбаю, нібыта ўдарыў па сухім дрэве і, падскокваючы, пайшоў ад яго бокам, цяжка адарваўся ад зямлі, але, калі адарваўся, адразу знайшоў, на што абаперціся ў небе, і заслізгацеў, залунаў у ім лёгка і хутка.

І высока ў небе ён быў зноў белы. Белая перайка на перакуленай блакітнай вечнай талерцы. Неба несла яго, як вада нясе лодку, ён упраўляўся ў ім вясельцамі крылаў, сустракаючы на сваім шляху паветраныя ямы і віры. Неба і бусел былі заадно.

А яны смакталі чарнільца далёка ўнізе, пад дубам на зямлі, пад белае слізгаценне буслоў у небе, бутэльку за бутэлькай, падарунак прамяністага Паміра. На схоне сонца бусел падняў у неба ўсю сваю чараду. Лазар пачаў іх лічыць. Але давёў лік да шасцідзесяці і збіўся. І так шмат: усе буслы былі па парах. І бусел у небе на заходзе сонца, значыць, заўтра будзе добрае надвор'е, як у Вашынгтоне. Ветрана, канешне, сонца чырвонае. Але птушкі і людзі за вясну ўжо звыкліся з ветрам. Ветры тут дзьмуць беларускія, радыеактыўныя, іншых няма.

І, наглядаючы за бусламі, Лазар трымаў сябе, імкнуўся, што было моцы, не напіцца. Але сілы, і вожыку зразумела, былі няроўныя. Ён, канешне, напіўся. Зрабіў той маленькі крок, што не даступіў да бусла, адзіны ўсяго глыток, і адчуў, што правальваецца, адыходзіць у вечнасць буслінага вока. Узняў галаву, учапіўся з апошняга вокам за птушак, што лунаілі ўжо ў зусім чырвоным небе. І на імгненне сам затрымаўся на зямлі. Але ў шклянцы мелася яшчэ крыху. І рука не дазваляла плёхнуць такое багацце на зямлю ці перадаць Толю Чорнаму. Той бы яго ніколі не зразумеў, яшчэ і пакрыўдзіўся б, чужымі недапіўкамі тут грэбавалі. І Лазар высмактаў паднесеную яму шклянку да кроплі. Выпіў, і птушкі на небе зніклі. Яны былі на зямлі, такія гожыя, такія родныя, чырванадзюбыя буслікі, як малююць іх на этыкетках для гарэлкі. Лазар убачыў гэтых буслікаў перад сабой, і далей усё пайшло па набітай дарозе. З адным толькі ўдакладненнем: на гэты раз не Толя Белы «ўдзелаў» яго, а Лазар пусціў яму юшку. Буслікі надалі яму спрыту і моцы.

Толя Белы хлюпаў носам, прыхіліў галаву да дуба, Лазар суцяшаў яго. Толя Чорны суцешыў іх абодвух поўнай шклянкаю «Паміра». Яны раздзялілі яе па-брацку. То была шклянка, чара і чаша міру. Так ужо заведзена было пасля добрай бойкі.

Потым яны ўсе разам некуды дружна гналі на трактарах.

Наладзілі трактарныя гонкі. Перамог усіх грузін, але перакуліўся. Трапіў у ямку, што выкапаў Толя Чорны. Так грузіну і трэба, пераможца. Але ў бядзе яго не кінулі. Іх братэрства непарыўнае. У бядзе яны шкадуюць нават пераможцаў. Трактар выцяглі з ямы. Не спатрэбіўся нават і трос. Лёгка так, дружна, усе разам узялі і вызвалілі трактар з пасткі. Трэба – яны здольны былі прымусіць круціцца ў другі бок і зямлю, сонца прымусілі б круціцца. Тым вечарам яны былі вольнымі і вельмі моцнымі. Але ўжо як заведзена, калі ёсць моц, здароўе, грошы, усё роўна нечага трошкі не хапае. Нечага трошкі не хапала і ім. І яны вырашылі, што гэта трошкі магчыма здабыць у ЦК. І на трактарах, кожны на сваім персанальным, пасажырам-нахлебнікам быць ніхто не пажадаў, яны выйшлі на падпольную цэкоўскую сцежку. Вёў іх на гэты раз грузін, што Лазар разумеў і не крыўдаваў. Здольны быў, канешне, весці і ён, але ў грузіна самы хуткі трактар. Да таго ж трэба было нечым і ўсцешыць таго грузіна, ён жа ў ямку перакуліўся.

Грузін іх і выратаваў. Лазар клыпаў на сваім зачуханым трактары пасля ўсіх, выціскаў з яго ўсё, што можна і чаго нельга, патанаў і захлынаўся ў клубах сіняга дыму, калі ўбачыў на дарозе пешага грузіна. Той бег яму насустрач, хутка бег, прыгожа, але смешна. Лазар ад смеху кінуў штурвал і ледзь не пайшоў пад адхон.

– Атанда, атанда, змывайся! ДАІ, чуеш, ДАІ, ДАІ!

Тройчы гэтае ДАІ і не варта было паўтараць, Лазар пачуў усё адразу. Хуценька падхапіў штурвал на самым ужо краёчку кювета. І заклаў такі віраж, што грузін пайшоў у кювет. А ён памчаў, кіруючы да хаты, пад родныя дубы і бярозы, сярод каторых яму сам чорт не брат. Толькі б выхапіцца з чыстага поля, роўнай дарогі, а на пяньках яго карміцель лётае, што на крыллях, як буслік. Дацягнуць бы толькі да карчоў. Карчы партызан не выдаюць.

– Жмі, жмі, гані, маць тваю,– па-руску і па-грузінску лаяўся Гога. Па-грузінску ён толькі гаварыць не ўмеў, а лаяцца навучыўся.

– Што гэта табе, верталёт? – па-свойму адказваў яму Лазар.– Гэта ўсё ж трактар, пяро яму ў сраку не ўставіш.

– ДАІ ўставіць. ДАІ ўсё можа ўставіць.

І ледзь ДАІ не ўставіла ім тое пяро. Жоўценькая птушка-канарэйка з каляровымі мігаткімі вочкамі дагнала іх і абышла. Развярнулася і стала папярок дарогі. Але Лазар паспеў усё ж дацягнуць да родных карчоў. Мянты з жоўтай машыны, як шэрыя чорцікі, пасыпаліся на дарогу. А ён з дарогі, уніз, у канаву. Сам, канешне, лобам у шкло. Але лоб вытрымаў. А ў канаве вады трактару па чэрава. Толькі трактар ёсць трактар. Пераляцеў канаву, адно

бурбалкі пабеглі. Даішнікі таксама трапілі настырныя, фарсіравалі водную перашкоду пешадралам услед за імі, відно. Толькі грузін паспеў пераможна раўнуць: «Масква – Варонеж – хрэн дагоніш, а дагоніш – хрэн вазьмёш», як кукарды іх фуражак замільгалі паміж кустоў.

– Абклалі, сукі, аблажылі, што ваўкі, сукі... – Лазар брыдка вылаяўся і ўключыў, выціснуў з трактара ўсё, што было ў ім. «Беларус» пайшоў па балоце і пнях як па сухім. На тых пнях яго і растрасло ўжо, выперла душу. Так растрасло, што ён і сёння не помніць, чым жа ўчора ўсё кончылася. ДАІ ён не даўся. Гэта безумоўна. Усе дакументы пры іншых вялікіх стратах пры ім. Нават бутэльку чарніла захаваў. Боты са шкарпэткамі збеглі, а чарнільца пры ім. Але ёсць страта куды больш значная, чым тыя боты і шкарпэткі.

Яму час збірацца і ісці на працу. А куды збірацца, куды ісці, калі ён учора згубіў трактар. Забі – не прыгадае, дзе ён учора яго кінуў. Мо ўтапіў у балоце, мо мянты захапілі. Ён збег, кінуў трактар, а мянты яго захапілі. Добра, калі так. Гэта ўжо не бяды, хоць на след навядуць. Горш, калі і следу ад яго не засталося. Не прывядзі Гасподзь, калі сапраўды ўтапіў яго ў багне... А калі не ўтапіў, калі і даішнікі яго не захапілі, ён проста кінуў трактар. Дзе кінуў, дзе шукаць? Яму б цяпер шкляначку чарнільца, глыточак, божую расінку, птушыную кроплю, праяснела б у галаве, мо і ўспомніў бы. Але дзе знойдзеш гэтую расінку, кропельку? Да ЦК, да Карла Маркса, як да таго свету. Пакуль печ яшчэ не прагарэла, жару поўная, наліць бы вады ў чыгунок, паставіць ды заварыць чыфірчыку. Дапамагае, і вада ў хаце не звялася. Ёсць яшчэ вада. Але няма заваркі, няма чаю. Чай ён пакурыў, турэцкі чай з беларускім хрэнам так добра курыцца. Чаю меней, хрэну болей. І такая атамная храновіна...

Устаць на каленцы перад Дзевай Марыяй, прыпасці да яе ног, Хрыстом Богам папрасіць, каб палячыла. Дарэмны нумар. І Дзева гэта сама, даруй Божа, глытае, што конь, усе глытаюць і ні ў кога нічога няма. Вось такое сёння надвор'е ў Вашынгтоне, дарагі і любімы наш правадыр і настаўнік, таварыш Карл Маркс. Засуха. Засуха ў Маскве, Мінску, Гомелі і ва ўсіх чатырох іх Лужах. Зашчамілі мужыку адно месца. Прышчамілі мужыка. Ведаць бы хоць – хто, а то ж як у яме жывеш, нічога не бачыш, нічога не ведаеш. Поўзае, ёрзае па падлозе Янко. Галубовым вострым вочкам пільнуе яго.

– Ну што табе трэба, Яначка? – не вытрымлівае Лазар.

– Уключы радзіва, – просіць Янко.

– Радзіва? Навошта? – здзіўляецца Лазар.

– Гарбачова паслухаем.

– Вось яго толькі мне і не хапала, – сонна адмахваецца Лазар.

– А ты не падымешся, а ты не ўстанеш, – раптам асмялелым голасам гаворыць Янко, падымаецца з падлогі і адыходзіць ад яго. І яшчэ раз больш пераканаўча паўтарае: – Не, ты не падымешся.

– Чаму гэта я не падымуся? – з цікаўнасцю пытаецца ў Янкі Лазар.

– А не падымешся, і ўсё. Я ведаю, але не скажу.

– Скажы, Яначка, скажы.

– Не ўстанеш, дзядзько, бо ты на залупу сабе наступіў. Вось так, дзядзько, – гаворыць Янко і хуценька хаваецца.

– Дзядзько... – збянтэжана бурчыць Лазар і пазірае сабе пад ногі. Горкая ўсмешка кладзецца на яго твар: сапраўды наступіў і не прыкмеціў, калі і як гэта адбылося. Сядзеў, бедаваў, думаў, нехта староннi яму прышчаміў, а аказваецца, сам сабе. Добра, што ніхто не наскочыў і не ўбачыў. Было б смеху. І Лазар рагоча сам з сябе. Рагоча залівіста, гучна і доўга, да слёз. Прыпыняецца, каб выцерці тыя слёзы, і пачынае зноў. Хата ходырам ходзіць ад яго рогату, пагойдваецца ў куце і на столі павуціна, пазвоньвае шкло ў вокнах, сіпіць цынкавае вядро з вадой, што стаіць на дубовай калодцы. Бяззуба вышчараецца, рагоча чырвоным вуглем печ. Сінія і чырвоныя водбліскі полымя скачуць на падлозе перад ім. Зазірнула ў хату, стала насупраць акна сонейка, скаліць зубы. На плоце, відно ў тое ж акно, стаіць увесь ад ног да грэбеня рдзяна-пунсовы певень. Надрываецца, крычыць на ўсё сваё горла.

Лазар рагоча.

– Слухай, дзіцятка, слухай. Адбылося гэта ў той старажытны час...

– Калі Бог толькі сатварыў зямлю, а чалавека на ёй яшчэ не было... Гэта ўжо, бабо, праходзілі. Давай далей: і пайшоў наш бусел па чыстым полі насустрач сваёй смерці.

– Ну, а калі пайшоў насустрач, значыць, сустрэў. Чаго чалавек хоча, таго і дабіваецца. Усё, кончылася казка. Памёр бусел.

– Вох, і хлуслівая ты, бабоўка. Я раненька-раненька сёння ўстала, пабегла на двор. Жывы наш бусел. Лётае. Над нашай хатай кружыцца. Жывы, бабо, жывы. Ты прыспала ўначы казку. А я ўчора так цябе ўгаворвала закончыць... Забыла, бабо?

– Нічога я, донечка, ясачка мая, не забыла. Такая ў мяне нітачка паміж тым і гэтым светам. Знарок на другі дзень пакінула, каб быў мне дзень і была забаўка. Каб было чаму прачынацца.

– Дык прачніся, бабо, прачніся.

– Прачнулася ўжо, Марэйка, прачнулася, каб казку табе даказаць. А то памру і забяру з сабою.

– Ты давай, бабо, пакуль жывая, расказвай.

– Пакуль ты цікаўнасць маеш слухаць, да той пары я буду гаварыць з табой і з таго свету. А на тым свеце, каб ты толькі ведала, колькі нашага багацця ляжыць.

– То памірай хутчэй, бабо, і прынясі мне што-небудзь адтуль.

– І казку не трэба даказваць?

– Ну... Не, казку ўсё ж дакажы, хаця магла б прынесці адтуль што-небудзь і даказаць. Я ўжо і пачакала б.

– І на тым табе дзякуй. Слухай, дзіцятка, слухай... І пайшоў наш бусел па чыстым полі насустрач сваёй смерці. Толькі смерць ад яго адступілася. Пахадзі, пахадзі спачатку па гэтым полі. Зведай пакуту і мукі, на гора паглядзі, слёз назбірай, спазнай голад і холад, хай твае ножанькі прыб'юцца, потым я цябе прыбяру. Няма смерці нашаму буслу і ў чыстым полі, груганы яго не клююць і мароз не бярэ. Як гады белыя, поўзаюць па полі завеі і мяцеліцы снежныя. Толькі ўсё міма, міма бусла. Ён да іх, а яны ад яго. І сонейка на яго скоса і злосна пазірае. Узойдзе, зірне: жывы яшчэ – і схаваецца. Ці то сорамна яму, ці то смерці яму хуткай жадае. Прыгрэе, разморыць, сну нагоніць – і няма яго.

Ішоў бусел па белым полі, шукаў смерць, а сустрэў цёмны лес. Пастаяў, падумаў: горш жа няма, калі чарада, кроў твая кідае і выракаецца цябе, адварочваецца сонца і родная зямля не хоча цябе прыняць. І лёгкаю ступой крочыў ён, увайшоў у цёмны лес і схаваўся там. Думаў, лес будзе яму труной і магілай, а то быў паратунак яго і калыска. Само сабой, таксама не цукар, але зусім не тое што ў чыстым полі, дзе і ветру не затрымацца, не на холадзе. Лес ахутаў яго і сагрэў. Там дуб жолудам адорыць, хвойка шышачку кіне, а ў траве, глядзіш, і ягадка схавалася. Невялікая пажыва, але ўсё лепей, чым святым духам сілкавацца, ёсць хоць нештачкі на зуб узяць.

І было ў тым лесе вялікае балота, дзякуй яму, яно і захавала нам бусла. Лес ды балота – усе мы адтуль выйшлі, прайшлі навуку плакаць і смяяцца, гора гараваць, шчасце абдымаць. Балота было цёплае і дыхала...

– Змей Гарыныч там жыў?

– Так, дзіцятка маё, так, калі ты хочаш, каб так было: жыў там Змей Гарыныч. Па ім і наша рака Гарынь завецца.

– Бабо, бабо, ён жа злосны. Ён жа Змей Гарыныч.

– Не слухай, дзіцятка маё, што людзі кажуць. Не ўсякаму зверу давай веры. Я злая?

– Але ж ты не Змей Гарыныч.

– Адкуль ведаць табе, хто я, калі я сёння сама сабе веры не даю. І

ты мяне завеш Бабай Ягой.

– Я так, я таму што люблю...

– Не, дзіцятка, не. Нічога так проста не бывае. У кожным з нас намешана і ад Змея Гарыныча, і ад Бабы Ягі. Не кожны Змей, што цішком у балоце сядзіць, Гарыныч.

– То быў добры Змей Гарыныч, савецкі?

– Савецкі, калі ты савецкая. Вельмі і вельмі добры Змей Гарыныч, калі нашага бусла ўратаваў. Паганым ён зрабіўся, калі яго пачалі цвяліць і зводзіць, калі яго захацелі спаймаць і пасадзіць у клетку. А ён прывык вольна жыць, як душа наша жыве. Душу чапаць вялікі грэх. Кранеш, навярэдзіш яе, і выскачыць адтуль злосны Змей Гарыныч. Вось як кранулі чалавека, дык і выхапілася адтуль зорка Палын, атруціла нашы воды і зямлю. У нашага бусла душа рахманая, пакутная, таму была і праведная, разумная, аніякай шкоды Змею Гарынычу не чыніла. Жылі яны заадно са Змеем Гарынычам, калыску сваю берaглі. Цёпла было буслу каля Змея Гарыныча. Той дыхаў і дыханнем сваім яго ўграваў, як і ўсё жывое на гэтым свеце трымаецца на дыханні адно аднаго. Было, праўда, курна, дымна, але абшчажыцце ёсць абшчажыцце.

Любіў Змей Гарыныч і выхваліцца. Вось ён, маўляў, такі дужы, такі магутны, нягледзячы на тое, што ў балоце сядзіць і ніхто аб ім нічога не ведае. А ён возьме ды як чхне тры разы, ды як кашляне – і ў тое ж імгненне явіць сябе ўсяму свету. І адразу адскочаць маразы, растане ў яго буславым полі снег, пацякуць рэкі,і кончыцца зіма. Тады бусел можа ісці да свайго поля, падымацца ў неба да сонца і спяваць свае песні. Бусел адгаворваў яго. Ён верыў, што Змей Гарыныч з-за дабрыні сваёй можа дзеля яго і не такое сатварыць. Але навошта. Каму трэба тое поле, каму патрэбна тое неба, хто будзе слухаць яго песню. Калі Змей Гарыныч возьме і папраўдзе чхне, то згараць у такіх пакутах здабытыя крыллі, спапяліцца ў горле песня. Ды і сам бусел, пэўна, згарыць, калі пачне гарэць поле.

І гэта было разумна: каму спяваць, каму весяліцца, калі ёсць усё і няма нікога? Так вось яны і жылі мо год, а мо век, хто лічыць бусліныя гады, змяіныя стагоддзі. Хто помніць. Паразумела жылі, не тое што сёння. Раней, чым нешта наважыцца зрабіць, лічылі страты, а не радаваліся прыбыткам. Гор не варочалі, рэк не спынялі і не губілі, што мелі – берaглі, чаго не было – здабывалі.

І пачало ў іх лесе паціху развіднець, днець. Прыйшоў дзень і ў іх лес. Затрымаўся. Зазірнула ў іх лес і балота сонейка, час яму пакідаць іх, хавацца. А яно не пакідае, не заходзіць. І духам такім салодкім, сонейкам і балотам пачало патыхаць. Засумаваў бусел, мітусіцца

пачаў. Яму б радавацца трэба, а ён месца сабе не знаходзіць. Скочыць на галаву Змею Гарынычу, і гадзіну, а то дзве на адной назе выстойвае, другая сама ў неба просіцца і вочкі туды ж. І такое неадольнае жаданне самому ў тое неба кінуцца, што не вытрымаў Змей Гарыныч. Буслінае тое жаданне што камень яму на шыю было. Цяжка ўздыхнуў ён, з мілым другам і ў цямніцы разлучацца сумна, і сказаў:

– Калі такія табе ўжо мілыя твае поле і неба, ідзі, ляці.

– Я вярнуся, я прыйду яшчэ да цябе,– паабяцаў яму бусел.

– Я гэта ведаю,– маркотна мовіў Змей Гарыныч.– Ты не вернешся сюды. Каго кідаюць, да таго ўжо не варочаюцца. Ты вернешся, але не да мяне.– Быў ён мудры, Змей Гарыныч, а выхваляўся раней мо яшчэ і таму, што выпрабоўваў, пэўна, усё ж бусла, які ён яму сябар і таварыш. Бусел быў верны сябар і таварыш:

– Да цябе, да цябе, мілы і любы мне, Змей Гарыныч, – сказаў ён.

– Не, не суджана нам болей сустрэцца. Мо, мо толькі калі... Нагніся да мяне, я нешта скажу табе на вуха...

Бусел нагнуўся, але што сказаў яму Змей Гарыныч, гэта засталося паміж імі. Невядома нават, ці да канца даслухаў бусел свайго Змея Гарыныча, таму што нагінаўся ён больш дзеля таго, каб адштурхнуцца, узяць разбег. Адштурхнуўся, пайшоў у неба, зрабіў тры кругі над балотам, тройчы крыкнуў нешта ласкавае на развітанне свайму сябру і памкнуў да роднага поля. Змей Гарыныч не вытрымаў і ад журбы чхнуў. Лёгенька так, прытоена, напаўсілы ці нават чвэрць сілы, але агонь і спёка ўзняліся да неба. Толькі бусла не дасяглі, той быў ужо далёка.

Ён падлятаў ужо да рога чыстага поля, дзе нарадзіўся і вырас, здабыў крылле і песню. А насустрач яму ляцела родная белая чарада буслоў. Безгалосая чарада белых буслоў нема вярталася на радзіму. У чуж-чужаніне, як вядома, голасу не здабудзеш, хутчэй, што меў, згубіш. І, пэўна, не адзін бусел згубіўся там. Чарада была маленькая і састарэлая. На чужой зямлі буслы не пладзіліся.

На сярэдзіне поля чарада прызямлілася. Сеў, далучыўся да яе і наш бусел. І, як у танцы перабіраючы нагамі, пайшоў да сваіх родзічаў. Адчуў у сабе песню, разявіў дзюбу, хацеў заспяваць, але не атрымалася. І на роднай зямлі, калі толькі сам-насам з сабой, песня глухне, канае. Не было больш у бусла песні, міласэрнае, уратавальнае балота паглынула і песню, і слова. Бусел знямеў.

– Бабо, бабо, ён жа толькі што гаварыў са Змеем Гарынычам.

– Дык то ж са Змеем Гарынычам, дзіцятка, а са сваёй кроўю ён ужо забыўся гаварыць.

– Ён што, па-нямецку са Змеем гаварыў? Якая розніца, бабо?

– Вялікая, дзіцятка. Гаварыць з чужым пра чужое – багата розуму не трэба. Гэтаму можа навучыць і дрэва. А вось звярнуцца да сваёй крыві – гэтаму ўжо ўмельства і вучонасці мала. Гэта само, як кроў, павінна цякці. Перацякаць ад бацькі і маткі да дачкі і сына. Калі няма такога, то ўжо няма і цябе, памёр ты ўжо. Так і бусел наш, разумнік белы, адбіўся ад сваёй чарады, адбіўся ад сваёй крыві і памёр для яе. Чарада адмовілася прызнаць яго. І засталося яму адно папраўдзе памерці.

– Памерці? Бабо, так не трэба. Ён жа харошы. Мне шкада яго.

– А мне, думаеш, не шкада. Але з казкі слова не выкінеш.

– Не, бабо, не. Давай разам падумаем.

– Думай, дзіцятко, думай. На тое і казка кажацца, каб дзеці малыя думалі.

– Глядзі, бабо. Зрабілася буслу пагана на роднай зямлі. Чарада пакінула яго, а ён застаўся. Ён жа верны, так?

– Так, дзіцятка, так.

– Навошта ж караць яго?

– Я яго не караю. Яго чарада карае.

– За што ж, бабо, за што? Чарада ж сама пакінула, выраклася зямлі?

– О, каб я ведала, за што мы адзін аднаго на гэтым свеце караем. Не ад дабра ж і чарада пакінула зямлю. Ды і на чужбіне ёй не соладка было. Што ўжо хапіла ёй ліха, то хапіла. Напетавалася.

– Ды як жа тады атрымліваецца, бабо?..

– Не плач, дзіцятка, не плач. У гэтай казкі шчаслівы канец. Ды яна яшчэ не скончана. Ты ж сама казала, бачыла сёння бусла. Кружыцца ён над нашай хатай.

– Той самы, бабо?

– Той самы, дзіцятка. Калі кружыцца, лётае ён, значыцца, у казкі няма канца. А казкі без канца самыя лепшыя. Табе і тваім дзеткам яшчэ слухаць іх і перадаваць, мы ж не ведаем і сярэдзіны. Не дайшлі яшчэ і да палавіны. Не ведаем, што хацеў шэптам на вуха буслу сказаць Змей Гарыныч. А ты не даслухала і таго, што ведаю я. Слухай жа.

Ішоў бусел па белым полі насустрач сваёй чарадзе. І была тая чарада ўся спрэс белая. А ён увесь спрэс чорны. Так родная зямля аддзячыла бусла за яго вернасць. Толькі сам бусел не ведаў, што ён чорным зрабіўся. Ён помніў сябе белым, бачыў перад сабой белую чараду і думаў, што такі ж самы, як усе, і не падазраваў, што ўчарнеў, жывучы ў цёмным лесе, поўзаючы па балоце, дыхаючы

закураным даханнем Змея Гарыныча. Белыя буслы напачатку, адчуўшы пад сабою родную зямлю, і хацелі прызнаць яго. Здалёку, насупраць сонца, ён паказаўся ім белым. А падышлі бліжэй, агледзеліся – чорны, хаця абліччам сваім ён і не розніўся ад іх. І крошачкі сабраў, такі ж, як і яны, бусел. І буслы белыя, хоць яны на чужбіне крыху хапілі чорнага на крылы свае, а ногі іх, дзюбы вышчыпала да чырвані ад слёз, адмовіліся прызнаць брата свайго чорнага. І гаротнымі сваімі крыллямі і дзюбамі яны пачалі перыць і дзяўбці яго, праганяць у цёмнае царства лесу. І загналі яго ўжо на самы рог поля.

І тады, пэўна, у балоце Змей Гарыныч зноў чхнуў, а мо і кашлянуў гэтым разам. Таму што з лесу шуганула полымя ўжо. Не будзь таго лесу, надышоў бы канец усёй буслінай чарадзе. А так іх проста трошкі апякло, прыпыніла тое полымя, некаторыя з іх і пападалі. Але патухла полымя, і яны зноў узяліся за сваё. Толькі тое ж полымя, гарачае дыханне Змея Гарыныча ўвапхнула бусла ўжо ў чараду. І білі яны яго цяпер куды больш злосна і моцна. Буслы белыя другі раз праганялі яго са сваёй чарады. Чорны бусел адчуў, што Змей Гарыныч назапашвае дыханне, і сам пакінуў чараду. Падскочыў, узняўся ў неба, пакружыў над чарадой, што пракляла яго, і паляцеў у свой лес, у чорную глуш і балота. А буслы белыя засталіся ў полі і пачалі прабівацца да людзей.

– Да якіх, бабо, людзей. Людзей яшчэ не было.

– А з'явіліся, дзіцятка, з'явіліся. З раздору, ад звадкі вось гэтай і нарадзіліся. Белага і чорнага разладу на зямлі. Які ж разлад на зямлі без чалавека абыдзецца. Але не вечны, не вечны гэты разлад. Будзе яшчэ другое прышэсце чорнага бусла да буслоў белых. Спраўдзіцца, спраўдзіцца тое, што сказаў чорнаму буслу Змей Гарыныч.

– А ты ведаеш, бабо, што ён сказаў?

– Не, дзіцятка, не ведаю, але здагадваюся.

– Скажы мне.

– Не магу. Не маю на тое права. Тут кожнаму вольна думаць самому... А бусел чорны зашыўся ў такія нетры лясныя, дзе яго ніхто не бачыць і не чуе. Але сябра свайго Змея Гарыныча ён ужо не знайшоў. Адбіўся ад буслоў белых, схаваўся ў лесе. Там жыве і сёння, чакае свайго часу. Суджана яшчэ быць другому яго прышэсцю да братоў сваіх белых. Сальюцца, знітуюцца яшчэ белае і чорнае, дзве палавінкі людской душы. І тады здарыцца такое... Будзе вялікая радасць і вялікае дзіва. Знітуюцца яны, і тады зноў будзе наша зямля белаю. І белая святая песня абаўе яе. Так было ўжо на зямлі і так яшчэ будзе. І мо вельмі скора, таму што далей ужо некуды. Я не дажыву, дажывеш ты...

– Таму я, бабо, і на свет нарадзілася.

– Таму, дзіцятка, таму. Таму мы ўсе нараджаемся на гэты белы свет.

– А паміраем чаму?

– Чаму паміраем? А каб з таго свету людзям трошкі розуму дадаць. Запасім там розум і адтуль яго жывым перадаем. Усё багацце наша вялікае сёння там. Але яно яшчэ акажа сябе, выйдзе на свет Божы і з-пад зямлі. З таго свету будзем яго здабываць, прыспеў такі час. Усе беларусы так. Вернем, аддадзім кожнаму тое, што ён заслужыў, што ўкраў, схлусіў, падманіў. Усё вернем. Мы людзі рахманыя, ціхія, на тым свеце будзем ваяваць, здабываць сваю долю.

– Бабо, бабо, я ведаю, які канец у тваёй казкі! Хочаш, скажу?

– Скажы, унучка, скажы, дзіцятка.

– Наш чорны бусел у тым цёмным-цёмным лесе выратуецца і захаваецца. Ён і ўдзень і ўначы ходзіць, шукае сябра Змея Гарыныча. А Змей Гарыныч вартуе наша багацце. Бусел знойдзе яго і сустрэнецца з ім. І яны адтуль прынясуць і аб'явяць свету тое багацце. І ўсе паўсюдна, птушкіі людзі, будуць шчаслівымі і багатымі. Ты памрэш, але зноў вернешся да мяне. Так, бабо, так?

– Не ведаю, дзіцятка, не ведаю. Але калі ты гаворыш так, калі ты хочаш, то так яно і будзе.

Усё ж Аўгуст Серада быў сапраўдны вар'ят, і гэта яго непакоіла. У недалёкай будучыні яму ўвогуле свяціла «псіхушка», сумавала па ім «псіхушка». Калі робіш усё насуперак сабе, калі ўсё жыццё душыш і забіваеш у сабе чалавека, абавязкова ж даб'ешся жоўтага дому ці персанальнай пенсіі саюзнага значэння. Да пенсіі яму было далёка, куды далей, чым да таго ж жоўтага дому, ды і прызначалася яна толькі заслужоным ідыётам.

Вельмі карцела яму па вяртанні з Млынішч кінуць усё і пайсці праверыць, як там павук-крыжаносец пачуваецца ў шклянцы. Сапраўды, пэўна, прышэлец. Нібыта ўключылася нейкая тагасветная сіла і падпіхвала яго, пасаджаны ў зямную цямніцу прышэлец-павук прыцягваў яго, як усё роўна гэта ён, Аўгуст Серада, ці нейкая частка яго, невядома толькі пакуль, задушаная, забітая ім Ці тая, што знемагала сярод прывіднай свабоды, абёра^сОйай шклом, плакала і маніла яго аб яднанні.

А яшчэ, пасля сутычкі з Дзевай Марыяй, што адбылася ўчора вечарам, ён не пазбыўся нейкай нейядомай яму самому віны перад ёй. Грошык той сутычцы, колькі іх кожны дзень, а ные, сціскаецца сэрца. І ён не супраць быў проста пасядзець з ёй, пагаварыць пра

жыццё, дазнацца, каму на свеце жыць лепш: старшыні ці даярцы, жанчыне ці мужчыне. Ён згодны быў памяняцца з ёй ролямі, зрабіцца жанчынай, але каб толькі дзяцей не раджаць. Нячыстая гэта ўсё ж работа – раджаць дзяцей, пэўна, такая ж адказная, не пад сілу нармальнаму мужчыне, як і быць старшынёй калгаса, які завецца «Верны шлях». Вось пра што пагаварыў бы ён з Дзевай Марыяй, яна ж шасцёра дзяцей нарадзіла, і без мужа, таксама, пэўна, не зусім нармальная. Шасцёра дзяцей сёння – гэта і пры мужу вар'яцтва. І дзе яна толькі мужчын здабывае. Было пра што вар'яту Аўгусту Серадзе пагаварыць з Дзевай Марыяй, святой грэшніцай.

Але ён адмахнуўся ад яе, падхапіў пад руку інспектара ДАІ і ласкава павёў за сабою ў кабінет. Хаця інспектар той трэба яму, як жабе нос. Быў ён бесправходна нудны, больш таго, вельмі нармальны і разумны пры сённяшнім жыцці. Убачыўшы яго ў форме і з даішным жэзлам на дарозе, палахліва скаланаліся ўсе вадзіцелі раёна. І нявінныя рады былі як мага хутчэй аддаць яму правы, толькі б раз'ехацца, захаваць галаву. Каб не быў Аўгуст Серада старшынёй калгаса, ён бы яму і рукі не падаў. Але, як гаворыцца, з аднаго боку як чалавек, а з другога – як член партыі... Па пасадзе сваёй абавязаны ён быў лашчыць яго і гладзіць толькі па шэрсці, хаця па натуры, па характары сваім не вытрымлівае ніякіх інспектараў увогуле, а ў форменным мундзіры – у прыватнасці. Асабліва ў званні старшага сяржанта і лейтэнанта. Яны аплялі ў рукі жэзл, ад чаго на лобе якраз у гэтае імгненне ў іх пачынаюць праразацца рожкі. І яны за той жэзл і рожкі гатовы служыць самому чорту. Каб не абразіць усіх астатніх, ёсць, канешне, і выключэнні, але рэдка. Слабы маленькі чалавек, слабы.

Да ўсяго яшчэ ўчора Аўгусту «стукнулі», данеслі аб надзвычайным здарэнні з механізатарамі. Стукач, з вернападданых добраахвотнікаў, той, што і піў, вядома, разам з усімі. Чамусьці іх шмат у вёсцы. Аўгуст асабліва іх не прывячае, але кожны кіраўнік сярэдняга звяна, пэўна, і вышэйшага – слабы, слабы чалавек – абавязаны мець сваю ўласную сістэму вышуку і дазнання. Хвароба часу і грамадства – адсутнасць інфармацыі. Ёсць попыт, век прагне і канае ад недахопу інфармацыі. Аўгуст прагнаў стукача, вельмі ўжо той п'яны быў. Цікавая парода людзей, не паспеў ацверазець, язык слова не вяжа, а даносіць, стукаць здольны. Даносіў на гэты раз неяк выбарачна, на ўсіх кляпаў, канешне, адразу, але і персанальна на Лазара Кагановіча. Кагановіч жа быў нечым цікавы Аўгусту. Адно – не забыць, як пайшоў ён пад суд. А другое, ён хоць і піў, але не ў прыклад усім іншым, з нейкай маўклівай адчужанай зацятай вартасцю. Негаваркі, калі і вып'е, а ўсе

астатнія п'янтосы – салаўі-салісты калгаснай сцэны. Аўгуст і сам не супраць быў выпіць з ім і сур'ёзна памаўчаць. Вось таму ён не даслухаў да канца стукача.

А цяпер шкадаваў. Інспектар прыхапіў яго знянацку. Скочыў ён да яго, канешне, з нагоды таго, што ўчора тут адбылося. Аўгуст быў не падрыхтаваны да гаворкі з ім, але ведаў, што галоўнае не аддаць ініцыятыву, напусціць як мага больш туману.

– Ведаю,– сказаў ён, – ведаю. Што зробіш, такая цяжкая пасяўная.

– Цяжкая, – пагадзіўся з ім інспектар. – Суша, вятры. А тут нідзе нічога не дастаць, не купіць.

Аўгуст адчуў палёгку: зразумеў намёк.

– Якія праблемы, інспектар?

– У мяне праблемы? А ніякіх.

Гэта сведчыла, што праблемы ёсць у Аўгуста. Будуць у Аўгуста праблемы, таму што інспектару патрэбна нешта такое, чаго няма і ў яго ці што вельмі яму дарага.

– Шчаслівы ты чалавек, – сказаў Аўгуст.– Такіх і не засталося ўжо. Сям'і няма, дзяцей няма, бацькі памерлі?

– Ёсць сям'я, дзеці, і бацькі жывыя,– спахмурнеў інспектар.

– Ну вось, а кажаш, няма праблем. Выкладвай.

– Спачатку справа. Спачатку служба, Аўгуст. Ты ж ведаеш, як у нас строга цяпер. Во, глядзі – інспектар расшпіліў планшэтку, выцяг з яе і кінуў на стол ладны стос пратаколаў і актаў.

– У нас, як ведаеш, месячнік...

– Ведаю, семдзесят гадоў...– Аўгуст лёгенька так пасунуў назад інспектару яго паперкі.

– Не трэба. А вось гэтага, Аўгуст, рабіць не трэба,– паспрабаваў спыніць яго інспектар. – Гэта афіцыйныя службовыя дакументы.

– Пачакай, лейтэнант, пачакай ты са сваімі афіцыйнымі дакументамі. Мы што, не людзі... Усе яны жывыя, здаровыя?

– Ды, здаецца, усе...

– Дык чаго ж ты: афіцыйныя дакументы, афіцыйныя дакументы. Абыдземся і без іх...

– Сёння, Аўгуст, гэта сур'ёзна.

– Сур'ёзна, гэта колькі? – спытаў Аўгуст.

– Усе, – выдыхнуў інспектар і пачаў прастуджана кашляць.

Аўгуст адчуў, што справа ў інспектара дробязная. Ніякай службовай і афіцыйнай справы. Зняць, ссадзіць з трактараў усіх яго трактарыстаў, адабраць адразу ва ўсіх правы – такое не пад сілу самому генеральнаму сакратару, хоць ён сёння яшчэ і прэзідэнт. Не

пад сілу, калі ён цяміць у сельскай гаспадарцы, што-небудзь ведае пра гной. А павінен ведаць, рабіў сам на камбайне.

– Калектыўнае распіціе спіртных напіткаў з выездам на праезджую частку дарогі. Упраўленне ў састаянні ап'янення дарожна-транспартнымі срэдствамі.

– Вельмі сур'ёзна,– адгукнуўся на гэта яго абвінавачванне Аўгуст. – У састаянні алкагольнага ап'янення... Давай, лейтэнант, дзейнічай згодна літары і духу закону.– І Аўгуст згроб акты і пратаколы, аддаў іх інспектару.

Амаль кінуў. Той падхапіў, але не ўсе, частка іх рассыпалася, пырхнула пад стол.

– Глядзі ты, паперкі, а такія цяжкія,– зноў паспачуваў Аўгуст інспектару.

– Ды ўжо нялёгкія, – інспектар вылез з-пад стала і пачаў чыхаць.– Вось і прастудзіўся, зарабіў прастрэл. – Інспектар быў ужо немалады і, здаецца, маршальскія рожкі ў яго ўжо адпалі. Навошта паважнага веку простаму інспектару маршальскія рожкі, калі ў яго руках даішны жэзл. Інспектар сядзеў за сталом і цяжка соп. Але Аўгуст не жадаў больш выказваць яму свае спачуванні.

– Як будзем афармляць? – спытаў ён інспектара.

– Ведаеш што, Аўгуст? Ішоў бы ты...

– Куды?

– Абодва мы ведаем ужо, што і куды. Не першы год замужам. Абодва мы добра ведаем наш закон: я адбяру правы, не паспею да ДАІ даехаць, як у горадзе пачнуць шалець тэлефоны. І правы мне прыйдзецца табе ж у зубах несці. Не так, скажаш?

– Ведаеш? Навошта пытаеш? Навошта ехаў?

– Душа баліць, – сказаў інспектар.– Пятнаццаць гадоў ужо вось так езджу. Калі ён толькі кончыцца, гэты месячнік. Распусціў ты народ, Аўгуст.

– Я распусціў народ? Я?..

– А хто ж яшчэ? Ты ж тут гаспадар.

– Я такі тут гаспадар, як і ты, ты ў зубах закон свой носіш, думаеш, у мяне зубоў няма. У цябе месячнік пятнаццаць гадоў. А ў мяне пяцігодка бясконца. Павучок у шклянцы.

– Што? – не зразумеў ці падумаў, што недачуў, ускінуў галаву інспектар.

– Ды нічога, гэта я так, сам сабе.

– І я сам сабе, – сказаў інспектар.– Не вытрымаю я ў ДАІ. Я аб жыцці мяркую па тым, як ездзяць людзі па дарогах на машынах. Праходзіць ён перакростак, а я ўсё ўжо аб ім ведаю і бачу: мярзотнік і

паскуда. Нельга яго да руля дапускаць, і за ім следам. Загадзя, не гледзячы ўжо, ведаю, дзе і што ён парушыць, пакладзе мне правы. Мне толькі трэба ў свой час у належным месцы кіўнуць галавой, і ўсё. Я лішняга гаварыць не люблю. З табой вось толькі...

– Чым жа заслужыў такі давер?

– Які давер. Душу супакоіць хочу. Выгаварыцца хоць перад кім-небудзь. Сагнулі, зламалі мяне. Ніхто і нідзе не ездзіць сёння па правілах. ПДР як нікому не пісаны. Панаглядай, прасачы сам за сабой, убачыш, мая праўда. Ведаеш, мяне самога пацягло парушыць іх. Узяць і на роўным месцы парушыць, кандзібоберам такім праехаць, жахліва...

– Што ж жахацца, таму ты і ў ДАІ робіш, каб правілы парушаць.

– Жахліва, Аўгуст, не гэта, такая мая служба, каб, парушаючы, засцерагаць ад парушэнняў іншых. А вось іншыя гэтыя калі парушаюць, гэта ўжо непарадак. Усе вакол парушаюць, а я ад Новага года ні ў каго правоў не адабраў. Вось чаму, Аўгуст, я сёння ў цябе. І не паеду ад цябе, не атрымаўшы правоў. Парушаў жа, Аўгуст, не трэба, не адмаўляйся. – Інспектар ускінуў кулак, мерачыся грукнуць ім па стале. Але не грукнуў, паклаў яго на стол ціхенька, мякка, толькі той, здалося Аўгусту, войкнуў і прысеў. Унушальны кулак меў інспектар, дзяржаўны, нібыта адліты са сталі, пад колер яго форменнага кіцеля, мужыцка-шэры і з усіх бакоў мазолісты, шышкаваты. Таксама шышкавата, мазольна выпірала са швоў і само цела інспектара. А вочы і без таго маленькія, здаваліся цяпер, зніклі зусім, дзве кропкі толькі, а не вочы. Але не было ў тых кропках ні загаднай уладарнасці, ні злосці, толькі сонная ачмурэласць.

– Парушаў, Аўгуст? – зноў падаў голас інспектар.

– Парушаў, – і не падумаў пярэчыць Аўгуст, таму што сапраўды парушаў, і неаднойчы. Быў за рулём і пад мухаю, але ўнікаў ад усіх інспектараў. Не, не бегаў, не наладжваў кіношных гонак. Меў свой прыём. Паслухмяны жэзлу інспектара, прытарможваў, збочваў і спыняўся, глушыў рухавік, вылазіў, замыкаў усе дзверцы. І адыходзіў. Моўчкі, не мовячы ні слова, не адгукаўся і не паварочваўся на голас і свісток даішніка. Адыходзіў і пазбягаў якіх бы там ні было непрыемнасцей. А цяпер рука мімаволі пацягнулася да кішэні, дзе ляжалі правы. І ён дастаў іх і падаў інспектару. Хаця ў апошнюю хвіліну і ачомаўся: «Што ж гэта я раблю, раб». Яшчэ быў здольны спыніць сваю руку, але не пажадаў выглядаць слабым і смешным.

– Вось мае правы, – сказаў ён інспектару.– Бяры, калі трэба.

– Не трэба, – інспектар абмяк і адштурхнуў яго руку. – Не трэба, не цяпер.

– А калі, калі трэба будзе?

– Калі тое трэба прыйдзе, тады і забяру. Узяў бы і цяпер. Але цяпер не магу ўзяць. Прыйдзе час – вазьму. Не хвалюйся, прыйдзе час. А сёння мне патрэбны зусім іншыя правы. І сёння я касцьмі лягу, а вазьму іх.

– Чые ж гэта правы, калі не сакрэт? – спытаў Аўгуст. Было яму вельмі няёмка і сорамна за самога сябе. Калі глядзець праўдзе ў вочы, ён усё жыццё перад кожным, хто мае ўладу і сілу, так, як хвіліну назад: загадваюць – слухаецца і падпарадкуецца. Загадаюць адсекчы самому ж сабе рукі ці нават галаву, пабурчыць і адсячэ. І будзе яшчэ ганарыцца тым, як яму цяжка было, як балюча было, як цяжка жыць на свеце, калі табой кіруюць дурні і вар'яты, як цяжка жыць яму на свеце без галавы ці без рукі. Ён уявіў сябе без галавы і засмяяўся, захлынуўся ад рогату.

– Ты чаго? – скоса зірнуў на яго інспектар. – Чаму табе так весела, калі мне плакаць хочацца?

– А ты паплач, паплач,– параіў яму Аўгуст.

– А вось гэта ўжо дудкі. А вось ужо не. Плакаць будуць іншыя. Сёння я буду смяяцца. Правы ў мяне ўжо ў кішэні.

– Чые ж правы ў цябе ў кішэні? – зноў перапытаў яго Аўгуст.

– Лазара Кагановіча,– голас інспектара трымцеў і перарываўся ад нецярплівасці. І сам ён калаціўся і чухаўся.

– Каго? – не даў веры сваім вушам Аўгуст. – Лазара Кагановіча правы? І яны ў цябе ўжо ў кішэні?

– Ну, не зусім яшчэ ў кішэні. Але будуць там. – І інспектар паказаў, дзе і ў якой кішэні будуць правы Лазара Кагановіча.

Аўгуст больш не смяяўся. Ну не, каго-каго, а Лазара ён не дазволіць узяць. Ён уратуе Лазара толькі таму, што імгненне назад ён так звярына напалохана і паслухмяна аддаў сябе ў рукі інспектара, прадаў сам сябе.

– Падумай, – сказаў Аўгуст. – Ты хоць слухаеш сам сябе, што гаворыш, чуеш? Паслухай: Лазара Кагановіча правы.

Інспектар, здаецца, апрытомнеў:

– Лазара Майсеевіча Кагановіча?

– Вось іменна!

– Таго самага? А ён што, жыве тут?.. Не, цьфу... Родзіч мо далёкі, сваяк, швагер які?

– Слухай, ты да доктара даўно хадзіў?

– Навошта?

– Ну, ведаеш... А ў Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна ты не хочаш забраць правы?

– Не дуры мне галавы. Забяру, у каго трэба.

– У каго? Няма ў нас у калгасе, разумееш, ніякага Лазара. Які ж Лазар пойдзе трактарыстам у «Верны шлях»?

– Ты мне не дуры галавы. Я яшчэ не вар'ят. Я яшчэ пакуль толькі чыхаю, а скора пачну кашляць, з носа плыве і цячэ. Насмарк у мяне, разумееш. Насмарк набыў пры іспалненні служэбных абязаннасцяў. А яшчэ прастрэл у паясніцы. Ці гэта мне прыснілася. Я ўчора, як дэсантнік, водную перашкоду браў. Па кустах, як воўк, улягаў. Я гэта быў ці не я? Няма Лазара, дык народзіце. Памёр за ноч – падыму, з труны выцягну, з магілы вазьму. Інакш мне не жыць. Разумееш ты мяне? Я інспектар, разумееш, я ДАІ, разумееш?

– Разумею, але нічым не здольны табе дапамагчы, інспектар. Хаця, здаецца, жывы, жывы яшчэ Лазар Майсеевіч Кагановіч.

– Хатні адрас, дзе пражывае?

– У Маскве...

– Паеду ў Маскву, даб'юся і туды і там вазьму. Вазьму... Нацыянальнасць для мяне не мае значэння. Я інтэрнацыяналіст...

О, Госпадзі, Аўгуст лічыў, што на свеце адзін толькі ён вар'ят, а імі хоць агарод гарадзі. Імя ж ім легіён. Ён думаў, што ўсе яны ўжо там, адкуль няма вяртання. А гэты вярнуўся, сядзіць перад ім, інтэрнацыяналіст, прышэлец далёкіх сусветаў. І Аўгуст, калі пажадае, можа яго памацаць і ўшчыпнуць. Сядзіць перад ім жывы і здаровы, хаця па ім ужо даўно адгулялі саракавіны. Павук-крыжавік, захаваны і збяражоны шкляным празрыстым каўпаком прывіднай волі-няволі.

Згаладаўся, праўда, крыху пад тым бацькоўскім дзяржаўным каўпаком. Знямог, змарнеў. Да чорцікаў хочацца яму яшчэ папрацаваць, свярбяць, занудзіліся рукі без штурвала. Падышоў ён ужо да сваёй апошняй рысы. Старыя коні дохнуць не ад працы, а ад някорміцы. Аўгуст пашкадаваў яго. Ці так ужо вінаваты гэты лейтэнант, што яго абмундзіравалі, прышчамілі плечы пагонамі з дзвюма зоркамі, далі ў рукі маршальскі жэзл, падагналі машыну з дзяржаўным гербам, пасадзілі ў яе і сказалі: гані, ату іх, ату.

Яму, Аўгусту Серадзе, калі не вар'яцкі дом, то пенсія нейкага эннага значэння ўсё роўна наперадзе будзе. А інспектару наўрад ці будзе яна. Кінуць, прышчэмяць плечы за верную службу яшчэ адной зоркай і старлеем выправяць адпачываць. Гэта ў лепшым выпадку... А можа быць і куды горш. Што ж, не ён першы, не ён апошні. Аднойчы знойдуць яго ў прыдарожным кювеце з разбітым чэрапам і ўвагнаным у азадак колам ці бутэлькай з-пад гарэлкі. І падымуць, і панясуць, і пахаваюць, аддадуць пашану. Так у гэтых мясцінах заканчваў сваё жыццё не адзін інспектар.

– Слухай, лейтэнант,– сказаў Аўгуст,– а парнік у цябе ўжо ёсць?

– Што, які парнік? – не адразу зразумеў і пераключыўся той.

– Ну які, які парнік? Звычайны. Памідоры, агуркі там. Не гэтыя даўгаствольныя, а нашы, вясковыя, толькі пад плёнкай.

– А-а, добрая справа парнік. Я ўчора прыкмеціў ужо. Вялікія, добрыя парнікі і пад плёнкай. А ў мяне плёнкі няма.

– Дык і зазірнуў бы да мяне ўчора. Я тут быў, на месцы.

– Не мог я ўчора, Аўгуст, зайсці да цябе. Стаміўся я. Як я стаміўся. Кожнага прасіць, кожнаму кланяцца. Я ж пры пасадзе. Я горды...

– Усе мы, інспектар, гордыя, але што зробіш, калі так мала плёнкі, самым гордым не хапае.

– А ў цябе ёсць?

– Няма. Але, як у нас кажуць, калі вельмі трэба – знойдзем.

– Вось і я так думаю. Усё роўна знайду я Лазара Кагановіча. З-пад зямлі дастану.

– Канешне, знойдзеш, дастанеш. У парніку яго пад плёнкай вырасціш...

Інспектар, беражна трымаючы ў руках квіток на плёнку, падпісаны Аўгустам, пакінуў кабінет. «Хамло, – паспеў толькі падумаць Аўгуст,– такі дэфіцыт, хоць бы дзякуй сказаў», – як да яго ў кабінет убілася Дзева Марыя. Ледзь не высадзіла дзверы, хіснула і страсянула касякі. Яе распірала ад прытоенага, сцішанага дыхання. І Аўгусту, прыгнечанаму стомай і абыякавасцю ад цяжкой гаворкі з інспектарам, было прыемна пазіраць на гэтае вялізнае дрыгатлівае цела, хаця ён і пазбягаў неабдымных жанчын. Але тут мімаволі яго захапіла жаданне прыпасці да яе жывога мяккага цяпла і надоўга забыцца. Цяпла ў Дзевы Марыі хопіць, каб прыспаць якога хочаш мужчыну. Прыспаць так, каб ён тыдзень не кратаўся, хадзіў па зямлі, пазіраючы толькі сабе пад ногі. Вока супакойвалася, пакуль аббягала яе ўсю, і адпачывала, калі даходзіла да шырокіх стагоў грудзей. Жыццё і тленнасць яго сышліся і парадніліся ў ёй. І сумна рабілася, калі вока з грудзей апускалася долу: куды і на што, як марна траціцца жыццё.

І хоць Аўгуст быў рады бачыць Дзеву Марыю, пасля перамоў з інспектарам у яго не было ўжо, як раней, жадання гаварыць з ёй. Знікла, перагарэла ўсё ў душы. Памаўчаць бы, іншая справа. Але кабінеты існуюць зусім не для таго, каб у іх маўчалі, не для сузіральнага граху.

– Што ў цябе, Дзева Марыя, ты яшчэ не маці-гераіня?

– Не ведаю, Аўгуст, калі тройня адразу завязалася, то ўжо маці-

гераіня... Бяда, бяда, Аўгуст... – хацела нешта і далей працягваць у тым жа тоне, але Аўгуст перабіў яе:

– Пачакай, не сей так густа. Колькі табе гадоў, Дзева Марыя?

– Мне, гадоў? Якая ж Дзева лічыць свае гады? Семнаццаць, Аўгуст, семнаццаць. Калі-небудзь споўніцца.

– Вось бачыш. А ты заладзіла: бяда, бяда... Няўжо ты не ведаеш, Марыя, што самае страшнае з намі ўжо здарылася, калі нам не споўнілася яшчэ і семнаццаці. Усё ўжо адбылося...

– Ведаю, Аўгуст, ведаю. Але ты яшчэ жывы. Гэта мне ўжо снежань, а ты толькі Аўгуст і Серада...

– Ты так думаеш, ты сапраўды так думаеш, – чамусьці залішне ўсхвалявана і хапатліва зноў спыніў яе Аўгуст.

– Так я думаю. Я не толькі дзяцей раджаю, іншым разам і думаю. Калі іх раджаеш, прыходзіцца думаць...

– Аб чым жа, Марыя?

– Аб канцы свету, Аўгуст.

– Навошта ж раджаеш тады?

– Во, каб я гэта ведала. Яно ж не пытаецца. Прэ з цябе, хоць ты на сцену дзярыся. Вось ты якога ражна нарадзіўся, хто цябе зваў на нашу галаву?

– Я зусім іншая справа, – не без гонару і трохі пакрыўджана сказаў Аўгуст.

Дзева Марыя толькі гмыкнула:

– Канешне, Аўгуст, ты зусім іншая справа. Ты не баба, ты не маці. Ты бацька. Не адмаўляйся, ты толькі бацька маіх дзяцей. Не бойся, на аліменты не падам.

«Яшчэ адна вар'ятка на маю галаву, – сумна падумаў Аўгуст.– Час дамоў, пара ўжо ў «псіхушку».

А Дзева Марыя працягвала:

– Бабе панесці – мужыку толькі ў вочы паглядзець ёй. А ты глядзеў. І зайшла – глядзеў. Думаеш, ты са мною ездзіў лятаючыя талеркі глядзець? Скажы людзям, хай яны табе паверац. Пакажы мне такога чалавека, каторы табе паверыць, што ты сярод ночы паехаў з бабай глядзець лятаючыя талеркі. «І папраўдзе ніхто не паверыць, – падумаў ён, – толькі поўны вар'ят можа паверыць».

– Дык чаго ж ты, Дзева Марыя, ад мяне хочаш? Каб я ўсынавіў і ўдачарыў тваіх дзяцей?

– Іменна гэтага я і хачу, – сказала Дзева Марыя, – з гэтым я да цябе і прыйшла.

– Ты што, зранку п'яная, Дзева Марыя?

– Ты сам бачыш, якая я п'яная. У нас зранку лягчэй задушыцца,

чым напіцца. Не спяшайся праганяць мяне. Ты ўчора пашкадаваў мне рубліка. Я табе сёння даю дзесяць. Пачакай. Не бацька ты маіх дзяцей. І нікога, нікога не дазволю я ім зваць бацькам. Ты аўгуст і пакуль бясплодны. Мне ўжо сыпле ў вочы снежань, і ў мяне поўная хата майскіх апрэльчыкаў. Прыйдзе іх май і пацягне іх на свежую траўку. Пойдуць яны, а паўсюдна адна толькі пустыня і пянькі. А будзе яшчэ аўгуст, дзе ім з табой сустрэцца. У аўгусце яны праклянуць цябе. Прыйдзе мой снежань, сярод аўгуста можа падкрасціся. Яны праклянуць мяне.

– Не разумею,– сказаў Аўгуст. – Нічога не магу зразумець

– А што разумець, Аўгуст? Ты аддаў загад секчы лес?

– Які загад, які лес?

– Апошні, ужо сякуць, рэжуць.

– Каля нашых Луж? Урочышча?

– Вось бачыш, усё ты ведаеш...

– Нічога я, Дзева Марыя, не ведаю. Павер мне, нічога не ведаю.

Дзева Марыя не паверыла.

– Гэта немагчыма,– сказала яна пераканана. – Гэта ж у нас, гэта ж на нашай калгаснай зямлі. Ты ж старшынёй над ёю пастаўлены, галавою прызначаны. Ці ты толькі бабамі ды каровамі здольны камандаваць? – Дзева Марыя засмяялася, а з вачэй яе выкацілася па слязінцы, але яны адразу ж высахлі, трапіўшы на твар, нібыта на гарачую распаленую патэльню.

Аўгуст маўчаў. Ён сядзеў за сталом і думаў, аплёўшы праваю рукою тэлефонную трубку. Яму звыкла было так думаць, трымаючы ў руках тэлефонную трубку. І не было яго ў тую мінуту ў кабінеце. Ён пайшоў вачыма ў сярэдзіну сябе і нікога і нічога больш не чуў і не бачыў. І Дзевы Марыі ля яго ўжо не існавала. І таму ён вельмі здзівіўся, убачыўшы яе ў кабінеце, калі перакінуў ужо з адной рукі ў другую тэлефонную трубку, нібыта тая была вельмі гарачай.

– Ты чаго тут расселася, чаго распусціла мясы свае! – закрычаў ён на яе. – Ану марш на машыну.

Падхапіўся са старшынёўскага крэсла, ухапіў Дзеву Марыю за каўнер кофты, лёгка падняў і паднёс да акна:

– Бачыш машыну?

– А ты мужык, ну ты і мужык,– адмоўна пахітала галавой Дзева Марыя і ледзь не збіла яго з ног грудзьмі. – Толькі я аніякай машыны на вуліцы не бачу.

– Будзе, зараз званю ў гараж, і няхай твой Лазар бярэ, якую хоча,і куляю сюды.

– Лазар валяецца п'яны, і ўсе яны пасля ўчарашняга лыка не

вяжуць.

– Ну ёсць жа нехта і цвярозы з іх, хто здольны стаяць на нагах ці трымацца за баранку.

– Няма, – сказала Дзева Марыя. – Пасля таго, што было ўчора, няма нікога.

– Знойдзем, каб праз паўгадзіны ўсе п'янтосы, усе наркоты былі тут. І баб, баб як мага больш, Марэйка. Самых крыклівых, самых дурных. І яшчэ тры-чатыры бабулі, што ўжо пры смерці. Глухіх, сляпых, скалечаных. Ты мяне зразумела, Марэйка?

– Я цябе зразумела, Аўгуст. Я ўсё зразумела, – і Дзева Марыя, хоць ён і адбіваўся, пацалавала яго ў лоб, апякла вуснамі, як акляйміла. – Усё зраблю, толькі старыя гэтыя, глухія і сляпыя, кажуць, што варта падымаць не іх і не п'яных мужыкоў. Трэба шукаць чорнага бусла.

– Трэба – знойдзем, пафарбуем белага. – І Аўгуст выпхнуў Дзеву Марыю з кабінета. А сам кінуўся да тэлефона.

Тэлефон нема маўчаў. Званкі ад яго ішлі, але нібыта ў космас. І губляліся ў тым далёкім космасе: піп-піп-піп. Коратка і адназначна: адчапіся, мы ўсе выйшлі. І Аўгуст успомніў, што сёння ў Мінску пачалася сесія Вярхоўнага Савета. Ён на імгненне ўключыў радыё.

– Уся ўлада Саветам,– дыктарскім пастаўленым голасам паведаміў яму дынамік, рохкнуў, як удавіўся, і замоўк.

– Ясна,– сказаў Аўгуст,– вас зразумелі, як мяне чуеце?

Радыё маўчала, нават не рохкала больш. Тады ён зноў падышоў да тэлефона і апошні раз набраў нумар. Горад не адгукаўся, і ён хукнуў у трубку, пацалаваў яе і, не кладучы на рычаг, ухапіў са стала тэлефон і грымнуў ім аб падлогу. Дзіўна, тэлефон пачаў гаварыць. Ён вяшчаў дыктарскім голасам аб тым, што нарэшце справядлівасць перамагла. Аўгуст спрабаваў прымусіць яго замоўкнуць, але з гэтага нічога не атрымлівалася, ён поркаўся і валтузіўся з ім мінут пяць. Дурата, канешне, але яму хацелася, каб той дыктарскі голас знік, ён вязаў і абвалакваў яго, абуджаў нейкія цьмяныя і глухія надзеі і спадзяванні, хаця Аўгуст ведаў, што спадзявацца і чакаць нечага. Ён прымружыў вочы, падкраўся да разеткі і з мясам выдраў з яе правады. І зрабілася ціха і ўтульна.

Аўгуст па селектары паклікаў да сябе парторга і старшыню сельсавета. Сельсавет месціўся ў адным будынку з праўленнем. Так што яму доўга чакаць не давялося. Першым з'явіўся старшыня сельсавета, яго, пэўна, заела, што старшыня калгаса надумаў камандаваць ім: уся ўлада Саветам.

– Вось і добра, – астудзіў яго Аўгуст.– Добра, што ўся ўлада Саветам. Прызнаю і падпарадкоўваюся. Ты хоць сам дачытаў да

канца Закон аб зямлі і ўласнасці? Не ерапенься. Пытаюся таму, што я не здолеў. Зірні яшчэ раз, што тут наша, а што дзядзькава. – І не вытрымаў, калі старшыня ўжо збіраўся пайсці, спытаў: – Ты хоць у курсе, што ў нас тут сёння адбываецца?

– Канешне, ведаю, навошта гэты экзамен? У Маскве і Мінску ідуць пасяджэнні сесій Вярхоўных Саветаў...

– Што ў Маскве і Мінску – ясна. А ў нас тут?

– І ў нас тут не без гэтага, Аўгуст. Сам ведаеш. Учора крыху перабралі хлопцы. Кагановіч пераехаў трактарам цераз Сталіна, але абышлося. Грузін выпаў з кабіны, трапіў у ямку, кола толькі склізам прайшлося па ім. Напужаўся і ацверазеў. А так усё нармальна... Не шанцуе Кагановічу, нейкі злы рок над ім.

– Валодаеш інфармацыяй, – сказаў Аўгуст. – Маеш надзейныя крыніцы. А тое, што нас рабуюць, штаны апошнія здымаюць, ведаеш?

Старшыня сельсавета пацiснуў плячыма:

– Урочышча Казялужжа гэта не рабаўніцтва, рашэнне Саўміна.

– Добра, – сказаў Аўгуст.– Паглядзі Закон аб зямлі і ўласнасці. І нікуды не адлучайся.

У кабінеце ўжо быў і парторг. Аўгуст звярнуўся да яго:

– Колькі ў нас сцягоў, Спірыдонавіч?

– Хто іх калі лічыў, Аўгуст?

– Пылу багата?

– Ды не, утрымліваем у чыстаце.

– Хто ж з іх пыл здзьмухвае?

Аўгусту сапраўды было цікаўна, хто здзьмухвае пыл са сцягоў. Ён жа так і ліпне да аксаміту. І апошнія яны, апошнія, а сцягоў у калгасе шмат.

– А я сам і здуваю, – прастадушна прызнаўся Дарожкін. – Каму ж такое даверыш?

– Так, пыльная ў цябе работа... Пад тваю асабістую адказнасць. Каб усе сцягі праз паўгадзіны былі падрыхтаваны да вынасу.

– Навошта? – спрытаў парторг. – Святы яшчэ не надышлі.

– Надышлі, дарагі, ужо надышлі. Праз паўгадзіны будзе свята. І вось яшчэ што. Дазваніся ты да дырэктара лясгаса па сваім тэлефоне. А то мой, бачыш, сапсаваўся. Хай абавязкова будзе тут праз паўгадзіны.

Сам Аўгуст не жадаў гаварыць з дырэктарам лясгаса, хоць той і быў яго сябрам. Але і Дарожкін не выказваў асаблівага жадання гаварыць з дырэктарам лясгаса.

– Брыдка лаяцца буду,– сказаў ён, – я яго і па тэлефоне здольны

забіць.

– Забіваць раней трэба было, зімой, калі вырашалася з заказнікам...

– Так, толькі ты ж, Аўгуст, тады, зімой, нас усіх і прыдушыў. Не так, скажаш?

– Так, Спірыдонавіч, так. Не будзем варушыць мінулае, будзем перабудоўвацца. Гатовы?

– Заўжды гатовы, – сказаў Дарожкін.

– Ну, тады дзейнічай, а я да народа, а то ўжо гудуць. – І Аўгуст ледзь не ўпаў, заблытаўшыся ў абрыўках тэлефонных правадоў, пакінуў кабінет, нават не замкнуў яго, як звычайна, як рабіў гэта заўсёды раней.

– Госпадзі божухна наш светлы, адзіны і чысты, прасвятая вялікая Дзева-Багародзіца, выратуй, захавай і памілуй нас. Дзеву Марыю, душу яе грэшную, шалапутнага і грэшнага яе Лазара, настаў іх на пуць правільны і праведны, дай ім долі і шчасця. Выратуй, захавай і памілуй іх дзетак малых Марэйку і Андрэйку, Ягорку і Клаву, Зіну і Яначку, а тако Гарынь нашу і Случ, Бобрык і Лань, дрэва і птушку…

– Бабо, бабо, да ты няправільна молішся, – закрычаў у прыадчыненыя дзверы Лазар, усё яшчэ седзячы каля печы на сваім дубовым цурбанчыку. Ён зусім ужо наважыўся падымацца, але маленне старой Аўронні ўтрымала яго. Яму было прыемна, што Аўроння не забылася, успомніла і яго, таму ён і падаў голас, знарок закрануў яе, як бы на свой лад дзякуй сказаў:

– Няправільная ў цябе малітва, бабо, Бобрык і Случ, Гарынь і Лань – то ж не людзі, а рэчкі.

– Ой, сядзі ўжо там,– адмахнулася ад яго Аўроння. – Разбіраешся ты ў малітве.

– Разбіраюся– ...

– Ну то не перашкаджай мне тварыць яе... Вось збіў – і не ведаю, як далей весці.

– Не ведаеш, паўтарай за мной: Госпадзі Божа, адзіны і справядлівы, пашлі ты вялікаму грэшніку і бязбожніку зялёна віна...

– Цьфу,– плюнула за дзвярыма свайго пакоя старая Аўроння.

– Не цьфу, а амінь.

Тут сярод вуліцы зараўла машына, пад'ехала да іх хаты і спынілася. Ляпнулі дзверы, на парозе стаяла Дзева Марыя:

– Добрым людзям раса ўжо вочы выела, а ён яшчэ без штаноў сядзіць. Уставай, зараз жа апранайся.

– Не хачу, не ўстану, – сказаў Лазар. – Нікуды я з гэтай хаты

больш не пайду.

– Гэта яшчэ што за навасці? Як нікуды не пойдзеш?

– А вось так, – Лазар уціснуўся ў цурбанок, абхапіў яго рукамі. – Мне тут хораша: цёпла, добра і мухі не кусаюць.

Лазару і на самой справе было хораша. Мо дапамагла малітва старой Аўронні. Нерухомасць, супакоенасць сцішылі боль у галаве, і трубы ўсярэдзіне ў яго ўжо не гарэлі. І Яначка зноў быў з ім.

– Мы тут з Янком рашылі, што я застаюся, – сказаў Лазар. – А ты можаш ісці куды хочаш. Праўда, Янко? Скажы: бацька.

– Дзядзько, – піскнуў Янко, падбег да маці, схаваў твар у яе плацці, высунуў вонку адно толькі вясёлае і ўсмешлівае вочка.

– Вось так, дзядзько, – Дзева Марыя адсланілася ад дзвярэй, Янко ўпаў. – Не пойдзеш, то я панясу. Сілы хопіць такіх мужыкоў на руках насіць.

І яна лёгка, без усякай напругі падняла з падлогі Лазара разам з яго цурбаном. Янко рагатаў каля парога, пазіраючы знізу ўверх, як Лазар цялёпкаецца ва ўчэпістых руках маці.

І зноў жа яму было хораша. Не так ужо і блага, калі жанчына носіць цябе на руках. Ён адчуваў, як нешта змяняецца ў яго жыцці. У горшы ці лепшы бок, але змяняецца. Канешне, у лепшы, таму што горш ужо нельга. Калі яшчэ горш, то тады застанецца толькі адно: закруціцца ў белую прасціну і па-пластунску на могілкі, пад дубкі. На шырокіх грудзях Дзевы Марыі было яму цёпла і мякка, і павявала ад яе нявіннасцю сырадою і кветкамі белых палявых рамонкаў, каторымі Дзева Марыя мыла галаву, як ад маці, калі ён, Лазар, быў яшчэ зусім маленькі і маці насіла яго на руках.

А маці доўга насіла яго на руках, да пяці гадоў давала цыцку, і гэта было ўжо вельмі добра, куды лепш, калі параўноўваць яго з равеснікамі, каторых ужо даўно адвучылі ад цыцкі. Прынясуць іх маці ў поле, на буракі ці бульбу, самі полюць ці акучваюць, а яны гуляюць каля іх у разоры, ці на рагу поля, у зарасніках, нагуляюцца, набегаюцца, вымерхаюцца і да маці: дай есці. Але не кожная мела нешта прыхапіць з хаты, і надаралася такое, што не ў кожнай было ў хаце што ўзяць. Енчаць, ныюць, нудзяцца, лезуць маці пад рукі, і тыя таксама ў журбе. А яго маці клопату з ім не мела, і ён заўсёды сыты, ледзь што – яна яму цыцку ў рот, ён, як бычок, і цундоліць. Вачаняты ў неба, а там жаваранак спявае і радуецца, бусел белы лётае, і плывуць белыя хмаркі, сонца ім пасміхаецца. І ў маці на галаве белая хустка, выгодная была ў яго маці.

Але нешта, пэўна, разамлеў ён залішне на руках у Дзевы Марыі, пусціў сліну на яе цёплыя і мяккія грудзі. І адразу, калі ён быў на

вяршыне шчасця, літаральна на сёмым небе, ад яго патрабавалі платы за гэтае шчасце. Апусцілі на зямлю. 1 не проста апусцілі, а кінулі разам з калодкай, і ён грымнуўся долу так, што печ загула. Загула, застагнала печ, шкадуючы яго. Хацеў абурыцца, пачаць сварку, але падумаў: а навошта і ці варта. Колькі ж разоў падаў і трываў, вытрывае і цяпер. І Янко такі шчаслівы, такі рады, смяецца, заліваецца. Смейся, Янко, смейся, пакуль даюць. Вырасцеш – плакаць будзеш.

– Апранайся, Лазар, не марудзь, апранайся,– нібыта нічога і не здарылася, загадала яму Дзева Марыя.– І вы, дзеці, усе апранайцеся. І ты, мамо, уставай і накінь што-небудзь на сябе.

– Куды, куды мы едзем?

– У горад, мамо? – набеглі, узнялі галас дзеці, толькі старая Аўроння і Лазар апраналіся моўчкі. Аўроння, пэўна, па голасе дачкі адчула нешта нядобрае. А Лазар ужо звык, пачуўшы каманду, падпарадкоўвацца. Голаму апрануцца – толькі падперазацца. А вось на ногі абуць нечага было. Прывезеныя з зоны боты ляжалі ў яго хаце, а выходзіць з хаты Дзевы Марыі босаму было дрэнна. Непрыгожа паяўляцца на людзях босым, сорамна было прызнавацца, што ў яго па п'янцы ўкралі з ног боты. Не мог Лазар выставіць сябе перад усімі на смех і ганьбу. Дзева Марыя прынесла яму свае гумовікі, у каторых хадзіла на дойку. Яны прыйшліся Лазару па назе, крыху толькі хлябалі.

– Цяпер бы толькі расолу, – сказаў Лазар, абуўшыся.– Усё б аддаў за кружку расолу.

Дзева Марыя прынесла яму трохлітровы слоік бярозавіку, ён выпіў яго за тры прыёмы, да дна. Выпіў, крактануў, адзначыў:

– Жыць будзеш, але па бабах не пойдзеш.

– Бяры старую на рукі і нясі ў машыну, – загадала яму зноў Дзева Марыя.

– Навошта старую трывожыць, – падбадзёраны бярозавікам, набраўся ён духу на пратэст і пытанне. Але Дзева Марыя так зірнула на яго, што ён прыкусіў язык. Са старой, лёгкай, што пярынка, Аўронняй на руках, у атачэнні ўсіх шасцярых дзяцей, ён выйшаў на двор. Дзева Марыя ішла ў хвасце гэтага шэсця, замыкала дом. Яна так і не сказала нікому, навошта і куды яны выпраўляюцца. І дзеці, бачачы яе замкнёнасць і адчужанасць, гарнуліся да яго. Гэта ўсцешвала Лазара, радасцю яму была і яго ноша. Хораша, аказваецца, не толькі калі носяць на руках цябе. Пракукарэкаў у плечы яму певень з плота, той самы, ірдзяна-чырвоны. Лазар пагрузіў ужо Аўронню ў машыну, азірнуўся, апошні раз паглядзеў на хату, каторая так і не

зрабілася яму роднай, павярнуўся, паглядзеў на сваю хату, падумаў, што варта, варта ўсё ж заскочыць і развітацца. Пераабуцца ў свае боты. Непрыгожа заставацца ў жаночым абутку. Ён прадчуваў, ведаў, што больш сюды не вернецца. Вельмі ўжо горасна крычаў яму ў плечы певень. А яшчэ калі ён быў у хаце, сядзеў каля печы, рагатаў, прылятала сарока. Прылятала і стукала касцяной сваёй дзюбаю па шкле. Падавала яму знак і засцерагала.

– Трэба было б усё ж пераабуцца, – сказаў ён Дзеве Марыі. Але тая ці не пачула яго, ці не захацела чуць. Падхапіла і амаль кінула ў кузаў грузавіка. І грузавік быў таксама знаёмы яму. Яго стары першы грузавік, на якім ён яшчэ ў маладосці пачынаў ездзіць. Даўно ўжо прасіўся на сметнік, на спісанне. Але ў калгасе машын ніхто ніколі не спісвае. Ганяюць, пакуль не рассыплецца.

– Ну, паехалі, – трубна загадала Дзева Марыя. Лазар ухапіўся абедзвюма рукамі за абадраны, стрэмкавы борт, нібыта збіраўся збегчы, выскачыць. Заскрыгацела перадача, усё роўна як машыну спрабаваў нехта разрэзаць, разадраць на бясконцую колькасць металічных асколкаў і драўляных трэсак-стрэмак. Лазару здалося, што гэта раздзіраюць і яго, і ў яго не было жадання супраціўляцца гэтаму раздзіранню, ён зняў рукі з борта, але сцяў кулакі. На коленцы да яго падсеў Янко. Машына кранулася, пабегла па белых пясках так і незакончанай дарогі, панесла па іх умешчаных у кузаве белалужцаў – скалечаных, глухіх і сляпых, старых і дзяцей, а разам з імі яшчэ крыху п'янага Лазара Кагановіча і цвярозую Дзеву Марыю.

Каля праўлення калгаса іх ужо чакалі, у поўным зборы там быў увесь мехдвор: і Лаўрык, і Гога, і Толя Белы з Толем Чорным, апухлыя ад учарашняга вечара, маўкліва-дзелавітыя.

– У ЦК б зматаць,– падкаціўся да Лазара грузін. – Як ты мяне ўчора не прыдушыў, як я жывы ўчора застаўся, сам не ведаю. З цябе бутэлька.

Лазар зірнуў на яго, але нічога не адказаў, адышоўся ўбок і закурыў. Курыць хацелася страшна, аж свярбела пад лапаткамі. Але не курылася. І ён больш назіраў, як разгараецца ў яго пальцах самакрутка, дыхаў гаркавым і адначасова салодкім дымам махоркі. Глядзеў праз гэты дым на неба, сонца, людзей, і вочы яго тумаліліся. Дадаваў яшчэ гэтага туману ў вочы і вецер, нёс з балота пахі прагорклых травяных палаў, гарчыў горла згарэлай вольхай і крушынай, падхопліваў і кружыў на плошчы дробны пясок і пыл, кідаў у твар людзям, Лазару ў твар, хоць стаяў ён у зацішку, наасобіцу ад усіх, пад ладнай і голай яшчэ па гэтай пары бярозай.

Бяроза тая была адметная. Бог ці чорт пазначылі гэтую зямлю,

напэўна. Школа і дзяцячы сад, як ні дзіўна, аказаліся ў самай вялікай па ўсіх іх чатыроў вёсках радыяцыіі. Бяроза расла каля плота школы, грамадзянская абарона правярала пад ёю свае прыборы. Не шкаліла, але стрэлка забягала пад чырвоную рысу і трымалася там. І цяпер дзядок-абаронцчык з дазіметрам цераз плячо, на адной назе, другая – дзеравяшка, верабейчыкам падскокваў пад бярозаю.

– Норма? – спытаў яго Лазар.

– Норма. Яна сваю норму ведае. Не помню ўжо, колькі раз мянялі, звозілі зямлю. А яна ўсё тая ж, як зачараваная.

– З зямлі, пэўна, бярэ, цягне, – сказаў Лазар, – да самага Чарнобыля, не інакш, карані ў яе. Зрэзаць бы трэба.

– Варта было б зрэзаць,– пагадзіўся абаронцчык, – ды шкада. Апошняе дрэва на плошчы.

– А дзяцей табе не шкада, яны ж сюды курыць на перапынках бегаюць.

– Не, курыць яны сюды не бегаюць. Апасаюцца. Пад самымі ж вокнамі канторы. Яны кураць ва ўборнай.

– Калі ты ўсё ведаеш, навошта ты тады скачаш, мераеш усюды?

– Гуляем. Цацку мне далі, я з ёю ў іх гулі і гуляю. Вось табе, усім вам, – абаронцчык кіўнуў у бок люду, што сабраўся на плошчы,– кінулі зверху цацку. Вы самі – як лялькі, не бачыце яе, а гуляеце з ёю, носіцеся, як дурань з пісанай торбай.

– Хто гуляе, а хто жыве, – сказаў Лазар. – А ёсць такія, што ўжо і аджылі.

Абаронцчык паскакаў ў бок дзіцячага сада. Лазар правёў яго вокам і скінуў фуражку. Адразу ж на валасы яму легла буйная кропля, што ўпала аднекуль зверху. Лазар узняў галаву, бярозавая галінка, як дацягнуцца яму рукой, была надламана, з яе і капала. Выплаканая бярозавікам зямля пад нагамі яго была вільготнаю і чорнаю, а там, дзе гэты бярозавік падаў на зямлю, нібыта кранута саском. Ці гэта ўжо і быў сам сасок зямлі. Ён доўга і пільна прыглядаўся да яго. А потым раптам як засаромеўся гэтай сваёй пільнасці, старанна зацёр той уціснуты ў зямлю гола агладжаны сасок падэшвамі ботаў, нагнуўся і чарпануў з-пад сваіх жа ног жменю вільготнага чорнага пяску. Расцёр яго ў руцэ і паспытаў на зуб. Пясок быў як пясок, нават крыху салодкі, насычаны бярозавым сокам.

Беражліва трымаючы яго ў руцэ, каб не ўпала ні пясчынкі, Лазар пакрочыў ад бярозы да ганка канторы. З парога спускаўся насустрач яму Аўгуст Серада. Рукі яго былі таксама занятыя, пакручваў на пальцы ключы ад машыны.

– Што гэта ў цябе, Лазар? – убачыў і вылучыў яго старшыня

калгаса.

– Пясочак, пясочак, Аўгуст, зямелька. – Ён і тут не схацеў пазбаўляцца ад таго пясочку, сцяў яго ў кулаку. – Чаго мы чакаем, Аўгуст? Там жа рэжуць ужо, бензапілы шчыруюць.

– Вунь каго мы чакаем. – Аўгуст махнуў ключамі ў бок далёкага павароту шашы, з-за каторага паказаліся легкавушкі.

Легкавушкі тыя змецілі не толькі яны са старшынёй, але і ўсе, хто быў на плошчы. Плошча ўсхвалявана, нецярпліва і рознагалоса загула. Лазар адчуў, што нецярплівасць назапасілася і ў ім, пераліваецца праз край. Яму хацелася нешта зрабіць, калі ўжо не дамагчыся свайго, дык зламаць што-небудзь тут. Ён закруціўся, ухапіў вокам Дошку гонару, з амярцвела каляровымі адрэтушыраванымі тварамі перадавікоў, пабег вокам па стэндах паказчыкаў і дыяграмах уласнага росту ўніз, у зямлю, свежапрыбітым да тэлеграфнага слупа. Дарожкіным лозунгу: «Няхай жыве...» Заглядзеўся на вялізную мармуровую шыльду, прымацаваную да стэлы-помніка тым, хто загінуў у вайну. На той шыльдзе было высечана і яго прозвішча, хоць ён там і не ляжаў. Наогул нідзе яшчэ не ляжаў, а ляжа, яму такой стэлы не паставяць, але прозвішча яго на той шыльдзе ўжо значылася сярод нябожчыкаў, і неаднойчы. То былі яго папярэднікі. Ён пазнаў і сябе ў чорных літарках. Усё яму было тут знаёма. Хаця ён аднойчы разам з грузінам і Лаўрыкам і заблудзіўся тут, у тым вялікім пераднавагоднім тумане, калі Лаўрык не прызнаў роднай маці. А і яго ж, Лаўрыка, прозвішча было на той шыльдзе, і прозвішча грузіна. Усё знаёма тут было Лазару, усё яго. І не было чаго тут ламаць і крушыць, калі ўжо ламаць, то ўжо ўсё. Плошчу не так даўно перабудоўвалі. Перанеслі з месца на месца помнік правадыру. Ільіча паставілі на пастамент Вісарыёнавіча, што пуставаў доўгія гады, так лепш глядзелася. І зноў жа некаму іншаму вызвалілася каменнае падножжа. Знеслі колішні помнік, тым, хто загінуў у вайну. Паставілі вось гэты, у тры разы большы. Нябожчыкаў тут паважалі і ўшаноўвалі, забаўлялі помнікамі.

Лазар зрабіў поўны абарот вакол сябе, але так і не абраў, што паламаць, утаропіўся ў чыгунную дошку праўлення: калгас «Верны шлях». Але прага і імкненне дзейнічаць, крушыць не пакінула яго.

– Слухай, Аўгуст,– сказаў ён умольна,– я столькі гадоў жыву і ні разу не быў на дэманстрацыі. Вынес бы ты сцягі. Хачу пад чырвоны сцяг.

– Чаго, чаго ты хочаш? – Аўгусту здалося, што Лазар жартуе. Але Лазар не жартаваў. Твар яго па-дзіцячы выцягся, зрабіўся вострым, і была ў ім адна толькі просьба. Няголены, зарослы шчэццю хлопчык з не адмытым ад учарашніх дзіцячых гульняў тварам стаяў перад ім, і

гэтае дзіцячае ў ім перадалося і Аўгусту. Ён мазнуў сябе даланёю па падбародку: ні валаска, і пах адэкалону на далоні. Ад дзіцяці Лазара патыхала зусім іншым. І ўсё роўна Лазар быў яму блізкі, зрабіўся блізкім. Думалі яны аднолькава.

– Баліць галава? – хутчэй не спытаў, а паспачуваў ён Лазару.

– Баліць, Аўгуст, але нічога, яна ў мяне звыклая.

– Вечарам палечым, – паабяцаў Аўгуст, – а сцягі, Лазар, будуць. Зараз з іх пыл збіваюць. І ведаеш хто? – Аўгуст нахіліўся і шапнуў Лазару на вуха. Лазар засмяяўся, а старшыня калгаса пакінуў яго, ступіў да акна і нецярпліва пачаў стукаць ключамі ў шкло, як стукала сарока, што ранкам падлятала да Лазара: – Лукіч, ты ўсё яшчэ чытаеш ці наізусць вучыш?

На двор вокнамі выходзіў кабінет старшыні сельсавета. Ён сядзеў у глыбіні яго, закапаўшыся ў падшыўках газет. На стук старшыні падняўся і адчыніў акно.

– Мо чытаць развучыўся, грамату за гэтай сваёй работай забыў? – кінуў у гэтае адчыненае акно Аўгуст.

– Я на дзвюх мовах адразу.

На іх галасы пацягліся, пачалі падыходзіць разбітыя на купкі і купы, раскіданыя па плошчы людзі, сцягваліся ў адно яшчэ і таму, што трэба было даць месца і легкавушкам, што пад'ехалі.

– Што нам на дзвюх мовах, вялікай і магутнай і ціхай і слабенькай, пра нас пішуць?

– Храновіну пішуць, – хаця быў і інтэлігентам, па-простаму і зразумела мовіў старшыня сельсавета. – Слухаеш – сэрца мрэ, а ўчытаешся – з душы прэ. Храновіна.

– Так ужо адразу і храновіна. Ёсць мы на зямлі, жывыя?

– Здаецца, ёсць, здаецца, жывыя, а здаецца...

– А здаецца – вада льецца... Гэта я ведаю. А ці ёсць у нас зямля?

– Ёсць, ёсць...

– І чыя ж яна, наша зямля?

– Зямля, напісана, наша.

– Значыць...

– Не, вось тут храновіна і пачынаецца. Усё, што расце на ёй, бегае, лётае, поркаецца,– дзяржфонду.

– А сонца і неба, Лукіч, савецкая наша ўлада, якога фонду?

– Я не жартую. Аўгуст, я сур'ёзна. Храновіна, кажу атрымліваецца. Зямля наша, але ўсё на ёй сёння, прысна і на вякі вякоў, як сведчыць Закон аб зямлі і ўласнасці, толькі дзяржаўнае.

– А лес, лес?

– А лес тым больш дзяржаўны.

– Значыць, ляпне ён, зрэжуць яго?

– Во, тады пянькі нашы. Іхнія вяршкі, нашы караянькі.

– Каранькі... Атрымліваецца, адна толькі магіла на гэтым свеце наша. Ні храна сабе храновіна, Лукіч. Гэта ўжо не храновіна, як ты кажаш, а самая сапраўдная... Каб атрымаць нам зямлю, трэба спачатку дагнаць і забіць звера, спаймаць і абламаць крыллі птушкам, спыніць, павярнуць і высушыць раку, зрэзаць увесь лес. Сатварыць пустыню. Уваткнуць туды чалавека і сказаць: валадзей, множся і жыві... Нябожчыкі ў законе. Усё жывое па-за законам...

– Ды ты экстрэміст. Не утрыруй...– Да Аўгуста наблізіўся дырэктар лясгаса і леснікі, што прыбылі разам з ім, ахова прыроды. – Нармальны закон. Па ім усё на гэтай зямлі і сама зямля ваша.

Дырэктар лясгаса падаў Аўгусту руку. Яны былі сябрамі з дзяцінства, разам хадзілі ў школу, разам вучыліся ў інстытуце. Насілі адзін на двух касцюм, пілі віно, улюбляліся ў адных і тых жа дзяўчат. Але Аўгуст цяпер рукі яму не падаў. Яны стаялі твар у твар, нечым вельмі падобныя адзін на аднаго, як два ўзмужнелыя гракі. У абодвух акуратныя і цвёрдыя носікі і вусны сцяты да птушынай сінявы. Толькі дырэктара грак чорненькі, цыганкаваты, а старшыня – русявы, кудзелісты. І не адзін з іх не хацеў саступаць. Дырэктар лясгаса як падаў руку, так і трымаў яе навыцяжку перад сабой, нібыта штык. А старшыня пакручваў на пальцы ключы ад машыны.

– Дарэмна, ох, дарэмна ты гэта, Аўгуст. Сёння ж толькі красавік, – сказаў нарэшце дырэктар лясгаса, апусціўшы руку.– Так можна і не дажыць да аўгуста.

– Нічога, Колька, нічога. Мне галоўнае пасеяць, а ўбраць ужо здолеюць і без мяне.

– Глядзі, табе жыць.

– Надакучыла, Колька, так жыць. Вось ты якога чорта лысага, калі кажаш, што зямля і лес мае, улез сюды, моўчкі, без спросу, па-зладзейску.

– Злодзей і ёсць. І бацька яго з цыганоў быў, коней краў,– выгукнулі з натоўпу.

– Таварышы,– адвярнуўся ад Аўгуста дырэктар лясгаса.– Таварышы, ваш, ваш лес тут. Але ваш па ўзгадненні з Саветам Міністраў БССР...

– Гэта як? – не зразумелі, узнялі галас калгаснікі. А мо і наадварот, вельмі добра ўсё зразумелі:

– Пакуль мы ўзгадняць будзем, пакуль да Бога дойдзем...

– А ты ж не спынішся. Ты ж чакаць не будзеш. Ты ж будзеш шчыраваць, будзеш рэзаць.

– Зразумейце мяне правільна, таварышы. Я не рэжу. Я лясгас. Я садзіць павінен.

– Во, ты яго садзіў, ты яго расціў, каб нішчыць? – пайшлі на дырэктара жанчыны і старыя на чале з Дзевай Марыяй.

– Пачакайце, таварышы жанчыны, і ў мяне душа баліць. Толькі не, не я рэжу. Леспрамгас. І нават не з нашай вобласці. План, пяцігодка рэжуць. План зацверджаны на пяць гадоў.

– А тут лес, дрэва нават маленькае, крануць забаронена, пад аховай усё дзяржавы... Рэліктавае...

– Але дзяржаве трэба і...

– А ёсць закон. На два кіламетры ад ракі ахоўная зона.

– А гэта санітарная чыстка, можна. Вось так: санітарная чыстка.– Чорны грак закляваў грака русага.– Адказваць будзеш, Аўгуст. Гэта міцінг, гэта экстрэмізм. Дзе ты зімой быў, калі я гэтыя дубы прыязджаў ад цябе ж ратаваць? Дзе вы ўсе былі? Вось ты дзе была, што тады раўла: не трэба заказніка. – Дырэктар лясгаса вылучыў з натоўпу Дзеву Марыю і заскакаў каля яе, як і сапраўды грак каля бусліхі, але ў гэтых яго скоках і крыку, у непрызнанні ўсяго і ўсіх, у адмаўленні таго, у чым яго тут абвінавачвалі, было нешта і горкае, спачувальнае. Боль, зліты са злосцю, адчуў у яго голасе Лазар, і калі ў натоўпе пачалі валіць адно на аднаго, ледзь не загрудкі брацца, успамінаць, хто і што гаварыў зімой на сходзе, калі ў іх клубе вырашаўся лёс дубняку: быць ці не быць заказніку, падгробся да дырэктара лясгаса і спытаў:

– А што рабіць, што рабіць? Што, сядзець і глядзець, калі ляснецца апошні дуб?

– Ратаваць, ратаваць, – ціха, але толькі яму аднаму адказаў дырэктар лясгаса.

– Як ратаваць?

– А вы ў яго спытайце, – дырэктар лясгаса кіўнуў у бок Аўгуста. – Ён, сволач, чысценькі. Ён сёння мне рукі не падае. Як, Аўгуст, твая новая «Ніва», бегае, не спатыкаецца?

– Не дакарай, Колька, не дакарай, і ў цябе, я бачу, «газік» не стары. Ты таксама сволач добрая.

– То мо і паздароўкаешся?

– Здраствуй, сволач.

– Добры дзень, паскудства. Наеліся гаўна?

– Я сваё, Колька, дарэшты ўжо з'еў. А ты сваё пад'ядай. Эй вы, там, наверсе, памагатыя сцяганосца веку! Дзе парторг? І ты, савецкая ўлада, усе па кабінетах пахаваліся. – І Аўгуст зноў падзёўб ключыкам у шкло акна старшыні сельсавета, каторы ўсё яшчэ корпаўся ў

кабінеце, гартаў газеты. Лазар адзначыў, што сярод натоўпу сапраўды няма і парторга. Наогул нікога з канцылярскіх няма. Механізатары, даяркі з фермы, а больш пенсіянеры.

– Сцягі на вынас, – высокім і чыстым голасам узводнага Ванькі выбухнуў Аўгуст.

– Пачакай, хопіць мітынгаваць, канчай базар, – паспрабаваў спыніць яго дырэктар лясгаса.– Можна ж і інакш, паспрабуем інакш.

– А я даю каманду: сцягі на вынас! – не паслухаў яго Аўгуст.

– Эх, краіна, радзіма, – плюнуў сабе пад ногі дырэктар лясгаса,– ледзь што – сцягі, барабаны... Буслянку б там, гняздо чорных буслоў знайсці. Людзі, чуеце мяне.

Яго, канешне, ніхто не чуў. Усе так настыраліся, так крычалі, што ніхто нават сам сябе не чуў, але ўсе бачылі, што чалавек разяўляе рот, значыць, нешта хоча сказаць, і тыя, што стаялі адзаду, пачалі пытаць у тых, хто быў бліжэй, што гэтаму граку трэба, чаго ён, як рыба на пяску, плямкае губамі.

– Праўду, праўду кажа гэты чорны чалавек, – устала з прыступак ганка, узвысілася над натоўпам старая Аўронне. – Чорны бусел, толькі чорны бусел можа сёння выратаваць нас.

Натоўп адказаў ёй рогатам:

– Здзяцінела старая. Што зробіш, узрост. Зусім ужо нягожая.

– Што, твой чорны бусел у Саўміне зробіць?..

– Каб той Саўмін прабіць, танк патрэбны, і не адзін. І дывізію такіх, як Дзева Марыя.

– Не, Дзева Марыя адна ўвесь Саўмін пакладзе...

Тут наперад выйшлі тры вясковыя разумнікі: паштальён, настаўнік і магазіншчык:

– Няварта смяяцца са старога чалавека, грэх. Чорны бусел занесены ў Чырвоную кнігу і ахоўваецца дзяржаваю. Там, дзе пасяліўся чорны бусел, усе работы спыняюцца, у званы нават не звоняць, лес не сякуць.

Словы настаўніка сустрэлі з яшчэ большым недаверам і нават абурэннем:

– Мала ў нас дурняў няграматных, дык вось яшчэ і вучоны знайшоўся,– Толя Чорны настаўнікаў не любіў з дзяцінства, не прызнаваў іх за людзей.– Буслу чорнаму гонар і павага? А Толю Чорнаму? Ён што,у бога цяля ўкраў?

– І то праўда, няма такога закону, не можа быць, каб птушка была над чалавекам, не можа такога быць...

– Можа, таварышы, можа, – сказаў дырэктар лясгаса. – Але няма ў тым урочышчы бусла чорнага.

– Няма,– у адзін голас пацвердзілі два леснікі і ахова прыроды.– Мы правяралі, мы два дні па тым балоце і лесе поўзалі.

– Як гэта няма, як гэта няма? – радасна ўзбурліла людское балота.– У Беларусі ўсё ёсць, кожнай твары па пары. Людзей малавата.

– Ай, і людзей хапае, толькі...

– Я бачыў, я ведаю, дзе кубло чорнага бусла, успомніў пра вясельца і адсечаны мезенец, перакрычаў усіх Лазар.

– Вось яму ў рукі чырвоны сцяг і няхай вядзе, – сказаў Толя Чорны. – І наогул не леснікоў трэба пытацца, боўдзілаў гэтых, а пастухоў, яны ўсіх буслоў у твар ведаюць, кожная буслянка ў іх на ўліку.

Вірлівае і ўзбурленае балота выпхнула з сваіх глыбінь нямога пастуха з медальком «За отвагу» паверсе целагрэйкі. Ён мармытаў нешта на сваёй незразумелай мове, размахваў рукамі, як крыламі, і ківаў галавой.

– Глядзі ты, нямы-нямы, а па-буслінаму, як па пісаным, чэша, – здзівіўся Толя Чорны.– Вядзі, вядзі нас, Сусанін.

– І я яшчэ помню. Там здаўна ж пасяленні чорных буслоў,– сказала Аўронняя.

– Вось і пара нашаму немчыку, нявеста.

– Замоўкні, прыкусі язык, Толік. Усё роўна людскага нічога не скажаш, памаўчы. Я яшчэ бацьку твайго ведала. – Але, пэўна, яна не вельмі добра ведала яго бацьку.

– А Дзева Марыя і Лазар Кагановіч гэта будзе ўжо другая пара. Сцягі, сцягі ім чырвоныя.

– Скажы, каб забралі гэтыя сцягі, – папрасіў дырэктар лясгаса Аўгуста.

– Не, хай застаюцца, будзе ў людзей свята, хоць нешта ў жыцці запомняць, – не загадзіўся той.– Куды, «савецкая ўлада»? – Аўгуст ухапіў за крысо пінжака старшыню сельсавета, што хацеў нырнуць зноў у кантору.

– Ды справы, Аўгуст.

– А гэта што, гульні, лялькі-цацкі, не крыўдзі, паважай народ. Пакатай вось хоць старых на пікапе. Вунь і парторг з намі. Як, Спірыдонавіч, партыя з намі? Партыя наш рулявы?

– З вамі рулявы, – прабурчаў Дарожкін.

– Ну, тады па машынах, рушылі!

Яны пагрузіліся ў машыны: пяць легкавушак, адзін матацыкл і адзін грузавік. Але доўга ехаць, раскашаваць у тых машынах ім не давялося. Толькі да меліярацыйнай канавы, на ціхай вадзе каторай

пагойдваліся дзікі, што ўтапіліся яшчэ зімой.

– Кагановіч, Сталін, Берыя, Палітбюро сранае, толькі і ведаеце туды-сюды ў ЦК матаць, – убачыўшы тых кабаноў, калі людзі павылазілі ўжо з машын, прызваў да сябе Аўгуст трох трактарыстаў.– Я ўчора яшчэ вам загадваў: выцягнуць і прыкапаць, каб не смярдзелі мне тут вашы апосталы.

– На такую работу без бутэлькі нязгодны, – скрывіўся грузін.

– Будзе, будзе бутэлька.

– Бу зроблена, гражданін начальнік. Жывых пахаваем.

І жалобнае шэсце пад разгорнутымі сцягамі ад ЦК і

ВЦСПС рай-, гар- рушыла ў дарогу. Ішлі па выпаленай чорнымі паламі зямлі міма абгарэлых закураных кустоў і дрэў, міма ўсіх дванаццаці чорных апосталаў, што паказвалі ім з вады чорныя пакручастыя хвосцікі. Радыеактыўны вецер, як з выцяжной трубы, выхопліваўся з палёў і паласкаў чырвоныя сцягі. Аўгуст глядзеў, як яны цяжка палошчуцца над калонай убогіх, сіратлівых і чорных людзей, дзяцей, дзядоў і бабуль, скалечаных, нямых, глухіх, сляпых. Яму здавалася, што гэта самі чорныя буслы выйшлі з лясоў і балот, абгарэлыя кусты ішлі да абгарэлых зараснікаў. Балота крочыла да балота. І ён успомніў, што, як і Лазар, за усё сваё жыццё ні разу не хадзіў на дэманстрацыю. Але вось спадобіўся. Жыццё загнала, паставіла яго ў калону, і наогул, пэўна, бывай, жыццё, юнацтва камсамольскае маё. Юнацтва свету кончылася, а мы былі так адданы табе... З жалобнай тугою аб мінулым ён адыходзіць... адыходзіць.

– Аўгуст азірнуўся: нешта не відно нідзе Лазара, як ён там? Лазар ішоў апошнім у калоне, і тут апошні, сцяга яму не далі. Але пад чырвоным сцягам была Дзева Марыя, і несла яна яго, як на выставу, як носяць сцягі на парадзе спартсмены. Лазар жа ішоў, як ходзяць зэкі, унурыўшыся, уцягнуўшы галаву ў плечы і заклаўшы рукі за спіну.

Перабрылі балотца, запоўненае вадой, абыходзіць яго не схацелі, толькі перанеслі на руках дзяцей і старую Аўронню, уважылі, хаця яна і адбівалася:

– Не варта я такога гонару, я ўжо, як і ўсе, паміраць буду.

Перад імі была лесасека. Звінелі, стагналі пілы, угрызаючыся ў стогадовыя дубы і клёны. Каля невялічкага поля стаяла знаёмая ўжо Лазару будка, з коміна яе ішоў дым, лесарубам варылі абед. Каля будкі стаяў і вадзіцель, з каторым змагаліся ўчора механізатары. Яны ўсе гуртам адразу скіравалі да яго:

– Здароў, хахол.

– Здаравенькі булы, хлопцы. – Сустрэліся, як старыя сябры. –

Ніхто не памёр за ноч.

– Чорт нас возьме.

– Я вас зразумеў. Можаце займаць пазіцыі. Пад адну толькі пілу ні-ні. Звяруга.

– Пакажаш мне яго, адвядзеш мяне да яго, – папрасіў Валодзьку Лазар.

– Лады, лады, Лазар.

Аўгуст стаяў на рагу поля і з сумам пагладаў на яго. Яго гэта было, лічы, прыватнае поле. Роўна пятнаццаць гектараў. Ён і пад яго здабыў, выбіў сёння насенне. Але сеяць тут не давядзецца сёлета. І не толькі, пэўна, сёлета. Да белага пяску абадралі яго магутныя леспрамгасаўскія трактары-тралёўшчыкі. Здрапежылі, скалечылі. Бывай, поле, бывай. Ён схаваў яго сярод лесу, каб ніякі чорт не знайшоў, і нідзе, ні па якіх паперах і дакументах яно не праходзіць, не такое ўжо і вялікае, канешне, у іншых старшынь на сотні гектараў такія падпольныя палі. У яго ж калгас невялікі, не вельмі заможны, і падполле маленькае, але выратоўвала яно яго не раз. Больш не выратуе. З-за гэтага поля, канешне, з-за дубровы таксама, ён і падняўся, уз'еўся.

Яшчэ толькі ступіўшы на лесасеку, Аўгуст адзначыў, што працуюць тры бензапілы, цяпер жа дзве з іх замоўклі, але адна працягвала рабіць. І людскія галасы там, дзе ўгрызалася яна ў дрэва, мацнелі. З лесу паказаліся вальшчыкі, у цёмных ад поту шлёмах, як танкісты. Каскі неслі ў руках, а на плячах – паспытаўшыя дрэва, перасычаныя ім, у белай драўлянай плоці бензапілы.

– Чаму спынілі работу? – кінуўся насустрач ім майстар.

– Якая работа, парассядаліся па купінах старычкі-махавічкі, паганак сваіх – дзяцей парассаджвалі. І гавораць: рэж.

– І чырвоныя сцягі ў руках. Памром пад чырвонымі сцягамі...

Аўгуст павярнуўся і пабег на галасы. Бег і ведаў, што не паспее, не паспее. Піла аж верашчала ад злоснасці, забівала людскі гвалт.

Рабіла піла, дзе сядзеў з Дзевай Марыяй і дзецьмі Лазар. Валодзька прывёў яго да звяругі. Нічога звярынага ў ім не было, на выгляд дык вельмі і памяркоўны, невысокі хударлявы мужчына. Лазар пачаставаў яго яшчэ і махоркай, закурыў і сам, але круціла самакрутку Дзева Марыя. Правая рука ў яго была занятая пяском, што зачарпнуў ён пад бярозай. Нешта не давала яму расціснуць руку і пазбавіцца таго пяску. Прыкурылі, глыбока зацягнуліся, дыхнулі ў твар адзін аднаму дымком, скрозь дым зірнулі ў вочы. Мужчына быў, як і Лазар, таксама няголены, але ўчора ён не піў. Гэта Лазар адчуў нутром. Падобна, зусім не піў. Твар і пад шчэццю выдублена чысты.

– Збірайся, – сказаў Лазар. – Забірай пілу і пайшлі. Чуеш? Твае ўжо кончылі работу.

Мужчына прыслухаўся.

– Дзяйсцвіцельна, пашабашылі. А я не магу. Не. У мяне норма. Разумееш?

– Сядзеў?

– Сядзеў, даўно і па глупству.

– Я таксама сядзеў. Было за што. Якая норма?

– Семдзесят кубікаў.

– І атрымліваецца? Дасі сёння семдзесят?

– Дам, дам, дзевяноста. У мяне менш не бывае.

– Ну давай, – сказаў Лазар. А вальшчык ужо не слухаў яго. Ён завёў пілу і прымерыўся да клёна. То быў знаёмы Лазару клён. Тры брацікі-клёны, што зрасліся разам, крыху наводдаль стаяў і другі знаёмец Лазара. Ён цяпер узмужнеў і на вясельца ўжо быў непрыдатны. Спазніўся Лазар рабіць з яго вясельца. Луб, дзе ён крануў яго сякераю, зацягло, з-пад брацікаў-клёнаў, як і ў тыя далёкія гады, біла крынічка. Лазар леваю рукою зачарпнуў з яе вады, асвяжыў твар і напіўся, сарваў кісліцу, што выбілася ўжо з-пад зямлі. Паглядзеў на вяршыні клёнаў. Гняздо чорнага бусла было на месцы, ён бачыў гэта яшчэ падыходзячы да дрэваў. Цяпер хацеў убачыць самога чорнага бусла, але таго, канешне, там не было. Сышоў. Каб не бачыць, як здзекуюцца з яго хаты, пагібелі яе.

Вальшчык ужо прымерыўся і зрабіў надсек, вызначыў накірунак, у якім павінен легчы клён. Выбраў ён само сабой самы магутны, у якім было больш кубікаў. Наогул, гэта быў прафесіянал, вальшчык-ас. Лазар ацаніў, таму што ў гэтай справе сам быў прафесіяналам. І парадаваўся: не звяліся яшчэ прафесіяналы. Прасачыў і адзначыў, куды ляжа клён. Тут патрэбны былі строгасць і акуратнасць. Прафесіяналы не жартуюць і не маюць права памыляцца. Зыходзячы з гэтага, строга і акуратна размясціў ён на купінах і дзяцей з Дзевай Марыяй, загадаў ім сядзець і не кратацца.

Пасля гэтага падышоў яшчэ раз да вальшчыка, адарваў яго ад клёна, паказаў пальцам на каску, што ляжала каля крынічкі: надзень, маўляў. Той паслухмяна падняў яе і пачапіў на галаву. Лазар прымусіў яго паглядзець на неба, на гняздо чорнага бусла. Вальшчык, не сцішаючы раззлаванай пілы, задзёр галаву і адразу ж апусціў яе, махнуў рукой.

Тады Лазар пайшоў на прызначанае ім самім і для сябе месца і сеў. І было яму зноў хораша, як гадзіну нейкую назад, на цурбанчыку, каля печы ў хаце Дзевы Марыі. Адтуль, дзе ён сядзеў, быў добра

відзен Янко, усмешлівы і сінявокі. Лазар глядзеў на яго і таксама ўсміхаўся. Ён чакаў ад яго слова і дачакаўся:

– Татку, татку,– закрычаў Янко.

– Добра, добранька,– паспеў яшчэ адказаць яму Лазар. Яму прыгадалася дзяцінства, што ён ідзе ў школу. Сёння беларуская мова, дыктант. Ён возьме пяцёрку. Пяцёрка ў яго ўжо ў кішэні...

– Янко, Яначка, міленькі, родненькі, – пачуў ён яшчэ і галашэнне Марэйкі. Здагадаўся, што галашэнне тое па ім ужо. Ён успомніў сваё імя. Што ён ніякі не Лазар Кагановіч. Янка Каганец. Клён здрыгануўся. Неба хіснула гняздо бусла, клён пайшоў на яго. Лазар падняўся яму насустрач і ўвайшоў у дрэва.

Калі падбег Аўгуст Серада, усё ўжо было скончана. Ён успрыняў усё, што адбылося тут, як належнае. Таму што сам быў не супраць увайсці, увабрацца ў такі клён. Схавацца ў гняздзе чорнага бусла. Жыць так, як жыў ён раней, Аўгуст больш быў няздольны і не жадаў.

З напаўрасцятага кулака Лазара сыпаўся на зямлю чорны радыеактыўны пясок і змешваўся, набрыньваў крывёю.

Быў у той дзень яшчэ адзін нябожчык. Пражыўшы сорак дзён у шклянцы, памёр і рассыпаўся ў труху павук-крыжавік.

Амінь.

## Но Пасаран

I

На гэтай вуліцы са смерцю ўжо звыкліся. Усё роўна як і яе хата стаяла тут ці жыла яна ў кожнай хаце. Разам з усімі спала і прачыналася, садзілася за стол, снедала і вячэрала. Ціхая, без веку, ці то па-за векам ужо старая, на якую мала хто і зважае, бо што зважаць на чалавека, у якім ужо больш ценю, чым цела. І як бы нейкі цень памірання стаіўся пад плотам кожнай тут хаты. Ішоў чалавек, следам за ім ішоў яго цень. Падаў чалавек, адбягаўся, і назаўсёды пакідаў яго цень.

Вуліца хаця і лічылася гарадскою, але да горада неяк не прырасла. Горад цаглянымі і панельнымі шматпавярховымі мураванкамі, асфальтам пайшоў за чыгунку, у чысціню белага каля ракі пяску, песню і спакой прыбярэжных дуброў, да скрыжавання занядбаных мясцовых і няз'една бетонных, стратэгічных дарог, што пралеглі ад сталіцы да сталіцы і ў заморскую далячынь. Вуліца ж дарог не мела. Тут былі толькі сцежкі і сцяжынкі. Затое ў кожнага свае, каму як больш міла і зручна. Да горада праз чыгунку, у дэпо, у поле, у лес, на мяса- і млынакамбінаты, на базу агароднiны і кансервавую.

Жылі там адвечныя люмпены, якіх недзе ў трыццатых яшчэ гадах выдзьмулі з роднай хаты і ўгноеных палеткаў, з зямелькі ў зямлянкі прыстанцыйнага пустыра, паваротнага круга прапісаных тут лакаматываў. Заўсёды, калі лакаматыву выпадала патрэба развярнуцца, каб не рачыцца пры цяжкім цягніку, ён бег сюды, спыняўся на крузе, круг круціўся і скіроўваў лакаматыў лупатым вокам наперад.

Вось гэты паваротны круг-пустыр і балота яны абралі сабе пад селішча. Па першым часе свайго жыцця-быцця тут, у зямлянках яшчэ, пры няпэўным святле каганцоў на салярцы, яны буйна размнажаліся. Стрэлачнікі і стрэлачніцы, прыбіральшчыцы і змазчыкі, качагары, счэпшчыкі паваротнага круга правінцыяльнай гісторыі. Іх ніхто не чапаў, таму што залатар, спрадвеку вядома, асоба недатыкальная, і яны нікога не чапалі. Хадзілі і насілі вопратку толькі казённую, як негр носіць сваю скуру.

Напярэдадні вайны, дзякуючы бацьку роднаму і кармільшчыку Кагановічу, выпетралі з зямлянак у хаты. Вайна тыя хаты спаліла. Хто ацалеў, вярнуўся з фронту, атрымаў на змену ахоўнага, салдацкага колеру адзення форму ссінела-чорную, цывільна-чыгуначную, зноў закапаліся ў зямлянкі. І жыццё пайшло сваім парадкам, па набітай

здаўна дарозе. Па ўсёй краіне стальнымі рэйкамі беглі падрыхтаваныя, забяспечаныя і вядзёныя імі ж цягнікі. Руплівец-бацька натхняў добрым словам у дарогу. ОРС НОД спраўна выдзяляў па буханцы хлеба на карміцеля. Кагановіч без затрымкі мяняў апратку і дазваляў раз ці два ў год бясплатна праехаць у пасажырскім вагоне па краіне ў які хочаш бок, што было ўжо звышдабрадзейнасцю, раскошаю і распустай. Хіба ж можна з зямлянкі, гуляшча вось так, сесці на поезд і куды-небудзь паехаць. Смеху варта.

Але пра бясплатны штогадовы білецік у кішэні яны ўсё ж, пэўна, памяталі. І таму хто як і калі здолеў пачалі выпаўзаць з зямлянак на свет божы. Што дзівіла, ніхто з іх тады не паміраў, здаецца, нават і не хварэў асабліва. Па крайняй меры, дактары дарогі да гэтай вуліцы не ведалі. Сапраўды, «делать бы гвозди из этих людей». Хаця яны і на самай справе былі падобныя на цвікі. У сіне-чорных, потам, як зваркаю, прывараных да лоба форменных фуражках, такога ж сталёвага адліву мундзірах і штанах, па вышэйшым шыку наваксаваных хромавых ботах, смуглявыя з твару і целам, насычаныя паравозным дымам, змазкай і саляркай, як цвікі тавотам. У адну хвіліну хоць у шпалы замест кастылёў, ці то ў бярно на сцяну хаты, ці то ў дошку на труну.

І пасыпаліся яны, як снапы, у адзін час, як толькі не саляркаю і попелам, а вадой і мылам пад рукамыйнікам пачалі адмывацца ад гару і куродыму, пралысілі твар і вочы і прасвятлёнымі вачыма паглядзелі вакол сябе. Нібыта, як і іх вуліца, не здолелі прыстасавацца да святла новага дня. Горад стальным палатном рэек, як хірург скальпелем, выбракаваў, адсёк іх новую, але з бярвення драўляную вуліцу ад свайго каменнага, бетоннага чэрава, нібы прысудзіў іх да памірання ў той навіне, што паўсюдна ўжо выхоплівалася, прысудзіў як нейкую ўчэпістую, але неперспектыўную вёску.

– І яны, незразумела спачатку, даючы згоду ці выказваючы пратэст супраць такога прысуду, пахмурнелі, страцілі весялосць. Перасталі так спяваць і танцаваць, як гэта было тут заўсёды. Перасталі зусім, хаця гарэлкі і віна ўжывалі ўдвая-ўтрая вышэй нормы, той нормы, што была раней. Магчымасць такая ўжываць звыш нормы раптам выявілася. Вуліца іх нечакана для ўсіх апынулася на самым кормным месцы ў горадзе, куды ні кінься, куды ні ступі – база ці камбінат: млын-мука ці мяса, агародніна свежая ці кансерваваная. А горад хоць і каменны, але жэрці прыткі, і дарогі да яго і ад яго са сталіц і ў сталіцу і нават у заморскую далячыць хоць на баку каціся, бетонныя, стратэгічнага прызначэння.

Вось яно і пайшло: ні дня без украдзенага батона кілбасы ці карэйкі, гурка, памідора, яблычка ці грушы, а на кансервавай базе – бутэлькі, а то і скрынкі віна. Хто ўжо не здатны быў што-небудзь украсці калі, то хоць шапку ўласную пад паху хаваў. Віно і для сябе, і на продаж, грошы за яго таксама прапівалі. Ні абеду, ні палудня, ні кавалка хлеба ў рот без ста грамаў ці паўлітэркі. І ўсё гэта змрочна, употайкі, ціхенька. Без песні, вядома, і музыкі. Гармонікі сапрэлі, бубны пагнілі, балалайкі расклеіліся і рассыпаліся.

Перасталі весяліцца, перасталі і памнажацца. Нібы застылі ў атачэнні калючай агароджы баз і камбінатаў. Застылі і ад нейкай сардэчнай скрухі ці паморку. Дасягнулі заможнасці і дабрабыту і пачалі адыходзіць, паміраць. Хутка і часта, багата, лёгка і цяжка. Смерць – гэта жыццё, як жыў чалавек, так і паміраў. У сваім жа ложку, на сваім двары, у чыстым полі, у зялёным лузе і лесе. Пад прыглядам і горкую слязу родных. І куды ты сабраўся, пабыў бы яшчэ, пагуляў, сама жытка пайшла, пад нясцерпна пакутлівае чаканне: калі ж твая смерць прыйдзе, прыбярэ цябе, аслабаніць усіх. Смерць для многіх была чаканаю, вызваленнем.

І, нібыта сцвярджаючы гэта, людзі саслізгалі да той свабоды адзін за адным. Усмак папрацаваўшы, наглядзеўшыся на сябе і іншых, унікалі і ішлі ў нябыт, як на тую ж працу, у лес па грыбы ці то ягады, як іншыя ад'язджаюць за тры моры, горы і даліны ў беззваротную далечыню, чуж-чужаніну, штосьці ўзводзіць і будаваць. На вечную будоўлю і вечнае пасяленне. Асабліва шмат такіх невяртанцаў было ў апошнія гады сярод франтавікоў.

Для іх нібы адкрыўся другі ці трэці нават фронт, нібыта зноў пачалася вайна. Ці не даваявалі яны на той вайне, ці не так, як трэба, ваявалі. А мо там, на вайне, была паслана ім куля. Паслана ім, але памылкова перахоплена другім. Перахоплена і адразу, толькі з таго ўжо свету, адпушчана на волю: ідзі, гуляй, мне чужога не трэба. Шэрым жаўранкам на ўсё неба і зямлю, правячы трызну, аплакваючы, тую сваю памылку, куля працягвала свой лёт, пагоню ў гадах за тым, каму прызначалася.

Чалавек і ў галаве не трымаў, што гэта не жаўранак разлягаецца ў ясным небе над свежаўзаранай зямлёй; не заяц папісквае і плача ў чыстым полі, не сініца цінькае і б'ецца ў прамарожаную шыбіну, просіцца ў хату – лёс яго блукае, ходзіць па белым свеце, шукае яго і не можа знайсці. Ён налягаў на плуг і паганяў коніка, прыпадаў востраю касой да роснай травы, гнаў сякераю смаляную стужку, узводзячы сабе і дзецям сваім новую хату, яшчэ адну дамавіну, адмахваўся ад куль, што былі прызначаны яму, як ад надакучлівых

восеньскіх мух. А яны раіліся і раіліся, адлітыя ўмелаю рукой у жаўрукоў, пчолак і мушак. Але жыццё з вялікай працы адліло і яго. І ў працы ён быў як пад бранёю, і ніякая куля не магла яго ўзяць, толькі джгала. Ён наяве даглядваў да канца свой дзіўны, чароўны сон, што сніў чатыры разы па чатыры доўгія гады. Араў зямлю, ставіў хату, садзіў дрэва, галубіў жонку, нарадзіў сына і дачку, дачакаўся ўнука.

І тут гучалі запозненыя фанфары, нібы нейкая амністыя выпадала яму. Ён прачынаўся, цверазеў ад віна і працы. Куля, адлітая і пасланая ў трыццаць сёмым, у сорак першым – сорак пятым, іншым разам.у выглядзе ардэнка ці медалькі, даганяла яго, знаходзіла сэрца. Ён падаў.

– Дзеда памёр! Дзеда памёр! Дзеда будуць хаваць!

Жалобна-радасны кліч-плач, блізкі да ўрачыста-паганскага:

– Вясна прыйшла! Вясна прыйшла! Вясне дарогу!

Паганскі абрад, расстаннае дзеянне вяршыліся па строга рытуальным сцэнарыі: усе там будзем. Усяго – і смутку, і слёз – было ў меру: аджыў чалавек, адпакутаваў сваё.

Данілюк памёр як дэзерцір, уцёк з жыцця, не паспеўшы адпакутаваць сваё. Памёр, так і не паспеўшы набыць свайго, пад чужым імем. Даніла было імя бацькі яго, чалавека, якога забыла ўжо вуліца. Забыла ў твар і аблічча. Але ён працягваў бесцялесна жыць у назвах тых мясцін, дзе некалі ступала яго нага, дзе ён любіў хадзіць, касіў, араў, сеяў: Данілава поле, Данілаў брод, дзялянка, хата, працягвалі жыць у сваім родзе, каранях і карэньчыках: жонка – Даніліха, сыны – Данілюкі, унукі таксама Данілюка. А спытай, хто такі гэты Данілюк-Даніла, ужо мала хто тут мог і адказаць. Па ўсім жа, прыкметны быў чалавек, з першакоў – ці то першы злодзей, ці то першы тут працаўнік. І ў другім было больш праўды. Мо б ён з цягам часу стаў і найвялікшым тут злодзеем, але да пары вялікага крадзяжу ён не дажыў, бог ці чорт убярог, мілаваў.

Не выключана і тое, што менавіта ён быў заснавальнікам гэтай вуліцы. Кроку ж нельга зрабіць, каб не ўлезці ў яго след, як у былы панскі, і адзнака таго следу ўсюды гарапашная, засталіся на зямлі тры яго імянінныя калодзежы, дзве імянінныя зямлянкі. Двойчы перабіраўся ён з зямлянак у хату, двойчы ваяваў, прайшоў дзве вайны. І несумненна недзе на белым свеце ёсць і яшчэ яго імянныя мясціны. А тут, дзе ўсё яго, ён не займеў і сваёй магілы, пайшоў на той свет, лёг у зямлю безыменна, без пары і часу. Ацалеў бы ён, дажыў да свайго веку на гэтай вуліцы, толькі цяпер быў бы яго час паміраць. А так памёр яго сын.

Мо і праўда, у кожнага чалавека ёсць лёс, ёсць бог, і ён не церпіць

блытаніны ў бухгалтэрыі чалавечых жыццяў: прыспеў час, паслаў ён на зямлю старую з касой, няма на адведзеным яму месцы Данілы – падавай другога Данілюка. Гэты другі, малады Данілюк, крочачы па бацькавым следзе, нічым яшчэ не пазначыўшы зямлю, толькі-толькі скочыў за сорак, ад нараджэння не ведаў хваробы, ніколі і ні на што не хварэў, быў моцны, як дуб, па марозе па снезе мог хадзіць і хадзіў босы, быў здатны выпіць літру гарэлкі і запіць яе паўлітэркам чарнільца. І смерць яго ўзняла на ногі, узбулгачыла звыклую ўжо да гэтага, заўсёды гатовую да хаўтур, як раней да хрэсьбін, вуліцу.

Разгубленасць і спалох былі не меншымі, чымсьці ў той далёкі ці не першы пасляваенны год, калі ваўкі за адну ноч перарэзалі палову вулічнага статка. Здзіўленне і аслупяненне былі значна большымі за тое, калі яны дазналіся, што дырэктар іх базы гародніны, загартаваны камуніст, самы спрытны на іх вуліцы злодзей, украў цэлы мільён, на старыя, канечне, грошы мільён, у той час зладзеі ў параўнанні з сённяшнімі хаця былі таксама зухі, але драбнілі.

Тады плакала і сумавала адна толькі сястра Данілюка. Яна рабіла на той жа базе, была там яшчэ і сакратаром камітэта камсамола. І перажывала яна не за ўкрадзены мільён, а за свае пятнаццаць рублёў. Адмовілася ад прэміі, якую выпісаў дырэктар базы: пятнаццаць рублёў (таксама на старыя грошы – новымі, дык гэта сёння недзе рубель і пяцьдзесят капеек, а з улікам інфляцыі, то мо і рубля не збярэцца). Адмовілася, таму што ў той дзень, за які была налічана прэмія, яна хварэла, праляжала ў ложку па бюлетэні.

Але страта каровы, хаця сама па сабе рэч і жахлівая для кожнай сям'і, мо нават горшая за смерць каго-небудзь з дзяцей – падзея, якую ўсё ж можна было растлумачыць: ваўкі, звяры парэзалі, пранцы на іх. Таксама можна было знайсці і тлумачэнне крадзяжу мільёна: гэта сабекошт, цана сумленнасці, якую так заўзята ўводзіў і пашыраў на гэтай вуліцы дырэктар базы гародніны, цана партыйнага білета, каторым ён усюды трос: «Клянуся сумленнем камуніста і партыйным білетам!» І правільна, з партыйным білетам можна і мільён, і не ўпотайкі, не хаваючы да цыцак ці там яшчэ да чаго-небудзь нейкі гурок ці кавалак кілбасы, а сярод белага дня, на машыне, калі ўся варта на каравул і пад казырок. Усе так.

А тут што? Тыдня ж яшчэ не прайшло, як ён нібыта на крыллях лётаў. І ўся вуліца ў адзін голас, нават блізкія сябры завочна выгаворвалі яму: згубіў сумленне, не маюць людзі ніякага сораму, жарабец, бугай калгасны, выгуляўся, на свежаніну пацягло. На вачах усёй вуліцы пацёг бабу ў карчы. Цяпер кожны з іх з той жа згодай меркаваў і гадаў, чаму ж ён памёр:

– Дзеўка тая яго і змучыла. Давяла да магілы.

– Ад гарэлкі сканаў. Адпіў мазгі.

– Ад кніжак, ад кніжак кончыўся. Кніжкі да дабра не даводзяць. Ссушыў галаву кніжкамі.

І трэба прызнаць, што ўсё гэта, выказанае да хаўтур, на хаўтурах і пасля,– чыстай вады праўда. Але, мілы Божа, якая хлусня іншы раз хаваецца за гэтай чыстай вады дыстыляванай праўдай. Ці хоць адзін чалавек на свеце валодае чыстай праўдай. Ці ёсць яна на свеце, чыстая праўда.

II

Была ноч, і былі мы, здавалася, адны на белым свеце. Калі не лічыць цыганскага сонейка над намі – поўні ў небе – ды старога дуплаватага дуба па-за нашымі спінамі. Але дуб той глухі спаў, што цецярук. Усё навокал ужо даўно спала, спавітае вусцішнасцю і немаччу ночы. Сцішыліся, пазашываліся ў хлявы і пад стрэхі хат кажаны. Спалі скаклівыя жабы і паўзучыя гады, людзі і звяры. Адны мы бадзёрыліся.

Мы сядзелі па-турэцку, схаваўшы босыя ногі амаль што ў кутніцу, на беразе невялічкай, з начоўкі, копанкі. Было зябка і ад расы, і ад блізкасці вады. Вада ў копанцы, хоць яна і маленькая, крынічная і з чырванню. З-пад зямлі, як з таго свету, б'е тут крыніца, нехта канае там, пад зямлёю, сплывае кроўю. І не толькі сплывае кроўю, але і гарыць агнём. Пасля спякотнага лета, напярэдадні восені, калі зямля з асаблівай прагаю п'е ваду, паглынае ваду, копанка амаль усыхае. І тады надараецца тут агонь, як маленькія свечачкі па нябожчыку ці як зоркі ў небе, успыхваюць агеньчыкі.

Гэта Но Пасаран прымусіў нас сесці пры самым беразе копанкі: святлей будзе – адна поўня ў небе, другая ў вадзе. Но Пасаран нас і зацёг сюды, у гэтую глухую ноч. Месца жудаснае, зладзейскае, нячыстае, і не толькі з-за гэтай крывавай вады, агеньчыкаў, а тым яшчэ, што і побач з хатай бабы Дубашыхі, Дубашыха ж, кожны сабака ведае, вядзьмарка, таму, напэўна, так і вар'яцеюць сабакі, як толькі пачуюць, што яна на вуліцы. Варта ёй два разы па пяску шморгнуць бахіламі, як яны са скуры вылузваюцца. І вада крывавая, і агеньчыкі каля копанкі, і нават гэтая поўня цяпер у вадзе – чаго гэта поўні лезці ў ваду, – і мы пры той поўні – яе рук справа.

Па сваёй добрай ахвоце ноччу мы б сюды і носа не паказалі. Усё Но Пасаран. Такое ў яго прозвішча. Сам напрасіўся. Раней жа ён быў чалавек чалавекам. Пекарам мы яго звалі. Лепшы «пекар» на нашай вуліцы, а мо і ўва ўсім горадзе, калі не на свеце. Паставяць таго

пекара, у пясок сярод вуліцы закапаюць, здаецца, зубамі не выдраць. Стаіць ён ёлупень лысы, драўляны, з нас пасміхаецца, як мы сваімі палкамі зямлю вакол дзяўбём, мажам. А ён, галоўны наш пекар, прыложыцца, нагу левую ўбок, на пяту, і рукою, нібы на танец некага запрашаючы, ды з пляча, як упячэ. Толькі ляціць той пекар дагары нагамі і цераз галаву ў белы свет што капеечку. Мы яго заўсёды на біток апошні выводзілі і заўсёды выйгравалі.

Мы з ім па-людску: Янка ды Яначка. А ён на ўсё Но Пасаран ды Но Пасаран. Гэта, гаворыць, па-іспанску. Але мы не такія ўжо дурні, ведаем і па-руску, і па-беларуску, што гэта значыць. І Но Пасаран, па-руску і беларуску, быў у кожнага з нас. Ну і што? Самога Но Пасарана іншым разам .акі «пасаран» прадзіраў. Дык навошта ж цвяліцца, сабе падобных зневажаць. Пасаранец няшчасны, намякаў, пэўна, на тое, што ў нас яшчэ і глісты. Ну і што глісты, але ўсе нашы. І мы не здзекуемся са сваіх глістоў. Іх жа таксама, каб яны нас зусім не зводзілі, трохі паважаць трэба.

І неяк мы чацвёра сабраліся зрабіць яму кучу малу, несумленна гэта, канечне, але іншага выйсця ў нас не было. Менш чым учацвярох яго не адужаць, моцны, што корч. Мы і чацвёра яго не павалілі. Адмахнуўся ён ад нас, як бычок ад тых сляпнёў, і прымусіў есці пясок, растлумачыў, што Но Пасаран – гэта зусім іншае, пра што мы падумалі, таму што невукі і не толькі мала кашы ядзім, але і кніжак мала чытаем. Но Пасаран – гэта хораша і нават вельмі, па-ленінску-сталінску хораша. Яны не пройдуць, фашысты, значыць. Дэвіз іспанскіх камуністаў, калі яны змагаліся за сваю рэспубліку, за савецкую ўладу.

Іспанцаў мы паважалі: іспанцы – гэта сіла. І мы даравалі нашаму Пекару, нават больш таго, самога яго перахрысцілі, далі новае прозвішча Но Пасаран. І гэтае Но Пасаран стала нашым дэвізам, таму што мы ўжо самі даўно жылі на ваенным становішчы, можна лічыць, вялі трэцюю сусветную вайну.

І не трэба так паблажліва ўсміхацца, няхай гэтым ваенным пажарам ахоплены адзіны толькі горад. Сама вайна ні ў чым не саступае сусветнай. Яна нават больш за сусветную, таму што ваюем мы. Нас заб'юць – і кончыцца свет. Які ж гэта свет, калі нас няма. Свет – гэта калі светла ў вачах і галава не баліць, жывыя бацькі і гэты, як яго, пасаран не вельмі цябе мучыць. Ты глядзіш у вочы свету – і твой свет пазірае табе ў вочы.

Наш горад для ўсіх, хто жыве ў ім, і ёсць наш свет. І пакуль што ён адсюль пачынаецца, тут і заканчваецца. Гавораць, што жыццё на зямлі ёсць і далей. Мы верым, але і не надта каб. Тое жыццё, пэўна,

больш сапраўднае. Бо яно са Сталіным і з дагледжанымі, прыбранымі дзяўчынкамі з банцікамі, якіх Сталін носіць на руках, з букетамі кветак, назвы якіх яшчэ і не перакладзены на нашу мову, мо яны таксама іспанскія. Там чыстыя хлопчыкі, некарослівыя і добра памытыя, у ладных, не лапленых і без дзірак штоніках і белых безрукаўных сарочках. Там няспынна трубяць піянерскія горны і б'юць барабаны, здаецца, самі трубяць і самі б'юць. Кожын дарослы ходзіць у касцюме і пад капелюшом, і пры хромавых ботах.

Гэты свет вельмі далёкі, як планета Марс, да якой сёння, гаворацць, набліжаецца наша Зямля, мо калі-небудзь мы вось таксама наблізімся да яго. А мо недзе штосьці нехта пераблытаў. Мо мы і ёсць марсіяне. Ну чаму я не магу быць марсіянінам. Запраста. Я ж на самай справе зусім не падобны на тых хлопчыкаў і дзяўчынак, якіх бачу ў кіно. Яны ўсе цімураўцы, а я марсіянін. Мы ўсе тут марсіянцы. Нас нават так і ў нашым горадзе завуць, бо жывём мы на Марсе. Папраўдзе, не хлушу, не маню і не прыдумляю. Марс – так ахрысцілі нашу вуліцу гарадскія, калі мы жылі яшчэ ў зямлянках. Недарэмна ж ахрысцілі, нешта ж уведалі пра нас раней, перад тым, каб так ахрысціць. І гэта цяпер да нас набліжаецца Зямля. І калі-небудзь мы ўсё ж ступім на яе сваімі босымі нагамі. Не буду гаварыць за ўсіх, а я вельмі спадзяюся і веру, што ступлю, гэтым і жыву, таму, пэўна, і ваюю.

Гарадскія – тыя, што жывуць па другі бок чыгункі, багата бліжэй да недасягальнага нам сапраўднага жыцця. І апрануты яны, здаецца, не так, і гаворым мы не так, як яны. Мы для іх калуны, таму што гакаем і хакаем, а яны гекаюць і кекаюць; капылы, таму што нашы ногі не ведаюць чаравікаў, а яны амаль усе скрозь у чаравічках.

Усё гэта, канечне, праўда, так: мы калуны, капылы, мы дзяроўня, марсіяне і марсіянцы-пасаранцы, але крыўдна. Хто яго ведае чаму, усё ж справядліва, але ўсё роўна крыўдна.

Падумаеш толькі, і слёзы самі з вачэй капаюць. Эх, аўтамат бы ці пару танкаў, ад гэтага горада і знаку не засталося б. А так хоць на месяц лезь. Станавіся на чатыры кропкі, як той воўк ці сабака, і вый уголас, на медны лоб яго гледзячы. Ваўкоў, праўда, я сам не бачыў, як яны на месяц выюць, але гавораць, што выюць. А вось сабак даводзілася бачыць і чуць. Жудасна. І падобна вельмі на тое, што са мною творыцца. Кіпіць усё і рвецца. І такая скруха, такая скруха, нібы мяне пасадзілі ў адзіночную камеру. Забылі там мяне. Забылі, а самі ўсе вакол памерлі ці на той месяц адляцелі. Няма нікога жывога на зямлі, адны толькі чарапы і косткі скруха мая. І маленькае-маленькае акенца на зямлю і неба. На тым акенцы таксама – чэрап і

костка: не падыходзь, смяртэльна. Акенца ў кратах, арыштавана, забраны ў жалеза ўвесь белы свет.

Я сам ужо не чалавек, больш той сабака, што наструніўся пад зоркамі, вые на месяц. Я на самай справе іншым разам лаўлю сябе на думцы, што мне ад сабачай скрухі хочацца завыць. Мо я сабака і ёсць. Мо штосьці пераблыталі, калі мяне нараджалі, ці я памёр, а маці падклалі цуцыка. Той цуцык нацундоліўся матчынага. Чалавечага малака, і атрымаўся я. Але ж я не цуцык і не негр нават. У роце ў мяне не чорна, поўсці няма, скура ў мяне белая, нават на нагах сярод лета белая, калі іх адшаруеш у мачы і попеле. І хаджу я на дзвюх нагах.

Я таму і ў вайну ўступіў, каб усяму беламу свету даказаць, што я не цуцык. І Но Пасаран таму ваюе. Яму павінна быць яшчэ больш крыўдна, чым мне. Ён жа самы моцны, самы дужы, і не толькі на нашай вуліцы, ва ўсім горадзе, а мо і ва ўсім свеце, пасля Івана Паддубнага, канечне. Супраць таго Івана ўжо нікуды, канечне, не папрэш, усюды напісана, што ён рускі асілак, нават багатыр. Ніхто яго не здолеў на лапаткі пакласці, а спрабаваў шмат хто: і французы, і туркі, і амерыканцы розныя. Ёсць і сярод іх багатыры-асілкі. Але Паддубнага не пераборалі, таму што ён рускі.

А Но Пасаран нам сваю сілу паказваў. Гэта калі мы на вяселлі дачкі Дубашыхі стырылі бутэльку самагонкі. Такі ўжо выпадак надарыўся. На кожным вяселлі нам абавязкова што-небудзь украсці трэба. Завядзёнка ў нас такая. Проста так мы нічога не крадзем, а ў Дубашыхі тым больш ніколі б не сталі красці, мы да яе хаты і падысці баімся. Але тут вяселле, сам бог наканаваў нам што-небудзь украсці, граху не будзе.

Вяселле ідзе ў хаце, музыка, танцы. Мы прасачыліся ў двор, пахадзілі, нічога патрэбнага нам няма ні пад плотам, ні каля хлява і на ганку. Расчараваліся і пачалі ўжо крыху злавацца. Залезлі ў кладоўку на апошні выпадак, мо там што стырыць ёсць, мяса якое, халоднае ці каравай, прыспее чарга вяселлю дзяліць каравай, а яго няма. Смеху будзе.

Мяне ж у акенца кладоўкі Но Пасаран і ўсадзіў. Уваткнуў, як калок у граду. Узняў над галавой, нібы таго ката, я і мяўкнуў яшчэ. А ён мяне нагамі ўперад і праменька ў акенца. Але і ў кладоўцы нічога спажыўнага, прыдатнага нам не знайшлося. Пах толькі брыдкі і прыкры, мышыны і кашачы. Адны бутэлькі з самагонам, закаркаваныя газетамі і анучкамі. Я адну толькі і прыхапіў, з газетным заткалам, з анучкай пагідаваў браць. Старой Дубашыхай, яе кошкамі патыхала ад тых анучак.

А што рабіць з самагонкай, мы ўжо былі вучаныя. Толькі з рыла яна вельмі ўжо брыдкай здалася, на самай справе, як нечага мышынага ці кашачага туды намяшалі. Але ніхто выгляду не паказаў, што жывую мачу п'е, ніхто задняга ходу не даў. Пахукалі, пахакалі, тым-сім слоўцам дапамаглі сабе і бутэльку да дна, да кропелькі выдундзілі. Вось тады Но Пасаран і сказаў, што ён можа зямлю перакуліць і не трэба яму нічога, каб уперціся, і архімедавага рычага нават не трэба. Голымі рукамі вось зараз возьме і пераверне зямлю, столькі ў ім моцы, такі ён дужы. І гаварыў ён гэта без усялякай пахвальбы, яму, здаецца, крыху нават ніякавата было, саромеўся прызнавацца ў тым, што ён такі моцны. Я не паверыў. Папрасіў, каб ён, не сыходзячы з месца, паказаў сваю моц.

– Стукні мяне па лбе кулаком. Стукні, толькі не з усяе сілы, а напалову.

Ён згадзіўся стукнуць, ужо замахнуўся, а потым узяў і перадумаў

– Неа, нельга.

– Слабо? – палез я на яго.

– Не слабо, а забіць магу, хаця і напалову. Забіваць жа цябе мне сорамна, грэх. Я мурашку абмінаю, бокам абыходжу, каб незнарок не растаптаць.

Ну і псіхануў жа я тады. Каб сказаў мне хто раней, што столькі ўва мне злосці, ніколі б не паверыў.

– Гад, сука ты апошняя, підар смярдзючы. Я мурашка табе, ты грэбуеш мной...

– Не трэба,– сказаў Но Пасаран,– не грэбую. І зусім не мурашка ты. Ты чалавек, таму і не магу я на цябе руку падняць. Проста так вось, узяць і ўдарыць... Ты б... ты б хоць укусіў мяне.

І я ў тую ж хвіліну ўзяў і ўкусіў. І яшчэ заскуголіў пры гэтым пасабачы, нібы костку грыз, а тую костку з пашчы другі сабака выхапіў.

Я хлеб так не кусаў, я да сала так не прыпадаў, цукару і цукерак у жыцці так не праг, як закарцела мне тады ўкусіць яго, працяць яго. І ненавідзеў яго я ў тую хвіліну, як фашыстаў і капіталістаў, усіх гітлераў і трумэнаў разам узятых, хаця да гэтага і любіў, гатовы быў за яго кожнаму, хто толькі не так паглядзіць, горла перагрызці. А тут на яго ж горла і нацэліўся. І ўеўся б, але ў апошнюю хвіліну ачомаўся: уемся ў горла, зубоў не расцісну, пакуль ён не сканае. А сканае, як жа ён тады мяне ўдарыць. Болю мне хацелася. Болю яго і свайго.

І боль ужо быў ува мне. Мой і не мой. Сабачы нейкі боль. Той самы, пэўна, ад якога сабакі выюць на месяц. Я адчуваў, бачыў гэты боль і вакол сябе. Хваравіта, воспава-гнайнікова свяцілася на небе поўня. Чорна каналі ў прыцемку ночы пад нашымі нагамі травы.

Заходзіліся ад балеснага крыку памерлыя ўжо, пазбаўленыя крыватоку кветкі. Па іх плакаў бубен у хаце Дубашыхі, сіпата галасіла скрыпка. Балюча было на ўласным вяселлі і дачцэ Дубашыхі – Гэльцы. Не ведаю, чаму і як, але я адчуваў гэты яе боль, жаханне яе цела.

Гатовыя да беззваротнага адыходу, прыціскаліся да хат і платоў панікльыя лістом і вецццем, як птахі з перабітымі крыламі, дрэвы. Я проста шалеў ад гэтай іх распятасці, раздзёртасці. Мяне самога, здаецца, распялі і раздзерлі, разнеслі, засеялі маім целам зямлю.

Я ўсё роўна як звар'яцеў ад чужога і ўласнага болю. І праг болю яшчэ большага, можа, гэта і таму, што ў нас быў такі звычай: здымаць боль болем, выбіваць клін клінам. Угрэзіў, напрыклад, ты нагу ці руку. Слёзы з вачэй. Няма чаго нюніцца, пакуль сам сябе не пачаў шкадаваць, бі па другой руцэ ці назе, для раўнавагі. Тады хоць скрозь слёзы ды можна ўсміхнуцца. Жадаеш ты таго ці не, а галава тады сама ўскінецца да неба. Тое неба самы лепшы на свеце шкадавальнік. Калі яно на месцы, калі на месцы сонца, то й цябе чорт не возьме. І праз боль ты атрымаеш любасць і замілаванне.

Вось таму я і ўкусіў Но Пасарана. Угрызся не ў горла, як напачатку злосць мяне скіравала, а ў грудзі, зубамі хапіў за самую цыцку. А далей ужо і цьмяна помню, што было. Не магу сказаць, ці балела Но Пасарану. А што да мяне, дык мяне нават ванітавала. Нібы я закусаў Но Пасарана да смерці... Мо і на самай справе да смерці? Не ведаю.

– Цяпер ты ўжо не адкруцішся. Цяпер ты мяне ўжо стукнеш. Кулаком па лбе. І на поўную моц.

– Цяпер якраз і не, таму што злы. Не я, а злосць мая будзе цябе біць. Можа прыбіць да смерці.

Сышліся мы на простай пстрычцы.

Але і простая, яна была ўсім пстрычкам пстрычка. Гузак уздуўся прама з мазгавіны. І я адчуваў, як з мяне пруць гэтыя мазгі, як яны набракла пухнуць, паўзуць, што цеста ў дзяжы. І ўсе мацалі гэты мой гузак і не маглі даць веры,' што ён ад простай пстрычкі. Так што ў мяне і нос пайшоў угору, я пачаў ганарыцца: вось якая сіла ў майго сябра, які прыгожы ў мяне ад яго гузак.

Злосць адышла. Я зноў быў чалавекам. Я любіў. Любіў сваіх сяброў і першага з іх – Но Пасарана. Любіў зямлю і неба. На поўню мне больш не хацелася выць. Яна была такая прыгожая, чыстая, ядраная, што хоць ты яе пад галаву кладзі ці на хлеб маж. І якая музыка гучала на вяселлі ў хаце старой вядзьмаркі Дубашыхі, як спявала і радавалася скрыпка, якім вясёлым макам рассыпаліся бубны, пабраўшыся з платамі і хатаю за рукі, ішлі ў скокі дрэвы і

сонечнік, што рос у гародзе. І самога цягнула на скокі.

– Ты праўда мог бы перавярнуць зямлю,– сказаў я Но Пасарану.– Ты такі дужы. Я таксама дужы, хоць зямлю і не здолею, як ты, перавярнуць... А хочаш, хочаш, я палезу зноў у кладоўку і прынясу табе пляшку самагонкі.

– Не хочу,– адразу ж адмовіўся Но Пасаран.– Яна ўсё ж вельмі смярдзючая і... Але гэта далей, па дарозе. Па хатах, хлопцы.

Але вечар на гэтым не скончыўся. Мы ўжо сабраліся разысціся па хатах і рушылі, як Но Пасарану захацелася памачыцца. Ён сарваў з маёй галавы кепку і памачыўся ў яе. Ухапіўся дзвюма рукамі за вугал Дубашысінай кладовачкі падняў яе, засунуў паміж бярвення маю спаганеную кепачку, не мовячы ні слова, павярнуўся і пайшоў. Кепачку сваю мне было шкада да слёз, дый лупцоўка за яе была добрая наперадзе. Але тут мне і не цюкнула кінуцца на Но Пасарана: хоць ён і такі моцны, дужы, а я ўсё ж пракусіў яго, раззлаваў да непрыстойнасці. І мы з ім заадно, у адной шайцы-лейцы, па адзін бок у адным лагеры. Ваюем з горадам. А разам з Но Пасаранам можна ваяваць. З ім можна не толькі гэты паршывы гарадок заціснуць, але і на сапраўдны Марс махануць і скарыць яго.

Можна пачынаць сусветную рэвалюцыю, што так нечакана чамусьці прымарудзілася. На ўсёй зямлі ўсталёўваць царства камунізму. Галоўны ж вораг вядомы, амерыканскі капіталізм, прозвішча нават яго вядома, нейкі Дзядзька Сэм. Вось яго і трэба браць за тое самае месца. Памаракаваць толькі трэба, як акіян пераскочыць. Гэта цяжка, а на беразе ўсё ж будзе прасцей. Рабочыя там ужо, канечне, будуць за нас, пра неграў і гаварыць няварта. Несвядомых трошачкі напалохаць, Дзядзька той Сэм у штаны накладзе. Уол-стрыт разбяжыцца і Нью-Йорку поўная хана.

Вось таму і сабраў нас Данілюк той ноччу каля Дубашысінай копанкі, як змоўшчыкаў, ударны кулак марсіян. І мы сядзелі на беразе, асвечаныя адной поўняй з неба, другой – з вады, яршыстыя і натапыраныя, што вожыкі, гатовыя рушыць у далёкую дарогу, хоць на край свету, за акіян. Але Данілюк доўга не выказваў сваёй галоўнай мэты. Увогуле трэба сказаць, што ў гэтым сэнсе – выкласці адразу карты на стол – ён быў нейкі злёгку, а мо і добра прытыраны мехам з-за вугла. Заўсёды цягнуў ката за хвост, тыр-пыр, тыр-пыр, нібы саромеўся сказаць, што ў яго ў галаве, аб чым ён думае і чаго жадае. Мы самі сваім розумам павінны былі даходзіць да гэтага.

Так і тут было: пыр-тыр, тыр-пыр, у Амерыцы дрэнна жывецца працоўнаму чалавеку, а негру дык зусім ужо кранты – усюды ку-клукс-клан і лінч. Мы аб гэтым ведалі і без яго, што ў нас – сэрца

няма. Мы за кожнага прыгнечанага ў свеце гатовы не толькі руку, галаву на плаху пакласці, апошнія штаны і сарочку аддаць: насі на здароўе, наш чорны брат.

Але ў кожнага з нас у той вечар страшэнна балелі ногі, нібы сабакі іх рвалі. Мы ж да копанкі беглі босымі, як, зрэшты, заўсёды хадзілі і бегалі. Але тут жа ноч ужо была. Раса ўжо легла, ды такая вялікая і злая, пякучая, што кіпень. А ў кожнага з нас балячак і ран за дзень бегатні па лесе, шышках і гліцы, каранях – як у рымскага гладыятара. Раса іх распаліла, як воцатам ці кіслатой. А да ўсяго з хат яшчэ гарлаюць: Пецька, маць тваю макаўку, спаць, заўтра не раскатурхаць будзе. Зразумелая справа, неграў і ўсіх прыгнечаных больш зручна любіць удзень і пры сонцы, тады зусім іншая будзе любоў.

Жыватворней стала, калі Данілюк сказаў, што ў яго ёсць для нас навіна і вялікая тайна. Але і тут адразу, толькі адпусціла ногі, як з навіны і тайны пшык атрымаўся. Цікава Данілюк разумее тайны.

– Не скажу,– як вол упёрся ён на ўсе нашы ўгаворы.– Тайна – гэта калі ведае толькі адзін.

– Чудзіла на літару «М». Якая ж гэта тайна, калі яе ведае толькі адзін. Два – яшчэ куды ні ішло. А самая што ні ёсць тайна – гэта калі ведаюць усе. Усе ведаюць, і ніхто не гаворыць. Маўчаць. Захоўваюць тайну. Вось гэта сапраўдная ваенная тайна. Вазьмі нашу вуліцу. Усе бачаць, што мы будуемся. Усе ведаюць, што ні ў каго лішняй капейчыны, каб купіць лесу, няма. І кожны ведае, што лес той мы крадзем. Чаму мы так вольна сядзім зараз каля копанкі апоўначы? Дзе твой бацька, Но Пасаран? Дзе твой бацька, Пратуберанец?

Но Пасаран змоўчаў, а Пратуберанец буркнуў:

– Там, дзе і твой, мой бацька.

– Во, бачыце,– падхапіў я.– Твой бацька, Но Пасаран, і твой, Пратуберанец, пілуюць зараз хвоі, крадуць лес.

– Мой не крадзе,– сказаў Пратуберанец.– Мой проста так у лес пайшоў.

– Ага, твой проста так у лес пайшоў, падыхаць, на зорачкі паглядзець. І коніка ўзяў, каб ён з хмызоў на зоркі паглядзеў. І пілу, і сякеру на воз усклаў.

– Мой не крадзе,– стаяў на сваім Пратуберанец.

– І мой таксама не крадзе,– азірнуўшыся, нарэшце азваўся Но Пасаран.

– Канечне, не – супакоіў я іх.– І мой не крадзе. Ні-ні. Мы ж ведаем. Во якая вялікая тайна, адзін аднаму прызнацца не можам. Усе ведаюць. Але ніхто нікому ні гу-гу. Ніхто нікому ні слова, ні

леснікі, ні камуністы, ні беспартыйныя, ні ўлада гарадская, таму што тайна гэта сапраўдная. Так што і ты выкладвай сваю тайну, і мы будзем усе разам яе захоўваць, любіць і песціць.

Тут Данілюк і мяне абазваў чудзілам на літару «М». Нават не чудзілам на ўвесь рост, а ласкава і скарочана – чудзікам. На што я таксама не пакрыўдзіўся. Тады ён сказаў:

– Не, ты не чудзік нават. Ты проста дурань.

Я і гэта вытрываў моўчкі, бо ведаў, што сказаў праўду. Ведаў я і пра тое, што цяпер так думаюць і астатнія,бо яны маўчалі. Я іх пераканаў. Я зноў абышоў Но Пасарана. І ён гэта зразумеў:

– Не, ты не просты, ты не просты дурань. Ты дурань вялікі і разумны. А гэта куды горш, чым проста дурань.

– Горш дык горш,– крыху сапсаваў ён усё ж мне настрой.– Выкладвай тайну, а то пайду спаць. У разумных дурняў моцны сон.

– Добра, скажу тайну. Але не тую, галоўную, а іншую, каторую павінны ведаць толькі мы. Ведаць і маўчаць, пад агнём і руляю вінтоўкі не выдаваць. З сённяшняга вечара ўсе мы, хто тут ёсць,– штаб новай сусветнай рэвалюцыі, яна прыйдзе ж, яна ж будзе ўсё роўна. Рана ці позна на зямлі будзе ўладарыць камунізм. А мы яго наблізім. Бацькі нашы крыху стаміліся, скручвалі шыю Гітлеру, фашызм нішчылі. Мы спазніліся на тую вайну. Але ў нас ёсць, у нас будзе свая вайна. Хопіць гуляцца ў драўляных салдацікаў, страляць з драўляных аўтаматаў. Сёння мы аб'яўляем вайну Амерыцы. Смерць эксплуатататарам! Няхай жыве камунізм!

–Ура! – гэта я закрычаў, таму што ведаў: тут патрэбна крычаць. На кожнай дэманстрацыі так робіцца. Як толькі прагучыць з трыбуны: «Няхай жыве камунізм!» – так усе ў крык. А з другога боку, я вырваўся зноў наперад яшчэ і таму, што несправядлівасць, нераўнапраўнасць атрымалася. На самой жа справе з гэтай сусветнай рэвалюцыяй усё прыдумаў я. І даўно прыдумаў, яшчэ вясною, калі мы з Но Пасаранам першы раз пагналі пасвіць кароў. Яго і мая – гэта былі першыя каровы нашай вуліцы. Мы такія багатыя, мы пасем нашых кароў. Але ў сваім шчасці мы засталіся і шчодрымі. Мы хацелі, каб такі ж шчаслівы быў і ўвесь свет. Я для пачатку прапанаваў вызваліць афрыканскіх неграў.

– А ад каго іх вызваляць? – спытаў тады Но Пасаран.

– Ну... ці мала ад каго... Калі не афрыканскіх, тады амерыканскіх. І так пакрыўджаныя, чорныя, а ім яшчэ такія пакуты.

– Амерыканскіх можна вызваліць,– згадзіўся Но Пасаран.

...Гэта я запаліў у ім першую іскру. І вось цяпер полымя. Галава Но Пасаран. Гэта ж колькі месяцаў ён выношваў тое, аб чым я

выпадкова яму сказаў. Усё прадумаў. Ідэя, канечне, мая, але я так бы яе не павярнуў. Штаб, сусветная рэвалюцыя, наша вайна. Смерць эксплуатататарам, няхай жыве камунізм!

– Ура! – крычалі разам са мною Пратуберанец і Но Пасаран. А Цыган маўчаў.

– Чаму ты не крычыш? Чаму ты не рады? – спытаў я яго.

– Я думаю,– адказаў Цыган.

– Чаго тут думаць, рэвалюцыя ж, камунізм.

– Вось я і думаю, ці можна пры камунізме гуляць у пекара.

– На які чорт здаўся табе гэты пекар. Рэвалюцыя ж.

– Значыць, калі ў пекара нельга, то нельга і ў квача.

Голас у Цыгана быў невясёлы, сумны. Але мы павалілі яго ў траву, пакацілі па траве. І ён таксама закрычаў:

– Ура! – а яшчэ: – Ратуйце.

Гэта калі мы хацелі ўкінуць яго ў копанку, зрабіць з яго квача...

Я запаліў іскру. Я каюся сёння. Каюся за ўсё тое, што было потым. Але хто б мог падумаць, хто ведаў, што адбудзецца потым. Адкуль мне было ведаць тады, што на свеце няма нічога больш страшнага за тайну, якая вядомая ўсім. Каторы з нас, хто сядзеў побач з намі ў той і ўсе наступныя вечары, панёс нашы тайны ў свет? Мог і я. Хаця не. Не? Мог? Не ведаю. А ўвогуле, хутчэй за ўсё, ведаю: мог і я. Мог кожны з нас. Хтосьці ж панёс. Хто? Мог і сам Данілюк. І як хораша было б спісаць усё на яго, мёртвага, сёння. Але ж я жывы. І ўсе іншыя з тых даўніх вечароў жывыя. І ёсць у нас сумленне, і як страшна жыць з гэтым сумленнем, усіх падазраючы, не абыходзячы падазрэннем і самога сябе. Але гэта дзень сённяшні. Наша існасць, што апякае агнём, паліць душу. А мінулае...

– Ура! – крычу я і мае сябры. Мы вітаем і прысягаем новай сусветнай рэвалюцыі, уладаранню камунізму на ўсёй зямлі.

– Толькі спачатку,– гавару я,– трэба прымусіць горад свабоду любіць. Да чорцікаў у пячонцы разапселі гарадскія. Не паставім іх на месца. Не навучым свабоду любіць – не будзе сусветнага камунізму. Не адужаем Амерыку і не вызвалім неграў. Зброя трэба. Патрэбны нажы, шлемы, шаблі і мо адзін хоць на ўсіх пісталет.

– Ты толькі не хвалюйся, не хвалюйся,– лёгка падхопліваецца на гладыятарскія ногі Данілюк, звычайна такі цяжкі, сонны нават, здаецца.– Будзе ў нас зброя, сапраўдная. Заціснем горад. Адкуль як? Гэта тайна. Гэта і ёсць галоўная наша тайна. Зразумелі? І яшчэ, днямі нашу вуліцу выганяюць з хат. Не зусім, часова. Мы ўсе будзем начаваць у полі. Вось тады я і адкрыю вам яе. Вайна гораду! Но Пасаран.

– Но Пасаран!

Эх, як бы дакапацець да хаты і не распаліць цыпак на нагах.

Наперад, гвардыя!

III

Была ноч, і былі мы, здавалася, адны на белым свеце. Ура! Нас высялілі з хат. Падкопы і штукарства амерыканскага імперыялізму. Дыверсія заакіянскага Дзядзькі Сэма. Мы аказаліся такімі моцнымі, так не па зубах яму, што ён не здолеў прыдумаць нічога лепшага, як напусціць на нас свайго каларадскага жука. А жук той пачаў жэрці нашу бульбу. Сапраўды, як з ланцуга сарваўся, з галоднага заакіянскага краю накінуўся на яе. А яшчэ той Дзядзька Сэм падкінуў нам і рака. Рак і жук у пары пагражалі зрабіць нас жабракамі, пусціць з торбаю па свеце.

Каларадскі жук яўна, відавочна, на паверхні і пры святле сонца. Рак – патаемна, ноччу і ўдзень. І раніцаю выйдзеш, зірнеш на соткі – бульба раскашуе, спяваць хочацца. Песня ў сэрцы выспявае. Націнне – з палец, цвіце – слінку каўтай, рассыпіста, сопка так, нібы бульба ўжо ў чыгунку на стале, сытна – бела і ружова на душы. А вечар надыдзе – слёзы на вачах і сусветная скруха на сэрцы. Націнне ўсё скурчылася, учарнела і абгрызена да самай зямлі. З зямлі адны пянькі, цурбалкі тырчаць. І ў самой ужо зямлі, як у прыску, пачнеш пароцца, а там не бульба, а, здаецца, жалеза ржавае, толькі мяккае і вадкае. Смаркатае рудое жалеза – парахня. Рак папрацаваў. І на кожнай ацалелай бульбіне рудыя пухліны – наросты. Рак.

Трапіў бы мне ці каму-небудзь з нашай вуліцы той заакіянскі Дзядзька Сэм, яго б на тыя палоскі, у якія размаляваны яго штаны, у адну хвіліну распаласавалі б ад галавы і ніжэй. І мне на кожным кроку наяве мроіўся, блёзніўся той дарагі дзядзечка. Некага падобнага яму я бачыў ужо на сваёй вуліцы і ў горадзе бачыў. Па вуліцы ён ехаў на коніку возам, з вялізнай, амаль заморскай скрыняй, столькі ў ёй багацця align="" рознага было. Ехаў, лупіў вочы, зыркаў па баках і крычаў:

– Бабы, трррапкі, карраўкі!

А ў горадзе, у парку пры базары, паводзіў сябе наадварот, як падпольшчык-падпальшчык, ціха і непрыкметна. Але пільна, усевідушча. Украсці, сцягнуць што-небудзь у ларку яго было зусім немагчыма, замаскіраваны быў дужа моцна. Па-першае, пахам: цыбуляю і часнаком ахутаны быў, як павук павуціннем. Бліжэй як на тры метры ніводная муха не падлятала, клалася на падлогу мёртваю. Падазраваю, што гэта і абаронная зброя ад таго ж каларадскага жука.

Па-другое, тут, на базары, ходзіць Мішка-дурань. Зімою і летам у адных і тых жа штанах, адной і той жа сарочцы. Колькі жыве, у адных і тых жа. І дзе ў яго сарочка, дзе скура, не разбярэшся. Зашмальцаваныя сарочка і штаны да чыгуннай крохкасці. Вось у такім жа шмальцы было і адзенне гэтага, што ў ларку сядзеў. Пад дурня і жабрака рабіў. Па-трэцяе. Варта толькі было кінуць вокам на яго нос і акуляры, і без усялякага павелічальнага шкла відно было: не наш чалавек, хаця нашымі анучкамі і караўкамі загадвае.

А было яшчэ і чацвёртае. І гэта ўжо не нагляданні і дэдукцыя, а пякучыя гаротныя мае ўласныя праўда і боль.

Шчыра кажучы, мяне не вельмі засмуціла каларадская і рачыная акупацыя нашых палеткаў. Ну, не будзе ў нас бульбы, дык гэта ж заўтра. А сёння яна ў нас пакуль што ёсць, мінулагодняя яшчэ, аж з душы ўжо верне. Заўтра буду ўспамінаць, заўтра будзе цяжка? Напужалі. Мы што, нарадзіліся, каб цукар лыжкамі глытаць, малочныя рэкі піць і кісельнымі берагамі заядаць. Цяжкасці ў гэтым нашым жыцці непазбежныя. Заўсёды так было: ёсць бульба – няма хлеба, і наадварот, чаго ўжо тут наракаць. Звычай ужо ў нас такі, традыцыя: ёсць малаток – няма цвікоў, і зноў наадварот, шмат гною – мала зямлі – гэта я зразумеў даўно. У нас заўсёды па-добраму нечага мала. Але чагосьці па-вялікаму і багата. Падзяліць папалам – будзе норма.

Так вось і з гэтым жуком каларадскім у мяне было. Усе заплакалі: ах, паскудства, ах, набрыдзь. А я прачуў, што не такое і паскудства ўжо і набрыдзь: крылцы і лапкі таго жука павінны прымаць у тым жа ларку на базары, той жа, з цыбулі, часнаку, шмальцу нос павінен прымаць. Аж трыццаць тры рублі кіло. Адразу ж прыкінуў: кіло – трыццаць тры рублі, дзесяць – трыста трыццаць, сто – аж тры тысячы трыста. Уга! Уга-га нават.

І ўсё лета, як апошняя сволач, гнуўся ў полі за тым каларадскім жуком. Адзін, ні слова нікому не кажучы, каб хто-небудзь не апярэдзіў мяне, не перахапіў мае тры тысячы трыста рублёў. Трушчыў і лушчыў гэтых заакіянскіх дзікіх кабаноў, крылца да крылца, лапку да лапкі. Можаце ўявіць сабе кілаграм каларадскіх крылцаў, кілаграм каларадскіх лапак. Як лёду, чыстай вады кілаграм самага чыстага найвышэйшага гатунку паветра. Добрую торбу паветра, і не проста паветра, а, можна сказаць, азону.

І з той торбай, з тым паветрам-азонам я гародамі і кругаля па чыгунцы кінуўся на базар у ларок. А той нос у ларку:

– А што гэта ты мне прынёс? – акуляры нават зняў.

– Апраніце назад свой нос, надзеньце акуляры і па-глядзіце.

– Мне не трэба апранаць свой нос. Я віжу добра і без акуляраў. Акуляры я магу даць табе, каб ты выйшаў і пачытаў дошку. Ты чытаць жа ўмееш, граматны?

– Я граматны, я ўмею чытаць і лічыць.

– Дык вось, там напісана, што ў мяне загатавіцельны ларок, а не заалагічны магазін. Я загатавіцель, а не настаўнік заалогіі. Рогі і капыты я яшчэ бяру. Даю харошым хлопчыкам вельмі харошыя грошыкі. Новенькімі пятакамі.

– А мне трэба не пятакі капейкамі, а пяцёркі рублямі і чырвонцамі.

– Вай-вай, хто да мяне прыйшоў. Да мяне прыйшоў сумашэдшы хлопчык. Харошы, працавіты, але зусім, зусім... Але з яго вырасце добры гаспадар. Да ўсяго ж ты яшчэ і вельмі прыгожы хлопчык. Зусім як мой старэйшы ўнук...

Я ўсё зразумеў, пацягнуўся да сваёй торбы з лапкамі і крылцамі і заплакаў над ёй.

– Хлопчык,– запытальна схіліўся да мяне нос,– гэта ты сам адзін усё сабраў?

– Сам, хто ж за мяне збярэ яшчэ.

– Хлопчык, я плачу разам з табой,– сказаў нос. – Я праўда плачу. Цябе вельмі моцна, цябе зусім падманулі. Але ты зрабіў першую ў сваім жыцці карысную справу. Скажы мне, хто твой бацька, я скажу яму дзякуй. Я пайду ў школу і скажу дзякуй тваім настаўнікам. Я раскажу ўсяму гораду, які харошы хлопчык расце ў нашым горадзе. І ўвесь горад скажа табе дзякуй. І вось табе першая ўзнагарода ад мяне і горада. Свістулька зусім новенькая і зусім бясплатна, і зусім новенькія пяць капеек. Беражы іх, не траць, беражы як першы свой працоўны медаль. Іх будзе шмат у цябе. Ты вырасцеш, будзеш...

Я схапіў свае крылцы і лапкі. Праклятаы нос, канечне, я выpасту, знайду цябе. Цябе, можа, ужо і не будзе, але будзе твой прыгожы ўнук. Я знайду яго, і будзе ён у мяне збіраць крылцы і лапкі жукоў з штата Каларада, каторых ты сюды і завёз, таму і адмаўляешся прымаць. А я ўжо не сумняваўся: менавіта ён каларадскага жука і заакіянскага рака на маю бульбу навёў. З-за яго пакутуе сёння ўся наша вуліца і ўсе іншыя вуліцы, што размясціліся па-за чыгункаю. Вуліцы, якія садзяць і ядуць бульбу.

Панаехалі шэрыя машыны з шэрымі жалезнымі бочкамі замест кузавоў. Людзі ў шэрых гумавых ці прагумаваных касцюмах і з процівагазамі. Панавозілі рулоннай тоўстай паперы. Усіх чысценька вымелі з хат: на дваццаць чатыры гадзіны.

Кароў у хлявы не заганялі, яны як былі на вуліцы, так і засталіся.

З хлявоў выперлі парасят, выпаралі курэй. Людзі пакінулі хаты ціхамірна. А з парасятамі і асабліва з курамі хапіла марокі. Надзіва бязглуздая птушка, ніяк не магла зразумець, што дзеля яе ж карысці ўсё робіцца.

Паперай заслалі палі, соткі за хатамі і хлявамі. І сталі нашы соткі падобнымі на самую вялікую разгорнутую кніжку на свеце. Волатаўскую кніжку, у каторай нічога не прачытаць, бо нічога і не напісана. Пры апусцелых хлявах і хатах, якія адразу ж страцілі ўсё людскае, чыстае поле – кніга. У гэтую кнігу, пад паперу пачалі ўдзімаць яд, атруту. Людзі, пісьменнікі ў шэрых гумавых касцюмах і ў процівагазах, няўклюдныя, амаль як марсіяне. У кожную старонку – паласу, пакуль яна не расправіцца, выпрастаецца, не ўспухне, як падушка.

Я кніжкі люблю, і паперу, як нешта дараванае богам, мо больш за хлеб, таму што хлеб, як бы там ні было, а кожын дзень, папера ж у нас рэдкасць, мо таму, што з яе грошы робяць. Але тут у мяне мурашкі па целе пабеглі. Тую ж самую кніжку перад тым, як пачаць чытаць, я нюхаю. Асабліва калі яна новая і фарба яшчэ пахне. Дурная, пэўна, звычка, але і сабака ўсё новае спачатку на нюхаўку бярэ. Так вось і я. Я яшчэ не ведаю, аб чым, пра што ў той кніжцы будзе, але перад тым, як палюбіць яе, прабегчы вокам па радках, павінен зжыцца з ёй, прынюхацца да яе.

Што ж гэта тады атрымліваецца. Канечне, я разумею, не маленькі, што робіцца ўсё гэта мне на карысць, на карысць маім бацькам, нашым соткам, каб забіць у той жа зямлі шкодных амерыканскіх розных ракаў і жукоў, каб яны не паскудзілі зямлю, а гэта значыць і нам. Дапамагчы мне. Але ўсё роўна кожны ж лісцік, кожная паласа паперы на маіх вачах насычаліся ядам, атрутаю. А я ж да гэтага лісціка з верай і надзеяй. Што ж я атрымаю цяпер з гэтага ліста паперы. І не толькі адзін я, але і мае сябры. Яны ж таксама любяць паперу, кніжкі. Усе мы любім чытаць. Кніжка для нас – жыццё, не наша, а іншае, тое, аб якім я ўжо гаварыў, шчаслівае, непадобнае на наша будзённае, там, дзе кожны дзень свята, кожны дзень булка з маслам і макам. Дык вось якое яно і тое жыццё.

Забягаючы наперад, павінен сказаць: тое атручванне ядамі нашых сотак ні храна не дало. Можа, амерыканскага жука і рака забілі. Але я думаю, што ў нас ужо развяліся і свой каларадскі жук, і свой рак. І тое, што немцу смерць, нам толькі на здароўе. Падсілкаваўшыся ядам, выжылі, паздаравелі нашы дамарослыя ўжо ракі і жукі. На наступны год з такім айчынным апетытам пачалі жэрці нашу родную бульбачку, што яна зацвісці не паспела. Не

паспела выкінуць цвету, як была знішчана. І жэрлі яны цяпер не толькі саму бульбу, але і тую ж атруту, якой іх зводзілі. Дуст паглыналі кілаграмамі і тонамі, нібы цукар. У вадзе не танулі, у агні не гарэлі.

Не перабольшваю. З вядра з вадой, куды іх збіралі, выпаўзалі. А з агню жука брала толькі так званая запальная сумесь, якой і танк можна падпаліць. У бензіне яго і палілі і паляць паўсюдна ў нас па сённяшні дзень, без асаблівага, зрэшты, поспеху і шкоды нашчадкам жукоў. Цудоўна мярзотную айчынную пароду іх мы выпесцілі. Я і магу ганарыцца тым, што не прамаргаў гістарычнага імгнення, калі нараджалася тая парода.

Ноч, як першамайская ці кастрычніцкая дэманстрацыя кумачом, была расквечана полымем кастрышчаў. Па-цыганску на пустыры насупраць сваіх хат атабарылася наша вуліца. Раўлі каровы, якім нязвыкла было спаць пад зоркамі, рохкалі спутаныя, што коні, і прыпнутыя да калкоў парасяты, ціхенька папісквалі сярод гэтага галасу дзеці, маленькія яшчэ – малочныя, і паўзуны, каторыя не цямілі, як гэта хораша – жыць у чыстым полі, на свежым паветры непадалёку ад сваёй хаты. Усё амаль таксама, як і ў вайну, калі тут былі немцы. З хат выселены, эвакуіраваны, ад зямлі адлучаны, палеткі нашы атручаны. Жывём у куранях. Час брацца за зброю і даваць бой.

І мы гатовы былі ўзяцца за зброю. Па родным жа горадзе нельга ўжо прайсці, каб табе не набілі морду, не пусцілі юшку. У родным горадзе немагчыма ўжо і кроку зрабіць, нельга ступіць на зямлю, каб цябе не перастрэлі і не адлупілі гарадскія. Але проста цябе адлупілі – гэта не бяда. Проста так нас таўкуць без усякага і ўсе па дзесяць разоў на дзень. Мы ўжо звыкліся з гэтым і з болем звыкліся. Пабаліць, пабаліць і перастане, пакуль жаніцца – загаіцца. Боль – не страшна. Страшна, калі сорамна і ўспомніць, прыгадаць, як з цябе здзекаваліся перад тым, як звычайна расквасіць нос, пусціць юшку, набіць гузакоў, фашысты праклятыя. І пажаліцца няма каму, пашкадаваць.

Мяне гарадскія падлавілі, праўда, на бойкім месцы, на іх законнай тэрыторыі. У самым сваім логвішчы, на скрыжаванні вуліц Савецкай, Леніна і Інтэрнацыянальнай. Сам вінаваты, нечага было сунуцца туды. Але вельмі ж вялікая патрэба была. Трэба было ў бібліятэку. У іх жа, у горадзе, ёсць бібліятэка, а ў нас, застанцыйных, марсіян, няма. Грамацей няшчасны, чытаў бы буквар, калупаў у носе, давіў мух, цэлы б застаўся, нябіты. А тут Паўлікам Марозавым захацеў стаць, Гогаля пажадаў, Коласа. «Вечары на хутары каля Дзіканькі», «На ростанях». Вось будуць цяпер на гэтых ростанях, на скрыжаванні трох вуліц будуць табе вечары, Паўлік Марозаў.

Абкружылі, аблажылі з усіх бакоў, як зграя ваўкоў каня, і стаяць моўчкі, ведаюць, што нікуды ад іх не дзенуся. І я стаю, маўчу, чакаю, што будзе, думаю, як кніжкі казённыя выратаваць. А не то ж яшчэ і дома ўшануюць, у бацькі папружка заўсёды напагатове і гарачая. Даю з-пад лоба касяка, прыглядаюся да іх. Здзіўлены, як гэта яны мяне ўглядзелі, як вылічылі, што я не з іх, па паху, ці што? Мо і на самай справе ўсе мы, марсіяне, пахнем неяк інакш. Яны ж такія, як і мы. На дзвюх нагах, і няпраўда, што ў кожнага з іх чаравікі, ёсць і босыя. Ногі ў каросце і сарочкі з паддувам, у прарэхах, і той жа недахоп гузікаў. Галоўны, праўда, у сандалетках і ў сарочцы без дзірак. Яблык есць. Па гэтым яблыку я і прызнаў, што ён у іх заглаўны. Есць, сок капае, мутны, што соплі, і прама на падбародак. А ён і не выцірае, з'еў – агрызак на пясок мне пад ногі. Ладны такі агрызак, было яшчэ што ўкусіць.

– Падымай і еш цяпер ты.

Фашыст няшчасны. Я той бы агрызак і сам падняў і з'еў. Падняў і з'еў бы. Але сам. Азірнуўся б толькі, ніхто не бачыць, церануў аб калашыну – і ў рот. Я яшчэ ніводнага цэлага яблыка не з'еў. Але каб мяне прымушалі есці ды яшчэ пасля гэтага фашыста смаркатага. Я ж сваімі вачыма бачыў, як ён еў, як сок каціўся. Вунь яшчэ і зараз уся барада ўвэзгана. Не, тут я грэблівы.

– Забіце, а есці не буду.

Яны мяне за лохмы, за віхор-каўтун і рылам у пясок, мордай ў той слімакаваты агрызак.

– Будзеш, падла, жэрці.

– Нізашто на свеце...

– Без усяго, проста так.

– Не рвіце сарочку.

Голы голага гняце і крычыць – сарочку не парві, так і я. А пад сарочкай у мяне, за пазухай, кніжкі ж. І чую я, як вокладка гнецца і трашчыць, старонкі голае цела абліпаюць, прама ў цела літаркі друкуюцца. Буйна, на ўсё жыццё пазначаюць «Паўлік Марозаў», гогалеўскія «Вечары» і коласаўскія «Ростані». Харошыя кніжкі, і галоўнае, я ж іх яшчэ і прачытаць не паспеў, толькі прынюхаўся. Да ўсяго ж гэта казённыя кніжкі. Іх берагчы трэба.

Сволачы, гэтыя кніжкі. Усё жыццё яны некаму замінаюць, шкодзяць. І Гогаль сволач, і Колас сволач, і Паўлік Марозаў. Як арыштанту, скруцілі рукі, што каню, спуталі ногі. Без гэтых Гогаляў, Коласаў, Марозавых я быў бы вольным, што вецер. Лахі пад пахі і гопца-дралала-ца-ца. І сашчапіцца мог з некім, некаму іншаму сарочку распа-ласаваць. А з кніжкамі за пазухай здольны толькі

крычаць:

– Не рвіце сарочкі.

– Рот, падла, раздзяром. Жары агрызак, кашкаед. Жары яблыка.

І яблык той мне ў пашчу запіхваюць. Брудныя пальцы свае мне ў рот піхаюць.

Мяне адразу ж ванітаваць пачало. І такая шкадоба, што аўтамата няма, ножыка нават няма. Адзін бы на чацвярых аўтамацік. Аўтамацік бы лепш, чымсьці тыя кніжкі папісваць і геройстваваць: Гогалю, Коласу, Паўліку Марозаву і мне. Мне лепш бы, чым гэтыя кніжкі, аўтамацік. Я за ўсіх бы чацвярых разлічыўся. Я прымусіў бы іх паважаць і Гогаля, і Коласа, і Паўліка Марозава, хаця яны і сволачы. Сябе прымусіў бы любіць.

Дзе ж ты цяпер, юны герой – піянер Паўлік Марозаў, што не забаяўся паўстаць супраць роднага бацькі. Дзе ты, магутны Тарас Бульба, каторы за свабоду і волю паклаў, застрэліў, што сабаку, сваё роднае, кроўнае дзіця. Дзе ты, вясковы добры настаўнік Лабановіч, каторы дзеля той жа свабоды і волі кінуў каханую. Заступіцеся ж за мяне, абараніце маю свабоду і волю, вартасць маю чалавечую. Гэта ж і вам пад ногі ў вулічны прысак кінуты яблык. Яблык разладу і звадкі. І не яблык нават, а агрызак слімакаваты. І ёсць, ёсць на ім надпіс, праўда, абкусаны: найпрыгажэйшым. І вы разам са мною будзеце яго жэрці. Дык заступіцеся хоць самі за сябе, самыя высакародныя з высакародных, смелыя з смелых. Абараніце сябе.

Слабыя, слабыя. Хлусня і падман у вас і ў вашых кніжках. Найвялікшая няпраўда з усіх на свеце няпраўд. І за гэтую вашу салодкую адмысловую хлусню геніяў, за гэтую вашу атрутную няпраўду лягуць яшчэ тысячы і тысячы. А сярод іх і мой сябра Данілюк. Я абвінавачваю вас. Але гэта пазней, пазней ужо. Я пажадаю вам перавярнуцца ў сваіх дамавінах. Пазней.

А ў тую хвіліну я нібыта пачуў, як канае ад вар'яцкага смеху, смяецца з мяне Вій, і сам звар'яцеў. Выплюнуў агрызак, што запіхнулі мне ўжо ў рот. І пясок пачаў есці, курынае гаўно, што ў пяску валялася, жэр. На каленцах, галаву толькі ўзняў і ў вочы ім гляджу і на вуліцу Інтэрнацыянальную, вуліцу Леніна і Савецкую.

А на Інтэрнацыянальнай вуліцы, як на вуліцах Леніна і Савецкай,– сады, сады, сады. І ўсё яблыкі, яблыкі. Жару курынае гаўно, што цукар хрумстаю, а здаецца мне, што я тыя яблыкі ем. Усе ад мяне, як гарох, урассыпную:

– Вар'ят, звар'яцеў.

А я і на самай справе як звар'яцеў. Кожнага з іх, і не толькі з іх, хто б ні натрапіўся, у тую хвіліну разам з гаўном з'еў бы. Усё пуста ўва

мне, апаганена, хоць жывот долу звісае, цяжкі ад пяску і курынага памёту. Рот і ўсё, што на мне, у пяску, памёце і бляноце. І ў вачах чырвона, па чырвоным яблыку ў кожным. І галава што чырвоны яблык, без зярнятак толькі, пустая і гарачая, абруч на галаву трэба, каб не шчоўкнула, не лопнула ад перапалу. Звязаць мяне на тую хвіліну трэба было, каб я не нарабіў бяды, таму што мог, мог нарабіць ліха. Агонь мне ўжо мроіўся. Блюзнілася, як чырвона займаюцца агнём хаты, як палаюць ужо на Інтэрнацыянальнаай вуліцы кастры з Гогаляў і Коласаў. Нічога, хораша гараць класікі, калі някласікі жару паддаюць.

Я той яблык з вуліцы Інтэрнацыянальнай паміраць буду – буду помніць. Можна лічыць, што менавіта з-за яго я прыняў і распачаў вайну. І не толькі я, усе мы, што сядзім цяпер каля копанкі пад хатаю старой Дубашыхі, а таксама і ўсе іншыя, каго няма сярод нас, каго высялялі гэтай ноччу ў чыстае поле з уласных хат, з атручанай барацьбой з заморскімі ракамі і жукамі зямлі,– усе паспыталі таго яблыка. Хто з'еў цалкам, а хто напоўніцу, на ўвесь рот адкусіў.

*Эх, яблочко, куда котишься,*
*Попадешь ко мне в рот, не воротишься.*

Таму сёння і мы ўсе незваротныя ўжо. Дай Бог вярнуць, рэанімаваць нам дзяцей нашых, што яшчэ ва ўлонні маці таксама паспыталі тое яблычка.

*Эх, яблочко, да сбоку зелено,*
*Нам не надо попа, надо Ленина.*

З адной яблыні ўсе мы. Мы самі і ёсць тыя яблыкі. Што б там ні казалі, а сапраўды яблык ад яблыні недалёка коціцца. Я думаю і кажу гэта сёння, моцны заднім розумам, калі праз некалькі хвілін, паўгадзіны ці гадзіну ўсім нам, хто бавіў тыя даўнія вечары каля Дубашысінай копанкі, а таму-сяму і з тых, з кім мы тады былі ў стане вайны, трэба будзе ўзяць на плечы дамавіну з целам Данілюка і аддаць забыццю. Аддаць зямлі, пахаваць наша дзяцінства.

Уся наша хеўра, як і раней, у поўным складзе. Хаўтуры гудуць у хаце Данілюка. А мы развітваемся з ім, як некалі сустракаліся, на беразе копанкі пад дубам. Яго з намі няма. Але там, дзе ён любіў сядзець, стаіць яго чарка. Толькі ён не п'е. Мы п'ём за яго.

– Хай яму зямля будзе пухам.

І мы ўсе ў згодзе ўздымаем чаркі. «Мы» – гэта просты савецкі вязень Валодзька Цыган. На самай справе зусім не цыган, а такі ж, як і я і ўсе іншыя, беларус. А мо і не такі, хто акрамя яго маці ведае. Бацькі ў яго не было, прынамсі, мы яго не бачылі. Мог быць яго бацька і цыганам. А сам ён цыган з таго нашага дзяцінства, якое не

ведала імён, ішло ў жыццё з мянушкай, прозвішчам. А ён, на сваю бяду ці радасць, смуглявы ды яшчэ і няўседлівы.

Нібы спецыяльна пад пахаванне, сябра ўчора толькі пакінуў родныя сцены турмы. Пасля пахавання сядзе, пэўна, зноў. Каму турма, каму маці радна. Такая яго селяві: быць вечным арыштантам. Апошні раз сядзеў за бутэлькі. І добра б поўныя, а то пустыя. Выцяг, украў з той самай кладовачкі бабы Дубашыхі, у якой мы некалі кралі самагонку. Ён жа цяпер збірае пустыя бутэлькі, каб здаць і пахмяліцца. ТУРме заўсёды шчыра рады. Там ён працвярэжваецца, прасыхае ад гарэлкі і п'янства. А некалі быў праваю рукою Данілюка.

Юрачка Пратуберанец. Сонечнае прозвішча.

– Во, хлопцы, глядзіце, глядзіце, пратуберанцы. Пратуберанцы на сонцы. Як бы не выбухнула і не пайшло на друзачкі.

Любіў сонца, сцярог сонца. Вечна капціў на касцярку шкельцы і сачыў за сонцам. Сёння копціць кілбасы. Прасты савецкі рабацяга. Хаця і не такі ўжо і прасты, зусім не прасты. У адрозненне ад Цыгана ніколі не сядзеў, толькі ж турма па ім, ох, як даўно сумуе і плача. Зачакалася яго ўжо турма. Але ён, як гавораць, злодзей у законе. І садзіць яго аніяк нельга. Баец мясакамбіната. Не, не той баец, што з пагонамі, на варце і ў ахове, як ён некалі быў на варце і ў ахове сонца. А той, што забівае на мясакамбінаце жывёліну. Вось таму і садзіць яго нельга. Пасадзі, хто ж работу рабіць будзе. Не мы ж з вамі. Яго законнае месца не на лаве падсудных, а на Дошцы гонару, дзе ён і знаходзіцца.

Юрачка Пратуберанец і арганізаваў нам гэты стол на беразе копанкі. І другі стол там, у хаце Данілюка, ён таксама арганізаваў. Ніхто іншы на гэта не здатны.

Я, сорамна і прызнавацца ў нашы дні,– настаўнік. Што гэта такое ў нашым горадзе, у маёй роднай Беларусі, гаварыць не буду, кожын сам ведае. Скажу толькі, што каля палавіны настаўнікаў, з якімі я рабіў у школе, перайшло сёння працаваць на мясакамбінат. Пры маёй жа зарплаце і паўсюдным дэфіцыце я не здолеў бы пакласці на стол і аркуша чыстай паперы, не здолеў бы выставіць і бутэлькі чарніла, у прамым і ўскосным сэнсе. Фімка Бухман – прафорг дэпо, яго хапіла толькі на стужкі, вянкі і аркестр. А Пратуберанец сярод белага дня, не хаваючыся, на машыне вывез з мясакамбіната ці не палову спецхаладзільніка.

– Што я ім, фраер. Не магу ўзяць на хаўтуры лепшаму сябру дзічыны, ласяціны, саломкі?

Віно таксама завезлі па яго кіўку, машынаю. З кансервавай базы, у трохлітровых слоіках. Віно мясцовай вытворчасці, мярзотнае,

мальвазія, адным словам. Але крадзенаму каню, як кажуць, у зубы не глядзяць. Закусваем затое па-царскі ці, праўдзівей, па-цэкоўску. Першы раз у жыцці, і то на хаўтурах, ем вэнджаную, вяленую і запечаную дзічыну. «Саломку» жару, жыццё пражыў і думаць не думаў, што недзе на свеце ёсць такія прысмакі. Непрыстойна, хаўтуры ўсё ж, але прыпаў і адпасці не магу. Грэшны чалавек, грэшны. Тут бы і ў рот не павінна нічога лезці, а мяне за вушы не адцягнеш, прысмактаўся, што свіння да карыта. І прэч усё добрае, разумнае, вечнае.

«Саломка» зусім не тое самае, што і салома. Зусім не тая мякіна, якую ўсё жыццё лічыў за кілбасу і мяса. Напаўсушаная выразка з нейкага адпаведнага месца дзіка. І пад гэтую сакратарскую закуску мы ўжо адзін трохлітровік апрасталі. П'ём гранёнымі шклянкамі, напоўніцу.

– Но Пасаран. Но Пасаран. Но Пасаран.

Да дна, напоўніцу, п'юць разам з намі Волька Дранік і Борка Шнобель. Борка, той самы гарадскі заглаўны, каторы прымушаў мяне есці яблык. Сёння ён вядомы, знакаміты ў нашым горадзе п'яніца і музыкант, баяніст у нашым гарадскім Палацы культуры. Мянушкай Шнобель пазначыў яго ў нашыя дзіцячыя гады Данілюк. І Борка цяпер, хаця мы ведаем і самі, расказвае, як гэта адбылося, як аб подзвігу ці ўзнагародзе расказвае.

Гарадскія перастрэлі Данілюка там жа, дзе і мяне. На скрыжаванні вуліц Інтэрнацыянальнай, Леніна і Савецкай. Павіталі:

– Хрыстос уваскрэс.

І ён ім адказаў:

– Ваісціну ўваскрэс.

Была якраз Пасха, Вялікі дзень. У Хрыста, канечне, як ні ў чорта, ні бога, ні з нашага, ні з іхняга боку ніхто не верыў. Але была радасць і давер да велікоднага яйка. На зямлі раскашавала вясна. І ўсе дзеці былі падобныя на маладога Хрыста-нігіліста, Хрыста-паганца. Як вясновая трава, абуджаная цяплом, за белы віхор выхапленая да святла і святлом, усе яны радаваліся сонцу, пакланяліся сонцу, былі самі прамяністыя і ўсмешлівыя, таму, здавалася, і прыхарошаныя, як тое ж велікоднае яйка. Нехрышчоныя хрыстосікі-нігілісты з вуліц Інтэрнацыянальнай, Леніна, Савецкай. Хрыстосік-нігіліст з Марса – ускраіны гарадскога сметніка. Усе скрозь наваяўленыя Понціі Пілаты.

– Гаворыш, ваісціну ўваскрэс,– перапыталі яго інтэрнацыяналісты-ленінцы.

– Гавару, ваісціну ўваскрэс,– пацвердзіў Хрыстосік з Марса.

Яму б ногі ў рукі, нішто ж не замінала, як мне. Ногі ў рукі ды па

маладой траўцы жвавымі маладымі нагамі, ды міма садоў у вясновай квецені, па кветках маці-мачыхі. Наскрозь праз запоры і духмяную навісь садовых пахаў і водараў. Ці ўжо, эх, размахніся рука, разыдзіся, плячо. Насы ўва ўсіх хрыстосікаў з аднаго чалавечага матэрыялу і юшка аднаго чырвонага колеру. Вось бы на Пасху і паквасіў гэтыя насы, пусціў юшку. А ён стаяў і ўсміхаўся:

– Ваісціну ўваскрэс.

Усё так, хоць і дужы, але марудлівы і нават мехаваты, злоснасці ў ім ніякай не было. На справу з ім ісці, у бойку ўлазіць, трэба спачатку распаліць яго, мо і прыкласціся добра, а лепш на яго вачах урэзаць таму, з кім ён знаецца, тады і ён што трэба. Такі вось ён ужо ўдаўся, хоць хадзіў сярод нас у завадатарах. А на Інтэрнацыянальнай яго прымушалі араць носам зямлю. Каціць велікоднае яйка носам, тры кіламетры на коленцах. І тады яйка застанецца назусім яго.

– Неа, не застанецца яно назусім у мяне,– сказаў Но Пасаран.– Тры кіламетры і па пяску, і носам ды яшчэ на коленцах? Неа, гэта ж немагчыма.

– Магчыма, – абнадзеіў яго ўсё той жа заглаўны, што потым, пазней, кінуў мне пад ногі агрызак яблыка, – не спяшаючыся, па халадку, не спацееш нават.

– А ты сам здолеў бы па халадку, сам бы ты здолеў пракаціць і не спацець? – хуценька павярнуўся да заглаўнага Но Пасаран.

Той спачатку нязгодна пахітаў галавою, але паглядзеў на сваю хеўру, каторая таксама з цікаўнасцю глядзела на яго, і сказаў:

– Пракаціць бы пракаціў, але навошта гэта мне. Не я ж, а ты ў нашых руках.

– Слабак,– сказаў Но Пасаран. – Нізашто ў жыцці табе не пракаціць такое прыгожае велікоднае яйка. Мацак?

– Мацак,– неразважліва і радасна пацвердзіў заглаўны.

– Неа, мацак табе не пракаціць. Мацак увогуле не коціцца,– узрадаваўся і Но Пасаран, надыбаў слабае месца.

– Не коціцца? Во дае, як жывы.– Заглаўны лена засмяяўся. Засмяяліся і яго хаўруснікі.

– А вы чаго лыбіцеся,– цыкнуў на іх. Но Пасаран. Выбраў сярод іх дыхляка з дыхлякоў, амаль шкілета.– Во шкілет, можа, і дакаціў бы. А ты – неа. Ніколі і нізашто.

Шкілет ці не да хрыбціны прытуліў жывот, выпнуў грудзіну і нават скрозь сарочку можна было палічыць усе яго рэбры. Заглаўны зрабіў яму змазь і жывот у жывот сышоўся з Но Пасаранам.

– Абражаеш, дзядзя. У нас за это делают больно.

– Сэр, у мяне і ў думках не было-с абразіць вашу высокасць.

Гавару шчырую праўду. Мацак – гэта біток. Ён цяжкі. Ён не можа і не павінен каціцца. Не дакаціць.

– Дакаціць, але...

– Не дакаціць. У вас, сэр... У цябе...– Но Пасаран схіліўся да заглаўнага і шэптам сказаў яму нешта ў самае вуха.

– У мяне тоўстая? – у тую ж хвіліну амаль заверашчаў заглаўны.

– У цябя, у цябя. І не проста тоўстая. А непрыстойна тоўстая. Не срака, а тэндар паравозны.

Тэндар у заглаўнага быў сапраўды што трэба.

– І не толькі тэндар у цябе, але і шнобель яшчэ – што паравозная труба. І сам ты з такім магутным тэндарам і шнобелем – сапраўдны паравоз.

І гэтым паравозам Но Пасаран дабіў заглаўнага ўжо канчаткова. Замацаваў перамогу яшчэ і тым, што адразу, не сыходзячы з месца, прапанаваў прылучыць шнобель да тэндара

– Прыладзіць шнобель да тэндара...– толькі яшчэ пачаў Но Пасаран, як каманда заглаўнага не вытрымала. Шкілет, да каторага перад гэтым ужо звяртаўся Но Пасаран, ад рогатуператварыўся ў пузатага рахіта. Яму першаму зноў жа і хапіла. І яшчэ не аднаму са свайго войска прыйшлося даць заглаўнаму ў карак, каб яны супакоіліся. А Но Пасаран працягваў:

– Шнобель к тэндару і тады мо дакоціш. А так? Ты толькі зірні на сябе ў люстэрка. Тэндар будзе долу, шнобель туды ж. Не дакаціць. Не дакаціць!

– Дакаціць!

– Дакажы.

– Дакажу. Я туды.– Заглаўны тыцнуў пальцам у канец вуліцы.– А назад пакоціш ты. Ты будзеш каціць, а я буду на табе яшчэ вярхом ехаць.

Высыпаў з-за пазухі і з кішэняў на пясок бітыя яйкі, што, пэўна, выйграў мацаком у сваёй жа хеўры, таму што вельмі ж пільна пачалі ўглядацца ў гэтыя яйкі хаўруснікі.

– Глядзі, як гэта робіцца,– заглаўны стаў на карачкі.

– Давай, давай, не марудзь. Паехалі! – аддаў загад Но Пасаран.

Шнобель тыцнуўся носам, што кавянёю, у пыл і папоўз, пакаціў па сваёй роднай вуліцы велікоднае, блакітнае, як неба, яйка. Дакаціў бы да канца яе – не? Невядома. Хутчэй за ўсё не. Хаця і рабіў ён гэта спрытна, жвава. А ўсё роўна не дакаціў бы, не паспеў, таму што мы валодалі прадбачаннем. У нас была інтуіцыя. І тут трэба асабліва адзначыць, што такія, як нашы, гарадкі ў дасканаласці валодаюць гэтым прадбачаннем. Яны жывуць ім – інтуіцыяй і інстынктам.

Балюча, крыўдна, але гэта дакладна і справядліва.

Не, не толькі тады, але і сёння недзе ёсць інакшае жыццё. Не ведаю якое, але і сёння недзе ёсць інакшае. Культурнае, сацыяльнае, эканамічнае? Не ведаю. Інакшае. Мы ж жывём інтуіцыяй і інстынктам. А інстынкт і інтуіцыя заўсёды і беспамылкова вядуць нас на барыкады. На Галгофу. Таму мы ўвесь час і ведаем толькі адно: змаганне, змаганне, змаганне. Пэўна, гэта толькі аб тым іншым жыцці гавораць, што яно поўнае і свядомае. У нашым таксама няма пустаты, але свядомасці роўна столькі, колькі трэба, каб выжыць, адваяваць права на сваё ўласнае існаванне. Шчасце гэта, бяда? Калі жывуць усе і не зарастаюць поўсцю, значыць, шчаслівыя. Толькі ці не паўстаў супраць такога шчасця сваёй жа смерцю наш Но Пасаран?

Але гэта ж я зноў ужо сёння, сёння. Пасля смерці Но Пасарана. А тады, на Вялікі дзень, інстынкт і інтуіцыя беспамылкова падказалі нам, што ў паветры пахне бойкаю. Мо сам, уваскрэсшы ў той дзень, Хрыстос кінуў нам загад і заклік: на Галгофу. І мы, ускраіна, хрыстосікі-нігілісты з Марса, кінулі школу, збеглі з урокаў, занядбаўшы грамадзянскія пошукі Някрасава, сталінскі вялікі план пабудовы камунізму, жыццё паўзуноў. Пабеглі ў горад шукаць, каму б начысціць рыла. І ведалі, прадчувалі, каму трэба начысціць: няма ў школе гарадскіх, няма і нашага Но Пасарана. У паветры выразна патыхала свежаю юшкай і маладзенькімі соплямі.

Калі Шнобель першы раз тыцнуўся носам у пясок, мы ўжо былі на падыходзе да скрыжавання вуліц. Трохі затрымаліся, канечне. Але ж ці можа быць хуткая хада, калі ты ўцёк са школы. Адразу ж усюды навакол цябе столькі цікавага аказваецца. Вераб'і і тыя крычаць інакш. А яшчэ трэба пацвяліць кожнага сабаку, выхваліцца адзін перад адным. Не прапусціць ніводнага плота, каб не пагуляць на ім на «гармоніку». Але праз усе гэтыя перашкоды мы ішлі мэтанакіравана туды, адкуль чуўся голас, які клікаў нас.

У той жа меры, пэўна, як і мы, валодаў інстынктам і інтуіцыяй і Но Пасаран. Ён быў усё ж марсіянін. Шнобель не паспеў яшчэ і разагнацца, узараў носам якіх-небудзь толькі пяць ці дзесяць метраў вуліцы Інтэрнацыянальнай, як з падваротні бліжэйшай хаты выпаўзла рабая пароcная свіння. Залітым салам вокам зірнула на зборышча хлапчукоў насупраць сябе, адзін з іх займаўся яё адвечнаю справай. Яна радасна рохкнула і, мо падахвочаная ім, таксама пачала працаваць лычом, толькі больш управіста і вынікова. Но Пасаран нейкі час моўчкі наглядаў за ёй, мацаваўся, але ўсё ж не вытрымаў. Злажыўся ад рогату амаль удвая, прыпаў да зямлі.

– Такі ж, як і ў цябе шнобель, такі ж тэндар, а табе фору дае. Давай навыперадкі, дадай пары, а то перагоніць...

Шнобель рэзнуў яму кумпалам у падбароддзе. Ён усё ж быў больш спрытны, чым можна было падумаць, гледзячы на яго. Но Пасаран плакаў і смяяўся. Мы былі побач ужо і верашчалі, што янычары. Умольна рохкала рабая свіння, нібы прасіла літасці і цішыні. Шыліся ў глыбіню, у ахоўныя і густыя зараснікі ружовага пад сонцам бэзу вераб'і. Грукалі дзверы і веснічкі на ўсіх трох вуліцах. Шнобелю і яго войску ішло падмацаванне. Інстынкт і інтуіцыя працавалі. Ішло падмацаванне з боку Марса і са школы.

– Не пужайце свінню, злыдні, Бога на вас няма. Апаросіцца, спаганіць Вялікдзень,– усплёсквала рукамі, крычала з ганка хаты старая, пэўна, гаспадыня свінні.

У першы дзень Хрыстова ўваскрашэння мы давалі першы бой гарадскім. Біліся, хто чым мог, у каго бацькі больш заможныя, партфелямі, бедныя – торбачкамі з падручнікамі, проста падручнікамі. Вучні старэйшых класаў – тоўстымі: літаратурай і гісторыяй, канстытуцыяй, астраноміяй, малодшыя – роднай мовай і русской речью. А потым, калі ўжо ўвайшлі ў смак, каменнем – зброяй пралетарыяту, голымі рукамі – зброяй марсіян. Пафарбаванымі ва ўсе колеры вясёлкі велікоднымі яйкамі.

– Хрыстос уваскрэс!

– Ваісціну ўваскрэс!

Памры і будзь...

І не было пераможаных, і не было пераможцаў. Хто не дабраў тут, па хатах усім аддалі па заслугах. Усіх раўнялі бацькавы папружкі, вяроўкі, матчыны хусткі і кухталі: за пашкамутаныя падручнікі, пакамячаныя сшыткі, параздзіраныя і акрываўленыя сарочкі, раскалупаныя насы – каб наперад біў другога і не даваў біць сябе.

Но Пасаран расхадзіўся, даспеў да кандыцыі, адарваў ад слупкоў каля плота лавачку, ладную, пафарбаваную, як велікоднае яйка, у чырвонае дошку і махаў той дошкаю, што чырвоным сцягам, хоць, здаецца, нікога не зачапіў, да яго проста баяліся наблізіцца. Зламалі абодва маленькія крыжыкі на брамцы каля царквы, што стаяла на людным скрыжаванні трох вуліц. Старая, занядбаная цэркаўка, што ўсе апошнія гады больш памірала, чым некаму служыла. Разумела сваё паміранне і таму сышла з людскога вока, схавалася сярод высачэзных ясакараў і таполяў і адным толькі блакітным крыжом на макаўцы вытыркалася на божае святло, у блакіт неба. А тут аказала сябе, падала голас. У царкве хтосьці ўдарыў у званы.

Вось ужо ваісціну: Хрыстос уваскрэс.

Звон пабег у неба, абрынуўся на зямлю.

Абодва ваюючыя бакі бясслаўна збеглі.

Шнобель, трымаючы ў руках раздзёртую і садраную з плеч белую сарочку, адвёў свае войска. Но Пасаран, не выпускаючы з рук чырвонай дошкі,– свае. Рабая свіння апарасілася.

Вайна толькі пачыналася.

– Ну, за тое кароткае слова, што пішуць дзеці на плоце. За мір! Што бацькі не дапілі, мы дап'ём.– І, перакуліўшы шклянку з мальвазіяй, Шнобель працягвае: – Мы б вам тады наабшывалі. Але гэтая царква, гэтыя званы. А тут яшчэ Но Пасаран мяне выключыў. Прыціснуў і як урэзаў пстрычку, дык я і ў адключку. У школе ніяк не мог уцяміць, што зямля круглая і круціцца вакол сваёй восі і сонца. А тут адразу ўсёк: круглая, круціцца зямля. Вакол сонца круціцца... Вось такія справы, настаўнік. Так, настаўнік, трэба растлумачваць.

Ён звяртаецца непасрэдна да мяне. Я маўчу, і не толькі таму, што, хоць і выкладаю ў школе геаграфію, не ведаю, ці сапраўды яна, зямля, круціцца. Мая вайна і варагаванне са Шнобелем кончыліся. І зямля, калі мы з ім сышліся ў адной кропцы, у нашай былой штаб-кватэры, дзе складаліся планы нашай вайны супраць яго, пэўна, усё ж на самай справе круглая і круціцца.

Сёння мне не дае спакою, дратуе кароткае тое слова, за каторае толькі што падымаў шклянку з мальвазіяй Шнобель. Ці мірны я? Ці мірныя мы ўсе, што сабраліся зараз тут? А калі карацей і больш дакладна: адзін з нас, што сядзяць тут, мярзотнік і здраднік. Ці ведае, што такое мір, здрада? Ці ведае, што такое мір, здраднік? Хто ж гэта?

Мы высвятляем гэта вось ужо трыццаць нашых мірных гадоў. І таму, хоць і заўсёды разам, і, здаецца, заўсёды ў міры і згодзе, спраўляем святы і адводзім хаўтуры. Ненавідзім і падазраем адзін аднаго. Кожын наш дзень, як тая далёкая ноч дзяцінства, калі мы пілі крадзены самагон, ноч, насычаная болем, так сёння кожын дзень насычаны падазронасцю. Мы баімся глядзець адно аднаму ў вочы, калі цвярозыя, баімся лішняе шчырае слова мовіць, як бы ў кожнага з нас з тае чорнае ночы ўвайшоў таксама нехта чорны і цісне нас і гняце. Хто ж гэта ці што?

Шнобеля можна ў разлік не браць. Ён сёння наш сябра, стары наш вораг. А вораг, як вядома, не можа быць здраднікам, ён не можа здрадзіць таму, супраць каго змагаецца. І не было, не было яго з намі той ноччу тут, калі нараджаліся нашы вялікія пераможныя планы: выспявала здрада. Ён знаходзіўся па другі бок барыкад. Не вінаваты.

Не вінаваты і Фімка Бухман, што пацягвае мальвазію разам з намі. Старэйшы ўнук таго самага заакіянскага Дзядзькі Сэма, што

гарлаў на ўсю нашу вуліцу: «Бабы, тррапкі, карраўкі!» Фімка Бухман цяпер таксама наш чалавек. Ён сваяк Но Пасарана. Тады ж, трыццаць гадоў назад, ні для нас, ні для Шнобеля ён увогуле не існаваў. У лепшым выпадку для аднаго і другога боку ён быў проста яўрэйчыкам і ў нашай вайне – нейтральным. А таму – не вінаваты. Да ўсяго ж, што ні кажы, а потым – ён сваяк Но Пасарана. Но Пасаран прамахнуцца не мог. Значыць, двойчы не вінаваты.

Волька Дранік?..

Тут адразу не скажаш і не так і не гэтак. З аднаго боку – безумоўна, не. Хаця б таму, што яна ў той час – дзяўчынка, жанчына. А вайна – справа мужчынская. А з другога – яна была ўнучкай старой Дубашыхі. Адным гэтым усё сказана. Дубашыха – вядзьмарка. А нячыстай сілы ўсе мы ў сваіх радах не трывалі. Чысціню сваіх радоў захоўвалі свята. Да ўсяго яна яшчэ і дачка вельмі і вельмі небяспечнага чалавека, такога небяспечнага, што само яго імя на нашай вуліцы было забаронена называць услых. Ён знік, згінуў з нашай вуліцы так, нібы нячыстая сіла яго прыбрала. Тая ж старая вядзьмарка Дубашыха выправіла яго на шабаш нячыстай сілы, з якога ён не вярнуўся, не пажадаў вярнуцца, перакінуўся ў пярэваратня і ваўкалаку. Пярэваратнем стала з ім у адну ноч і яго жонка. І таксама знікла. Бабуля вядзьмарка, маці пярэварацень, бацька ваўкалака. Каго ж яны маглі нарадзіць – толькі нячыстую сілу.

І Волька Дранік была нам жывым увасабленнем гэтай нячыстай сілы.

Гэта з аднаго боку. А з другога, тут усё яшчэ больш заблытана і складана. Нячыстая яна-то нячыстая, але ўсё ж сіла. І нас у тую пару да гэтай нячыстай дзявоцкай сілы ўжо цягнула, прываблівала яна нас, як і ўсё патаемнае і нячыстае. Волька ж сама круцілася чорцікам паміж намі. Зналася яна і з другім бокам, супраць якога мы ваявалі. Змовілася і з самім Шнобелем. Разведка наша дарэмна хлеб не ела. Не раз дакладвалі: бачылі Вольку разам са Шнобелем. Але і да Но Пасарана яна цягнулася, і да Валодзькі Цыгана, і да мяне не заставалася абыякаваю. Мы праганялі яе, а не заўсёды вучылі, таму што баяліся зачапіць, каб помсты і бяды якой не было – нячыстая ж сіла.

І ўсё ж падазраваць Вольку Дранік сёння ў здрадзе я не магу. Не магу і не хочу. Таму што гэта ўжо хвароба нейкая. Хацець чужога. Абвінавачваць некага іншага. Нібыта ад гэтага свайго дадасца. Сапраўды, голы голага гняце і крычыць: сарочку не парві. Хай жа хоць адзін чалавек застанецца ў сарочцы. І, гледзячы на яго цягнучыся да яго, мы прыдбаем і сабе такую-сякую кашульку.

Да ўсяго ж яна першая жонка Шнобеля. І ўсім нам, хто сядзіць тут, за выключэннем мо Фімкі, яна першая жонка. Законная незаконная, каму якая справа, якая розніца. А Но Пасарану яна і апошняя жонка. Цяпер ужо назаўсёды апошняя. Гэта ён мне сам расказаў перад смерцю. Перад тым, як легчы і памерці, была ў яго ноч. Расказаў, нічога не хаваючы і не саромеючыся, як спавядаўся мне, як ведаў, што ўсё для яго ўжо скончылася ў тую ноч.

IV

Такое надараецца зрэдку ў другой палове жніўня. Да зямлі прыпадаюць дзівосныя месячныя ночы, калі паўсюдна вакол больш светла, а галоўнае чысцей ўсё, чымсьці ўдзень. Чысціня і спакой, ураўнаважанасць ва ўсім амаль як у дзяцінстве. Усё ахоплена глыбокаю месячнай дрымотай, гэтай жа дрымотай аддалена і набліжана. Латуннае ззянне месяца не рэжа і не слепіць вока. Іншым разам толькі ўсплескам пройдзецца па душы знічка – неразважлівая зорка, што скочыла з неба і ў згубным самаспаленні кінулася да зямлі, але так і не дасягнула яе.

На далёкім небасхіле толькі дымны след, пухлая разорка ад анёльскага плуга, сведка адыгранай ужо галактычнай трагедыі, напамінак аб тым, што яшчэ адзін свет адышоў у небыццё, сканаў, супакоіўся хтосьці і на зямлі.

Але душы жывыя ў такія імгненні зусім не думаюць аб сваёй тленнасці і смерці. Чужой смерці. Мо гэта відавочнае з'яўленне ім чужой смерці, адчуванне яе блізкасці, абмежаванасць спасціжэння таго, што адбылося, пасоўваюць іх, папіхваюць самім жыць хутчэй, паўней. Смерць адчыняе некаму вароты ў жыццё. Так ужо непазбежна атрымліваецца: з аднаго боку гэтыя вароты зачыняюцца, а з другога – адчыняюцца. Ад аднаго толькі бялесая разорка на небасхіле, другі ж з крыкам і болем неабтаптанаю яшчэ нагою ў тую гарачую разорку, у поле нябёс, пад шалёны посвіст каменных асколкаў-метэарытаў, што разлятаюцца ва ўсе бакі. Адсюль, пэўна, і пайшло: час кідаць каменне, час збіраць.

Но Пасаран і Волька Дранік, абое ўжо добра саракагадовыя, пабраўшыся за рукі, як дзеці, ішлі па пустцы, што пралегла паміж вуліцай і лесам. Як па мінным полі ішлі, адчуваючы плячыма позірк асветленых электрычнасцю вокан і асуджальныя людскія позіркі. Вуліца была маральнаю, строгай да тых, хто ходзіць уначы па парах вось так адкрыта. Яна даравала ўсё, што адбываецца паміж мужчынамі і жанчынай, але каб усё гэта было патаемна, без выкліку на вачах у кожнага. Вуліца яшчэ верыла ў каханне і сумавала па ім,

таму была хуткаю на суд і прыгавор, хто забываўся і ставіўся з пагардай да такога прыгавору.

Волька Дранік і Но Пасаран сёння забыліся. Забылі сябе, згубілі свае сорак з лішнім гадоў ва ўспамінах аб дзяцінстве. Не падумалі пра тое, што яны даўно ўжо не дзеці, што ў кожнага з іх ужо свае дзеці. Хаця ў Волькі сваіх дзяцей не было. Але ж у Но Пасарана былі, тры дзевачкі.

– Мешанкі,– убачыўшы іх, сказала Волька.

– Яшчэ раз, і выганю з хаты, – адказаў ёй Но Пасаран.

Быў ён неабдымна тоўсты, можна сказаць, нават пузаты, лысы і няўклюдны. Добра прайшоўся час і па Вольцы Дранік. Хаця яна засталася яшчэ і фігурыстай, але твар, як чэрці гарох на ім ужо малацілі, у зморшчынах, а месцамі і цененькіх пражылінах згушчонай ад перасыці ці стомленасці крыві.

І ў дзяцінства яны ўпалі не адразу. Яны ішлі да яго ад захаду сонца да ўзыходу месяца, праз гады, што развялі іх, гэтую дачасную стомленасць, маршчыны і перасыць на твары Волькі Дранік, пляшывасць і лысіну, прыдбанне жывата Но Пасарана.

– А муж у мяне, я ўжо і з ліку збілася, каторы, усе вы аднолькавыя,– сказала Волька, калі яны ўжо аб усім цьмяна і пажыццёваму цягавіта перагаварылі і надышоў час развітацца. Ісці ў сваё сённяшняе жыццё, у каторым ужо ім не было месца. Але нешта засталося паміж імі недагаворанае. Вось тады Волька і сказала:

– А муж у мяне маладзенькі,– прыглушана і сарамліва, нібы і сама была маладзенькая, засмяялася. – Хлопчык зусім. Яшчэ і арміі не адслужыў. Такі, як ты, калі я адсюль з'ехала з маёрам. Той жа ў два разы быў старэйшы за мяне...

– Куды ж дзеўся той маёр?

– Палкоўнікам стаў. А цяпер мо ўжо і генерал. Так што і я магла быць генеральшай. Ты ўяўляеш мяне генеральшаю? Падобна?

– Уяўляю. Падобна. Толькі я вось зусім не падобны на генерала.

– Не перажывай. І я не стала генеральшай. Салдаткаю стала, лічы. І салдат у мяне малады, неабучаны. Я яго абучаю першаму курсу маладога байца... Асуджаеш?

– Не,– сказаў Но Пасаран.– Не магу я цябе асуджаць. Не магу. Вінаваты.

– І на тым дзякуй... У чым жа ты вінаваты перада мной... Якім быў, такім і застаўся. Усё вінавацішся... Добры, тоўсты і лысы Но Пасаран. Якім быў... – Яна пацягнулася да яго і застыла, хвіліну нейкую вагалася, а потым усё ж датыкнулася даланёю да яго лысіны. Лёгенька прабегла гарачай даланёю па лысіне, як па валасах

пагладзіла. І ён сапраўды забыў, што ў яго ўжо даўно на ўсю галаву лысіна, адчуў былую чупрыну, так цёпла зрабілася яму ад яе далані. Але яна адразу ж і рассеяла гэтае цяпло:

– А ў цябе, бачу я, усё ў парадку.

– У мяне ўсё ў парадку.

– Дочкі, жонка, хаця і яўрэйка... Чаму ўсё ж яўрэйка?

– Яўрэйка. Так трэба.– Імгненна замкнуўся ён.

– Каму трэба?

– Мне трэба.

– Навошта? Раскажы на развітанне хоць гэта мне.

– Чаму я табе павінен расказваць?

– Чаму?.. Не ведаю. Не трэба, не расказвай... Няўжо ты так нічога і не зразумеў? Няўжо ты нічога не помніш?

– Нічога не помню,– трохі помсліва пацвердзіў Но Пасаран.– Я ўжо даўно ўсё забыў. Усё дарэшты, што было, што ёсць і што будзе.

– Не хлусі, не трэба, я ж бачу.

– Што ты бачыш? Ты бачыш цень...

– Так, я бачу цень. Тоўсты, тоўсты цень... Бачу доўгі-доўгі сонечны дзень. Пачатак ці то сярэдзіна толькі яго. І цябе на палянцы. Ты смяешся. Ты рагочаш. І ўсё, нічога болей. А я на другім краі палянкі. Трава зялёная, рамонкі белыя, смех... Вось гэтага ты на самай справе можаш і не помніць, таму што тут толькі імгненне, здымак з неба фатографа сонца. Сонца, святло, рамонкі, смех. І мы далёка адно ад аднаго. На ўсё жыццё. Усё. Нічога больш. Імгненне. Імгненне – і слязінка на воку... Гэтага ты не павінен помніць. Гэта помню я.

– Я таксама помню. Цябе. Рамонак не помню. Мы з хлопцамі шэршняў з дуба выкурвалі. І адзін шэршань, такі вялізны, што снарад, улёг за мною. Я ад яго – і ў ваду, у ручай...

– Глядзі ты, сапраўды помніш. А я думала, гэта я адна толькі такая дурная.

– Чаму ж дурная?..

– А таму, што сёння пра гэта ўжо ніхто не помніць. І ніхто не бачыць гэтага: трава, рамонкі, сонца. Гэта ўжо сёння рыззё, з мінулага веку. Сёння ўсё куды прасцей, ты спытай у сваіх дзевачак. Спытай. Рамонак жа не стала. Усюды, куды ні кінеш вокам, адна толькі маці-мачыха. Усё маці-мачыха... Дый ты ж усё гэта прыдумаў. Прыгожа, але прыдумаў. Не было там ніякага ручая. Спытай каго хочаш, кожны скажа – такога не бывае.

– Як гэта не бывае, як гэта ручая не было?

– А вось так. Не было. І не шэршань за табой. А вы за мною, як

шэршні, пагналіся. А я і не падумала ўцякаць. Я толькі зажмурылася. Заплюшчыла вочы, ну, думаю, зараз ударыш. Я так чакала, што ты ўдарыш. А ты і не здагадаўся... І ніякага ручая не было.

– Быў, Волька, ручай. Ты на беразе яго стаяла. Я цябе ўбачыў у ручаі, у вадзе. Да таго праходзіў міма цябе і не бачыў. А тут у ручаі ўбачыў.

– Не было ручая. Але хай у цябе застанецца, што быў.

– Быў. Быў. Пайшлі, пакажу, што быў.

І яны пайшлі. Пайшлі спачатку прыстойна. Наасобіцу, адцурана, старанна пазбягаючы выпадковых дотыкаў рук і цела. Выйшлі на пустыр, параўняліся з Дубашысінай копанкай, спыніліся пад глухім дубам на беразе яе. Усю дарогу да гэтага дуба Волька не зачыняла рот, гаварыла няспынна. Но Пасаран не губляў ніводнага слова з яе гаворкі, і яму было цікава. І дзіўна крыху яму было, як цікава можа гаварыць Волька, дзе толькі навучылася. Але каля дуба ён прымусіў яе сціхнуць, не забаронай нейкай, не просьбай, а нябачным ёй рухам, крутком далані, як бы выключыў яе. І Волька імгненна і пакорліва сціхла.

Яны спыніліся і стаіліся пад дубам усё яшчэ наасобіцу адно ад аднаго. Стаіліся надоўга пад чорнай і дрымотнай вадою копанкі, яе нематою, услухоўваючыся ў прыземнае і падземнае тачэнне і змаганне пад іх нагамі жукоў, чарвякоў-выпаўзняў, сакатанне абуджальнікаў ночы конікаў-касцоў. Зрабіліся амаль што плоскімі пад перахопленым шатамі дуба, праясненым да малочнай белі месячным святлом. Пазбавіліся ўласнага ценю.

Ад дуба да лесу і далей, па лесе ўжо, ішлі, пабраўшыся за рукі, даланя ў даланю, як дзеці, як брат з сястрой. А ў лесе па-брацку цесна спляліся, цела да цела, зрабіліся зусім заадно. Угледзіста абыходзілі кусты, ухопліва адводзілі ад твару голле дрэў, чацверанога, як звяркі, абтоптвалі сцежкі. Не згаворваючыся, ішлі не па дарозе, а ляснымі сцежкамі, па каторых хадзілі яшчэ ў дзяцінстве, гналі кароў на пашу. Знаходзілі больш нагамі, чым зрокам, помнілі тыя сцежкі, як да самай смерці помніць чалавек, што навучыўся чытаць, літары: аз – букі – ведзі,– пень, яма, калода, лес, балота, паляна, асіна, бяроза, ясень.

Адсюль яны пачыналіся. Не з бацькоўскіх хат і зусім ужо не ад школьнага парога, піянерскага звяна і камсамольскай групы. Хата, тым хто меў яе, была ненадзейным прытулкам і ўсяго толькі, каб перабыць у ёй ноч. І то невядома: вечарам ты лякаш у хаце, а дзе прачнешся раніцай. Кожын, свой і чужынец, злы і добры, як звер, да свайго і чужога берлага імкнуўся да гэтай тваёй хаты, спатыкаўся і чапляўся да яе і ўдзень, і ўночы. І рана-раненька па гудку і без гудка

хата выплёўвала сваіх гаспадароў, дарослых і дзяцей, на здабычу хлеба надзённага – у хату ўсяленскую, літасцівую: нарачона богам жыць, будзе жыць.

Бясконцае неба з гарачым сонцам, а то і ў аблоках, з маланкай і грымніцамі, лес з дзікім зверам і поле і балота з гадамі – вось іх сапраўдная хата.

І праз трыццаць гадоў глыбокай ноччу яны зноў увабраліся ў гэтую хату, зіхоткую ад няпэўнага месячнага святла, дзе назаўсёды засталося іх дзяцінства, а мо і самі яны.

– Давай разуемся,– прапанавала Волька.

– Можна,– пагадзіўся Но Пасаран, але адразу і перадумаў.– будзе няправільна. Чаравікі прыйдзецца несці ў руках. А ў нас жа ў руках тады нічога не было.

– Так, нічога ў руках у нас не было... А дубцы, а палкі?

– Не ў лік... Халодная зброя... Як у старцаў кійкі...

Вухнуў, пагнаў па голках хвой стогн пугач.

– Тут, пакарай мяне Бог, тут.– Спынілася і прытрымала Но Пасарана Волька.

– Што тут?

– Смерць мая сядзела. Во з такім джалам-кінжалам. І гэтым джалам-кінжалам туды-сюды, – заманьвала мяне да сябе. Гадзюка. Божачка ты мой, як я тады крычала.

– Што рэзаная.

– А я і цяпер магу так,– аселым да дзіцячага дысканту голасам сказала Волька.– Мне страшна. Яно зноў там. Тая ж самая гадзюка. І з тым жа самым джалам-кінжалам,– і закрычала, нібы яе рэзалі.

– Не галасі. Мы ж яе тады забілі.

– А яна зноў ажыла. Забілі да заходу сонца. А калі да заходу сонца, яна зноў ажывае. Ты ж аб гэтым сам ведаеш. Яна зноў сыкае.– І Волька зноў закрычала, яшчэ больш гучна і пранізліва.

– Супакойся. Ведаю. Ажывае. Але то была не гадзюка, а вужык.

– Не маніш? Праўда вужык? Як вужык?

– А так. Вужык з жоўтымі вушкамі.

– Навошта ж тады вы яго забілі. Дубцамі і палкамі. І палкі тыя кінулі – паганыя. Мне сказалі, што гадзюка. Вераценніца. Смяртэльная.

– Каб баялася. А то ты ў кожную купіну сама, што вужык, шылася.

– Вужык, гаворыш?.. Дык вось жа табе за жаханне маё тады, за крык мой. За вужыка таго.– І Волька вылушчыла сваю далоньку з далані Но Пасарана і ў дзве рукі спора, што дзяцел, пачала малаціць

па грудзях яго.– За вужыка, за вужыка.

Дзяўбла доўга, няспынна. Стамілася. Падумала, уздыхнула і раптам па-мужчынску развярнулася і ўрэзала даланёю з пляча Но Пасарану па вуху:

– За мяне. За ўсё, што было і чаго не было, што ты помніш і не хочаш помніць. За тое, што не пажадаў ударыць мяне тады.

– Я проста пашкадаваў цябе,– адвярнуўся і, не гледзячы на Вольку, учапіўшыся вокам за месяц, сказаў Но Пасаран.

– Каго ты пашкадаваў, мяне ці сябе?

– Цябе. Усіх шкадаваў, не толькі сябе.

– Вось у гэтым і бяда твая. Курыцы шыю скручваюць жаласлівай рукой – яна больш мучыцца. А яшчэ Но Пасаран. Яны пройдуць. Яны ўжо ідуць.

– Хай ідуць. А я не пайду. Не хочу. Чуеш? Я хаця б вось так, як магу: не хочу.

– Не, не так. Ты не хочаш і не можаш.

– Мо і твая праўда. Ва ўсіх людзей свая праўда.

– Не! Няма ў мяне праўды. Хіба ж ты не бачыш. Прачніся ж, прадзяры вочы. Хопіць ужо спаць. І так усё на свеце праспаў і прамаўчаў... П'еш?

– Па чорным...

– Пахмяліся...

– Будзе толькі на другі бок. Спазніўся, Воля, позна. Мы рана выраслі. Позна сталі дарослымі. Рана састарэлі. Позна паразумнелі. Білі вужыкаў, а верылі, што гадзюк. Мне позна ўжо...

– Янка ты, Яначка нават. Вох, каб ты ведаў, Яначка... Ну чаму ты стаў Но Пасаранам?

– Дзядзька ў Іспаніі ваяваў... Я ў Карэю збіраўся біцца з амерыканцамі. І ў В'етнам рваўся. Каб ты ведала, я яшчэ і Лі Сі Цын. Я ў Афганістан ужо сабраўся, але аказалася, што нягодзен: радавы неабучаны, да страявой службы ў ваенны час нягодзен.

– Лысы ты мой стары, нікуды нягодны... Што ж ты ў тым Афганістане згубіў?

– Хацеў некага выратаваць. Каб нехта хоць адзін жывы застаўся... Суседцы прывезлі з Афганістана тры труны. Тры танкісты, тры вясёлых брата... Блізняты...

Яны ўжо зноў ішлі па лесе, як і раней, пабраўшыся за рукі, даланя ў даланю, як брат з сястрой, як два злучаныя сасуды, грэлі адно аднаго тым слабым цяплом, што давалі гэтыя іх паядналыя далоні. Усё тая ж роўна яркая поўня асвятляла ім дарогу. І пад поўняю ім было як пад сонцам. Як у былыя дні пад сонцам, цёпла і ўтульна.

Запаветна мірна на сваёй запаветнай зямлі і ў сваім часе. А яны зноў уступілі ў той час, як толькі наблізіліся да маладога, але надта ж акуратна ўжо пасаджанага хвойніку. Квадратам. Падышлі ад аднаго боку гэтага квадрата: сцяна. Хвойкі стаялі так шчытна адна да адной і так нізка да зямлі прыпадала голле, што ні прайсці, ні пралезці. Волька наструнілася і прыціснулася да Но Пасарана.

– Я баюся яго,– сказала яна.– Ён чужы мне. Ён не помніць мяне.

– Не бойся. Не чужы. Хвойка. Яна родная. Больш мілага дрэва на свеце няма. Яна і на калыску, яна і на труну. І помніць яна цябе. Пры табе ж садзілі, ты ж сама садзіла... З такога вось маленькага, што камарык і з крылцамі, зярнятка. Падумаць толькі, што камарык, і крылцы свіцяцца. І ляціць яно па ветры, папісквае цененька, у зямлю просіцца. Хвояй зрабіцца хоча. Зрабілася. Глядзі, маці, глядзі.

– Не была я маці. Не давялося... Баюся, не пусціць нас лес.

– Наш лес ды нас да нашай хаты не пусціць?

– А мо і не трэба, Яначка, мо і не трэба. Навошта сэрца вярэдзіць. Я там трыццаць гадоў, лічы, не была. А ты бываеш? Ты раскажы мне, як там, і я паверу.

– Волька, цурацца сваёй хаты, што дзяцей, бацькоў выракацца. Пайшлі.

– Пачакай. Ты раскажы мне спачатку. Раскажы. Часта вы там збіраецеся?

– ...Ніколі. Я хаджу. Нап'юся і ўноч, апаўноч сюды. На старым нашым вогнішчы агонь раскладу... Цяпер дроў багата. Багата дроў. Гэта тады не было. Тады, як мурашкі, мы па лесе поўзалі. Ламачча збіралі. Крукі рабілі – сучча ламаць. Помніш? Мы, хлопцы, ламалі, а вы насілі. Цяпер дроў багата. Столькі лесу старога адмерла.

– А акрамя дроў, акрамя агню, вогнішча старога, што там у нашай хаце. Яблыня наша?

– Старая яблыня, жытніца, усохла. Пэўна, ад адзіноты, без дагляду. Але дзічкі пайшлі. Не паверыш. Зірнеш з камля і не паверыш, што гэта яблыня. Граб ці клён. І толькі калі пад ногі сабе паглядзіш... Бачыш, яблыкі – яблыня гэта, яблыня, значыць.

– Вялікія, чырвоныя, салодкія...

– Адкуль. Дзічкі ж... Пасля зімы, пасля маразоў. Салодкія. А ўлетку, восенню... Але на пахмелле...

– Дзічкі на пахмелле...

– Так. І грушы дзічкі. Гнілкі.

– Не пайду.

– Волька, я пакрыўджуся...

– Волька-Колька... Я цябе паважаю, ты мяне паважаеш?.. Гора ты

маё, горачка. Пайшлі.

І зноў рука ў руцэ. І зноў яны далі нырца пад хвойную засень, навісь калючага вецця, што месцамі прыпадала да самай зямлі. Да самай зямлі даводзілася ўгінацца і ім. І былі яны сярод маладога, пасляваеннай пасадкі ўжо лесу, як два гномы. Цемра з'ела, пазбавіла іх аб'ёмнасці – маленькі хлопчык і маленькая дзяўчынка паўзлі хмызамі з таго, пэўна, яшчэ ваеннага часу, калі вось таксама следам за маці хадзілі яны па лесе, рабілі першыя свае крокі па роднай зямлі.

Ад зямлі пахла грыбам, смалой, малочнымі зайцамі і вожыкамі. Бязветранасць і ноч трымалі гэтыя пахі, не давалі ім развеяцца, насычалі імі дыханне і апратку. Здавалася, што гэты пах сыходзіць ад самога месяца. Свет і сусвет дыхаюць грыбамі, смалой-жывіцай, малочнасцю маладых зайцоў і вожыкаў. На зямлі першастворанасць. Свет добры. Поўня на небе – яго пастух і вартаўнік.

Але ісці па гэтым добрым свеце, нават згінаючыся ў тры пагібелі, пад прыглядам ласкавага вока поўні было вельмі цяжка. Хвойкі садзілі па казарменным ранжыры, строга вытрыманымі радамі і квадратамі, але сама зямля, якая парадзіла іх, што ўзяла іх на сваю далонь і ўзняла да неба – яна была ў шрамах і рубцах, якія засталіся яшчэ ад вайны, траншэях, акопах, варонках, бруствeрных насыпах. Усё гэта ўжо, канечне, крыху зарубцавалася, парасло мохам і травой, але не прыгладзілася. І хаця яны ўгадвалі гэтыя акопы і траншэі, пад'ёмы і правалы вымотвалі душу.

А ў тых правалах яшчэ было і задушліва. Задушліва ад настояў гэтай ночы і ночы мінулай, былой, па свежакрываваым следзе каторай абое яны ў дзяцінстве прайшліся босымі нагамі. Па яшчэ неабтаптаных і непрыгладжаных дажджом варонках ад разрыву снарадаў, па горках сваіх і чужых адстраляных і прыхопленых атрутнаю цвіллю патронаў. Патронаў, якія не паспелі яшчэ стрэліць. А надаралася, і па костках, чарапах.

Было задушліва і ад уласных далёкіх жахаў, што памяццю аб былых уколах і парэзах праціналі цела. Жахаў, што зведалі не толькі яны, але і іх бацькі.

Наогул месца тут здаўна, да вайны яшчэ, да іх нараджэння ці ў той самы дзень нараджэння, было праклятым. Аб гэтым шэптам і азіраючыся гаварыў увесь горад. То было лобнае месца эпохі, да каторай абое яны належалі.

Кроў прыцягвае кроў. Тут пралегла лінія самых жорсткіх баёў за горад. Сюды ішлі тыя, хто добраахвотна здаваўся ў палон небыццю, самазабойцы. Мо тут леглі і бацькі Волькі Дранік, бацькі Но Пасарана. А самі яны, і не толькі яны, усе дзеці гарадской ускраіны, як жрацы ці

ерэтыкі-язычнікі, лобнае месца эпохі ператварылі ў алтар і храм. Пабудавалі хату, паветраны замак, склалі ачаг і запалілі агонь. Замак, ачаг і агонь, на пакланенне каторым аддалі дзяцінства – усю сваю дзіцячую наіўнасць, святасць, чысціню і веру. Як першы раз прыгналі сюды пасвіць кароў, як толькі данеслі іх сюды ногі, так назаўсёды і засталіся тут.

Дзяўчынкі вучыліся тут, каля сваіх кароў, гуляць у лялькі, жаночай рабоце – упраўляцца ў хаце, хлопчыкі – аберагаць іх, здабываць і падтрымліваць агонь, хлеб надзённы, курыць, мацюкацца і ваяваць. І не толькі гэтаму вучыліся. Тут яны праходзілі яшчэ і іншую навуку.

Наперадзе крыху пасвятлела. З цемры выразна пазначыўся не хвойны падрост, а высокі сапраўдны лес, невялікі гай у атачэнні хмызоў: дубы, бярозы, ясені. Волька з Но Пасаранам нарэшце выпрасталі спіны, нырнулі ў чарговы акопчык на іх шляху. Но Пасаран спыніўся ў самым нізе яго, прытрымаў Вольку:

– Той самы акопчык, Волька.

– Які? О божухна, памяць у вас, мужыкоў. Так, міленькі. Той самы акопчык,– сказала яна з выклікам і павярнулася тварам да Но Пасарана.

– Тут цябе першы раз Шнобель. Тут ты стала Дранікам. Скажаш, не, Дранік?

– Скажу – не, Но Пасаран. Не тут, не ў акопчыку. А наверсе. На брустверы.

– Драла ты, Дранік, тут мох.

– Драла, Но Пасаран... А быў бы ты, Яначка, мо б і не драла. Быў бы ты, а не Шнобель, мо б і не драла, Яначка.

Волька ўзняла руку, каб пагладзіць Но Пасарана, але ён адкінуў тую яе руку:

– Не датыкайся да мяне.

– Усё ж прайшло, Яначка. Усё прайшло... Я назло табе са Шнобелем. А мох драла... Там не толькі мох, але і шышкі яшчэ, што на могілках растуць, сакавітыя такія. Я не ад болю, Яначка...

– Не заві мяне Яначкам.

Волька засмяялася.

– Добра, Яначка. Не буду, Яначка... Я пустою тады адразу зрабілася. Я каб запоўніць сябе. Прарасці, укрыцца мохам хацела. Брыдка мне ўсё стала. Нічога не трэба. Я ашалела тады. Я людзей тады пачала шкадаваць. Цябе...

– Канечне, самы час шкадаваць людзей, мяне. Усе вы...

– Правільна. Усе мы. І ўсе вы... Вось я тады і падумала аб усіх:

госпадзі, бедныя, няшчасныя людзі. Калі гэта ў вас называецца любоўю, то што ж гэта такое ваша жыццё. І добра, што гэта быў Шнобель, а не ты. І хацела, каб гэта быў ты. Можа, інакш бы ўсё было. Цябе на яго месцы ўяўляла.

– Мяне? Дык навошта ты тады са Шнобелем у акоп кінулася?

– Таму і кінулася.Назнарок кінулася. І не ў акоп, а на бруствер, каб ты, каб вы ўсе бачылі. Вы ж падглядвалі. Вы ж сачылі. Вы ж ваявалі тады. Шыі адзін аднаму скручвалі.

– Мы тады ўжо не скручвалі. Не ваявалі мы ўжо тады.

– Так. Тады ўжо не. Тады вы ўжо не дзеці былі. Бандзіты. Вы ж нажы парабілі ўжо, фінкі падаставалі...

– І ты...

– І я. Даўбешка я дурная. Ішоў бы ты, Но Пасаран, на пасаран... Хочаш ведаць, панесці толькі баялася. Так баялася зацяжараць, даўбешка дурная. Напэўна, ад таго страху на ўсё жыццё пустая, ялаўка на ўсё жыццё. І таго хлопчыка, сына свайго, лічы, да сябе падпусціла. Ты рады, ты шчаслівы? Ты гэта хацеў ад мяне пачуць? – І Волька горка і гучна зарагатала.– Народзіцца сын – назаву яго Янкам... Не, не народзіцца...

Но Пасаран ступіў да яе, паклаў галаву ёй на грудзі. Волька пацягнулася да яго голай галавы вуснамі, але адразу ж адвяла вусны. Дзьмухнула гатовымі да пацалунку вуснамі на тое, што засталося ад былой русай чупрыны Данілюка, нібы расчысціла месца для пацалунку і пацалавала.

Прысмакталася да яго галавы, як да вуснаў. Ён адарваўся ад яе, знайшоў яе вусны сваімі вуснамі. Акопчык надоўга затрымаў іх. Але абдымкі іх і пацалункі ў тым акопчыку хутчэй нагадвалі нейкую варожую перастрэлку, чымсьці ўзаемнае мілаванне і пяшчоту. Беглы агонь па нерухомай цэлі. То беглі, рухаліся іх гады. Яны даганялі тыя гады, пазбаўляліся іх прывідных ценяў. Прывідных ценяў таго і тых, што і хто стаяў паміж імі ў тыя гады. Стан і ўсё цела Вольчына былі напружаныя і непадатныя. І толькі калі ён трымаў ужо Вольку на руках, яна пакорліва абмякла.

– Не, Янaчка, не. Толькі не тут. Пойдзем туды, дзе, ты гаворыш, ручай, а я – не, няма ручая. Дзе ты адмовіўся мяне ўдарыць. Дзе нашы арэлі. Ты павесіў іх і сарваўся, я ўбачыла, як у цябе заплюшчыліся вочы і пацякла з рота кроў. І замест таго, каб дапамагчы табе, пашкадаваць цябе, кінулася да тых арэляў. І ад зямлі – у неба, з неба – зноў на зямлю. І зноў у неба. Я такая лёгкая. У мяне крылы. Я як пушынка, як тое зярнятка хвойнае, пра каторае ты мне расказваў... Чаму я адна гавару, а ты маўчыш?

– Гавары, я слухаю.

– Я як зярнятка, як камарык, лячу і папіскваю. У зямлю хачу, прарасці хачу. Але такая лёгкая, такая лятучая, што адчуваю: кінуся з арэляў – усё роўна зямлі не дасягну, не ўпаду побач з табою. Палячу яшчэ вышэй, вышэй. Вышэй макаўкі дуба, да самага сонца. І паляцела ўжо, была ўжо на самым сонцы з анёламі разам. Але тут вы спынілі арэлі. І доўга-доўга не маглі расшчапіць мае рукі, адарваць іх ад троса, расціснуць пальцы. Тады вы адлупілі мяне, ты адлупіў. У тры разы больш балюча, чым было на самай справе, таму што ты як і не ўдараўся аб зямлю. І ніякай крыві на табе не было...

Потым у іх было доўгае забыццё і цішыня. Нібыта ноч была цяжарная цішынёю і слухала самую сябе. І ў той цішыні спалохана і не ў пару нечакана раптам пачала кукаваць зязюля. Залезла, пэўна, у чужое кубло, і цяпер яе адтуль паперлі. Яны слухалі гэтае яе куванне, адначасова загадаўшы, колькі ж ім яшчэ адпушчана веку. Атрымлівалася, што шмат яшчэ, вельмі шмат, больш, чым яны пражылі ўжо. Зязюля, пэўна, трапілася шчодрая ці яе моцна пабілі. Лік іх, праўда, не сышоўся.

– Пяцьдзесят адзін, – сказаў Данілюк.

– Не, сорак дзевяць.

– Пяцьдзесят адзін!

– Не будзем спрачацца: табе пяцьдзесят адзін, а мне сорак дзевяць. Табе больш. Жыві заўсёды... У мяне ніколі не было такой ночы. Дзякую табе.

Данілюк маўчаў. Абое яны ляжалі тварам у неба зноў наасобіцу. Волька кінулася рукою да яго, знайшла яго і адхапіла руку назад, бо намацала нешта колкае і цвёрдае каля яго правага боку. Устала, паднесла да вачэй гэтае цвёрдае і колкае. То былі хваёвыя шышкі. Цэлая горка пад правым і левым яго бокам. Яна хапіла іх у дзве жмені і шпурнула ў твар Данілюку:

– Маўчыш? Значыць, табе, як і мне тады? Я драла мох, а ты гроб шышкі.– І Волька заплакала.

– Твая была праўда,– сказаў Данілюк.– Ручая таго на самай справе няма. Няма ручая. Ён зусім у іншым месцы, але ўжо даўно-даўно перасох. Нават не перасох...– І Данілюк надоўга замоўк.

– Што ж з ім зрабілася? – скрозь усхліпванне спытала Волька.

– Пойдзем пакажу... Хаця не. Туды мы не пойдзем. Туды я ніколі цяпер не хаджу. І цябе не павяду.

– А я хочу, хочу. Я на цябе пакрыўджуся. Чуеш, я на цябе пакрыўджуся. На ўсё жыццё. Смяртэльна.

Ён прыўзняўся на локці і доўга глядзеў ёй у твар, нібы

фатаграфаваў. Не зводзіў вачэй, а позірк быў адсутны, далёкі. Нарэшце ён сказаў, але таксама адсутна, нібыта самому сабе ці некаму нябачнаму, трэцяму:

– Памры і будзь.

– Ты што, Янечка? Пра што гэта, каму? Янечка, што ты сказаў?

– Што я сказаў? – здзівіўся ён. – Нічога я не сказаў. Я маўчу.

– Янечка, ну што ты так, Янечка,– Волька прыхінулася да яго, пачала цалаваць. Ён не адгукнуўся.– Асуджаеш. Размякчыў старую бабу. Пасля сарака яны ўсе мяккія. Ім ужо багата не трэба. Асуджаеш.

– Не, ні цябе, ні сябе,– адказаў Данілюк.– Над намі ўжо іншы суд.

– Тады пайшлі да ручая.– Яна скочыла на ногі і тэпнула нагою.– Толькі да ручая, чуеш? Толькі да ручая.

Але перад тым, як скіравацца да ручая, яны наведалі сваё старое вогнішча, дзе яны трыццаць з нечым гадоў назад запалілі агонь. Волька і цяпер папрасіла Данілюка распаліць касцёр і хвілінку, адну толькі хвілінку пасядзець каля яго, як тады, даўно, але абняўшыся.

– Думаеш сагрэцца?

– А мне і цяпер з табою не холадна. Няўжо ты не разумееш?

– Разумею, таму пайшлі хутчэй.

Распальваць касцёр Данілюк адмовіўся наадрэз:

– Патух і патух. Не і не.

– Жорсткі, што з табою гады толькі зрабілі. Які ты жорсткі. Што ж... а да ручая пойдзем?

– Да ручая сходзім. Апошні раз...

– А чым жа гэта патыхае так? Смярдзіць чым? На ўвесь белы свет смурод,– спытала Волька, ледзь толькі зрабілі яны першы крок ад свайго старога вогнішча, былога іх храма.

– А ты што, раней не адчувала?

– Калі раней, у дзяцінстве?

– У дзяцінстве гэтага не было. Цяпер, крыху раней. Там, у акопчыку. І пад дубам ля арэляў.

– Там я дыхала табою.

– Вецер пацёг. Хутка пачне світаць. Вецер на нас. Ты не пужайся, Волечка, будзе яшчэ горш. Мо не пойдзем? Калі зусім прачнецца вецер, мы будзем ужо дома, Волька. Будзем дома.– У голасе Данілюка было нешта такое, што прымусіла яе спыніцца:

– Але я хачу, Янечка, раней чым развітацца з табою назаўсёды, паглядзець на той ручай, тую ваду, у каторай ты мяне ўбачыў першы раз. А раптам я ўсё яшчэ тамака. Пайшлі, пайшлі.

Праз нейкую сотню крокаў смурод зрабіўся невыносным. І цяпер ужо Волька хацела вярнуцца і не ісці далей. Але Данілюк не дазволіў:

– Пайшлі, дык ужо да канца. Тут ужо недалечка. Метраў з пяцьдзесят пасадак – і паляна, і ручай.

Яны дайшлі да яго. Ручай быў. Але лепш бы яго не было. Смуродная маслянiстая вадкасць штохвiлiнна крактала, пускаючы бурбалкi, нiбы гэта нехта жывы быў, той самы вужык, гад, якога некалi Данiлюк забiў разам з хлопцамi. Забiў яшчэ да заходу сонца, i вось зараз уначы ён трупна набрак, разроссяда гiганцкiх памераў, выцягся i ажыў i дыхаў цяпер, як стогаловы змей, вогненны дракон.

– А ты не памылiўся, гэта той самы ручай? – шэптам спытала Данiлюка Волька.– Ты ў гэтым ручаi мяне ўбачыў? У гэтым ручаi я некалi была?

– Я ў iм быў,– таксама шэптам адказаў ёй Данiлюк.– Хаваўся ад шэршняў. Я i зараз у iм... Але ён быў чысты, ты верыш, ён быў чысты, чысцей за маю слязiнку.

Данiлюк з шэпту нечакана сарваўся на крык:

– Чысты, чысты! Ён i сёння чысты. Чысты! – ты чуеш.

– Чысты, чысты, Яначка. Ну, не трэба. Не крычы. –

I яна кiнулася яму на шыю, як нейкую гадзiну-паўтары ён да яе там, у акопчыку, стала лашчыць i цалаваць яго голую галаву, твар, вочы, што некалькi хвiлiн назад, здаецца, зусiм патухлi, а цяпер блiшчэлi пры святле поўнi, як у кошкi.

– Ты чысты. Пойдзем. Бяжым адсюль. Навошта толькi ты мяне, дурнiцу, паслухаўся. Не заўсёды жанчыну трэба слухаць.

– Не,– ён адпiхнуў яе ад сябе.– Ты мне толькi праўду скажы: ён чысты ж?

– Ну, канечне, хiба ты не бачыш. Ты чысты.

– Не, не. Не так. Ты хiтрыш са мной. Ты ўсё жыццё хiтрыкавала. Ён чысты. Ты толькi паглядзi, усё да апошняй пясчынкi вiдно. I пясок, як золата, чысты i цяжкi. I бакаплавы па iм, бачыш, поўзаюць. I жук-плывунец, бачыш, бачыш... То шэршань ажыў, каторы за мной улёг. Я забiў яго тады. Ён у ваду ўпаў, а вада жывая. Ён ажыў. Толькi не здолеў вылезцi. У жука-плывунца перавярнуўся. I рыбкi там плаваюць, акунькi, дыхаюць. Ты бачыш, ты чуеш. Во, губкаю плямкнуў i бурбалкi пусцiў... Глядзi, а гэта ж ты... Партрэт твой. Плацейка на табе белае i вянок з белых рамонак на галаве. Я iду да яго. Я iду да цябе. Да цябе. Ты са мною. Паглядзi на сябе. Якая ж ты была прыгожая. Не бойся сябе. Пайшлi разам. Той хлопчык вiхрасты – гэта ж я. Я не ваду п'ю. Я цалую цябе ў вадзе, праз ваду. Гэта я так да вуснаў тваiх прыпаў. Яны чыстыя, i прахалода ў iх. А дзень жа такi спякотны. Мы разам спатолiм смагу, пап'ём усмак крынiчнай вады. Дай руку, i мы пойдзем.

Данілюк падаў ёй руку і, не дачакаўшыся яе рукі, ступіў у ручай. Па калені ўгруз у смярдзючай жыжцы.

– Ідзем жа. Нам з табою толькі ручай перайсці, а там, бачыш, белыя бярозы, светлыя ясені, дубы...

– Янка, Яначка,– закрычала Волька.– Спыніся, вярніся, ты надыхаўся смуродам і атруціўся. Ап'янеў ад смуроду. Гэта ж не вада, а чыстае вады...

– Што ты сказала? Што ты хацела сказаць? Дагаворвай. Я што, вар'ят, па-твойму.– Ён адвярнуўся ад Волькі, апусціў ускінутую насустрач ёй руку, скрыгатнуў зубамі і замармытаў сам сабе: – Не, не, я не вар'ят. Гаўно, гаўно... Не, не! Што ты сказала? Хто п'яны? Я п'яны? Я па адной досачцы магу... Я... Усё магу. А ты... Хто ты такая? Хто ты такая? Ты – нячыстая сіла. Ты чыстай вады баішся. А калі не, калі чыстая, ідзі да мяне... Не хочаш, баішся. Нячыстая. Ты дачка ворага народа – во хто ты такая. І вядзьмарка, таму і са Шнобелем. Во чаму ты са Шнобелем. Я зразумеў...

І раптоўна, мо і ад нясцерпнага смуроду, што, здалося Вольцы, працяў ужо ўсё яе цела, прасачыўся і ў галаву, ахапіў мозг, цвяроза, гучна і выразна, здаецца, самому небу, таму, хто быў на небе. Але і Вольцы таксама:

– Не, ты чуеш, не! Няма і ніколі не было гэтага ручая. Няма і ніколі не было мяне. І цябе ніколі не было. Ты чуеш, ніколі не было. Вось такая любоў, уся да капейкі...

Пра гэтую сваю любоў усю да капейкі расказаў мне на наступны дзень сам Данілюк. Усё да капейкі, як ён сам сказаў. І пра поўню,і ноч, і зоркі-znічкі, і акопчык-бруствер, арэлі і нашу хату, наша старое вялізнае колісь, на ўсіх марсіян, вогнішча. Але цяпер, як шчыгрынавая скура, яно скурчылася да памераў касцярка, цяпельца на аднаго. Пра тое, што было ў іх з Волькай пад арэлямі, расказаў. Усё...

Але, аказваецца, не зусім усё. Ні словам не абмовіўся пра ручай – фекальныя сцёкі мясакамбіната. Аб фекальных сцёках мне паведала ўчора, калі Данілюка не было ўжо на белым свеце, сама Волька.

– Куды вы толькі глядзелі. Ён жа ненармальны, ён жа вар'ят. Яму ўвесь час блюзніцца, што за ім нехта гоніцца. Тупат конніка.

– Гэта якога яшчэ конніка, Волька?

– Адкуль я ведаю, якога конніка. Мо і меднага. Яму што хочаш можа прымроіцца. Поскач нейкіх жалезных коней.

– Якіх коней? – дамагаўся я свайго, бо ведаць гэта дакладна ў мяне былі свае падставы.

– Кажу, што не ведаю. Толькі падышлі да вогнішча, ён: коні скачуць, коні скачуць, даганяюць. Вар'ят, адным словам...

Вось пра гэтае вар'яцтва, пра коней мне Данілюк таксама нічога не сказаў. Дзіўна атрымліваецца. Калі Данілюк вар'ят, то і я такі ж. Усе мы, атрымліваецца, тут вар'яты, па Вольчыных словах...

Але ці ўсё расказала мне Волька. Што ўтаіла яна? Што яшчэ ўтаіў Данілюк? Нешта ж там было яшчэ, так я думаю цяпер. Павінна мецца нешта яшчэ. У самай што ні ёсць шчырай праўдзе хаваецца не менш шчырая хлусня. Хлусня мімаволі. Я вось сказаў: Данілюка ўжо не было на гэтым свеце. Праўда і хлусня. І няма яго на гэтым свеце, і ёсць ён і застанецца назаўсёды толькі на гэтым свеце. Дзе ж яшчэ знойдзецца такі свет, на каторым ён, жывы ці мёртвы, мог адбыцца. Толькі на нашым, самым блаславёным, з усіх блаславёных.

Было, было ў іх там з Волькай нешта яшчэ. Таму што Данілюк, калі вярнуўся з Волькай ад той ночы, залёг і больш не падняўся. І памёр жа здаровы, пры добрай памяці і ясным розуме. Гэта сведчу я як відавочнік, як чалавек, які мінута ў мінуту прыняў яго смерць. Толькі памёр ён раней, чым па яго прыйшла смерць. Там, у лесе, у нашым храме, на лобным месцы эпохі, здаецца мне, ён памёр, пачаў паміраць.

А паколькі там жа разам з ім была толькі Дранік, яна, прынамсі, магла зрабіцца і прычынай гэтага паміранння. Магла – сумняваюся, абвяргаю і ўсё ж настойваю – магла забіць яго. А тое, што адбылося з Данілюком, зусім не падобнае, не адпавядае звыкламу: раптоўна, нечакана – гэта забойства. Сваёй смерцю людзі паміраюць зусім інакш. Так, як ён, калі і анатаміраванне не паказала ніякіх прычын смерці, падаюць толькі ад нажа ці кулі. Жыццё было проста ўкрадзена ці канфіскавана ў яго, як крадуць, адбіраюць кашалёк, маёмасць. Цела, сэрца пры ім і ўсё астатняе, і ўсё здаровае, а жыцця няма. Жыццё знікла, як знік яго бацька, як зніклі бацькі Волькі Дранік.

Містыка, павальная хвароба, калектыўнае вар'яцтва. А ці не з той яно ночы, калі мы чацвёра: сам Данілюк, я, Юрачка Пратуберанец, Валодзька Цыган сядзелі тут, каля гэтай жа копанкі.

## V

Была ноч, і былі мы, здавалася, адны на белым свеце. Мы былі ў ночы, ноч была ў нас. Толькі ноч. І неба над галавой, і зоркі, як назіральныя шчыліны, і месяц, як жэрла гіганцкай пушкі, якой адстрэльвалі, пэўна, зоркі пасля таго, як забілі нашу зямлю, расстралялі нашы хаты і для зорных аўтографаў пераможцаў заслалі

нашы палі папераю.

Наша зямля, нашы соткі ва ўсяленскай хаце астывалі, як нябожчык, атручаныя, паралізаваныя газамі разам з за-акіянскімі каларадскімі жукамі, з нявыхапленай з яе бульбаю ў метастазах айчыннага раку. Адразу ж адкінула капыты і пруцянела цяпер у разорах, як у брацкім-магільніку, уся і ўсё, што хадзіла, лётала, поўзала скакала – рухалася, рабіла зямлю зямлёю: жучкі, чарвячкі, конікі, матылькі. Што ўжо з'явілася на свет і было толькі ў зародышы ў зямным матчыным улонні.

Паралікова разявіўшы рот, роспачна чарнелі ўначы апусцелыя хаты, дыхалі атрутаю палёў, што адыходзілі з лета і ў лету. Кніга іх жыцця шматстаронкава была разгорнута перад імі шурпатымі палосамі бясконцай дрэннай рулоннай паперы, шэрай у цемры, што мякінны хлеб, з неахайна перапрацаванай цэлюлозай, непрапечанасцю драўляных стужак, няўварнасцю старых каравак, якія выйшлі з гэтых жа хат, з плеч і ног іх гаспадароў. Выйшлі і вярнуліся да іх, каб газетна-кніжна апавіць і накрыць ахімічанае і агазаванае цела зямлі.

І цяпер гэтую кнігу нашай зямлі, кнігу нашага лёсу чытала неба. Чыталі іншыя планеты са сваіх прыцэльных назіральных шчылін-зорак. То была, пэўна, сумная і самая страшная з усіх кніг сусвету, таму што на ёй нічога не было напісана – ні радка, ні літаркі. Мы сышлі ў нябыт, панура, мярзотна і моўчкі.

Панура, хаця і з вераю ва ўваскрашэнне, ўратаванне зямлі, аднаўленне сваіх сотак пакінулі хаты нашы бацькі. Мы, іх дзеці, развіталіся з хатамі радасна. Сусветная рэвалюцыя, камунізм – светлая будучыня чалавецтва – чакалі нас. Усё гэта мы абмяркоўвалі паблізу ад сваіх пакінутых хат, пад дубам каля копанкі пры святле месяца. Но Пасаран, Юрачка Пратуберанец, Валодзька Цыган і я.

Праўда, адразу на сусветную рэвалюцыю я быў ужо нязгодны. Другі клопат меўся. Наперадзе зіма, і як бы ўзбіцца на нейкія чаравікі. І дроў яшчэ на зіму не паспелі назапасіць. Ігліцу на прызбу яшчэ не пачалі насіць. Гэта ж з асноўнага, а яшчэ і па дробязі набягала. Кожын дзень, напрыклад, выганяць з хлява і пасвіць карову. Рэвалюцыя, праўда, большасці клопатаў пазбаўляла. Не да каровы і не да гліцы ўжо тады было б.

Бацькаву пілотку на галаву, рэменем бацькавым падперазацца, наган да яго прычапіць. Шашку ў рукі і над галавой і на ўвесь голас: даеш. Што даеш, пытанняў няма. Свабоду прыгнечаным, каб усе былі вось так, як мы сёння. Хлеба, канечне, ад пуза, ну і... усяго іншага. Тыя ж чаравікі, хоць, калі пачаць з Афрыкі, можна абысціся і без чаравікаў.

Толькі перад адыходам трэба добра пашурудзіць і тут, у сябе дома. Шнобелю першаму рубільнік адкруціць і да тэндара прыладзіць і з хеўрай яго так: хто не з намі – той супраць нас. А я не трываю тых, хто супраць нас, хаця яшчэ толькі піянер. Але хутка буду камсамольцам.

І вось перад тым, як уступіць у камсамол, я мару аб подзвігу. Хачу злавіць шпіёна. А шпіёнаў вакол нас вялікае мноства, што прусакоў. Аднаго такога прусака ў акулярах я асабіста ведаю. Так, той самы, з нарыхтоўчага ларка жук у каларадскіх штанах. І рыхцікі сабраў амерыканскага шпіёна. І гэта я не проста так, з сваёй галавы прыдумляю ці з крыўды, што ён у мяне не прыняў крылцы і лапкі каларадскага жука. Тут у мяне падыход навуковы. Я па газетах з павелічальным шклом усіх гэтых шпіёнаў вывучаў: нос асобна, губы, рот асобна; горад напоўнены шпіёнамі. Я адчуваю, што іх скора пачнуць выкрываць. Каб мяне не апярэдзілі, трэба самому не спаць у шапку.

Вельмі і вельмі мне хочацца геройскага ўчынку. У нашым жыцці заўсёды ж ёсць месца подзвігу. Трэба толькі загадзя да яго рыхтавацца.

Злавіць шпіёна, я думаю, гэта не толькі ў аднаго мяне такая мара.

І не проста злавіць, а і атрымаць за яго яшчэ і ордэн. А ёсць жа і больш высокая ўзнагарода, самая высокая на свеце ўзнагарода. Не, не тая, пра якую вы падумалі, не Залатая Зорка Героя. А ласкавая ўсмешка таго, хто нам больш дарагі, чымсьці родны бацька. Мы ўсе спім і бачым гэтую яго ўсмешку. Кожны з нас прагне прывесці яму па шпіёну. Кожнага ж з нас паклічуць да яго. І кожнага з нас ён адорыць бацькоўскім благаслаўленнем.

Я ўвайду ў рубінавы яшчэ з уваходу Крэмль. У сталі, як і цяпер нада мною, будуць зіхацець зоркі-люстры, кожная – што Днепрагэс. І ён пад імі такі родны, такі просты, але як са сталі. І ўсмешка ягоная больш светлая, чымсьці ўсе Днепрагэсы, разам узятыя. Яна пераборае ўсе зоркі – Днепрагэсы і ўсе рубіны, калі ён паглядзіць на мяне, з пяшчотаю пакладзе мне на галаву сваю руку. І я, далібог, чэснае піянерскае, не вытрымаю, заплачу ад шчасця і радасці. Я цяпер толькі думаю аб гэтым, а на вачах у мяне ўжо слёзы.

– Хлопцы, хлопцы,– праз слёзы і даўкі камяк у горле крычу я, калі Но Пасаран выклаў нам поўны план сусветнай рэвалюцыі.

– Мы павінны пачаць з Карэі,– гаварыў ён.– Вы ўжо ведаеце чаму і што такое Карэя сёння. Краіна ва Усходняй Азіі, галоўным чынам на Карэйскім паўвостраве і прылеглых астравах. Дзвесце дваццаць цэлых і восем дзесятых тысяч квадратных кіламетраў. Насельніцтва

каля пяцідзесяці мільёнаў чалавек. Дзевяноста дзевяць працэнтаў роўна – карэйцы. Афіцыйная мова – карэйская...

– Хлопцы, хлопцы, мы ж не ведаем карэйскай мовы.

– Я ведаю,– суцішае мой крык Цыган.– Карэя па-іхняму будзе Чосна.

– Чосна-кросна, а далей, далей?

– А далей рэвалюцыя мову сама падкажа. Ты што, не ведаеш, якая мова рэвалюцыі?

– У мяне другая рэвалюцыйная прапанова і сустрэчны рэвалюцыйны план.– Я змоўк, каб яны супакоіліся і лепш цямілі.– Давайце зловім шпіёна. Я не супраць таго, каб з Карэі, Чосны пачаць. Але ў нас і зброі няма яшчэ. Пакуль шпіёна будзем лавіць, падвучым карэйскую мову.

– А што, па-твойму, той шпіён сядзіць і чакае, калі яго зловяць? – Нязгодны са мною памяркоўны Пратуберанец.– Як ты думаеш яго лавіць?

– Шпіёнаў можна лавіць і голымі рукамі.

– Гэта як? Як ракаў? – здзекуецца з мяне Но Пасаран.

– А што? І як ракаў,– не сумеўшыся, адказваю я яму.– І ты, і я – усе мы добра ведаем, як ракаў лавіць. Лавілі ж. Кусаецца, але не зусім да крыві, як прусак. Галоўнае не як, а што далей.

І я ім душэўна ўсё расказаў, што будзе далей, калі паклі чуць нас у Маскоўскі Крэмль, і пра Днепрагэсы-зоркі, і вочы яго, усмешку. І спытаў яшчэ, ці гладзілі каго-небудзь з іх хоць раз у жыцці па галоўцы. Не, нікога з іх па галоўцы не гладзілі і з усмешкай у вочы не глядзелі.

– А ён пагладзіць і паглядзіць, клянуся вам, што так яно і будзе.

Я іх пахіснуў. Але Но Пасаран абазваў мяне левым ухілістам. Хто гэта такі, я не ведаў і таму, пэўна, прайграў.

– Што значыць адзін шпіён,– сказаў Но Пасаран. – Нават калі іх будзе цэлыя чатыры дохлых шпіёны. Мы ж яму паднясём увесь свет. Ты здольны гэта сабе ўявіць. А наконт зброі гаворка будзе пазней, як і абяцаў. Пабачыце самі, што ў нас ёсць. Цяпер жа галасуем: хто за сусветную рэвалюцыю, падыміце рукі.

Усе паднялі. Я толькі затрымаўся. Але крыху падумаў і таксама падняў, хаця быў і не з усім згодны. Мне хацелася паглядзець зброю. Якая яна і адкуль яе возьме. Но Пасаран, калі хлусіць, усё роўна будзе мой верх.

Но Пасаран не хлусіў.

– Пайшлі,– скамандаваў ён Цыгану і Пратуберанцу. Я таксама падняўся.– Сядзі, шпіён.

– Сядзі, сядзі, шпіён,– пачаў крыўляцца ад нецярпення, пэўна, Цыган. Я сеў і адразу ж зразумеў, што цяпер ужо ў мяне ёсць мянушка. І яна мне не вельмі спадабалася. Але па дурасці я яшчэ больш замацаваў за сабою гэтую мянушку.

– Сам ты шпіён, а я... я сталінскі сокал.

– Шпіён, шпіён, сталінскі шпіён,– за апошняе варта і трэба было пусціць юшку, але я стрымаўся. А яны пайшлі ўсе трое. Толькі недалёка. Можна было і не разводзіць такіх таямніц, а тым больш не абзывацца. Я толькі ўжо значна пазней дапетрыў, што такое ляпнуў Цыган. Да ўсяго ж яны не абышліся без мяне. Паклікалі мяне з цемры, вызвалілі ад роспачы.

Непадалёку ад копанкі быў стары сметнік. Вялікі, але нецікавы, таму што наш. І я на памяць ведаў, што там ёсць. Нічога вартага. Вобразь здзічэлых сліў, калючая, як дрот, пырнік, крывава-чырвоныя карані крапівы і сама крапіва, што сваімі жыламі сціснула нашы соткі, бітая цэгла, шкло і мазутныя анучы, пазадкі нашага ладу і жыцця – жывы мазут. Ніводзін каравачнік ні за якія грошы не згадзіўся б прыняць гэтыя рэшткі штаноў і сарочак нашых бацькоў. Адна карысць – гарацьхараша. Але цяпер яны саслужылі і добрую службу.

Но Пасаран сцёг калючы дрот, што ляжаў зверху. Мы адкінулі слівовую вобразь і карані крапівы. Пайшоў жывы мазут. І ў тым мазуце ляжалі дзве сапраўдныя вінтоўкі з прымкнутымі штыкамі і вялізная, здалося мне, пэўна, сапраўдная кавалерыйская шашка. І яшчэ штосьці асобна, у прамасленым рукаве ад кухвайкі, як у адарванай руцэ. Но Пасаран здабыў з гэтай рукі сапраўдны баявы наган.

Мы ашалелі. Нельга сказаць, што да гэтага мы ніколі не бачылі жыўцом зброі. Бачылі і трымалі ў руках і аўтаматы, і пісталеты. І пастрэльвалі з іх іншым разам, калі нам дазвалялі. Калі дазвалялі, таму што зброя тая была чужою, нашых братоў, хлопцаў больш сталых, больш круткіх і спрытных. Тут жа ўсё было наша.

Я нацэліўся на вінтоўку. Засляпіўся і скочыў, выперадзіўшы і Пратуберанца, і Цыгана. Але схапіў чамусьці не вінтоўку, а шашку. Свядома, у апошняе імгненне, калі да зброі пацягнуліся ўжо і мае сябры, выбраў шашку. Яна здалася мне нечакана вельмі цяжкою. Я накаса, як сапраўдны рубака, узняў яе над галавою, і мяне хітнула, павяло ўбок. Прыйшлося пазваць на дапамогу другую руку і нават вочы. Не таму, што быў такі нягеглы, а вельмі ўжо шчаслівы.

У два вокі і вокам трэцім, сэрцам, глядзеў я на сваю слаўную баявую кавалерыйскую шашку. Полымя кастроў, што ўжо затухалі на

пустцы, кастроў, каля якіх, пэўна, ужо стомлена спалі нашы бацькі, як водбліск далёкага сцяга, адбівалася ў маіх вачах з сіне-мазутнай сталі. Шашка была едкай і злоснай. Яна, відавочна, ведала сваю справу. У мякка закругленай, як у падшыйнай западзіне, лагчынцы, пэўна, для сцёку крыві, я прыкмеціў зіхатлівае рдзенне ржы. І мне здалося, што гэта кроў. Я ап'янеў, захліснуты захапленнем. Кроў то была, сапраўдная кроў. І ўва мне ўзбурліла, закіпела кроў.

Я адчуў, як нема праламваецца скрозь ноч, здалёку наплывае, абдымае і абціскае мяне з усіх бакоў тупат. Лавінную копыць падкаваных коней. Я ўбачыў тых коней, буланых і ў яблыках, з раскудлачанымі хвастамі і грывамі. Яны скакалі на мяне, здаецца, з месяца. І сам месяц быў крыж-накрыж узяты ў клінкі, як пераспелы жоўты гарбуз.

Не паспеў наглядзецца на гэты так прыгожа рассечаны гарбуз, як пачуў нейкі незразумелы прыглушаны ўскрык. Як бы рэхам данесены да мяне, і не з месяца, а ў сябе за плячыма, ад копанкі, ад дуба, пад якім мы складалі свае планы. Ускрык не прывідны, а сапраўдны.

– Там хтосьці ёсць. Там хтосьці ёсць. Вы чуеце,– закрычаў і я, гатовы ісці і секчы, і калоць, хто б там ні быў.

– Дзе, дзе? – з гатоўнасцю адазваліся з той жа знямелай паралікаванасцю цалкам падпарадкаваныя сваёй зброі хлопцы.

Мы ланцугом пакрочылі да дуба. Цыган з Пратуберанцам вастрыём штыкоў успорваючы ноч, я – пластаючы яе шашкай. Но Пасаран як камандзір з пісталетам, нябачна трымаючы яго каля правага боку. Абышлі круга дуба.

– Шпіён няшчасны,– сказаў Пратуберанец.– Як усмалю зараз прыкладам паміж вачэй. Нікога няма.

– Але быў, чэснае ленінскае-сталінскае, нехта быў. Я чуў крык і тупат, як конскі скач...

– Конскі скач... Сам ты карова. Глядзі, раса на месцы. Круг каля дуба толькі цёмны. Гэта мы прайшлі, расу збілі. А дзе ж яшчэ сляды?

Другіх слядоў і праўда не было. Але нехта ўсё ж крычаў. Не конь, не карова, хтосьці іншы быў тут. Той крык яшчэ і цяпер не патух у мяне ў вушах. Я чуў яго. Не сам крык нават, а тое, як у мяне затрымцелі перапонкі. Крыку ўжо няма, а перапонкі ўсё яшчэ ходырам ходзяць, і сэрца нечага стогне.

– Нікога няма, усе даўно і моцна спяць, як пшаніцу прадаўшы. А ў мяне тутачкі яшчэ нештачкі ёсць. – І Но Пасаран запусціў руку ў дупло дуба. Паскробся там і адзін за другім пачаў выцягваць масляна-жоўтыя прамавугольныя брускі. Хто не бачыў і не ведаў раней, што гэта такое, мог бы сказаць: мыла. Але мы бачылі і ведалі – тол,

узрыўчатка, роўна дзесяць шашак толу. І ў кожнай з наш палец – дзірачка для капсулак. І калі Но Пасаран кончыў корпацца ў дупле, я патрабаваў:

– Капсулі, капсулі давай.

– А капсуляў няма.

– Як няма? – гэта, канечне, з майго боку была ўжо нахабнасць. Но Пасаран паставіў мяне на месца, выразна цыркнуўшы мне пад ногі. Я заспяшаўся выпраўляць сваю памылку:

– Адкуль, адкуль гэта ў цябе, Но Пасаран. Можа, у цябе і танк ёсць?

– Танка пакуль няма,– адказаў Но Пасаран спакойна і развsituated.– Але будзе, будзе і танк, хлопцы. А гэта адкуль?.. З-пад кур. Падарунак невядомага дабрадзея. Прыйшоў я раніцаю. Сонца толькі ўзыходзіць яшчэ. Не сюды, да хвоі прыйшоў, пад каторай вунь касцёр гарыць. А там гэта ляжыць, як чакае мяне. І ў расе ўсё. Ноч ляжала, і нікога, ні душы вакол.

– Банда,– запацепваў плячыма Пратуберанец. І мы ўсе прыціхлі трохі. Скурчыліся. А ён працягваў: – Чорная кошка. Трэба далажыць. Тэрмінова, хлопцы, трэба далажыць.

– Трэба,– пагадзіўся Но Пасаран і чамусьці пільна і доўга паглядзеў на Цыгана. – Як ты, Цыган, лічыш, трэба?

– Я не ведаю,– цяпер ужо замуляўся Цыган, пачаў азірацца, заразіў і нас. Мы таксама пачалі азірацца.

– Эх вы, рэвалюцыянеры,– сказаў Но Пасаран.– Гэта першае вам выпрабаванне. І ніводзін з вас не вытрымаў яго. Я ўсё гэта ў лесе сабраў.

Но Пасаран схлусіў. Я бачыў гэта. І мы маглі яго прыхапіць вельмі' проста. Але прамаўчалі. Калі толькі ён збіраў усё гэта, у якім лесе: і вінтоўкі, і пісталет, і тол. Чаму ж у тым лесе ён не назбіраў заадно ўжо і капсуляў. І яшчэ, мы амаль увесь час былі разам, некалі яму было швэндацца па лесе і шукаць зброю. Ну, адну вінтоўку ён мог яшчэ знайсці і не сказаць нам. Але дзве адразу, у дадатак да іх пісталет і шашку з толам. Тут штосьці было не так. Нешта іншае было ў яго наўме. І гэта адразу ж і пацвердзілася.

– Слухай маю каманду,– незнаёмым нам камандзірскім голасам, па-ваеннаму строга загадаў Но Пасаран. І сам падняўся.– У адну шарэнгу стройся. Правае плячо, кругом. Наперад шагам марш.

І мы, вядзёныя Пратуберанцам, як самым рослым сярод нас, шагам арш да самай копанкі. Пайшлі б і ў копанку. Я пайшоў бы, хаця ведаю, што вада тут неверагодна сцюдзёная, крынічная, копанка глыбокая. А плаваць я не ўмею. Але Но Пасаран падаў новую

каманду, дзе і калі набраўся ён гэтых каманд, што сабака блох, сапраўдны камандзір:

– На месцы аць-два, стой. Направа. Падраўняцца. Раўненне на грудзь чацвёртага чалавека.

– А я не бачу чацвёртага, – сказаў я. – Нас жа толькі трое.

– Адставіць разгаворчыкі ў страі. Я чацвёрты, смірна, слухаць і паўтараць за мной.

Но Пасаран шмыгнуў носам, хапіў ужо халоднага, ядранага на другой палавіне ночы паветра, як адламаў яго. Мы зрабілі тое ж самае. І ў кожным з нас усярэдзіне нібы штосьці хруснула і пераламалася.

– Насамі не шмыгаць, – прыкрыкнуў Но Пасаран.

– Сам жа толькі што сказаў паўтараць усё за мною, – прамармытаў я.

– Не ў меру разумны,– абарваў і мяне Но Пасаран. – Вучыся, як трэба паводзіць сябе ў страі.

– Буду вучыцца,– адказаў я, але без пратэсту і падкалупкі адказаў, шчыра.

У чорнай глыбіні Дубашысінай копанкі па ўсёй даўжыні яе пралеглі нашы цені. Поўня свяціла нам у плечы, скрозь шаты дуба, і мы, здавалася, сядзім на галінах яго і пагойдваемся. Так ламаліся нашы цені ў вадзе, дваіліся і траіліся. І было падобна на тое, што нас тут сабралася раць незлічоная. Грозны лес вінтовак і шашак. Хаця мая адна шашачка ў вадзе зусім не выдавала на грозную кавалерыйскую зброю. У вадзе яна хутчэй нагадвала посах, на каторы хтосьці неверагодна худы і даўгалыгі па-старэчы абапёрся. А Но Пасаран са сваім наганчыкам у адлюстраванні вады і зусім здаваўся бяззбройным. Але вінтоўкі ўражвалі, не таму, што былі вышэй за кожнага з нас, яны і ў вадзе глядзеліся як вінтоўкі. І ў душы я шкадваў, што паквапіўся і схапіў шашку. Пэўна, таму і парушыў загад: стаяць смірна. Узняў шашку над галавой, нацэліў яе джала на зорку, што была бліжэй да мяне.

І адразу спалохана і гучна закрычаў певень, нібы я яму ў адно месца тыцнуў шашкай. Даў каманду другім пеўням, і яны загаласілі на пустыры пад адкрытым небам на ўвесь белы свет. Галасы былі чыстыя, звонкія на чыстым паветры, маладыя. Першыя, апошнія пеўні, не ведаю. Пэўна, усё ж першыя, мы рэдка бавіліся на вуліцы да трэціх пеўняў. І цяпер час быў да бацькоў, да ачахлых за нашымі плячыма вогнішчаў, у выгнанне пустыра і ночы, бліжэй да расстраляных хат, сотак – разгорнутай уначы кнігі нашых лёсаў.

Не паспеў яшчэ адспяваць апошні певень, яшчэ не прыглухла і

рэха галасоў іншых пеўняў, як уступіў Но Пасаран. Кіўнуў наганам і пачаў:

– Я сын працоўнага народа, паўтарайце за мной, перад сваімі таварышамі пад гэтым вольным небам, перад гэтымі чыстымі зоркамі ўрачыста клянуся да канца сваіх дзён, да апошняй кроплі крыві быць верным справе сусветнай рэвалюцыі. Но Пасаран!

– Но Пасаран! Но Пасаран! Но Пасаран!

Яны прыйшлі ўжо на наступную ноч. Праз дваццаць чатыры гадзіны па пеўнях, мінута ў мінуту. На суткі адлучаныя ад сваіх седалаў, абноўленымі маладымі галасамі задзірыста спявалі па куратніках пеўні. Но Пасаран спаў. Даглядваў свой трэці сон. Чуў тупат. Лавінную копыць падкаваных коней. Будзёнаўская конніца. Яго, Но Пасарана, конніца ішла на Нью-Йорк. Ён наперадзе на чырвоным кані, у чырваназорнай будзёнаўцы, з аголенай шашкай над галавой. Яго крыху ржавая шашка скіравана на статую Свабоды, што сышла з п'едэстала і наплывае цяпер на яго. Ён першы, адарваўся ад усіх. Але за плячыма яго жалезная копыць тысяч і тысяч коней. Няўхільная і няспынная поскач і тупат.

Но Пасаран прачнуўся, захлынуўшыся ад уласнага ляманту і крыку, вызваліў ногі ад дзяружак, што апавілі іх. Свярбела цела, пакусанае клапамі. У вокнах дрыжэлі шыбіны ад тупату мноства чужых неабцяжараных ног. Дрыжэлі дошкі палка, на якім ён спаў, дрыжэлі сцены. Значыць, гэта не сон, падумаў Но Пасаран, конніца ўжо тут. Усярэдзіне, успоенае захапленнем бойкі, трымцела і спявала сэрца.

– Чаго крычыш, малец? Мы не такія ўжо і страшныя, – на яго паўзлі чыесьці вусы, не зусім будзёнаўскія, не такія пышныя, але тым не менш да болю знаёмыя і дарагія. Вусы, падбадзёрліва ўсміхаліся. Ён убачыў краёчак жоўтага вітага пагона, яму здалося жоўтага, а на самай справе пагон быў срэбраны. Убачыў ваенную фуражку, пад ёю крыху прастрочаны васпіннем добры месячны твар і задрыжэў, цяпер ужо не толькі усярэдзіне, а ўсім целам.

– Я не баюся, таварыш Сталін. Я нічога не баюся. І я не забіты і не паранены.

– Малайчына. Зброя ёсць?

– А як жа, таварыш...– Сон адышоў, ён зразумеў, што памыліўся.

– Малайчына, ты сапраўдны піянер, малец. А вось бацька твой адмаўляецца, што ў яго ёсць зброя. Мо ты ведаеш, хто там не пройдзе?

– Яны не пройдуць,– глуха мовіў Но Пасаран.

– Яны, гэта хто?

– Яны – гэта яны. Но Пасаран.

– Ну, ну, цікавенька, цікавенька. Но Пасаран. А далей, далей? Вооруженное восстание?

– Чаму паўстанне? Рэвалюцыя.

– Во як! Малайчына, малец. А гэта як?

– Проста...

– Проста, значыць. Просценька. Значыць, просценька. Свержение государственного строя. А напачатку захапіць уладу ў горадзе. Так?

– Так. Так. Але зусім не так, – сказаў Но Пасаран і заплакаў.

– Ну чаго ты плачаш, мой харошы, слёзы ліеш. Як не так, давай разбяромся.

– Не так,– сказаў Но Пасаран, плачучы ўжо ўсім целам. Усім целам адчуваючы непазбежнасць нечага жудаснага, страшнага. Адчуваючы страшэнны ціск на гэтае цела, расплясканасць яго, галізну. Голасць, хаця і быў ён апрануты. І ўва ўсё чыстае, белае. Вечарам толькі, некалькі гадзін назад, ён мыўся з мылам. У бочцы пад хлявом. І маці дала яму чыстую кашулю і споднікі.

– Но Пасаран, Но Пасаран,– нібы яго заклініла на гэтых двух словах, бясконца цягнуў Но Пасаран.

– Будем называть вещи своими именами, мой юный друг. Как тебя зовут?

– Янка, Яначка, – памкнула падысці да яго маці, што да гэтага абыякава сядзела ў цёмным куце пад абразамі, сама як багародзіца, склаўшы рукі.

– Маўчаць, сядзець,– спынілі яе вусы.– Дык дзе ў цябе зброя?

– Няма ў мяне ніякай зброі, – пацёг на сябе дзяружку Но Пасаран. Ён ужо, здаецца, і не плакаў, курчыўся і калаціўся.

Вусаты пакінуў Но Пасарана, неяк раптоўна і нечакана страціў да яго ўсякую цікаўнасць, нібы ніколі і не падыходзіў і нічога не гаварыў. Падышоў да бацькі. Той сядзеў каля маці на лаве, падобнай на канапу, з плечыкамі крыж-накрыж. Лава была шырокая, у дзве дошкі, пэўна, яшчэ дарэвалюцыйная. Дошкі былі жоўтыя, да касцянога бляску вышараваныя пакаленнямі і пакаленнямі Данілюкоў, што змянялі адно аднаго на гэтай лаве. У акно, паміж лапатак бацьку, пазіраў пераспелы сонечнік, зверху ўжо вылушчаны вераб'ямі і сініцамі, хаця маці і абвязала яго марляю, берагла на насенне. І цяпер здавалася, што гэта чалавек, старая ў шэрай хустачцы незагарэлым, бялявым лобам прыпала да шыбіны. З неба, дапамагаючы лямпе, свяціла ў акно такая ж, як і ўчора, поўня.

У хаце ўсё было перавернута дагары нагамі. Усё са сваіх месц прэч – на пагляд сонечніку і поўні. На пагляд чужым людзям, каторыя

былі цяпер у хаце. Шныпарылі па ўсіх кутках і пад печчу. Двое ўціскаліся ў слоніке, прытуліўшы іх да касякоў па абодва бакі дзвярэй.

– Дзе зброя? Табе ж лепш будзе здаць яе добраахвотна,– звярнуўся вусаты да бацькі.

– Бярыце, здаю добраахвотна. Вось мая зброя, – голас бацькаў быў пазбаўлены ўсялякіх фарбаў, цьмяны, як пазалота на абразах. І сам ён учарнеў тварам, у цёмнай сарочцы і штанах быў падобны на змярцвела прыцёртае старасвецкае дрэва іконы.

– Вось мая зброя,– бацька ўзняў над сталом таго ж цёмнага іконнага дрэва вялізныя сцятыя кулакі.– Ад свайго бацькі атрымаў, сыну перадам.

– Не валяйце Ваньку. Усё роўна знойдзем.

– Няма, няма ў нас ніякай зброі, – заплакала, як муха ў павуцінні, забілася ў куце пад абразамі маці. – Даніла, скажы ім.

– Знойдзем. Не хвалюйцеся, таварыш грамадзяначка.

Зброю знайшлі. Абедзве вінтоўкі, старую кавалерыйскую шашку, усе дзесяць шашак толу. А звыш таго штык-цясак ад нямецкага аўтамата і трохгранны штык ад рускай вінтоўкі. Нямецкім штыком шчапалі лучыну, рускім – прытыкалі дзверы ў хляве. А пісталета, як ні пароліся, не знайшлі. А яшчэ вусаты, несучы з хлява рускі штык, мімаходам скруціў галаву сонечніку. І ўвесь час, пакуль сядзелі ўсе яны ў хаце, лузгаў семачкі. Бацьку забралі і павезлі. На развітанне ён з прыступак ужо чорнага варанка, зазірнуўшы ў жалезную цемру машыны, павярнуўся і паспеў адно толькі сказаць:

– Забярэш раніцаю, Януачка, на рабоце мой інструмент.

Бацька Но Пасарана быў цесляром.

Але Но Пасаран ні ранкам, ні вечарам таго дня і ўсе наступныя дні і гады па той інструмент не пайшоў. Не пайшоў ён па бацькавай дарозе ў цесляры. Паступіў у стрэлачнікі на чыгунку.

А сведкамі, нанятымі пры арышце і вобыску Данілы, былі мой бацька і бацька Юрачкі Пратуберанца.

Юрачка Пратуберанец падымае поўную да краёчкаў шклянку з мальвазіяй:

– Як ты, Шнобель, казаў: што бацькі не дапілі, тое мы дап'ём? Хай будзе яму пухам зямля.

Я чакаю, калі Пратуберанец адап'е палову. Я загадаў. Пратуберанец адпівае палавіну. Я пытаюся ў яго:

– Чаму, Юрачка, іменна твой бацька быў панятым, калі арыштоўвалі бацьку Но Пасарана?

Нічога не адбываецца. Пратуберанец дасмоктвае дарэшты сваю мальвазію. Хукае. Закусвае саломкай і толькі тады адказвае мне:

– Аб гэтым, Шпіён, я трыццаць гадоў хочу спытаць і цябе. Твой бацька быў разам з маім. Ты не забыўся на сваю мянушку, Шпіён. Чаму мы іменна цябе празвалі Шпіёнам? Ці не ты ж усё лавіў тады шпіёнаў?

Цяпер мая чарга маўчаць, піць мальвазію. Ох, і брыдота ж. Вадой разведзеная марганцоўка. Пра гэта я і кажу. Пратуберанцу.

– Боты ў вас ад яе не разлазяцца?

– Боты не, а цела лезе.– Ён адкасвае калашыну і паказвае ўсім нам прыхопленую лішаём і лішайнай чырванню нагу. Псарыяз, прафесійная хвароба рабацягі-чарнільшчыка. Інтэлігенцыя такой хваробы не ведае.

Я расшпільваю сарочку і паказваю яму грудзі:

– Як бачыш, Юрачка, у нас з табой адна хвароба, хаця я і не злоўжываю чарніламі.

– Так, хвароба адна,– схіляецца да мяне, пацвярджае дыягназ Пратуберанец.– Але ты не адказаў мне, Шпіён.

– А мне няма чаго табе сказаць, Пратуберанец.

– І я, Шпіён, нічога не маю табе сказаць.

– Тады застаецца Цыган. У цябе ёсць што нам сказаць, Цыган?

– Наліце, тады мо скажу.

Мы наліваем, чакаем, пакуль Цыган вып'е. Адзін, без нас, Шнобеля, Волькі, Фімкі Бухмана.

– Но ПасаранІ – гаворыць Цыган і адзіным глытком асушае шклянку.– Но Пасаран, хлопцы, вось адзінае, што ў мяне ёсць вам сёння сказаць.

– Тады застаецца адна Волька. Ты была, Волька, той ноччу пад дубам. Ты ведала пра зброю.

– Пра зброю ведала,– і не думае адмаўляцца Волька. – Дзве вінтоўкі ўзору 1891 года, наган сістэмы ТТ, дзесяць шашак толу, кавалерыйская шашка. Я таксама разбіраюся ў зброі...

– Ты была пад дубам, калі мы...

– Не, мяне тады там не было. Я была да Но Пасарана пад хвояй. Я першая ўбачыла зброю. Потым яна знікла. Я бачыла, я прасачыла, хто яе забраў, куды схаваў.

– Значыць, ты?

– Не, Шпіён, не, Пратуберанец. Наліце і мне... Но Пасаран!

– Дык хто ж тады? Шнобель і Фімка адпадаюць.

– Я адпадаю, я адпадаю,– згодна хітае галавой Фімка.– Але ўсё роўна, Но Пасаран! – Ён налівае сабе сам і п'е.

– А я не,– гаворыць Шнобель.– Я не адпадаю. І ты, Шпіён, і ты, Пратуберанец, таксама. Я вам добра ў той дзень уламіў. Па першае

чысло кожнаму. Помніце?.. А помніце, што вы мне тады крычалі, як пагражалі мне: у нас вінтоўкі. Дзве вінтоўкі і шаблі. Мы табе шнобель адкруцім і да сракі прыставім. А замест шнобеля шабляю ад тэндара адсячом і на морду падвесім... Так што я ведаў...

– Тады і я ведаў,– нечакана ўлазіць у нашу са Шнобелем гаворку Фімка.– Пасля таго, як вас пабіў Шнобель, вы білі мяне. І гаварылі, што будзе яшчэ не тое. Яшчэ шашачкай паспрабуеце. А дзеда майго пархатага толам...

– Атрымліваецца, што кожын з нас мог? – Я, пэўна, ужо п'яны. Я зноў чую тупат. Я зноў чую лавінную копыць конскіх капытоў. Мне душна, і зусім не таму, што сёння душны спякотны дзень. Мяне нехта душыць і гняце. Цісне не памяць, не мінулае. А цяперашняе нешта, што ёсць сёння, а мо гэта і будучае. Пісталет, узгадваю я, яны не знайшлі тады пісталета. Недзе застаўся схаваны Но Пасаранам пісталет.

Волька, нібы пачула мяне ці то яе таксама нешта прыгнятае, пытаецца:

– Пісталет, а ў каго з вас, хлопчыкі, застаўся пісталет? Вось бачыце, я ўсё ведаю. І калі б гэта я навяла, вашых бацькоў таксама забралі б. А мне карцела пайсці і расказаць усё. Прасачыць усё да канца. Пайсці куды трэба і да каго трэба. Самому яму напісаць: бацьку забралі як ворага народа, я дачка ворага народа. А на самай справе – вось я якая верная і правільная.

– І я хацеў,– сказаў Фімка,– усе мяне лупяць, як сідараву казу, і пархачом абзываюць. А я вось які. Скажы ім пра гэта, каб яны больш мяне не чапалі. Хацеў і быў верны яму.

– Я таксама хацеў праславіцца, вылучыцца перад ім,– сказаў і Шнобель.

Вось круг і замкнуўся, мы ўсе навыперадкі праглі вылучыцца перад ім. І Но Пасаран таксама. Но Пасаран больш за ўсіх. А мо Но Пасаран сам і... Я лаўлю і спыняю сябе на гэтым «і». Гэта псіхоз. Падазраваць мёртвага. Звальваць усё на мёртвага. Таго, вялікага, што даўно сатлеў, і гэтага, маленькага, што яшчэ не паспеў астыць.

– Хопіць, пэўна, хлопцы, хопіць. Гэта я вам як просты савецкі заключоны гавару.– Валодзька Цыган цягнецца да трохлітровага слоіка з мальвазіяй.– Сябра памёр і справіў свята. А заўтра я, пэўна, зноў сяду. Усё жыццё неба ў буйную клетку... А я ў леснікі хацеў пайсці. У лагеры зразумеў, калі лес рэзаў... Будзь жа ты пракляты, Но Пасаран. Няхай не пухам табе будзе зямля.

– Ты што, афанарэў. Ты што, Цыган? Падла ты, Цыган, а не лепшы яго сябра, – усхадзілася Волька.

– Я падла, я Цыган, качую ад лагера да лагера і з лагера ў лагер. А ён тут стрэлачкі пераводзіў, гарэлачку папіваў, баб брухаціў. А як жа, Бухманаў ашчаслівіў. З Сарай Бухман ажаніўся, Ісус Хрыстос. Кніжачкі пачытваў. Да самай смерці чытаў. Кароткі курс гісторыі векепебе...

– Ты правы, Цыган, да самай смерці чытаў. Але зусім іншую кніжку, – я гаварыў гэта таму, што адзін толькі ведаў, якую перад смерцю чытаў кніжку Но Пасаран. Наледзь дастаў яму тую кніжку. З той кніжкай у руках, на маіх, можна сказаць, вачах ён і памёр.

Я, як ведаў, як паклікаў ён мяне, забег да яго ранкам. Адразу з ложка і да яго. І што самае дзіўнае, ніколі не падносіў, не падаваў яму ні кроплі. А тут прыхапіў чацвярцінку.

– Выпіць прынёс? – З парога нязменным пытаннем сустрэў ён мяне. Я паказаў яму чацвярцінку.

– Ні тое ні сёе на дваіх.

– Я не буду.

– Сёння будзеш. Сёння трэба.

– А што сёння?

– Сёння што? Нічога. Проста сёння – трэба.

Я наліў сабе і яму пры донцы.

– Не так,– сказаў ён, – папалам і ўсю адразу, да дна.

Я адмовіўся папалам. Пакінуў сабе, колькі было наліта. А яму поўную шклянку.

– Хай будзе так,– сказаў Но Пасаран.– Хай будзе і застанецца так. І на тым дзякуй.

– Ты прыкусвай.

– Не хачу. Там у мяне, у тумбачцы, падсалоджаная вада.

Я падаў яму шклянку з салодкаю вадой. Ён выпіў.

– Хораша. Госпадзі, як хораша. Цяпер цыгарэту.

Я адлучыўся. Выйшаў на вуліцу, літаральна на хвіліну. А падышоў зноў да Но Пасарана, ён ужо быў мёртвы. Цыгарэта яшчэ дымілася і выкурана толькі да палавіны. На жываце ляжала напалову толькі прачытаная кніжка. І то была не тая кніжка, пра якую гаварыў Цыган. Зусім-зусім іншая.

– Ну вось, дачытаў бы да канца, зноў бы нам з табой мазгі пудрыў.

– Не трэба, Цыган. Не трэба. Горш, чым мы ёсць, усё роўна нам ужо не быць.

– А вось за гэта ты, Шпіён, малайчына. Вось гэта я хацеў увесь час сказаць, але не знайшоўся. А ты настаўнік... О, госпадзі, наш Шпіён настаўнік.– І Цыган зарагатаў і заплакаў цвярозымі буйнымі

слязьмі.– Усе мы тут запраданыя. Усе. Дзе пісталет? Дзе наш пісталет? Ён жа недзе ляжыць, чакае. Ёсць пісталет.

– Эй, вы там, ля дуба, прапойцы, на нагах яшчэ трымаецеся. Давайце, пакуль вас не панеслі. Пара. Пара.

Гэта крычалі нам з хаўтур па нашым сябру. Мы падняліся.

– Трэба ўсё гэта прыбраць,– сказала Волька.

– Не трэба, няхай застанецца птушкам,– не дазволіў ёй Цыган.– Мо сярод тых птушак будзе і яго душа.

І мы пайшлі.

Труну з целам Данілюка выносілі з хаты і неслі далей, па двары да машыны і следам за машынаю, шасцёра. Нязменна праз усю вуліцу. Неслі вядомыя ўсяму гораду п'яніцы і алкаголікі, за выключэннем аднаго – настаўніка. Але што больш за ўсё ўразіла вуліцу, абразіла нават – шостая была жанчына. Волька Дубаш, каторая перабрала ў горадзе ўсіх мужыкоў. Не хапіла, з'ехала ў другі горад, большы.

– Яна. Тая самая, на каторай ён і надарваўся,– шапталіся старыя. Іх больш абражала зусім не тое, што Данілюк іменна на ёй надарваўся. А тое, што труну разам з мужчынамі несла жанчына, такое было не ў іх завядзёнцы.

– Куды толькі жонка глядзіць.

– А жонка яўрэечка, нехрысць.

– Ай, і ёй таксама не салодка было... Ад гарэлкі ж сканаў.

– Так, ад гарэлкі. Яна не аднаго са свету звяла.

– Адпіў мазгі і памёр.

– А яшчэ ад кніжак, ссушылі галаву кніжкі.

– Бабуля, не сыкай мне ў плечы,– пачуў апошняе, папраўляючы нібы пацяжэлую ад гэтых слоў дамавіну з целам сябра, спыніў абгаворы Валодзька Цыган.– І каб запомніла і другім перадала: – Памёр ён не ад бабы і гарэлкі, і не ад кніжак, а ад сусветнай рэвалюцыі. Усякла, плесень? Ад сусветнай рэвалюцыі!

– Усякла, родненькі, усякла. Ты так хораша раз'ясніў усё. Ад сусветнай рэвалюцыі. А як жа. Мы ўсе ад яе паміраем.

– Глядзі ж, старая.

І на мінуту, пакуль выбіраліся з хаты, пакуль іх не прапусцілі дзверы, усталявалася цішыня. Толькі крокі, крокі, тупат і шморганне ног. Шасцёра неслі сваю ношу. Дзяцінства, маладосць, сталасць – жыццё. Груз быў нялёгкі. Грузны быў сам Данілюк. Грувасткаю і няўклюднаю была яго труна. Але ніхто з іх не паказваў і выгляду, што ім цяжка. Яны ішлі, не ўгінаючыся, не віхляючы. Угіналася, стагнала і гула падлога пад іх нагамі ў хаце, сенцах і на ганку. З дзвярэй толькі выплылі ногі таго, хто адхадзіў ужо імі, як заплакала медзь, загаласілі

трубы аркестра. І ў гэтым медным, металёвым галашэнні ніхто не пачуў, як усе яны ў адзін голас выгукнулі:

– Но Пасаран!

Яны ступілі на зямлю. Навіслае над плотам голле яблынь дакаснулася і труны, і самога нябожчыка. Адна з яблынь не вытрымала і адарыла нябожчыка яблыкам. Наліўная антонаўка адарвалася, упала з галінкі і легла на падушку, каля самага яго твару. Калі б Но Пасаран здольны быў адплюшчыць вочы, ён убачыў бы яе і змог адкусіць.

Музыка дасягнула вяршыні жалобы.

Яны ішлі.

## **Нахаў...**
*Ці сучасная спадарожная казка*

Сёння не час казак. Век не той. Не выклікае ён прыхільнасці да казак. Хаця ў кожнага з нас надараецца парой такая хвіліна, калі менавіта па казцы добрай, старой, крыху жудаснай так сумуе душа. Але, на вялікі жаль, павыміралі, адышлі на той свет казачнікі, падобна дыназаўрам ці мамантам. Здаецца, не засталося каму слухаць і баіць штосьці. Сустрэнецца чалавек з чалавекам і ўсё роўна як не гавораць, а гарбузікі лускаюць. У аднаго жменька, у другога жменька, палускалі, папляваліся шалупіннем і разышліся, нічога, акрамя таго ж шалупіння, пасля сябе не пакінуўшы.

І няма каго тут вінаваціць, няма на каго наракаць. Усе мы так сёння. Усюды бягом, лётам. Весела нам, горка – усё аб жыцці, пазбаўленым жыцця, сваім – чужым, далёкім – блізкім, але такім аднастайным, без малога нават намёку на казку і дзіва, што заўсёды здаецца тваім, якое доўжыцца і ў незнаёмым, і блізка знаёмым табе чалавеку. Але аднойчы мне ўсё ж пашчасціла на сустрэчу і гаворку іншую. Так, прынамсі, у тую хвіліну падалося мне. Падалося, што казка ўсё ж ёсць у кожнага з нас, толькі яна падобна пупышцы на скаваным марозам зімовым дрэве, скаваным на ўвесь наш чалавечы век. Увесь век у чаканні вясны і цяпла, таму і не распускаецца. А зіму мы доўжым самі да вечнай у сабе мерзлаты, бясконца спадзеючыся і нічому не верачы. Таму казкі нашы падобныя сёння на сон у вечнай ночы. Гэтая таксама, да слова, яна і прыйшла з ночы і дарогі.

Па палескай глыбінцы, некалі спрэс царстве лясоў і балот-дрыгвы, а сёння малых лапіках-астраўках той былой дрымучасці, да апошняга дня бегаюць дзіўныя паязды – нейкае механізаванае ўвасабленне недастрэленага раней, не да смерці напалоханага звера і птушкі, якія калісь жылі тут.

Поезд – тры-чатыры немітуслівыя вагончыкі, дызелёк, што відавочна хворы на астму. Перад ім, як у той песні, рэйкі ў два рады, светлая і цёмная далячынь, святлафоры, семафоры, дзе-нідзе захаваныя яшчэ з даэлектрычнай эры афарызмы тыпу: «Машинист, закрой поддувало, не сифонь». Прырослыя да зямлі вакзальчыкі, аднойчы і назаўсёды напалоханыя таварнякамі-бальшунамі, што пранесліся міма, яшчэ дамеліярацыйнага дастатку і працвітання, крытыя саломай і чаротам некалькі вясковых хатак, лясы, пералескі, рукатворчасць застойнага часу – меліярацыйныя канавы з застойнай і сёння гнілою вадой. Спаконвечнае зрэбнае Палессе, куды асфальт занесены чорнай быллю і чорным пылам Чарнобыля, таму што, на

шчасце, вецер у тыя дні дзьмуў не на вялікія гарады, а вось сюды, дзе жывуць палешукі, таксама людзі, толькі дробненькія.

Суразмерна іх росту і патрэбам і бегае па зямлі гэты маленькі паяздок: купіць – прадаць. Спыняецца каля кожнага слупа, каля кожнага куста. Пазначыцца дзесь сярод поля ці лесу хатка, пераездзік, саматужны заводзік, бетонны салдацік, што стаіць на раздарожжы з пахіленай галавой і прыспушчанымі, таксама з бетону, сцягамі, занядбаныя лясныя могілкі – дызелёк, што цуцык, коратка заскуголіць, як затрызніць, і прытармозіць. Стары ці старая сядуць і сыдуць. Дапамагаючы сабе кавенькай, падбадзёрваючы сабе кавенкай дарогу, выграбуцца на лясную ці палявую сцежку і, як падбітыя груганы, зачыкільгаюць па ёй, растануць, растворацца ў адарванай ад чыгуначных рэек далечыні, сярод пахілых чорных крыжоў могілак, як сярод пазачасна ўчарнелага начыння ўласных здзічэлых ад адзіноты хат. Сцішаныя Беларусь і беларусы-палешукі. Так ціха і незваротна адыходзяць, пэўна, толькі на той свет, у магілы.

А дызелёк трубіць сабе, трызніць і бяжыць далей, валачэ за сабой тры вагончыкі, і часцей за ўсё па крузе. Так пракладзены яго маршрут: наперад, але крыху і ўбок, як мага далей ад вока вялікіх гарадоў і вірлівых станцый, у пячорную першабытнасць памірання, па забытых і занядбаных людзьмі і богам раз'ездах, паўстанках, вёсачках. Адкуль выйшаў, туды ў рэшце рэшт і прыйдзе. Каб зноў ды спачатку, не пакідаючы ні на хвіліну абхопленых колам рэек, як ніколі не пакідае нас вера і надзея, безупынна, нястомна, таму гэтаму паяздку невядома тая сённяшняя чыгуначная мнагалюднасць, што ўласціва арыстакратычнага бляску аддраеным чысцёхам экспрэсам, хуткім і нават галосным дэмакратычным пасажырскім паяздам.

Невядома ў звычайныя дні. Але ўсё ж ёсць некалькі дзён у годзе, пазначаных і не пазначаных крывава-чырвоным акаймаваннем у календары, калі паяздок літаральна вар'яцее. Праўдзівей, вар'яцее не сам, канечне, паяздок, што яму – жалезу ды сталі, ён нагадвае толькі аб тым, найвышэйшым з усіх вар'яцтваў неадушаўлёнага. Вар'яцеюць людзі па яго маршруце. Як вірус чумы, халеры ці СНІДа, у іх абуджаецца цяга да руху. Яны робяцца падобныя на сталіраваныя ржавыя асколкі ад бомбаў, мін і снарадаў, што некалі выбухнулі тут, паўсталыя з зямлі, вымеценыя з хат нейкай магнітнай бурай, а паяздок, нібыта ён і ёсць той магніт, прыцягвае іх да сябе. Усім, літаральна кожнаму трэба ўціснуцца ў тры вагончыкі і ў смерчаносным калавароце кінуцца ў белы свет як у капеечку, як некалі іх выкідвалі ў гэты свет у гады суцэльнай і ўсеагульнай калектывізацыі.

Мо гэта і ёсць абуджэнне зняважанай памяці аб тых днях, але толькі сёння ўсё робіцца па сваёй ахвоце. Энтузіязм іх, здаецца, нікім не падаграваецца, кожнаму проста некуды да слёз трэба: у госці, на рыбалку, адведзіны, хрэсьбіны, вяселле, хаўтуры, па кілбасу, хлеб ці мыла ў горад. І бог жа яшчэ ведае, куды і навошта, хто з тых, што жыве на гэтым свеце, гоніць нас у дарогу. Як сказала адна старая, пэўна, у падобным жа паяздку: куды вас усіх чорт нясе, не ведаю, а мне трэба перад смерцю пабачыць унука.

Твару ніводзін з іх тады не мае. Рыла ўсяленскае, вар'яцкае, звярынае. Жахліва і жудасна таму, хто яшчэ зусім не азвярэў і не здзічэў. Вольна і міжвольна ён адчувае ў такія мінуты, як і ў яго пачынае расці на целе поўсць, растуць рогі і хвост,– страшна робіцца за ўвесь род чалавечы: ці вы гэта, людзі, тысячу гадоў назад хрышчоныя, уведаўшыя Бога? Дзе ж ваш крыж? Хто ваш сёння Бог? Дзе ж савецкая ўлада, нарэшце, і што гэта такое, савецкая ўлада, калі так апусціла чалавека? Свіней на бойню так не гоняць, як гоніце вы самі сябе.

Ідуць па плячах і па галовах, па ляжачых на зямлі, жывых і нежывых, лезуць у дзверы і праз вокны, у каго на што хапае спрыту і сумлення. Ні больш ні менш – другое прышэсце, а мо і першае. Новы Вавілон. І коціць гэты Вавілон няспынна, лаецца, мацюкаецца і б'ецца. Дзень і ноч не ведаючы супынку. І ўсё па тым жа крузе. І таму ніхто не можа ўгадаць, ніхто не можа сказаць, калі ён скончыцца. Толькі стогне пад стальнымі коламі зямля, віхурыцца снежная завея, плачуць, ляскочуць паміж вагонам і дызелькам счэпкі, як у барабаны б'юць буферы. І сам дызелёк бярэ з месца ўсё больш натужна, усё з большым ляскам і надрывам, нібы хоча адарвацца ад гэтага паяздка, засляпіцца і ўцячы ад яго прэч. Хоча, ды не здолее, бо ў адной ён запрэжцы.

Дызелёк, як і яго пасажыры, губляе свой твар, злуецца, ператвараецца ў звар'яцелага мурзатага чорта, разгубленага пажыральніка кіламетраў і часу, які і сам не ведае, дзе ён знойдзе спакой і адпачынак. Зачуханы, не вязе ўжо, а проста клыпае, на хвост яму садзяцца вагончыкі і падпіхваюць. Вар'яцкі поезд, звар'яцелы свет, вар'яты людзі. Ціхія бабулі, памяркоўныя пакорлівыя дзядкі ў адно імгненне, нібы па нейкаму закляццю, перакінуліся ў нелюдзяў, у тых, хто жыў тут некалі толькі ў пачварным сне, жахлівых казках: чараўнікоў, чарцей, вампіраў, ваўкалакаў. І чым далей, тым іх болей і болей, хаця, здавалася, самі вагончыкі не здольны ўжо ўтоўпіць, умясціць не толькі чалавека, але і камара нават.

Черговая такая пасажырка-вядзьмарка ўбілася ў перапоўнены

вагон на хаду. Аднавокая, сівая, са збітаю на патыліцу хусткаю, лічы, уляцела на ступе ці памяле ў поезд, таму што ён не спыняўся. Даўно ўжо не спыняўся, а толькі прытарможваў на супынках. І тут каля чарговых могілак, што набеглі на яго, ён толькі спатыкнуўся аб вечнасць, хтосьці выкінуўся з вагончыка ў тую вечнасць, кульнуўся ў гурбу, да смерці перапалохаўшы здзічэлых ці проста сумных сярод сумнага лесу, пагоста і снягоў сабак, а яна на гэтым сабачым спалоху і брэху, сама як перапуджаная варона, што знялася з крыжа, укінулася ў сівушную спрасаванасць тамбура. Як голка з ніткай, прашыла яго і апынулася ўжо ў самім вагоне, у купэ. Нягледзячы на тое, што яно было да неверагоднасці перапоўнена, здушана, а яшчэ больш варожа замкнута, замкнута маўчаннем і перасцярогай усяму староннябму, не толькі чалавеку, рэчы, але і гуку, прарвалася праз ахоўную забароннасць чужога дыхання, што пыніла яе, як мяжу, ці міннае поле перайшла. І больш таго, выціснула сабе краёчак эмпээсаўскай лавы, села.

Села грунтоўна і трывала, як могуць садзіцца толькі людзі, якія пражылі свой век, ведаючы, што яны могуць ужо і не ўстаць.

Купэ на гэта яе пранікненне і нахабную грунтоўнасць адразу ж таможанна-ахоўна ўзбурліла, таму што хоць і ў цеснаце і ў крыўдзе, нават, можна сказаць, у свінстве сваім, яно ўжо згуртавалася і гатова было да адпору і адарвання якой бы там ні было іншароднасці. Нязменнасць і непераменнасць свайго пасажырска-купэйнага статуту гатова было адстойваць не толькі рукамі, але і зубамі. І хтосьці ўжо скрыгануў зубамі – ці то дзеўчынёха, што адбыла свой тэрмін у схаванай сярод гэтых палескіх пералескаў калоніі за прастытуцыю, ці то п'янаваты хлопец, што прыцісну́ў яе каля акна, уцёкшы з лячэбна-працоўнага прафілакторыя, куды ўпякла яго жонка, да якой ён цяпер і спяшаўся, каб разабрацца і пагаварыць душа ў душу. Народ у купэ быў розны: усіх патроху. Хто, як ужо гаварылася, спяшаўся на вяселле, а хто на хаўтуры, з працы на працу. Можна сказаць, усе на працу, таму што проста так тут не ездзілі, паяздок сам жа зваўся рабочым. І жыццё тут – слёзы, смех – работа. Адпачынак там, у іншым месцы, у сябе ўжо дома, а не ў гасцях.

Амаль палову купэ і займалі такія памагатыя і будаўнікі хат на вечны час, угатавальнікі вечнага адпачынку – магільшчыкі. Пяцёра хлопцаў у напаўваенным, напаўмантажным абмундзіраванні, у непраніклай занавешанасці твараў каторых чалавек, які хоць аднойчы бачыў іх у рабоце, без цяжкасці мог вызначыць і іх рамяство. Хаця тварам усе яны і розніліся: з яўна прарысаванаю адзнакаю дэградацыі і рысаю апошняга падзення і вельмі

інтэлігентныя, адухоўленыя, з прэтэнзіяй на супермэнства і вышэйшую мудрасць. Але на кожным з іх праступала і адзнака, накладзеная рамяством. Адчуванне іх уласнай ужо напаўпахаванасці, пыл, прах і прыжмуранае вока таго, каго яны толькі што пахавалі. Ні мітусні, ні жалобы і смутку, сіла і ўпэўненасць інструменту, які знаходзіўся пры іх у купэ, здаваўся працягам іх, нібы яны былі гатовы і маглі сатварыць магілу тут жа не сыходзячы з месца, пахаваць кожнага, а тым больш такую надакучлівую і нахабную старую.

Аднадушнасць, аднадумнасць тых, хто ўжо ехаў у купэ, і грунтоўнасць старой утварылі нешта падобнае на купэйнае кароткае землетрасенне. У кожнага ўзбурлілі, разгуляліся закаркаванасцю, дзікасцю пасадкі і цяжкасцю язды злоснасць і раздражнёнасць, крохкая шкарлупіна растаптанага, адрыгнутага сумлення часта і ўгнявана задыхала і гатова была лопнуць, выкрыўшы ўжо штосьці зусім дзікае, чаго свет дагэтуль і не бачыў. Але старая гэтае выкрыванне апярэдзіла. Землетрасенне было ўтаймавана яе адзіным вокам, як толькі прамільгнуў раз'ездзік з некалькімі засыпанымі снегам хаткамі, маўклівымі і, здаецца, нежылымі, пад вартаю груэнага ад снегу хвойнага лесу.

– Вось мая дзярэўня,– сказала старая, як прадэкламавала вершык. І таму, пэўна, што гэта былі сапраўды радкі з вершыка, дзіцячага, просценькага, вывучанага кожным яшчэ ў школе, і не прыгадаць яго было немагчыма, напружанасць раптоўна знікла. Мо нехта чакаў працягу, мо хтосьці працягваў яго ў думках сам. Старая маўчала, і ўсе маўчалі.

*Вот моя деревня,*
*Вот мой дом родной,*
*Вот качусь я в санках*
*По горе крутой...*

Маўчанне было такім абвальным і крутым, нечаканым для кожнага, хто ўжо праламаў у сабе адтуліну для крыку і абурэння, што юная прастытутка каля акна з анёльска-нявінным тварам раптам, нібы напалоханая гэтай яго нявіннасцю, задзірлівай свежасцю і ружовасцю, упала тым сваім тварам на распасцёртыя па століку далоні і незразумела – не то зарагатала, не то заплакала. Пахмельна ці то зарагатаў, ці то рыгнуў і элтэпэшнік, што зацісну ў яе да стэтаскопнай праслухоўваемасці, аслабіў націск, прыглух целам. А ў наступную мінуту ўсіх яшчэ больш аглушыў інтэлігентны малады магільшчык з тварам адначасова фізіка-генія і Хрыста з хрыстосаўскай няголенасцю і выразным адбіткам іконнай пакуты ў вачах.

– Жыць, дык у сталіцу,– сказаў ён неяк блякла, ні да кога не звяртаючыся, але элтэпэшнік здрыгануўся, падазрона паглядзеў на Хрыста-магільнчыка.

– Патрыа о муэртэ,– крыху памарудзіўшы, зноў загаварыў злёгку, а мо і добра п'яны Хрыстос. Слоў гэтых, адчувалася, элтэпэшнік не ведаў, і яны выклікалі ў яго яшчэ большую падазронасць. Але наступную фразу Хрыстос мовіў так:

– Радзіма – смерць!

Элтэпэшнік зноў зарагатаў і рыгнуў, пэўна, канчаткова збіты з панталыку, сам набыў дар слова:

– Ну, ты і даеш. Ну, бабуля, ты і даеш,– сказаў ён з незразумелым, пэўна, і самому захапленнем.

Новая пасажырка апякла яго і ўсіх, хто быў у купэ, пустой вачніцай, у каторай усё ж нешта тлела, ірдзела, вугольчык, неастылы боль па воку, размазаны па ўсім твары – дарожцы, па якой вока пакідала твар.

– Калі я бабуля, то ты ўжо і дзядуля. Гаворыш, малады, а сам раскапусціўся, што той дзед, уцісніся трошкі, каб было месца і маім касцям.– На гэтых словах яна сцягла збітую з сівых валасоў хустку і спрытна і хуценька прычасалася. Зноў накінула хустку на галаву і павярнулася да таго, з кім гаварыла, і да ўсіх адразу другой паловай твару з ацалелым вокам: – Ну, глядзі, якая я табе бабуля? Якая я вам бабуля?

Не апачвараны пустой вачніцай твар яе быў ружовашчокі і малады, нібы крамяны летні яблык у лепшую сваю пару. Сівыя валасы схаваліся пад хусткай і былі нябачныя. Адзінае вока таксама здалося надзіва маладым і добрым. Але гэта маладосць адной паловы твару, дабрыня і ўсмешлівасць адзінага вока больш адхілілі, чым прывабілі спадарожнікаў жанчыны, яе суседзяў па купэ, прымусілі адных адвесці позірк, другіх, як яна і прасіла, пацiснуцца, нібы на іх вачах адбывалася штосьці вельмі непрыстойнае і сорамнае. Жанчына прынародна, ні на кога не зважаючы, усё роўна як агалілася. Агаліла боль, раскрыла рану, каторай не павінна датыкацца не толькі чужое, але і сваё вока. Толькі доктару ці лекару можна даверыць бачыць такое.

Твар жанчыны ад пасадачнай таўкатні ўзапрэў, і даўні боль, той агонь, што некалі выпаліў вока, здавалася, працягвае яе паліць і цяпер. На яе твары, знявечанай палове яго, праступала, здаецца, і кроў: так набраклі той крывёю брыдка застылыя рубцы, нібы вока выцекла хвіліну назад ці на гэтую ж хвіліну працягвала выцякаць. І ўсе ў купэ былі сведкамі яго паміранння, сведкамі чалавечых пакут і

болю. Другая ж палова яе твару, ветлівая і ўсмешлівая, было падобна, менавіта гэтаму болю, адкрытай воку кожнага ране – усміхаецца і радуецца. Яна была шчасліваю ў горкім сваім няшчасці.

Неразмежаванасць відавочнай і кідкай прыгажосці і такой жа відавочнай і задзірлівай, недзе нават трыумфальнай, выродлівасці бянтэжыла і палохала. Прырода б не здолела сатварыць такое, то было справаю толькі чалавечых рук. І само вока чалавека, і сэрца яго адмаўляліся прызнаць гэта. Хаця, як ужо гаварылася, далёка не ўсе ў тым купэ былі самі прыгажунамі. Але пачварнасць выродлівых была натуральнаю, таму, пэўна, ніхто яе не прыкмячаў, не адчуваў і не прызнаваў.

І ўжо недзе праз хвіліну пасля таго, калі жанчына паказала сваё аблічча, яна як адна засталася ў купэ. Сядзела на лаўцы не толькі вольна, а нават раскашавала, як на лаве падсудных, а не ў бітком набітым вагоне, няма яблыку дзе ўпасці. Здаецца, з'явілася ў яе ўжо свая варта і свая ахова. Тыя ж спадарожнікі невядома за што цяпер асуджалі яе і цураліся. Нібыта ўсе ў тым купэ імгненна аздаравелі і пазбавіліся ўсіх сваіх тайных і яўных заган. Заганнаю засталася адна толькі тая, што па наканаванню лёсу, нешчаслівага выпадку зрабілася больш брыдкаю за іх на твар.

Асуджэнне яе, канечне, хутчэй за ўсё было высакародным, спачувальным. Але і грэблівым, перасцерагальным: цур мяне, не бачу, не чую, значыць, застрахаваны, міне мяне чара гэта. Былая прастытутка ўталопілася ў акно, праз шчыліны каторага яе жывіла свежае паветра свабоды. Элтэпэшнік зноў прыціснуў яе, але цяпер ужо не так пальмяна. Бабуля – яна, калі меркаваць па паклажы, ехала ці то на базар, ці то ў госці да дзяцей,– усё пералічвала свае мяшкі, клункі, нібы дзесьці побач ужо быў злодзей. Магільшчыкі заплюшчылі вочы, рабілі выгляд, што прыдрамалі, а мо і на самой справе заснулі, не прыкідваючыся, улагоджаныя гарэлкай, дабрачыннасцю таго, за чыё супакаенне яны пілі, каму жадалі зямлі пухам. Адзіны толькі з іх, той самы з тварам Хрыста-фізіка, здавалася, нічога з таго, што тут адбылося, не адчуў і не прыкмеціў. Нешта бязгучна нагаворваў пра сябе. А потым амаль са стогнам загаварыў і ўслых зноў мовіў тое, што ўсе ўжо чулі тут.

– Радзіма – магіла! Хата – магіла! – хацеў нешта яшчэ дадаць, мо яшчэ раз паўтарыць моўленае. Але аднавокая спыніла, утрымала яго.

– Няпраўда. Вох, няпраўда твая, чалавеча. Не гняві Бога. Мая хата Нахаў. Так вёска наша завецца. І хаце такое імя – Нахавус. Толькі гэта па-іншаземнаму ўжо будзе. З другога краю зямлі нехта выбудаваў сабе на нашай мясцовасці хату, нахавус па яго, мо якім

немцам быў. Мы яго назву скарацілі, перахрысцілі ў Нахаў, каб і яму не крыўдна і да сябе бліжэй: як усё роўна – няхай сабе. Вось так, і забыліся ўжо, хто тут немец, а хто са сваёй мовай. Усе адзін аднаго чуем. Дружна жывем. Цікава людзям слухаць, паспавядаюся: як ды чым.

І, не дачакаўшыся просьбы і адказу, ведаючы, пэўна, што маўчанне яе больш прыгнечвае людзей, чымсьці гаворка, пачала расказваць, не хапатліва, крыху працягла, як песню спяваць:

– А вёска наша невялічкая, і малой яе не назавеш. Нахаў, адным словам, нахавус, што значыць калгас. Аром, сеем, ураджай збіраем, што ў зямлю кінем, то яна нам і верне. Чалавека дасць, чалавека прыбярэ. Мы на зямлю сваю не наракаем, а вось яна крыўдуе на нас... Цяпер-то не, цяпер хораша. З тым жа атамам, з Чарнобыля што, гавораць: калі ёсць на свеце Бог, нахавус яго ў нашым Нахаве. Усё ж кругом атручана, страчана тым атамам-ністратам, а наш Нахаў Бог мілаваў.

А такая ўжо чорная хмара, чарней не бывае, з боку таго ж Чарнобыля на наш Нахаў паўзла. Бясконца чорная, што пашча ў сабакі, які ўвесь свой век на ланцугу прасядзеў. Я на сваё, хоць і адно, вока бачыла. Усё, думаю, канец свету, закрые чарнабылка і гэта маё апошняе вока. Чорная хмара – то ўжо апошняе, што я на гэтым свеце бачу. І галасы ўжо з таго свету чула, то крычалі мае родзічы, перавярнуліся ў дамавінах. Жывёла ровам раўла, сабакі як па нябожчыку вылі, куры ў хлеў самі сышлі паміраць.

Але Бог літасцівы, паківаў толькі пальцам з той хмары. А яна ж, людзі добрыя, што шынялёк ваенны, крывёю набрыняла і ўжо стала і стаіць над нашым Нахавам, над хатамі нашымі. Але прайшла, мінавала Нахаў. І далёка, ужо на другім краі зямлі дожджыкам аслабанілася. Мо і грэх радавацца, цяпер жа скрозь людзі жывуць, і больш дастойныя за нас, граматныя, разумныя. А Бог абраў нас, хоць люд наш мо і не варты яго міласці. І няма ўжо таго ў нас люду: старыя ды ўбогенькія ўсе. Але што ўжо намучыліся, што адгаравалі за свой век, таго і ворагу лютаму не пажадаеш.

Гэта я так, да слова кажу. Наракаць, пакуль жывеш, таксама грэх, як ты наракаеш: радзіма – магіла. Гэта для бязроднага магіла, а такіх на зямлі няма, нехта ж нарадзіў цябе, значыцца, ёсць і радзіма. Ты ж карэньчык, ёсць у цябе памяць і хата бацькоў тваіх. Іскрынка ў табе жывая блішчыць, што ніякай чорнай хмарай не патушыць, ніякім чорным атамам не страціць. Кажу тое, што сама добра ведаю, праз што сама прайшла, пераступіць хацела, ды душа не дазволіла ні мне, ні дзіцяці майму і ў пакаранне за што Бог вока адабраў,

пазбавілася вока з адчаю вялікага. За адчай той пакаранне нам падае...

Быў у нас тут пасля той вялікай вайны голад страшэнны. З той жа вайны выхапіліся мы ўсе голыя, што з пажару, хто ў чым стаіць і на чым стаіць, тое ў яго толькі і ёсць. Як у Камыша – дзеці ды душа. Пазней трохі дапялі да нас людзі яшчэ больш няшчасныя, ашхабадцы, пасля землятрусу іхняга, дык яны наш Нахаў бокам абыходзілі, падаць ім не было чаго.

Жылі-былі ў нашым Нахаве Іван ды Мар'я, сям"я. Сынок у іх быў, таксама Іванам зваўся, губка ў яго яшчэ была рассечана, у народзе гаворац, заечая губка, і за вушкам радзімая плямка. Пазначаны з дзяцінства... А так хлопчык ласкавы і прыкідлівы, хатні. Адно вось толькі – у ліхалецце і не на шчасце народжаны. І што я тут вам баўлю: гаворац больш пра старых, яны скрозь зямлю на тры аршыны бачаць, што там робіцца. Так усё, пэўна, і ёсць. Але няма на свеце большых празарліўцаў, чымсьці нашы дзеці. Пяць гадкоў яму споўнілася, а ён ужо ўсё ведаў пра сябе, як цыганка-малдаванка яму нагадала, ці пражыў ён ужо раз гэта жыццё. Прыйшоў яшчэ раз, хацеў аберагчыся, пражыць інакш. Пільнаваўся хаты сваёй, матчынай шыі і спадніцы, як тая ж сабачка-дзядоўнік. З хаты і ад хаты ты яго трактарам не адцягнеш. Па двары па сваёй ахвоце толькі да калодзежа даходзіў, слупянеў, камянеў там, прыліпаў да калодзежа ручкамі і цельцам, што твой магніт. Наогул, далей парога дарогі не ведаў. І на парозе стане, учэпіцца ручкамі за клямку і ва ўсе вочкі глядзіць то на хату, то на сяло. А поезд прахопіцца, дык яго ў дрыжыкі кідае, як у каровы з цяпла на холад, цельца ходарам ходзіць. І такі ўжо спалох і страх у вачах, што свету белага, бедны, не бачыць. Засляпляюць яму вочкі слёзы, і крычыць ён крыкам. Бывае, і памочыцца са страху.

Маці ўжо думала: блазнаваты. І што ўжо адхадзіла з ім па знахарах, і па лекарах, і па дахтарах. Не, гаворац, спраўны хлопчык, вельмі разумнае дзіця, развіваецца нармальна. А нармальна – гэта і паесці трэба знайсці, і пагуляць, і пагаварыць з дзіцем. А што з'есці, маку з хлебам, калі яшчэ той кусок хлеба, маку – гэта каб спаў больш. На прызмерку яшчэ брыгадзір-паганяты выпара з хаты, цёмначы без рук без ног назад вернешся. Лямпу засвяціць сілы няма. А ён, як вожык, пад лаваю клубочкам і выцягнуць адтуль не даецца. А выцягнеш, што клешчык, ручкамі абаўе цябе, а губкі стогнуць: мамо, не кідай мяне, мамо. Ні да каго больш так не гарнуўся. Бачыў і ведаў адну толькі пагубіцельніцу сваю.

І з іншымі дзецьмі ў дзіцячыя гульні не гуляў. Бацька з маткаю:

Іванчык, мо б ты да таго ці другога сходзіў. Вунь жа на вуліцы сонейка так хораша свеціць, траўка расце, кветачкі цвітуць. Усе дзеткі ў лес ходзяць і на станцыю гуляць бегаюць. Не, кажа, мне ў хаце добра, добрая ў нас хата. А вясковыя нашы дзеці больш станцыю прызнавалі, чымсьці сваю хату. Хата што, халодная, галодная і пустая, словам не абзавецца. А на станцыі не-не дый пракінецца чалавек, па галоўцы пагладзіць ці пстрычку дасць. І фанцік ад цукеркі хто-небудзь долу ўроніць, агрызак яблыка можна падняць і з'есці. Паяздок праскочыць, таварняк спыніцца, можна ў тамбур залезці, пагуляць, на хаду саскочыць. Усё дзецям забава.

Здаралася, канечне, што каторы з іх пад калёсы трапіць. Але гэта барані Бог, хаця маці ўсё ж, нейкая палёгка, чым кожны дзень глядзець, як тваё дзіця на тваіх жа вачах канае. Больш было па-добраму, ускочыць ён у тамбур, забавіцца ці прыкархне, а поезд і панёс, і павёз яго. Белы свет не без добрых людзей. Праз некаторы час паштарка прыносіць пісьмо. Добры дзень, мама, добры дзень, тата. Я ў дзетдоме. Сплю на белых прасцінах, ем тры разы ў дзень. П'ю чай з цукрам. І хлеб белы даюць, і пячэнне, і цукерку. Вось так, ніхто не ведае загадзя, дзе шчасце знойдзеш, а дзе душу згубіш.

Выправіла ўсё ж маці сынка Іванчыка, вока сваё адзінае, на станцыю. Дзіця горкае, на матчынай мове не тое што мовіць, плакаць яшчэ не навучыўся. Выправіла... А мо і сама соннага аднесла.

Хто ведае, хто ведае. Не судзіце, ды не судзімы будзеце. І больш дзяцей у Івана ды Мар'і не было. Жывых не было. Мёртвыя ўсё нараджаліся. З улоння маці і ў труну. Адмаўляліся жыць дзеці. Прайшло шмат гадоў. Састарэлі Іван і Мар'я. І дастатак у іх хату прыйшоў. Але толькі нямілыя ім былі ні дастатак той, ні хата. Увабраўшыся ў гады, пачалі яны цурацца хаты. Палюбілася ім станцыя. На станцыю ад хаты пратапталі яны сцежку. Штодзень, а то і тры разы на дзень хадзілі яны на станцыю. Білетаў нікуды не бралі, нікуды не ехалі, хаця раней, яшчэ да сваёй старасці, зведалі і нямала дарог. Аб'ездзілі ўвесь белы свет, дзе толькі не былі, якіх людзей не бачылі. Усё жыткі, пэўна, лепшай, шчасця шукалі. Знайшлі ці не, не ведаю, хлусіць не буду.

Іван з таго белага свету, з цаліны, прывёз кілу, ад работы цяжкай прыдбаў. Мар'я без адной ныркі з Брацка вярнулася і яшчэ там без нечага. Але іх аддзячылі, гады не выйшлі, а ім прызначылі пенсію. Можна было жыць. Гарод сорак сотак. Пасека сорак вулляў. Пчолкі, праўда, толькі да Чарнобыля пратрымаліся, а потым звар'ятоз – звар'яцелі. Але гэта пасля ўжо, шмат пасля таго, як пчолы добры прыбытак далі, грошы,і немалыя, нажылі за свой век Іван з Мар'яй. І

ўсе яны пры іх засталіся. Траціцца ў сяле няма на што асабліва. Ды яны і не раскідваліся, як бераглі некаму. І на станцыі ўсё выглядвалі, выглядвалі кагосьці. Ніводнага паяздка не прапускалі, ніводнага свежага чалавека.

А адзіны свой паяздок, вось гэты самы, упусцілі ўсё ж. Як ён міма іх вока прабег, і прыдумаць цяжка. Толькі прабег. Сышоў з паяздка хлопец. Стаў на пероне як укапаны. Гадзіну стаіць, другую. Толькі круціцца, паварочваецца то ў адзін, то ў другі бок. То на сяло вока пакладзе, то ад хатак вачэй адвесці не можа, то зноў нязводна на станцыю, лес, поле, дарогу. Непрыстойна так доўга стаіць на адным месцы і як фатаграфуе ўсё вачыма, звяраецца з нечым.

Не вытрымаў начальнік станцыі, сусед наш, бо стаміўся ўжо з акна за ім наглядаць дый напалохаўся, гаворыць, раззлаваўся. Станцыя ўсё ж, чыгунка, рух, а ён стаіць. Усякае ж можа здарыцца. Ленінградскі скоры прайшоў, гэты без прыпынку тут. Бранскі пасажырскі, таксама без прыпынку. Мясцовы рабочы. Гэты сцішыўся. У начальніка станцыі на душы адлегла, думаў, згіне, знікне хлопец, перастане яму нервы трапаць. А ён як стаяў слупам, так і працягваў стаяць. Начальнік станцыі тады чырвоную шапку сваю на галаву, кіцель сіні на плечы, жэзл жалезны ў рукі, жэзл – гэта проста ўжо так, каб у руках нешта мець. Абмундзіраваўся, узброіўся – і да таго на пероне. Ідзе, як і павінна быць начальніку. Толькі чым бліжэй, тым меней у ім начальніка. Наблізіўся – зусім спудзіўся. Замест таго каб дакумент запатрабаваць і са службовай тэрыторыі яго ветліва адправіць па шляху далейшага следавання, раптам гаворыцы

– Дазвольце, таварыш малады чалавек, пытанне вас спытаць.

Той адказвае яму:

– Дазваляю вам, таварыш і начальнік, і пытанне спытаць.

– Вы скажыце мне, таварыш малады чалавек, а ці не будзеце вы выпадкам сынам Івана ды Мар'і па фаміліі Нічыпаровіч, а па прозвішчу Падарожныя.

Гэта Івана ды Мар'ю пасля таго ўжо так празвалі, калі яны ездзіць пачалі па белым свеце і на станцыю бегаць.

– Не,– адказвае хлопец,– не буду я ні выпадкам, ні па дакументах сынам Івана ды Мар'і па фаміліі Нічыпаровіч, а па прозвішчу Падарожныя. Таму што я зусім іншы. Пётр Пятровіч Пятроў.

– Вельмі мне,– гаворыць начальнік станцыі,– прыемна, што вы Пётр Пятровіч Пятроў. Толькі губка ў вас, прабачце ўжо, Іванчыка Нічыпаровіча. Заечая губка была ў вас з нараджэння, хоць вы і аперацыю зрабілі. Шрамікі, прабачце, засталіся. І за вушкам у вас відна радзімая плямка – таксама Іванчыка Нічыпаровіча. Як

падабенства такое, прабачце, разумець?

– А як хочаце, так і разумейце,– адказвае малады чалавек не вельмі ветліва.– Толькі скажыце мне, гэта станцыя, случаем, не Нахер называецца?

– Вы ўжо выбачайце, людзі добрыя, што я так гавару,– здаровая палавіна твару расказчыцы пайшла чырванню, а знявечаная як была, так і засталася мёртваю.– Але ўсё да капелькі так было. У гэтым слове, на послых лаянцы, якраз і загадка загадана, і адгадка ўся. Але аб гэтым я вам потым скажу. А тады стаяць яны на пероне і бяседу такую вядуць. Начальнік станцыі, канечне, раззлаваўся. Лета пры двары, сонейка свеціць, а тут непатрэбныя ўсякія словы, і абраза пры выканананні службовых абавязкаў, глумленне над усёй такой гожай мясцовасцю, станцыяй цэлай і ўсім населеным пунктам.

– Пасаромеліся б, Пётр Пятровіч Пятроў,– гаворыць начальнік станцыі,– чалавек, я бачу, вы грамаце не чужы, чытайце. Вялікімі ж літарамі, большых не бывае, напісана: Нахаў. Нахаў наша станцыя называецца. І самі мы нахаўцы. Чытайце. Ці вам акуляры даць?

– Прабачце,– кажа малады чалавек.– Прабачце і дзякуй. Не дапамогуць тут вашы акуляры. Бачу Нахаў, а чытаю Нахер. У сэрцы гэта ў мяне ўжо так напісана... Навошта мне такая радзіма...– І заплакаў, і пайшоў. Сам пайшоў. Начальнік станцыі і не памятае ўжо, як у свой кабінет увабраўся, нібы п'яны зрабіўся. Лета, рамонка цвіце белая, васількі сінія з жыта тварык свой кажуць, птушкі малыя пырхаюць і спяваюць, і на табе, такі некультурны народ. Рух на чыгунцы бесперабойны, а начальнік станцыі як пасля крушэння паяздоў, нібыта яму асабіста пад суд за гэта ісці. А за што, калі станцыя ганаровымі граматамі і падзякамі чыгункі ўся, як фанцікамі ад цукерак, залеплена. І ўсе вакол спрэс ударнікі камуністычнай працы. А яму накласці на сябе рукі хочацца, павесіцца хочацца, сам пасля прызнаваўся. Хоць ты бяжы, даганяй таго Пятра Пятровіча і што хочаш з ім рабі, забівай на месцы, спраўляй дакументы і пішы па месцы яго пражывання і службы, каб меры прынялі. Вось як праняло чалавека. І невядома што. Усяго ж толькі тры літаркі няправільна моўлены былі.

Пад вечар недзе, ужо сонца на захад пайшло, той самы малады чалавек апынуўся ў вёсцы. І ўсе яго адразу на заметку сабе ўзялі. Вёска прыкметлівая, усё яна бачыць, хаця і маўчыць. На «дзень добры» і «бывай» адгукнецца, а што паміж гэтым, тое пра сябе толькі кожны ведае і без дай прычыны не вытыркаецца.

Ходзіць, пахаджае сабе сярод белага дня чалавек незнаёмы, ну і няхай сабе ходзіць, значыць, яму трэба, і на вочы яму ніхто не лезе. І

ён ні да кога ў хату не завітаў, вады папіць не папрасіў. Прайшоўся раз-другі па вуліцы, спыніўся каля селішча Падарожных. Селішча бясконца раскошнае, ёсць за што воку зачапіцца. І прыбрана ўсё, вылізана, пафарбавана ад плота да канька хаты, агнём гарыць. І сонца на хаце цясовае жоўценькае ўзыходзіць, і конікі чырвоныя па варотах зялёных скачуць. Хата добрая, пяцісценак, адразу ж пасляваеннага, не падсочанага яшчэ лесу, у апошнія гады перасыпаная. Хлявок ладны – пад карову і парасят. Сцёбачка-паграбок – пад прадукты і што з падворка лішняе прыхаваць, таму КПЗ дзеля жарту названая. І ўсё гэта пад навіссю садавіны. Грушы, яблыні. Грушы, трэба сказаць, у нас тым годам урадзілі і яблыкі таксама. Наліліся ўжо, свіцяцца на сонцы. Пчолкі пагудваюць. Рай, а не селішча. Іван ды Мар'я ў тым раі раююць. Палавіну на двор, палавіну на вуліцу – калодзеж, сабе і суседзям. Журавель над ім.

Каля калодзежа малады чалавек і спыніўся. Усё роўна як прыклеілі яго і намагніцілі. У вокны хаты ўталопіўся, няйнакш, спытаць у іх нешта хоча. Апусціў жураўля, загарнуў вады. Дастаў, а піць не п'е. Дзвюма рукамі ашчаперыў вядро, а піць жа ні грамачкі не п'е, нібы апасаецца той вады калодзежнай, як атрутная яму яна. Усё на вокны хаты пазірае, няйнакш, кажу, заве, дух нейкі заклікае. І, няйнакш, як толькі пачулі яго Іван з Мар'яй. Усё роўна што венікам іх абодвух з хаты вымела. Да калодзежа подбегам, а каля калодзежа як ногі адняло. Адно толькі стаяць, рукі выціраюць. Злякаліся і голас, падобна, страцілі. Не ведаюць, што і пачаць, што і рабіць. Нарэшце Іван знайшоўся, здаецца:

– Дазвольце,– гаворыць маладому чалавеку,– пазнаёміцца з вамі, калі будзе на тое ваша ласка... Вы выпадкам не сын наш будзеце?

– Не. Не буду я вам сынам,– адмаўляецца, як адсякае нешта, а сам нібыта ў агні ўвесь гарыць.

– Як жа так? Як не сын? Вы ж самі нашу хату знайшлі і каля калодзежа сталі. Іванчык?

– Не, – гаворыць, – не Іванчык. Даўно Пятро ўжо.

Мар'я ў слёзы, вось-вось самлее.

– Даруй мне, Іванчык, даруй... Вох, божачкі ты мой, няма маёй віны. Вох, вінаватая ж, я вінаватая.

І абодва яны каля калодзежа таго пад задраным угару жураўлём на каленцы. І ў адзін голас так, што і вядро не вытрымала, засіпела, заплакала:

– Даруй нам, Іванчык.

– За што ж, людцы добрыя, даравацъ я вам павінен, калі я не Іванчык, а Пятро? Звяртайцеся да Іванчыка. А я пра вашага таго

Іванчыка нічога не ведаю.

– Ты. Ты і ёсць наш Іванчык. Адзін толькі ён быў здольны так стаяць каля калодзежа...

Заманілі Нічыпаровічы-Падарожныя ўгаворамі і слязьмі, зацяглі таго маладога чалавека ў хату. Як заведзена ўжо, чарку паднеслі і самі прыгубілі. І пачала ў іх гаворка брацца на лад. І што вы думалі, папраўдзе, аказаўся той Пятро Іванчыкам. Усё сышлося як па пісаным. І за вушкам плямка. А губку яму ў дзетдоме выпраўлялі. І нарадзіўся ён у вёсцы Нахаў. Толькі ў пашпарце інакш запісалі, з яго слоў. Малы быў, калі пыталіся, адкуль ён, пераблытаў. Трэба Нахаў сказаць, а ён, хто яго ведае, дзіця ж горкае, сказаў... А мо прычулася так тым, хто пісаў, ці проста вясёлы быў народ, пісарчукі гэтыя. Як кажуць, напісалі пісакі, не разбяруць і...

А калі вырас ужо, адбыў армію, скончыў інстытут, ажаніўся, у самога дзеці пайшлі, закарцела яму даведацца, што ж гэта за вёска такая мацерная. Па ўсіх картах і даведніках розных шукаў і звяраўся. І работу сабе абраў, навуку такую прайшоў, што зямлю тлумачыць, картамі ўсімі зямлі займаецца. Але на ніводнай сваёй карце мясцовасці такой не знайшоў. Адсюль ён, з нашага Нахава. Івана ды Мар'і Нічыпаровічаў парастак, сынок. Іванчык. Толькі не прызнаецца Нічыпаровічам у тым: Пётр. Пётр Пятровіч Пятроў. Цвёрды. Я, гаворыць, яшчэ не з усімі краінамі разабраўся, мо я замежнік тут у нашай краіне: паляк, немец ці японец. Мо ў іх ёсць такі населены пункт, і я адтуль. Мо ў іх гэта не ругацельна, а ласкава. І больш таго, свет, кажа, такі вялікі, мо я з другой планеты. Мо ён на Марсе знаходзіцца, калі яны меліярацыю раней за нас правялі, такіх канаў панавыкопвалі.

Хто ведае, адзіны Бог, можа, свет вялікі, сапраўды, мо і на самай справе ёсць дзесь на тым ці гэтым свеце такая мясцінка, з такім імем. Ёсць жа парыкмахер і нават цэлыя парыкмахерскія. Ён галавасты, няхай шукае. А Іван ды Мар'я знайшлі ўжо. Знайшлі сына. Хаця ён і не прызнаецца, але адведаць іх прыязджае. і яны ў яго бываюць.

Жанчына замоўкла. Са здаровага і заслепленага вока выкацілася па слязінцы. І аднолькава гарэлі, палалі абедзве палавіны яе твару, прыгожая і пачварная. Але пачварнасць не была ні кідкаю, ні задзірліваю, як і прыгажосць, і здароўе. Усё падраўнялі пакутлівасць і боль, з абодвух бакоў, што злева, то і справа. І боль гэты, здавалася, быў разліты сівушным пахам, пахам поту, сціснутага да неверагоднасці чалавечага нутра па ўсім вагоне.

– Да сына цяпер едзеш, да Іванчыка? – дыхнуў перагарам магільшчык-Хрыстос.

– Не, не да сына. Я ж не пра сябе расказвала, пра Нічыпаровічаў, а я Сідаровіч. Чаго і куды я еду, калі вярнуся, то ўжо інакшая гаворка, не нанач. І за адну ноч усяго не выказаць. Усіх чарцей толькі пабуджу, яны ні мне, ні вам спакою не дадуць. А цябе я зразумела. І на твае словы адкажу табе: не, радзіма – не магіла. Маці гэта родная... Суровая, як наша жыццё, а ўсё роўна жыццё. Ён жа, Іванчык-Пятро, не да магілы ішоў, да маці, хоць і праз мацернае слова. Карэньчык у яго адзін неабсечаны застаўся, пупышка, што нідзе распусціцца не здольная, толькі на роднай зямлі. Вось яна і пагнала яго ў дарогу. І мерцвякі твае, каторых ты сёння зямлёй прысыпаеш, яшчэ васстануць. Душа ўжо іх васстала і цяпер над табой, над усімі намі, над паяздком гэтым кружыцца, супакоіцца не дае. А табе работу памяняць трэба. Вылазіць трэба з магілы, пакуль малады і канчаткова не спіўся, пакуль па калена яна табе, а то і не прыкмеціш, як пакаленні мерцвякоў пацягнуць цябе за сабой. Не прыкмеціш, як сам сябе жывога зямелькай прысыплеш, сам сябе жывога пахаваеш...

Усе мы рамяством і ад рамяства жывем, ды не ўсякае рамяство на ўсе гады падыходзіць. Рана ты вечныя хаты іншым ладзіць узяўся. Табе сеяць толькі пара, а ты прыкопваеш ужо. Магільшчык ты, вось і судзіш усіх з тых магіл, што іншым капаеш.

– Капаю, суджу, бачу, ад чаго чалавек памірае.

– Ад чаго ж чалавек памірае?

– А там усё напісана: ад мясцкома, ад парткома, ад родных і блізкіх.– Магільшчык-Хрыстос расхваляваўся. Балела нешта, балела яму, пякло агнём, мо нават больш моцна за той агонь, што выпаліў вока жанчыне. І ён пазбаўляўся цяпер ад гэтага нездаровага, набалелага, спапялёнага:

– Жыве чалавек, ірвецца ў неба. Як жа: чалавек – гэта гучыць горда. Гордо реет буревестник. І горда, горда ад парога сваёй хаты і зямлі, гною, калодзежа, маці туды, на асфальт, у сталіцу, дзе цёплы клазет, оперны тэатр, універсам. П'е, жарэ, блудзіць, пакуль можа, колькі можа. Згнаіў сябе, сканаў у блудзе: ах, маці-радзіма, клён ты мой опавший. Завяшчаю пахаваць сябе, аддаць зямлі продкаў. Магіламі засеяна тая зямля. Не жыць, а паміраць, класціся, ў магілу едуць на радзіму. Радзіма – магіла. Ведаю, не адну выкапаў, не аднаго супакоіў. Вось яны перад табой, рупліўцы роднай зямлі, радзецелі, паглядзі на іх,– магільшчык тыцнуў пальцам у элтэпэшніка і прастытутку.– Прапойца і праблядзюшка. Таксама ад гною і калодзежа на асфальт кінуліся. І самі сталі гноем. Што ім, пакуль падносяць і бяруць, пакуль клён вясковы яшчэ зялёны і не апаў,

Нахаў твой – начхаць ім. Вось калі чарвяка ў сабе адчуюць, тады пачнуць вохкаць і ўздыхаць, шукаць Нахаў і Нахавус. Так і сын твой. І ты таксама. Маці. Мацёркі пайшлі, кінуць хлопчыка, сына... Сцерва ты!

– Заткніся, мразь,– гэта выбухнула юная прастытутка, што да палымянай прамовы магільшчыка ціха шморгала носам у сваім куце.– Праблядзюшка, а з табой не лягу. З мерцвякамі не сплю. А ты даўно ўжо мярцвяк, жмурык, швондзер, казёл ванючы, – і яна рванулася са свайго кута, як кукалка з кокана, з абдымкаў элтэпэшніка, з запертасці, замкнутасці, нагрувашчанасці і скучанасці людской, ударыла ці хутчэй мазнула па твары Хрыста-магільшчыка:

– Мразь, мразь, мразь. Такія якраз і пачынаюць з ідэалаў, а заканчваюць пад адзяялам.

На імгненне прыпала да брыдкай паловы твару жанчыны, размазала застылую на ім слязу. Хацела бегчы, імкнула бегчы далей. Невядома, куды і як, таму што бегчы не было куды і немагчыма, ніхто не быў здольны саступіць, аслабаніць ёй дарогу, як бы таго ні жадаў. Вагон быў запячатаны целамі людзей, грукацеў і хістаўся, як п'яны, ад перагрузу і хуткасці.

– Не плач, дзевачка, скора ты прыедзеш дамоў, усё яшчэ будзе ў цябе па-добраму. А мужчыны, няхай яны што хочуць, тое і плятуць. А мы, жанчыны, заўсёды і ўсюды – толькі маці. І таму заўсёды адна адну ўгадаем і зразумеем. І аднаго мы заўсёды прагнем – ласкі і дзяцей. У мяне іх двое. І правы ён, правы, сцерва я. Ад другога сына ўцякаю, абрубак, пацурбалак ён у мяне. Роцік, вочкі ды вушкі, што варанятка, якое яшчэ лётаць не можа і не будзе ўжо лятаць. Ні крылаў, ні ручак, ні ножак. Нарадзіла вось такога... Па нашым радзіву мне яго зрабіў бацька наш адзіны. Па нашай пошце ізвяшчэннем даслалі, як газеты дасылаюць. Як чалавек мой памёр, ніколі не слухала тое радзіва, брэша сабе і брэша. А тут уключыла – жыве на свеце чалавек больш горкі за мяне. З Афгану таго вярнуўся, ні рук, ні ног, і прыглядзець за ім няма каму: падаць вады, пакарміць, прыбраць за ім. Вось і крыж твой, сказала сама сабе. Напісала: прыязджай. І забылася ўжо, ні слыху ж, ні дыху не было. А тут паштальёнка наша прыносіць ізвяшчэнне: прыходзь на пошту, забірай свой груз. Я за саначкі і на тую пошту на станцыю, што мне там за груз такі? Прыязджаю, ляжыць на лавачцы, адно толькі вочкамі лыпае. Узяла на рукі, як немаўлятка нейкае, пагрузіла, прывезла дахаты. І, як за немаўляткам, хаджу за ім. Добра, мірна жывем.

Толькі раз ці два ў год падступіць нешта к сэрцу, накоціць.

Падхаплюся я і бягом-бегма. Паспею накінуць на сябе што – накіну, а не – то ў чым стаю. Па лесе, па полі, пакуль гізунты ў мяне не выпра, пакуль не ўпаду. Паляжу на зямельцы сырой, адчую – рана яшчэ мне туды. І зноў да свайго абрубачка, цельпячка з вочкамі. Вось і на гэту хвіліну такое са мною. Але я вярнуся, вярнуся, сёння цёмначы яшчэ буду ў хаце. Крыж свой да канца дзён самой і несці трэба. У поездзе праехала, выгаварылася, на людзей паглядзела. Не ўсе яны бязрукія і бязногія, не ўсе цельпячкі, мне ўжо і лепей. Вярнуся, прынясу дроў, запалю печ. Абагрэю хату, вады нагрэю, памыю сынка свайго, пакармлю яго з лыжачкі. Будзем жыць – прыпяваць. Вёска наша Нахаў не апошняя на гэтым свеце.

Паяздок, тры вагончыкі, птушка-тройка, набраў хуткасць, выхапіўся з цёмнага ляснога тунеля ў прасцяг і, здавалася, дадаў яшчэ хады, лунаў, ляцеў над зямлёю, насустрач бачным ужо агеньчыкам наступнай станцыі.

## Сенакос у канцы красавіка

Ах, як соладка касілася. Як у пору блазнога і чыстага маленства спіцца. Як у смяротным сне п'ецца і есца. Як птушкі ляцяць, як рыбы плывуць, як травы растуць і, пацягваючыся на досвітку, распускаюцца кветкі. І такая лёгкасць ва ўсім целе, такая сытнасць у метале касы, што яна, здавалася, не косіць, а голіць. І бяжыць, і ляціць, і плыве, не чалавекам скіраваная, а сама па сабе, пырхае матыльком па-над лугам. Узмахне крылом – пракос. Узмахне другім – і лугу няма... А лугу і не было. А травы яшчэ не нараслі, нават не адарваліся ад зямлі. А каса была вызубленая і ржавая. І касіць па такім часе было чыстай вады вар'яцтвам.

На касу наткнуліся выпадкова...

Але, з другога боку, у той выпадковасці была свая строгая наканаванасць і прадвызначанасць. Дзень быў такі. Час і месца вялікіх якраз у сваёй прастаце і будзённасці адкрыццяў. На кожным кроку. Таму што ўсе гэтыя адкрыцці былі раней за ўсё ў памяці і сумленні. Памяць і сумленне, што ракавай пухлінай, былі пашкоджаны, ахоплены болем і пакутамі згаданых наперад такіх вось адкрыццяў.

Раненыя людзі ішлі па смяротна знявечанай, скалечанай на стагоддзі зямлі. І ўсё, з чым сутыкалася вока, было ў іх веданні і вопыце і ўжо адчужана і адарвана, адабрана ад іх, ад чалавека. І на роднай праматухне-зямлі сам чалавек здаваўся сабе іншапланецянінам. Гэтыя ж – тым больш, таму што душы іх былі ўжо там, у зорным свеце.

Гэта былі прыхільнікі і бацькі ідэі праекта безракетнага засваення космасу. Міжпланетнага касмічнага кола, здольнага кінуць чалавека ў далёкі зорны свет. Як і на заранцы свайго існавання, на новым вітку чалавечай спіралі думка іх вярнулася зноў да кола, здольнага каціцца не па цвердзі зямной, а пайсці ў бязважкасць, у космас. І былі яны не летуценнікамі-фантастамі, хутчэй паўзучымі, хаця і вельмі дзёрзкімі рэалістамі. На ўсесаюзнай нарадзе, якая толькі што скончылая, фантасты адхілілі іх праект: «Час спыняцца з тэхнікай, хлопцы, трэба думаць аб бацькоўскай хаце».

Вось яны і пайшлі да гэтай бацькоўскай хаты. Сваёй калыскі, каму ў пераносным сэнсе, а каму і ў прамым,– сціпламу і ціхаму тэхніку-палешуку, аўтару праекта, ураджэнцу тутэйшых мясцін. Непадалёку ад якіх, ды і тут, пэўна, роўна тысячу гадоў назад хрысцілася Вялікая Русь. Яго і нашы продкі прымалі хрысціянства. Бралі крыж і ставілі свечку. І тая, успаленая тут у глыбокай

старажытнасці свечка, ішла па ўсім хрышчоным славянскім свеце, пакуль у канцы першага свайго тысячагоддзя святло яе не шуганула, запалала планетарна. І забіла святыя воды. Апаганіла зноў лясы. Пакрыла брыдотай жытло чалавека, звера і птушкі, у адно асляпляльна яснае імгненне паказала чалавеку, што ўжо атамнаю рукою трымаў самога Бога за бараду, усю марнасць і мітуслівасць яго пыхлівага існавання, паставіўшы на будучае тысячагоддзе крыж на ўсім жывым тут: былінцы малой, казяўцы і тым жа чалавеку.

І чалавек, аўтар касмічнага праекта, які ўсяго толькі некалькі гадзін назад так дзёрзка і пераканана сцвярджаў моц духу і розуму, кідаў з трыбуны выклік прыземленай цвярозасці тым, хто не даваў веры ў яго ідэю і думку, сядзеў на парозе сваёй бацькоўскай хаты і плакаў. Плакаў таму, што не ведаў, ці сапраўды яго гэта хата. Хаця памяць, што скіравала яго ногі менавіта сюды, гаварыла: не сумнявайся, тваё і тваёй маці гэта селішча. Ты чуеш, як пахне брагаю. Брагаю пахне, таму што спакон веку жылі тут хмельныя людзі. Брагаю жыцця пахне. Той самай, што не дала памерці табе ў дзяцінстве, калі маці твая вымушана была спажываць адны толькі калгасныя «палачкі». Не сумнявайся, угаворвала яго дасціпная памяць: чыёй жа яшчэ, як толькі не ўдовінай, можа быць такая разбураная хата, халупа, гэты скасабочаны, спарахнелы калодзеж, гэтыя старыя патрэсканыя начоўкі, прыхапкам кінутыя сярод двара. Ты бачыш схіленую над імі сваю маці і сябе бачыш. Гэта ж ты праклаў тут след, збіў расу з травы. Крыху вышэй галаву, чалавеча, і ты зазірнеш у вочы самому сабе.

Але ён баяўся ўзняць галаву. Баяўся параніцца вокам аб даўнюю сваю памяць. І не верыў той памяці, таму што сумняваўся ў самым існаванні сённяшняга дня. Сумняваўся, што таксама, як тысячу гадоў назад і тысячу гадоў наперад, свяціла і будзе свяціць сонца. А яго яшчэ няма і не будзе ўжо. Яму дадзена толькі імгненне ў сёння. І гэта імгненне спалена полымем планетарнай свечкі.

І нічому цяпер ён не верыў. Ні памяці, ні розуму, ні воку, ні слыху. Не верыў, што знаходзіцца на зямлі каля бацькоўскай хаты. Таму што была ў яго недарэчная і вельмі дзіцячая звычка браць усё на зуб. У задуменнасці, скрусе і радасці браць у рот траўку, голку хвойную, галінку бярозавую і жаваць у рассеянні, застаючыся ўважлівым да сваіх думак, не губляючы іх, мацуючыся сокам роднай зямлі. Зараз ён не мог сабе гэтага дазволіць, не мог дазволіць такога простага дзіцячага дзеяння, таму што атрутным мелася ўсё тут, сёння, зараз і на пакаленні, пакаленні наперад, чаму таксама ён, як нармальны чалавек, не мог даваць веры.

Зняверанасць яго, як ні дзіўна, была ўзгадавана і выпеставана з усёпаглынаючай веры і надзеі. Веры і надзеі ў сваю зямлю, у чалавека, у яго па-сапраўднаму светлае будучае, у сябе. Веры і надзеі, што калі-небудзь ён вось так во, у светлым, замежным, мадняцкім плашчыку і ў чорным айчынным велюравым капелюшы, проста прыйдзе і сядзе на парог сваёй матчынай хаты. Да сваёй малой радзімы, з якой жыццё яго па жывым выдзерла каля двух дзесяцігоддзяў назад. І ён, блукаючы па свеце, столькі разоў бачыў яе ў сваіх снах, што бясконца паўтараліся з ночы ў ноч. Столькі сніў, трызніў ёю, што пачаў забываць гэту сваю малую радзіму. У аглухлай і адміраючай з цягам часу памяці яна паўставала не горшай і не лепшай за вялікую радзіму, за тыя мясціны, дзе ён потым вымушаны быў жыць.

Гэта – амаль Байканур, адкуль бралі разбег у космас ракеты і касманаўты. Дзе, можа, перад ім і адчыніўся космас. Космас, які меўся месціцца не на іншых светах, далёкіх, населеных інакшымі цывілізацыямі планетах, а ў тым што вакол яго і цяпер мікра і макра. Той жа самай пчале, якая гула над ім, зачараваная іскрыстым колерам яго чорнага велюравага капелюша, нібыта той капялюш быў меданосны. Нібыта са слязьмі на вачах меданосным зрабіўся і ён сам.

Гэтую пчалу і меданоснасць бацькоўскай хаты ён адкрыў толькі што. Адкрыў і заплакаў. Сам яшчэ не цямячы, чаго і чаму. Плакаць можна і трэба было куды раней. Падумаеш, што за дзіва такое – пчала. Усяго ж нейкіх гадзіну-дзве назад адбылося адкрыццё куды больш значнае, амаль Калумбава. Быў адкрыты нікому з іх невядомы раней новы мацярык. Мацярык у мацерыку. Новая Амерыка. За калючым, праўда, дротам. Зваўся ён «Запретная зона. Проход воспрещен!». Акуратныя літаркі на звычайнай дошцы, прыбітай да звычайнага, але па моцы сваёй і значнасці амаль дзяржаўнага пагранічнага слупа.

І ўцякаючы ў далячыць часоў канцлагераў і фашысцкай акупацыі – плот з калючага дроту. А па абодва бакі, як на лінейцы, што створана з калючкі,– лясы, лясы, лясы. Свабодныя і арыштаваныя, што ўсведамлялі гэту сваю арыштаванасць, панура адмаўляючы надыход вясны. Да самых грудзей зямлі прытуленыя ядлоўцы. Раней за вольху цяжарная пупышкай, што прадракала і ў зняволенасці сухое гарачае лета, бяроза. Строгая ахова, што мала-мала разумела па-руску. Пазяблыя ў пустцы Палесся паўднёвыя салдацікі. Маўклівыя, але з вострым адчуваннем брыдоты чужой ім зямлі, пры кожным дотыку да яе, да дрэва, дроту, шаравалі адэкалонам рукі. І таму ўсё вакол было духмяным да прыкрасці, пахла парфумерыяй так, як у

галантарэйнай лаўцы пад час нейкай пачварнай і таннай галактычнай распрадажы.

Распродаж укладу і ўстояў, духу, самога жыцця, што некалі кіпела тут. Прадаецца мацярык, прадаецца зямля. Пакупнікі там, за буграмі хмар, у блакіце неба, мо самі багі-айцы. І прадаўцы, пэўна, там, разам з імі на Алімпе, гандлююць зямнымі трантамі. Вось гэтым, што адмыты дажджамі і кінуты ў тло беларускіх белых пяскоў партрэтам чатыры разы герояноснага, казкамі, паданнямі, сцягамі, заклікамі. Хата пакінута, гаспадары два гады ўжо як з'ехалі, выракліся яе. І дух вакол ужо незямны, не людскі. Вось-вось, здаецца, спусціцца з неба ці вынырне з балотнай багны хтосьці ці штосьці. Марсіянска-павукападобнае і скажа: чаму зноў чалавекам пахне, прэч, прадана ўжо, маё.

Вось бы дзе і калі нема раўнуць бялужынай. Але не. Гэта адчуванне і адкрыццё было калектыўным, раскладзеным, размеркаваным пароўну на плечы кожнага. А калектыў, як вядома, вялікая сіла. Калектыву плакаць непрыстойна, змагацца і перамагаць – доля і лёс калектыву.

Апрача ўсяго, да нечага падобнага яны ўжо былі падрыхтаваны, калі можна так сказаць, калі можна да гэтага падрыхтавацца. Адзін з іх, масквіч, доктар тэхнічных навук, спачатку нават адмаўляўся сюды ехаць: «Навошта, што я, могілак не бачыў. Нагледзеўся, не хачу». У зоне ён адкрыў для сябе беларускія бела- і сінявокія пралескі, дыван, мора кветак, што цвілі з нейкім сутаргавым і нястрымным адчаем, пралесак, якіх ён ніколі не бачыў. Жудасць была схавана не ў могілках, а ў нармальным, нават будзённым чалавечым жыцці тут, больш таго, у скасаванасці, вынесенасці за дужкі чалавечага існавання самога паняцця могілак. Выгараджанасці іх у той самай зоне калючым дротам, непадступнасці для жывых. І калі хто жывы, дзед ці бабуля, узгадвалі могілкі, у самотныя старэчыя ночы прыходзілі да іх нябожчыкі іх, дакаралі, звалі да сябе, яны ішлі да іх употайкі, па-звярынамуляснымі сцежкамі. Па-звярынаму рабілі лаз пад калючым дротам і з той жа самай патаемнасцю спяшаліся на покліч родных могілак. Дзяліліся з нябожчыкамі хто кавалкам хлеба, хто цукеркай ці яблыкам, а хто і чаркай.

Аб гэтым яны пачулі, дазналіся яшчэ да адкрыцця мацерыка «Запретная зона», у дарозе, са слоў тых, хто падахвоціўся правесці іх у гэту зону, у якой апынулася родная вёска аўтара касмічнага праекта. Ахвотнікаў набралася шмат, ледзь улезлі ў два «газікі». Адным было цікава пагаварыць са знакамітым земляком, другім – край як трэба было ў тую ж вёску. Гэта былі аднавяскоўцы аўтара, іх зводзілі скруха

і смутак па пакінутых бацькоўскіх хатах. Хтосьці ехаў па абавязку службы.

Садзіліся ў машыны мітусліва і шумна, нібыта ў госці ўсё роўна выбіраліся, па-чалавечы нармальна, як спакон веку заведзена выпраўляцца ў дарогу. Гаспадар выйшаў з кабінета заклапочаны, укінуўся ў машыну, як стрэлілі ім. Прыціснулі ваенныя: Першамай на носе, хаця б некалькі сот шакаладных цукерак у падарунак дзятве, па адной бы хоць цукерцы на той жа іх «нос». А цукерак гэтых шакаладных... Такія вось справы... І бездапаможнасць дратавала і муляла яму, мо нават больш, чым гасцям звычайная будзённасць яго клопату і гэтых збораў, загадзя ўжо назапашаная і прымножаная туга ад дарогі, што выпадала ім, сустрэчы з невядомым, не спазнаным яшчэ розумам. Гасцям, у любым выпадку,– гэта толькі экзотыка, казытанне нерваў. А яму – побыт. Два гады ўжо вось такога звычайнага побыту, што горш турмы.

Вадзіцель яго машыны ўвесь час шнарыў па кішэнях. Усё некуды знікалі, губляліся ключы.

– Толькі што былі. Дзед наказваў хату адведаць, маці – паглядзець швейную машыну... Куды падзеліся, толькі што былі... – Вадзіцель не проста вёз людзей, ён ехаў дахаты.

Другі вадзіцель разам са сваім гаспадаром, старшынёю калгаса, правяралі, ці спраўны дазіметр.

– Тут, у горадзе, рабіў, а там, сляпы сказаў – пабачым...

Госці, тэхнары, аўтар праекта, журналісты трымаліся пакуль убаку, сваім гуртам, трохі нават як бы вінавацячыся нечага. І гэта хутчэй за ўсё была ўжо вінаватасць спасціжэння адчужанасці іх жыцця ад жыцця людзей, да якіх яны прыехалі. Адчуванне сутыкнення ў адной прасторы двух светаў, што існавалі паралельна. І не дзе-небудзь у космасе, а тут, на зямлі, у адной кропцы, пад адзіным дахам, адным сонцам і небам. І светы гэтыя ніколі і нідзе не могуць састыкавацца па той простай прычыне, што паміж імі не існуе мяжы, якую можна ўбачыць. Хаця гэта мяжа і ёсць, яна і ў часе: ноч з 26-га на 27 красавіка 1986 года. Яна і ў прасторы, куды дасягнула тая ноч. І ўсё ж чалавечаму воку яна нябачна. Таму што з другой эры, атамнай, з наступнага, заўчасна надышоўшага тысячагоддзя, каб пасягнуць яе розумам, патрэбна зусім інакшае, новае мысленне, да якога чалавек дваццатага стагоддзя яшчэ не падрыхтаваны. І сам чалавек у сваім стагоддзі наўрад ці з'яўляецца.чалавекам. Ён выкраслены з жыцця самім часам. І рыса тая, што па-дзяліла чалавека адным асляпляльна ясным імгненнем на чыстых і нячыстых, толькі ў падсвядомасці. Адчуць яе магчыма вось

толькі па такіх дробязях побыту, з якімі яны пачалі сутыкацца на кожным кроку, як толькі ступілі на мечаны мацярык. Пэўна, больш выразна ўбачыў яе толькі адзіны чалавек. Акадэмік Легасаў, што іменна ў той дзень развітаўся з жыццём... Паведамленне аб гэтым яны пачулі з машыннага радыё ўжо ў дарозе. Акадэмік Легасаў, якога ўразіла не сама зона, а паводзіны сабак, што жылі ў ёй. Імкненне сабак да чалавека і ўцёкі чалавека ад іх.

Мо, ступіўшы на родную зямлю, пачаў разумець і аўтар касмічнага кола. Але да поўнага пранікнення было яшчэ далёка. Круціліся колы аўтамабільныя. Набягала знаёмая па маленстве, што йі крыху, здаецца, не згубілася ў сваім новым быцці зямля. А ўсё роўна інакшая, інакшая. Гэта ён яшчэ павінен будзе спазнаць, усвядоміць, асэнсаваць, знітавацца з ёй, каб адкрыць для сябе. Сумясціць, сплавіць у адну чалавечую мову ці не дзесяць моў, пластоў, жаргонаў: ваенны, атамны, блатны, звычайную адміністрацыйна-беларускую старую трасянку і мову новую, што фармавала ўжо атамная эра. Зліць у адно быццё дзесяткі формаў існавання, што меліся тут: дазволеных, злачынна падахвочаных, забароненых, нелегальных, падпольных – партызанскіх.

– Наш раён падзелены сёння на тры зоны, – трохі гідаэкскурсаводчым тонам адразу, як толькі выехалі з горада, пачаў гаспадар.– Першая, па якой мы зараз праязджаем,– зона нармальнай сельгасвытворчасці. Мы называем яе чыстай, хаця малако ідзе бруднае. Лічыцца чыстым...

У чыстай зоне ішла сяўба. Было суха, і над палямі віселі грыбы вясновага пылу. Адпраўлялася старажытнасвятая і пакутная сялянская работа. Зямля прымала ў сваё пладаноснае ўлонне бульбу і жыта, каб доўжыць і надалей сябе і род чалавечы. Але свядомасць буксавала і адмаўлялася прымаць гэтую работу ў першародным яе прадвызначэнні.

– Па вытворчасці прадукцыі планы нам не зніжаны, хоць чыстая зона мае яшчэ і свае зоны. Зоны жорсткага кантролю. Глеба забруджана. Прадукты – ужыванне абмежаванае. Насельніцтва атрымлівае па трыццаць рублёў на кожнага жыхара.

– Так званыя грабавыя?

– Можна і так, хаця не зусім згодны... Дзеці бываюць у школе па 10–12 гадзін. Арганізоўваем харчаванне на месцы. Дома? Дома таксама дапамагаем з харчаваннем. Гаспадаркі даюць малако... А як жа, і свае каровы трымаюць... Ну вось, і вы туды ж. Слухайце, што вы мяне як на допыце катуеце,– гаспадар збіўся з экскурсійна-гідаўскай гаворкі. Нейкі час сядзеў у задуменнасці, пазіраў у акно

машыны на толькі што ўзаранае поле, трактары, што беглі па ім. І папраўдзе, маўчанне яго было зацята каменным, незямным, нечалавечым. Магчыма, у такой маўклівасці і напружанасці і працуюць атамныя рэактары. А ён усё ж быў чалавекам, хаця, пэўна, і апраменным.

– Я не магу выказаць, што я перажываю, што пераношу, як жыву. Растлумачыць нічога не магу. Павінен, абавязаны гаварыць з народам. А я ж таксама народ. Езджу, гавару. Мову сваю родную люблю... Прызнаюся вам, пакласці галаву на плаху было б лягчэй. Народ мне: чаго ты да нас едзеш. Да нас павінен прыехаць той, хто можа рашаць. А той, хто можа рашаць, не едзе сюды. Прыязджаю ў вёску, іду ў самую непрыглядную хату. Сустракае старая. «Як жывяце, бабуля»,– пытаюся. «Хараша, родненькі, дзякуй табе на добрым слове».– «Карову, бачу, трымаеце, што з малаком робіце, вы ж павінны яго здаваць, а вам у магазін завозяць чыстае. Хапае малака?» – «Завозяць, яварка мой,– гаворыць,– хапае малака». «А сваё?» – «А сваё ўсё роўна п'ю. Сама, і ўнукам даю».– «Што ж ты робіш, бабуля, ведаеш?» – «Ведаю,– адказвае.– Але як не даваць, калі ён пад рукі і напрамілы бог просіць: бабуля, я хочу цёпленькага».

Колы «газіка» не спынілі кружэння. Як і дагэтуль слалася пад імі дарога, стары гасцінец, густа засаджаны дзедаўскімі грушамі. Але ўсё вакол раптам апусцела і абязлюдзела, хаця і мільгалі хаты і цэлыя пасёлкі, прабягалі міма шматпавярховымі будынінамі. Жыцця не адчувалася. Прысутнасці духу людскога, што адным толькі сваім дыханнем здольна ажывіць і дрымучы лес, і самае клятае балота, прымусіць іх таксама дыхаць. Тут жа гэта дыханне людзей, хат і дрэў, здавалася, было забіта. Задушана і невідушча лупалі на дарогу вочы шматпавярхоўкі. Зрэдку, праўда, на сялянскім падворку, на сотках мільгала нешта падобнае і на чалавека. Убачыўшы ці, нават хутчэй, пачуўшы машыну, хавалася, бегла за вугал хаты, хлява. І было ў тым спалоханым і паслухмяным старэчым дыбанні штосьці да немагчымасці жаласлівае і абразлівае, ад чаго разрывалася сэрца. Мо іменна ад такога відовішча парвалася і душа акадэміка Легасава, таму што, па яго словах, так бегалі і хаваліся тут людзі ад здзічэлых зонных сабак. Людзі ад сабак. А тут жа яшчэ больш жахліва: людзі ад людзей.

– Самасёлы. Партызаны,– растлумачыў гаспадар.– Во дзе слёзы, во дзе адно толькі гора. Сацыяльна безабаронныя больш чым дзеці. Пра дзяцей хоць нехта непакоіцца. А гэтыя людзі не знайшлі і ўжо не знойдуць на зямлі месца сабе... Другая зона – зона адсялення. Тры эвакуацыі прайшлі... Выдалі эвакуацыйныя пасведчанні, развіталіся:

добрай дарогі і шчасця на новым месцы, атрымаеце без чаргі і клопату гарадскія кватэры. Яны і паехалі да дзяцей: Кіеў, Мінск, Гомель. Атрымалі кватэры і сталі лішнімі, непатрэбнымі... Той-сёй з іх проста не вытрываў гарадскога жыцця. Пачалі вяртацца на старыя селішчы. А жыць тут нельга. Хаця мы і вядзём некаторыя сельгасработы. Сеем як можам, выкарыстоўваем зямлю...

Трэцяя зона, самая страшная, была як збаўленне, як падарунак і ўзнагарода за тое, што прайшлі другую.

– Зона адчужэння. Чорная зона. Зона за калючым дротам. Доступ абмежаваны. Толькі па асобных прапусках. Будзем пранікаць?

І пачалося пранікненне.

Спачатку маўклівае, патаемнае, як дэсант на варожую, акупіраваную ворагам зямлю. Першыя крокі. Ступалі на зямлю асцярожна, нібыта яна замініравана і магла выбухнуць кожную хвіліну. Прыглядаліся да кожнага куста ці дрэва, нібыта чакалі засады, аўтаматнай чаргі. На вясновую ваду, што разлілася па абодва бакі дарогі, глядзелі нібы адтуль магла вынырнуць падводная лодка. Але і вада, і лес, і дарога былі абыякавымі да чалавека. Яны не пазнавалі чалавека. Ці то паспелі ўжо забыць пра яго, ці то, наадварот, вельмі добра помнілі. Здраду яго помнілі. Як хапатліва збягаў чалавек ад гэтай зямлі, усё роўна што ў тым жахлівым сорак першым. Больш жахлівым, таму што збягалі назаўсёды. Той жа самы папрок быў стоены і ў чорных, змрочных ліках хат, якія змарнела сохлі без цеплыні чалавечага вока. Вёска не хацела, адмаўлялася прызнаць іх за людзей.

І людзі, здаецца, зразумелі гэта. У іх паставе знікла салдацкае, захопніцкае. Па вясковай вуліцы яны ішлі як дзеці, якія толькі што навучыліся хадзіць, зведалі зямлю, але яшчэ не рызыкавалі даверыцца ёй, упершыню ступілі за парог бацькоўскай хаты, адны на ўсім свеце, заблукалі ў красках і гуках, разнастайнасці белага свету, што адчыніўся ім. Свету, невядома яшчэ, добрага ці злога. І паводзілі яны сябе як дзеці, збываючы ў словах свае жахі. У словах, на першы погляд, пустых і нязначных. А на самой справе патаемных, запаветных, што прыналежалі душам іх, сэрцу, таму што ў тыя мінуты яны не кантралявалі сябе. Унутраны цэнзар іх памёр. І не на пустыя, пакінутыя хаты яны глядзелі, а ў сябе.

– Цішыня, як на могілках апоўначы. І жабы нават не чуваць,– гэта старшыня калгаса.

– Пры чым тут, прабачце, к чорту жаба...

– Мы краіну выратаваць, абараніць хочам, а жабу не можам, не здольны. Адно балота тут было ў нас на ўвесь раён. Адна на ўвесь раён

жаба. А як квакала. Спецыяльна ездзіў паслухаць. Сяло – заглядзенне. Жаба – любата... Хоць я яе і не бачыў. Думаў, што яшчэ паспею, убачу. Не паспеў, не ўбачыў. Прыйшлі меліяратары, замоўкла жаба. У калодзежах вады не стала. Апошняе балота, дзе жабы спявалі, знішчылі.

– Старая ўчора да мяне прыходзіла,– сказаў гаспадар.– Прасіла за сына. Спецыяліст, з'ехаў, збег... Дайце каманду, каб яму блага там не рабілі. Адцайце працоўную кніжку. А я б яго... сам шлёпнуў. Расстрэльваў бы кожнага, хто бяжыць адсюль,– і такая бязлітаснасць і жорсткасць усяленская, сусветная, нібыта расстрэлы гэтыя ўжо адбыліся, скрушна прагучалі ў яго голасе, што яму не паверылі. А мо і спалохаліся.

– Таварышы, таварышы,– доктар тэхнічных навук. – Ёсць падтрымка вельмі магутнага лобі. Але... Няма грошай. Мільярда не хапае. Мільярд рублёў на праект, на кола. І мы вынесем усе тэхналогіі ў космас. Зямля стане першабытна-чыстай...

– Трусы мае не вытрывалі. Перадохлі ўсе ў трэцім пакаленні, – вадзіцель машыны старшыні калгаса. Яго не пачулі. Заглушыў голас старшыні калгаса:

– Зразумеў ідэю. За народам слова. Народ вас падтрымае. Я мільянер. Я рызыкую...

– Памаўчы, мільянер, – паспрабаваў спыніць яго гаспадар. Але старшыня ці то не зразумеў, ці то свядома не паслухаўся.

– Мільянер. На першае сакавіка 989 тысяч рублёў. Праект, пра які вы гаварылі, прымаецца, таму што ён бароніць зямлю і жабу. Наш народ вас зразумее. Адарве ад сябе пяцьдзесят тысяч.

– Хадзіў да ўлад, да самых вышынь даходзіў. Глядзяць як на вар'ята: космас, кола, -- бульбу выкапаць трэба. Прыйду да народа. Упаду перад народам на коленцы. Землякі ж, землякі...– аўтар праекта.

– Я адсюль родам. Я два гады тут не быў... Ужо два гады. І раптам гавораць: пойдзе машына сюды. Другая, не мая. Я сам напрасіўся. Хай мая машына следам. А раптам ды першая зломіцца. Дзед ключ ад хаты прытарабаніў. Бацька ключ даў ад хаты...

Яны гаварылі то кожны паасобку, то ўсе разам. І кожны аб розным, сваім. Але калі сабраць усё ў адно – аб адным. Толькі вельмі адцягнена, здаецца, нават знарок замагільна, незямно. Патубакова. Усё было незямным, патубаковым. І невядома, дзе сама зямля, дзе і які яе бок, хто і што па які бок. Расшчэплены мірным атамам, у друз, на атамы разбіты свет, па атамах разведзены ў розныя бакі свет.

Па той бок, за нябачнаю рысаю яго, засталося ўсё, чым яны жылі

раней. Стары, пакінуты на дарозе фінішнай стужкай вясны – 86 вучэбны кінафільм аб грамадзянскай абароне. Яны паднялі яго і паглядзелі некалькі кадраў. Лухта, «чушь собачья». Адразу ж і кінулі. Ні на мінуту не спыняючыся, прайшлі міма недабудаванага Палаца культуры, нібыта разбуранага на ўзлёце касмічнага карабля, канторы саўгаса, з-за плота якой выглядвала Дошка гонару, аздобленая з двух бакоў заклікамі: «Да здравствует коммунизм!» і «Слава КПСС». Зайшлі ў школьную майстэрню. Там акуратным радком, як труны, стаялі зробленыя і яшчэ не зусім зробленыя шпакоўні. Выхапіліся на свежае паветра, як варам іх абварылі. Магазін сустрэў іх затхлай вільгаццю пустых, хоць шар пакаці, вітрын. Затое ж бібліятэка была забіта кніжкамі. Кніжкі на паліцах, кніжкі на падлозе, уперамешку з бітым шклом, цэглаю, тынкоўкаю. Дастаеўскі, Талстой, Быкаў, Брыль, Адамовіч і томікі сачыненняў Леніна. У бібліятэцы яны хацелі памераць радыяцыю. Няўдала. Дазіметр зашкаліла.

І падобна, усё тут было за той шкалой, за рысай чалавечага разумення. Адчуў гэта ці проста не вытрываў вадзіцель, кінуўся з бібліятэкі, крыкнуў у пралом акна:

– Я да хаты! – і бягом, набіраючы хуткасць, пакапацеў да дзвюх хат, што стаялі наводшыбе, як на хутары.

Калі яны падышлі да тых хат, вадзіцель, не заходзячы ў двор, усё яшчэ тэпаў каля веснічак:

– Не магу, хтосьці не пускае... Вот жа людзі, усе рамы павыломвалі...

– Не пускае хтосьці... Мы пускаем. Ідзі.– Адчынілі веснічкі, упіхнулі яго ў двор. Але і ў двары ён раптам спыніўся, збіўся з кроку каля хлява:

– Глядзі ты, во дзіва, нават футбольная форма захавалася... Я капітанам каманды быў... Вось буцы засталіся...

З гэтымі буцамі, нібыта яны прыклеіліся да яго рук і прызначаны былі для таго, каб насіць на руках, ён увайшоў у хату. Па ўсяму, яна яго не вельмі ўзрадавала. Па крыку і стогну, што вырваліся з яго, здаецца, нават ударыла. Дала і па носе, і па галаве, і ў вока – прылажылася так, што яго аж у бакі павяло.

– Бацькаў шкап паламалі. За што яны яго, не разумею. Ён жа сваімі рукамі яго рабіў.

Паламаны быў не толькі шкап, паламана, перавернута дагары нагамі ўсё, што можна зламаць і перавярнуць.

– Ахраняльшчыкі нашы і абаронцы, салдаты, – сказаў другі вадзіцель, зазірнуўшы ў хату,– што казённаму чалавеку трэба. Накармілі яго – выпіць дай. Гарэлку шукалі.

– А машынку не кранулі. Маці наказвала, знайдзі і прывязі. Гэта ж памяць. Гэта ж яе маці машынка. Такую вайну пераҗыла. У зямлю была закапана, спраўна. Пасля вайны ўсіх нас карміла. А тут, у чым былі, у тым і з'ехалі. Усё кінулі, рынулі. І машынку. А гэта ж «Зінгер»... Прывязу, во рада будзе...

Але не толькі «Зінгер» мацерын ацалеў у хаце старога лесніка. Знайшлося там і гэткае, што здольна было падвесяліць і мужчын, што шукалі і не знайшлі салдаты. Невядома як і чаму, але салдаты не знайшлі лаза ў падпол. Ці то не ўгледзелі, ці то вельмі ўжо спяшаліся ўспароць мяхі з жытам, якія ляжалі ў куце хаты. Мо думалі ў жыце каштоўнае нешта схавана, грошы, золата. Засыпалі жытам усю падлогу і лаз прысыпалі.

Вадзіцель дастаў з пограба некалькі слоікаў з варэннем.

– Стаўляй назад,– загадалі яму,– пластмасавыя крышкі, бруднае будзе... Што там, больш нічога такі і няма?

– Ёсць, бярозавік,

– Колькі градусаў?

– Два літры. А крышка таксама з пластмасы.

– Калі сок сапраўдны, ён у любым посудзе не псуецца.

Сок аказаўся сапраўдны. На ўсякі выпадак яго праверылі ці хутчэй зрабілі выгляд, што правяраюць на радыеактыўнасць, паколькі праверыць усё роўна было немагчыма: дазіметр зашкалівала.

Машыны ў вадзіцелей былі абсталяваны, знайшоўся і посуд, і хлеб, і сала. А на бацькоўскіх градах ужо набірала стрэлку цыбуля.

– Ну, за што, за здравіе ці за ўпакой?

Вырашылі, што і за здравіе, і за ўпакой адначасова. І як заведзена на хаўтурах, капнулі па кроплі на зямлю, пад лямцавую вішаньку, каля якой размясціліся. Узнялі ўгору шклянкі, узнялі ўгору, у неба галовы. І вочы туды ж узвялі, нібыта адмаўляліся бачыць перад сабою гэта ўбогае, раскіданае селішча, гэту ўбогую зямлю. Самога бога жадалі ўбачыць. І з богам.

Вось тут якраз і з'явілася пчала. Загула спачатку над вухам адным, потым – другім. Злосна, жорстка, не прымаючы, пэўна, самагоннага духу. Абрала самага нялюбага ці, наадварот, таго, што найбольш быў даспадобы ёй, аўтара праекта. Літая, што куля, закружыла, закарагодзіла перад вачыма, калі ён зноў апусціў іх на зямлю. Калі зноў перад яго вачыма паўстаў убогі падворак, рассохлая, вывалачаная на самую сярэдзіну яго лодка. Дакор і боль. Немы плач і крык з выбітых вокан хаты, згрувашчаных каля хлява пустых вулляў.

– Пчала, – сказалі ўсе разам, нават тыя, хто не піў самагонкі, не звяртаўся да бога. Сказалі, нібыта перад імі быў сам Бог у вобразе

пчалы. І аўтар, што інстынктыўна ўзняў ужо руку, каб адагнаць пчалу, апусціў нецярплівую тую сваю руку. Пчала захадзіла перад вачыма скокам уверх – уніз і па крузе, як ходзіць сама зрэнка чалавечага вока. А мо на самой справе гэта так пачалі хадзіць яго зрэнкі, нешта імкнуліся вымаргнуць, што трапіла ў вока. Але з вока нічога не выміргвалася, і пчала не пакідала яго, не змяняла скокаў. Ён адышоўся ўбок, каб ніхто не бачыў яго мірглівых вачэй. Пчала пайшла за ім.

Але нехта ўсё ж убачыў яго вочы. Мо нават усе ўбачылі. І таксама адышліся, падышлі да хлява. А там, як чакала іх, стаяла каля сцяны старая ржавая каса. І як толькі што пра пчалу, яны ўсе разам выдыхнулі раптам:

– Глядзі ты, каса... Дзед касу пакінуў.

– Гэта каса не дзедава, а бабуліна... – зноў загаманілі амаль усе.

– Дзед хату пакінуў, пайшоў ваяваць. Грэнада, Грэнада, ёш тваю маць,– маскоўскі журналіст.

– Хлопцы, а двор жа ўвесь зарос. Глядзіце, увесь у палыне. Усё вакол у палыне,– гаспадар.

– То не палын,– папраўлі яго.– Чарнабыл.

– Усё роўна. Усё зарасло. Чарнабыл. Чарнабыл вакол. Касу мне, Федзя.

І пайшла каса па двары. Каса, некалі краса, а цяпер што калун. Касавішча без дзержака, без лучка, спрахла, пэўна, лопнула перавязь яго. Лучок упаў, згубіўся ў прыхлеўным смецці. Носік, зжаваны ржой, абламіўся, упаў на першым жа замаху. Але касец не звярнуў на гэта ўвагі. Працягваў касіць, і касіў хвацка

– Вось так, вось так. Бі гадаў, трушчы іх. Ссякай галовы. Чарнабылу канец. Чарнабылу канец.

І ўсе, хто быў там, акрамя аўтара, ішлі за ім следам.

– Канец, канец.

І рвалі з рук яго касу:

– Хопіць, спыніся. Пакінь і на нашу долю трохі.

– Не падыходзь, не падыходзь,– выхукваў ён у адказ.– Ногі, хлопцы, ногі беражыце. Пяты падрэжу. Дзеўкі любіць не будуць.

Пасля яго касою авалодаў старшыня калгаса.

– Душа сялянская прасторы просіць.– І пайшоў. Спачатку не вельмі ўпэўнена, што адразу прыкмецілі і адпаведна пракаменціравалі:

– Сачок.

Але трохі пазней словы гэтыя прыйшлося ўзяць назад.

– Не, добра косіць, на пяцёрку.

– Зямляк, зямеля,– пачалі клікаць аўтара праекта, што стаяў у

баку ад іх.– Ідзі да нас. Пакажы і ты нам, на што здольны.

Але ён пайшоў зусім у другі бок. Прэч ад гэтага двара. Недзе тут, у гэтай вёсцы, стаяла і яго хата. Чарнабылам быў парослы і яго двор. Хата, у якой ён нарадзіўся. Але ён не помніў яе. А карцела да слёз знайсці тую хату.

Хата з'явілася перад ім як з казкі, нібыта са сноў яго выплыла. Толькі ўсё ж ён не быў упэўнены, што гэта іменна яго хата. Але калі яна прыйшла да яго, сама прыйшла, значыцца, яго. Ён сеў на лаўку. І тут перад ім зноў апынулася пчала. Ці то тая самая, з двара вадзіцеля, ці з яго ўжо двара, што іменна яго і чакала. Ён не ведаў. Пчала і пчала, як літая куля. Ён зноў пацягнуўся да яе рукою, але зусім не таму, што хацеў прагнаць, аблашчыць, пагладзіць. Пчала адляцела трохі ўбок. І ён заплакаў. Зразумеў усё, сёння, прыйшоўшы да бацькоўскай хаты, ён не знайшоў, не вярнуў яе, а згубіў. Згубіў, страціў назаўсёды. Сёння ён стаў жабраком. Больш бедны, чым самы апошні жабрак. Такі бедны, што і ўявіць сабе немагчыма. У самага апошняга жабрака ёсць усё ж радзіма, ёсць зямля, на якую ён можа прылегчы жывы і ляжа, адыходзячы ў яе, мёртвы. У яго адабралі і гэта. Адабралі тое, чаго немагчыма адабраць нават у звера, казюркі і жабы. Травінку, хвойную голку і тую выдзерлі з рота. Нічога ў яго няма і ніколі не будзе. Не можа быць. А з двара рэхам усё яшчэ гучала на ўсю акругу:

– Рубі гадаў, бі гадаў. Дзед будзе задаволены, пакасілі яму двор. Чарнабылу канец, канец. Канец.

...Не, не канец. З-за ракі, з другога яе высокага берага, глядзеў ім у вочы, стаяў і пасміхаўся, як касмічны прыхадзень, змрочны і чорны волат-саркафаг.

ЭСЭ

## Паездка ў Філадэльфію

Яе нечаканае з'яўленне на ганку радэнаўскага музея можна, бадай, параўнаць са з'яўленнем чорціка з табакеркі. Хоць як ён з'яўляецца, я не ведаю, бачыць таго не даводзілася. А вавёрачка ўзнікла на шэрым, злізаным мноствам падэшваў камені ганка, як чорцік. І падобная была на чорціка самага што ні ёсць сапраўднага. Такая ж брыдкая, хоць і кажуць, што брыдкіх дзяцей і звяроў не бывае. Ды гэта была сапраўды брыдкая вавёрачка, каюся, можа быць, брыдкая на мой погляд. Усё ж гэта была амерыканская вавёрачка. Маленькая, меншая за нашых, а можа, гэта мне таксама толькі падалося, срабрыстага колеру, пад музейны камень, з пушыстым хвосцікам-званочкам і празрыстымі вушкамі-рожкамі. Бязмежна даверлівая, з жаўтлява-чырвонымі, вымольнымі вочкамі. Усё было ясна, яна выпрошвала арэшкі. Стаўшы на заднія лапкі, абапёршыся на хвосцік, цягнулася да мяне лапкамі-далонькамі пярэднімі. Але арэшкаў у мяне не было. Іх не было і ў негра, служыцеля музея. Адзінае, чым мы маглі адказаць на просьбу звярка,– гэта проста ўсміхнуцца. Што мы і зрабілі. І папялушка зразумела нас, здагадалася, што абодва мы, белы і чорны, не прынцы, выгнуўшыся сваім гнуткім целам, скокнуўшы з ганка, замяла свой след на мяккай зямлі пушыстым хвастом і шмыгнула пад густую навісь нейкай амерыканскай, не вядомай мне газоннай расліннасці.

А я, ашаломлены, таму што гэта для мяне сапраўды было падобна на пушкінскае: «Я помню чудное мгновенье...», з нейкай дзіўнай запаволенасцю сышоў з каменных прыступак ганка, адышоўшыся трошкі ўбок, і застыў непадалёк ад радэнаўскага «Мысліцеля», быццам недарэчная, карыкатурная копія яго. Усяго ж толькі хвіліну-другую назад я выйшаў з залы, запоўненай пакінутымі ў мармуры і бронзе святлом і думкай вялікага скульптара. Перад вачамі ўсё яшчэ стаялі вылепленыя ім, выстаўленыя насустрач мне з далёкага мінулага рукі. Можа быць, яго, Радэна, уласныя рукі, рукі генія, музыкі і майстравога, дужыя і разам з тым чуйныя, выбухова нервовыя. Сярод напачатку незразумелага мне мноства скульптур адна так і называлася «Рукі з магілы», прынамсі, так мне пераклалі яе назву. Яна больш за ўсё і ўразіла мяне. Не, не дасканаласцю формы ці нейкай асаблівай выразнасцю, пластыкай. У гэтым я, аб чым вельмі шкадую, не разбіраюся, не ўяўляю нават, чым павінен мяне ўражваць скульптар. Усхваляваў менавіта гэты, быццам непасрэдны зварот да мяне, жывога,– зварот з мінулага. Здаецца, я пачуў голас скульптара,

якi адышоў туды, у вечнасць. I больш нiчога не стаў глядзець у музеi Радэна.

Бяру на сябе смеласць сказаць, што я зразумеў, улавiў якоесьцi iмгненне з жыцця скульптара менавiта па гэтых яго руках. Хоць дагэтуль iх прамiльгнула перада мною, як я ўжо гаварыў, вялiкае мноства: рукi палкага каханка, што мiлуюць жанчыну, як можа мiлаваць яе толькi сапраўдны мастак, падманваючы сябе тым, што ён абдымае не жанчыну, а ўвесь зямны шар, усю планету, рукi творцы i адначасова вязня канцлагера, якi дакрануўся да правадоў з токам высокага напружання пальцамi з абламанымi, не выключана, што i згрызенымi ў тузе i пакутах пазногцямi. I вось дадатак да гэтых рук, што пiльнуюць, праводзяць i ловяць iмгненне,– гэтая прыйшоўшая ў госцi ў музей Радэна вавёрачка, у кожным руху якой таксама спрасаваны час, незразумелы, няўлоўны, што ганяе мяне па маiм i чужым мiнулым i будучым.

Я павярнуўся тварам да ўвахода, паглядзець, цi не вярнулася зноў туды мая вавёрачка. На ганку, выставiўшы ўперад павуцiнiстыя шэра-срабрыстыя лапкi, быццам просячы дазволу зайсцi, сядзелi ўжо дзве вавёрачкi. I якая з iх мая, я не мог угадаць. Дзве цi тры вавёрачкi кешкалiся ў абпаленай восенню палаючай залатой лiстоце амерыканскiх клёнаў i клёнападобных дубоў, як жывое срэбра слiзгалi мiж чырвоных гронак глогу, ласавалiся пераспелымi ўжо ягадамi, што ад самага лёгкага дотыку сыпалiся долу. Тыя ж ягады, схаваўшыся ў палаючым факеле лiстоты, дзяўблi па суседству з iмi страката-чырванагрудыя,невядомыя мне птушкi. Адна з iх толькi не чырванагрудая, а чорная, з сiваваронкавым адценнем пер'я, з выгляду дык быццам наша галка, прысела ля фантанчыка-вадаспада, што журчаў за згорбленай у одуме спiною «Мыслiцеля», i пачала пiць. Услед за ёй туды ж скокнула вавёрачка. Я думаў, «галка» спалохаецца i паляцiць. Але яна засталася, толькi крышачку скасавурыла чорнае бабулiна вока на няпрошаную госцю, хiснулася на тонкiх ножках, на паўкроку падалася ўбок, пастаяла, падумала, скранулася яшчэ на паўкроку, быццам саступаючы звярку месца, запрашаючы не пагарджаць кампанiяй, папiць вадзiцы разам. I яны ў ласцы i згодзе сталi пiць гэтую вадзiцу. А я зноў замёр, баючыся скрануцца, парушыць гэтую згоду, хоць мне вельмi хацелася падысцi блiжэй i паглядзець, як яны п'юць, лясная птушка i дзiкi звярок – нiколi ж не бачыў. Але я разумеў, што гэтага нельга рабiць: разбуру, заб'ю казку.

Усялякае наблiжэнне, пэўна, мае сваю нявiдочную мяжу, за якой пачынаецца разбурэнне. I я, напэўна, неаднойчы пераступаў гэтую мяжу. Столькi разоў пераступаў, што i забыўся: дзеля чаго i навошта я

гэта раблю. Праўду кажуць: добрымі намерамі высцелена дарога ў пекла. Але цяпер я быў асцярожны, старыя казкі ў наш час вельмі ж крохкія. І на жаль, з цягам часу, з надыходам розных паляпшэнняў, павелічэнняў і амаль ці не дабрабыту яны робяцца яшчэ больш крохкімі і ўсё аддаляюцца, аддаляюцца ад нас. Ды ў тую хвіліну мне падалося на момант, што я побач з казкай.

Я ўжо больш не шкадаваў аб дні, праведзеным у Філадэльфіі. І дарога сюды не здавалася мне ўтомнай, як было раней. А яна і праўда была ўтомная, не так сама дарога, як выпраўленне ў яе, перадцарожныя турботы і зборы, варажба амаль на кафейнай гушчы: ці то паедзем, ці то не, чаканне дазволу, таго, як паставяцца да гэтай паездкі амерыканскія ўлады. Справа ў тым, што пасля рэйк'явікскай, з такім нецярпеннем і надзеяй чаканай усімі сустрэчы ў вярхах, тут, у Нью-Йорку, пасля кароткачасовага «пацяплення» зноў адчувальна «пахаладала». ААН пры ўсёй, на першы погляд, яе аддаленасці ад таго, што адбываецца ў свеце, вельмі чуйны барометр на самыя малыя змены палітычнага клімату. Адхіленне стрэлкі яго ў той ці іншы бок на сотыя ці нават тысячныя долі градуса імгненна змушае спрацоўваць невідочныя спружыны. Айсберг, які, здавалася б, надзейна пахаваны ў шалупінні і бязважкасці амаль свецкага абмену славесамі, пустаслоўя, раптам выяўляе сябе, выплывае на паверхню, пакінуўшы свае таемныя глыбіні, аб'яўляецца, як той жа чорцік з табакеркі, паказвае міламу грамадству сваё сапраўднае аблічча. І робяцца відавочныя не толькі памеры айсберга, але і існасць твару кожнага. І дзе-дзе, а ў ААН, самай міратворчай арганізацыі на зямлі, закліканай быць садружнай усім, не адчуць таго, куды пахінулася стрэлка, проста немагчыма, калі ты, вядома, не безнадзейна аглух і аслеп. І ўжо не толькі ў кулуарах, але і з аанаўскіх трыбун чутно пытанне: а ці не час падумаць пра перабазіраванне гэтай арганізацыі ў якую-небудзь іншую краіну. ААН робіцца няўтульна і холадна, зусім невыпадкова ў нетрах гэтай арганізацыі апошнім часам нарадзіўся нават такі тэрмін: вайна дыпламатаў. І яна пашыраецца, і холад робіцца ўсё больш адчувальным...

Так вось і аказалася пад пытаннем і магчымасць нашай экскурсійнай паездкі ў Філадэльфію. І мы, шчыра кажучы, ужо і не рваліся ехаць. Гэта было толькі пробным каменем перад экскурсіяй у Вашынгтон: дазволяць пабываць у Філадэльфіі, значыць, ёсць шанцы трапіць і туды. А паглядзець Вашынгтон, прызнацца, хацелася. Таму мы з такім нецярпеннем чакалі суботы.

Надышоў жаданы дзень, на нашу ноту, запыт аб выездзе з дваццаціпяцімільнай, вызначанай урадам ЗША, зоны адмовы не

паступіла. Выехалі на досвітку, я шчэ не надта верачы, што едзем, так і не пазбавіўшыся ад напружанасці. Не пазбавіўшыся ад турбот мінулага напружанага тыдня ў ААН. А тыдзень быў мітуслівы, занятак нязвычны і, калі шчыра, прыкры мне. З ранку да вечара трэба было сядзець у ААН, а сяму-таму, у тым ліку і мне, дэлегату ад Беларусі, давялося сядзець і да позняй ночы. У паасобных камітэтах аб'яўлены вячэрнія пасяджэнні. Наш, чацвёрты камітэт (пытанні дэкаланізацыі), які лічыцца адным з лёгкіх, канчаў сваю работу. Таксама вымотванне нерваў для такіх, як я, хто ўпершыню прымае ўдзел у рабоце ААН: нарады, прыняцце рэзалюцый, галасаванне. Наогул, хапала ўсяго. Спяшаючыся ў час галасавання, я аднойчы нават памыліўся кнопкай: замест зялёнай націснуў чырвоную, узмакрэў ад хвалявання. І ўпершыню, здаецца, адчуў, што такое сапраўдны сардэчны боль. І цяпер гэты боль быў ува мне. Боль і пачуццё адзіноты, прыгнечанасці, адасобленасці ад усяго, што акаляла мяне. Быццам знянацку абарваліся ўсе сувязі з навакольным светам.

Да ўсяго і дарога, пачатак яе, не спрыяла экскурсійнаму турысцкаму настрою, які ўзнікае,калі мы, дарослыя, вырываемся з дому і робімся дзецьмі, гатовыя ўжо гарэзаваць і сваволіць. Выязджалі з Нью-Йорка праз тунель Лінкальна: дзве мілі каля трох з паловай кіламетраў пад пралівам Гудзон. Бясконцае мора машын, быццам на гіганцкім буксіры, у тры шарэнгі ідуць упрытык адна за адной. Вось дзе відаць адначасова моц і немач індустрыяльнасці нашай цывілізацыі, чалавека, сіла і бяссілле яго розуму і рук! Метрапалітэнаўскія скляпенні, аглушальнасць і размах металаруднага ці вугальнага кар'ера. Дарога, як ток, ні выбоінкі, хоць, як кажуць, каціся. Мора агню – дзённага, тунельнага і машыннага, папераджальна чырвонага – наперадзе і светла-жоўтага – сустрэчнага патоку. Тысячы і тысячы машын, і ўсе яны быццам зліты ў адну, і механічнае сэрца іх б'ецца ў адзіным рытме, і хуткасць адна. І досыць прыстойная. Падземная чэрава тунеля плюецца згусткамі рознакаляровага агню, грукоча і грыміць. Адчуванне такое, нібы сама зямля пастаўлена на механічную вось і накручвае на сябе машынны бясконца звёнавы ланцуг, людзі ў салонах сваіх аўтамабіляў ужо даўно страцілі сваю зямную абалонку. Ці, наадварот, ад людзей засталася толькі абалонка, а самі яны ператварыліся ў здані. І мільгаюць перад вачамі, так і не паспеўшы матэрыялізавацца, белыя і чорныя галовы гэтых зданяў, сінюшна знявечаныя хуткасцю, быццам ты ўзышоў на нейкі круг Дантавага пекла. Часам здаецца, што сустрэчныя машыны абганяюць святло. Яны прамчаліся ўжо, а ў вачах – струмені іх хісткіх агнёў: зрокавая плынь току высокага

напружання. Сам сабе ў мяккім лоне машыны ты здаешся нязграбнай кукалкай у кокане, эмбрыёнам, зародкам істоты, яшчэ не спазнанай светам. Думкі няма, яна толькі адно займаецца ў табе, прасцейшая, як мыканне: адкульсці вырвацца і кудысьці трапіць, з цемры на святло і са святла ў цемру. І над галавой Гудзон з яго пірсамі, прычаламі, баржамі, яхтамі, параходамі, абсталяванымі пад рэстараны, шматтонныя кубаметры вады. Вады аздобленага, узятага ў бетон Гудзона над галавой, зацуглянага, шалёнага мільённадужага табуна коней. Быццам усё чалавецтва асядлала гэтых коней, выправілася ў дарогу, у нязведанае, як і мы. І ў гэтай накіраванасці кожнага ўжо грызе прадчуванне нязведанага, кожны ўжо аддадзены дарозе, хуткасці, ганарыцца сваёй дарогай і хуткасцю, сваёй камфартабельнай машынай, кожны захоплены тым пачуццём адзінства натоўпу, якое ўсё ж, напэўна, інтэрнацыянальнае і аднолькавае ўсюды. І прабіты ў маналіце скалы тунель скораны, а таму ўжо недзе і пагарджаныя воды Гудзона над табой памнажаюць гэтае пачуццё. Кожны ў сваёй машыне-калысцы здаецца самому сабе ўсемагутным, амаль богам. Навакольны свет адкінуты, сувязі з ім абарваны, ты аддаляешся ад яго з хуткасцю кручэння колаў машыны.

Але варта ледзь толькі ўзнесціся, як гэты адрынуты табою свет уладна нагадвае пра сябе. Рэчаіснасць вяртае цябе на зямлю куды хутчэй, чым хуткасць тваёй машыны. У дзікім галопе аўтамабільнага табуна раптам з'яўляецца нервознасць, заўважаецца нейкі збой, прыглушаецца шоргат яго абутых у гуму капытоў. Прыпынак, нешта здарылася ўперадзе. Кароткі, амаль імгненны, але ён доўжыцца, як век. Адразу робіцца цяжка дыхаць. Не хапае таго самага, адзінага, надзённага глытка паветра. І высокія скляпенні выкладзенага пліткай тунеля, здаецца, апускаюцца на дах машыны, абціскаюць цябе маўклівым і грозным змрокам падзямелля, магілай. І адразу нагадвае аб сабе сэрца, пачынае неспакойна калаціцца.

Вадзіцель уключае кандыцыянер. Але яго механічныя жабры не паспяваюць ачышчаць паветра, выдыхаемае аўтамабілямі. Кандыцыянер, няйначай, ганіць у салон чысцейшы $CO_2$ – вуглякіслы газ. Мы просім выключыць яго: год ці два назад у Мінску ў хаду былі казкі пра гібель людзей ад выхлапных газаў. А ўнутраная памяць у тунелі абвострана гранічная, як заўсёды ў хвіліну яўнай ці ўяўнай небяспекі і ўласнага бяссілля. А крануцца ні на крок уперад, ні назад, ні ўбок немагчыма. Мы нібы кансерваваныя шпроты ў бляшанцы. Нішто ў механізаваным падзямельным натоўпе і перад светам, адно толькі цені яго, здані, створаныя магутнасцю чалавечага духу, зняволеныя ім жа і па ўласнай ахвоце ў чаднае падзямелле.

І ўсё далейшае, што чакала нас на двухсоткіламетровай дарозе з Нью-Йорка, успрымалася скрозь прызму гэтай прывіднасці і хісткасці чалавечага існавання, яго ненадзейнасці. Так было: суцэльнае мільгаценне восеньскіх шматколерных лясоў, аўтамабіляў, дарог і раз'ездаў, маляўнічых вітрын, не менш маляўнічых карцін у музейных галерэях, да таго самага імгнення, пакуль не выскачыў на ганак гэты амаль ручны, далёкі ад маіх зямных клопатаў чорцік-вавёрачка і не падміргнуў мне карычневым вокам надзеі. Суцэльны калейдаскоп, механічная мешанка, вінегрэт фарбаў і гукаў, якія не закраналі свядомасці, не абуджалі аніякіх пачуццяў у адказ.

Гэтаму самнамбулічнаму майму стану былі і іншыя, больш зразумелыя і простыя тлумачэнні. Мне ўпершыню выпала такая вось доўгая разлука з роднай зямлёй і маімі блізкімі. Я выправіўся ў далёкую дарогу, не паспеўшы яшчэ атрэсці з сябе стому і напружанасць пасля вялікай, што задоўжылася на чатыры гады, знясільваючай, амаль бесперапыннай, з дня ў дзень, работы, якая, трэба сказаць, даканала мяне, давяла да краю, да галюцынацый. Мне пачалі мроіцца пахі. Я пачаў чуць пахі, якіх не было, не існавала ў прыродзе. Праз гэта з цяжкасцю мог ездзіць у метро, заходзіць у магазіны, пад'езды дамоў і жылыя памяшканні. Адразу ўзнікала адчуванне гарчэчы на вуснах, паветра выдавала перанасычаным чамусьці крэазотам, адусюль сыходзіў дух тлену, адчувалася прысутнасць нябожчыка, набліжэнне пахавання. І лес, любы сэрцу і воку, у якім я адрозніваў дыханне кожнага з дрэў паасобку, чуў, як сапуць сярод летняй спякоты векавыя дубы, як тонка патыхае ад несправядліва пакрыўджаных лазнякоў і асіннікаў гарчэчынкай. Гэтае адчуванне іх і маёй горычы ўзмацнілася пасля Чарнобыля, што захапіла і маё Палессе, родныя мне мясціны. Палессе, тыя ж Хойнікі, дзе прайшло маё дзяцінства, дзе ўсё мне было такое дарагое. Хойнікі, непадалёк ад якіх была магіла маёй маці, што загінула ў часе вайны ў дваццаць пяць гадоў, сястрычкі, якой не было яшчэ і двух гадоў, што замерзла ля мёртвай маці з заледзянелымі, прымерзлымі да твару слязамі,– праклясцем гэтаму свету і бясконцым у ім войнам, фашызму.

Чарнобыль, атамны тыгр, паказаўшы адно толькі кончык хваста, адрэзаў цяпер мяне і ад гэтай магілы. На развітанне, перад тым як сесці ў самалёт і перамахнуць акіян, я ўсё ж пабываў там. І сярод лясных ціхіх могілкаў, перад жалобным і сціплым абеліскам, дакор мне, сыну і брату, пад пошум векавых соснаў, маўчанне схіленых ля брацкай магілы бетонных сцягоў, стоеных ля ствалоў дрэў чорных сялянскіх крыжоў не ўпершыню, але з патроенай сілай адчуў я, што свет гэты, у якім і сёння працягваюць паміраць дзеці, часам яшчэ і

ненароджаныя, у чэраве маці, сапраўды не з лепшых. І атам, нават мірны, які нясе нам цяпло і святло, небяспечны і страшны. І я пайшоў ад роднай мне магілы з атамнай горыччу на вуснах і на душы. Гэта было мне сестрыно і матчына блаславенне перад дальняй дарогай.

Я не забываўся на яго ў ззяючых і адначасова строгіх залах ААН, дзе гаворка ішла ўсё пра тое ж, перад чым спыніўся сёння свет, аб тым, чым ён можа скончыцца, калі не спыніцца гонка ўзбраенняў, калі неба з яго зоркамі і месяцам для закаханых ператворыцца ў арэну зорных атамных паядынкаў. А мяркуючы па тым, як сёй-той, не баючыся і не саромеючыся ні сонечнага, ні месячнага святла, не слухаецца ніякіх угавораў і папярэджанняў, гэта можа здарыцца. Можа здарыцца, што не будзе больш на нашай зямлі ні родных, ні чужых магіл і ва ўсім сусвеце не застанецца ад нас ні памяці, ні следу, толькі пракляцце зор.

І пакінуўшая было мяне атамная горыч зноў вярнулася. Я адчуў яе зноў на вуснах у музеі мастацтваў у Філадэльфіі, дзе, здавалася б, усё павінна быць наадварот. Пікасо, Ван Гог, Шагал і многія-многія іншыя творцы цудоўнага павінны былі настройваць на добрае, мешаніна стыляў і эпох, вякоў і пакаленняў падказвалі думку не аб пераемнасці і вечнасці, не аб перамозе жыцця, а аб яго тленнасці і крохкасці. Пачуццё небяспекі, трывогі падспудна выспявала ўва мне, калі я глядзеў гэтак супакойваючых раней імпрэсіяністаў, якіх я таксама не разумею, проста люблю, быць можа, як апошніх рамантыкаў на гэтай шматгрэшнай зямлі, якія ўказваюць нам сваім неўтаймоўным пэндзлем, куды і да чаго мы павінны імкнуцца, папярэджваюць нас сваёй нязбытнай і нястомнай любоўю да жыцця ад замаху на саміх сябе. Гэты замах абрынуўся, угледзеўся ў мяне з усёй бязлітасцю, на якую толькі здатны рэалізм, бясстраснае вочка фотаапарата.

У зале, дзе размешчаны былі фатаграфіі, што расказвалі пераважна пра Нагасакі, я ўпрытык наблізіўся да аблічча зямной бяды і няшчасця. Яно, аблічча гэтае, паўстала перада мною ў вобліку пажылой жанчыны-японкі, на першы погляд, спакойнай і пазбаўленай эмоцый, таму што твару ў яе не было. Падабенства, яго маска, назаўсёды прыварaная да твару атамным выбухам сорак гадоў назад. Я адхіснуўся ад яе. Але наступная фатаграфія, куды, шукаючы паратунку, кінуўся мой погляд, была яшчэ страшнейшая, хоць яна апавяшчала мне аб самым радасным на зямлі. Аб нараджэнні, аб з'яўленні на свет новай жывой істоты. Ды істота гэтая была сапраўды пачварная, нараджаўся не чалавек і не звер, а тое, чаму яшчэ, напэўна, няма назвы, няйначай, сам, што прайшоў праз атамнае

гарніла, дваццаць першы век, трэцяе тысячагоддзе. Яно яшчэ было звязана з маці-чалавекам пупавінай, але само ўжо не было чалавекам. Гэта быў прышэлец, прадвеснік і суддзя. І скаваны жахам, я не мог адвесці ад яго вачэй. Дзеўчынёха-амерыканка, прабягаючы міма, прыпынілася ля мяне, прасачыла за маім паглядам і засмяялася, пырснула смехам у далоньку так знаёма, па-вясковаму, па-беларуску, што я здрыгануўся. Няшчасная, яна палічыла, напэўна, мяне якім-небудзь сексуальным маньякам. А я ж бачыў цяпер не фатаграфіі яе, гэтую дзеўчынёху з Філадэльфіі і з роднага майго Палесся, з Хойнікаў, дзеўчынёху, якой яшчэ наканавана раджаць.

І пакінуўшыя было мяне ў мітульзе аанаўскіх дзён пахі абрынуліся з новай сілай. Я не мог больш глядзець і ўціхамірвацца шэдэўрамі сусветнага мастацтва, сабранымі з усяго свету ў залах філадэльфійскага музея мастацтва. Цудоўнае болын не ўспрымалася мною. Хоць усё ж ля паасобных карцін, сам таго не ўсведамляючы, я зведваў часам пачуццё якогасьці адпачынку, фарбы супакойвалі, нават накіданыя ў неверагоднай мешаніне, быццам ужо ў агоніі, абстракцыяністамі. Пачуццё трывогі выклікалі рэчы, прадметы быту, таксама ў мностве выстаўленыя ў залах музея. Рэчы людзей, якія даўным-даўно пакінулі гэты свет. Пры ўсім іх часам лоску на іх, здавалася, ляжыць адзнака бездагляднасці, стоеная журба тых, каму яны ў свой час належалі. Можа, яны хацелі штосьці перадаць, сказаць недагаворанае на гэтым свеце іх гаспадарамі, папярэдзіць. Можа быць. Ч не мог больш цярпець іх нямога крыку, а часам крыклівай пышнасці. Ці не гэтая пышнасць, пагоня за ёю і загналі нас у кут, прынялі і паставілі на край бездані.

Іардан Радзічкаў, балгарскі пісьменнік-публіцыст, выступаючы ў «Литературной газете», пісаў, што пісьменнікі і журналісты нагадваюць яму дзяцей, што сядзяць наперадзе паравоза, які імчыцца поўным ходам. Перад паравозам – бездань, дзеці бачаць гэтую бездань і крычаць. Гэты крык, якога не чуе свет, нарастаў і ўва мне. І вось толькі цяпер абарваўся, заціх перад уваходам у музей Радэна. Вавёрка і галка, звер і птушка, на захадзе сонца, у апошніх, што ўжо не грэюць зямлю, праменнях яго ў дзіўным і ніколі не бачаным мною яднанні, схаваўшыся ў цені радэнаўскага «Мысліцеля», пілі ваду. Птушка – па-сялянску, як жнейкі ў спякоту сярод іржышча, задзіраючы галаву і смакуючы кожны глыток, быццам палошчучы горла і радуючыся кожнай кроплі ратавальнай вільгаці, нібы гэта не вада, а жыватворны нектар: вавёрачка – арыстакратычна, спешчана, хлебчучы хуткім і вёрткім ружовым пялёсткам языка. І негр, служыцель музея, з аднаго боку, і я – з другога стаялі, застыўшы ў нерухомасці,

баючыся парушыць іх яднанне і баляванне. І ўсё бачанае мною, сфатаграфаванае вокам, але прайшоўшае міма свядомасці, ажыло, зноў раскрылася, набыло не толькі колер і форму, але і гук, мову.

Дарога – вялізарнае рэчышча для ўсіх, хто апынуўся ў ім, пусціўся ў нязведанае. Сотня вёрст амаль бясконцага лесу, палаючага ў барвах цудоўнага, ціхай і сонечнай амерыканскай восені. Восень і гэты лес, на першы погляд, былі чужыя мне, беларусу. Але гэта толькі на першы погляд, а пры мінімальным набліжэнні аказалася, што я ўжо дзесяткі разоў бачыў, перажыў і зведаў. І гэты лес, і такую ж восень з яе неўтаймоўнасцю фарбаў, мудрай сівізной і ападаючай меддзю. Сотні і сотні вёрст вось такой залатой тайгі, а амерыканская восень на самай справе была падобная на таежную восень у Сібіры, у Горнай Шорыі, дзе на горных кражах палаў, быццам адлятаў у ледзь гаркаватай тузе бабінага лета ў цёплыя краіны, цягнуў залатыя кроны да сонца лістоўнічны лес, што разлёгся далёка за небакрай. І я ішоў па гэтым лесе і восені з рэчмяшком геолага за спіною яшчэ зусімзусім зялёны і, не заўсёды разумеючы, праз што і чаму, бясконца шчаслівы і радасны недзе ў глыбіні душы, зноў жа неўсвядомлена, спадзеючыся і верачы, што так будзе заўсёды і вечна.

Таежны, лістоўнічны лес з прагалінамі чорна мігатлівых скал па дарозе ў Філадэльфію змяняўся бязмежнасцю поля, над якім кружыліся, збіваючыся ў чароды, жыруючы апошні раз, адлятаючыя на поўдзень птушкі. У небе, рускім клінам уразаючыся ў сонечны дыск, шэрым воблакам плылі гусі. І іх гартанная птушыная мова была блізкая і зразумелая мне. Гэта быў голас развітання, птушкі блаславілялі зямлю, якая дала ім жыццё, абяцалі вярнуцца і доўжыць свой род, пакуль будзе доўжыцца і множыцца род чалавечы, пакуль будуць гэтыя палі лясы, рэкі і долы. На полі там-сям яшчэ ішла работа, сярод шэрай голай зямлі, як у нас у Беларусі на бульбянішчы, жаўцелі, выгінаючыся крутымі бакамі, гарбузы, такія любімыя ў нашых вёсках, падобна, не менш любімыя і тут. Усё вакол пазнаецца, усё паўтараецца. Поле змянялі раўнінна-хвойныя пералескі. І гэта таксама было мне знаёма. Я ж з маленства ведаў і любіў хвойнікі, абышоў, абмацаў босымі, у цыпках, да 'самай зімы незагойных драпінах нагамі ўсе шышкі ў іх, пасвячы кароў адразу ж пасля жорсткай і страшнай, толькі што адгрымеўшай вайны ў родным мне Палессі. І пра сасну, што расце там, далёка за акіянам, у Беларусі, і тут, паміж Нью-Йоркам і Філадэльфіяй – якая розніца,– я ведаю калі не ўсё, дык вельмі многае. Я сам іх саджаў. Яны падцягнуліся да сонца, выпырхнуўшы з маіх далоняў. А тыя, што былі пасаджаны раней, равесніцы майго бацькі, схавалі і ўратавалі майго ж бацьку,

калі ён пайшоў у партызанскі атрад ваяваць з фашыстамі. Яны прынялі на сябе не адзін снарад, не адзін асколак і кулю. І калі праз сорак гадоў пасля вайны ў партызанскі лес прыйшлі лесарубы з піламі, сосны адстаялі і сябе – столькі ў іх было затоеных у драўніне, асколкаў і куль. Сталёвыя зубы піл не маглі ўзяць іх. Я ведаю не толькі, якая пахучая і смачная разамлелая на сонцы жывіца, але і тое, што дрэва гэта можа накарміць мяне. Мы, пастушкі, дзеці ўскраіны невялікага палескага гарадка, у галодны і халодны пасляваенны час ламалі выкінутыя маладымі сасонкамі ў пару цвіцення далікатныя макаўкі, смажылі на вогнішчы і елі, грызлі маладымі і моцнымі зубамі, поўнячыся жыццём, што адкрывалася перад намі, жыццём мінулым і будучым, у якім ніколі больш не будзе ні войнаў, ні холаду, ні голаду. Свет, што ледзь расчыніў перад намі дзверы, быў вялікі і агромністы. І ніякай яшчэ бездані ўперадзе не адчувалася. Мы былі багацеямі, крэзамі. Паветра было чыстае, без аніякага прымеску горычы. Неба называлася небам, зоркі – зоркамі. Пад імі мы сварыліся і мірыліся, любілі. Цень аніякай САІ не падаў ні на зоркі, ні на нашу любоў. Ляталі па лесе галкі, іншы раз мы іх лавілі, кармілі з рук і вучылі гаварыць. І галкі прывыкалі да нас і хадзілі за намі, нібы сабачаняты, пакрыўджанымі хрыплымі галасамі выкрыквалі нашы імёны, патрабуючы ўвагі і харчу. Скакалі па дрэвах вавёркі, стракаталі і дражнілі нас, звесіўшыся ўніз галавою з дрэва, быццам заманьвалі да сябе ў дупло. Дзяліліся вясною з намі арэхамі, якія нарыхтоўвалі восенню. Нарыхтоўвалі і, дзіравыя галовы, забывалі. А мы, прыгнаўшы ў лес кароў, часам знаходзілі гэтыя забытыя вавёркамі арэхі. Лускалі іх – падарунак лесу і любых, што песцяць сэрца і вока, звяркоў. І вось адзін з гэтых звяркоў знайшоў і, як у дзяцінстве, адарыў мяне ціхай радасцю на чужыне. Жыві вечна, вавёрачка, родная чужаземка. Я так хачу. Хачу, каб радасць пазнавання, пазнання была вечнай, каб яе зведалі і тыя, хто яшчэ не нарадзіўся, хто народзіцца праз стагоддзі. І гэта няпраўда, што я сказаў, быццам ты брыдкая: звяры і дзеці цудоўныя заўсёды. Нічога больш дасканалага на гэтай планеце, у гэтым не з лепшых свеце ні прыродай, ні чалавекам не створана. Вечны «Мысліцель» Радэна, ля якога ты зараз лускаеш арэшкі і п'еш ваду. Ты мудрая, выбраўшы менавіта гэтае месца для свайго селішча. І няхай сабе ён пакуль бронзавы і халодны. Ён думае пра цябе, пра тваіх дзетак. А рукі майстравога і мастака з магілы – гэта рукі, падстаўленыя, каб падтрымаць цябе. Яны сцвярджаюць жыццё. Яны благаслаўляюць яго і вераць у яго і ў цябе, таму што без гэтай веры няма і не можа быць ні майстравога, ні мастака, ні мысліцеля.

## Дзікае паляванне каралёў сталіншчыны

З усіх нашых заняткаў, з усіх рамёстваў гісторыя чалавецтва, пэўна, не ўславіла так ні адно, як уславіла паляванне. Па сутнасці – забойства. Па форме – вялікая і магутная дзея, што амалоджвае і прыводзіць у рух нашы пачуцці. Чалавек узброены, чалавек з ружжом – дужы і малады. Гэта наш продак. Ён яшчэ толькі адтуль, з дрэва ці пячоры. Свежая кроў, рухомае мяса казычуць яму ноздры. Гоняць сліну і сутаргава зводзяць страўнік. Дагані, зламі, забі, даўбешкай яго, каменнем, сякерай, стралою і куляй. І ты будзеш сыты і здаровы. Ты будзеш жыць. Тое ж самае і ў адносінах да падобнага табе. Толькі вытанчана ўжо, абгрунтавана, не так па-людаедску шчыра. Гома сапіенс – чалавек разумны, розум яго не ведае межаў. Ён дасягнуў вялікіх поспехаў у старой як свет навуцы палявання і забойства з-за вугла, чужымі рукамі, не запэцкаўшы сваіх, бяскроўна, бязбольна. Так, як толькі можа хапіць фантазіі і штукарства. Але галоўнае ў гэтай вялікай дзеі, што кіруе і напраўляе яе, застаецца нязменным. Не, зусім не вынік. Устойлівасць і амаладжэнне пачуццяў, асалода і захапленне ад маланкавага загаду сабе: ату яго, ату! Задавальненне ад уласнага спрыту і зухаватасці, азарт і напал ганчака. Адчуванне ўласнай бессмяротнасці на чужой крыві. Кроў прыцягвае кроў – не намі даўно казана. Кроў жа ва ўсім жывым аднаго, чырвонага, колеру, і мімаволі думаецца зноў і зноў: ці не пракляты ты ўжо на векі вечныя, чалавек, ці не сапраўды першародны грэх на табе.

Яе называлі палескай ластаўкай, светлае і чыстае цуда-дзіця Палесся. Дзяўчынка ў белым на кладачцы цераз ручай. Быў у яе такі фотаздымак. Імкне зайцам, скідвае петлі па зялёным лузе звонкі ручай. А праз яго ад берага да берага цёмная кладачка. І яна на той кладачцы сярод срабрыстай вады ў белай сукенцы, як званочак-рамонак. Скончаны універсітэт, атрыманы дыпломы. Але і без гэтага яна паэтэса ўжо. Не пачаткоўка, а прызнаная, ушанаваная чытачом. Толькі ручай перайсці, з кладачкі на луг крочыць – усе кветкі будуць каля яе ног.

Не перайшла. Век быў кароткі. Кветкі даводзілася трымаць толькі па святах. Толькі паспела ўсцешыцца Дзяржаўнай прэміяй БССР, выбрацца з напаўскляпення, якога і ўдзень не дасягала сонечнае святло, атрымаць кватэру, адзначыць саракагоддзе – адляцела ў вечны вырай, у цёплыя краіны палеская ластаўка. З восьмага паверха новай кватэры. Перакрыжавала па-зімоваму ўжо настылае неба летняя ластаўка, што запознена так кінулася ў вырай. Легла на халодную, рана скаваную марозам, родную зямлю. Перад тым як

выбухнуць запозненаму хору любові і прызнання, здолела яшчэ падняць галаву, пачула другі ўжо хор і незямныя галасы, да смерці напалохала позіркам ужо адтуль прахожых, што марна бавілі час і нічога не ведалі, нават не здагадваліся, як паміраюць сапраўдныя паэты, сярод якіх пакут і болю яны жывуць.

Каго тут вінаваціць, на каго кідацца з кулакамі, якую сцяну бурыць, біцца аб яе лбом. І ці ёсць сэнс. Колькі ж хто ні біся, ніколі і нікому той сцяны не праламаць, не прабіць. Ніхто з-за яе голасу не кіне, не адгукнецца і назад не вернецца. Уся бяда ў тым, што, здаецца, і самой сцяны няма, як няма і вінаватых. Ні тут, ні там, тым больш там: «Не знаю скверных, не знаю подлых, все люди правы, не понимают они друг друга – их доля злая. Мои услады для них отрава, я презираю, благословляя». Здаецца, гэта з таго свету звяртаюцца да нас паэты, заклікаюць нас, даруюць нам паэты. Але кожнае такое дараванне – гэта і пакаранне. Пакаранне не зямной, а самай высокай міласэрнасцю. Гэта і ёсць, павінна з'яўляцца найвышэйшай мерай пакарання. Таму што ўсё ж было, было прадчуванне бяды ў тыя яе апошнія восеньскія, лістападаўскія дні. І сам дом той, дзе яна атрымала кватэру, толькі што справіла ўлазіны, быў пабудаваны на касцях і смутку, жалобе людской. На былых могілках. На занядбанай нашай гісторыі. Згодна з паданнем, на магілцы Марыны Мнішак. Мо сама яна, Марына Мнішак, і паклікала яе ў нашу шматпакутную гісторыю дзеля аднаўлення і адраджэння яе, як кліча гісторыя наша кожнага з нас. Усе мы, жыццём і хатамі сваімі, топчам і зневажаем тое, што павінны памнажаць, берагчы і ўслаўляць.

Так што было адчуванне бяды ўжо на ўлазінах. І сцяна была. Узведзеная не ўяўленнем, а самая сапраўдная. Жахлівая менавіта гэтай сваёй нябачнасцю. Кожны раз вось яна, здаецца, перад табой, і жыццё сваё, мазгі ты згодны размазаць па ёй, толькі б наступніку твайму было крышачку больш лёгка, каб ён ніколі нічога не ведаў пра яе. Але толькі падрыхтаваўся, разагнаўся, выставіў наперад лоб – пустата, туман, прывід, вата. Тыя самыя, ад якіх потым у галаве пуста, свядомасць ледзь мігціць, нібыта хоць і аб вату, туман, а ўдар усё роўна адбыўся. І мазгі ад таго не прэч, а куды горш – набакір. І ты ў тумане, як ва ўтаймавальнай камеры, абкладзены з усіх бакоў ватаю. У насланні, у краіне не людзей, а прывідаў, і сам, здаецца, не чалавек, а прывід.

«Хто я? – нібы прабіўшы гэтую сцяну, голасам з пустыні, запытальна звяртаўся да беларусаў са старонак газеты «Советская Белоруссия» народны пісьменнік рэспублікі Янка Брыль.– Мне семдзесят пяць гадоў, быў я інжынерам чалавечых душ, падручным

партыі, вінцікам, а цяпер вось стаў самазванцам». Самазванцам яго абазвалі публічна са старонак той жа рэспубліканскай газеты. Не аднаго, праўда, а ў добрай, вельмі прыстойнай кампаніі, дзе-небудзь на лесапавале ў Марыінскай тайзе атрымалася б цудоўная брыгада: усе як на падбор народныя, заслужаныя, лаўрэаты, дэпутаты, а сярод іх адзін ужо і Герой Сацыялістычнай Працы – паэты, празаікі, мастакі, рэжысёры. Элітарны, культурны генафонд рэспублікі. Было ад чаго не толькі закрычаць «хто я?», але і розум страціць.

Само неба, зямля, надвор'е ў тыя дні былі добра набакір: ці то позняя восень, ці то ранняя зіма. Не, не пераходныя, як тое надараецца на мяжы восені і зімы. А кожны раз, здаецца, устояныя, трывалыя, з абяцаннем і надалей такой жа трываласці і грунтоўнасці. І так вось дзень-другі-тыдзень – цвёрдая зімка, з бадзёрым да захаплення, абнаўляючым марозам, столькі ж праз ноч – слотная, пахмурная восень, з нізкім, што прыпала амаль да самай зямлі, небам, густым ліпучым туманам, які праглынуў усе далягляды, звыклыя воку арыенціры, з нудным дождж ыкам, што імжыць зверху, знізу і з душы. Уладаранні зімы і восені былі непрадказальнымі, улада іх на вачах пераходзіла з рук у рукі. Чалавека кідала з холаду ў цяпло, нібы там, на небе, хтосьці ўзяў у рукі кій і гуляў гэтымі чалавекамі ў більярд, ганяў з адной пары года ў другую, ад аднаго борта да другога, а таго-сяго і вось так, апускаў у лузу. І быў той ашалелы гуляка сам Гасподзь Бог. Забаўляўся чалавекам на зялёным полі зямлі. А ім ад пагражальнага яго кія дзецца не было куды. І спыніць бязмежжа Усявышняга таксама не было каму.

І выспявала, выспявала прадчуванне бяды, невядомай і нябачнай простаму воку, небяспекі, што падступала ўсё бліжэй, сціскала і перахоплівала глотку і дыханне. Штосьці павінна было здарыцца, магло здарыцца з кожным, хто па сваёй ахвоце ці па прымусу, часам нават і ў галаве не трымаючы, аказаўся ўцягнутым у боскія гульні. І здарылася.

Па народным звычаі, апрануўшы святочныя свае ўборы, у апошні раз памыўшы ўсё ў пакоях і бялізну, пер'е белае сваё пачысціўшы, перакрыжавала па-зімоваму ўжо настыглае неба, паляцела ў вечны вырай палеская ластаўка, светлая і чыстая душа Палесся, і перад гэтай душой-ластаўкай, што лунае ўжо ў вечным небе, нельга хлусіць, нельга казаць, што няма і не было вінаватых.

Яны былі, ёсць, працягваюць быць. Більярдысты, арлы і коршакі, яны працягваюць сваю гульню-паляванне караля Стаха. Яны не ведаюць ні няўчасся, ні даўчасся, таму што самі па-за часам. Іх час заўсёды, у любое надвор'е, у любую пару года. І само паляванне гэтае

старое як свет: забіць, звесці са свету творцу, як у свой час метадычна і спакваля звялі са свету таго ж Уладзіміра Караткевіча, каторы апусціў Хрыста на зямлю пад белымі крыламі ў Гародні і сам упаў на зямлю, як падаюць каласы пад сярпом. Звялі са свету, а самі засталіся нябачнымі, не паказаўшы і твару свайго, не запэцкаўшы рук, не праліўшы і кропелькі крыві: памёр сам ва ўласным ложку.

О, гэта вялікае ўмельства так забіваць, змярцвяць і не менш вялікіх заплечных, іменна заплечных спраў майстры дварцовай інтрыгі, знаўцы і празорцы нябачнай механікі ахоўнасці ўстояў сістэмы, якую яны ж самі выпеставалі і запусцілі і сталі прэтэндаваць на ролю Бога на зямлі. Адчулі сябе адзінымі творцамі жыцця. А ўсіх астатніх, хто больш-менш падобны на сапраўднага творцу: ату яго, ату. Уладзімір Караткевіч быў творца. Ён адзін з першых на той жа зямлі пад белымі крыламі паведаў свету аб тым, як самі, застаючыся ў цяні, дзіка могуць паляваць каралі Стахі.

І ён жа ўвогуле недзе шмат у чым прадказаў тое дзікае іх паляванне ў кастрычніку 1988 года. Дзікае паляванне каралёў сталіншчыны.

А пачалося яно... Ці можна назваць дакладную дату факта, падзеі, якія былі і застаюцца вечнымі.

Не памылішся, з чаго ні пачнеш. Кіношнікі, напрыклад, вызначылі сабе кропку адліку музычную. Як грымнуць барабаны, як загучаць фанфары, як пальецца: «Я другой такой страны не знаю...», так і ведай, яны ідуць. Вось з гэтага можам пачаць і мы, таму што ўсе на свеце каралі па тым, што датычыцца складання сцэнарыяў, даволі прымітыўныя. Без хітрыкаў і мудрагельства і трыццатага кастрычніка яны таксама пачалі з музыкі і ваеннага аркестра.

«Широка страна моя родная... Я другой такой страны не знаю, где так вольно дышит человек»,– загрымела і залунала, разляглося па зямлі ў 13.00 ад сумнай брамы ў раёне Маскоўскіх могілак сталіцы Беларусі Мінска. Меркавалася, што песню гэту каля ўвахода на могілкі падхопяць услед за аркестрам камсамольцы, чый дзень нараджэння святкаваўся напярэдадні, а сёння павінен быў працягвацца іх масавым гуляннем у раёне могілак. Так загадзя было абвешчана ў газеце: Маскоўскія могілкі зачынены з нагоды гуляння камсамольцаў.

Але камсамол і камсамольцы, невядома чаму, не пажадалі масава гуляць у адведзеным ім уладамі месцы, хаця на тую хвіліну там знаходзіліся амаль усе камсамольскія правадыры. І масы былі, толькі яны таксама не шпацыравалі і не спяшаліся засведчыць, што гэта масы камсамольскія, для гуляння. Магла быць і яна там, палеская

ластаўка. Яна ж была і лаўрэатам прэміі Ленінскага камсамола рэспублікі, а да ўсяго яшчэ – і песенніцай, звонкагалосай, як і яе маці, і роднае Палессе. Але ў той дзень яна не падхапіла песні, яе не было там, і масы чамусьці не падхапілі бадзёры напеў, не пайшлі за аркестрам.

Не дзеля таго, каб гуляць сярод магіл, выйшлі мінчане, у тым ліку і камсамольцы, у той дзень. Зусім не дзеля гуляння. Невядома, ці даспадобы прыйшлася нябожчыкам музыка часоў іх узлёту, мо і ялеем агарнула і спавіла іх душы, але жывы ў дастатку і працвітанні чыноўнік у тыя хвіліны, відавочна, узвесяліўся, і не выключана, што, пэўна, гатовы быў сам легчы пад гэтую музыку ў магілу. Легчы і паўстаць, адзіна дужасцю духа сарваць века труны, захінуць мошчы, абрасці сцягамі і заспяваць менавіта тую песню, якую выводзіў аркестр. Народ, тыя ж самыя масы, каторым у той дзень прадвызначана было, згодна сцэнарыю, гуляць і весяліцца, на жаль, класічна зацята маўчаў, зноў жа невядома чаму.

Наогул у той дзень, з самага яго пачатку, замглёнага інеем світанку, пераменна то сонечнага, то хмарнага полудня – было шмат чаго незразумелага, амаль містычнага. Накіраванасць, утаропленасць і адначасова замаруджанасць і затарможанасць была нейкая ў масах, задумлівасць і прасветленасць, і як бы на Бога надзея, таму што некаторыя з іх час ад часу ўскідвалі галовы, пазіралі ў неба і ў твар адно аднаму глядзелі, нібы ўпершыню бачылі перад сабою гэтыя людскія твары. Нешта нараджалася ў той дзень каля гэтай апошняй прыстані зямных чалавечых пакут, штосьці і памірала. І нараджэнне, як і смерць, былі напоўнены патаемнасцю і загадкавасцю.

Духавой музыкі аркестр у горадзе. Ён сёння трохі падобны на каня Пржавальскага, якога выпхнулі з канюшні, заперлі на гарадскі машынны асфальт. Ён заблудзіўся на ім і сканаў, пакінуўшы нам толькі сумны і светлы ўспамін аб сваім гучным і вясёлым іржанні. Але аркестр гэты, што чыгунна чаканіў сваім шэсцем перадзімова ўжо выстуджаны горад, ні ў кога не выклікаў ні цікаўнасці, ні здзіўлення, усмешкі нават, нібы быў складзены са зданяў. Ён іграў, але ў той жа час як бы нема маўчаў. І горад быў немы ўсімі сваімі вуліцамі, акрамя галоўнага Ленінскага праспекта, нібы ў горадзе з'явіўся нябожчык вельмі высокага рангу, катораму па яго становішчы не да твару быў і жалобны марш. Адно толькі гэта і пасавала яму ў яго дзяржаўнасці: «Я другой такой страны не знаю, где так вольно дышит человек»,– што і іграў аркестр.

І сотні, тысячы мінчан з двух бакоў Ленінскага праспекта спяшаліся па тратуарах да Маскоўскіх могілак. Ішлі шчыльна, як у

чарзе да Маўзалея, моладзь з кветкамі, ішлі па адным і сем'ямі, з дзецьмі, некаторыя кацілі перад сабой дзіцячыя каляскі з немаўлём у ёй. Спыняліся перад чырвоным вокам святлафораў, чакалі дазвальнага, зялёнага. Дарога была доўгай. Метро на пад'ездах да могілак было зачынена: «па тэхнічных прычынах». Грамадскі і прыватны транспарт спынены міліцыяй – без абвяшчэння прычын. Усе скрыжаванні ачэплены шматслойнымі нарадамі міліцыі, мыш не праскочыць. Праезд быў дазволены толькі міліцэйскім машынам, некаторым гарадскім, прыгарадным і нават міжгароднім аўтобусам, але толькі адзінымі пасажырамі тых аўтобусаў зноў жа былі людзі ў міліцэйскай форме. І не простыя міліцыянеры, а ўсе спрэс афіцэры, міліцэйскія чыны. Мо гэта асаблівасць іменна мінскай міліцыі, але чамусьці сярод яе так мала радавых, падобна на тое, калі ў Мінску нарадзіўся міліцыянер, то абавязкова ўжо як мінімум з адной зоркай на пагонах.

Бесперашкодна праходзілі і ваенныя машыны, што незразумела з якіх нор і берлагоў павыпаўзалі. Мінск і мінчане ні дагэтуль, ні пасля іх не бачылі, то былі машыны спецыяльнага прызначэння. Так, бачыць іх ніхто не бачыў да часу ікс, але было відавочна, што яны ўжо зведалі працу. Хапіла ім. Ахоўнага колеру фарба блішчыць і ззяе свежасцю і лакам. Рэжуць вока адлакіраваныя чорныя, як нагуталіненыя, нумарныя знакі, а самі машыны, жалеза іх, нібы прайшлі праз метэарытны дождж. Ці прывезлі іх па крайняй меры з Чылі, у падарунак ад Піначэта або яшчэ якога-небудзь правадыра, ці сышлі на мінскую зямлю з экрана тэлевізараў. Забітыя жалезнымі кратамі фары-вочы, у тых жа кратах назіральнае шкло, падобныя на байніцы кулямётных гнёздаў акенцы-вадамёты. Чорныя «варанкі» ахоўнага колеру ды яшчэ з камуфляжамі пад вусеня-лістаеда, далёка не раўня будзённа-звычным міліцэйскім – шырока прасторныя, змрочна-змяшчальныя. І ішлі яны дзяржаўна, нехапатліва, як здольны хадзіць у зацішку зялёнага гаю цяжкія танкі, паўзлі, грэбліва і смуродна акурваючы лішкам, перанасычанасцю прытоенай у іх сілы, усведамляючы гэтую сваю сілу, усё цывільна хапатлівае, інтэлігентна дакучлівае, шморганае. Свежапамытыя палымяныя і мірныя пажарныя машыны здаваліся ў атрутна-зялёнай іх засені проста ёлачнымі ўпрыгожваннямі. Як твар немаўляці, анёла-херувіма сярод іх былі чыстыя і нявінныя вёрткія медыцынскія «хуткія дапамогі».

Каму толькі яны былі павінны дапамагаць? Па якім нябожчыку, што за сляза такая пякучая, сляза ўсенароднага гора са стратаю прытомнасці і свядомасці была павінна праліцца, калі картэж, механізаваная рацьць каля брамы Маскоўскіх могілак складала больш за

сотню розных машын? Што за вораг раптоўна з'явіўся ў горадзе Мінску? Напалеон са сваім войскам паўстаў з магіл і па Маскоўскім тракце рушыў сюды ўсіх сваіх забітых і тапельцаў з пераправы на Беразіне, а мо пракручвалася нанава «аперацыя Баграціён» і гораду ішло вызваленне? Каго і ад каго тут гэтая рацъ была павінна бараніцы жывых, што з кветкамі ў руках запоўнілі плошчу, ці мёртвых, што пакорліва і назаўсёды леглі пад магільныя пліты?

Уваход на Маскоўскія могілкі, шырокія вароты з несуцешна і высока, як скульптурная група калгасніцы і рабочага над уваходам на ВДНГ, жалобнай постаццю жанчыны над імі, якая толькі што страціла сына ці дачку, былі ў некалькі радоў ачэплены курсантамі Мінскай школы міліцыі. Уздоўж гэтага ачаплення хадзіў невысокі, каржакаваты падпалкоўнік з мегафонам у руках і заклапочанасцю аратага на стомленым сялянскім твары, у добра паношаным ужо шынялі, больш падобным на брэзентавік пасляваеннага страшыні не надта заможнага калгаса. Групы міліцэйскіх чыноў больш высокага звання. Шматлікія групоўкі людзей у цывільным, у ананімнасці тварау каторых за вярсту прачытвалася іх прыналежнасць. Яны былі раскіданы як кветкі сярод чартапалоху ці, больш дакладна, як чартапалох у полі кветак – у вялізным ужо натоўпе на плошчы каля Маскоўскіх могілак. І было дзікавата і незразумела адчуваць нейкую ярую і непрыхаваную варожасць да гэтых позніх восеньскіх кветак, варожасць людзей, у каторых кветак не было. Нібы кветкі былі ў нечым вінаватыя перад імі. Ці зусім ужо то былі не кветкі, а плашчы тарэадораў, што цвялілі вока. І нявер'е ў іх недавер гэтым астрам і гваздзікам хутка зрабіліся ўсеагульнымі і пераважнымі. Нявер'е адно аднаму і адно да аднаго, нібыта ўсе тут былі сексотамі, з кветкамі і без. Кветкі, здавалася, на вачах вялі – некаторыя з людзей трымалі іх рукамі пад горла – марнелі ад сцюдзёнай зябкасці полудня і здушанасці чалавечага дыхання, духу паліцэйшчыны і сакрэтнага дазнання, што быў учынены на плошчы ўсім прысутным.

У паветры адчувальна патыхала жахам. І зноў гэты жах быў незразумелы і невытлумачальны. Ці то напалохаліся мёртвыя і пачалі дыхаць жахам, панеслі яго да жывых, ці то ў жывых абудзілася нешта такое, што прыйшло да іх разам з малаком маці, геннае. Яны былі ж свабоднымі, і ніхто ім адкрыта не пагражаў. У любую мінуту яны маглі павярнуцца і пайсці адсюль, і ніхто б іх не затрымліваў. І самыя баязлівыя, што былі ўжо напалоханы на ўсё сваё і дзяцей сваіх жыццё, так і зрабілі. Натоўп ад гэтага не паменеў, хаця стаў і больш падазроным. Усе раптам пачалі азірацца, скоса шнарыць вачыма па тварах адно аднаго, як па кішэнях, нібыта вось так імкнуліся і

спадзяваліся набыць кропку апоры, шукалі таварышаў па службе, суседзяў па кватэры, проста знаёмых. А калі знаходзілі, сутыкаліся позіркам са знаёмым, спяшаліся яму насустрач, аб'ядноўваліся і ў гэтым аб'яднанні яшчэ больш раздрабняліся, расслайваліся, пакідаючы ў пустотах руху і еднасці дух варожасці, ворага, творачы вобраз ворага з нічога, з кожнага, каго раней не бачылі і не ведалі, не здароўкаліся, не рукаліся.

Вобраз ворага з заакіянскага, крывавага і малпападобнага перарастаў у свайго, беларускага, мінскага, а таму і больш страшнага. Ён знаходзіўся побач і адначасова быў падобны на тыя машыны спецпрызначэння, што прыкархнулі да пары да часу пад халодным сонцам кастрычніцкага полудня, каля тратуараў Ленінскага праспекта, падобны праставатаму на выгляд падпалкоўніку міліцыі з яго стомленым тварам, твару суседа, які дыхаў табе ў патыліцу, уласнаму твару, які палаў ужо, апякаў душу агнём, што незразумела адкуль прыхлынуў да іх.

Стары вобраз дому Раманавых, трэцяга аддзялення яшчэ вытворчасці, знаёмы, што адразу ж узнікае ў свядомасці беларуса з трох слоў: сіцыліст, аскубент і жыд. Але сёння спрасаваны ў адно: інтэлігент. Паэт, празаік, мастак, артыст, музыкант – творчы чалавек. А канкрэтна – Адамовіч, Быкаў. І яшчэ той – хахлацка-яўрэйскі, масонска-маскоўскі, ну, з «Огонька», Кароціч, каторы – канечне ж! – арганізаваў гэты мітынг і прыбыў сюды паглядзець, што атрымаецца. Імя яго сярод міліцыі і ў натоўпе гучала, было ўвесь час на слыху.

Пісьменнікі. Нейкага народнага фронту прагнуць. Мільянеры і так. Вось адбяруць у рабочых фабрыкі і заводы, у сялян – зямлю, прысвояць і прымусяць усіх рабіць на сябе. Ні менш ні больш. Вось такі грандыёзны вобраз ворага, капіталістычна ашчэранага. Хто ў параўнанні з ім нейкі недарэчны Дзядзечка Сэм? Ваўчанё са шчаслівай увогуле казачкі аб Чырвонай Шапачцы. А тут ваўкі, крывасмокі будучыя, узгадаваныя і ўкормленыя народным хлебам і салам.

Да адстрэлу гэтых ваўкоў, аблавы на ваўчанят, іх маладых памагатых трыццатага кастрычніка 1988 года і падрыхтавалася браніраваная раць, наваяўленыя каралі Стахі часоў перабудовы і галоснасці ў Беларусі. Справа ў тым, што на канец кастрычніка ці на пачатак лістапада прыпадае дзень памінання продкаў. Дзяды. З часоў паганства яшчэ традыцыйнае свята на Беларусі. І не толькі Беларусі. Другога лістапада – афіцыйны дзень памінання продкаў у Прыбалтыцы, палякі пазначылі гэты дзень у календары чырвоным, зрабілі яго непрацоўным. Дзяды адзначаліся ў Мінску і за год да

гэтага. Гарсавет даў дазвол. Па ініцыятыве мінскіх нефармалаў – «Талакі» і «Тутэйшых» – быў праведзены агульнагарадскі мітынг. За дазволам правесці такі мітынг нефармалы пры падтрымцы Фонду культуры звярнуліся да ўлад і ў гэтым годзе. Напачатку дазвол быў дадзены. Нейкі чыноўнік з гарадскіх улад не праявіў адпаведнай пільнасці, недаглядзеў, якая вялікая небяспека тоіцца за мёртвымі, калі іх узяць і ўсіх разам памянуць. Сярод іх ёсць жа і белагвардзейцы, «заслужаныя» кулакі і ўвогуле цёмныя асобы. На той свет, не ў партыю, прымаюць усіх. Паміраюць таксама без дазволу, а іншых дык нават і прыстрэльваць даводзілася. Дзеля чаго ж, навошта жывым і сёння паважаным адказваць незразумела за каго і за што, за ўсіх гэтых шматлікіх: дачасна, нечакана і пасля цяжкай і працяглай хваробы, мо нават буржуазнага ці, яшчэ горш, нацдэмаўскага паходжання.

І хаця ў нейкіх будынінах людзі, якія заўсёды і ўсё канструююць і ўзважаюць, бо яны, падобна, і нараджаюцца з цыркулем і вагамі, гаварылі аб ступені ўзважанасці і канструктыўнасці, падымалі і ставілі пытанне, было ўжо зразумела, што ніякага мітынгу не будзе.

Гэта стала відавочна і ясна як божы дзень, амаль апоўначы 19 кастрычніка ў Доме кіно на першым, арганізацыйным пасяджэнні рэспубліканскага гісторыка-асветніцкага таварыства памяці ахвяр сталінізму «Мартыралог Беларусі». Менавіта там, у Доме кіно, а папрастамоўнаму, Красным касцёле, пад яго велічнымі і міласэрнымі скляпеннямі прагучалі першыя залпы невідзімак са світы караля Стаха па тых, хто вельмі ўзнёсся ў апошні перабудовачны час, пачаў падымаць галаву і падаваць голас. Надышла пара спыняць і затыкаць рот.

Вось для гэтага, для правядзення залпа, невідзімкі стальной раці скінулі, знялі на нейкае імгненне жалезныя маскі. Хоць і не да канца, але паказалі прысутным свой сапраўдны твар, убачыць які стала сёння найвялікшай марай кожнага відушчага. Паглядзець на свае вочы на гэты твар, воблік, кляты з усіх трыбун, са старонак усіх газет, часопісаў, радыё і тэлебачання: бюракрат, бюракрат, бюракрат. Гэты бюракрат зрабіўся амаль што Богам, вышэй за Бога. Усе пра яго гаварылі, усе ведалі, што ён ёсць, ён вінаваты ва ўсіх грахах, але з жывых да той мінуты ніхто яго не бачыў. А тут убачылі. Нічога жудаснага і жахлівага, ні боскага, ні іншапланетнага: «Мадэ ін мама».

Як папяросы з пачка «Беламорканала», яны сядзелі ў Доме кіно, шчыльным пачкам, папяросы ці патроны ў адной абойме, свежай, нядаўняй вытворчасці, шчыльнымі радамі, па звычцы захапіўшы лепшыя месцы. Мясцовая знаць, сучасныя шляхціцы, наменклатура,

людзі ніадкуль, таму што яны так і не пажадалі назваць свае прозвішчы і пасады, зарэгістравацца, як тое зрабілі астатнія тры з паловаю сотні чалавек, якія сабраліся тут. Прыйшлі арганізавана, але патаемна, за паўтары гадзіны да пачатку пасяджэння і, здавалася, былі там заўсёды. Літыя плечы, каменна-цяжкія патыліцы. Ананімна прысутна-адсутная, непранікальная завешанасць твараў прымушала і ўсіх іншых трымацца на значнай адлегласці. Армейская, лагерная дысцыпліна і дакладнасць, як пры выкананні каманды «Плі» ці «Разысціся», пры галасаванні: супраць, супраць, супраць. Расстрэл таварыства, якое яшчэ і не існавала, не было створана і абвешчана. Расстрэл статута, рэзалюцыі, праграмы, членаў. Папераджальныя залпы прызвычаеных да такога вось палявання стралкоў: улёт і на голас, на гук, з пляча і наўскідку. Ашаламляльнае паляванне.

Толькі двое з гэтай спрасаванай у адно масы наважыліся цалкам паказаць свой твар. Адзін з іх аказаўся вялікім эстэтам, змагаром за галоснасць і перабудову. То быў пракурор. Гучыць пракурор амаль як Пракуратар. Хай ён і застаецца як Пракуратар, з вялікай літары. Я не хачу тут называць яго прозвішча. Яно ў свой час прагучала са старонак газеты «Комсомольская правда» і часопіса «Юность». Прайшоў час, мо чалавек што і зразумеў, хаця і сумняваюся. Але цяпер для мяне дый для ўсіх нас больш важна не прозвішча, а асоба, сама з'ява, тое, што за гэтым стаіць. У гісторыі іх прозвішчаў усё роўна не застанецца. Гэта каліфы смутнага часу, і часу ім адведзена – гадзіна... І тут больш важна, каб гадзіна тая ў нашай гісторыі не паўтарылася. Дзеля гэтага я зноў сёння вярнуўся да кастрычніцкіх падзей 1988 года ў Мінску. У тым нашым беларускім кастрычніку завязана шмат і шмат вузельчыкаў, якія мы сёння яшчэ разблытваем, не адны толькі беларусы, усёй краінай. Доўга яшчэ будзем разблытваць. І ці разблытаем. Таму і такая ўрэзаная, не па віне рэдакцыі часопіса, атрымалася публікацыя ў «Юности», як у лепшыя часы: не надышоў яшчэ час гаварыць усё,– сказана было часопісу недзе на самым Алімпе. А на абнародаванне усіх прозвішчаў дазвол быў дадзены. Быў дадзены дазвол на друкаванне матэрыялу, як выжымак з хронікі падзей, як самой хронікі. Гэта і вымушае мяне сёння яшчэ больш адыходзіць ад той хронікі і як стрэлачнікаў, таму што справа зусім не ў іх. Яны толькі выканаўцы. А кіруе імі паляванне, адно з самых старадаўніх рамёстваў на свеце.

Такім чынам – Пракуратар. Пракуратар, таму што будзе яшчэ і Куратар. Хай яны так і ідуць у адной звязцы і з вялікай літары. Дзве асобы, дзве постаці адной з'явы. Тое, што ён вялікі дэмакрат і не менш вялікі эстэт, змагар за галоснасць і перабудову, вынікала з яго

выступлення. Ён з першых слоў абвінаваціў залу ў невыкананні прынцыпу дэмакратычнасці: адвыклі чуць і слухаць адваротны бок. Гэта сапраўды было, і не варта гэта адмаўляць, адмаўляць тым больш памятаючы, як самі пракуратары, авангард наш, пільна прыслухоўваліся да гэтай пары да слоў, плачу і енку таго ж адваротнага боку. А да ўсяго ж слухаць дэмагогію на самай справе было брыдка. З яго слоў вынікала: не сунь, маўляў, носа не ў сваё проса, ахвярамі сталінізму займаецца той, каму трэба займацца. Зноў жа яны, авангард. У рэспубліцы створана спецыяльная камісія на чале з Цэнтральным камітэтам партыі. І не трэба нам аніякай грамадскасці і мартыралога. Трэба вучыцца слухаць адваротны бок. Пракуратарскае слухаць было тоесна: будзьце ласкавы слухацца.

Другое, тое, што Пракуратар яшчэ і эстэт, высветлілася з кароткай рэплікі ў адказ яму рэжысёра тэлебачання. Вялікі дэмакрат і змагар за галоснасць, перабудову і плюралізм, як прагучала, арыштаваў, забараніў паказваць з экранаў тэлебачання яе фільм аб ахвярах сталінізму, людзях, расстраляных у 1937–1939 гадах на ўскраіне Мінска, у Курапатах, злачынстве сталінскай адміністрацыі, якое было выкрыта іменна грамадскасцю, абнародавана кандыдатам гістарычных навук Зянонам Пазняком. Грамадскасць і настояла, прымусіла пракуратуру узбудзіць крымінальную справу, правесці следства. А ў той дзень у Красным касцёле з вуснаў Пракуратара, з яго заключэння на тэлефільм: чэрапы на экране тэлевізара – гэта зусім-зусім не эстэтычна, трэба ашчаджаць пачуцці народа.

Вось так, калі бацька ўсіх народаў вывеў на паляванне за чалавекам сваю стальную раць, таксама, пэўна, ашчаджалі пачуцці свае і народа, стралялі больш у патыліцу, каб не зазірнуць адно аднаму ў вочы. І той ашчаднасцю давялі народ да такога вандалізму, пра які сёння невыносна і гаварыць: вечарам быў стрэл у патыліцу, а ноччу мясцовыя падлеткі павыцягвалі забітых з ям, пасадзілі іх пад хвоі, сунулі ў зубы па цыгарцы, далі ў рукі газеты. Гэта – з таго ж артыкула Зянона Пазняка. Ці ёсць на свеце пасля гэтага што-небудзь больш жудаснае і жахлівае. І, ох, ці не прэлюдыя да нашых сённяшніх дзён?..

Наступны, хто паказаў свой твар, зняў маску, быў чалавек, шмат каму ў зале знаёмы, амаль што свой, некалі перакідваўся ў шахматы з самім Аркадзем Куляшовым – паэтам, лаўрэатам, дэпутатам, сябрам Аляксандра Твардоўскага. Куратар, адзін з куратараў, несуноў культуры ў масы. Куратарскае крэсла яго на той момант было не вельмі трывалым: ва ўстанове, да якой ён належаў, ішло скарачэнне штатаў. І, па ўсім, ён прыйшоў у гэтую залу з яўным заданнем клана

культурыстаў і куратараў рэспублікі паказаць, што яны неабходныя, не дапусціць стварэння ніякага самадзейнага таварыства. Гэта было відавочна на той ахвярнай самаадданасці, закланнасці, з якой кідаўся ён грудзьмі на трыбуну-дот, амбразуры мікрафонаў. Кідаўся дэманстратыўна недарэчна і не да месца; у час нават працэдуры галасавання: не прымусіць слухацца, не спыніць ход гісторыі, перабудовы і галоснасці, дык хоць на імгненне затрымаць, паказаць уменне і падрыхтаванасць трымаць і не пушчаць.

Складаныя і супярэчлівыя пачуцці выклікала гэта ахвярнасць і закланнасць. Усё ж, што б там ні казалі, гэта быў учынак. І чалавек ён быў шчыры, неблагі, як, дарэчы, кожны сярод іх, вось такіх куратараў, Усе яны шчырыя, неблагія і разумныя людзі. Толькі, толькі... далучэнне да куратарства і пракуратарства не праходзіць беспакарана. І ці яго віна, што, выпраўляючы на подзвіг, яго не здолелі ўсім кланам прыстойна абмундзіраваць, зрабілі наадварот, распранулі дагала. Сапрэлі, пэўна, у сталінскіх скрынях старыя мундзіры, сатлелі ў прах, як і колькі ні нацягвай іх на сябе – усё роўна застанешся голым. Тут ужо і Самы адмысловы касцюмер не дапаможа. А мінскія шаўцы ніколі сваім мастацтвам не вылучаліся. «Бурда» – ды не тая, дамарослая, што проста бурда. І перабудова гэта відавочна выкрыла, спачатку пахіснула, а потым і ў друз, ушчэнт разбілі міф аб стабільнвеці становішча рэспублікі, міф аб самай дабранадзейнай рэспубліцы ў краіне. Прасвятленне, набыццё зроку – заўсёды балюча і страшна, але некалі трэба прызнавацца ў гэтым,

Чалавецтва павінна з усмешкай развітвацца са сваім мінулым. Класіка. Але ж то, пэўна, усё чалавецтва. Чалавецтва ў гісторыі. А чалавек і ў тую хвіліну, калі адбываецца гэта развітанне? Ці да гумару, ці да ўсмешкі?! І яшчэ, што такое кожнаму з нас – мінулае? Якое ж яно, мінулае, калі гэта сёння? Калі ты ўрос у гэта сёння, прысмактаўся да яго, зросся з ім, як тая царэўна-жаба з брыдкай, але сваёй скурай. І няма нідзе Івана-царэвіча, які б здагадаўся з рашучаю ўсмешкай спаліць тую скуру. Усе лапяць і лапяць яе. А скура ўсё роўна жабіна. Вось ужо і нітак не хапае, вось ужо і латак няма, і голкі паламаліся, дый лапіць няма чаго. А зачараваны царэвіч усё цыруе і цыруе. Народ ужо кончыў плакаць па тым сваім жабіным плацейку і смяецца, грозна і папераджальна, а ён шчыруе і шчыруе.

Голасць караля была бачна не толькі прастадушнаму воку дзіцяці, усім, хто знаходзіўся ў зале, хто пажадаў і здолеў у апошнія гады набыць зрок. Са сваімі доказамі і аргументаванасцю ён толькі працягваў усеагульны рэспубліканскі духоўны стрыптыз і спачуванне

да яго і абурэнне тымі, хто вымусіў яго з'явіцца сюды, запасіліся, выспявалі ў душы, таму што голасць гэта год-два назад была ўласціва багата каму, калі не ўсім, хто сядзеў цяпер у зале. Што тут казаць, чаму радавацца, не толькі адзін перад адным – на ўвесь свет выхваляліся, выстаўляліся сваёй галізной. І сорам мімаволі чырванню ахопліваў твар. Большай дыскрэдытацыі той установы, якую прадстаўляў той Куратар, пры ўсім жаданні немагчыма было ўявіць, папрасі ворага – і той не здолеў бы. Сапраўды, няма ў нас ворага больш вялікага, чымсьці самі мы.

І яшчэ. Гэта ўжо спакон веку, каралі і каралькі ўсіх рангаў і званняў, куратары, пракуратары і шэрыя кардыналы баяцца свежага паветра: як хутка яны ліняюць да страты чалавечай вартасці і годнасці, калі іх выцягнуць на святло, пачаць гаварыць з імі на нармальнай чалавечай мове, не ідыялагічнымі прапагандысцкімі блокамі, а відавочнасцю, рэальнасцю, пазбавіць іх звыклых абставін, саноўнага крэсла, тэлефонаў-вяртушак, сакратарак, мэблі пад арэх ці чырвонае дрэва, парадных пад'ездаў і лесвіц пад мармур. Без усяго гэтага, без падтрымкі, без хлопчыкаў-павадыроў, як хадзілі некалі сляпыя жабракі, яны таксама сляпыя. Нікольkі не велічныя, не проста бездапаможныя, а недарэчныя і бязглуздыя, як можа быць недарэчным чалавек з сапсаванай каардынацыяй руху. Таму, як казаў славуты расійскі дзядуля Крылоў, мы шмат у гісторыі прыкладаў ведаем. Недарэчныя і бязглуздыя ў нармальных чалавечых зносінах, адносінах і сувязях. Недарэчныя ў прамовах, учынках, дзеянні. О, наша шматпакутнае жыццё і гісторыя апошніх гадоў, ты ўсё такое – выпрабаванне на бязглуздасць і бязглуздасцю. Яны лжывыя, таму што ўжо не здольныя быць самімі сабой, а толькі пад... Імітацыя праўды, імітацыя жыцця, улады, пэўна, таксама. Жахліва, жудасна, таму што мы таксама пад, пад імі. Мы, сляпыя хлапчукі, павадыры сляпых. І ніколі па сваёй добрай волі яны нас не выпусцяць з-пад гэтага пад, калі мы не здолеем вызваліцца самі, не станем відушчымі і адмовімся быць іх павадырамі.

І падобна на тое, што людзі, якія сабраліся ў Красным касцёле, упершыню разам моладзь і творчая інтэлігенцыя Мінска, пачыналі выходзіць на тую дарогу вызвалення і прасвятлення:

– Хто за тое, каб прыняць нашу сумесную рэзалюцыю за аснову, – як звычайна прапанаваў старшыня сходу, – прашу падняць рукі.

Зала, за выключэннем людзей ніадкуль, ускінула рукі. У той жа час падхапіўся са свайго месца Куратар, які да гэтага ўжо выступаў, але так нічога пэўнага і не сказаў. Яго не сагналі з трыбуны толькі дзякуючы яшчэ аўтарытэту і высокасці той установы, ад імя якой ён

тут з'явіўся, веданню яго ў мінулым як чалавека неблагога і памяркоўнага, заскарузлай, старой цярплівасці прысутных. Цяпер ён зноў памкнуў да мікрафона. Памкненне гэта параўнальнае толькі з адчаем лагерніка – як хутка ў наш час мяняюцца ролі,– лагерніка, які кідаецца на калючы пад напружаннем дрот. Але старшыня, імкнучыся закончыць галасаванне, аберуч абхапіў трыбуну і не дапусціў яго да мікрафона. Маленькі, у акулярах, толькі што пасля інфаркту, немаладзён ужо, ён не дазволіў выпхнуць сябе з-за трыбуны, не пусціў да мікрафона. Пачалася доўгая і даволі зняважальная тузаніна і спрэчка. Барацьба за ўладу, мікрафон, галоснасць і чалавечую вартасць. Двое хлопцаў-распарадчыкаў з нарукаўнымі павязкамі наблізіліся і сталі па абодва бакі Куратара. Пазней часопіс «Политический собеседник», № 1, 1989 г. напіша, што яго сілаю сцягнулі з трыбуны, вывалаклі з залы і амаль пабілі. Сведчу: ніхто пальцам да яго не дакрануўся. А сам факт такой публікацыі – дадатковае і яскравае сведчанне размеркавання сіл. Рэспубліканская незалежная і плюралістычная прэса, за выключэннем «ЛіМа»,– іхняя.

Выступленне, крык Янкі Брыля ў «Советской Белоруссии» – эпізод, адчуванне старой гвардыяй таго, што перабралі, хапілі праз край.

– Дэмакратыі. Дэмакратыі і галоснасці,– скандзіравалі, як стралялі, людзі ніадкуль.– Дайце яму слова, няхай гаворыць.

– Ён ужо гаварыў, а мы слухалі, – адказвала зала. – Няхай не перашкаджае працэдуры галасавання.

– Дэ-ма-кра-ты-і, га-ло-сна-сці, – білі адзіночнымі і чэргамі згуртаваныя ананімы. Пацяшалася, рагатала зала. Але ў таго-сяго з той залы вочы пайшлі ўбок, у падлогу, цела – у крэсла, а галава – у плечы. У тых, хто захаваў у сабе адчуванне сораму і жалю. Было сорамна і крыўдна да слёз, чалавек жа, што спіхваў другога чалавека з трыбуны, сутаргава і недарэчна цягнуўся да мікрафона, быў прадстаўніком культуры добранадзейнай і стабільнай рэспублікі.

– А загадчыка, свайго сакратара, ён таксама здольны ў час галасавання перапыніць, сагнаць з трыбуны?..

Угнуўся за сталом прэзідыума, нібы жадаючы праваліцца скрозь падлогу, пайшоў плямамі, глыбока і цяжка задыхаў Васіль Быкаў. Прыкмета характэрная і грозная, каму даводзілася бачыць яго. Прыкмета адчайнага гневу, грэблівасці, гранічнай сабранасці і рашучасці. Нешта вельмі і вельмі беларускае, як яго талент, безвыходнае і таму небяспечнае. Гэта адчулі ўсе, як, пэўна, адчуваў у яго, Быкава, маладыя гады там, на перадавой, накрываючы іх палёт варожага снарада. Вось таксама некалькі гадоў назад на нарадзе пісьменнікаў-франтавікоў у Мінску ён угнуўся і наструніўся за

трыбунай, як у тым жа акопчыку на перадавой, у прысутнасці членаў урада і першага сакратара ЦК рэспублікі, гаворачы аб зачынальніках франтавой літаратуры. Па-сялянску ўгнуўся і кінуў у залу і прэзідыуму: Віктар Някрасаў. Цішыня тады ў зале ўстанавілася неймаверная. І ў той цішыні выразна і гулка чуліся крокі першага сакратара, што пакінуў прэзідыум і залу.

І цяпер такая ж неймаверная цішыня ўсталявалася ў зале яшчэ да таго, як падняўся са свайго месца Васіль Быкаў. Гэту цішыню таксама, пэўна, трэба назваць прадчуваннем залпа, прадчуваннем таго палявання, у прамым сэнсе палявання і адстрэлу, што пачаліся праз два тыдні.

Ці ведаў, прадбачыў, ці мог гэта прадбачыць Васіль Быкаў, хутчэй за ўсё так, хаця і не ў поўнай мо меры. Той сакратар, што ў адзіноце і моўчкі пакінуў прэзідыум, Пётр Міронавіч, Машэраў, пайшоў. Пайшоў назаўсёды пад несуцешны плач народа, хоць і ён быў не без папроку. Толькі папрок той быў як бы і самім сабе. А тыя, што прыйшлі на змену яму, прэзідыумаў не прывыклі пакідаць: біцеся тут хоць галавой, а я сваё зраблю і скажу. Не прывыклі пакідаць прэзідыумаў, таму што ім і ў галаву не магло прыйсці такое. На такую думку і ўчынак не хапала ім галавы. І час, час крута памяняўся: пойдзеш, адразу ж зойме тваё месца нехта іншы і скажа – маё. Бессаромны і пазбаўлены прыстойнасці і вартасці сам час. Бяры, хапай, што паспееш, так, пэўна, распадалася і рымская імперыя. Вось чаму, так трывушча трымаўся за трыбуну Куратар.

Голы кароль-то голы, але, як правіла, калі здымаецца апратка, памірае і сорам. Сорамна адно толькі імгненне, а пераступіў праз яго, пайшло нармальнае жыццё, натуральнае становішча, калі, аднойчы схлусіўшы, не хочаш, а мусіш хлусіць і хлусіш ужо не дзеля зорак і чыноў, кар'еры, дабрабыту. Мастацтва дзеля мастацтва. І асабліва захапляе гэта мастацтва, калі творчасць калектыўная, калі адчуваеш цвёрды і цёплы локцік другога творцы. Прагнеш адчуць сябе ўжо і салаўём.

Дастаткова толькі згадаць «Салаўёў пад Прыпяццю», нарыс увогуле сумленнага аўтара ў цэнтральнай газеце, пасля чарнобыльскай трагедыі. Раней тых салаўёў ніхто там і не чуў. А тут гахнуў атамны рэактар, і на ўсю краіну голас: салаўі над Палессем спяваюць.

Тое ж самае і тут. Куратар з падачы рэспубліканскай прэсы і пасля франтальнай атакі ўсіх іншых аголеных апаратчыкаў зрабіўся пазней героем дня. У сане пакутніка, але пры крэсле, пайшоў на павышэнне. А Быкаў у тую хвіліну вымавіў усяго некалькі слоў:

– Што тут адбываецца? Што гэта нам нагадвае?.. Мы толькі што прагаласавалі: хто за рэзалюцыю? Ставім на галасаванне: хто супраць рэзалюцыі?

Прагаласавалі. Супраць стварэння гісторыка-асветніцкага таварыства ахвяр сталінізму і Куратар з Пракуратарам, і тая ж дружная каманда ніадкуль. Потым, крыху пазней, яны перавернуцца, перакруцяцца: пасля тэлеграмы М. С. Гарбачова падобнаму ж таварыству ў Маскве будуць «за» – святая ж справа. Але тады яна яшчэ не была зверху асвячона, і яны, зразумела, катэгарычна супраць. Усё, што зверху не дазволена – забаронена.

– Вось і ўсё,– сказаў Васіль Быкаў, звяртаючыся да Куратара. – Цяпер гаварыце, што вы маеце сказаць.

Эпізод гэты доўжыўся мінуту.

З Куратара нібы выпусцілі пару. Ён набыў тое, чаго дамагаўся – галоснасць, дэмакратыю і свабодны доступ да мікрафона. І, здаецца, разгубіўся: трымаць і не пушчаць не было каго, слухацца яго не сталі. А казаць яму не надта было што, акрамя як паўтарыць казанае Пракуратарам.

– І гэта дэмакратыя? Гэта дэмакратыя? Гэта анархія, а не дэмакратыя! – некалькі разоў паўтарыў ён, стоячы за трыбунай, як не маючы сіл развітацца з ёй.

Але паўтарэнне тое было грознае. У ім ужо было чутно бразганне паляўнічых стрэльбаў, крокі ботаў батальёнаў міліцыі і войск спецыяльнага прызначэння, посвіст гумавых дубінак, рык матораў машын-вадамётаў, згаладалых «чорных варанкоў».

Паляванне, паляванне, паляванне.

Супраць каго? Наіўнае пытанне: каго можа сёння ўпаляваць афіцыйна зарэгістраваны паляўнічы. Звера і птушкі не так ужо шмат: меліяратары, мінвадгас – лепшыя на свеце паляўнічыя. А тое, што засталося, ацалела пасля іх, адстрэлена, пазначана адным чарнобыльскім залпам. І ў першы ж паляўнічы сезон пасля таго залпа паляваннце ў Беларусі, у прыватнасці на пералётную птушку, было забаронена. Цяжка, праўда, меркаваць, чаго ў той забароне было больш: міласэрнасці ці жорсткасці. Паляўнічая здабыча, у асноўным качкі з прыпяцкай поймы, цягнула за межы рэспублікі, несучы радыяцыю. Паляўнічая рать па-за Беларуссю ўзбурліла: чаму выпускаеце заразную птушку за межы рэспублікі? Ім адказалі: калі вы такія апекуны і прыхільнікі чысціні расы, станавіцеся на мяжы і адстрэльвайце, не пускайце заразу.

Сітуацыя хоць і чыста паляўнічая, але вельмі сімптаматычная той, што адбылася трыццатага кастрычніка 1988 года ў горадзе

Мінску: тады не хацелі, каб радыеактыўная зараза распаўзлася па краіне. Паляванне ж трыццатага кастрычніка было скіравана на выкараненне заразы, што паступала ў рэспубліку звонку – з Прыбалтыкі, дзе арганізаваўся Народны фронт, дый з Масквы, адкуль набягалі хвалі перабудовы і галоснасці, куды быў выціснуты, выгнаны Алесь Адамовіч. Трэба было захоўваць стабільнасць устояў антыперабудовачнай Вандэі. Аб гэтым прама і ў адкрытую гаварылася пазней ужо з усіх трыбун: вы што, хочаце, каб і ў Беларусі было, як і ў Прыбалтыцы. Праўда, пры гэтым заставалася па-за ўвагаю: чаго ж хочуць самі беларусы. Ці на самай справе прагнуць яны зрабіцца паляўнічымі-вартаўнікамі, арганізавацца ў казацкія сотні і дзікія дывізіі, ці падыходзіць такая роля беларускаму народу. Але гэта ўжо, канечне, дробязі...

З дня чарнобыльскага залпу і з той нагоды прапушчанага восеньскага палявання мінулі два гады. Загоншчыкі дзікага палявання караля Стаха здолелі пераразмеркавацца, узброіцца і стальной згуртаванай раццю выстраіцца ў цэнтры, у сталіцы рэспублікі. Праўда, шмат чаго і ў рэспубліцы змянілася за гэты час. І час, абставіны палявання памяняліся. Больш нецярплівым, але і больш гуманным, міласэрным да чалавека і звера зрабіўся час. І не толькі птушка, чалавек і звер гэта адчулі. Акрыялі, пачалі прагнуць жыцця і дрэвы.

На тым жа, родным паэтэсе-ластаўцы Палессі ў апошнія гады невядома чаму высахла, памерла шмат дубоў. Стаялі стагоддзямі, стаялі вечна. А тут як жыццё самагубствам вырашылі кончыць. Вясна, адна, другая, усё ў рост, усё квітнее: вольха, асіна, бяроза, нават ясень. А дуб не распускаецца. Праўда, у тыя апошнія гады былі вялікія і доўгія паводкі. Нават не паводкі. Па заліўных сенажацях рэчак Ясельда, Случ, Бобрык, Пціч, па прыбярэжных прыпяцкіх ацалелых дубровах доўга стаяла і не сыходзіла вада, застойная, іржавая, па мохам зарослую бараду дуба. Мо ў той застойнай вадзе і затхнулася цар-дрэва, адмерла ў ім штосьці. І наканавана яму ўжо была печ – на дровы, калі не жадае квітнець. Інакшай карысці ад вас няма. Толькі сум насылаеце, пужаеце і ўдзень, і ўночы мярцвячынай жывое вока.

Але вось апошняю вясною як пачулі штосьці дубы, праведалі штосьці аб тым чалавечым спалоху, а мо нешта ў прыродзе вакол іх змянілася. І адчулі, паверылі ў тыя перамены дрэвы. Не адразу, праўда, а спакваля. Вясна ўжо адстаяла сваё. Набліжалася лета. І адной ноччу апрануўся лістом жывы, але позна аказваючы сябе глухі дуб-лянівец. А другой ноччу раскашлаціўся дуб памерлы, ды так густа

агарнуўся зялёнай водмаладдзю, што багата хто ў вёсцы адмаўляўся веры даць вачам сваім. З гэтым мясцовага, сялянскага значэння дзівам супала яшчэ адно. Журавель на Палессі абазваўся, падаў чалавеку голас. А голас той быў ужо напаўзабыты палешукамі. Маладыя і не ведалі, не маглі адказаць, хто гэта крычыць-курлыкае. Толькі паважнага веку старыя пазналі, успомнілі: жораўка, журавельчык вярнуўся. Дзіўна, нібы з таго свету прыйшоў зноў да людзей, старых перад смерцю, перад вечным спачынам пацешыць, як дзетак маленькіх. Дажылі.

Але толькі дзіўна, не больш таго, бо жыццё да звера і чалавека ў тыя міласэрныя дні не ведала літасці. І не ўсе і не ўсюды адчулі і прызналі тую міласэрнасць нябёс, той боскі голас, кліч-курлыканне. Той-сёй, канечне, пачухаў патыліцу, задумаўся, адклаў убок, схаваў ці здаў зусім стрэльбу, развітаўся з ёю назаўсёды. Толькі ўсё роўна паляўнічыя сезоны пачыналіся дзень у дзень, хвіліна ў хвіліну, як абвяшчаліся.

І хвіліны тыя былі жудаснымі. Грукат на сенажацях, пры азярынах і дубровах – як пры штурме рэйхстага. Роўна ў дваццаць чатыры нуль-нуль, у няўчассе, у глухі час Быка глухлі і слеплі рэкі, азёры, лясы, людзі і звяры. Свінцовы град сыпаўся з неба, як дождж. Звер абміраў і шыўся ў норы, Птушка дзікая,хоць і пазначаная радыяцыяй, губляла галаву, заплюшчвалася і ў апошнім адчаі цягнула з балот і вады глуханманцы лазнякоў – у вёску, на сялянскі падворак, да сваіх хатніх суродзічаў, А кананада вакол не сціхала. На вайне як на вайне. Білі, нішчылі ўсё жывое, што лётала, поўзала, рухалася і не здольна было рухацца. Азарт. Нармальны стан і паводзіны чалавека са стрэльбаю. Закон вечнага чалавечага спектакля: калі ёсць стрэльба, значыць, яна павінна стрэліць. Чалавек – уладар прыроды і абавязаны змагацца з ёю і скарыць яе.

І ён змагаўся. Адзін, гуртам, ланцугом, клінам, свіннёю І вось ужо прыкмеціў недзе ў раёне салігорскіх рукатворных гор здзічэлага ад адзіноцтва, састарэлага ўжо і загадзя пасоленага зайца, Ён там, сярод салявых адвалаў, як сведчаць некаторыя аматары прыроды, вельмі добра асвойтаўся і прыжыўся. Там жа, на Случчыне, на журботных яе палях, як сведчыць пісьменнік Алесь Жук, адстрэльвалі апошняга жураўля, Па сведчанню газеты «Труд», у Вілейскім раёне мясцовая знаць, што прыбыла на запаведнае лебядзінае возера, наладзіла сабе там каралеўскае паляванне, Усюды, усюды, з краю ў край рэспублікі. Усё жывое ў прыродзе і чалавеку аганізавала, расстрэльвалася ва ўпор.

Але асабліва ўдалым, проста цудоўным было паляванне ўсё ж на

Палессі, таму што ў Беларусі нічога так не любяць, як Палессе, ні аб адным кутку не складзена больш песень і паданняў, раманаў і вершаў, не праспявана больш песень. Гэтыя песні і казкі расстрэльвалі, а праўдзівей, дастрэльвалі пасля меліяратараў і Чарнобыля, Гэта магла б засведчыць і палеская ластаўка, светлае і чыстае цуда-дзіця Палесся. І там ішло паляванне іменна на гэта цуда, на дзіця, пад белымі крыламі якога знаходзіцца сама беларуская зямля... «Белый аист летит над Полесьем...» Прыгожа. Іменна на аіста-бусла і ішло там паляванне.

На месца будучага бою рацъ прыбыла механізаваная: дзяржаўнага жалобнага колеру «Волгі» паглынулі запаведнікі; дэмас-«Лады», як славянскія ладдзі, пацягнулі ў месцы больш дэмакратычныя, да даступных берагоў рэчак і азярын, «казак-электроны» – «Запарожцы», матацыклы паскакалі ў непралазнасць балотных хмызоў.

На беразе ракі пад дубам з кучаравай водмаладдзю, тым самым, што прыйшоў у жыццё ўжо з небыцця гэтаю вясной, сталі табарам, аб'ядналіся тры машыны: «Волга», «Лада», «Запарожац». Як кажуць, нефармальны інтэрнацыянал. Але нефармальнасць нефармальнасцю, а форму выканалі. «Волзе» аддалі самае лепшае месца, у зацішку і ўкрыцці галін дрэва, на той выпадак, калі надарыцца дожджык – не дастане. А ўсё астатняе было па сцэнарыі, пісанаму жыццём. Інтэрнацыянальна згуртаваўшы рады, урэзалі вінца, гарэлачкі і каньяку, таго, «Белага аіста», піўка таксама. У дваццаць чатыры нульнуль, у час Быка, адсалютавалі. На світанні прачнуліся, абмундзіраваліся, каб па суху і па вадзе. Узброіліся і пайшлі, ужо, лічы, па вайне і на вайну, у блакаду стрэльбавай пальбы. Для іх гэта блакада і вайна аказалася бяскроўнай. У прыродзе ўсё, што можна толькі забіць і згвалціць, было ўжо забіта і абрабавана. Нікога не бачылі, нікога не чулі, ніякай шкоды нікому не зрабілі, але боепрыпасы выкарысталі. Стомленыя, але задаволеныя, крыху безупыннай кананадай прыглушаныя, вярнуліся ў свой табар. І тут, во жах, дзяржаўная «Волга», з такім клопатам прытуленая ў зацішку, аказалася ў тым самым, у гаўне. Дожджык яе мо б і не дасягнуў, а буслы дасталі, здолелі І ніякай пачцівасці і павагі, густа, шчодра і рознакалярова: верх, багажнік, дзверцы, шкло. Так шчодра і густа, што няйнакш як з перапуду.

– Гэта колькі ж іх тут шчыравала,– амаль добразычліва здзівіўся ўладальнік персанальнай «Волгі».

– Пачвары,– абражана ўзвыў вадзіцель,– зараз палічым.– І рвануў з пляча стрэльбу.

Але яго апярэдзіла паслужлівая каманда з «казак-электрона». Чатыры стрэлы зліліся ў адзін. Рэха яшчэ лунала, шапацела па

дуброве, скокам бегла па рацэ і сенажаці, а дзве дасціпна схіленыя з гнязда птушыныя галавы, як бел-чырвона-белыя сцягі, з шапаценнем крывавячы ўсё яшчэ маладую, што не паспела ў першае сваё лета адраджэння яшчэ зашэрхнуць, задубець, лістоту, упалі да ног уладальніка персанальнай «Волгі», які ў ахоўнага колеру шыкоўным паляўнічым сваім касцюме амаль помнікава-бронзава стаяў пад дубам. Быў ён сінявокі, шырокі тварам і целам, па-бацькоўску ўсмешлівы.

– Варты сапраўднага паляўнічага стрэл,– па-бацькоўску ўхваліў ён стралкоў. Але не паспеў яшчэ закончыць гэтую хвалу, як буслінае гняздо ўзляцела разам угару. Памкнула ўгару дымным воблакам пылу і пер'я, чорна-ссохлымі суччамі-галавешкамі, белаю пенай шырока распасцёртых птушыных крылаў. Здавалася, пякучы слуп полымя і агню выхапіўся з макаўкі дуба і пайшоў у сіняе неба. Дуб стрэліў агнём у сонца і падпаліў сам сябе.

То з вышыні нябёс лілася ўжо на яго кроў бусла і буслiх, мёртвых, абезгалоўленых, як лілася яна з цела чалавека ў сталінскіх катавальнях ва унітазы ў прыбіральнях. Разлучаныя з жыццём птушкі ўсё ж паспелі выкінуцца з гнязда і, акрапляючы крывёю лістоту і вопратку сваіх забойцаў, спланіраваць на зямлю, упасці пад дубам каля ног магутнага ўладара, цара прыроды – чалавека. Бусел і бусліха, бацькі.,

А трое маладых вінтом пайшлі ў неба, да сонца. Трое птушанят – вялікая рэдкасць для звычайна нешматлікай буслінай сям'і. Але год той удаўся надзвычай спрыяльны для працягу буслінага роду. Старыя буслы прадбачылі, ведалі аб гэтым яшчэ вясной. І таму ні адно яйка не выграблі з гнязда, не скінулі на зямлю, захавалі і жыццё ў зародку. Спадзяваліся, усіх пракормяць, дагледзяць, паставяць на крыло, кінуць у неба. З вышыні неабсяжных нябёс, птушынага палёту, яны абдымуць сваімі белымі крыламі гэтую зялёную зямлю. І яны абнялі яе, што засланілі, здавалася, само сонца. І нібы баючыся за яго, паляўнічыя зноў ускінулі ўгару стрэльбы, усе разам цяпер. І грымнуў залп. І з сонечнай высі вярнуліся на зямлю птушкі. Мёртвымі. Так ніколі і не зведаўшы цёплых краін, не пабываўшы ў выраі. Іх вырай завяршыўся там, дзе яны пачаліся, сталі сведкамі першага і апошняга ў іх жыцці палявання чалавека на звера і птушку.

Паляўнічыя ж, што атабарыліся пад дубам, пасля такога паспяховага выпрабавання сваіх стрэльбаў увайшлі ўсмак. Што ні кажы, а вялікая справа стрэльба, калі яна ёсць – павінна страляць. І яны, падсілкаваўшыся, канечне, зноў папоўнілі боезапас, арганізавана, амаль што строем рушылі ў прасцяг палескіх лугоў і дуброў. Паляванне працягвалася.

На схоне дня, на захадзе сонца сутыкнуліся з вялізнай буслінай чарадой. Буслы рыхтаваліся да выраю, развітваліся з зямлёю, што адарыла іх жыццём і крыламі, радасцю і замілаваннем вышыні і палёту, пэўна, абяцалі ёй вернасць у чужым краі. Абяцалі вярнуцца на зямлю продкаў, маладыя – стаць тут бацькамі: нарадзіць падобных сабе на мілай сваёй бацькаўшчыне – радзіме. Ды дзе там, шмат каму з іх у той дзень быліназаўсёды мёртва падрэзаны крылы.

Трымаючыся згодна дыспазіцыі свайго месца ў ланцугу, паляўнічыя ахапілі чараду з бакоў, працягвалі такое ўдалае адкрыццё паляўнічага сезона. Залпамі і адзіночнымі стрэламі на выбар і ў самую гушчу, у чараду, каб пакласці не аднаго нейкага бусліка, а адразу некалькі. Білі ўлёт тых, хто паспеў падняцца ў неба, і на зямлі, тых, хто імкнуў уцячы ці ў аслупяненні прыстыў на месцы, як каму дазвалялі іх паляўнічае званне і годнасць. Падразалі шротам крохкія чырвоныя ногі ўцякачам, абстрыгалі скіраваныя ў палёт галовы, уганялі свінцовы шрот у адчыненыя дзюбы тых, што крычалі, пратэставалі. Усім давалі панюхаць, чым пахнуць іх стрэльбы, гома сапіенсы, чалавекі разумныя. Абсякалі крылы лятучым ужо, вымушалі іх каменем падаць на зямлю, сцвярджаючы тым самым адкрыты чалавекам закон зямнога працягнення. Закон чалавека ўзброенага, што так горда ідзе са стрэльбаю ў руках у новае тысячагоддзе, трэцяе тысячагоддзе ад нараджэння Хрыста...

Усяго за адзін вечар на адной лугавіне каля рэчкі Прыпяць было расстраляна каля паўсотні буслоў. Такія вось Курапаты жніўня месяца перабудовачнага 1988 года. І сатварылі іх людзі ў найвышэйшай ступені добранадзейныя, добрапрыстойныя, правераныя, бо сёння першаму стрэчнаму-папярэчнаму стрэльбу не пакінуць, не дадуць на яе дазволу. Нашы з вамі сучаснікі. Паўсотні буслоў расстраляна на лугавіне дзеля адной толькі забавы. Ні аднаго з іх не ўзялі, не з'елі, не выкарысталі нават для чучала. Усе як адзін буслы засталіся ў якасці сведак таго, на што здольны чалавек. Жыхары навакольных вёсак, калі да іх дайшлі першыя чуткі аб гэтым паляванні, не далі ім веры. Групамі і па адным прыходзілі паглядзець: ці не хлусіць пагалоска – грэх жа, грэх. На Беларусі бусел – святая птушка, таму і ходзіць па зямлі, як той дзед, у белай світцы. Бязгрэшныя мёртвыя сведкі былі ўсе ў наяўнасці. Ні адзін не адмовіўся ад сваіх паказанняў, не ажыў, не збег, нікуды не зляцеў з лугу, смерцю сваёй засведчылі: было. Але ўсё роўна, бачачы ўсё на свае вочы, не хацелася даваць веры, прызнавацца, што такое магчыма ў нашы дні. І таму, пэўна, ніхто з вяскоўцаў нікуды нікому не заявіў. І што заяўляць, каму скардзіцца, калі нешта падобнае адбылося некалькі гадоў назад з бабрамі.

Адплакалі сваё на гэтых пакутных палескіх берагах палескія бабры і зніклі, звяліся на бабровыя шапкі. Нешта падобнае пасля сусветна вядомага красавіцкага чарнобыльскага атамнага залпа па Белай Русі было і з ракамі. Ноччу яны пакінулі раку і выпаўзлі на бераг, як чорныя манахі, шкробаліся адзін аб аднаго чорнымі панцырамі-сутанамі і зайшліся на сушы.

О зямля, што з табою робіцца, што з табою робяць дабрадзеі-цывілізатары. Пад якім атамным прыцэлам ты ідзеш у светлае будучае, у трэцяе тысячагоддзе. Нікому і нідзе, ні чалавеку, ні зверу, ні птушцы, ні казюрцы няма паратунку. І цішыня, цішыня, усё стабільна, усё добранадзейна і ўстойліва.

Адзінае што ў той вечар, калі вяскоўцы, саромеючыся і пазбягаючы адно аднаго, наведалі бусліныя Курапаты, як кажуць, смяротна, нягледзячы на сухі закон і поўную адсутнасць у акрузе спіртнога, напіліся калгасны актывіст і стары вясковы егер на грамадскіх пачатках. Брыгадзір і актывіст напіліся і пабіліся і жонак сваіх трохі паганялі. А на другі вечар сабраліся з усёй акругі старыя разам з егарам, прыйшлі на луг з рыдлёўкамі. Выкапалі адну брацкую магілу, пазносілі, пахавалі буслоў. Зраўнялі зямлю, заклалі дзірваном. Прытрусілі травой: нам жа тут сена касіць, нам жа тым сенам кароў карміць. Ад тых кароў нам, нашым дзецям і ўнукам малако піць. Не было тут нічога. Не было, таму што не магло такога быць.

А крыху пазней памёр егер. Сам, сам памёр. Хоць, здавалася на выгляд, і дужы, але сэрца, сэрца. Дасталося яго сэрцу. Вайну прайшоў, артылерыст, камандзір батарэі. Не хварэў і не скардзіўся на хваробы, па дактарах не хадзіў. Раптоўна, нечакана, узяў і памёр. Сапраўды сам. Але, але, але...

Дзень памяці продкаў. Вялікі дзень памінання. Дзень нашай чалавечай памяці, што робіць нас людзьмі, трымае, не дае перарвацца нітцы часу, звяно ў ланцугу, што яднае і звязвае дзень мінулы, сённяшні і будучы. Хто, цвярозы розумам, наважыцца зрабіць замах на яго? Кашчунства нават думаць аб гэтым. У кожнага ж з нас ёсць ці былі бацька і маці – бацькі. Яны нас нарадзілі. Гэта і ёсць наша радзіма. І як мы пакідаем сваім дзецям, нарадзіўшы іх. Дык хто ж здольны падняць руку на радзіму, на самога сябе. Самазабойцы, канечне, не зваліся з зямлі, з роду чалавечага. Але іх не вельмі ўжо і шмат. Ды і падымаюць яны руку толькі на тое, што прыналежыць ім. Тушаць толькі сваю ўласную свечку, якую маюць права патушыць, не шкодзячы нікому. Тушыць свечку чужую – гэта ўжо нешта іншае, імя чаму нават не злачынства, а вар'яцтва. Хаця гэта ўласціва, датычыцца, пэўна, чалавека звычайнага, пэўна,

элементарна сумленнага, прыстойнага. Розум і вар'яцтва, гонар і прыстойнасць палітыка – гэта ўжо нешта зусім інакшае. Вялікая палітыка кіруе ўжо сама сабою, не азіраючыся на нечую памяць і жыццё, кіруецца інстынктам уласнай бяспекі палітыкаў і іх кар'еры.

А гэта ўжо з адчуванняў больш позніх. А тады, напаўдні трыццатага кастрычніка, хоць і было прадчуванне нейкай незразумелай бяды, што напаўзае зноў жа невядома адкуль, напаўзагнанасці, напаўзвярынай скаванасці, усё ж не верылася, што тут, у сталічным горадзе, на жалобнай плошчы каля ўвахода на Маскоўскія могілкі, можа пачацца паляванне. Машыны спецыяльнага прызначэння, хоць і былі нязвыклыя воку, але міралюбныя, як, пэўна, міралюбны кракадзіл, пакуль не пакажа пашчу. Вялікае мноства міліцыі таксама не вельмі палохала. Міліцыя ж з дзяцінства свая, каторая нас беражэ.

А да ўсяго, напярэдадні гэтага дня памінання ў Доме літаратара Саюза пісьменнікаў БССР на партыйным сходзе сакратара гаркома партыі Мінска спыталі (пытанне задаў пісьменнік Васіль Сёмуха):

– Па горадзе ходзяць чуткі, што заўтра, калі мы пойдзем на могілкі памянуць продкаў, нас будуць біць дубінкамі, нібыта рабочых з прадпрыемстваў пазвалі на дапамогу: прыходзьце на Маскоўскія могілкі – дубінкі мы вам знойдзем. Ці праўда гэта? Я ўсё роўна з жонкай і дачкою пайду, каб ускласці кветкі на магілы Караткевіча і Машэрава. Прашу адказаць: будуць нас біць дубінкамі?

Галко, сакратар Мінскага гаркома партыі, палічыў гэта пытанне правакацыйным.

А між тым паляванне фактычна пачалося ўжо. Не так даўно ў рукі грамадскасці трапіў дакумент, дзе распрацаваны падрабязны план гэтага палявання. Усё распісана, хто і за што адказвае, хто ўзначальвае групу «загоншчыкаў», хто групу захопу, за тыя ж самыя дубінкі – тэхнічныя і механізаваныя сродкі палявання. Народ і партыя – адзіныя. Не хочаш, а мусіш гаварыць заклікамі. Чаго ж толькі варта гэта адзінства, калі нават камуністы камуністам хлусілі ў вочы. Цяжка ж паверыць, каб сам авангардны авангард, айцы горада не ведалі, што будзе заўтра, каб план таго палявання склаўся без іх удзелу. Але дапусцім на хвіліну, што гэта так: не ведалі, абышлі іх. Тады другое пытанне: чаго ж варты такі авангард, ці рэальная яго ўлада? І хто правакатар? Пытанні, пытанні, пытанні. Яны ўжо нам надакучылі. Сапраўды, адзін дурань можа задаць столькі пытанняў, што ніводзін разумнік не адкажа. Але нешта занадта гаваркіх ці то дурняў, ці то разумнікаў распладзілася. Хто іх толькі напладзіў? Чым вінавата гэта зямля, што такі багаты на іх ураджай? Чаму такое

атрутнае насенне, з чыёй рукі лягло ў зямлю?

Пытанне правакацыйнае, казана было ўсім. І людзі пайшлі. Пайшло да могілак законапаслухмянае насельніцтва горада Мінска. Ішлі беларусы, жыхары самай стабільнай рэспублікі ў краіне, ведаючы аб гэтай сваёй стабільнасці, вернасці ўстоям. Апора і надзея гэтых даўніх устояў, якія крыху, праўда, як ужо было казана, пахіснуліся пад націскам свежых вятроў. Вятроў з Масквы і ад сваіх суседзяў-прыбалтаў. Вось таму два апошнія тыдні, што папярэднічалі гэтаму шэсцю, былі поўныя газетнай істэрыі, ішло цкаванне інтэлігенцыі, работнікаў культуры, канкрэтна – трох творчых саюзаў, якія выступілі заснавальнікамі рэспубліканскага гісторыка-асветніцкага таварыства памяці ахвяр сталінізму «Мартыралог Беларусі»: Саюза пісьменнікаў, Саюза кінематаграфістаў, Саюза мастакоў. З газетных старонак, у працоўных аўдыторыях іх абзывалі групай самазванцаў і пенаю, у лепшых традыцыях застойнага часу пыталіся: чый хлеб яны ядуць, абвінавачвалі, што занадта ўжо адукаваныя, кніжкі, маўляў, чытаюць, а вось працоўнаму чалавеку ад станка няма калі ды і навошта чытаць. То быў таксама час Быка, няўчассе, калі ваяўнічае невуцтва ганарыцца гэтым сваім невуцтвам.

Такім вось чынам і тонам той-сёй у рэспубліцы спрабаваў зацэментаваць расколіны ўстояў, так убіваўся клін паміж працоўным класам і інтэлігенцыяй. Так айцамі горада пеставалася і спелілася правакацыя. І не толькі правакацыя. Сумна вядомае кожнаму з нас: народ і партыя – адзіныя. А ўсе астатнія – пена, адшчапенцы, ворагі. Ату іх, ату. Даеш новае, часоў перабудовы і галоснасці, мілае-мілае апаратнаму сэрцу і вуху паляванне на ведзьмаў. У адзіны механізавана-бранявы кулак нябачнага, выкрытага і сёння паляўнічага збіраліся ўсе сілы. І кулак гэты ўсёй сваёй афіцыйнай магутнасцю павінен быў абрынуцца на беларусаў у навучэнне ўсім іншым, каторыя ўжо стварылі народны фронт і ўздумалі крочыць яшчэ далей, невядома нават куды. Грузіны дык, пэўна, у крывавую нядзелю дзевятага красавіка. Ці не меркавалася адзначыць тую красавіцкую грузінскую нядзелю спачатку ў красавіку на Беларусі? Вельмі ж падобныя сцэнарыі. І тут, і там паляванне, паляванне, невідзімкі, і няма адказных. Розніца толькі ў грузінскім, паўднёвым, і беларускім тэмпераменце. А наогул, калі ўсё і паўсюдна трашчыць і рушыцца, трэба з некага пачынаць, на прыкладзе адных вучыць і ставіць на месца ўсіх іншых, вызначаць дарогу, паказаць тым жа грузінам і іншым розным шведам на прыкладзе тых жа самых беларусаў, да якога храма вядзе іх дарога, які храм чакае іх наперадзе. Толькі беларусы не паддаліся на правакацыю. О

няшчасны, знямелы народ, не ўсё яшчэ ў цябе страчана.

Але ўсё гэта стала вядома пасля. Калі надышоў час ужо апраўдвацца перад гэтым народам. Апраўдваць сябе, свае дзеянні. Палюдску, дык і прасіць прабачэння. Толькі ў каго ж гэта з сённяшняга авангарда павернецца язык. Пётр Міронавіч, як гаварылася вышэй, пайшоў, пайшоў назаўсёды. А новы мо яшчэ і не нарадзіўся. Хто ведае, хто ведае. І пакуль яшчэ толькі дзень памінання продкаў. Нядзеля. Трыццатага кастрычніка. Трынаццаць гадзін сорак мінут. Ідуць беларусы, ідуць беларусы, строга па тратуарах, выконваючы ўсе правілы вулічнага руху, толькі на дазваляльнае, зялёнае святло. Не крыўды, не кроў і нават не боль нясуць яны ў сваіх руках. Кветачкі. Ягадкі недзе яшчэ толькі завязваюцца. Познія восеньскія астры, кастрычніцкія чырвоныя гваздзікі. На магілы продкаў, вядомыя і невядомыя. Больш невядомыя.

Іх, гэтых беларусаў, столькі палегла за ўсю гісторыю, што сама гісторыя захлынулася ў іх жа крыві, спłыла кроўю. Няма ў іх сваёй гісторыі. Як няма ўжо і мовы. Нагаварыліся яны мовай рэвалюцыі. Анямелі ад уласнай смерці, стаміліся смяротна. Кожны чацвёрты ляжыць на палях Вялікай Айчыннай, па іх звоняць званы Хатыні. А колькі бацька родны паклаў, развеяў прах па ўсёй Айчыне, пра тое ніхто, акрамя самога яго, не ведае. Вядомыя сёння ўжо ўсяму свету курапацкія ўзгоркі захоўваюць яшчэ сваю тайну. Вялікая тайна, колькі яшчэ ляжа ад Чарнобыля: ад вострага распіраторнага захворвання. Параспірала нешта ўсюды гэтых беларусаў. Хто калі палічыць, хто паведае свету, як паміраюць ужо сёння немаўляты. Хто каму з іх пажаліцца. Якая выдатная паляўнічая зброя, які ціхі лагодны забойца – мірны атам...

А былі ж, былі і ў больш далёкай і таксама славутай гісторыі Айчыны часы, калі кожны трэці і нават другі беларус пазбаўляўся жывата свайго. Падобна, уся Беларусь сёння – адна вялізная брацкая магіла. Маўклівая, нямая, з выдзертым па жывым языком і забітай гісторыкамі гісторыяй. Што ж, за гісторыю таксама трэба хоць нечым разлічвацца. І сёння нават. Калі не жыватом, дык памяццю, ластаўкай; буслямі, бабрамі, бабровымі шапкамі, ракамі, рэкамі і азёрамі, лясамі і дубровамі. Яшчэ ў пару сярэдневякоўя ў бойцы народаў продкамі адваяваны геральдычны знак. Знак Пагоні. Адпрэчыць, адабраць, растаптаць. Якога колеру, якой партыі былі тыя продкі. Бяспамяцтва дык бяспамяцтва, вечнае. Белая, белая ці чырвоная – залітая кроўю, без адзінай літаркі і кропкі кніжка беларускай гісторыі. Бел-чырвона-белы твой сцяг. І яго ў гразь і пыл. Нічога няма ў беларуса – гэта толькі заходняя ўскраіна. Але будзе ім

сёння, будзе пагоня, будзе бел-чырвона-белы іх сцяг. Будзе паляванне. Не толькі на іх, але за імі, за беларусамі, хто наважыцца толькі слова мовіць па-беларуску. Пачакайце яшчэ толькі дваццаць якіх хвілінак.

Тая ж нядзеля трыццатага кастрычніка бярэ толькі разгон, урастае каранямі ў дзень будучы. Тыя ж трынаццаць гадзін сорак хвілін. Застыглыя аслепленыя жалезнымі кратамі машыны спецыяльнага прызначэння каля тратуараў. Ідуць беларусы, ідуць. Нешта ж вельмі багата іх развялося. Мовы сваёй не ведаюць, а беларусамі завуцца. У той жа час у іх кватэрах з блакітных экранаў тэлевізараў рэспублiцы ўсміхаецца міністр. У нас ужо свой твар паказвалі Пракуратара, Куратар. І вось цяпер Міністр. «Сустрэча для вас». Чалавек і міністр. Расказвае аб сваім жыцці-быцці, спачувае і шкадуе – дарэмна вы, грамадзяне-пісьменнікі, пайшлі памінаць продкаў. Валянціну Распуціну: ну навошта яму спатрэбілася збядняць свой талент, зводзіць яго да публіцыстыкі. Айчына, народ прагне ад яго раманаў. Пасля чаго чытае верш Расула Гамзатава, той самы, знамянальны, аб дарозе і кані, каго трэба вінаваціць, калі конь спатыкаецца.

Гэта гучыць для Беларусі і беларусаў, пэўна, і для самога Міністра як прароцтва. У трынаццаць гадзін сорак хвілін дзяржаўны конь сапраўды спатыкнуўся каля падыходу да Маскоўскіх могілак. Цяпер самая стабільная рэспубліка ў краіне надоўга пазбавіцца сваёй услаўленай у вярхах прыпяцка-чарнобыльскімі салаўямі стабільнасці, на імгненне, але пакажа свету свой сапраўдны твар і характар. Зусім не той твар і зусім не той характар, заношаны і загаджаны алілуйшчыкамі застою, салістамі і хорамі сталіншчыны і брэжнеўшчыны, хaрaлам, што і сёння пры добрым здароўі і ў росквіце славы іх паслядоўнікаў. Будзе яно, як і ў тыя часы, сёння і вечна, у пару жніва і сяўбы, у гадзіну выпрабаванняў, жалобным і грозным, гнеўным, але і велічным і мудрым, хоць і непранікальна і недаступна «ўрэмяншчыку».

Не, само паляванне яшчэ не пачалося. «Урэмяншчык» жа звыклы дзейнічаць у сваё «ўрэмя», строга планава, згодна загаду. А гадзіна ікс запланавана на чатырнаццаць нуль-нуль апоўдні. У запасе яшчэ дваццаць хвілін. І тое, што адбываецца зараз на Ленінскім праспекце, былым Сталінскім, на падыходзе да Маскоўскіх могілак, трэба ўспрымаць, пэўна, як ініцыятыву знізу. Нізы не вытрымалі. Група асоб у цывільным, лікам не менш дзесяці, выхапіла з пешай плыні Зянона Пазняка, выключыла нервова-паралітычным газам, запхнула ў машыну (крыху пазней народ адбіў яго). Тое ж самае і з мастаком Марачкіным. Яго разам з сям'ёй арыштавалі і на машыне павезлі ў невядомым накірунку. Схапілі мастака Купаву. Машыну вядомага

скульптара Анатоля Анікейчыка, аўтара надмагільных помнікаў Уладзіміру Сямёнавічу Караткевічу і Пятру Міронавічу Машэраву, спыняюць на паўдарозе і не вельмі ветліва, але без прымянення сілы і спецсродкаў, скіроўваюць туды, адкуль ён прыехаў. Анікейчык вёз кветкі на магілы Караткевіча і Машэрава. Праз тры месяцы яго самога – народнага мастака рэспублікі, народнага дэпутата Вярхоўнага Савета БССР – павязуць з кветкамі на Маскоўскія могілкі. І, здаецца, той-сёй зажурыцца, падумае аб тым, хто яму створыць помнік. Анікейчык памрэ сам, таксама, як той вясковы егер, ад разрыву сэрца. Так і просіцца сказаць: нешта няладнае ў гэтых беларусаў з сэрцам, трэба б дапамагчы беларускім таварышам. Як будзе моўлена пазней з нагоды падзей у Грузіі адным нашым вельмі шаноўным чалавекам. І яшчэ: дагуляўся хлопчык, гэта было ўжо моўлена раней, па тэлефоне, калі загінуў Машэраў.

А беларусы самі, па сваёй ахвоце ідуць да могілак, як і раней, строга выконваючы правілы вулічнага руху, як заведзена ўжо ў Мінску, чым ён і ганарыцца.

Зусім-зусім без нечага гадзіна ікс, чатырнаццаць нуль-нуль. Каля Маскоўскіх могілак па падліку дасведчаных людзей (лічыў доктар фізіка-матэматычных навук па сістэме, якая ўжывалася ў старажытным Рыме: плошча сто на сто метраў – дзесяць тысяч чалавек) больш дзесяці тысяч мінчан. Па неафіцыйным сведчанні асоб афіцыйных – дзве тысячы міліцыянераў. Уваход на могілкі перакрыты карэ з курсантаў Мінскай школы міліцыі. Сцяна. Некалькі сот чалавек блукае сярод могілак. Іх адтуль не выпускаюць, нібы яны атрымалі там цяпер права на жыхарства. Нікога таксама не пускаюць на могілкі.

Але ўсё яшчэ мірна, спакойна і нават разухабіста дабрадушна. Міліцыя спыняе, відавочна, не свайго ведамства машыну, якая нейкім цудам праскочыла ўсе ачапленні:

– Ваша пуцёўка?

– Меў бы я пуцёўку, знаходзіўся не каля могілак, а на беразе Чорнага мора.

– Правы?

– Якія ў мяне могуць быць правы ў такім ачапленні. У мяне іх ужо адабралі.

– Кацiся, лявак няшчасны, пакуль мы добрыя.

Вадзіцель хапатліва знік, але добра падвесяліў тых, хто

знаходзіўся побач і ўсё чуў. Шмат падлеткаў, некаторыя з іх сядзяць ужо на дрэвах, некаторыя толькі выбіраюць сабе дрэва, прыкідваюць, на якім з іх больш камфортна будзе сядзець. Міліцыя на

гэта глядзіць скрозь пальцы, як і на тых, хто пералазіць праз агароджу з могілак на плошчу і наадварот. Цікавая краіна, цікавая ўлада, нават збоку вялікае задавальненне наглядаць: праз браму нельга, паверх плота – можна. О логіка, о права, ці тут вы пачынаецеся, ці тут вы і канаеце. Ці не так пачынае канаць усякая ўлада: першнаперш страчвае ўсякі розум і логіку.

Жанчыны возяць у калясках, калышуць дзяцей. І гэта ўжо трохі жудасна. Мімаволі, але згадваецца тая самотная каляска, што коціцца па пацёмкінскай лесвіцы, у ёй, у той калясцы, заходзіцца ад крыку, галосіць дзіця. І наогул штосьці ёсць у гэтым ад «Браняносца Пацёмкіна», на якім усё ж выхавана не адно пакаленне. І цікава, выхавана, але нідзе, ніколі і нічым не выкрыла гэтага выхавання. Што ж гэта за свабодалюбнае такое пакаленне, якім так лёгка кіруюць брываносцы ў прыцемках.

Той самы падпалкоўнік міліцыі з заклапочаным тварам аратага, пра якога гаварылася ўжо вышэй, абвясціў праз мікрафон, што зборышча тут процізаконна і проціпраўна:

– А мы жывём пакуль што ў прававой дзяржаве.

Натоўп адгукаецца на гэтыя словы рогатам. Рогат гэты, праўда, пануры і не такі гучны, як можна было чакаць. Праз яго лёгка чуваць голас:

– Грамадзяне, сябры, заклінаю, прашу вас аб адным. Вы бачыце, колькі тут міліцыі і тэхнікі. Тут спее правакацыя. Не паддавайцеся на правакацыю.

Дзіўна, але гэтыя мірныя словы, моўленыя ахрыплым, сарваным голасам Зянона Пазняка, што не да ўсіх і данесліся, прагучалі для міліцыі як баявы кліч, як каманда: «Наперад». Было роўна чатырнаццаць нуль-нуль. Гадзіна ікс надышла. Пачалося паляванне. Падпалкоўнік з мегафонам нешта яшчэ крычаў, заклікаў грамадзян дыхаць азонам, ісці як мага далей ад могілак, дзе больш гэтага азону, усім хопіць, хто прагне сацыяльнае справядлівасці. А ананімы ў цывільным і супрацоўнікі міліцыі ў форме пачалі рабіць сваю справу, нібы міна запаволенага дзеяння спрацавала ў кожным з іх. Клінам па некалькі дзесяткаў чалавек з розных бакоў урэзаліся ў натоўп. Расшкуматалі, раздзерлі яго, і тых, хто супраціўляўся, ужо цягнулі да «варанкоў».

Прыйшло ў рух, здрыганулася, нібы рыхтуючыся рассыпацца, не вытрымаўшы азвярэння сваіх старэйшых таварышаў і настаўнікаў, карэ курсантаў міліцыі. А хлапчуковыя іх твары імгненна заружавелі і пайшлі плямамі, губы задрыжэлі, замітусіліся вочы. Здавалася, яшчэ імгненне, і яны разбягуцца. Але яны не разбегліся. Аўтаматызм і

інструкцыя спрацавалі безадмоўна. Падпарадкаванасць дысцыпліне перамагла, аказалася вышэй за чалавечае ў іх. Пры усім пры тым гэта таксама былі людзі натоўпу, і натоўпу двайнога. Чужога ім, цывільна стракатага, і свайго, у форме. І той, і другі заклікаў, вымушаў да адзінасці і аддання таму боку, да якога яны прыналежалі, да палявання. Інакш і не магло быць: бі чужых, каб свае баяліся. Гэта не проста дасціпны выраз. Філасофскі прынцып дзеяння механізма былой сталінскай дзяржаўнай машыны.

Не, курсанты нікога не білі. Іх шчасце. Таму што той самы прынцып – бі чужых, каб свае баяліся – смяротны не толькі для машын, але і для асобы. Сталінскія загоншчыкі палявалі спачатку чужых, а потым распачалі гэта паляванне адзін на аднаго. І ў кожнага з іх рукі па плечы ў крыві. Легендарны Лёня Голікаў, так, Аркадзь Гайдар, шаснаццацігадовы хлопчык – камандзір палка. Да скону пакутаваў ад псіхічнага захворвання. Нябожчыкі, яго нябожчыкі не давалі спакою, хадзілі за ім. Мёртвыя палявалі жывога. Вось такі лёс нашых герояў, нашых Паўлікаў Марозавых.

Паляванне на сябе падобнага бязлітасна і для дзічыны, і для паляўнічага, хто б у ім ні перамог. Пераможны, пакаральны стрэл забітага мінулага заўсёды скіраваны ў будучае. Вось мы, нашчадкі нашых славутых бацькоў, і самі канаем сёння ад былых вялікіх перамог. За намі палюе мінулае. Стрэльбы старога ўзору, а кулі, свінец – свежы, сённяшні. Сапёрныя лапаткі – зброя нашых дзён, іх наканаванне і прызначэнне – капаць нам новую брацкую магілу.

Продкі нашы, продкі, вось і такім словам мы памінаем сёння вас. Але не адмаўляемся, не выракаемся вас. Хай ваш храм на крыві, мы ж усё роўна вымушаны жыць у ім, бо інакшага няма, інакшага вы нам не далі. Наш клопат вывесці з яго нашых дзяцей, вашых унукаў, каб няправедная кроў не атруціла, не забіла іх душы, каб і яны не захлынуліся ў крыві. А храм хай застаецца ў павучэнне будучым пакаленням.

Пабраўшыся за рукі, курсанцкае карэ спачатку шурпатым сукном шынялёў, а потым грудзьмі, целам рушыла на натоўп, змяла пярэднія рады, выкідваючы далёка наперад кованыя боты, як на дэманстрацыі, пайшло па нагах тых, што быў перад імі, вымушаючы іх адступаць усё далей і далей. За межы разумення, за межы могілак і плошчы.

Усеагульнасць людскога недаўмення ў першыя хвіліны была такой вялікай, што, здавалася, людзі згубілі дар мовы, знямелі, забыліся на сваё чалавечае званне. Мільгалі толькі пагоны, міліцэйскія кукарды, выхопліваліся з казённых шынялёў кулакі. Цяжка казаць, які іншы

народ здолеў бы гэта вытрымаць, зацкаваны сабака і той у безвыходнасці пачынае ашчэрваць пашчу і наравіць укусіць. Беларусы вытрымалі. Сапраўды божай цярплівасці народ.

Вытрымалі мужчыны, падлеткі, нават жанчыны. Ніхто не плюнуў у твар міліцыянеру, не пацягнуўся рукой да іх твараў, не падрапаў яго, не сцягнуў з галавы фуражку. Чуліся толькі самотныя галасы: «Хлопчыкі, сынкі, што вы робіце? Мы ж усе савецкія людзі. Ужо заўтра вам усім будзе брыдка і сорамна...»

Трэба адзначыць, што таму-сяму з самых сумленных было брыдка і сорамна ўжо і тады. Калі скончылася дзейства на плошчы, пачуўшы, пэўна, беларускую гаворку, да групы маладых хлопцаў падышоў лейтэнант міліцыі:

– Каб вы ведалі, хлопцы, я рускі, але я з вамі. І мне сорамна. – І знік, растаў сярод пагонаў і форменнага сукна.

А больш знамянальна гэта праявілася пазней, за тысячы кіламетраў ад Мінска. У Тбілісі. Людзі ў міліцэйскай форме ратавалі людзей, сваіх суграмадзян, ад сапёрных лапатак. Не прайшоў, не пакінуўшы знаку той кастрычнік для міліцыі Мінска. На мітынгах нефармалаў загучалі галасы і супрацоўнікаў міліцыі, следчых:

– Каб вы ведалі, сябры, мы сёння ўжо другія.

Так, другія. На чарнобыльскім мітынгу маўчання яны ўжо былі вельмі ветлівыя і папераджальныя:

– Майце ласку, будзьце ласкавы, сыдзіце, таварышы, з праезджай часткі, беражыце сваё жыццё, не перашкаджайце руху машын...

Не трэба, канечне, зачароўвацца, толькі сапраўды ўсе мы нечаму вучымся...

А тады той лейтэнант быў адзіны. Адзіны на двухтысячную раць паляўнічых.

Акрамя таго, як гаварылася вышэй, на паляўнічых працаваў закон натоўпу. Так, ролі памяняліся. Даглядальнікі, ахоўнікі парадку паўсталі перад народам у якасці натоўпу. Адзінага, арганізаванага імі ж беззаконня, якое яны тварылі. Беззаконне гэта было асвячона зверху, узброена дубінкамі і нервова-паралітычнымі газамі, умацавана тэхнікай. Акрамя свайго бяссілля і адчаю супрацьпаставіць народу не было чаго. Але той, хто б здолеў пранікнуць праз гэты адчай, можна паручыцца, зведаў бы катаванне больш страшнае, чымсьці пякельнае. З адчаю і болю нарадзіўся на плошчы адзіны стогн і крык:

– Ван-дэ-я, Ван-дэ-я, Ван-дэ-я!

І быў, пэўна, у тым стогне пякельны агонь і катаванне варам. Міліцыянеры, курсанты на імгненне аслупянелі, прыпынілі

пераможны крок. Сталі чутны цяпер іх здзіўленыя галасы:

– А гэта яшчэ хто такі?

– Вандэя, Вандэя, Вандэя! – скандзіравала плошча.

А з боку могілак, праз бетон і чыгун агароджы ў адказ ёй:

– Ма-шэ-раў, Ма-шэ-раў, Ма-шэ-раў! – то адгукваліся замкнутыя на могілках жывыя людзі, якіх не выпускала адсюль міліцыя. Яны згуртаваліся каля магілы Пятра Міронавіча Машэрава. Трыццатага кастрычніка, у тую ж самую гадзіну ікс, чатырнаццаць нуль-нуль, была патрывожана і апаганена магіла і гэтага сына беларускага народа. Роўна ў чатырнаццаць нуль-нуль, як і на плошчы, ананімы ў цывільным, даглядальнікі парадку ў форме накінуліся на людзей, што ўскладалі кветкі да помніка Машэраву: раздзяленне, збіванне, газы. Пры гэтым аднаму з хлопцаў, які не пажадаў добраахвотна прыняць той газ, далі «азону» на чатыры поўныя ўдыханні. Вось тады тут і разлёгся гэты кліч-гуканне: «Машэраў, Машэраў, Машэраў!» Жывыя звярталіся да мёртвага, нібыта прасілі яго ўстаць і калі не абараніць, то хоць бы адным вокам зірнуць на тое, што тут адбываецца, як душыцца ўсё маладое і здаровае, забіваецца сумленне.

Пётр Міронавіч, задуменна сцяўшы вусны, быў нерухомы і маўклівы на сваім пастаменце. Але за яго адказалі аўчаркі, што да пары да часу былі замкнуты ў дзяжурным пакоі могілак. Маладая настаўніца, якой пашанцавала прабіцца скрозь кардон міліцыі, спрабавала дазваніцца да ЦК. ЦК маўчаў. Народ галасіў. Павісквалі аўчаркі, перагаворваліся міліцыянеры. Нехта з афіцэраў дакладваў, што на могілках аб'явіўся Алесь Адамовіч. Нехта патрабаваў неадкладна даставіць сюды гэтага пацыфіста. Невядома, быў выкананы гэты загад ці не, застаецца толькі спытаць самога Аляксандра Міхайлавіча. Ён быў у той час ці то ў Лісабоне, ці то ў Мадрыдзе. Як, Аляксандр Міхайлавіч, не турбавала вас там наша доблесная міліцыя? Мёртвым вашым сабратам, і Караткевічу, і Макаёнку, і самому Машэраву, пад хвойкамі на роднай зямлі спакою не было, плакалі яны і на тым свеце незямнымі пякучымі слязамі. Дажыліся, дастаяліся да разгулу перабудовачнага застою. Нясоладка прыйшлося і жывым. Асабліва жывым і, на вялікі жаль і няшчасце свайго народа, таленавітым, з жывой душой і пакутным сумленнем. Таму ж, да прыкладу, Васілю Быкаву, аб якім вы ў часопісе «Огонёк», назваўшы Мінск антыперабудовачнай Вандэяй, пісалі: «Магу паведаміць, яшчэ адзін сур'ёзны бар'ер супраць перабудовы, што ўзводзіўся ўжо колькі месяцаў, аб які біўся ўвесь гэты час, здавалася, адзін толькі Васіль Быкаў,– пачаў трашчаць гэты бар'ер, а некаторыя секцыі раптоўна абваліліся», – дык вось мы вам паведамляем,

Аляксандр Міхайлавіч, з Мінска трыццатага кастрычніка 1988 года, іменна яго, Васіля Уладзіміравіча Быкава, вас асабіста, Аляксандр Міхайлавіч, і шмат-шмат іншых жывых хацелі ўпаляваць у той дзень. Дзікае паляванне каралёў сталіншчыны на сумленне і душу беларускага народа.

Усе гэтыя «Тутэйшыя», «Талака» – нефармалы, што выступалі арганізатарамі правядзення мітынгу-рэквіема, дня памінання Дзяды,– хлопчыкі, дробная рыбка, яны патрэбны былі толькі для прыстрэлкі, для вымуштроўкі і навучання тых жа курсантаў школы міліцыі. Аб іх адразу ж і забыліся, як толькі ўсё пачалося, выкрылася сапраўдная прычына палявання, вы сталі «пенай і сцягам групы самазванцаў». Рыбку, хлопчыкаў, канечне, варта было паганяць, павучыць. А вас ужо вучыць позна. Вы ўжо лаўрэаты, дэпутаты, амаль акадэмікі самі. Не хто іншы, як іменна вы, шаноўны Аляксандр Міхайлавіч («Политический собеседник», № 1, 1989 г.) прадаліся міжнародным сіяністам. І гэта ж на ваш з Быкавым адрас ішлі навагодція віншаванні, у якіх неаднасэнсава сцвярджалася, што год Змяі стане годам вашай смерці. Вось так раптоўна сапраўды абваліліся некаторыя секцыі перабудаванага застою ў горадзе Мінску і яшчэ будуць рушыцца і абвальвацца ў задушлівым тым паветры дзікага палявання, якое будзе працягвацца і пасля трыццатага кастрычніка. Панясе, панясе яшчэ ў зубах свае студэнцкія рублікі дробная рыбка з нефармалаў у якасці штрафаў. Яшчэ будзе рабаванне з узломам у Доме літаратара Саюза пісьменнікаў БССР. Міну там, бомбу ў пакоі Народнага фронту будуць шукаць ананімы ў цывільным і людзі ў форме, зноў жа, амаль у гадзіну Быка, няўчассе апоўначы. Знойдуць – літаратуру, выданні БНФ. Знойдуць, арыштуюць, панясуць і супакояцца. І пра бомбу забудуць, бо гатовы тую міну самі падкласці. Хаця што яе падклааць. Яна даўно ўжо там – пад гісторыяй, мовай, культурай. І яшчэ выбухне, абрынецца на зямлю з балкона восьмага паверха палеская ластаўка. Ластаўкі ж закаханыя ў цяпло і вясну, прылятаюць да нас вясной і не трываюць палявання.

– Ван-дэ-я, Ма-шэ-раў! – папярэджваюць, умольна просяцца могілкі і плошча, беларуская зямля, беларусы. Яны ішлі сюды натоўпам, насельніцтвам: цікава ж паглядзець, як гэтым укормленым камунапрадаўцам, пісакам-мільянерам будуць уразаць. А ўрэзалі ім, не надта разбіраючыся, хто тут і каго прадаў. Яны гэтага не чакалі. «Вячэрні Мінск» да ўсяго ж добра распаліў іх цікаўнасць: два разы толькі за апошнія дні паведаміў са сваіх старонак, дасціпна растлумачыў кожнаму, што аніякага мітынгу не будзе, не ў традыцыі і

не ў завядзёнцы беларускага народа помніць сваіх продкаў, хай супакоіцца пена, нам з ёй не па шляху.

Што ж, адносна продкаў мо газета і не схлусіла. Іх прозвішчы помніць і ўшаноўвае ўвесь цывілізаваны свет. Толькі не мы самі, не беларусы. Мёртвыя, што ўжо даўно пакінулі гэту зямлю, яны пры сваім жыцці таксама зведалі паляванне, паляванне каралёў Стахаў і сталіншчыны, убачылі, спазналі адстрэл іх думак, ідэй, духу, вельмі захаплялънае паляванне, што ў параўнанні з ім застрэліць, пакласці дваццаць мільёнаў жывых. Нейкія Курапаты, Быкоўня, Салаўкі, Калыма, Магадан. Звычайная бойня. Патрэбны адзіны толькі вопытны і ўмелісты мяснік-кат, снайпер, забіць ідэю, адшукаць яе сэрца – і як у яблычак, як гэта рабіў бацька ўсіх народаў, зачараваны такім мастацтвам і бязмежна закаханы ў народ, да страты памяці ўлюбёны. І страчваў народ ад таго кахання сваю памяць, адмаўляўся, выракаўся продкаў, бацькоў і мацярок, адхрышчваўся як чорт ад ладану ад лепшых сваіх сыноў, сумлення і вартасці.

Трыццатага кастрычніка, у нядзелю, на Маскоўскіх могілках адбывалася ўваскрашэнне старога мастацтва вялікага і адзінага правадыра, бацькі і настаўніка, лепшага сябра дзяцей. Але час ужо быў іншы. Народ на чвэрць стагоддзя памаладзеў і абнавіўся. І хаця ён прыйшоў сюды як насельніцтва, нашчадкі вялікага настаўніка не вельмі разбіраліся, хто тут насельніцтва, а хто народ. Хапалі нават па колеры апраткі: бела-чырвоная куртка, ага, значыць, нацыяналіст. У бел-чырвона-белы сцяг апрануўся. У варанок, у кутузку куртку і яе ўладальніка. Так, сапраўды да болю, да нервовых дрыжыкаў усё гэта ўжо знаёма, адпрацавана ў цанаваўскіх і берыеўскіх скляпах. Па старым часе, уга, якая магла б атрымацца справа: прасачыць толькі адзіны ланцужок ад мастака, што ў такія колеры пафарбаваў тканіну, да прамысловасці, што наладзіла яе вытворчасць, да гандлю. Гэта ж колькі міністэрстваў, ведамстваў адным стрэлам можна было б адстрэліць. Але тут вінаватаю ва ўсім аказалася адна толькі дзяўчынка, што не выраклася сваёй мовы, размаўляла на матчынай мове і апранула куртку фарбаў сцяга старажытнай Беларусі. Яе заграблі, як кажуць, пад сурдзінку, як і шмат іншых пад тую ж сурдзінку.

Толькі, вось бяда, сёння сурдзінка ўжо не спрацоўвала. Праўдзівей, спрацоўвала адваротна спадзяванням і задумам мысліцеляў і распараджальнікаў палявання. Людзі адвыклі думаць асацыятыўна. Раней, чвэрць стагоддзя назад, усе б адразу зразумелі і палахліва разышліся. А тут, наадварот, міласэрнасць у іх прачнулася, калі дзяўчыну за косы пацягнулі ў машыну. Крычаць пачалі: фашысты,

фашысты. Насельніцтва ператваралася ў народ, таму што бачыла здзек і знявагу над самым святым, што набылі яны разам з перабудовай і галоснасцю: насмяянне, ганьбаванне іх вартасці.

І таму, калі над змучанай жалобнай плошчай прагучаў крык хлопца з забінтаванай рукой:

– На Курапаты, сябры, на Курапаты! – сотні і тысячы людзей рушылі ў накірунку на Курапаты.

Дарога не блізкая – чатыры-пяць кіламетраў. Ішлі людзі, што дагэтуль і ў галаве не трымалі ісці туды. Ішлі беларусы, і цень курапацкай трагедыі ляжаў на іх тварах. Хмары зацяглі, схавалі сонца. Замільгацеў матылькова-лёгкі і такі ж сумны снег. Шэсце расцяглося на ўсе кіламетры – ад адных могілак да другіх. Эскорт міліцэйскіх машын, машын спецпрызначэння, пажарных з пахавальнай хуткасцю плыў разам з людзьмі па вуліцах. І невядома, хто ў каго знаходзіўся ў палоне, хто быў паляўнічым, а хто дзічынаю. Падрыхтаваныя да бою, з пагрозліва вытыркнутымі жарлянкамі вадамётаў машыны як бы не існавалі для людзей. Не зважалі, не палохаліся і ваеннага ўзору, падобных на невідушчых цыклопаў і «варанкоў», што паўзлі побач. Уся гэтая тэхніка злілася ў адну калону, сашчапілася, цягнулася па бруку і нагадвала вялізнага вусеня, што выядае з веццяў – тратуараў плады і лістоту.

Паляванне на людзей не спынялася і ў час іх шэсця да Курапатаў. На кожным метры, на кожным скрыжаванні стаяла міліцэйскае ачапленне і нарады міліцыі, службовыя машыны з рацыямі. Эфір, неба над Мінскам поўнілася трэскам і сокатам пазыўных, міліцэйскіх загадаў і распараджэнняў. Здавалася, горад з усіх бакоў накрыты вялізным каўпаком, ніхто, ніколі не здолее з-пад яго вылузнуцца.

Міліцэйскія нарады раздзялілі цяпер ужо шэсце, не прапускалі ніякага транспарту, акрамя свайго, канечне, спецыяльнага прызначэння. Людзей адводзілі, адціскалі ад Курапатаў, то ў адным, то ў другім месцы ўсчыналася тузаніна, кароткія сутычкі, некага забіралі, грузілі ў аператыўныя машыны, везлі ў аддзяленне. А самі Курапаты, жалобнае і лобнае месца эпохі, з чарапамі-правалінамі ям і грудкоў, што і праз гады паказвалі знаходжанне былых брацкіх магіл, аказаліся непадступнымі, як архівы Камітэта дзяржаўнай бяспекі, як прозвішчы ўшанаваных катаў і іх пакутнікаў-ахвяр. Дзяржава берагла жудасную тайну свайго дзікага палявання. Ахоўвалі і паляўнічых і ўпаляваных, мо і не без спадзяванняў, што гэта яшчэ можа спатрэбіцца новым Стахам.

Міліцэйскае ачапленне каля Курапатаў было выстаўлена, пэўна, яшчэ з ночы. І ў некалькі радоў. Адчувалася, што ахоўнікі добра

намерзліся, раскладвалі і палілі кастры.

Шызы дым слаўся па хвойных хмызах, запасіўся ва ўпадзінах магіл, як дыханне і дух расстраляных, і мімаволі мроілася, што ў бухматасці дыму, у бухматасці хвоі, у прыхмураным небе стоена нешта пагрозлівае, што і праз сорак гадоў тыя даўнія расстрэлы могуць паўтарыцца. Як жа ні шчыравалі, як ні стралялі паляўнічыя, як ні завіхаліся, а ўсіх не расстралялі. Праз сорак гадоў яны паўсталі з зямлі і прыйшлі сюды зноў. Іх, мёртвых, баяцца жывыя. А яны ідуць і ідуць, плывуць няспынна плынню, недабітыя беларусы. І прыспеў час дрыжэць катам, бараніцца ад іх. І кастрамі іх за ноч не выпалілі, чортава насенне. Паветра было наэлектрызавана нервознасцю ахоўнікаў, іх нецярплівымі жаласнымі воклічамі:

– Калі гэта толькі пачнецца. Тут ад холаду можна і дуба ўрэзаць!

Жывыя скардзіліся мёртвым, што ім холадна на іх могілках.

Падаспела механізаваная рацць, спынілася, аціхла на абочыне. Але і абочыны на ўсіх не хапіла. Лёгкія машыны, што жукі, папаўзлі ў кюветы. Сярод кустоў, збоку горада, падобна зайцам сярод зялёнай руні, замільгалі постаці людзей, якія па адным і групамі церабіліся да Курапатаў. Міліцыя, канечне, бачыла іх, але не чапала, чакала каманды ці то не хацела распыляць сілы. Дый на самай справе, зайцы былі там у кустах і на руні, ці варта звяртаць на іх увагу. Чакалі дзічыну буйную, шматлікую, як тая чарада буслоў на палескай лугавіне, каб таксама, як і там, рэзнуць дык ужо рэзнуць, з усіх, што мeліся ў наяўнасці, ствалоў, па ўцекачах і ўлёт, з вадамётаў і брандспойтаў пажарных машын. Але біць не было па кім. Дзічына, падобна на тое, вылузнулася. І гэта відавочна выклікала разгубленасць і замяшанне ў міліцэйскіх шэрагах: сапраўды, толькі былі тут. Куды яны падзеліся, ці не зноў у магілы палезлі? Больш жа няма дзе схавацца гэтым недабіткам. І эфір, як ЦК там, на Маскоўскіх могілках, маўчаў. Неба было чыстае над усім Мінскам, над усёй Беларуссю чыстае неба. І няма каму сказаць аб гэтым.

Цішыня доўжылася хвілін дзесяць. Але вось зноў ажылі рацыі. Надышло абуджэнне для людзей і тэхнікі:

– Па машынах!

У машыны скакалі ўжо на хаду. Кавалькада іх прыйшла ў рух, пакацілa назад, да горада. Але недалёка, ад'ехалася з кіламетр, зноў спынілася на адкрытым цяпер ужо, голым з абодвух бакоў месцы, ахопленай голымі палямі шашы.

З правага боку на гэту галізну пазіраў яшчэ неасветленымі вокнамі змрочны шматпавярховы Мінск. З левага, з кручы адкосу шасэ, прыціскаючыся да абрыву курапацкіх бугроў, у метрах

трохстах ад магістралі выстраіліся вялізным кругам міліцыянеры. А ў самым крузе, як бы творачы нейкае паганскае дзейства, пабраўшыся за рукі, сядзела на прыхопленай ужо марозам зямлі чалавек з дзвесці хлопцаў і дзяўчатак.

І зноў не абышлося без кароткага замяшання ў міліцэйскіх шэрагах. Тыя, у полі, за гарадскою рысай, і міліцыя, і юнакі на зямлі, былі незразумелымі тым, хто быў на шасэ, і, галоўнае, недасягальнымі ім і іх тэхніцы, вадамётам, пажарным машынам. Спакуса ж прымяніць гэту тэхніку ў аддаленасці ад гарадскога вока, пэўна, была вельмі вялікай. На самой справе, што гэта за паляванне, столькі боепрыпасу і часу ўжо – цэлы дзень марна патрачаны. А зайцы – вось яны. Дык і пекануць бы ім. Але, як кажуць, бачыць вока, ды зуб не бярэ. Забегалі, пачалі раіцца міліцэйскія чыны. Канец хістанням і рознагалоссю паклала падмацаванне, што падаспела з горада. Вялізная міліцэйская маса, што засяродзілася на шасэ, зноў прыйшла ў рух. Адрывіста і коратка загучалі армейскія каманды. І ўсё, што тут далей адбывалася, было падобна малюнкам з дакументальных кніжак і кінастужак: «Ніколі не забудзем», «Я з вогненнай вёскі...», «У вайны не жаночы твар». Патыхала армейскім, салдацкім потам і порахам, хаця да самага пораху справа не дайшла. І зусім, здаецца, не горача было. Імжыла неба рэдкім і задумлівым кастрычніцкім колкім снегам. Але порахам не пахла. І цяжка было што-небудзь зразумець.

Невядома адкуль, як з-пад зямлі, з тых, што канулі ў Лету і сканалі там, з 1937–1939 гадоў, вынырнула ваеннае падраздзяленне. Ахоўнага колеру шлемы, каскі. Плексігласавыя шчыты, простым вокам відно, усе ў пыле, пыл той некаторыя выціралі крысом шынялёў, чорнага колеру, вялізныя, ні ў адной замежнай хроніцы, здаецца, не паказвалі, гумавыя дубінкі, колеру агню і полымя балончыкі з газам.

– Батальён, за мной! – Батальён грымнуў па асфальце армейскімі ботамі. Хтось з яго шэрагаў бурчэў ужо на бягу:

– Што я вам, крос ГТО здаю...

З кручы шашы батальён пашыбаваў да курапацкіх узгоркаў. І ўжо адтуль, ад магіл, калі перастроіўся там клінам, свіннёй урэзаўся у тых, хто сядзеў на зямлі сярод поля. Расшкуматаў, размёў, растрапаў людзей. Пераможцы, зноў жа афіцэры, пацяглі ў чорныя варанкі здабычу – трафеі. Хлопцаў, дзяўчатак і нават асобна – бацьку, асобна – яго дзіця. Тых, хто ўпарціўся, падганялі кулакамі. Двое з несуноў вялі дыялог:

– Ты не разбіў таму, у акулярах, акуляры і камеру?

– Не дацягнуўся...

– Шкада, не на мяне нарваўся.

Па кустах, па полі, па зялёнай руні ішла пагоня, аблава. Ішло паляванне.

Паляванне за людзьмі не спынілася ў той дзень у полі, лесе і горадзе да самага змяркання. Да змяркання горад быў аддадзены пераможцам. Яны трыумфальна і дзяржаўна прыглядаліся да кожнага, хто вяртаўся з прыгарада, па толькі ім вядомых прыкметах фільтравалі натоўп, спрактыкаваным вокам выхоплівалі крамольныя твары і адзенне. Пад рогат і свіст натоўпу, што паўставаў перад імі жывым бар'ерам, кідаліся ў пагоню за гэтымі тварамі і адзеннем. Але ў асноўным, трэба гэта ўсё ж прызнаць, то былі звышпільныя міліцыянеры-адзінкі, аматары-паляўнічыя. А галоўнае, сапраўднае паляванне праводзілася прафесійна і механізавана, падобна таму, як браканьеры палююць у казахскім стэпе сайгакоў. І мімаволі адчувалася нават пагарда нейкая да той дзічыны, перасьцьць ад яе.

Механізаваная раць нязменнай сваёй пахвальнай хуткасцю рухалася па вуліцах Мінска, нібыта вяла на кароткай шворцы прыручаную ёй ужо знясіленаю дзічыну. Нейкае зборышча людзей утварылася каля ўвахода ў падземку, метро. У асноўным моладзь, пэўна, тыя ж нефармалы з «Талакі», «Тутэйшых», студэнты. Стаялі моўчкі, моцна сцяўшы зубы ў чаканні сваіх, як і не бачачы міліцэйскіх шэрагаў, што імгненна аблажылі іх. Глядзелі дэманстратыўна скрозь іх, у неба, у бок курапацкіх бугроў. Падпаўзла і прыпынілася калона міліцэйскіх машын. Вычакальна аціхла. Моладзь моўчкі, не парушаючы чаргі і парадку, па пяцёрках і дзесятках сышла, апусцілася пад зямлю. Тратуары, вуліцы, скверы апусцелі, як вымерлі. Толькі чадна смуродзілі газамі машыны. Начадзілі, раўнулі і, няма чаго рабіць, пайшлі далей, па напрамку руху паяздоў падземкі. Прыпыніліся зноў каля парку Чалюскінцаў, па чутках, тут у сталінскія часы таксама расстрэльвалі людзей. Міліцыя, пэўна, чакала, што моладзь, якая на іх вачах знікла ў метро, выйдзе тут. Яна не выйшла. Наступным, пэўна, меркавалася, пунктам іх выйсця будзе станцыя метро Якуба Коласа, вялікі сквер, помнік народнаму пісьменніку: звернуцца да яго, хоць і каменнага. І тут з'явіцца магчымасць сплаціць ім яшчэ, а заадно і гэтаму народнаму. Моладзь не выйшла і там. Кавалькада міліцэйскіх машын чакала іх мінут сорак. Акупіравала некалькі кварталаў Ленінскага праспекта. Глушыла і заводзіла матory, курадымела ў нецярплівым чаканні. І не дачакалася. Яна не выйшла. Нідзе не выйшла. Дзіўна але гэта праўда. Людзі, моладзь, юнакі і дзяўчаты зайшлі ў падзямелле, а назад не выйшлі. І куды яны падзеліся – загадка.

Міліцэйскія машыны, машыны спецпрызначэння «варанкі» і вадамёты, пажарныя і нават «хуткія дапамогі» пацягнуліся ў свае берлагі і стойлішчы. Было семнаццаць гадзін трыццаць хвілін маскоўскага часу. На зямлю лёг вечар, горад запаліў агні. Пад вулічнымі ліхтарамі павялі карагод сняжынкі.

Вось так закончыўся дзень памінання продкаў у горадзе Мінску, беларускія Дзяды. Горад аціх, нібыта ў ім сапраўды быў нябожчык. І ён быў. Вялікі правадыр і настаўнік, бацька родны. Іосіф Вісарыёнавіч Сталін мог спакойна пасмоктваць сваю люльку і горда пасміхацца ў вусы ўжо ў святочна ўпрыгожаным і асветленым горадзе Мінску, які рыхтаваўся сустрэць чарговую гадавіну Кастрычніка і трохі курчыўся ад неспадзявана ранняй у гэтым годзе зімы. І хутка ў гэтым горадзе на аднаго паэта стала меней. Беларуская ластаўка не вытрымала ранніх мінскіх маразоў. Адляцела ў вечны вырай, у цёплыя краіны. На Маскоўскія могілкі. З восьмага паверха новай кватэры самага прыгожага ў Мінску будынка. Перакрыжавала па-зімоваму ўжо стылае неба. Легла на стылую, скаваную марозам зямлю, калі, перабедаваўшы, горад акрыяў ад нядзельнага кастрычніцкага шоку. Літаральна ўскіпеў, узбурліў. Усе і паўсюдна заплакалі і закрычалі, загаласілі, успамінаючы Дзяды. А яна расплацілася.

Не, канечне, ніхто не вінаваты. Ніхто... Як і ў дачаснай смерці Купалы, Караткевіча, Стральцова, Анікейчыка, таго ж Машэрава. Божухна, колькі іх! Хопіць. Ніхто...

## **Азвярэнне**

*Амаль крамлёўская гісторыя*

> Прашу прабачэння ў звера. Ён да такога яшчэ не дайшоў і наўрад ці дойдзе. Гэта пра нас, каго і параўнаць нельга ні з кім і ні з чым. Пра чалавекаў.

Прыбіральшчыкі смецця сёння хрысцяцца, пад'язджаючы да студэнцкіх і маладзёжных інтэрнатаў. Там, у кантэйнерах, адыходах і адкідах шумных вечарынак, застолляў і проста будзёншчыны, можна знайсці задушанага маладой маці немаўля, што толькі ўчора ці нават сёння з'явілася на свет з неперавязанай яшчэ для жыцця, бруднай, як нейкі недарэчны матузок, пупавінай...

Бацька гвалтуе родную дачку. Лашчыць і песціць, мые ў ванне ёй плечыкі, насуха выцірае свежым ручнікам, уцалоўвае радзімку на грудзях, ашчадна бярэ на рукі і нясе да сябе ў ложак...

Нябожчыка паднялі з табурэтак, на якіх каля брамы яго хаты ляжала труна, павезлі на могілкі, каб пахаваць. Аддалі зямлі, прыехалі назад, а ад табурэтак і знаку няма. Падкінулі ў гарод на трэці дзень, калі старая напісала аб'яву: табурэткі мае пойдуць за вамі на той свет, будзеце вы на іх перад Богам сядзець, як на патэльні...

Унук ці ўнучка забівае бабулю, таму што грошыкі на дыскатэку патрэбны...

І ўсё гэта не што-небудзь надзвычайнае, ніякая не паталогія, а нармальнасць. Серыя, плынь, норма. Нармальныя, зробленыя яшчэ рукамі дзеда і прадзеда табурэткі, табурэтачкі. На гэтых драўляных табурэтках, услонах і лавах трымалася вясковая хата, нараджаліся, адседжвалі і адлежвалі пакаленні, але нам на іх ужо больш ні сесці, ні легчы нават у смяротны свой час, і нікому ўжо на іх не нарадзіцца больш. Толькі гарэць, як у крэматорыі, смылець душою.

Такія нашы сёння табурэткі. Такое наша сёння посткамуністычнае жыццё. Як і выкіды плазмы на сонцы, вывяржэнні вулканаў, землетрасенні там, дзе няма гор, паводкі амаль у пустыні. Невытлумачальныя і залпавыя выкіды насілля, гвалту і зла чалавечых душ – сістэма, як залпы ракет сістэмы «Град». І азонавыя дзіркі над галавой – прарэхі ў небе і душах. Чорныя ці белыя плямы памутнелага розуму, прарэхі ў ім, праз якія мо якраз і прарываюцца да нас прыхадні, лаўцы чалавечых душ, праз іх, пэўна ж, і адыходзяць, мігрыруюць у сусвет і самі нашы душы. А да нас ад абураных планет і сонца наплываюць гвалт і злыбяда. А мо і наадварот, наша зло і гвалт і ўтварылі тыя дзіркі, прапяклі ў небе брэшы і праломіны. Ахуталі

брыдотай чыстыя зоркі нябесныя, атруцілі сваім духам сонца, абурылі, узбунтавалі планету. Не прымаюць зоркі душу чалавечую, сусвет распачаў вайну з нашым духам. Ідзе вайна касмічная, зорная вайна.

І блукаюць па сусвеце нашы непрыкаяныя душы. Няма ім спакою на зямлі, няма ні прытулку, ні прыстанку і на небе. Неба і зоркі згвалтаваны чалавекам. Зямля адмаўляецца прыняць яго прах. Чалавек з асалодаю творцы творыць сабе магілу. Мітусіцца, гойсае па могілках былога жыцця, капае, рые, як свіння лычом, раскопвае старыя магілы, дастае і адчыняе труны, трасе, перабірае і вее прах, не зважаючы ні на грэшнікаў, ні на праведнікаў, раскідае косткі продкаў па ўсіх нашых весях і далях, вялікіх гарадах і маленькіх вёсках.

Непадалёк ад Мінска, наваяўленай сёння свету сталіцы наваяўленага супольніцтва, схавалася вёсачка. На высокім беразе рэчкі Пціч, што ў сівой даўніне, калі на зямлі, пэўна, існавалі адны толькі птушкі, пратаптала яна сабе тут у мяккіх тарфяніках сцяжынку, сатварыла лебядзіную пасцель, з той пары мілуецца ў ёй. Да рэчкі прыляпіліся людзі, пабудавалі вёску і нараклі яе таксама Пціч. Хаця птушак навокал у звычайныя дні і не вельмі відно. Прыб'ецца аднекуль з дзесятак буслоў на новабудоўлю перад уваходзінамі, нібыта правяраюць, хто тут селіцца, выпрабоўваюць чалавека ці думаюць, што гэта нарэшце і ім адладзілі жытло. Назаляюць, ляцяць на новую хату сарокі, калі бярвенні кладуць не на мох, а на паклю, учыняюць разбой і крадзеж. Рабуюць яшчэ не дабудаваную хату. Скок-паскок па дошчачцы, па бярвенцы, галоўкай у картузку сінім ці ў сіняй жа хусцінцы направа-налева і дзюбкай, носікам моцненькім, амаль стальным, між бярвенняў, дзе пакля пакладзена. Раз, і ўхапілі касмылёк, і пацяглі. Сілы не хапае дзюбкай – лапкамі падсобяць. Вось ужо ў сцяне і дзіркі, шчыруюць да сіняга поту ўваччу. Як і ўсе мы, пэўна, гэтыя апошнія семдзесят гадоў перамог і дасягненняў. Нясуць, нясуць па сінім небе, разносяць па сваіх гнёздах сугрэўную ім паклю. Папраўдзе, як мы з вамі, асабліва ў самыя апошнія гады, калі ў хаце нашай вялікай, прасторнай і светлай нічога, акрамя той паклі, ужо і не заставалася. А мы шчыравалі, не ведаючы адпачынку, не складаючы рук, нібы адчувалі, што б'е той апошні час, калі красці ўжо не будзе ў каго. Прыйдзе ж, спасцігне нас і такое за ўсе грахі нашы, і прадчувалі гэта. Чалавек празорлівы, ведае грахі свае, ведае душа яго, што было, што будзе, і тое, што за ўсё прыйдзецца трымаць адказ. І сарокі гэтыя хутчэй за ўсё ў перасцярогу чалавеку пасланы небам, а мо гэта і не сарокі зусім, а нашы зладзеяватыя ўжо душы. І наканавана, прадпісана ім вось так

самазабыўна, але не ведаючы радасці век свой птушыны векаваць.

Гаспадарчыя буслы, зладзеяватыя сарокі. А іншых птушак над вёскаю і не відна, і не чутна. Мо самі пцічане служаць тут замест іх. Былі некалі людзьмі, а цяпер перавярнуліся ў птушак. Падобна, у варон, вельмі старых варон. Самі старыя, старыя іх гнёзды. Дзесятка паўтара хатак, што счарнелымі штандарамі ўраслі ў белы пясок, у адляцелае, як слізготная цень, мінулае, стоенае і прыхаванае ад нашага адукаванага вока і розуму. Толькі чуткі і меркаванні.

Па суседстве з вёскай Пціч вёскі Узляны і Грабень, Дудзічы. Дык вось, па словах ужо мясцовай інтэлігенцыі, а па сумяшчальніцтве і адміністрацыі, менавіта сюды ў старадаўнасці пасля бітвы на Нямізе павярнуў сваю дружыну князь Ігар, на Дудзічы – Дудуток у «Слове аб палку Ігаравым». Усё можа быць. Вяскоўцам ад таго ні холадна ні горача. Старэчым напаўсляпым вокам пазірае праз ваду, цераз рэчку на цёмныя кладачкі па-над ёй – масток паміж мінулым і будучым, цывілізацыяй і занядбаннем, па гэтых кладачках яны кожны дзень ходзяць на другі бераг у магазін, глядзяць на ацалелыя пянькі – палі ад былога сапраўднага моста вёсачкі Пціч на вёску Дудзічы-Дудуток. Упіраецца зацягнутым пахмуркам птушыным вочкам у яшчэ болын высокі бераг, чымсьці той, на якім яна месціцца, у дудутоцкі, па усім рукатворны курган.

Гэты курган, пэўна, і засціць ёй вочы, слепіць яе. Вецер, што бярэ сілу на процілеглым беразе, смеціць вока, выбівае слязу. Гады са два-тры назад курган раскапалі. І нейкі новы магнат урэзаў у яго асабняк. А пцічане яшчэ не забылі, як стаялі там, на вяршыні кургана, белакаменны палац і блакітна-макавая цэркаўка. І па сцежачках з белай рачной галькі, аголенага некалі магутнымі водамі ракі адборнага, нібы залатаноснага пцічанскага пяску шпацыравалі, адстаяўшы службу ў царкве, сам пан з пані пад ручку, са стромага берага беглі, ляцелі матылькамі панічы і паненкі – да Бармалея-млына, пасярод Пцічы, да лодак, што чакалі іх на канале. А пцічанцы чакалі іх у тых лодках і развозілі ў прыбярэжныя навісі белай чаромхі, спляценне вясенняга хмелю, бузіны, баяркі, рабіны.

Паненкі і панічы хмялелі, бузілі-баярыліся. А пцічанам была адведзена роля служак пры іх. Яны былі чэлядцзю. Усе пцічане – чэлядзь. Адселеныя панам на правы бераг, яны павінны былі ўслугоўваць яму. Такая завядзёнка была спакон веку. Якім быў сам той пан, з самадураў-прыгоннікаў ці дэмакратаў-лібералаў – сёння ўжо ў мінуўшчыне. І сам пан, і яго палац, цэркаўка, млын, мост праз рэчку, катанне на лодках па канале. Правалілася ў апраметную, у тартарары. Але тое-сёе і ацалела. Па ўсёй акрузе, шляху-пуцявіне

палкоў Ігаравых, не знайсці ніводнага пралетарскага, лапуховага дрэва-таполі. Толькі клёны, рабіны, ды бярозы з чаромхай, ды ліпы – дрэвы, што бліжэй да вечнасці, Бога, чалавека і пчалы. І норавам пцічане адметныя на асобіцу ад усіх, хто па суседстве, хто ў «Шляху» і «Барацьбе», «Перамозе». Не тое каб зусім ужо скнарныя і скупыя, але, скажам, беражлівыя, не зусім ужо скрытныя і маўклівыя, а патайныя і негаваркія. Цяжкія вокам, але чыстыя на руку. Апошняе асабліва значна, маючы на ўвазе тое, пра што пойдзе гаворка далей. Веку ўсе сталага, а між іншым – не. Сярэдняга, сярэднекрамлёўскага, знамянальна-эпахальнага. Гэткія крамлёўскія даўгавечнікі наадварот. І сама іх вёска ў пятнаццаць хатак, у адселенасці і выгараджанасці ад усяго свету, як Крэмль, толькі зноў жа з адваротным знакам.

Пад гэтым адваротным знакам сацыялістычнай планіды і ўсеагульнай роўнасці жылі-былі на Пцічы Ганна Паўлаўна і Канстанцін Васільевіч. Жыццяпіс іх – не з таго, што друкавалася і друкуецца на адкрыцці першай старонкі ўсіх газет, якія штодзень выходзяць на адной шостай сусвету. Так, нарадзіліся ў семнаццатым пад саўковаю зоркай, а таму і самі шуфлікі-саўкі. Мярзотнае слова, хай будзе пракляты той, хто яго прыдумаў. А людзі добрыя, не вінаватыя, што выпала ім доля нарадзіцца вось под такой зоркай.

Звычайныя, гаротныя і гарапашныя пакутнікі на гэтай зямной юдолі: так, так, не, не, не – вось і ўсё, што яны могуць мовіць пра сябе, развітваючыся з вамі і жыццём. І ўсё ж, пэўна, насуперак апошняму перадсмяротнаму «не» яны завяршаюць словам «так». Як клічнік, як кол заганяць гэта «так» у зямлю і неба. Так, былі, так, сярод людзей жылі і людзьмі зваліся. Так! Але за што вы людзі, з намі вось так, за якую правіннасць, за які грэх? Ці ёсць на смертнай зямлі такі грэх, каб са звычайнымі людзьмі вось так абыходзіцца...

За доўгае паўвекавое сумеснае жыццё гэтай пары паміж іх «так» і «не» нічога немагчыма паставіць з таго, што здольна нас сёння ўзрушыць, абурыць ці вельмі ўжо ўзрадаваць. Ганна Паўлаўна ўдалася жанчынай дужай і здаровай, здольнай прымаць мужа і нараджаць і гадаваць дзяцей, песціць і абрабляць зямлю і прымушаць яе радзіць. Таму была ўсё жыццё пры мужу, дзецях, калгасе і зямлі. Мо крыху перабірала з мацюканнем, як усякая наша жанчына – маці, моцная і дужая, запрэжаная з дзяцінства ў работу, нястачу, якую штодзень гоняць і панукаюць уласная жаночая бездапаможнасць, абыякавасць неба і зорак, патуранне ўладаносцаў. Гэта якраз і прызвычаіла яе да лаянкі і мата, а нарадзілася яна чыстай, з адчуваннем святла, болю і крыку на вуснах. Гэты крык і боль яна пранесла па свеце, ні на кога не наракаючы, ніколі нічога, акрамя сваёй уласнай долі, не кленучы.

Грэх, як бачыце, на ёй невялікі. А каму падаецца вялікім, што ж, можаце кінуць у яе каменем. Яна прыме той камень, як прымала гэта жыццё, і мноства іншых каменняў, што паслала ёй жыццё. Бог і людзі. Толькі той, хто пабівае яе, хай паспее затуліцца сам.

Канстанцін Васільевіч. На яго долю гэтых каменняў прыпала, пэўна, куды больш. Кансерватары і дэмакраты, застойшчыкі і перабудоўшчыкі, сталіністы і анты былых часоў і эпох, эпох і часоў будучых, можаце ганарыцца. Хутчэй даставайце свае каменні з-за пазухі, таму што гэта ён, Косцік, Канстанцін Васільевіч, стаіць папярок гэтага вашага светлага шляху да свята жыцця – усенароднага шчасця. Кідайце, шпурляйце смела вашы камяні, баіцеся прамахнуцца – падыдзіце бліжэй. Ён не ўцячэ і не здолее адхіліцца. Вельмі ўжо спора бег ён, вядомы вамі па шляху да ўсеагульнага шчасця. Семдзесят з хвосцікам гадоў бег. Цягнуў за сабою Ганну Паўлаўну і дзяцей, выцягваў з іх жылы, сам недасыпаў, недаядаў, недапіваў і ім не даваў. Бег, бег, ды вось бяда, прыстаў, збіўся з ног, здарожыўся. Адмовілі старому каню ногі. Ён зараз на мыліцах. Так што біце яго цяпер смела, старога калгаснага мерына, варашылаўскага стралка, ударніка палёў усіх калгасных пяцігодак і адной сямігодкі, удзельніка таварыства выратавання на водах, удзельніка дзвюх войнаў і адной перабудовачнай рэвалюцыі. Вось за ўсё гэта і пляжце, біце старога казла, за тое, што нарадзіўся і жыў у такі эпахальны для ўсёй планеты, усяго чалавецтва час, за тое, што іменна ён і тварыў гэту эпоху і час, гісторыю. А яшчэ і жанчын і дзевак не абыходзіў бокам, крыху перайначыў паэта: любіў коней і жанчын. Тры вайны – ганебную і славутую, і доўгую, бясконцую, у якой мы нас, аказваецца, перамаглі – прайшоў на кані, цалуючы яго ў храпу, каб нідзе не схібіў, не падвёў, ні пад Масквой, ні пад Сталінградам, ні на калгасных палетках. На буланчыку заехаў у Берлін. На буланчыку вярнуўся ў «Барацьбу за камунізм». З вайны ў вайну. Добры дзесятак коней ад яго пайшло на салатопку і жывадзёрню. І за кожнага ён узяў па чарцы і пусціў па слязе.

Так, любіў чарку. Ніводную міма рота не праносіў, за каўнер не вылiваў. А прыняўшы добрую чарку, браце мой, як ён кляў любімую ўладу, усіх правадыроў, усіх, хто з Богам адышоў і ўладарыць яшчэ сёння, праклінаў нема, як воўк у піліпаўку вые. Каб пачулі яго, адзін, пэўна, збег бы з Маўзалея, вылечыўся б ад картавасці, навучыўся б чалавечай мове, другі забыўся б гэтай чужой яму мовы назаўсёды, па сваёй ахвоце да пары да часу прыйшоў бы і лёг у той Маўзалей.

Не, зусім недарэмна яго пазбавілі гэтага чортавага зялёнага зелля, пачулі. Дайшло да іх вушэй, перапужаліся. І ў апошнія свае дні

Канстанцін Васільевіч выдаваў па мацеры ўжо на сухую, без падмазкі, але не тоячыся, услых. Вам выдаваў, каторыя сталі звацца сёння прэзідэнтамі, парламентамі, дэмакратамі-лапачкамі: ад Гарбачова – Ельцына да Зянона Пазняка і Станіслава Шушкевіча. Прыпрагаючы ў гэту кампанію і Вячаслава Кебіча. Усіх у адзін хамут, у адны аглоблі – і па храпе, па храпе. За тое, што пазбавілі самога апошняга ў жыцці, намёку нават на свята, святых франтавых ста грамаў, на якія не жмоціўся і сам вусаты. Укралі апошняе, чым ён мог хмельна ганарыцца – Дзень Перамогі. Укралі ў яго і яго коней.

Такім чынам, якая б ні правіла ўлада – былая, што сканала ў Бозе, і тая, што, як птушка Фенікс, паўстала з праху і попелу, і нават будучая, невядомая яшчэ сёння – мае ўсе падставы: па храпе яго, па храпе. І твар яго сапраўды як конская, калгаснага мерына храпа, не прамахнешся. Такім ужо ўдаўся, у бацьку ці маці пайшоў. А мо той жа пан ці хто з яго роду паспрыяў, з другога берага падкраўся да бабулі ці маці. Пародзісты твар, з такім ілбом і думаць шырока і зямлю араць прывольна, не з кулачок, зморшчаны, як у іншых, а прасцяг і воля. За плугам, за касою ці пры сякеры – добра пот збіраць, і думку запасіць добра. І твар гэты ягоны скрозь гады вайны, ударніцтва, узліванне да самага апошняга часу застаецца захаваным. Не сапсаванымі аказаліся да самага адыходу і вочы, ясныя і празрыстыя, як часоў князя Ігара яшчэ, пэўна, крынічка, што б'е непадалёк ад яго хаты пры высокім беразе Пцічы і струменіць у Пціч; не дае згінуць старажытнай рэчцы, памятае і захоўвае і след коней дружыны Ігаравай.

Плоць, цела Канстанціна Васільевіча ўсохла, спрацавалася ў калгаснай збруі. Ногі адняліся і ўкараціліся, абвіслі, не трымаюць цела, адмаўляюцца яму служыць. А рукі дужыя, кулакі – кожны з пуд і як бы, здаецца, відушчыя на сконе веку, так праглядваюць з іх сінеўздутыя жылы. Але здатныя гэтыя рукі трымаць толькі мыліцы ды шырынку расшпіліць, каб хлопца дастаць, колішняга хлопца. Грэшны, і ляцяць, ляцяць у яго камяні.

Жыць яму заставалася роўна гадзіна. І стаяў на тую гадзіну Канстанцін Васільевіч на сваіх кастыльках, як з'езджаны конь аб чатырох нагах, на пачатку вясны дзевяноста другога года сярод свайго занядбанага падворка, каля хаткі на курыных ножках, і ўсё вакол хаткі было падобна яму. Аднаго з ім веку, аднаго ладу хаткі былога панскага чаляднікa. Праўда, шмат чаго з яго падворка за час савецкага чаляднііцтва і знікла, прапала. Праваліўся і зраўняўся з зямлёй пограб, у якім ён некалі ва ўсякую пару года захоўваў «лёды» – замарожанае ў кругах малако. Зведзена з хлява і сама кароўка,

каторая давала тое малако. На кастыльках з касою на сенажаць не выйдзеш. Ні ў яго, ні ў яго старой ужо няма сілы трымаць карову. Таму і ржавела пад сінім небам, сыходзіла кроўю саламарэзка. Бабіна ступа і начоўкі гнілі проста ўжо таму, што былі непатрэбны. Хлеб елі казённы, магазінны. Бялізну ў начоўках не замочвалі, дачка мыла яе ў горадзе на пральнай машыне.

Квактала, шорпала вакол Канстанціна Васільевіча Ганна Паўлаўна ў чорных бурках на босую нагу, баялася, што прастудзіцца, хаця і ведала, што на здароўе даравана яму адна толькі хвіліна, сама ж пазвала прыехаць на развітанне са старым сына і дачку. Угаворвала ісці ў хату. Але ён не адгукаўся на ўсе яе ўгаворы. Быў глухі да суседзяў, бабулек, яго равесніц, што без патрэбы выкідваліся з хат, сноўдалі па падворках: адзінае – дасведчыцца, адышоў ужо ці яшчэ мучыцца.

А ён зусім і не мучыўся. А калі і мучыўся, то не іх зямнымі мукамі. Быў, як кажуць, пры розуме і цвёрдай памяці. Прымаў і збіраў камяні. Трэба сказаць, што і гэта было яму не цяжка. Камянямі семдзесят гадоў былі засеяны і калгасныя палеткі, і яго прыватныя соткі. Камяні ці самі раслі на гэтай зямлі, ці падалі з неба. Восенню іх збіралі, разорвалі поле, а вясною яны ўзыходзілі. Надаралася і горш таго: увечары іх прыбіралі, а зранку яны прараслі зноў, нібыта пры сонцы сеяў ён жыта, а ноччу яно ўзыходзіла каменнем. Што зробіш, чорт помслівы, а мужык трывушчы. Зямля пад яго рукамі ўсё роўна радзіла жытам. Жытам, жыццём, жыцівам завяршаліся ў рэшце рэшт усе беды. Заўсёды і на тую хвіліну яго куды больш за камяні-самасеі жахаў той каменны дакор, што сыходзіў з размазанага хмарамі неба, з вызваленай ужо ад лёду, але яшчэ глухой вады ў рэчцы, ад кладачак між двума яе берагамі – нітачкай паміж абарваным і пахаваным панскім мінулым і чалядным будучым, якое так і не адбылося. І яшчэ больш дакарала закамянелая скруха ў вачах дзяцей, іх маці, а яго жонкі Ганны Паўлаўны. Вось дзе камяні. Магільная пліта, валун, пад які ён ляжа і зачыніцца на тым свеце, адгародзіцца ад зямнога дакору і тых дробных каменняў, пцічанскіх рачных акатышаў, што ляцяць зараз у яго. Жыццё пражыў, як крот пад зямлёй, усё рыў, рыў, а нічога не вырыў, не здабыў нават спакою на апошнюю сваю гадзіну. Крацінымі крывымі хадамі ўсё абыходзіў камяні, валуны, што паўставалі на яго шляху. Вырыўся нарэшце на свет Божы, паказалася – на прастору. Але то была прасторная яма, пастка для такіх вось, як ён, працавітых кратоў. Магіла, падрыхтаваная злым ці добрым розумам, які загадзя ведаў, што ён даграбецца да гэтай ямы – магілы, кульнецца туды, аслепне і сканае.

І ён дагробся, кульнуўся ў тую яму, апошнюю пастку смертных, і яшчэ жывы аслеп ад смярцельнага для кратоў сонечнага святла. І апошні раз у сваім жыцці заплакаў, пусціў слязу на волю з вачэй, што ўжо нічога не бачылі. Ён плакаў ужо слязою вызвалення і збаўлення, а каменні працягвалі ляцець, але яму яны плылі вянкамі: ад праўлення калгаса, ад прафкама, суседзяў, жонкі, сына, дачкі. Яны пабівалі ўжо сляпога і глухога на гэтай зямной юдолі чалавека. Чалавек, гаспадар, мужык і бацька да апошняга стаяў на сваім падворку, на ўкрытай каменнем Галгофе і толькі калі адчуў, што яму адмаўляюць служыць разам з вачыма і рукі – аслабелі, нязДольны трымаць мыліц, і ён, таго і глядзі,распластаецца, ляжа пасярод гэтай Галгофы,– пашкандыбаў у хату. Перакуліцца на падворку, легчы на мокрую расталую ўжо зямлю, дзе ўсё спаскуджана курамі, ён не жадаў, не мог дазволіць сабе такога і ў думках. Туды ён павінен быў прыйсці чыстым.

Уладкавацца ў ложку яму дапамаглі сын з дачкой. Але і ў ложку ён застаўся пры памяці, розуме і голасе. Наказаў жонцы, што апрануць яму, як і дзе пакласці. Ордэн і мноства медалёў за штурм і вызваленне чужых гарадоў, раскіданых па ўсёй Еўропе, загадаў у труну не класці, захаваць для ўнукаў. Загадаў і адышоў, храпянуў апошні раз, як храплі перад тым жа адыходам яго конікі. Храпянуў і нечакана для сябе набыў ногі, маладую вёрткую сілу ў нагах. Ён выпрабаваў іх яшчэ на гэтым свеце, узняў, здаецца, каб ступіць імі на гэтым свеце, але ступіў ужо на тым. Маладымі пруткімі нагамі пайшоў Канстанцін Васільевіч да Бога. Пайшоў, свята верачы і ведаючы, што горш, чым тут, там яму не будзе. Не можа быць горш. Занятак яму будзе і там. У чым-чым, а ў коніку Божухна яму не адмовіць. А з конікам ён ужо як-небудзь ды згаворыцца, паладзяць яны, абодва ж добра ведаюць, што трэба рабіць, калі сустракаюцца конь і мужык.

На якую хочаш работу на гэтым свеце быў здатны Канстанцін Васільевіч, усё, можна сказаць, ведаў пра той свет. Але на паверку выйшла – усё, ды не зусім. Пражыўшы ўвесь час у сваёй птушынай чаляднай адселенасці, ён не прыкмеціў, пэўна, самага галоўнага,– як свет перавярнуўся, жыццё перамянілася. Ён успрымаў яго адвечнай сваёй памяццю, вачыма бацькоў, дзеда, а яно даўно ўжо зрабілася іпакшым. Пазіраў на кладачкі паміж панскім і чаляднымберагам, а бачыў, пэўна, мост паміж мінулым і будучым, хоць і ведаў, што кожная новая паводка змывае тыя кладачкі. Ён сам не раз пасля вялікай вады пракладваў іх нанава. Думаў, назаўсёды, але толькі да новай вады. Ён сам быў як тая вялікая вада. Сам, атрымлівалася, тварыў новае незразумелае яму жыццё. І ў рэшце рэшт не прыкмеціў,

як сатварыў яго і сам пераўтварыўся. Перавярнуўся, абярнуўся ў нешта інакшае, агіднае і прыкрае ўласнай душы і натуры. І гэтыя абаротныя яго душа і натура расплодзіліся і памножыліся, пайшлі рыскаць па зямлі. Але калі сам ён яшчэ глядзеў на гэтую зямлю вачыма бацькоў, то дзецям яго ўжо бачылася ўсё на ёй яго вачыма. Без мастка паміж двума берагамі рэчкі. Усё сплыло для іх веснавой вадой, тарфяной і чорнай вадою адвечнай Пцічы, і сканала там, за рачным паваротам. І цяпер ужо не толькі блакітная цэркаўка на кургане знікла з іх вачэй. На іх вачах, заслепленых пяском, раскапалі і сам курган, а там, дзе некалі стаялі цэркаўка і панскі палац, паставілі асабняк нованароджанага магната, гмах – уродзіну, народжаную мноствам літаратурных і фігуральных перабудоў і надбудоў. І Канстанцін Васільевіч, калі быў яшчэ ў сіле, дапамагаў будаваць тую ўродзіну.

Так што не без падстаў пабівалі яго каменнямі, ляцелі ў яго камяні. І родная жонка, і родныя дзецi кідалі іх на магілу, на грудзі, збіраліся паставіць каменны помнік. Вінаваты, вінаваты ён хаця б таму ўжо, што нарадзіўся. Мёртвыя сораму, канечне, не маюць, але, па справядлівасці, павінны трымаць адказ за пакінутае імі жыццё. З каго інакш спытае мужык, жывы ці мёртвы – павінен за ўсё адказваць. Жывыя ж адказваюць толькі за спакой на тым свеце, за тое, каб іх прарадзіцелі ў трунах сваіх не пераварочваліся.

А Канстанціну Васільевічу наканавана было перавярнуцца ў труне. Напоўніцу дало яму жыццё горкага і салёнага на зямлі ў бацькоўскім дамку. Не салодкім аказалася яно і ў дамавіне на тым свеце. Толькі вось чаму ўжо і там – гэта яму ўжо ніколі не зразумець, таму што гэта ўжо за мяжой разумення ўсіх, хто ішоў, ішоў да апошняга ўпору, ішоў, але рысы той апошняй не пераступіў. Не пераступіў яе і Канстанцін Васільевіч. Ваяваў – так. Але не звёў са свету ніводнай жывой душы і на вайне, таму што пры коніку. Вазіў снарады і нябожчыкаў, параненых і забітых. Але сам не забіваў, хаця і меў вінтоўку, аўтамат. Сумленне, віну і страх у душы заўсёды насіў. Першародныя: сумленне, віна і страх перад жывым, а страху смерці не ведаў. Мо смерць за гэта і расплацілася з ім так ужо на тым свеце.

Пахавалі Канстанціна Васільевіча хараша, па-людску, як ён заказваў. Касцюм, пінжак на ім быў амаль што новы, ні разу не ліцованы, сарочка таксама новая, белая. Гальштукаў не насіў пры жыцці, не сталі мучыць і пасля смерці. І штаны, брукі-галіфэ ездавога з лампасамі амаль камандзірскімі, што прыдбаў ён яшчэ на фронце, але бярог для смерці, апранулі. Палажылі ў дамавіну – не Канстанцін Васільевіч, а карцінка. Твар, галава ўжо вельмі прыгожая, як пісаныя,

лоб шырокі, трохі заклапочаны, і валасы хораша глядзяцца, белыя, хоць ты пісьмо на іх з таго свету пішы, вусны сцятыя, але без пакуты, не замыленыя. І месца, ім жа прызначанае, знайшлі. Сухое, высокае, пясочак беленькі і хвойка каля галавы. Адпачывай, Канстанцін Васільевіч, радуйся, заслужыў.

Але не на радасць аказалася Канстанціну Васільевічу і магіла, такі прыгожы новаздабыты дамок. І на тым свеце здарылася з ім... Здарылася... Ніхто не ведае, што здарылася. Відавочцаў няма. Сведкаў на гэтым свеце няма. А з таго свету ніхто яшчэ не вярнуўся і не пераказаў. Увогуле, як кажуць у такіх выпадках, здарылася нешта наўродзе Валодзі. Яно і на самай справе адбылося з Канстанцінам Васільевічам нешта накшталт Валодзі. Таго, крамлёўскага Валодзі. Гісторыя амаль па Ільічу, Леніну, каторы пасля смерці замест магілы апынуўся ў Маўзалеі. Але з Уладзімірам Ільічом усё ясна, ён чалавек вялікі, нават геніяльны, з простымі смяротнымі нідзе не сыходзіўся, не сутыкаўся, заўсёды ішоў толькі іншым шляхам. А Канстанцін Васільевіч хадзіў пратораным ужо іншымі шляхам, слядок у слядок, каб, не прывядзі Гасподзь, нідзе не спатыкнуцца, не ступіць ні ўправа, ні ўлева. Ён і Маўзалея таго ніколі жыўцом не бачыў, хаця іх вёсачку Пціч у акрузе называюць Крамлём, так яна выгараджана ад усяго свету, як на выселках, жывуць у ёй людзі, патомныя панскія чаляднікі. Іх яшчэ завуць і крамлёўскімі даўгавечнікамі, таму што і сапраўды зажыліся яны ўжо на гэтым свеце. Пана і костачкі згнілі, а чэлядзь у добрым здароўі. Занесла глеем, пазарасталі травой, асакой ды аерам былыя панскія каналы, нікому ў галаву не прыйдзе катацца там на лодках. І лодак на ўсю акругу ніводнай. Ніхто і паняцця не мае, як зрабіць тую лодку. Саму рэчку ўсюды можна ўброд перайсці. З усіх бакоў абрэзалі яе, акарацілі дамбамі, вадасховішчамі. Спякотным летам, каб надарылася зноў жа таму князю Ігару павярнуць сюды свае палкі, коням іх напіцца недзе. Хіба што крынічка сочыць яшчэ трошкі вадзіцы. Б'е крынічка пры былым кургане на беразе Пцічы. Але гаворац, што пасля Чарнобыля вада яе горкаю зрабілася. Уначы, калі Чарнобыль надарыўся, паўстала на зрубе каля крынічкі, загарэлася свечачка. Яшчэ ніхто ў сяле нідзе-нідзе нічога ні слыхам ні дыхам пра той Чарнобыль, радыё песні спявала, тэлевізар танцы паказваў, а свечачка ўжо гарэла. Яно і не дзіўна. Іх жа маленькая рэчка ўпадае ў раку вялікую, на якой месціцца той Чарнобыль, звязана яна недзе падземнымі хадамі з тым Чарнобылем, як усё малое звязана з вялікім, мінулае з будучым і наадварот. І крынічка, хоць і гаючая і карысная для здароўя, радыеактыўная сёння. Не той, дык іншай заразай атручаны іх воды.

Мо таму і зямля трымае яшчэ жывых, але адмаўляецца прымаць нябожчыкаў. Не прыняла яна і свайго вечнага батрака, чаляднікa Канстанціна Васільевіча. Адмовіў, пэўна, Божухна яму на тым свеце ў коніку, як брыгадзір адмаўляў на гэтым.

Ганна Паўлаўна адчула нядобрае, калі толькі-толькі пачалі набліжацца дзевяціны. Але па-старэчы, пэўна, ужо не вельмі цямячы, не здолела звязаць гэтае нядобрае, разладнае ў душы з могілкамі, з магілкаю свайго Косціка, Канстанціна Васільевіча. А ён жа на пяты ўжо дзень з'явіўся да яе. Не па-вясковаму далікатны, чужы ёй і хаце. Па-гарадскому пастукаўся ў дзверы. Ганна Паўлаўна да такога не прывыкла і не адгукнулася, тады ён птушкай заскробся ў акно, і зноў – тук-тук у дзверы.

– Заходзь, каго там чорт прынёс,– прабурчэла Ганна Паўлаўна з-пад сваіх дзяружак.– Не замкнёна.

І сапраўды, дзверы ў хату былі незамкнёныя, ад вайны, ад партызан яшчэ і немцаў завядзёнка такая ішла. Што замыкацца, калі і адны, і другія пры зброі? Ад кулі і пад зямлёю схованкі не знойдзеш, а браць у хаце ўсё роўна няма чаго. Не замыкалася, ведала, што няма на зямлі такога ліха, якое здольна яе ці яе хату пакрыўдзіць.

І той ноччу чакала яна ўбачыць чужога чалавека, а ўбачыла свайго Косціка. Уваліўся ён у хату, сеў на ўслонік, каля цёплай печы, і колькі быў, усё жаліўся: холадна яму, сыра, дождж і снег сыплюць, завейна. Яна прагнала яго: не хадзі, як сірата беспрытульны, не па-людску такое. Ёсць у цябе хатка – пільнуйся яе, не нагаворвай на яе лішняга, яна сугрэўная. А холадна і завейна тут, на зямлі.

На зямлі і сапраўды было няўтульна і холадна, і адначасова смяротна горача. Кожан дзень па тэлевізары некага забівалі і хавалі. Ішоў брат на брата, рэзаў, паліў, не ведаў літасці ні да старога, ні да малога. Каўказцы крывымі нажамі рэзалі дзяцей, малдаванцы трушчылі адно аднаму чарапы. На Беларусі, слава Богу, было яшчэ ціха. Адно толькі галасілі, жыдка ці немца нейкага ўзгадвалі: фярэндум, фярэндум, як хлеба ў галадоўку прасілі. Хлеб той у магазіне зрабіўся дарагім, і не падступіцца да яго, сала з мясам раней таго не каштавалі. За само ж сала, кілаграмчык нейкі, як некалі за цэлага кабана. Не хадзілі б у той магазін ногі, не бачылі яго вочы. Выпірае вочы ад аднаго толькі пагляду на гэты белы свет.

І не да нябожчыка і яго голасу, скаргаў было Ганне Паўлаўне. Цяпер ніхто не ведае, што будзе з жывым. Сам чорт не ведае, што будзе, што будзе... Пціч, Грабень, Узляны, Дудзічы трасе як у ліхаманцы. З усіх бакоў наляцелі, абклалі іх іншапланецяне. А мо і не іншапланецяне, а тыя самыя, што ад рукі брата, бацькі і маці аддалі

Богу душу – каўказцы і малдаванцы, што паспыталі пяшчоты міліцэйскіх кулакоў і іх гумавых дубінак. Паспыталі, задрыжэлі і ўзняліся, узляцелі іх душы. Лётаюць цяпер, не ведаюць прытулку на гэтым свеце, ні прыстанку на тым. Страх і жах людскі перад тым, што яшчэ будзе, вызваліўся ўжо і ляціць, ляціць цяпер па свеце, уцякае з вялікіх гарадоў у маленькія вёсачкі, палохае, бянтэжыць і зводзіць мужчын і жанчын. Перад вайной такое ўжо было. Нечысць і пошасць ішлі пад зямлю, кожан дзень выпадалі знакі.

Збянтэжаная душа ў спалоху празорліва. Чалавек яшчэ і не здагадваецца, што чакае яго наперадзе, а яна ўжо ўсё ведае і бачыць, стогне ў жальбе і тузе, ужыве аплаквае сваю долю, спраўляе сама па сабе хаўтуры. Звер жыве ў душы чалавека. Жыве, спіць у дрымоце да пары да часу і баіцца прачнуцца, таму што з яго абуджэннем сам чалавек, аб тым не здагадваючыся, звярэе. І вось гэты звер у чалавеку зараз падняў галаву. І адскочылі звер і чалавек адно ад аднаго. І не дай ім Бог паяднацца зноў. Таму што тады не суджана ім ведаць і адрозніваць, дзе звярынае, а дзе людское. Чалавечынай будуць карміцца абодва. Вох, не прывядзі Гасподзь, і без таго ўжо на белым свеце невымяральна пралілося той крыві і ўжыта той чалавечынкі. Звер у абліччы чалавека пойдзе па зямлі. Ужо ідзе, абуджаны чалавечай злосцю і кроўю.

– Не, не звер, – не пагадзілася з Ганнай Паўлаўнай старая, што набегла адведаць удовую суседку, вельмі гаваркая, таму што яе распірала ад двайнога гонару. Па-першае, яна стала нарэшце на роўную нагу з Ганнай Паўлаўнай, таму што сама аўдавела ўжо даўно. Усе жанчыны на Пцічы былі цяпер удовымі. Канстанцін Васільевіч апошні з мужчын у вёсцы. І цяпер Ганне Паўлаўне няма чаго і няма перад кім дзерці носа. Другі ж гонар старой: яна мела навіну – іншапланецяне прыляцелі. Ганна Паўлаўна раскусіла яе і таму, пэўна, упарта адмаўлялася паверыць у іншапланецян. Выказвала сваю думку-версію наконт іх, настойвала на сваім, бо заўсёды была натурыстай і строгай:

– Ты мне кажаш, што не звер, а я ведаю, што звер.

– Ты ведаеш, а я бачыла на свае вочы.

– Не вер сваім вачам.

– А я вось веру. Быў шар. Чырвоны такі шар. Я яшчэ галавою да яго падсунулася. Бачыш, валасы падсмаліла.

– У печ ты сунула галаву, вось і падсмалілася. Ты ўсё жыццё сунеш галаву ў печ і ходзіш, як сава падсмаленая.

– Сава падсмаленая,– пакрыўдзілася старая.– У мяне газ, не так, як у некаторых.

– І ў некаторых газ,– абсекла яе Ганна Паўлаўна. Усё ж яна была не раўня гэтай старой. Чалавек у той памёр даўно, а ў яе зусім свежанька: – Няма на зямлі ніякіх шароў, не бывае.

– Ёсць,– узрадавалася старая.– Зямля наша круглая з усіх бакоў, як шар.

– Ты сама круглая, з усіх бакоў, як шар.

– Няхай круглая, затое спраўная, не тое як некаторыя,– і, апярэдзіўшы намер Ганны Паўлаўны ўставіць і сюды свае два грошыкі: – Быў напачатку шар, а потым, калі я падсмалілася, у талерку ён ператварыўся, у талерку…

– Талерку ты тую ў магазіне бачыла,– усё ж спыніла яе Ганна Паўлаўна.– Убачыла, колькі яна цяпер каштуе, вось у галаве ўсё ў цябе і памарочылася. Сёння трэба моцная галава, чыгун, а не твае клёпачкі, каб цэны новыя пераварыць.

– Яно так, яно так, цэны сёння не па нашым з табой кашальку і набытку. А талерка ўсё ж была, і зямля наша круглая. Талерку тую і шары чырвоныя не адна я толькі бачыла. Вось і…

– Добра, добра, зямля наша шар, – Ганна Паўлаўна ведала, пра што далей хацела весці гаворку старая. Зранку ў яе хаце перабылі ўжо ўсе пцічанцы, што бачылі на свае вочы талерку, іншапланецян і чырвоны шар. За гэтымі адведкамі і казаннямі яна і забылася пра сваё ці то сненне, ці то яву, забылася, што і гэтай, як і мінулай ноччу, прасіўся пагрэцца ў хату Канстанцін Васільевіч, ледзь не на каленцах умольваў пусціць, а яна прагнала. Але недзе надвячоркам, пад змярканне, калі прыехалі ўжо на дзевяціны дзеці з унукамі, прыгрэлася калі іх, раздумалася, паведала ім пра свой сон і кінулася апранацца. Дачка паспрабавала пярэчыць.

– Куды ты нанач гледзячы. Заўтра ўсе разам адведаем.

– Холадна яму там. Холадна. Я адчуваю. І ў мяне мароз па скуры… Холадна яму. Холадна. – Нібы трызнячы, засяродзілася на гэтым «холадна» Ганна Паўлаўна. Хуценька апранулася, выграблася за парог хаты, нібы ваўчыца з логава. Азіраючыся зверкам, пачыкільгала па адпушчанай ужо, раскіслай вясенняй дарозе да могілак. Дачка з мужам пайшлі следам за ёй. Ішлі не даганяючы і не імкнучыся дагнаць, цягнуліся за ёй, як чужыя за чужой. І на самой справе на тую мінуту гэтая старая была ім чужой. І ішла яна да могілак, як ходзіць звер, і вялі яе, бадай, не дарога і вочы, а нюх.

Яшчэ тыдзень назад прыбраная і дагледжаная магілка была раскапана. Скасабочаная і пакарабачаная труна стаяла на кучы пяску. Вечка адчынена і разламана па краях. Канстанцін Васільевіч ляжаў у труне не разварушаны, усё такі ж задумлівы, якім аддалі яго

зямлі. Толькі снег і трохі наледзі было на яго твары. Па тым снезе вяскоўцы ўжо крыху пазней меркавалі, што выцягнулі яго з магілы тры дні назад. Тры дні назад ішоў снег, была невялікая мяцеліца. А хто яго раскапаў, а галоўнае – дзеля чаго, тут ужо ніхто не мог і галавы прыкласці. З-за медалёў і ардэнка, што сёння ў цане, надсаджвацца было не варта. Усе бачылі, усе ведалі, што тыя медалі і ардэнок Канстанцін Васільевіч перад смерцю загадаў пакінуць унукам. А ніякага больш багацця пры ім не мелася, нават зуба залатога ніводнага сабе не паставіў, толькі жалезныя, са сталі.

Прыдуркаватая суседка, што расказвала Ганне Паўлаўне пра шар і лятаючыя талеркі, выказала думку, што ўсё тут учынілі іншапланецяне: хацелі, маўляў, выцягнуць яго, забальзаміраваць і адтарабаніць на сваю планету, пакласці ў Маўзалей, як у нас Уладзіміра Ільіча Леніна, і паказваць той планеце. Ёй, зразумела, не паверылі. Мо і дарэмна, а мо і не. Хто ведае.

Старшыня калгаса, што праязджаў міма могілак на сваім «козліку» і завярнуў на жаночае галашэнне, сказаў як бы сам сабе:

– Чалавек нармальны і разумны на такое не пойдзе.

На што яму пераканаўча адказалі:

– І дурань не пойдзе. Пабаіцца могілак і мерцвяка, кары Божай.

Азвалася зноў убогая старая з Пцічы:

– Вох, будзе, вох, што будзе, калі горад пойдзе на вёску. А яшчэ ж горш будзе, калі вёска рушыць на горад, пусціць чырвонага пеўня па дачах, што ўсюды сёння на кожным кроку.

Мовіла са злоснай прарочай сілай юродзівай, якая тое-сёе ведае і прадбачыць з таго, што чакае нас наперадзе. Усе пачулі яе, але ніхто не запярэчыў, не паставіў яе на месца. Хутчэй за ўсё з-за беспрасвету і бездапаможнасці перад гэтай магілай, прахам Канстанціна Васільевіча і жывымі яшчэ мошчамі Ганны Паўлаўны. Ні чалавек, ні Бог нічым ужо не здольны былі дапамагчы ім. Улады зямныя, праўда, хацелі дапамагчы, завесці справу і пачаць шукаць злачынцаў. Але для гэтага, сказалі яны, неабходна анатаміраванне, гэта значыць, разрэзаць Канстанціна Васільевіча, нібы злачынца сядзеў недзе ўсярэдзіне яго. Ганна Паўлаўна паказала ім з труны Канстанціна Васільевіча кукіш.

У той жа вечар, на тых жа могілках знайшлі яшчэ дзве раскапаныя магілкі. Але не да канца, не зусім, як магіла Канстанціна Васільевіча. І ляжалі ў тых магілках таксама пцічане. Дзве бабулі, якіх і прозвішчы ўжо пцічанцы пачалі забываць. Зусім нікчэмныя старыя. Яны і пры жыцці нікому не патрэбныя былі. Але вось жа спатрэбіліся некаму пасля смерці. Каму? Навошта? Хто ведае? Хто адкажа?

Вось на тое, што тае ж начы на цэнтральнай сядзібе калгаса ўзламалі склад і ўкралі поліэтыленавую плёнку для парнікоў і металічную сетку, адказ быў. Сетка і плёнка – рэчы ў гаспадарцы найнеабходныя, архіпатрэбныя і архідэфіцытныя. Усе ж навокал будуюцца, садзяць агароды, заводзяць парнікі. Думаюць жыць доўга.

Мо ведае што-небудзь пра свайго Канстанціна Васільевіча і пра тое, што з ім адбылося, Ганна Паўлаўна. Канстанцін Васільевіч мог шапнуць ёй адной па сакрэту нешта на вуха. На могілках яна ўпала на яго, накрыла сваім целам, бы хацела сагрэць. Пачала растапляць вуснамі лёд са снегам, што прыпаў да яго лба. І што дзіўна, не выпусціла з вачэй ні адзінай слязінкі, не выдала ні гуку, ні стогну. Усё па-звярынаму, моўчкі. Маўчыць, не кажа нікому ні слова і сёння, не азываецца нават да дзяцей і ўнукаў.

А спаць той ноччу, пасля вяртання з могілак, яна легла, паклаўшы пад падушку сякеру. Перад гэтым занесла ў сенцы, здабыўшы ў хляве асаджаную яшчэ Канстанцінам Васільевічам, калі яны яшчэ трымалі карову, касу. З сякерай пад падушкай, няспынна мацаючы яе то шчакой, то патыліцай, з вышчарбленай, іржавай касой, што стаіць у сенцах, так і спіць яна з той пары ў сваёй хатцы на курыных ножках. Адна, як ваўчыца ў логаве. Навошта? Чаму? Хто адкажа?

## Сымонка на поўдні

Не, усё ж поўдзень ёсць поўдзень. І хоць Сымонка яго яшчэ і не бачыў, а толькі нюхаў, таму што прыбыў ён на гэты поўдзень недзе ўжо пад першыя пеўні, там яму спадабалася. Пахла сапраўды поўднем, свежай вадой – морам, хоць тое мора ён таксама яшчэ не бачыў, але Сымонка ведаў, што яно павінна тут быць. Мора ж гэта гуло там, за дрэвамі, за будынкамі, што ледзь-ледзь праглядваліся ўначы, не экскаватар жа там роў, як у вёсцы Сымонкі каля самай яго хаты. І слухаць мора было прыемна, было прыемна дыхаць адным паветрам, якім дыхалі і нейкія незвычайныя, дзівосныя не то дрэвы, не то расліны – лісцё шырачэзнае, большае чымсьці самага вялізнага лопуху. Але гэта быў не лопух. Лопух, што рос у яго пад плотам, пах сабакам. А ад гэтага патыхала нечым іншым, далікатным, паўднёвым. Па-паўднёваму духмяным было тут неба, зоркі.

Адным словам, поўдзень ёсць поўдзень. І ён спачатку спадабаўся Сымонку, які далей сваёй вёскі, што называлася не вельмі прыгожа – Крывое Сяло,– нідзе да гэтага не быў. Спадабалася Сымонку яшчэ і таму, што тут было і нешта знаёмае яму, роднае, мо канава ці копанка, што падсыхала і цвіла за гэтымі дзівоснымі дрэвамі і раслінамі, а мо нават і балотца, ад якога не вельмі далікатна несла тванню і трыснягом. І як адчуў гэту твань і пах трыснягу Сымонка, так поўдзень стаў яму зусім блізкім і родным, таму што ў поезд яго ўсадзілі лічы што з гэтай твані, з балота. Адлавілі на балоце, дзе ён займаўся вельмі важнай справай. Ратаваў маленькіх шчупачкоў і плотак і нейкіх іншых малюпасценькіх рыбак, такіх малюпасценькіх, што не разбяры-паймі, як зваць іх. Сымонка збіраў іх па лужынах, збіраў у вядро і нёс да возера, пускаў у возера і гаварыў:

– Плывіце і расціце, а калі вырасцеце, станеце акунямі, шчупакамі, я вас зноў спаймаю.

Ад гэтай якраз справы адарвалі Сымонку, крыху абмылі і павезлі на поўдзень. Ён усю дарогу сумаваў, што не паспеў выратаваць усіх рыбінак. І яму было даспадобы, што і тут, як і ў яго Крывым Сяле, ёсць балотца, твань і, пэўна, рыбкі. З тым Сымонка і заснуў у пяціпавярховым будынку, на самым вышэйшым пятым паверсе, у пакоі, вокны якога, пэўна, выходзілі на мора, таму што за вокнамі ўвесь час нешта гуло.

І пачалося яго жыццё каля мора на поўдні, радаснае і бестурботнае. А якім яно яшчэ магло быць на моры і поўдні: прачнуўся, паснедаў – і ў мора, пасля абеду – зноў жа туды, у цёплую і мяккую ваду, як у матчыны рукі. І гэтак дзень, другі, трэці, тыдзень.

Не, не, толькі ў мора, але і на параход, і параходам па моры. А мора ўвесь час перад тваімі вачыма: чорнае і зялёнае, блакітнае і не-не дый ружовае. І ў вушы ўвесь час: «Дарагія грамадзяне, турысты, экскурсанты, адпачываючыя, прама перад вамі мора, з правага боку горы. Вось тую горку наведаў..., а ў тым гроце быў..., а тая вяршыня знамянальная... «Але ці то ад аднастайнасці паўтарэння адных і тых жа слоў, ці то з якой-небудзь іншай нагоды ў нейкі дзень ён адчуў у сабе сум, як хвароба якая прыпала да яго.

– Што з табой, Сымонка? – пыталася маці.– Чаму ты не глядзіш ні на што? Тут жа сам вялікі Аляксандр Сяргеевіч Пушкін быў і захапляўся веліччу мора і гор. Ты адчуваеш?

Сымонка адчуваў, нават вельмі добра адчуваў, толькі адказваў нешта зусім іншае.

– А чаму ён у нашым сяле не пабываў, чаму яно Крывым завецца? У ім жа таксама людзі жывуць, дзядзька Міканор, бабка Лукер'я, а нічога знамянальнага няма.

– Дурненькі,– уздыхала маці. – Што твая бабуля, дзед...

– Як што, у бабулі боб у гародзе расце, а дзед дудкі з лазы ўмее рабіць.

Маці смяялася, нібыта ён быў і сапраўды такім ужо маленькім і дурненькім, туліла Сымонку да сябе і нагаворвала яму нешта паўднёвае, ласкавае, што Сымонка ўжо зусім адмаўляўся ўспрымаць. Не тое і не тым голасам гаварыла маці. Чуліся яму ў тыя хвіліны і іншыя галасы, галасы яго бабулі Лукер'і, і дзеда Міканора, і спеў дзедавай дудкі.

Асабліва выразна ён убачыў свайго дзеда, калі на тым параходзе даведаўся пра сумную гісторыю невядомага яму паўднёвага дзеда Кузьміча. Той дзед любіў рыбаліць. Было яму ўжо за сто год. І памёр ён на рыбалцы ў моры. На каменні, што выдаваліся з мора.

І назвалі тыя каменні Кузьмічовымі. І глядзеў на іх Сымонка, як з сваім родным дзедам Міканорам сустрэўся.

І ўзрадаваны ад гэтай сустрэчы бег ён у той дзень купацца ў мора. Толькі там, на пляжы, каля вады адбывалася нешта незразумелае. Ніводнага чалавека, ні адной галавы не было ў моры. Усе пляжнікі – жанчыны, мужчыны і дзеці стаялі на беразе і паказвалі пальцамі на нешта нябачнае:

– Гадзюка, гадзюка...

Гадзюка плыла ўздоўж берага па вірлівым прыбоі, і галава яе была павернута да сушы, да людзей. ёй, пэўна, хацелася на сушу, але столькі вачэй не пускалі яе на гэтую сушу, што яна вымушана была заставацца ў моры. Людзі былі супраць таго, каб яна выйшла з вады. І

ўжо ляцелі ў гадзюку камяні. Людзям мала было не пусціць гадзюку на бераг. І Сымонка кінуўся прэч ад мора, ад пляжа, у кусты, у зараснікі парку, туды, дзе ён у першую сваю ноч на поўдні адчуў штосьці знаёмае яму, роднае, дзе, здаецца, была ці то канава, ці то копанка. Бег шпарка, як па сваім Крывым Сяле.

Ні канавы, ні копанкі нідзе ў зарасніках парку ён не знайшоў, яны былі калісьці тут, толькі зараз ужо зусім высахлі. Сымонка спазніўся да іх. І ён расчаравана бег па нейкай алеі, не вельмі разглядваючы, што тут пасаджана і расце. Вось тут якраз і здарылася з ім тое, што ледзь-ледзь не пасварыла яго з морам і поўднем. Нават пасварыла ўжо, а потым усё ж і прымірыла.

Сымонка ўжо крыху супакоіўся, ідучы па алеі, як у сябе дома па лесе, пачаў чапляць голле, лісце кустоў. І ўкалоўся, так укалоўся, што аж засмылела ад болю ў грудзях. Ён утаропіўся, хто гэта так балюча яму джыгнуў за руку.

Гэта быў кактус. Амаль такі, як у хаце на падаконніку. Але і не такі, таму што рос не ў гаршчочку, а прама ў зямлі. Мноства кактусаў і ўсе ў зямлі. І каля кожнага шыльдачка. Сымонка схіліўся, каб прачытаць, што там напісана, на гэтай шыльдачцы. Прачытаў: «Сасн ...» І гэта былі апошнія літаркі, якія ён убачыў, таму што з мора натоўп так галаснуў, што Сымонка не ўтрымаўся на нагах...

Вам даводзілася садзіцца на жывога вожыка? Мне таксама не. Таму я не магу сказаць, што адчуў Сымонка. Магу толькі засведчыць, што гэта было больш балюча, чамсьці сесці на жывога вожыка. Таму што жывы вожык усё ж жывы вожык. І ён мо недзе адчувае, павінен адчуваць, што сесці на яго хлапчуку балюча. А Сымонка сеў на кактус, і нават не так. Тут трэба напісаць лацінскімі літарамі: «Cactus». Во на каго ўсеўся Сымонка ў адных толькі трусіках, плавачках чырвоных. І гэта мо няблага, што яны былі чырвоныя.

У адно імгненне Сымонка падхапіўся і пайшоў з той алеі ад таго кактуса на злом галавы. Ён ішоў на злом галавы, але ж галава яго кеміла, куды бегчы: далей ад мора, ад людзей, дзе можна пазбавіцца ад калючак і ад болю.

Сымонка выкапацеў з парку, выбег на шашу, мо з кіламетр, а мо болей прабег шашой. Але ад яе ўжо вельмі патыхала спёкай. У шашы было столькі ж жару, як і ў Сымонку. Ён збочыў у поле, у кусцікі, што стаялі паводдаль у гэтым полі. І добра зрабіў. За кусцікамі была вада, копанка, амаль такая, як і ў яго Крывым Сяле. Ён з разгону хацеў кінуцца ў тую копанку, каб астудзіцца, але заступілі дарогу. Хлапчук нейкі, такі ж рабы, як і Петрык, яго сусед па Крывым Сяле, і такі ж дапытлівы.

– Ты хто? – спытаў Сымонку мясцовы Петрык.

– Дзед Пыхто.

– А гэта хто ж такі?

Тут Сымонка разгубіўся, вельмі ён ведаў, хто той дзед Пыхто, ды й яшчэ і падпякала яму.

– Збоч,– папярэдзіў Сымонка. – А то як дам, дык будзе яшчэ і Адам.

– А гэта хто такі?

–Ты што здзекуешся з мяне! – узвыў Сымонка.– Ты ж бачыш, што чалавеку ні да дзеда Пыхто, ні да Адама.

– Дык чаго ж ты іх успамінаеш?

– Таму што кактус у мяне...

– А ў мяне тут рыба, корабы.

– Якія гэта корабы?..– ледзь не плакаў Сымонка.

Не, мясцовы Петрык быў зусім неблагім хлапчуком, хоць на самай справе звалі яго Васілём, а корабы былі ніякімі не корабамі, а звычайнымі карпікамі. Васіль дапамог Сымонку пазбавіцца ад калючак і ад болю. Даў Сымонку вельмі слушную параду: каб не так смылела, сесці без нічога, без плавак у ваду, у гразь, у самую твань. Што Сымонка і зрабіў. І адразу яму стала не так спякотна, добра стала, як у сябе дома, сярод таго балота, калі ён ратаваў рыбак. І здавалася яму, што ён сапраўды знаходзіцца дома. Быў тут каля копанкі і трыснёг, такі, як і дома ў Сымонкавай копанцы, і твань была такая ж, і таксама, як недзе на Палессі, цвіла вада ў копанцы, і нават рабы Петрык, сусед Сымонкі, быў побач. Тое, што яго звалі тут Васільком, нічога не магло перамяніць. Вось толькі горы перашкаджалі ўспрымаць Сымонку поўдзень, як ён успрымаў сваё Крывое Сяло. Але на гэтыя горы Сымонка імкнуўся не глядзець. Ён глядзеў на хаты, на вёску, што была тут непадалёку. І гэтая вёска, гэтыя хаты былі падобныя на тыя, якія ведаў Сымонка.

– Слухай,– калі ўжо трохі ачомаўся, спытаў Сымонка Петрыка-Васілька.– А твая вёска чым-небудзь адметна?

– Як гэта? – адразу не зразумеў яго Петрык-Васілёк.

– Ну, хто-небудзь вялікі нараджаўся ў ёй?

– А вось я тут і нарадзіўся.

– Дык ты што, вялікі?

– А то не, давай памераемся.

– Лаві лепш сваіх корабаў.

Але Петрык-Васілёк заўпарціўся:

– Я дакажу табе, што большы за цябе.– І ён палез да Сымонкі ў копанку. І выйшла на тое, што ён сапраўды быў вышэй за Сымонку.

– Гэта таму, што я голы, – сказаў Сымонка.

– А каб і не голы?

– То я быў бы вышэй.

І за гэтым «я» на «я» яны схапіліся ў вадзе і добра наглыталіся той вады. І, змораныя, перапэцканыя, выйшлі на бераг, адчужана селі паасобку. Сымонка, каб памірыцца, сказаў:

– А я не пра цябе пытаўся. Я ведаю, што тут Пушкін быў.

– І я ведаю. Ну і што з таго, быў.

– А нічога,– сказаў Сымонка. – Быў Пушкін тут, а вось зараз мы з табой. Добра.

– Добра,– пагадзіўся з ім Петрык-Васілёк.

І яны селі побач. І ім сапраўды было добра. Карпы-корабы не вельмі клявалі, але ж увесь час былі тут, пацвельвалі іх. Выкульваліся з вады, стракатым жывым веерам рассыпаліся па вадзе. І недзе чутно гуло мора, як лес гудзе на радзіме ў Сымонкі. І карпы-корабы здаваліся яму тымі самымі рыбкамі, што ён выратаваў ад згубы. Толькі зараз яны крыху падраслі. І не дзіва – на поўдні ўсё расце вельмі хутка. Поўдзень жа ёсць поўдзень, таму і імкнуліся да яго ўсе вялікія людзі. А вось зараз і ён, Сымонка, прыехаў на поўдзень.

# ЗМЕСТ

## Аповесці



## Апавяданні

**Казько В.**

**Выратуй і памілуй нас, чорны бусел: Аповесці, апавяданні, эсэ.– Мн.: Маст. літ., 1993.– 319 с.: іл.**

I8BK 5-340-00993-9.

У цэнтры новай кнігі Віктара Казько трагедыя XX стагоддзя – чарнобыльская аварыя. У аповесці «Но Пасаран» з уласцівай яму шчырасцю, метафарыч- насцю раскрывае празаік прычыны, якія прывялі грамадства да развалу. Пісьменнік стварае яркія, запамінальныя тыпы нашых сучаснікаў.

Глыбокая сімволіка закладзена аўтарам і ў яго апавяданнях і эсэ.